# Янка Купала

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*



# Янка Купала

*Поўны збор твораў*



*Том*

# 9

*Кніга першая*

**ПЕРАКЛАДЫ**
**ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА**
**ДАРЧЫЯ НАДПІСЫ**
**«РАСЕЙСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК»**
**КАЛЕКТЫЎНАЕ**
**СЛУЖБОВЫЯ І АСАБІСТЫЯ ДАКУМЕНТЫ**
**ДАДАТАК**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
2003

УДК 821.161.3+821.161.3.09
ББК 84(4Беи)+83.3(4Беи)
К 92

Рэдактары тома

**МУШЫНСКІ М. І., СКАЛАБАН В. У.**

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі

**ГЕСЬ А. М., ЗАБРОДСКАЙ С. В., ЗОЛАВАЙ Э. А., КАЗЫРА К. А., РАГОЙШЫ В. П., СЕЛЯМЕНЕВА В. Дз., СКАЛАБАНА В. У., СТРОЕВАЙ Т. Р., ШАМЯКІНАЙ А. І., ЯКАЎЛЕВАЙ Г. В., ЯНУШКЕВІЧА Я. Я.**

ISBN 985-02-0552-0



# ГАЛЬКА

*Опера ў чатырох дзеях*

*З польскай — У. Вольскага*

## АСОБЫ

Стольнік.
Зоф'я, яго дачка.
Януш.
Дземба, прыхлебнік Стольніка.
Ёнтак, Галька, Дудар — сяляне з вёскі Януша.

Госці паміж шляхты, вясельная дружына, сяляне, гаране, гаранкі, службіты і г. д.

Рэч дзеецца ў XVIII сталецці.

## АКТ ПЕРШЫ

У горадзе, у доме Стольніка.

Бакавая зала; углыбі трое высокіх шкляных дзвярэй, якія вядуць на агарод; з аднаго боку ад гледачоў відаць прыадчыненыя дзверы да балёвай залы, з другога — стол, за якім бяседуюць госці і Стольнік. Дземба, клапочучы, напаўняе келіхі. З балёвай, ярка асветленай залы іншыя госці выходзяць парамі паланеза і кружацца па зале.

Стольнік, Дземба і хор гасцей.

Дземба

Хай жывуць нам маладыя.
Ў дзень заручын іх вітаем.
Хай, як галубочкі тыя,
Вечна любяцца наўзаем.

То ж бо лучацца кляйноты,
Два адвечнай славы цноты,
У адно звычаем даўным:
Адравонжа ды з Памянам.

Хор

Віват! Віват! маладыя!
Каб дзянькі век залатыя
Вам рунелі, як руно.
Два адвечныя кляйноты,
Знамя мустава, знамя цноты,
Слаўна лучацца ў адно.

Дземба з хорам

Аж душа расце, як глянуў,
Што за пара, бы заранка.
Як бы створана для Яна
Наша Зоф'я Стальнічанка.

Некалькі паміж гасцей

І абое роўны станам
І багаццем незлічаным.
Хай ім шчасце сыпе кветы!
Хай жывуць даўгія леты
Адравонжа ды з Памянам!

Стольнік

Мілай брацці дзякуй наша,
Прыязнь іх вядома нам.
Чаркі ўверх! Здароўе ваша!
Любімося!

Хор

Шчасця вам!

Дземба з хорам выходзяць, крычучы яшчэ: «Хай жыве!»

**Сцэна другая**

Стольнік, Зоф'я і Януш, уваходзячы з залы.

Януш

Багаславі, пане войча!
Бо ўжо смею зваць вас так.

Зоф'я

Добраць ваша ў тым прычынай,
Што я шчасна не бы як.

Разам

Багаславі, пане войча!
Просьба наша к вам ядына.

Стольнік

Я даўно ўжо меўся ўдвойчы
Вас злучыці гэткім чынам.

Зоф'я і Януш

Багаславі, мілы войча!

Стольнік
*(багаслаўляючы)*

Хай жа воля твая, Божа,
Войча неба, збудзецца!

Чуваць за сцэнай спеў.

Як той ад віхру куст паламаны,
Душачку гэтак зматала.

Зоф'я

Што там за спеў?

Спеў за сцэнай.

Дзе ты, вяночак, дзе ты, руцяны,
Дзе ты, лілейка, ў ім звяла?

Зоф'я

Гэткі жальбяны
Той спеў. Хто ж гэта, хто?

Спеў за сцэнай.

Усё забраў мне Янка, мой сокал,
Ўсю мяне ўзяў маладую...

Я н у ш
*(збянтэжаны, да Зоф'і)*

Знаць не знаю...

*(Убок.)*

Хто прынадзіў
Бедну дзеўку тут на зло?

Спеў за сцэнай.

А я шукаю, шукаю вокал,
Яго знайсці ж не магу я...

С т о л ь н і к

Што за песня ў маім садзе
У час гэты, вось дзіўно?

Я н у ш
*(убок)*

Голас Галькі! Як у чадзе,
Бедна дзеўка, і пашто?
Або, можа, звар'яцела?..

З о ф ' я

Яне мой, што гэта знача
Гэта песня жалю, плачу?

С т о л ь н і к

Гэта вельмі ўжо засмела.

Хоча ісці ў сад. Януш яго стрымлівае.

Я н у ш
*(узрушаны, да Зоф'і)*

*Разам*
О, так, любы мой анеле!
Песня гэтая гавора:
Вось нам радасць і вяселле,
А ёй смутак, а ёй гора!
Спеў нядолі там,
Выйду, гляну сам!

Зоф'я
*(да сябе)*

Разам

Што за радасць і вяселле,
Які ж добры яго нораў,
Што так шчыра, так на дзеле
Яго раніць братне гора.
Спеў нядолі там,
Што азваўся нам.

Стольнік

Гэта смеласць — гуз на целе!
Але, як завыла гора,
Трэба помач даць у пору.
Слушна, слушна, нам вяселле,
А нядоля там!
Выйдзі глянуць сам.

Выходзіць з Зоф'яй, якая з залюбаваннем пазірае на Януша.

**Сцэна трэцяя**

Януш
*(адзін, сумны і неспакойны)*

*Рэчытатывам*

Скуль прыплялася сюды не ў пору?
Ці ж пекла яе ўжо нясе?
Хоць яе жальба цяжкай мне зморай,
Ды ўжо запозна, ўжо збылося...
І сэрца іншай аддалося...

Га! а можа, слёзы гора
Супыняцца, як уймуся...
А пасля прэч, прэч!
Я слёз баюся!

*Спеў*

Чаму мне ў хвілях самотных гэных,
Калі нас сэрца любіць заве,
Яе твар бліснуў, як цвет праменны,
З ружовых вуснаў ўсмешкай таемнай,
З-пад бровак доўгіх зраніцы дзве?

Чаму раптоўна душа забурліла,
Як ад віхуры бег рэчных хваль?
Што мне сіротка гэта ўчыніла,
Каб жальба вечна яе слязіла,
Каб праз мяне век гнаў яе жаль?

### Сцэна чацвёртая

Януш, Галька.

<Галька> уваходзіць, не бачачы яго спачатку.

Галька

*Спеў*

Як той ад віхру куст паламаны,
Душачку гэтак зматала.
Дзе ты, вяночак, дзе ты, руцяны,
Дзе ты, лілейка, што звяла?

Усё забраў мне Янка, мой сокал,
Ўсю мяне ўзяў маладую.
А я шукаю, шукаю вокал,
Яго знайсці ж не магу я.

Дзе ты, ах, дзе ты, о мой саколе,
Дзе маё сонца на небе ясным?
Як сцяты колас на дзікім полі,
Так без цябе я загасну.

*(Адварочваецца, спасцярогшы Януша, з крыкам радасці бяжыць да яго і хапае за руку.)*

О пане!
Мне Ёнтак гэты
Цвярдзіў без спыну,
Што ўжо мяне ты
Згубіў, пакінуў...
А я во бачу, к табе тулюся,
І ты, як колісь, ка мне звярнуўся,
Даеш мне сэрца, сэрца сваё.
О мой саколе! о сонца маё!

Януш
*(убок)*

Праклята хвіля! Ах, як тут лгаці?
Яе мне слёзы муцяць жыццё...

*(Да Галькі.)*

Здарма твой гэты плач, нараканне!
Няўжо цябе я згублю, затрачу?!
Аддалься толькі. Ўвагі мей болей,
Бо не хачу я, каб дзядзька бачыў.
Смела, не бойся. Ніхто ніколі
Не вырве з сэрца маё ўчуццё.

Галька
*(з парывам)*

О мой саколе! сонца маё!

Януш
*(злёгку адсоўваецца)*

Ах, супакойся ты, дзіцё!
Ці ж я забуду, цябе затрачу?..
Хутчэй кінь гэтыя муры,
Чакай за местам, над Віслай там,
Дзе крыж на шляху, каля фігуры,
Прыйду я ўміг, прыйду я сам...
А после ўжо вярнёмся там —
Да нашых гор. Там знова нам
Шчасце і рай...

Галька
*(паўтарае за ім радасна)*

...Да нашых гор, і знова нам
Шчасце і рай...

Януш

З кім прыйшла ты?

Галька
*(не зважаючы)*

О мой саколе!

Януш

З кім прыйшла ты?

Галька
*(не зважаючы, яшчэ радасней)*

О маё сонца!
О добры пане! Зноў гэткі сам!

Януш
*(падганяючы)*

Ідзі адсюль! Прыйду я там!

Галька

О пане
Добры, любіш ты мяне?..

Януш

Бяжы адсюль, прашу цябе!

Галька

Праўда? Ўжо мяне не кінеш!
Ў горы вернешся, не згінеш,
Саколе мой!
Там я сяду над крыніцай
І чакаць буду й журыцца,
Аж прымчыцца ўраз.
Тады будзем жыць суполам
Век з табой, з маім саколам,
Хіба смерць разлучыць нас!

Януш
*(неспакойна)*

Так! З табой не разлучуся,
Ў нашы горы я вярнуся,
Анёле мой!
Сядзеш там ты над крыніцай,
Чакаць будзеш і журыцца,
Аж вярнуся ўраз.
Тады будзем зноў суполам,
Зноў з табой, з маім анёлам,
Хіба смерць разлучыць нас.

Прыціснуўшы яе да грудзей, выводзіць у сад, зачыняе ўсе трое дзвярэй і, задуманы, ідзе ў залу. Госці затрымліваюць яго ў дзвярах.

**Сцэна пятая**

Януш і госці.

Адны з гасцей

Пане млоды! Што ўсамдзеле?!
Трэ гуляць, калі вяселле.

Януш
*(з прымусам)*

Я ўжо вам служыць гатоў...

Другія госці
*(абступаюць яго, цішэй)*

У чапцы радзіўся, пане,
Цуд — не Зося, як іскра!

Януш
*(задуманы, падаючы ім руку)*

Дзякую, дзякую!

Некалькі з гасцей

Развялі тут віншаванне,
А музыка грай здарма...

**Сцэна шостая**

Тыя ж і Стольнік.

<Стольнік> трымае Зоф'ю пад руку. Дзэмба са срэбным жбанам і адзін з гасцей, які трымае ў руках вялікі зігмунтаўскі келіх. У дзвярах ад залы паказваецца некалькі жанчын.

Хор
*(з паклонамі да Стольніка)*

Ой, спачыці, Стольнік, час!
Вашмасць нам не папушчае,—
Корміць, поіць, угашчае
Па-князёўску нас.

Адзін з гасцей
*(выпіўшы келіх, аддае яго Дзэмбе)*

За гаспадара здароўе!

Хор

Ой, спачыці, Стольнік, час!
Вашмасць нам не папушчае,—
Корміць, поіць, угашчае
Па-князёўску нас!

Другі з гасцей
*(да якога піў папярэдні)*

І радні яго шляхотнай...

Стольнік

*(узрушаны, пушчае руку Зоф'і, кланяючыся ўсім ад сэрца шапкай)*

О наймільшыя панове!
Аж-мне робіцца маркотна,
Нейкі жаль душу асіліў,
Што вас столькі ў гэтай хвілі
Ганаруе так мой домік!..

*(Са слязьмі.)*

І ўзяць к сэрцу захацелі,
Што ядыны той патомак
Майго роду па кудзелі
У нашым, пане, ўдоўім стане
Хутка бацьку асамотніць,
Як палучыцца ўжо з Янам...

Януш і Зоф'я

*(схіляюцца яму да ног)*

Войча, любы!

Стольнік

*(падымае іх)*

Мая дочка, мае дзеці!..

*(Да гасцей, весялей.)*

Дык, панове, хто ахвотны —
Просім далей, без прыганы.

Хор

Віват! Віват!

Стольнік

*(ахвоча)*

А вы, моладзь, хто мне верыць
І хто любіць, ну, ў абцасы!
Да ружанца і да танца!
Як было ў даўныя часы.

Хор

Віват! Віват!

Дзем ба
*(сціха да Стольніка)*

Пане Стольнік, то ж у залі,
Як бы ў лазні, так агніста!
Каб і тут мо паскакалі?

Стольнік

Мой Дзямбочак, ачавіста!
Раіш добра ў самым дзеле!

Дзем ба
*(у дзвярах залы)*

З мазавецка! Рэж, капэла!

Чуваць з залы музыка, граючая мазурку; улятаюць танцуючыя пары. Дземба далей абходзіць з келіхам і са жбанам, які яму службіты час ад часу напаўняюць. Пасля кожнага тосту чуваць «віват». Стольнік з Зоф'яй і некалькімі гасцьмі — жанчынамі і мужчынамі — сядаюць, Януш за імі стаіць задуманы.

*Заслона*

## АКТ ДРУГІ

Прысады ў садзе. З правага боку відаць асветленыя вокны ў доме Стольніка. Углыбі мур і фортка. Галька ходзіць паміж дрэвамі. Ноч.

### Сцэна першая

Галька
*(сама)*

*Рэчытатывам*

О, як кленчыць бы хацела
Ўжо пад крыжам, ля дарогі!
Каб гарачых слёз нябогі
За вяночак мой цярнёвы
Маці Боска з Чанстаховы
Сваёй ласкай пажалела,
Бо я ж — бедная сірота —
Многа, многа так цярпела.

*(Па хвілі, азіраючыся вокал.)*

А дзе ж Ёнтак?
Там гулянка, там вясёласць! —

Чуваць музыка з дому.

А тут ноч.

*(Па хвілі весялей.)*

Ён пакіне іх, саколік,
Ў горны вернецца зноў край.
Дзень і ночка — мне маркотна,
Пакуль буду ждаць нясмела,
А як прыйдзе — прыйдзе рай!

*Спеў*

Каб мне раным-рана ўзняцца над палянай,
Ластаўкай пад небам мігаць, як маланка!
Каб мне ў рэчцы рыбкай да цябе мкнуць тамка,
Да цябе, мой Янка!

Ні я ў рэчцы быстрай плаваюча рыбка,
Ні я маю крылле ластавачкі шыбкай,
Віхар толькі ў горах баіць безустанка:
Вернецца твой Янка!

Каб мне зоркай яснай ў скалах над крыніцай,
У душы і сэрцы там тваіх адбіцца,
Блудным аганьком хоць, што так бледна ззяе,
Як мая слязінка, што к табе сплывае!

Ані мне ў крыніцы бліскаці адлюднай,
Ні н тая зорка, ні я вогнік блудны,
Плыве толькі енк мой, плыве па расінах,
Жаль цябе, дзяўчына!

## Сцэна другая

Галька, Ё н т а к шукае яе паміж дрэвамі.

Ё н т а к

Галька! Галька!

Г а л ь к а
*(прыбягае да яго)*

І што ж мяне ты, бедную, зводзіў,
Як дзеля смеху,

І адбіраў мне ў цяжкай нягодзе
Ядыну ўцеху?
Яго я зблізка бачыла, чула,
Майго сакола!

*(З пэўнасцю.)*

І вернецца ўжо, і не пакіне!

Ёнтак

Бедна з сэрцайкам ты кволым!

Галька

Чуць не замерла на смерць яно так
З жалю мне, беднай...

*(З лёгкім нараканнем.)*

Ах, мой ты Ёнтак, і што ж было так
Мучыць дарэмна?

Ёнтак
*(крыху з насмешкай)*

Ха-ха-ха!..

Галька
*(здзіўленая)*

Смяешся ты? Збяжым адсюль!

Ёнтак

Дык жыва прэч!

Галька
*(азіраючыся неспакойна)*

Так дзіўна ў гэтай шумнай мясціне,
Так неяк страшна сельскай дзяўчыне!
Не відна, як, не відна, скуль
Сонейка ўсходзіць;
Не відна, як, не відна, дзе
Сонца заходзіць.
Так цёмна ноч! Так мучыць, страша
Халодны мур — і жудка мне!
Хутчэй туды — дзе горы нашы
Сняжыста льсняць. Ён жджэ мяне
За местам там! Што? — смех табе?

Ёнтак

Дык пабяжым, калі жджэ нас
І прыйдзе там.

*Спеў*

І ты йшчэ верыш яму, дзяўчына,
Што ён не зводзіць на смех людзям!
Як віхар свішча над катлавінай
І як з гор льецца ў дол ручаіна,
Так ён зманіў, што пойдзе там,—
А ты йшчэ верыш яму, дзяўчына!

Галька

Веру, веру я!

Ёнтак

У любасць не вер панічову
К беднай сялянцы, ты не вер!
К табе падойдзе з салодкай мовай,
З яснай усмешкай, як дзень маёвы,—
Сэрцам ён — сталь, на слёзы — звер!
А ты ўсё ў любасць вер панічову!

Галька

Ёнтак, ты — злы!

Ёнтак

Купіў, як нечысць, ён тваю душу,
Ён — пан, паноў жа любіце вы!
Калі цябе, як дожджыку ў сушу,
Я смагнуў мець, а ён: мець мушу! —
Сказаў, зірнуў — і яго ты!
Забраў вяночак, забраў і душу.
О мая Галька, бедна дзяўчына!
Што ён не зводзіць — верыш яму?
Як віхар свішча над катлавінай,
Як з гор ліецца ў дол ручаіна,—
Так ён зманіў, не будзе тут,—
А ты ўсё верыш яму, дзяўчына!

*(Па хвілі.)*

Думаеш, што мы прыйшлі сюды,
Каб ты шчасліва, каб ты вясёла
Ўбачыла Янку, свайго сакола?

*(Паказваючы ёй асветленыя вокны.)*

Там Янка — пан!
З той пекнай паняй, што бачыш там,
Вяселле п'е, — а ўсё як пан!

Чуваць за сцэнай хор гасцей.

І абое роўны станам
І багаццем незлічаным.

Хай ім шчасце сыпле кветы,
Хай жывуць праз доўгі леты
Адравонжа ды з Памянам!

Галька, непарушаная спачатку на голас хору, нарэшце ўцямлівае, зрываецца і ўдарае ў дзверы.

Галька
*(штораз гвалтоўней удараючы ў зачыненыя дзверы)*

Пушчайце, гэй, хутчэй мяне!
Бацька майго тут дзіцяняткі!

Ёнтак
*(адцягваючы яе)*

Збяжым адсюль да хаткі!
Ўбачаць цябе!

Галька

Пушчайце, гэй, хутчэй мяне!

*(Да Ёнтка, молячы яго на каленях.)*

Да пана, да пана,
Браток, вядзі мяне!

Ёнтак

Ўбачаць цябе,
Скрыўдзяць цябе!

### Сцэна трэцяя

Тыя ж, хор гасцей, хор службітаў са святлом і Дземба.

Хор

Што тут за крык,
Скуль гэты клум?
І гэты ўвесь
Што знача шум?

Дземба

Гэй, выгнаць іх!

Хор

Прэч, гэй, прэч з забавы!
Сказаць там чалядзі,
Хай дадуць ім стравы,
Хай за стол пасадзяць,
А з забавы прэч!

### Сцэна чацвёртая

Тыя ж, Януш, убягаючы.

Януш
*(дае знак рукой)*

Што тут?

Хор адступае ўглыб, Януш зблiжаецца да Галькі.

Януш
*(ціха)*

Табе ж казаў я, цябе ж прасіў я...
Чаго ж яшчэ ты?

Галька смутна на яго пазірае, хапаецца раптам з упрокам за галаву і моўчкі сядае на лаўцы.

Ёнтак
*(выходзіць наперад сцэны, пакорна кланяецца Янушу)*

Панок,— то я!

Януш

*(пазнаўшы яго, з прыдушаным гневам)*

І скуль жа ты вясці пасмеў
З далёкіх гор няшчасную дзяўчыну?
Што? Ў вёсцы там нядобра вам?
Што? Ёй там крыўда?
Кажы, чаго хацеў?

*(Набок.)*

Пракляты хам!
А гэта знова звар'яцела.

*(З гневам.)*

Бяры яе, хутчэй вядзі яе!
Падзяку пан, знай, дасць, як споўнім дзела.

Ёнтак

О пане наш, мей літасць ты!
Ёй бацька ўмер, сяйбіт сівы,
І ўжо даўно ў зямлі спіць маці...
За сіроткай Бог, Бог толькі сам — і капля слёз!

*(Цішэй.)*

А людзі людзьмі — кпяць і смяюцца там...

*(Хвіля маўчання, раптам з насмешлівай пакорай.)*

О добры пане! Жудка з доляй ёй!
Адплаціць вам Бог за літасць у няшчасці.

**Сцэна пятая**

Тыя ж, некалькі гасцей, Стольнік і Зоф'я.
Януш бяжыць ім на спатканне і кажа, што Галька вар'ятка

Галька

*(звольна ўстаючы)*

*Спеў*

Паціхеньку, памаленьку
Затуманіў галубочка!
Паціхеньку, памаленьку
Затуманіў сакаленьку!
Стуманіў яго!

Зоф'я, Стольнік, Дземба і хор

Дзіўна нейка дзеўка,
Смутна яе спеўка!
Выйсці загадалі,
А пяе ўсё далей —
І ёй хоць бы што!

Ёнтак
*(з папярэднімі)*

Бедна, бедна дзеўка!
Смутна твая спеўка
Сэрца не разбудзіць.
Шчаслівыя людзі
Любяць толькі смех!

Зоф'я
*(уважна прыглядаючыся да Януша, які неспакойна глядзіць на Гальку)*

Выгнаць загадай!

Януш адварочваецца ад Галькі і дае знак рукой Дзембу.

Дземба
*(да Галькі і Ёнтка)*

Пайшлі адсюль!

Хор

Прэч адсюль, з забавы,
Ідзіце да дворні,
Прымуць там пакорне,
Там дадуць вам стравы,
А з забавы прэч!

Стольнік

*Разам з хорам:*
А во дзіўна рэч!
Дземба мой ласкавы,
Клікні іх да дворні,
Хай дадуць ім стравы,
А з забавы прэч!

Ёнтак

*Разам з хорам:*

О, нам не забавы,
Ані ў вашай дворні
Не жадаем стравы!
Сам Бог нас прыгорне,
Пойдзем самі прэч!

Зоф'я

*(на старане штораз пільней прыглядаецца да Януша)*

*Разам з хорам:*

Не хочуць да дворні!
Погляд яе млявы;
Знаць, сярод забавы
Мучыць Янку зморне —
Дзіўна, дзіўна рэч!

Януш

*(убок)*

Бог з нябёс ласкавы
Хай яе прыгорне!
Але ў час забавы
Ўлез хам гэты зморне,—
Хай жа пойдуць прэч!

Галька з Ёнткам звольна адыходзяць.
Абраз.

*Заслона*

## АКТ ТРЭЦІ

На вёсцы ў Януша.

Паміж другім і трэцім актамі праходзіць месяц. Гарыстая і скалістая вясковая аколіца; вечарам на захадзе сонца. З аднаго боку гледачоў высунуты рог карчмы, каля якой сядзяць на лаве некалькі гаран і гаранак; некалькі сядзіць на горах і скалах. Іншыя ўваходзяць з другога боку. Чуваць здалёку няшпорны (на вячэрню) звон.

### Сцэна першая

Хор сялян

Па вячэрні у нядзелю,
Покуль сонца свеціць ясна,
Добра думку развяселіць,
Бо дзень цэлы сходзіць ў поце.

Хай жа свята падахвоціць,
Каб забыці крыўды ўласнай!

Моладзь

Вось паніч з сваёй багданкай
К нам прыедуць, мабыць, скора,
А як будзе ў іх гулянка,
Дык і нас успомняць, можа.

Старыя

Хоць там будзе ў іх гулянка,
У бядзе нам не паможа,
Бо за намі следам гора.

Усе

Ой, за намі следам гора!

*(Па хвілі.)*

Дык вясёлы, дык ахвочы
Дзень сягоння хай нам будзе!
Заўтра знова дзень рабочы
І пазаўтра дзень рабочы.
После йшчэ ў цяжэйшым трудзе,
После йшчэ ў цяжэйшым трудзе.
Дык вясёлы, дык ахвочы
Дзень сягоння хай нам будзе!

## Сцэна другая

Тыяж і некалькі сялянак.

Сялянкі

Паніч добры! Ён без думы
На вяселле спросіць кумы.

Старыя

Ой, дзяўчаткі, ой, кабеткі!
Ловіць вас паніч у сеткі.

Сялянкі

Бо паніч даброці рэдкай...
Гладкі гэткі, ўкладны гэткі.

Старыя

О, прыкладны, добры ў слове,
Гладкі з твару, як панове,—
Ой, кабеткі!

Моладзь
*(у глыбі сцэны)*

Дык ахвочы
Хай дзень будзе й весялейшы!

Усе

Сонца гасне, блізка к ночы —
І шчыт гор ужо чарнейшы,
І ў душы сам свабаднейшы,
Але поруч і смутнейшы.
Дык вясёлы і ахвочы —
Хай дзень будзе нам бліжэйшы!

Некалькі
*(седзячы на горах)*

Во з другой ідзе ўжо вёскі
І з кірмашу мноства люду.

### Сцэна трэцяя

Тыя ж, прыбываюць гаране, гаранкі і розныя сяляне.

Прыбылыя

Хай жа будзе пахвалёны!

Мясцовыя

На векі!

Пры вітанні частуюцца гарэлкай. Горскія танцы з малым дадаткам кракаўскіх. Скончыўшы, тыя, што прыбылі, расходзяцца, мясцовыя застаюцца.

### Сцэна чацвёртая

Тыя ж, Ёнтак паволі сыходзіць з гор з Галькай.

Хор

Зірніце, што там?
Што за хлапчук пляцецца з дзеўчай?
Га! То ж Ёнтак! А дзяўчына?

Ёнтак

Няхай будзе пахвалёны!

Хор

На векі!

Ёнтак

Дай Бог радасць вам!
Ды, як гора,— не паможа!
Няма песні там.

Хор

То ж Галька!

Ёнтак

Так — яна!
З таго сяла дзяўчук.

Хор

Скуль жа, Ёнтак, ты прыходзіш,
Дзеўча гэта скуль прыводзіш?

Ёнтак

Ў паніча быў я у месце.

Галька
*(звар'яцелая)*

Ў паніча была я ў месце,
Не пазналі мяне ўрэшце,
Бо змянілась, бо як птах.

*Спеў*

На маю бяду, нядолю
Прыляцеў пашто на поле?
Пашто збавіў галубочка
І стуманіў, мой саколе,
Беленькага галубочка?
Стуманіў яго!

Хор

Як змянілась, як змарнела,
Аж глядзець няўсцерп людзям!

Ёнтак

От, звычайна, панскі хлам!
Так канчацца заляцанкі.
Паніч сніць з сваёй каханкай,
Стальнічанкай — гладкай паняй, —
Аб мужычцы ж ані ў дум!

Галька

Ён душы з ёй не спаганіў,
Не даў чорту!

Хор

Скажы нам, Ёнтак, як было там?
Як гэта сталась, скажы ты нам!

Ёнтак

Прыйшлі туды мы ў заручын часе,
Як яе ўбачыў — міла прыласіў,
І ўсяляк стаў лгаць на словах,
І кідаць чары свае нанова,
Пасля за места йсці меў з ёй.
Не мог я знесць маны тых слоў, —
Сказаў ёй праўду, а тут нас ён
Сказаў за браму прагнаць, як псоў!

Хор
*(з жахам)*

Сказаў за браму прагнаць, як псоў!

Хвіля маўчання.

Галька

Зноў мне з'явіўся, тумані зноў,
Сакалочак! — не, не, не!
Галубочак над гарамі
Зашумеў сваймі крылкамі,
Дый не беленькімі імі,
А крывёй сваёй злітымі
Зашумеў ён там крылкамі
І ў дол рынуў, як той камень.

Хор

Так яно для дзяўчатаў,
Што ў двор мкнуць гуляць заўзята.
Гэткая доля іх!

Ёнтак

Вось незадоўга паны на шлюб
Зваляцца шумна ўсёй чарадой.

Хор

Гляньце! Ўзляцеў груган над гарою,
Як быццам сочыць.

Галька
*(скончыўшы песеньку)*

З галубкі труп.

Хор

Не, ты, нябога, зграшыла срога,
Бо на кім іншым ляжыць твой грэх.

Ёнтак
*(усходзячы на скалу)*

Вось і едуць!

Хор

Ужо едуць!

Ідуць у горы.

*Заслона*

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

Позны вечар. Пляц, абсаджаны вербамі. З аднаго боку ад гледачоў драўляная вясковая каплічка з магілкамі, з другога відаць частка двара, далей вясковыя хаты, углыбі горы і скалы, паміж якіх уецца рэчка.

### Сцэна першая

Ёнтак
*(адзін сыходзіць з гары)*

*Рэчытатывам*

Няшчасна Галька! Гвалтам тут прэцца, —
Ці ж мала крыўды для яе сэрца!
Усё на думцы паніч няверны.

Як яго з жонкай тут пабача,
Ўмерці гатова!
О Езу міласэрны!
З нябёс зірні.
Сіротку мей пад аховай!
Ад здзеку ўбарані!

*(Па хвілі.)*

Каб яе там сутрымалі,
Бо не мог я.

### Сцэна другая

Ёнтак і Дудар

У глыбі сцэны ўсходзіць на гару і пачынае весела іграць.

Ёнтак

Гэй, дудару! Скуль жа ўраз
Гэтак весела зайгралі?

Дудар

Павітаць трэ шлюб, вашэце!

Ёнтак
*(ківаючы рукою)*

Яшчэ час!
Неяк лепей разумеці,
Як смутней пачнеце граці.

Дудар
*(змяняе песеньку, пытаючы)*

Нашым ладам?

Ёнтак

О, так, браце!

*Спеў*

Ой, шуміць лес на гор шчыце,
Ой, шуміць удаль,
А малойцу смутна жыці,
Бо на сэрцы жаль.

З-паміж іншых праз нікога,
Праз цябе адно, нябога,

Ой, Галіна, ой, ядына,
Дзяўчына мая.

У дзіцячы яшчэ леты
Я да горскіх скал
Шоў у пропасць і табе там
Птушкі з гнёзд скідаў.

Кветкі лепшыя з гор нашых
Рваў табе і нёс,
Найпякнейшыя з кірмашу
Пацеркі прывёз.

Не крыўдую на нікога,
На цябе адно, нябога,
Ой, Галіна, ой, ядына,
Вінавата ты!

Вырастае з зерня колас,
Ты ўзрасла, як цвет.
Ой, на твой званочак-голас
Зрушыў бы я свет.

Год за годам спёкай, слотай,
Як паводка мкне,
Зірк паніч — і для яго ты
Кінула мяне.

Не крыўдую на нікога,
На цябе адно, нябога,
Ой, Галіна, ой, ядына,
Дзяўчына мая!

**Сцэна трэцяя**

Тыя ж і Галька. Шыбка збягае з гор, вырываючыся ад гараn і гаранак, што яе стрымліваюць.

Ёнтак
*(да яе жыва)*

Ах, выйдзі, Галька! Паслухай мяне!

Галька
*(упарта)*

Не!

Ё н т а к
*(хочучы яе вывесці)*

Я так не пазволю.

Г а л ь к а
*(вырываецца ад яго і сядае на камень)*

Мяне ўбачыш, мой саколе!

Дудар падае знак, што вясельнікі прыбліжаюцца; усе сяляне сыходзяцца на сцэну.

**Сцэна чацвёртая**

Тыя ж і Д з е м б а

Д з е м б а

Добра, што тут грамадою!.
Прывітаць жа галасіста,
Пакланіцца урачыста
Новай пані.

Х о р

Прывітаем галасіста
І паклонімся ўрачыста.

**Сцэна пятая**

Тыя ж, С т о л ь н і к, Я н у ш, З о ф ' я.
Уваходзяць па чарзе д р у ж к і і д р у ж б і т ы. Цямнее

С т о л ь н і к
*(уваходзячы)*

Добры дзень вам, мае людзі!

Х о р

Дзякуй, дзякуй, ягамосцю!

Я н у ш
*(уваходзячы)*

Як здароўе, як жывеце?

Х о р

Дзякуй, дзякуй, панічок, вам!

Януш
*(спасцярогшы Гальку, убок)*

Моцны Божа! Яна тут!

Зоф'я
*(уваходзячы з дружкамі)*

Як жывецца?

Кабеты

Дзякуй, дзякуй вам, паненка,
Дзякуй, дзякуй, пані!

Дземба
*(да сялян)*

Што? Ці вам зраслася губа,
Каб вітаць? Як скамянелі!
Як я Дземба, гербу Дзюба,
Громка, бо вам...

Усе

Прывітайма ж, бо вяселле!
Дзякуй, дзякуй вам, паненка,
Дзякуй, дзякуй, пані!

Зоф'я
*(спасцерагаючы Гальку)*

Што за такая бледна дзяўчына?

Хор

Бледна дзяўчына?

Зоф'я

І з тварам смутным, маўклівым?

Хор

І з тварам смутным, маўклівым?

Януш
*(убок)*

Ці ж яе йшчэ не пазнала!

*Разам:*

Зоф'я

Скуль гэта бедна дзяўчына
І з тварам смутным, сумлівым?
Будзіць твар гэты ўспаміны,
Ах, помню — страчаўся мне!

Стольнік

Ах, што за бедна дзяўчына,
Глянь, Дземба, з тварам сумлівым?
Будзіць твар гэты ўспаміны,
Здаецца — страчаўся мне.

Януш
*(убок)*

Ах, каб яе не пазнала!
Дрыжу ўвесь са злосці напраснай.
Пашто ўбачыў я няшчасну?
Ах, пашто ўбачыў яе?

Ёнтак
*(убок)*

Пазнала, пэўна пазнала.
Глядзіць на яго, о Божа!
Можа, згадае, ах, можа,
Можа, пагардай датне!

Януш
*(убок)*

Ах, каб яе не пазнала!
Дрыжу са стыду, з трывогі
І ад слёз гэтай нябогі.
Ганебна я звёў яе.

Хор

Пазнала, ўсё-ткі пазнала,
О, вы — няшчасны абедзве.
Адну пакінуў з вас ледзьве,
А ўжо другую вядзе.

Галька

Над маім горам злітуйся, Божа,
І атулі апекай сваёй!

Усе
*(апроч Януша)*

Голас вар'яткі кліча да Бога.
Божа, апекай збаві сваёй!

Зоф'я
*(да Януша)*

Ці помніш? Бачыла яе.

Януш
*(збянтэжаны)*

О, так, так, маё каханне!
Як не помніць воблік гэты?
У вачах жыцця кананне,
Думка з болем мкне ў засветы.

Галька

Янка! Янка!

Януш
*(убок, балесна)*

Страшна Бог караць умее
Хвілёвы блуд!

*(Па хвілі.)*

Зоф'я мо не зразумее —
Жыва, жыва
Пойдзем мы!
Памагчы беднай
Мне не па сіле.

Галька

Галубок сеў на магіле.

Зоф'я

Што цябе так жаль асіліў?

Януш
*(падганяючы, перабівае)*

Ах, ідзема да касцёла!
Час ужо, ўжо мрок наўкола!

Зоф'я
*(тулячыся з плачам да бацькі)*

Войча! Смутак нечаканы
Маё сэрца болем змог.

Стольнік
*(узрушаны)*

Тваім сэрцам муж абраны —
Хай пашле вам шчасця Бог!

З вясельнай дружынай, апрача Дзембы, з успёртай галавой на плячо бацькі, Зоф'я з Янушам уваходзяць у касцёл.

### Сцэна шостая

Галька, Ёнтак, Дземба і хор, праводзячы маладых і дружыну.

Хор

Дай вам Бог даўгія леты
І жыццё у шчасці!
Хай вам доля сыпе кветы,
Радасць...

Ёнтак
*(убок)*

І напасці.

Дземба

Хто абазваўся там?

Хор

Ніхто!

Дземба

Дык во далей, жыва нам!..
І да пары, і вясёла
Маладых аплесці ўкола,
І да пары, і ўрачыста
Нам запеці галасіста,
Як вярнёмся...

Хор

Запяема вам вясёла.

Усе, апроч Галькі і Ёнтка, уваходзяць у касцёл.

**Сцэна сёмая**

Галька і Ёнтак.
Штораз цямней.

Галька

Ой, вясёла, ой, вясёла!

Ёнтак

Дык во, бачыла, во, чула!
Мо цяпер паверыш мне!

Галька
*(прытомней)*

Дзе мой сокал? Янка дзе?

Ёнтак
*(паказвае на касцёл)*

Глядзі — там!

Галька
*(гледзячы)*

Ах!

*(Вяртаецца, валіцца на зямлю.)*

Ёнтак становіцца блізка каля касцельных дзвярэй.

Ёнтак
*(да Галькі)*

Ля алтара сталі разам!
Ксёндз чытае, яны сполам
Яму ўтораць, а з выразам
Кожным плача маладая,
А той Янка рад, вясёлы.

Галька

Шкода Янкі, і такая
Мяне шкода! А ты ж, Ёнтак,
Чаму мучыш так мяне?

Ёнтак
*(не зважаючы)*

Цяпер персцень ён ёй даў,
А яе — ўзяў, толькі жонка

Яго плача, а ён, браце,
Так вясёлы, як бываў.

Галька

Ой, каб ты, мой Ёнтак, знаў,
Што у сэрцы тут кіпіць, —
Ажно боязна казаці.

Ёнтак

Ўжо! Ўжо!

*(Убягае ў касцёл.)*

Галька

Ўжо!

*(Хоча бегчы, у гэту хвілю чуваць песня, якая яе стрымлівае.)*

**Сцэна восьмая**

Галька *(сама)*

Шторaз цямней.

Песня з касцёла

Войча з неба, Божа, пане!
На зямлю пашлі тут нам
Ты святое змілаванне,
Войча з неба, Божа, пане!

Галька
*(зрываючыся раптам)*

Га! Дзіцятка наша
У хатцы вяне, ўмірае,
А маці тут, а бацька там!

Цягне дзіця ручаняткі
І жаласна спазірае —
А маці тут, а бацька там!
І птах драпежны пiскляткі
Корміць, калыша і туліць,
Маё ж дзіцятка ўмірае!

О мой салоўка!
Хто ж у дамоўку
Ўбярэ цябе?
Спаўе цябе?
Хто закалыша
На смерці сон?

А сэрца дзе? ты, Янка, дзе?
А слёз крывавых ручай жывы...
Я адамшчу, спалю цябе,
Бо сэрца вельмі скрывавіў мне,
Бо маці я, жонка твая.
Заб'ю цябе,— ці чуеш ты?

Бяжыць, ашалеўшы, збірае хворост і салому, якія рассыпаны па пляцу, зрывае некалькі вербавых галінак і запальвае ад лямпы перад касцёлам.

Хор
*(з касцёла)*

Божа моцны, святы Божа!
Ты над намі злітуйся,
Бо твая ж рука ўсё можа,
Божа моцны, святы Божа!

Праз Твайго сына мучэнні
У бядзе нас пажалей,
Уймі слёзы і цярпенне,
Божа ўладны, літасць мей!

Галька

Га!

*(Кідае запалены пук хворасту ў раку, які з сыкам гасне, а сама з плачам валіцца на калені. Месяц асвятляе блакіт.)*

Божа моцны, літасць мей!
Божа, хвала для цябе!

*(Па хвілі, адкінуўшы злосць.)*

Ці ж мне забіці хапіла б змогі
Цябе, мой Янка, мой пане?

Даруй, ах, слёзам тваёй нябогі,
Дзіцяткі нашай скананне.
Жыві шчаслівы з сваёй каханкай,
З той пекнай паняй радуйся ты!
І пamaліся часам за Гальку,
О Янка! Дарую табе віны!

Бяжыць у горы і з крыкам кідаецца ў раку.

## Сцэна дзевятая

Ё н т а к і ўсе іншыя, што ўвайшлі былі ў касцёл, апрача Дзембы і некалькіх дружбаў, выбягаюць.

Ё н т а к
*(не пабачыўшы Галькі, бяжыць неспакойна з некалькімі гаранамі на скалы)*

Галька! Галька! Божа!

Раптам кідаецца за ёй у ваду.

Х о р

Ўжо запозна, ўжо запозна!
Утапілася ўжо!

Я н у ш, С т о л ь н і к і З о ф ' я

Хто ўтапіўся?

Ё н т а к
*(змучаны, задыхаўшыся, уносячы труп Галькі з распушчанымі валасамі)*

Галька!

Я н у ш
*(з праразлівым крыкам)*

Галька!

Узбягае на скалы над ракой і кідаецца ў ваду.

### Сцэна дзесятая

Тыя ж і Дземба
з некалькімі дружбамі цяпер толькі выходзяць з касцёла.

Дземба
*(да люду)*

Надышоў цяпер во час
Панам кланяцца вясёла
І запеці песню ўраз.

Хор
*(сумна)*

Запяем яе ўвакола.

Відаць на чаўне на рацэ мёртвую Гальку, пры ёй Ёнтак падае руку Янушу, які з вады ўзбіраецца на човен.

Абраз.

*Заслона*



# ЭРОС І ПСІХА

*Сцэнічная аповесць у сямі раздзелах*

*З польскай — Е. Жулаўскага*

## I

## У АРКАДЫІ

АСОБЫ ДЗЕІ

Псіха, аркадыйская каралеўна.
Арэта, Гедона, Кальёна, Меліка, Гагна — служэбныя дзяўчаты Псіхі.
Блякс, парабак.
Эрос, бог.
Гермес, пасол багоў.

Рэч дзеялася ў краі шчаслівым, у часе, калі богі хадзілі па зямлі.

Сенажаць, перасечаная крыніцаю, плывучай між траваў і кветак. За крыніцаю дрэвы, а за імі ў глыбі скалы — агромныя, стромкія і чорныя, выглядаючыя, як мур, які квяцістую і ціхую сенажаць аддзяляе ад свету. На скалах там і сям пнуцца буйныя блюшчы. Налева, удалі, на лагодным травяністым узгорку відны каралеўскі замак, да грэцкае святыні падобны. Над крыніцаю разлажыстае дрэва і вялікі пад ім камень. Відны таксама адломкі скалы, зрэдку параскіданыя па сенажаці. Углыбі вядзе цераз крыніцу з паваленага пня кладка. Краябраз повен заходняга сонца, цішы [illegible] і вяселля.

## Сцэна I

Арэта развешвае на скальных адломках і галінах над крыніцай толькі што вымытыя вопраткі. Блякс ляжыць наўзнак з рукамі пад галавой і спіць.

Служэбныя дзяўчаты
*(трымаючыся за рукі, скачуць навокал стаячай пасяродку Псіхі і спяваюць)*

Разам з ветрам, што павевам
Нашы вопраткі калыша,
Між пахучых буйных дрэваў,
Ад якіх цвет сонцам дыша,
    Па далінцы,
    Што так мгліцца
Траў пушыстых ласай красай.
Гэй жа, ў скокі! ў скокі! ў скокі!
Не марнуйма часу! Гэй-ох!

Блякс
*(будзіцца і ўстае)*

Абрыдныя дзеўкі! дзяруцца, быццам сойкі!
Ані хвілінкі чалавек здрамнуць не можа!

Ідзе ўглыб і зноў кладзецца, затыкаючы вушы.

Служэбныя дзяўчаты
*(скачучы, зноў спяваюць)*

Вецер косы нашы песціць,
Грае спевам,
— Птушым спевам;
Птушак, песень поўны дрэвы,
А цвяцісты лісць шалесціць,
А да ўтору
Звоніць рэчка ў загавору, гэй-ох!
Гэй жа, ў скокі! ў скокі! ў скокі! Гэй-ох!

Арэта
*(ад работы)*

Ану, дзяўчаты! Вам толькі б гуляці,
А тут работы хоць адбаўляці!

Служэбныя дзяўчаты разрываюць хараводны круг і бягуць да Арэты. Псіха звольна зблiжаецца да крыніцы.

Кальёна
*(да Арэты, апраўдваючыся)*

Мы, цётка, мылі ад самага рання
Ў крынічцы, поўнай срабрыстага ззяння,
Адзежу гэту ды белую воўну...

Гедона

А ці не згожа, калі сонца косы
К зямлі зніжэлі, каб сеяць скрозь росы,
А хвалі чараў і золата поўны,
Нам паскакаці, з вясны скарыстацца
І з днём да заўтра вясёла расстацца?

Арэта

Не ўся йшчэ зроблена вамі работа,
Хоць сонца сцежку прайшло немалую.
Схаменьцесь, дзеўкі!

Гагна

Давай, памагу я!

Арэта

Ўсе памажыце! а жыва, з ахвотай!
Хай пару з вопратак вып'е і высее
Вятрок і сонца жар Боскі, што з высі
Спяшыць у смазе па земскай вільгоці
І воўну беліць, а твар вам залоціць.

Служэбніцы разам з Арэтай хлапочуцца, развешваючы на адломках скал і галінах вымытыя вопраткі. Псіха садзіцца ўперадзе над крыніцай і, загледжаная ў вадзяную глыб, пералівае пальцамі ваду.

Служэбніцы
*(пяюць пры рабоце)*

Сушыцесь хутка, сняжыстыя шаты,
Бо вас надзене кароль наш багаты,
Што мае хорам на стройных калумнах,
Без ліку статку й дабра ў сваіх гумнах,
Збраення, скарбаў паўнютку святліцу,
А скарб найбольшы — дачку багаліцу,
А скарб найбольшы — дачку багаліцу

Гагна
*(адлучыўшыся ад дзяўчат, падыходзіць да каралеўны і звольна апускаецца перад ёю на калені)*

Што ж, багаліца? Як зваблена горам,
Пайшла ад гульняў, ці што цябе мучыць?
Ці ўжо так вочы, падобныя зорам,
Завабіў шчок тваіх вобраз яснючы,
Што з хваль на хвалі бяжыць па крыніцы
Ў бліскучых капель святлістай кароне?
Галоўку ўспёрла на белай далоні,
Ў ваду глядзішся, як недзе імчыцца,
Й не кінеш вокам на слуг, што гуляюць
Вясёлыя гульні ды песні спяваюць
Табе ўсё,— толькі на сэрца кудзелі
Прадзеш задуму...

Псіха са смутнай усмешкай кладзе далоню на галаву Гагны, звольна гладзіць яе валасы.

Меліка
*(якая была адлучыўшыся ад працуючых у глыбі дзяўчат і зблізілася да Псіхі ў часе апошніх слоў Гагны, кажа)*

Мы рады бясконца,
Што богі далі нам моладасць, сонца,
Ўсё чыста ўвокал шалее ў вяселлі,
Адна ты — ціха — глядзішся на скалы,
На бацькаў хорам красы небывалай,
На гай цяністы, ад квецця ружовы,
На цені лісцем шумячай дубровы,
На луг, крыніцу, на гэты палотны,—
І вочы поўны слёз.

Псіха
*(спусціўшы хвіліну)*

Мне так маркотна...

Меліка

Маркотна? Скуль жа?

Гагна

З табою ж мы тутка!

Псіха

Хадзіце, любкі, ка мне йдзіце хутка...
Ці ў думках часам у вас не ўставала,
Каб паляцеці адгэтуль за скалы —
Туды! й пабачыць, што ёсць там, на волі?
Ці так, як гэтта, зялёнае поле,
Ці мо які там край дзіўны, нязбылы?..
Ніколі ж гэтак не думалі, што там?

Меліка

Ніколі!

Гагна

Я — аніколі!

Меліка

Так міла
Тут жыць!.. Цябе ж там што цягне?

Псіха

Маркота...

Гагна

Што гэта?

Меліка

Княжна, што гэта? Не знаем...

Псіха

Або ж я знаю?..

Арэта
*(углыбі)*

Ўжо сохнуць уборы,
Пад ясным сонцам завешаны ў пору,
Цяпер жа толькі прыносіці кошы,
Каб іх напоўніць пабеленай воўнай
Ды на калёсы зваліць гэту ношу,
Каб так дадому вярнуліся поўны,
Як сюды поўны прыехалі зрана
Ў цяжар лянівым мулам

Гедона
*(б'е ў далоні)*

Вось так слаўна!
Цяпер магу ўжо гуляць бестрывожна,
Скакаць, скакаць, ах! па траўцы мурожнай
І кідаць водгуллю песні без ліку!
Паклічу гэных там — Гагну, Меліку.

Арэта

Пакліч пакуль што йшчэ парабка ўперад,
Каб жыва прынёс к нам пляцёны кашолкі...

Гедона
*(спасцерагае Блякса і бяжыць да яго)*

Спіць, далібог, спіць! Ну, ўстань жа, ламака,
Зрухніся ўрэшце, гультай недарэчны!

Блякс
*(праціраe вочы)*

Што там?

Арэта

Ўставай жа!

Блякс

А што — ёсць работа?

Гедона

І ён пытае! Бяжы, каб ця звадка!
Й цягні кашолкі, якія за кладкай
Там, ля крыніцы, асталіся зрана,—
Бялізна сохне ўжо, вымыта здаўна!

Блякс звольна ўстае, пацягваецца і пазёўвае.

Кальёна
*(заліваецца смехам)*

Яшчэ ў дарозе засне гэты шэльма!

Гедона
*(кідае на Блякса сарванае лісцё)*

Ану!

Блякс

Адстаньце, назольныя дзеўкі,
Бо покі добры, дык добры ўжо вельма,
Калі ўзлуюся ж, то дам неўспадзеўкі!

Адыходзіць за крыніцу ў бок зарасніку і шукае ў кустах кашолак. Цераз хвілю вяртаецца, цягнучы за вушы кашолкі.

Гедона

Цяпер да гульняў! Ка мне, гэй, хадзіце!

Кальёна

Мо перш, дзяўчаты, скупацца ахвочы,
А потым масцей памасцімся кветнай
І так у белі цел нашых дзявочых
Пастанем стройным вянком у заценні,
Аж лоны ў скоках заззяюць чырвеняй!

Гедона

Наўкруг, дзяўчаты! Хай громам б'е рэха,
Збуджона песняй і шчырай ахвотай
К гульні, хай звоніць, як золата, ўцеха,
Наўкруг!..

Арэта

Гэй, Бляксе, жывей да работы!

Блякс
*(ідзе, мармочучы)*

Там тыя сарокі могуць скакаць сабе, колькі ўлезе, але ты, Бляксе, дык да работы йдзі!

Збірае з Арэтай бялізну ў кашолкі і выходзе з ёй разам

Меліка

Пачну пяяці я скочна, распеўна!

Гедона

А, каралеўна! Да нас, каралеўна!

Псіха

Скачыце самі...

Гагна

Не, толькі з табою!

Псіха

Скачыце... Гэты цвет сонца заходні
І пах зямлі не даюць мне спакою...
З зямлі б'е мгла, як з аўтарнай паходні,
Дзе легла сонца ахвярай крывавай...
Што ж гэта? Селі ўсе вокал так ціха?
Скачыце, любкі, не прэчыць вам Псіха,—
Прашу, гуляйце!

Кальёна

Нам без цябе тут якая забава.

Гедона

Скажы, багаліца,
Чым раз'ясніці твой воблік маркотны?

Меліка

Мо песні хочаш — вясёлай, залётнай?
Ці... аб айцоўскіх палёх без граніцы,
Сусветнай хвалы ўладарнага пана,
Мо... аб вясне... аб красе тваёй слаўнай? —
Загадвай, княжна!

Псіха

Ці чуеш гай гэты?
На ім вось кожны лісць песняй распеты,
Гімн урачысты пяе аб прыходзе
Святых, таёмных, вячэрніх часінаў...

Меліка
*(падслухвае)*

Адно шум гэткі ў тваім дні радзінаў
Па свеце нёсся... Так здаўна весць правіць...

Псіха

Весць?..

Меліка

Ці ж не знаеш? Цябе мо забавіць...
Дзіў-песня гэта — адвечна старая,
У якой пяецца, як неяк на ранні
Чалавек дзікі, йдучы ў росным гаі,
На небе ўбачыў зарніцы зіянне,
Якой не бачыў да тых яшчэ пораў,

Адно звярыну век сочачы ў боры,—
І раптам ткнуты няземскаю моцай,
Той пан магутны, што жыў толькі ночай,
Паў на калені, стаў к небу маліцца:
«О зорка, зорка! зара-зараніца!..»
І стрэліў з лона яго агнявіцай
Цвет патаемны, бы свечка святая,—
Матыль залацісты, што к сонцу ўзлятае
Й жыве святлом так... У песні той спеўнай
Імя пяецца тваё, каралеўна...

Псіха

Што ж песня кажа?

Меліка

З той быццам хвіліны
Пяяць пачалі крыніцы й дравіны —
І гімн агромны па ўсім шоў прасторы,
Пяялі горы, пяяў лес і мора.

Псіха

А далей, далей?

Меліка

Пяе... аб маркоце,
Аб нейкім вышнім, падвоблачным лёце,
Які дасцігнуць матыль той не важыць —
І йшчэ аб некім, што прыйдзе калісь там...

Псіха

Прыйдзе?

Меліка

Аб богу, ахвярцы вячыстым,
Што выбаўляе і ўзносіць, хоць пляжыць...
А больш не помню...

Псіха

Мая, ах, маркота!

Гагна

Ўся песня, ўся аб табе, каралеўна!
Як вечар сонца займгліць пазалоту,
Ў ясноце йскрыцца чало тваё звеўнай,
А на усплеччы — дзве быццам вясёлкі,

Як з павуціны дзве кветныя столкі,
Або лісткі рож: крылкі матылёвы
З святла сатканы, што бліснуць, як слова,
І зноў знікаюць... і зноў мігацяцца,
Расой ірдзяцца...

Арэта
*(зблiжаецца да групы дзяўчат)*

Ўставайце, дзяўчаты!
Ўжо захад сонца... Вячэрняе свята
Йдзе на зямліцу... Паклон з абычаю
Аддайма боствам крыніцы і гаю,
Які даў ў спеку салодкія цені,—
І пойдзем. Час нам сысці з сенажаці,
Дзе кветкі будуць між траваў чакаці
На жыватворнае ў цішы з'яўленне
Тайнага боства, што ходзіць па светах
І багаславіць плод дрэваў і кветак
І ўсё жывое, жадальнае плоду.
Нам замінаці яму нельга ў справе,
Якую тутка пачне неўзабаве;
Дык паспяшайма ў палацавы ходы,
Каб у замчыстую знесці святліцу
Шчыра памытыя шаты ў крыніцы.

Служэбныя дзяўчаты, паўстаўшы, адыходзяць за ідучай наперад Арэтай. Услед за ёю ідзе Гедона, пасля Кальёна, за ёй Меліка, а Гагна ў канцы.

Гедона
*(адварочваецца)*

А ці ты з намі не йдзеш, каралеўна?

Псіха

Ідзіце! Хутка і я даганю вас.

Меліка

Бяжым мы шпарка, дык мо не дагоніш...

Гагна
*(прысядае ля ног Псіхі)*

З табой застану!

Арэта адыходзіць разам з трыма служэбніцамі.

### Псіха
*(да Гагны)*

Застанеш! — ці доўга?

### Гагна

А як захочаш... слуга ж я, нябога!..

### Псіха

Пайшлі ўжо тыя... Арэта-саколка
Так ад мяне адвяла іх да дому
Майго айца, караля-валадарца...
Скупана ў золаце ўцехі Гедона
І красай роўна з багамі Кальёна.
Пайшла й Меліка, пявучая птушка...
Калі ж, калі іх узноў я пабачу?

### Гагна

Яшчэ іх можна дагнаць, каралеўна...

### Псіха

Не, ўжо запозна, ўжо іх не дагонім!
Зірні! ўзышлі во на ўзгорак зялёны
І ў белі йдуць там па ўсходах разбёных,
Што проста ў браму вядуць на заслонні
Палаца бацькі... Глядзі скрозь варотаў,
Насцеж адкрытых, б'е бліск пазалотай —
Ўжо іх замкнулі...

### Гагна

Што, княжна, з табою?

### Псіха

Той сказ адвечны мяне так узрушыў,
Той сказ Мелікі... Так сніцца мне часам,
Што гэта сапраўды была й спрадвекаў
Людскою сплоджана журбай вялікай
Па сонцы, красах, засветах і небе...
Здаецца, помню злацістыя гаі
І ў скалах рэчкі, вісячыя з краю,
Глыбіні мораў, нябеснасці шчыты
І ўсмешкай зораў льснючыя блакіты,
Куды калісь мяне, шчасную, возьме
Ён...

Гагна

Хто?

Псіха

Не ведаю... Ён! мой нязнаны,
Якога здаўна ждуць логі й паляны,
І кветкі, й птушкі, прыспаныя ў лесе,
І я — ў журбоце, з жаданнем і верай,
Што прыйдзе ў нейкі той час найсалодшы,
Калі навокал усё будзе ціха,
Й мяне пакліча па іменні: Псіха! —
І ў мне разбудзіць, што ёсць мною самай...
Тады тут скалы адчыняцца брамай,
І я на крыллях яго,— бо крылаты
Ён будзе! — зсюль паляту, гэй, за скаты,
На чарадзейскія землі і нівы,
На логі, льсняць дзе брыльянтамі росы,
Ў край нейкі дзіўны, шырокі, шчаслівы,
Ў хмары, пад хмары! у даль, у нябёсы!

Блякс
*(паяўляецца на сцежцы ўглыбі)*

Цені Гадэса на гэту дурную чырвоную зорку, што распаўзлася па небе, як румянец па лупатай губе! Ў зеркачы мяне разіць, а як ад яе адвярнуся — ўсё чорнае ўвокал!

Гагна

Гэта Блякс валачэцца... У гэты бок ідзе...

Блякс

Гу, га! каралеўна!

Гагна

Чаго там, парабак!

Блякс
*(да Псіхі)*

А! ёсцека, панна дастойная! Й гэта сарока з вамі...

Гагна

Чаго прыйшоў сюды?

Блякс

Пэўна ж, не па сваёй ахвоце! Паслала мяне Арэта, занепакоеная, што вас няма... То ёсць, што няма каралеўны. Манюся вас завесці дадому...

Псіха

Можашісці, слуга. Ты мне непатрэбны...

Блякс
*(адыходзе ў бок зараслі, мармочучы)*

Можаш ісці!.. А Арэта не пагладзіць па скуры, што не прывёў каралеўны... Лепей тут у кусце пачакаю, пакуль скончаць сваё зюзюканне. За гэты час хоць прасплюся.

Укладаецца ўглыбі на зямлі пад кустом, не заўважаны жанчынамі, якія судзяць, што пайшоў дадому.

Гагна

Аднак час, можа, і нам, каралеўна,
Йсці ўжо дадому?.. Раса — глянь — апала,
І бледны месяца ўсплыў твар над скалы
Ля ясных зорак... Чакаюць нас, пэўна,
Ў палацы бацькі твайго залацістым...

Псіха

Дык пойдзем!.. Месяц святлом серабрыстым
Нас прыгалубіць. Глянь, зоркі крывавай
Мігціць акрайчык, як божая ўсмешка
Прад спаннем кінута свету ласкава...
Там, дзе нядаўна чырвені йшла сцежка,
Цяпер блакіт бесканечны асіліў
І зормі мжыць... О салодкая хвіля!
О найсвяцейшая хвіля прамены!
Чуеш, як шорах крыніцы жалейны
Змяніўся ў шопат ціхі захаплення?
Ўстрос лесам вецер і кінуў у заценні
Якуюсь песню... Ці чуеш, як лісце
Звініць шумліва й шалешча срабрысце
Й з'яў весціць хвілі ў шчасці ядынай.

Гагна

Пойдзем дадому!..

Псіха

Ці бачыш, як дрэвы
Лаўравы гнуцца? Пяшчотныя ўзвевы
Прайшлі скрозь сонных кустоў верхавіны...
Не! гэта йдзе хтось! Во, чуеш, крадзецца
Так ціха, ціха...

Гагна

То Ноч так пляцецца...

Псіха

Йдзе Ноч без шэлесту, ценем грабовым...
Ці чуеш? — нейкія крылляў узлёткі
І шопат кветак так дзіўна салодкі,
Бы ў сэрцы нейкія спеўныя словы...
Ці кеміш гэту паветра амлеласць?..
І зораў белых надздзіўную беласць?..
Прайшло скрозь, дрыжа, па кветках, па лісці...

Гагна

То Сон крылаты лунае ўрачысце...
Йдзем, каралеўна!

Псіха

О Гагна! о Гагна!
Павер, ён ёсць тут! Ён тут недзе блізка.
Ён! ўсёмагутны, святы, неназваны!
То ж пад нагамі яго дрыжыцьквецце,
І з яго крылляў плыве шум па лесе,
Што дрэвам голас дае патаемны
Й пяшчотна плакаць змушае крыніцу...
Прыбудзь! прыбудзь, ах! — цябе я чакаю!

Гагна

Каго завеш, каралеўна? Мне страшна!

Псіха

Я — што крыніца, што лісць напрадвесні,
Я толькі арфа, што вечна сніць песняй,
Калі ты пальцам кранеш яе ўнадна!..
Я жду паслушна, табе падуладна:
Прыбудзь, мой пан, і свае ўскладзь далоні
На маіх струнах, напятых у лоне

І ждучых век, каб дабыў гук цудоўны
Адным чапаннем сваіх рук чароўных!
Што без цябе я? — нічым — сухім лістам
На дрэве свету; з табой жа — ўсім чыста,
Віхор, вей!..

Гагна

Пані, баюся цябе я!
Ах, каралеўна!..

Выбягае.

Псіха

Сама во адна я,
Цябе журба во мая прызывае!
Прыбудзь на крыллях, як віхар, шырокіх,
О ты магутны! о бог мой нязнаны,
Які ёсць, знаю, як процьма, як мора,
Як тыя вокал паветра прасторы!
Упіся мною, як морам разліўным,
Хай утану я ў табе, хай загіну,
Хай буду толькі тваіх губ дыхненнем,
Грудзей адгукам, крылоў тваіх ценем.
О ты вялікі! святы! бог нязнаны!
Ад векаў снёны, ад векаў чаканы!

*(Па хвілі.)*

На гэту журбу маю заклінаю,
На гэты кветкі, якіх пах мацнее
І дым кадзільны салодкі разносіць
Паміж пяшчотай дрыжачыя дрэвы,
І на крыніцу, прыход твой што весціць,
Плач сіратлівы заводзячы ў цішы,
На ветраў шопат, размолены шчыра,
Й на гэты зоркі, што блогасцяй п'яны,
Глядзяцца сонна з глыбінаў блакіту,
На маё сэрца, якое трасецца
Й ад шчасця рвецца — о бог! хачу плоду,
Як цвет! І крылляў! Прыбудзь — хай станецца!

На цёмнай аснове дрэў, за плячыма каралеўны, паяўляецца ў месячным зіянні юнацкая смуглая, абцяжараная вялізнымі апушчанымі крылламі боская і прамяністая постаць Эроса і збліжаецца звольна да Псіхі.

Псіха
*(якая не бачыць прыбліжанага бога)*

Нямее голас мне й страх трасе лонам...
Які ж пах гэта плыве невымоўны...
Якаясь музыка срыбных мглавіцаў
Ўстрасае мною і ў сэрцы вірыцца,
Усё ўваччу мне дрыжыць, палае.
Ўжо тут ты, блізка! Ты тут! Адчуваю...
Навокал зоры кружаць, як у шчытах,
І йскрацца ў зрэнках, вясёлкай спавітых,
Ад шчасця млею, ад млявасці млоснай...
Ўладар мой ясны! кароль мой ты ўзносны!

Адсоўваецца назад і валіцца ў абняцце стаячага ўжо за ёю Эроса. Эрос нахіляецца над ёю і цалуе ў губы. Белая, густая імгла ўстае з сенажаці, спавівае Эроса і звешаную ў яго абняцці Псіху і засланяе ўвесь краябраз.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Сцэна 2**

Імгла ападае, неба шарэе світаннем. Пад дрэвамі сцелецца яшчэ густы цень, крыху толькі рассветлены яснотай, якая б'е ад боскага цела Эроса. Бл я к с, укрыты ў кустах, спіць. Псіха ляжыць прыспаная на дзярновай падвышцы. Эрос кленчыць, пахілены над ёй.

Псіха
*(спрасоння)*

Затоннем неба нясеш мяне, дзіўны!
Ў якіясь сненыя ў шчасці краіны,
А вокал зоры, і кветкі, й галіны...
Нясі ж, нясі, о крылаты!..

Эрос

Сні, любка!

Псіха
*(будзячыся)*

Дзе ты?

Эрос

З табою...

Псіха

Ці гэта я сніла,
Што ад мяне адляцець хацеў, любы?

Эрос

Днець пачынае, а йшчэ мае крыллі
Павінны ночку дагнаць, што ўцякае.

Псіха

Не йдзі — я відзець аблічча жадаю,
Што цень нядобры цяпер закрывае;
Як месяц ясны, яно, мабыць, ясна;
Мабыць, і вочы твае, як крыніца,
Ў якой бязмежнае неба глядзіцца;
Тваіх веў крылляў я чую няўгасна —
Напэўна, снежныя, быццам аблокі,
Што сняць у небе...

Эрос

О мілая! змоўкні!
Ці чуеш, як я галублю мілосна?

Псіха

Так мне, ах, добра! І ўжо хачу толькі
Цябе йшчэ ўбачыць, каханак мой, хто ты!
Хоць так ты блізка, але мне нязнаны.
Як быў мне ўчора такі сам чаканы,
Цябе галублю, а мру ад маркоты...
Хто ты?

Эрос

О, лепш не пытай! Я сыходжу,
Як злодзей ночны, й, як сон, адлятаю,
Каб зноў вярнуцца... Ўвесь твар мой закрыты:
Мяне той знае, хто не пазнавае,
Хоць і зазнаў мо. Ты выбрана мною —
Цябе ў сне бачыў, пакуль яшчэ гэты
Я свет зварушыў з муцінаў хаосу!
Табе зямлю збудаваў і ўзяленіў,
Як ты йшчэ спала, табе на спатканне
Ўбраў яе ў кветкі і ўсіх збудзіў птушак,
Каб для цябе аба мне век пялі!
Мая навекі!

Блякс

*(які перад хвіляй збудзіўся быў, стаіць цяпер за кустом і пазірае з задзіўленнем на Эроса, мармочучы)*

Няўжо ж бы я спаў яшчэ? — не! Снілася мне каша з салам, а тут бачу... Цьфу! нейкі гладкі блазнюк з тонкімі лыткамі і, як гусак крылаты, зюзюкае сабе з каралеўнай!

Псіха

Хачу век тваёй быць!

Эрос

Дык не глядзі на маё ты аблічча!

Псіха

Чаму? Ты ж хто такі?!

Эрос

Я — таямніца!

Псіха

Пазнаць цябе ці не буду ж мець змогу?

Эрос

Чаму ж! Адно, перш даўгую дарогу
Адбудзеш, покуль тваім я ўжо стану.
Пры табе буду нязгледна, няўстанна!
Знаць будзеш праз мяне ўцеху й трывогу,
Праз мяне ў моцу расці і ўзлятаці,
І багаславіць, і брацтвам злучаці
Ў сабе стыхіі, як песня святая,
Мяне не знаўшы, пры мне век жывая,
Аж дзень надойдзе, калі ў косах сонца
Свой твар адкрыю на шчасце бясконца,
Мая каханка, дзіцятка зарніцы,
Заранку зорка, цвет ясны зямліцы,
Матыль злацісты!

Блякс

*(да сябе)*

Дасціпны храбрэц! Хацелася б, відаць, ажаніцца з каралеўнай і ўзяць багаты пасаг!

Псіха

Во ўжо і світае,
І птушка будзіцца ўжо на галіне...
Маймі касамі звяжу цябе шчыльне
Й на ўвязі косаў цябе затрымаю,
Аж гэна зорка свой бляск далоў скоце
Й твар майго пана святлом узалоце,
Каб я зірнула!..

Эрос

Пастой! як заранне
Ў твар глянеш — шчасце замрэ і не ўстане!
Бывай, уцеха мая!

Пахіляецца над Псіхай і цалуе яе ў губы, потым закідае на твар шматок завешанай на плячах вопраткі.

Бля кс
*(у тым часе гаворыць сам сабе)*

Ого! палятун адляцець хоча! Закрывае губу, каб яго не пазналі! Здаецца, што Арэта мяне пахваліць, калі схаплю яго за гусінае крылле і прывяду да палаца, каб далі яму розаг!

*(Падцікаецца да Эроса.)*

Псіха

Йшчэ хвіліну!
Такі дзень доўгі! ў ім столькі часінаў,
Звяду якія ў журбе за табою!
Застань! застанься!.. Так ждала я здаўна,
Пакуль кароль да слугі сваёй глянуў!..

Эрос
*(адступае з закрытым тварам)*

Як зоркі блісвуць, прыйду, як учора,
Зноў цалаваці... Пара мне ў дарогу —
Бывай — свет блізка...

Неба развідняецца зарою.

Бля кс
*(хапае ззаду Эроса за крылле)*

Ага! папаўся, начны валацуга!

Эрос шпарка адварочваецца, заслона ападае яму з аблічча, відно твар боскі, прамяністы, страшны.

Бляк с
*(з крыкам)*

Бог! нейкі бог страшэнны!

Псіха
*(кідаецца перад Эросам на калені і адной рукой абымае яго ногі, а другой чапляецца за заслону, не даючы яму закрыць твар нанова)*

Бачу цябе я, кароль мой!
Ах, бачу, страшны, нявіданы пане!
Агнём твае валасы паланеюць!
А твае вочы маланкамі сеюць!
Як бы жар, губы, а крыллі, мой мілы,
Як бура, веюць!

Эрос

Ах, што ты ўчыніла!
Пакінь глядзеці!

Сіліцца засланіць твар.

Псіха
*(паўстрымлівае яму руку)*

Не крый жа аблічча!
Хай згіну, гледзя я, жудасны божа,
Як у маё ўшоў дзявочае ложа,
Як муж, каханак!

Эрос

Не згінеш, больш толькі
Мяне не ўбачыш! Адходжу навекі:
Я — Эрос!

Аслабаджаецца з абоймаў Псіхі і знікае ў лясным гушчары.

Псіха

Эрос! А, Эрос!

*(Закрывае вочы.)*

Бляк с
*(звольна ўстае з зямлі)*

А то ж мяне паваліў! Як бы хто мне кулаком паміж вачэй заклаў!.. Гэта бог быў нейкі магутны, відавочна, бог! Я

гатоў яму ахвяраваць пару вераб'ёў за тое, што адышоў, але няхай жа не вяртаецца!

Сонца ўсходзе.

Песня служэбніц
*(далёкая)*

Вітай, вітай жа к нам свет прадусходні,
Вітайце зоры — іскрыстыя рожы.
Вітай к нам Сонца, нязгаданы божа,
Які бадзеш ноч агністай паходняй!
Вітай у ранішніх красах вясёлак —
Вітай, о Сонца!

Псіха
*(з крыкам)*

О пан мой! каханак!

Блякс азіраецца борзда, як бы баючыся, ці не вяртаецца Эрос.

Песня служэбніц

Багаслаўлёны будзь нам, дзень праменны!
Воч нашых радасць, сявец безупынны,
Што вокал сееш жыццё ўсім жывінам!
Святы, святы, прасвятлісты бляск дзенны,
Якога яснасць бязмежна красуе,
Будзь багаслаўлен!

Псіха

Што гэта? Ці сню я?
То ж ён быў тут? —Адышоў ўжо — навекі?
Ці ўжо не ўбачаць яго мае вочы,
Не абымуся няўжо з ім ніколі?
О дзень! о дзень залаты! будзь пракляты!
О ночка! ночка! вярніся мне, ночка!

Блякс
*(падыходзіць наперад)*

Каралеўна...

Псіха

О, гляньце ж вы на няшчасную, богі!
Глядзіце,— мае ж хто горшую долю!
Чуць мае губы, як змучаны смагай
Па росах птушкі, прыйшлі піць з крыніцы

Жывой яго губ,— ваду мне спынулі,
А мае губы, ах, так яшчэ смагнуць!
Чуць у абоймах яго, дрыжучы ўся,
Я галаву да грудзей прытуліла,
А ўжо ён згінуў, не даўшы часу
Ўдаволь спагнаць з ім палючую журбу
Майго кахання!.. І ўзноў вось маркота
Яшчэ цяжэйшая рве маё сэрца!..
Да вас узношу з малітваю рукі.
О прасвятыя, магутныя богі,
Падайце помач мне, ўдоўцы няшчаснай,
У шлюбным строі!

Блякс
*(да сябе)*

Гатова ўзноў нейкага выклікаць бога, а я ўжо гэтага маю даволі! — Каралеўна!

Псіха

Ідзі проч ад мяне ты!

Блякс

Не маеш чаго гневацца на мяне, каралеўна. Хацеў бы я толькі табе сказаць, каб ты не плакала. Што табе там па нейкім крылатым бажку, які ніколі не можа быць пэўным... Гэта ж столькі багатых дзецюкоў да цябе сватаецца...

Псіха

О богі неба! ці й гэтыя здзекі
Па вашай волі мяне спатыкаюць!

*(Да Блякса.)*

Будзь ты пракляты! Каб болей ніколі
Цябе на сцежцы сваёй не сустрэла!
Ты, што мне шчасце спугнуў, ненавісны!
Ты больш ужо не слуга мой, а вораг!

Блякс

Хай жа й так будзе! Помні толькі, што сама ты мяне пракляла!

Псіха

Каб лепей яснага дня я не знала!
Каб лепей чорны пясок мяне глынуў!..
О богі! літасці! літасці! богі!
Так во маркота згрызе мяне й стравіць,
Як корч смалісты, кінуты ў вагнішча
Тых страшных словаў: ніколі навекі! —
Карайце карай мяне найцяжэйшай;
Усё знясу я, вас славячы, богі.
Надзею толькі мне дайце, надзею,
Што я знайду зноў яго, ці смерць дайце!

Блякс
*(да сябе)*

Выкліча зноў нейкага бога,— аж хібіць! выкліча!

Чуваць працяглы гром.

Вот і маеце! — лепш пайду схавацца, пакуль не позна!

Адыходзе паміж кустоў

Псіха

Ах, дзякуй, богі! — Во знак свой даеце,
Што мае жальбы пачуць захацелі!
О, дзякуй! Кленчу ў вясельнай во белі
Прад вамі, згнута, як ліліі квецце,
Якое віхры хістаюць на ўзлогі;
О, дайце помач! Кажыце йшчэ, богі!

Паўторны гром і маланка, з'яўляецца Гермес у крылатых сандаляхі з посахам у руцэ

Гермес

Дайшоў твой голас, о ясная Псіха,
Аж да Алімпа і літасцяй сэрцы
Багоў напоўніў. Скажы, чаго хочаш?

Псіха

Вярні каханка майго ці дай ўмерці!

Гермес

Ўмерці не можаш! Хто ў бога твар глянуў,
Той несмяротны! Жыць мусіць навекі!

Бля кс
*(да сябе наўбочны)*

Глядзіце! гэта ж буду і я несмяротны!
Добра ведаць!

Псіха

Але ты знаеш, што жыць не магу я
З тых пор, як знікнуў ён. Знаеш, што плачам
Сказ будзе кожны, што кожная думка
Мая адчаяннем будзе й праклянццем,
Як не дасі мне надзеі, што буду
Магчы віну зняць і ўзноў яго меці!

Гермес

Багі, цябе што на тое стварылі,
Каб яснай свету была ты зарою,
Не хочуць крыўды тваёй — і праз гэта
Маймі губамі табе шлюць ласкавы
Вырок: «Ён вернецца, ўзноў тваім будзе!»

Псіха

Маім зноў будзе? Ён вернецца — кажаш?

Гермес

Багі так хочуць. Але што зірнула
Ў твар найвялікшага бога, што жыцце
Стварыў усё чыста і ўсім уладае —
А таямніцаю ён незгаданай —
За кару мусіш, пакуль яго знойдзеш,
Прайсці выгнанкай свет гэты шырокі;
За шумам крылляў яго век ганяцца,
Шукаці мусіш яго ўдзень і ўночы,
Ўзлётаць, і падаць, і слёзы ліць з вочаў,
Не верыць, верыць, скрозь бураў блукацца,
Аб восце й груды крывавіці ногі,
Аж вырак збудзецца ля асцярогі:
Аж перапаліць святая пажога,
Якую ўзнеціў ў тваім жа ён лоне.
І віну выесць, што пляміць сягоння!
Бо хто зірнуць смеў ў закрыты твар бога,
Пазнаць павінен яго праз цярпенне,
Пакуль не знойдзе — у шчасці — і асене!

Псіха

Вырок я споўню...

Гермес
*(узносіць руку)*

Гром. Паміж скал адчыняецца шырокае ўзвуззе, праз якое відаць далёкія краі і моры.

Раскрылісь вароты!
Паўстань, выгнанка, — твая во дарога!

Псіха
*(адступае, стрывожаная)*

О пане! страх мне здаецца й трывога...
Сама йсці ж маю праз свету турботы?

Гермес

З надзеяй пойдзем і з гэтай людзінай,
Што тваю дзеліць правіну, і згнанне
Дзяліці будзе!

Паказвае посахам на Блякса, які скрываецца сярод зараслі.

Псіха

О, літасці, пане!
Каб не з ім толькі! не з гэтай скацінай!

Гермес

Ён твой таварыш! Сваёй віной цяжкай
Руку сваю ты к яго прыкавала!
Раней не звольнішся з рук яго, покуль
Уласным чынам сябе збавіш разам!

Блякс
*(падае, стрывожаны, на калені прад Гермесам)*

Даруй, ясны божа, які безупынна грыміш без патрэбы! Мая віна не ёсць такая цяжкая, як табе здаецца. Калі ты ўсяведны, то ведаеш сам, што я не маніўся таму чцігоднаму богу ламаць крыллі. Вельмі лёганька ўчапіўся за іх...

Гермес
*(да Псіхі)*

Мяркуеш?

Псіха

Ўжо йду!

Гермес
*(да Блякса)*

Валі за ёй следам!

Бляк с
*(устае)*

Валі, дык вальну! Я й так не загіну!

Псіха
*(яшчэ адварочваецца)*

Бывайце, цені аркадыйскай ціхай
Даліны й кветак! Бывайце і дрэвы,
Бывай ты, войча, й дзяўчаты мае вы!
Выгнанка — йду...

Голас Арэты
*(далёкі)*

Дзе ты, Псіха! эй, Псіха!

Хмарыцца, працяглы свіст віхру. Псіха затрымліваецца на хвілю і азіраецца, але, пагнаная прыказваючай выцягнутай рукой Гермеса, з ціхім стогнам ідзе ў бок раскрытага ўзвуззя. Бляк с пaступае за ёй.

## II

## ЗМЯРКАННЕ БАГОЎ

### АСОБЫ ДЗЕІ

Бляк с, рымскі прэфект (намеснік) у Александрыі.
Арыстос.
Харміён.
Філосаф.
Стары грэк.
Рыцар рымскі.
Адзін з бяседнікаў.
Ляіда.
Адна з кабет.
Псіха, падарожная спявачка.
Стары нявольнік.
Бяседнікі, кабеты, нявольнікі, арфяры.

Рэч дзеялася ў Александрыі ў пачатку нашай эры.

Прадсенне перад домам рымскага прэфекта ў Александрыі. Углыбі — рад калумнаў, за імі сцяна з адчыненымі насцеж дзвярмі, заслоненымі да палавіны падвязанай шнурам пурпуровай заслонай. Дзверы гэтыя вядуць у залу, з якой далятае, выбухаючы штохвіля, гоман бяседуючых бяседнікаў. На левым баку цёмная сцяна дрэваў, на правым — каменная балюстрада і сходы, вядучыя ў выгароды над берагам мора, відненочага здаля. Прадсенне спадае таксама наперад трыма ці чатырма шырокімі ступенямі. Пад калумнамі некалькі непарушных нявольнікаў, праз паднятую да палавіны заслону відно бяседуючых. Арыстос стаіць, абапёршыся аб балюстраду. У зале сярод бяседнікаў узрыў гоману, чуваць смех і воклікі: «Evohe! Evohe! Vivat!»

Харміён
*(выходзе з залы і спасцерагае Арыстоса)*

Ты тут?

Арыстос

Як бачыш.

Харміён

Чаму не на зале?

Арыстос

А ты?

Харміён

Я выйшаў крыху адпачыці,
Дыхнуць паветра й душы даць спакою.—
Аб чым задумаўся, старча?

Арыстос

Га! мыслю,
Як вас няволя збыдлячыла, вас, што,
Ў застоллі рымскага сеўшы прэфекта,
Б'іцё віваты...

Харміён

Мы вольныя людзі!

Арыстос

Знаць, што ўжо ўпіўся, калі бессаромна
Сказаць так смееш! Кулак цяжкі Рыма
На карках грэцкіх успёрся і давіць,
Але цяжэй шчэ гняце збыдлячэнне!
У час сягонняшні той адно вольным
Быць можа толькі, каму ўжо ўсё роўна,
Ў глыбі ўтануўшаму ўласнага духа,
Што хтось пануе, а хтось яму служыць!
Трэ мудрацом быць, як колісь казалі,
Або — як сёння б сказаў — чалавекам,
Што ўсю марноту жыцця добра ўцяміў
І ўсю марноту заходаў напрасных
Аб усё тое, што марнае толькі!
Ўжо мудрасць сёння адна і адна моц,
Якой пранікнуцца вы ўжо не ў сілах,
А гэта — ў духу спакой найці ўласным:
Свабоду — гінучых!

Харміён

Горкая мудрасць!

Арыстос

Калі так горкая — йдзі к Лізыхосу,
Ў якога знойдзеш салодкай і подлай!
Адно ■ знаю! Сыходзім са свету,
Няма што думаць! Душа калісь наша
Блукае недзе выгнанкай, а мы ўжо
Трупы, што, будзячысь часам спрасоння,
Жальбуюць шчэ па душы заблуканай.
Але каб станула сёння між намі,
То мы ўжо ўласнай душы не пазналі б!
Канаем доўга, бо буйна жылі мы,
Але праз гэта не збавімся смерці...
Ўжо толькі часам, як вецер павее
Ад мора, сняцца нам згібшыя дзеі,
Нам сняцца йшчэ Маратонскія гоні,
Й Тэсальскіх ноччу глухі топат коні,
І пазапалены Ксерксавы промы,
І па-над Азіяй — полым крывавы,
Рапсодаў песні й філосафаў слава
І клум статуяў... загнаных да Ромы!
Святыні нашы, і богі народу,
І нейкі ўскрык: «За красу! за свабоду!..»
Сны гэта толькі! Ў тых спадкаў астаткі
Падчас гуляем, як дзеці без маткі,
Й ворагам нашым за воддыху права
Мы плацім грэцкай былой нашай славай!
На ўласнасць маем адно ўжо — маркоту,
Што рве нам грудзі, прыбраны бліскотай, —
У ланцугі й вінаградпае лісце, —
Якая жыць па нас будзе вячысце,
Калі ўжо сыдзем смутныя ў магілу,
Тым свет пакінуўшы, што маюць сілу
І жыць патрапяць! — Люблю гаманіці,
Бо стар... Ты смейся!

Харміён

Дык што нам чыніці?

Арыстос

Чыніць? Ніводны ўжо чын не астаўся
Нам, іх усе за нас споўнілі продкі!

Нам пазіраці ў вянку на заплоткі,
Як за нас іншы краі здабывае,
А для забаўкі... лічыць сугалоскі,
Ў якіх нам хвалу грымеў Гомар боскі.

Х а р м і ё н

І больш нічога?

А р ы с т о с

О не, віно, губы,
Шал, песні, збыткі, а ўсё — дзеля згубы,
Ды гэта дзельнасць апошняя наша:
Ў руцэ з атрутаю золата чаша...
А мне — мне час адысці.

Х а р м і ё н

Куды?

А р ы с т о с

Ў нішто
Ці ў тое штосьці, якога не знаю.
Жыў вельмі доўга...

Х а р м і ё н

А ў чым жа прычына?

А р ы с т о с

Кажу, жыў доўга — памру без прычыны...
Вялікай прошласці жаль мяне кліча,
Што спаў на кнігі сівым пargаміне,
Ажно збудзіў я, стары, які згіне,
Што збудзіў смутак...

Новы ўзрыў гоману і смеху сярод бяседнікаў.

Х а р м і ё н

Мне страшна з табою!

А р ы с т о с
*(паказваючы на залу)*

Йдзі там смяяцца!

Х а р м і ё н

Ты мне без патрэбы
Маркоту будзіш і рэшту той волі

К жыццю, якая ўнутры хамяніцца,
Ламаеш...

Арыстос

Я ўжо казаў: адыдзіся!
Я, знаеш, ласкі не маю... Ці чуеш,
Як гулка там? Ідзі й цешся!

Харміён

Я ўцёк стуль!

Арыстос

Э! хутка вернешся!

Харміён

Так... мо вярнуся...
Мне душа ў горле паветра, й заўзятасць
Гняце мне грудзі, як бачу, што гэты
Сюды к нам Рымам з намесніка ўладай
Насланы гнібіць людзей, як сам, лепшых.

Арыстос

Цішэй!

Харміён

Хоць гэтак злосць мушу спагнаці...

Арыстос

Цішэй! кажу! Тут нявольнікаў поўна,
Якія могуць данесці прэфекту
Тваe ўсе словы!

Харміён
*(з баязняй)*

А думаеш — чулі?

Арыстос
*(ядавіта)*

Вось яна, нашая грэцкая дзельнасць!

Харміён
*(па хвілі)*

Так, праўду кажаш ты! Мы — патаптаны,
Горай: бяссільны, яшчэ горш: нікчомны!

Арыстос

О! вы, наследнікі выцвіўшай славы!
Каяцца рады, не здатны да справы!
Аб меч малюся мне ў рукі нязломны!..

Бляк с
*(які падчас апошніх слоў Арыстоса стануў быў у дзвярах пад заслонай)*

А гэта што, мае мілыя другі?
Ці мала наша віно мае смаку,
Што так узгордзілі чарай? З ахайскіх
Вінніц, паверце мне! З Кіпра, дзе вашы
Суземцы садзяць для нас вінаграды!

Харміён
*(з нізкім паклонам)*

Прабач нам, пане, а толькі ж гасціннасць
Твая так доўжыць бяседу не ў меру,
Што аж і госці твае ўжо прысталі.
Сюды я выйшаў спачнуць, каб нанова
Магчы ў тваю чэсць узносіць кяліхі...

Бляк с

Ў вас, грэкі, слабыя вельмі галовы!
Шкада, што богі віно для вас далі...

Харміён

Так, праўда, пане...

Бляк с

На нашых бяседах
Вам лепш музыкамі быць і пяўцамі,
Але не чаркі для вас з келіхамі,—
Яны — для нашых здатней рук...

Арыстос
*(глуха)*

Аднак жа
П'еш і ваюеш ты з грэкамі, пане!

Бляк с
*(да нявольнікаў)*

Гэй! жыва ладзіць мне ў прыстані кораб!
Хачу з гасцямі закончыць бяседу

На хвалях мора. Паклад хай пурпурай
Акрыюць стройна й сталы пастаўляюць
У ценю парусаў белых!

*(Звяртаецца ўглыб.)*

Пакуль што,
Мае дастойныя друті, хадзіце
Сюды ў калумны! Апаў жар паўдзённы,
І з мора вецер лагодны павеяў...

Мужчыны і кабеты ціснуцца на тэрасу, нявольнікі ўносяць за імі сталы і ложы.

Бляксъ

Наліць кяліхі! Хай наша бяседа,
На міг спынёная, далей шалее!
Займіце месцы, мае дарагія!

Адзін з бяседнікаў

Здароўе ўладцы!

Стары грэк

Здароўе рымлянца!
Хай Рым жыве, новы пан светаўладны,
Элінскай славы праслаўны наследнік!

Блякс

Наш меч нам высек ўжо ўласную славу!

Філосаф

Марсаву славу, якая ў стократць
Ад славы нашых важней філасофаў.

Рыцар рымскі

Я на чэсць Марсу ллю гэтыя каплі!

Ляіда

Не Марса сёння чцім, але — Эроса!
Ці знаеш гэта, балван ты жалезны?
І ты, вучоны, што вельмі вучона
Віно п'еш? Святкуем сёння Эроса!

Адна з кабет

Так, так! хай Эрос жыве нам! Залётны
Бажок пяшчоты!

Стары грэк

Меч рымскі спакою
Ўладае светам. Пад крыллямі Рыма
Віно піць добра і рожы зрываці!

Пахіляе галаву на грудзі Ляіды.

Ляіда

Прэч мне ад лона! Смярдзіш віном, старча!

Стары грэк

Ды маю золата...

Ляіда

То жджы да заўтра,
Аж твайго золата трэба мне будзе,
Пан сёння — Эрос!

*(Звяртаецца да Харміёна.)*

Блякс

Іграйце, музыкі!

Музыка.

Кабета
*(да старога грэка)*

Я ад Ляіды не меней прыгожа...

Садзіцца побач яго на ложу.

Ляіда
*(да Харміёна, сядзячага пасярод бяседнікаў)*

Чаго ты смутны?.. Ты мне даспадобы...

Харміён

Забыць хацеў бы, што, ўласна, жыву я...

Ляіда

Дык тут апрыся... Ці чуеш, як сэрца
Ў грудзях мне б'ецца? Віна дай яшчэ мне,
А после...

Харміён

После табою я ўп'юся,
О ты, пахучая майская кветка!..

Бяседнік

Вянкоў. рож дайце! А дзе песняры ўсе?

Блякс

Й віна! віна йшчэ, нявольнікі, гэй жа!

Філосаф

Віна! філосаф заве: віна! — Ліце
Жыцця клёк гэты у нашыя чаркі!

Харміён
*(да Ляіды)*

Дай губ!..

Рыцар

Аднак грэкі добрыя людзі!
Вось п'ецца з імі са смакам і гладка!

Філосаф

А праўда! так! Грэкі добрыя людзі
І цэняць вашую ласку...

Арыстос

Нікчэмнік!..

Кабета
*(да Арыстоса, стаячага ўсё наўбоччы)*

А ты што, старча, стаіш наўбоччы
Й не хочаш з намі дзяліцці вясёласць,
Адно ўсё кідаеш горкія словы?

Бяседнік

Яго не рухай! — то ж гэта філосаф!

Філосаф

Прашу не ганьбіць гэтае назвы!

Кабета

Ці ж філасоф'я бароніць уцехі?

Філосаф

О не! праўдзівая — нат яе раіць!
Праз гэта годнасць мая філасофа
Не пазваляе, каб так чалавека
Таго назвалі, што ўцехаю гардзіць!
Стары Сакрат піў, як ведама, ёмка.

Блякс

Ану, Арыстос! Хадзі к нам, прашу я!
І за здароўе маё выпі... Гэй жа!
Няхай Лізыхос паверыць, што лоб твой
Таксама моцны, як лоб і Сакрата,—
Што ёсць, па-мойму, заслугай!

Арыстос

Даруй мне,
Намеснік, толькі ж мне йсці час... Вам жычу
Гульні вясёлай!

Блякс

Прыказваю, йначай...
Каб ты астаўся! Глянь, ёсць тут паэты,
Танцоркі, блазны — няма філасофа,
Каб забаўляў нас!

Смех.

Ляіда

То ж ёсць тут Лізыхос!

Блякс

Ён? — толькі блазнам быў, ёсць і ім будзе!
Баў нас, Арыстос! Блазноў маем досыць;
Цябе нам трэба!

Арыстос

Я — старац сівы ўжо...

Стары грэк

Надзень на голаў вянок! — і лысыя
Шалеюць!

Арыстос

Бачу. Твой плех, як калена...

Блякс
*(смяецца)*

Язык твой складны! Хадзі, сядзь тут з намі.

Арыстос

Сказаў, адходжу. Лізыхос застане,—
Табе яго досыць!

Філосаф
*(да намесніка)*

Ці чуеш ты, пане?
Мяне ён ганьбіць!

Блякс

То ж гэта знявага!
Знявага Рыма, ў маёй што асобе
Ўладае вамі!

Харміён
*(да Арыстоса)*

Маўчы! Прэфект гнеўны!

Арыстос

Не! не ўладаеш, намеснік, ты мною!
Пануй з бізуном ты над цёмнай таўпою,
Пужай сабой знікчамнёныя грэкі
І ўсіх паганцаў, што на імя Ромы
Бляднеюць: слугам хавай свае громы!
Быў вольным, вольным я й выйду — навекі!

Выходзіць.

Харміён
*(паўшэптам)*

Пайшоў забіцца...

Ляіда

На які чорт табе ён!

Філосаф

І кажаш праўду! Жывых не павінны
Абходзіць тыя, што ўжо адыходзяць.
Віна іх, калі застацца не ўмелі.

Рыцар
*(паўголасам да намесніка)*

Арыстос, кажуць, даволі багаты,—
Ты мог бы, пане, забраць яго скарбы...

Бяседнік
*(да філосафа)*

Глянь на намесніка... Бровы наморшчыў,
А губы зложаны к смеху...

Блякс

Што гэта?
Чаго ж так раптам усе вы замоўклі?
Ці ў маіх кадзях віна не хапіла?
Ці вам настрой папсаваў мо стары той?
Вянок мне новы даць з ружаў увіты! —
Я сёння ласкаў! Дык піце, што сіла!
Хто Рым зняважыў, той згіне йшчэ сёння!
Аб ім забудзьце пры чарцы ў далоні!

Галасы

Няхай жыве Рым! жыве і ўладае!

У гэту хвілю граючыя арфяры раптам сціхаюць.

Блякс

Што там?

Ляіда

Музыка?..

Блякс

Хай граюць!

Нявольнік

О, гора!
Даруй ты, пане... але ў музыкаў
Парваліся струны...

Блякс

Хай новыя ўшчэпяць!

У гэту хвілю на шырокіх ступенях парога паяўляецца П с і х а, вандроўная спявачка, і ўсходзіць звольна кверху, трымаючы ў руках малую лютню. За ёй пляцецца нясмела С т а р ы н я в о л ь н і к.

Бяседнік
*(спасцярогшы Псіху)*

Хто гэта?

Блякс

Скуль тут?

Стары грэк

Якаясь жабрачка!

Харміён

Ах, што за постаць! з такой яснай косай!

Стары грэк

На грош і далей...

Ляіда

Аборвана, боса!..

Стары нявольнік

Была ў гародзе... з вандроўкі спявачка...
Ўпусціў і думаў павесяліць госці...

*(Да Псіхі.)*

Ну, йдзі ўжо! Бачыш, паны злыя штосьці...

Бляке

Чаго ж прыйшла ты? Цябе тут не трэба!
Тут [redacted] ўладаю!

Псіха

Не бойся, раб збеглы...
Я не крану твае ўлады і хлеба.
Вандроўкай змучана вельмі адлеглай,
Спачну ды знова пайду далей, далей...

Кабета

Што яна кажа?

Харміён

Няўжо з морскай хвалі
Кіпрыда ўстала?

Стары грэк

Вар'ятка, на гора!

Рыцар

Раб! — так да нашага пана гавора!
Вон згэтуль! к чорту...

Кабета

Чакай! то ж вар'ятка...
А ты йшчэ гоніш! Не бойся, дзіцятка,
Скажы, адкуль ты йдзеш?

Псіха

Здаля йду, здаля!
Вядзе мяне лес, нясе мора хваля.
Іду...

Ляіда

О, лютню, як бачу, ты маеш!
Мабыць, пяснярка? Мо нам заспяваеш?

Бяседнік

Дарэчы думка! Спявай нам, дзяўчына!
Грош табе кіну, а мо й болей кіну!

Псіха
*(пачынае гаварыць, пераходзячы зволына ў спеўны тон)*

Не трэба золата мне і бліскотаў,—
Была я слаўнай з красы і багацця.
Бязмеры мела палёў, сенажацяў,
А сёння гоніць праз светы маркота.
І вось іду я выгнанкаю босай:
Непазбытая ў свет гоніць маркота,
Шукаю Эроса!
Іду праз горы, праз землі і рэкі,
Праз местаў гоман і мораў разводдзе,
Дзе сонца гасне, скуль сонца ўсходзе;
Йду праз народы, здарэнні і векі.
Я, каралеўна, выгнанкаю босай
Іду праз векі й праз доўгія векі.
Шукаю Эроса!
Ўваччу залотныя валяцца троны,
Ў груз рассыпаюцца хорамы божы,
Ссыхаюць лаўры й чырвоныя рожы,
Народы гінуць, як сон пераснёны,
Але я йду ўсё выгнанкаю босай,
О, дзе ж ты, дзе ты? мой сон! пераснёны!
Шукаю Эроса!
Калісь мне знік у блакітаў купелі,
І на ніводнай з тых пор не находжу
Дарозе — й дарма свет вокал абходжу:
Ці вы дзе-небудзь яго не сустрэлі?
Прашу, скажыце! Я выгнана, боса,
Малю вас! — Ці дзе ж яго не сустрэлі?..
Шукаю Эроса!

Кабета
*(смеючыся)*

Ён тут! Ты трапіла добра, дзяўчына!
Усе ў яго мы, як бачыш, на службе!

Стары грэк

А нават сёй-той у яго на... ўтрыманні!

Бяседнік

Пакінь жа вельмі маркоціцца ў тужбе!
Віно піць з намі ў яго чэсць павінна;
А ўноч аб лепшай падумаем дані!

Смех.

Ляіда
*(абымаючы Харміёна, кажа да Псіхі)*

Глядзі! Й не трэба блукацца па свеце!
Тут Эрос, гэта дзіця з-паміж дзеці,
Што сыпе ў вочы пахучае квецце!

Псіха

Ён не дзіцятка, а бог ён страшлівы,
З усіх найстаршы багоў, вечна жывы,
З праменным тварам між вогненнай грывы!
Ён, як віхура, як бура й пажога,
Ў свет крыллі-віхар нясуць яго, бога;
Мкне за ім журба, а прад ім трывога!
Яму падуладны сусвету абшары,
Ён і шчасліваць, і мукаў шле мары,
А ў твар зірнуці няможна без кары!

Ляіда

Пляцеш, вар'ятка!

Філосаф
*(у арфісцкай акрасе)*

Такім ёсць Эрос! Але ў нашым часе
Ужо ўстарэла!

Стары грэк

Нябось удалася!

Псіха

*(быццам гэтых увагаў не чула)*

Ён, як захоча, спапеліць і сатравіць,
А як захоча, ў цішы сябе явіць
І, як захоча, ўзвысіць і збавіць!
Яго люблю я, выгнанка, няўстанна,
Праз яго ў сэрцы крывавіцца рана,
Яго шукаю — ўсеўладнага пана!
Што прыйдзе — веру... Хапаю скрозь весці,
Ці крыллем, слухаю, дзе не шалесце,
Ці не з'явіўся, з маей каб балесці
Зацепліць сонца вялікай любосці,
Якая нават праб'е ўмёршых косці!
Ён прыйдзе моцны — святы...

Бяседнік

Гэй, вар'ятка,
Калі так правіш аб Эросе гладка,
Скажы, скуль знаеш яго?

Псіха

Яму ўкрадкай
Зірнула ў твар, як мяне браў, дзявіцу,
Й яго ў сабе вось нашу таямніцу...
Яго шукаю...

Стары грэк

Ажыў свет цудоўны!
Во дзеўка вам, што бярэменна з бога,
Дзіцяцю бацькі шукае...

Ляіда

Нябога!
Ці бог не быў той... музыка вандроўны?

Смех.

Філосаф

Пакіньце! Гэта не так недарэчы,
Што яна кажа... Тут ёсць адкуплення
Навука, жаль, што фальшывая толькі,
Як і ўсе іншыя...

Бяседнік

Й твая ці таксама?

Філосаф

А як жа! Праўды няма ўжо аддаўна!
Па-мойму, к праўдзе бліжэй за ўсё тое,
Што пазваляе ў вясёласці жыці!

Стары грэк

Вар'ятку гэту вазьмі у навуку!

Ляіда
*(да Псіхі)*

Вот важна! Хочаш ты да Лізыхоса
Пайсці ў навуку? Ў дзялах ён Эроса
Мастак вялікі! Цябе ён асвеціць,
Якой любосці патрэба, галубка,
Каб жыць уцешна! Тады мо здалееш
Запець нам песню не гэтак слязную!

Псіха

Адну век песню пяю я: жывую!

Ляіда

Й дабаў: нудную! Так куры спяваюць,
Як несці яйкі без певеня маюць!

Харміён
*(да Ляіды)*

Не кпі так! Глянь: твар гарыць ёй, як рожа!

Ляіда

Замест мяне ты яе хочаш, можа?

*(Саскаквае і адпіхае Псіху.)*

Вон зсюлы! Я песню пяю аб Эросе!

*(Скідае з плеч пакрывала і, да палавіны цела голая, выпаўняючы лёгкія таночныя рухі, пачынае пяяць.)*

Бог крылаты, жэўжык складны,
Эрос — плод пяшчотаў,
Нацягнуўшы лук, з цянётаў,
Пусціў стралу ён мне ў грудзі здрадна:
Ў сэрцы болька, мру з маркоты —
О мілы!..

Ах, бяда! валюся ў ложа.
Раненая срога, —
Дзень і ноч журбую многа;
Што ж ты зрабіў мне, залётны божа?
Хто ж мне вылеча знямогу? —
О мілы!..

Прылажы хадзі мне ґубы
Тут, дзе ў лоне рана,
Што Эросам мне задана,
Як рвала кветкі на лузе, любы,
Для цябе, маёга пана —
О мілы!..

О пустотнае дзіцётка!
Дзякуй за дакукі!
Лек салодкі быў на мукі;
О! як ад губаў тваіх салодка,
Як пяшчотна гладзяць рукі, —
О мілы!..

Сярод бяседнікаў зрываецца бура воплескаў.

Стары грэк

На дзіва песня! Не жаль нагароды!

Здымае з плеч залатую апаску і кідае яе Ляідзе. За яго прыкладам іншыя даюць ёй падарункі.

Ляіда
*(кідаецца, распраменения, на ложа)*

Віна падайце мне для ахалоды!

Стары грэк
*(падае ёй віно, а ўзяўшы назад кяліх, выліває недапітыя астаткі на Псіху)*

Табе ж за нудныя песні: на — плату!

Бяседнік

Калі не трэба табе дар багаты,
На! што даць можам!

*(Кідае на яе агрызкамі.)*

Кабета

Ды йдзі зсюль хоць к смерці!

Псіха

Пайду ад вас я навекі ўжо! верце!

Прыкленчвае ля падножжа калумны, засланяючыся рукамі ад удараў.

Ляіда
*(з ядавітым смехам)*

Йдзі за Эросам!

Нявольнік
*(увайшоўшы з боку агароду, кажа да Блякса)*

Пане! кораб, як ты загадаў, ўжо гатовы й чакае, калышучысь лёгка на лагодных хвалях прыстані. Пурпурай акрылі паклад і ў ценю сняжыстых парусаў пастаўлялі сталы і ложы, на якія капаюць зверху рожы, звісаючыя вянкамі з мачтаў і рэек...

Ляіда

На мора! на мора!

Стары грэк

Намеснік! кораб!..

Бяседнік

З намеснікам дрэнна!
Што з ім такое? Сядзіць нямы, бледны
Й вачыма водзіць...

Рыцар

Га! чорт, чамярыца!
Што гэта? Ці ж бы яго чараўніца
Уракла ўжо гэта?!

Стары грэк

Нявольнікі! ўзяці
Яе пад розгі!

Рыцар
*(да Блякса)*

Мой пане!

Блякс
*(памешана)*

Не верце!
Не быў ніколі ў ёй парабкам! Брэша!

Кабета

Што кажаш, пане?

Блякс

Самой яе й бога
Яе не знаю! Йдзі прэч, каралеўна!

Харміён

Але ж, мой пане, збяры свае думкі!
Яна спявачка з вандроўкі!..

Ляіда

Вар'ятка!

Рыцар

Калі ўракла ўжо цябе яна, згіне!

Філосаф
*(стрымлівае яго)*

Лепш не чапайце! Ў ёй могуць быць сілы,
Якіх чапаці не варта! Мы лепей
Адгэтуль выйдзем... Так раіць мне мудрасць...

Бяседнік
*(да намесніка)*

На мора, пане! Ўжо кораб гатовы!
Цябе паветра асвежыць там лёгка,
І там пазбудзешся гэтых урокаў!

Блякс
*(прыходзячы да сябе)*

Так, так... на мора... Якісь нездаровы
Дурман апутаў... Віно мо прычынай...
Так, так... дурман... Ідзі адсюль, дзяўчына,
Калі не хочаш тапор знаць сталёвы!
Даруйце, другі, што слаб я быў штосьці,
Але бажуся на ўсе мае косці,
Што гэта болей ніколі не будзе!
Ў жыцці — ніколі! Цяпер жа на мора!
Бяседу скончыць!

Воклікі

На мора! на мора!

Бяседнікі і кабеты ціснуцца да сходаў, вядучых у выгароды.

Харміён

*(зблізкаецца шпарка ў пераходзе да Псіхі)*

Як ты завешся?..

Ляіда

Ка мне, Харміёне!

Выходзяць.

Стары нявольнік

*(зблізкаецца да Псіхі, якая ўсцяж кленчыць з тварам, схаваным у далонях)*

Дзяўчына, слухай... Не бойся, тыя ўжо пайшлі. Даруй мне, што цябе сюды я прывёў... Хацеў бы я вынагародзіць табе гэту мімавольную крыўду... *(Па хвілі.)* Не шмат зразумеў я з таго, што ты пяяла, але адно ўелася мне ў памяці... Ты шукаеш нейкай вялікай, нязмернай любосці, якая цэлы свет абхопе, як пажар... Ці добра я чуў?..

Псіха ўзносіць галаву.

Стары нявольнік

Маю добрую для цябе вестку. Прынеслі яе сюды фініцкія маракі, якія заплывалі да прыстаняў Юдэі...

Псіха

Хто ты?

Стары нявольнік

Я — той, што мае надзею... Але слухай цяпер, што скажу табе... У Юдэі аб'явіўся падобна новы бог ці прарок. Так мне расказвалі...

Псіха

Новы бог?..

Стары нявольнік

Прарок з'явіўся таго мілавання,
Якое сочыш. Ідзе праз даліны,
Йдзе там, праз горы, дзе Ёрдан заліўны,
І, багаславячы свет, бытаванне,
Усім адпускае грахі і правіны,
А за ім толькі йдзе той, хто ў загнанні...

А яснасць божая ззяе з аблічча,
А дзе ён ступіць, усходзяць там кветкі,
Прыносіць смутным шчаслівыя весткі,
Мрацы ўстаюць, калі ён пакліча,
Цвітуць вясною ўсе новай палеткі;
Ён багаславіць і крыўды ўсе ліча!
Йдуць за ім следам кабеты і дзеці,
Бяжыць і статак за ім беларунны,
А ён вядзе іх у ясныя луны,
Што, як усмешка, ў блакітнасці свецяць.
І мае сэрцы ў руках, як бы струны,
З якіх ён песню галосіць па свеце...

Псіха
*(паўстае)*

З'явіўся, з'явіўся нарэшце! І ў гэткай паставе?
І, кажаш, любасць нясе? гоіць боль?..

Стары нявольнік

Няма ўжо болю, ні зла, ані пыхі!
Пайшлі, дзе глянь, непанятныя дзівы:
Ніхто не смутны, ані нешчаслівы,
Ніхто не меншы, ніхто ўжо не ліхі,
Як ён на долы, на ўзгоры і нівы
З навінай добрай сышоў! ясны, ціхі...
Нясе ён любасць на светы, над гора;
Ў імя любосці дае прабачэнне,
А як гавора аб шчасця значэнні,
Усё яго слухае: вецер і мора,
Пастух ад стада, сяўбіт ад насення,—
Дзе прыйдзе: божа! — вітаюць з пакорай!
Бо ён там к небу дарогу раўнуе,
Спакой і жыццё дае на вячысце
І чысце сэрца, калі перахрысце,
Душа не мрэ ўжо, пакліча якую...
Хрыстос завецца.

Псіха
*(выцягвае рукі і кідаецца наперад з воклікам)*

О Хрысце! О Хрысце!

## III

# ПАД КРЫЖАМ

### АСОБЫ ДЗЕІ

К с е н і я (ігумення).
С я с т р а  В і к а р ы я.
С я с т р а  Ф у р т ы я н к а (прыбрамніца).
П с і х а, законніца.
Г а н н а, вясковая дзяўчына.
К а п е л а н (духоўнік) манастырскі.
А ц е ц  Б л я к с, апат.
Б л у д н ы  р ы ц а р  с о н ц а.
М а н а ш к і  і  д в а р а н е апата.

Рэч дзеялася на поўдні ў сярэдніх вяках.

Дзядзінец у сярэднявечным жаночым манастыры. Углыбі пад аркадамі кружганак (прысёнак), перасечаны вялікай акутай брамай з малым закратаваным ваконцам угары. Направа муры касцёлу, налева манастырскія будынкі, грузкія й панурыя. Пасярэдзіне грыху зелені — кпераду з левага боку стаіць каменны крыж з фігурай Хрыстоса, звернутай углыб к вялікай браме. Пад крыжам каменная ступень, як бы лаўка.

Пануе ноч,— толькі з вакон касцёлу б'е святло. Звініць сігнальнік (найменшы званок на вежы), склікваючы манашак на ранішнюю мшу.

На водгук званка паяўляюцца м а н а ш к і ў белых габітах і доўгім шнурам пераходзяць цераз кружганак, спяшаючы да касцёлу. Кожная з іх нясе ў руках светач. Пераходзячы каля вялікай брамы, прыбаўляюць кроку,— дзе якія з іх хрысцяцца. Ф у р т ы я н к а, малая, звяўшая старушка, у законным габіце стаіць пад крыжам з пукам ключоў у руках і прызіраецца к пераходзячым манашкам. У той час адчыняюцца без шэлесту ў манастырскіх будынках дзверы і паяўляецца ў іх К с е н і я, успёртая на пляччу В і к а р ы і, высокая, да відма падобная, у пацяглых шатах, у высокім саболім калпаку на галаве і ў фіялетавых рукавічках. У руках трымае пасторал (посах), на грудзях мае залаты біскупскі крыж. Пераступае пару крокаў і становіцца незаметна за Фуртыянкай.

Па пераходзе манашак сігнальнік моўкне; з касцёлу залятае прыдаўлены гук арганаў. Ксенія датыкаецца рукой да пляча Фуртыянкі.

Ф у р т ы я н к а
*(са страхам азіраецца, а спасцярогшы Ксенію, паспешна кленчыць і цалуе рубок яе габіту, пасля чаго, устаючы, кажа)*

Ваша правялебнасць... у такую раннюю пору... ужо на нагах... і сама...

К с е н і я

Пільнуй, сястра, брамы! пільнуй вялікай брамы!

Ф у р т ы я н к а

Але ж... Ваша правялебнасць... я днём і ночай...

Ксенія
*(да Вікарыі)*

Ці заўважыла ты, з якім неспакоем пераходзілі каля гэтых дзвярэй нашыя сёстры? Гэты кружганак у нашым манастыры нядобра ўладжаны...

Вікарыя

Сюдой найбліжэйшы пераход да касцёлу...

Ксенія

Так... і штодзённа гэтыя маладыя Богу засватаныя душы йдуць маліцца, мінаючы вялікую браму, якая нас лучыць са светам. А нячысцік не спіць, і пакуса сочыць.

Фуртыянка

Брама моцная, дубовая і акутая жалезнымі штабамі. Адно толькі закратаванае ваконца і тое вельмі высока, каб можна было цераз яго вызірнуць... Прытым я ключы заўсёды маю пры сабе — і не спускаю вока...

Ксенія

Ёсць рэчы, якім увайсці ты, сястра, забараніць не здалееш, якіх не паўстрымаюць ні жалезныя штабныя ці замчыстыя аковы. Усходзячае сонца ўвальваецца сюды цераз закратаванае ваконца; вясною — залятае пах кветак і вецер... і вецер, які веіць там, на свеце.

Фуртыянка

Можна было бы зачыніць вакно шклом, аблепленым волавам, або забіць дошкамі...

Ксенія

І гэтага не хопіць, сястра. Тут жа за вялікай брамай пераходзяць жнеі з палёў і пяюць... Голас цераз шкло й цераз дошкі праціснецца. Вазы едуць сюдою й цягнуцца на пырскаючых конях рыцары з шумячымі ў руках прапорцамі. Шум і гоман свету ўвальваецца сюды праз гэтую вялікую браму, а гэта дрэнна... У нас павінна быць ціха — вельмі, вельмі ціха...

Вікарыя

Дык чаму ваша правялебнасць не прыкажа замураваць браму? Зрабілі б гэта работнікі з манастырскіх двароў у працягу аднаго дня... то ж ёсць другое, бочнае ўвойсце ў муры з боку гародаў.

Ксенія

На бяду, немагчыма замураваць вялікую браму. Сюдою ўрачыста ўходзяць у манастыр жадаючыя пасвяціць сябе Хрыстосу дзевы, а важней за ўсё: сюдою ўязджае да нас апат, праваўіты ўладар гэтых зямель навокала. Для яго вялікая брама павінна стаяць насцеж...

Вікарыя

А праўда, праўда... Уласна, і сягоння мае прыбыць.

Фуртыянка

Сягоння? апат!..

Ксенія

Але.

Вікарыя

Яго правялебнасць апат наш і пан даў знаць цераз паслоў, што, аб'язджаючы свае ўладанні, загляне сягоння, каб пабагаславіць сёстры...

Фуртыянка

*(амаль не шэпатам)*

Апошні раз быў тут, калі сястру Пляцыду на кастры палілі... Хрысціцца...

Ксенія

*(быццам слоў гэтых не чула)*

Развідніваецца ўжо. Трэба будзе прыладзіць усё дзеля годнага прыняцця дастойнага гасця. *(Да Фуртыянкі.)* Ты, сястра, загадай замясці сцежку перад брамай. У шэрым адсвеце світання бачу на завесах іржу й звісаючае павуцінне... Трэба ачысціць вялікую браму. *(Да Вікарыі.)* А ты дай знаць, хай ацец капелан пасля мшы да мяне прыйдзе. Буду яго чакаць... Адна з служэбных сясцёр пойдзе на званіцу і ўдарыць у вялікі звон, як здаля пабача прыбліжаючую прыдворню апата.

Вікарыя

Станецца ўсё, як ваша правялебнасць накажа. А на вежу — ці магу паслаць сястру Псіху? Мела праз гэты тыдзень спаўняць служэбную працу...

Ксенія

Не, не! пашлі якую-небудзь іншую. Сястра Псіха вельмі молада... Узышоўшы на вежу, глядзела бы стуль на свет,

што цягнецца навокал манастыру, на боры, якія пераце-рабілі працавітыя ралейнікі, і на замак, які ўзносіцца на суседнім узгоры.

Вікарыя

Як прыкажа ваша правялебнасць...

Ксенія

Добра, аднак, што ты мне аб ёй прыпомніла. *(Да Фуртыянкі.)* Сястра Псіха часта прабывае на гэтым дзядзінцы?

Фуртыянка

Так, правялебная маці...

Ксенія

І не спасцерагла ты ў яе якога... неспакою?

Фуртыянка

Не, маці. Заўсёды ціхая. Успірае толькі чало аб падножжа крыжа й думае...

Ксенія

Моліцца?

Фуртыянка

Не ведаю. Думае. Раз толькі бачыла я, што плакала. Было гэта ў той дзень, калі апат, адбываючы суды, нашу быўшую сястру Пляцыду за чарнакніжніцкія чары на касцёр засудзіў.

Ксенія

Забараніла [redacted] ўспамінаць аб гэтым. А што да сястры Псіхі: трэба за ёй назіраць, трэба назіраць. Завельмі яна маладая, й сэрца ў яе йшчэ не ўспакоена... А цяпер ідзі, сястра, і рабі, што табе загадала я. Сонца хутка ўзойдзе,

Пяянне і прыглушаны гул арганаў, які чуваць было дагэтуль, спыняецца.

і набажэнства ў касцёле, відаць, ужо скончана...

Фуртыянка прыкленчвае і цалуе зноў рубок шатаў Ксеніі, пасля чаго адыходзе. Ксенія стаіць яшчэ хвілю, гледзячы на браму, а ўрэшце адыходзе цераз дзверы, праз якія была ўвайшла, стукаючы пасторалам па сходах,— успёртая ўсё на пляччу паступаючай побач яе Вікарыі.
Світанне. Манашкі праходзяць, вяртаючыся той самай дарогай з касцёлу.

Псіха

*(ідучая ў канцы, ацягваецца й застаецца сама ў дзядзінцы. Становіцца перад вялікай брамай і датыкаецца да яе пальцамі выцягнутай рукі — пасля адварочваецца шпарка і йдзе пад крыж. Тут садзіцца на каменнай ступені і апірае чало аб падножжа... Тым часам на свеце робіцца раніца. Сонца ўсходзе і снапом праменняў спадае цераз ваконца ў вялікай браме проста на Хрыстосавыя стопы. Псіха падносіць галаву, як бы збуджаная са сну, і глядзіць здзіўлена на шматок яснага святла)*

Сонца!

Быстрым, бадай, мімавольным рухам прыпадае губамі да каменных, сонцам асветленых стоп. Трывае гэта толькі хвілю, бо зараз жа адрывае губы і, хілячыся з ціхім стогнам, хавае твар у далонях.

Капелан

*(сівы дзядок у законным уборы, уходзе, вяртаючыся з касцёлу, а спасцярогшы Псіху, затрымліваецца і пытае)*

Што тут робіш, дачка мая? Штодзённа вяртаючыся з касцёлу, спатыкаю цябе... Ці, можа, маеш асаблівае набажэнства да гэтае фігуры Хрыстоса, пад якой застаю цябе?

Псіха

Так, войча...

Капелан

Ці ж ты многа ласкі ад яго тут дазнала?

Псіха

Не, войча, але расце тут каля крыжу крыху зелені, якой дзе ў іншым месцы не бачу ніколі. Нават вакно маёй келлі выходзіць на брукаваны дзядзінец манастырскі...

Капелан

Гэта грэх. Ты павінна быць у келлі й маліцца там!

Псіха

Была я ў келлі праз цэлы дзень і цэлую ноч. Бічавалася й ляжала крыжам на каменнай, уласнай маёй крывёй змочанай падлозе й прасіла Хрыстоса, каб мне пазволіў не грашыць, адналькова ж... Войча мой, я новы, цяжкі грэх маю на сумленні...

Капелан

Слухаю цябе, дачка мая...

Псіха

Я ўпала ніц пад Хрыстосавы ногі —
Й стрымаць пакусы не мела тут змогі...
Ўзнялося сонца там недзе на свеце
Й зірнула тут цераз краты-аковы,
О тое ж сонца, што песціць там квецце! —
І азалоціла стопы Хрыстовы,
І я, не здаўшы ў тым, грэшная, справы,
Да залатой прытулілася з'явы!

Капелан

Пацалавала Хрыстосавы ногі, дачка мая...

Псіха

Не, войча! я сонца на іх цалавала!

Капелан

Але калі прытулілася вуснамі да крыжа, ты ўчула, не йначай, што сонца ёсць зданнем, залацістай толькі й неіснуючай марай: дакрануліся, дачка мая, губы Хрыстосавых стоп... містычных ліліяў ласкі...

Псіха

Мае губы, войча, даткнуліся... каменя!

Капелан

Ты мне, дзіця маё, з вялікага грэху спавядаешся! Абавязана ты старацца, каб распаліць у сабе любасць вялізную, якая робіць тое, што рэчы не здаюцца нам тым, чым ёсць звычайна для вока, для пальцаў, але тым, бадай, чым быць павінны для духу... Камень гэты не ёсць каменем, бо мастак прыдаў яму прынадныя формы боскага цела Хрыстоса, у сне, знаць, яму выяўленыя,— не ёсць каменем, бо праз малітву й свянцоную ваду асягнуў вышэйшую, духоўную вартасць... Зразумееш гэта і адчуеш, дачка мая, калі дасканальна будзеш любіць Хрыстоса.

Псіха

Люблю я, войча, яго, ды ў сне бачу
Не гэткім, як тут. Тут мае бядача
Твар пакрыўляны, як жудасць якая,
А ясным бачу яго ў ясным квецці,

Як багаславіць і старцаў, і дзеці
І смутных цешыць, грахі адпускае..,
На сенажаці я бачу і ў сонцы!
Пры ім жа вокал народу бясконца...

Капелан

Помні, дачка, што Сын Божы збавіў свет не багаславенствам ціхім, а страшнай і крывавай мукай сваей. Крыж заткнуў пасярод земскае кулі, як штандар пабедны, і ў цяню крыжа толькі збаўленне!

Псіха

Война! а чаму не ў променях крыжа!

Капелан

Замнога разумееш, дачка мая, замнога! Помні, што нячысцік адпіхнуў чалавека ад раю, падшапнуўшы яму першае «чаму»... Будзь пакорная й ціхая й маліся, маліся, маліся!

Псіха

Маліцца, война, мне, грэшнай, не змога!
Дзеля Хрыста я прайшла тут вароты,—
Чаму ж не выганю з сэрца маркоты?
Чаму не йдзе супакой, а — трывога?

Капелан

Яшчэ дасканаласці ты не дасцігла. Працуй над сабою: гэта адно магу табе сказаць...

Псіха

Война...

Капелан

Замаўчы. Вельмі ўжо доўга гаманю з табой! Ты не павінна пытацца, бо кожнае пытанне грэхам ёсць. Я, адказваючы, толькі памагаю табе да грэху. Чуюся супольнікам віны тваёй,— маліся за мяне й за сябе!

Выходзе. У хуткім часе на адходзе Капелана ўбягае Ганна, маладая вясковая дзяўчына, праве, дзіцянё яшчэ. Уносіць вядро вады, зэдлік і кусок простага палатна й бярэцца чысціць вялікую браму. У працягу работы становіцца на зэдлі й цераз закратаванае ваконца вызірае на свет.

Псіха

*(якая, схіленая над крыжам, не заўважыла яе прыходу)*

О Божа! о Божа...

Ганна

*(азіраецца баязліва)*

А! гэта вы, сястра Псіха! Перапужалі вы мяне...

Псіха

*(падносіць галаву; толькі цяпер спасцерагла Ганну)*

Што тут робіш, дзіця?

Ганна

Загадалі мне абчысціць і абмыць вялікую браму. Яго правялебнасць апат прыязджае сягоння!

Вяртаецца да работы.

Псіха

*(як бы да сябе)*

Апат... які засудзіў на смерць сястру Пляцыду за тое, што журбавала, што шукала... *(Устрасаецца.)* Грэх! грэх!

Ганна

*(узноў вызіраючы праз ваконца)*

Сястра... як жа там прыгожа на свеце!

Псіха

*(уздрыгнула, паўтарае, як водгулле)*

На свеце!..

Ганна

Так. Адгэтуль не бачыш свету амаль ніколі. Усе вокны выходзяць на панадворак, з усіх бакоў зачынены высокімі мурамі... О! тут зусім не так ужо прыгожа! Але цераз гэтае ваконца ў вялікай браме відно сенажаці, такія шырокія, вялікія сенажаці, поўныя кветак! Яшчэ так нядаўна бегала я па іх. Сястра Псіха, ці вы калі бачылі гэтыя шырокія сенажаці?

Псіха

Нам няможна, дзіця, глядзець на свет.

Ганна

А праўда! — шкода.

Псіха

*(па хвілі, гледзячы на Ганну)*

Скуль ты ўзялася тут, птушанё? сярод чорных манастырскіх муроў?..

Ганна

Ах! я... Мяне сюды маці аддала на паслугі, зашмат было нас дома. Але вы!.. Гляджу на вас, і здаецца мне, што вы павінны былі жыць, як тая златавалосая князёўна ў тым замку напроціў, які відаць праз гэтае ваконца... О! адгэтуль шмат, шмат харошых рэчаў відаць! *(Заглядае.)* Цяпер нейкія людзі едуць па дарозе, мабыць, купцы, бо цягнуцца за імі наладаваныя вазы... Скуль яны гэта могуць ехаць, сястра Псіха, і куды?

Псіха

У свет! — і са свету...

Ганна

Свет вельмі, вельмі вялікі — ажно страшна падумаць! І гэтулькі на ім людзей. Бачыла я ўжо пастухоў і ралейнікаў, і духоўнікаў, і паноў у залацістых шатах, якія праязджалі па гэтай дарозе ўпобачках з прыгожымі панямі, у пазалочаных карэтах... Айцец капелан кажа, што свет грэхам загублены. Ці тыя ўсе людзі, сястра Псіха, будуць загублены?

Псіха

Не ведаю.

Ганна

Дык хто ж мне гэта скажа?.. Але раз... не, не, ужо пару разоў у апошніх днёх,— бачыла я тут нейкага на вялікім кані рыцара, пакрытага пылам, як быццам бы ехаў здалёку... Залатыя праменні меў на шлеме, й залатое вымаляванае на шчыце сонца, й вялікія шумячыя крыллі пры плячах. Я думала, што едзе на рыцарскае змаганне ў замак, але ён, уехаўшы ў даліну, раздзяляючую абодва ўзгоры, звярнуў сюды пад манастырскую браму і стануў — на белым кані, увесь залаты ад сонца, такі падобны да святога Юр'я ў алтары, і глядзеў сюды доўга, доўга...

Псіха

Замаўчы!

Ганна

Замаўчу, калі змушаеце, але я цікаўлюся вельмі, што гэта за рыцар і чаго ён шукае тут... *(Вызірае цераз ваконца.)* Во, во! — зноў яго бачу! Там унізе на дарозе, вядучай у манастыр...

Псіха
*(да сябе)*

Дык папраўду?.. О Божа! злітуйся... у снах яго бачыла я...

Ганна

Здаля падобны да арла з распушчанымі крыллямі, які здабычу сочыць... Бліскаюць у сонцы бляхі яго залатыя й свеціцца лязо на доўгім кап'і. О сястра Псіха! гэты рыцар, можа, сюды заедзе?

Псіха

Не! сюды ніхто не заедзе. Тут ёсць муры таўстыя й брамы акаваныя й ёсць гэты крыж перад брамай — вялікі крыж, што бароніць доступ распасцёртымі рукамі. Бачыла я раз яго, шмат год таму, калі сюды ўходзіла, і дагэтуль помню. Вялікі, вялікі крыж!..

Ганна

І я яго бачу, крыж гэты. Стаіць тут жа перад брамай і сонца мне засланяе таўстой дзераўлянай крыжавінай...

Голас Фуртыянкі

Ганна!

Ганна

Маці Фуртыянка мяне кліча! *(Збірае начынне і выбягае, кажучы яшчэ.)* А не кажыце толькі, што я вызірала цераз ваконца!

Знікае паміж манастырскіх будынкаў.

Псіха

О! каб гэта я так, як ты, магла выглянуць і пабачыць сенажаці, й пабачыць нівы...

Валіцца перад крыжам на калені.

О Божа мой! супакой мне маркоту,
Што грудзі рве мае й кліча к палёту,
Па сонцы галосе ў муцы,
Па лузе росным, па гаю шумячым,
Дзе птушкі гнёзды плятуць і нясуцца
І звоняць крыніцы плачам,—
О Божа! ўспакой маркоту...
Вось я прынесла табе мілаванне
Й маладасць з снамі дзіцяці,
Вось аддала ўсё жыццё, багацце
З верай, што ў буру мне будзе прыстаннем
Твой крыж,—
А во пазбыць не магу неспакою.
Дык дзе ж тваё мілаванне святое?
К табе я вочы падношу ўзвыш,
О Хрысце! ўслыш!
Цябе ў снах бачыла, Божа, дзіцячых,
Як багаславіш на гонях цвіцячых.
Засеўшы між пастухамі ўрачысце,
Глыбокіх мор пераліва й нівы...
Ах! з гэткім, здасца,
Калісь даўно ўжо я йшла акупацца
У сонца бляск і ў неб лазуры...
Скажы мне, о Хрысце!
Чаму сягоння цень вокал пануры?
Багаслаўлёны, пакорны хто й ціхі,
Багаслаўлёны...
О Божа! Божа! мяне ад мяне ты
Прыйдзі бараніці, бо гэтта
Так жудка мне... Ў келлі цёмнай
Завіснуў твой крыж без пыхі:
— Хадзеце, змагшыя! Я дам піці...
Вісіць чорны крыж...
О сэрца, сэрца! кінь, сэрца, сніці!
О Хрысце! ўслыш!
З грахоў, о Божа! каюсь да гробу,
Ты сонца стварыў і зор многа —
Я — грэшна! Убраў логі квяцісце...
Я — грэшна! Й мора стварыў ты глыбіну...
О Хрысце!
Калі не прыйдзеш ка мне ты з падмогай,
Хто ж мне дапаможа?..
На свет з вяселлем ты йшоў, не з жалобай...
Грэшна — я! Гіну!

Мне сніцца сонейка, й мора, і ўзложжа,
Каюсь я — грэшна —
О Божа! о Божа! о Божа!
Усё ёсць грэхам! і радасць, і смех,
Грэхам ёсць жыцце,
Грашу, як слухаю тых дальніх рэх,
Што залятаюць сюды з ветру гонам,
Грашу, як гляджу на сонца ў блакіце:
Грэх! грэх! і ўсё, ўсё грэх? —
Я — загублёна...

*(Падае тварам на зямлю.)*

У гэты час сярод цішы разлягаецца за брамай песня Блуднага рыцара.

Праз дзевяць гор і рэк, праз дзевяць лет
К табе спяшу, дзяўчына!
З краёў далёкіх там! з-пад сініх мор.
Пайдзі ж за мною ў свет!
Задоўга келля ўжо табе няўпынна
Цямніць прасвет,
З-за крат ідзі ў бліск сонца й зор,
На поле, логі, лес, там за сялібы,
Дзе ўкрыў вясною цвет
Пахучы сад і дзе плуг гоне скібы,
Дзе дзіўна тонь блакіту срыбрыць хваляў згібы —
На свет!

Псіха
*(зрываецца, памешаная)*

Што гэта за голас? — выснены... О Божа! Божа, ратуй мяне! Хрысце!

Абымае крыж рукамі.

Песня Блуднага рыцара

Ад чарадзеяў з свету маю весць
Я, Блудны рыцар сонца,
Што ты, мой снёны цуд! у путах тут:
Дык волю йду я несць,
Арол крылаты мкну, твой абаронца,
За тваю чэсць
Свой рыцарскі аддаці труд —
Муры разрушыць і знішчыць лёх гэты,
Й вянок з рож табе сплесць,
І кветкі сыпаць для цябе ўсе леты!

Да сонца [illegible]
Клічу цябе! Да жыцця! На светы
Йду несць!

Псіха
*(амаль непрытомна)*

Міласэрдзя, літасці — Божа, укрый мяне, усцеражы! О, як страшна глядзіш на мяне, Хрысце. Загублёна я, праклята! праклята!

Песня Блуднага рыцара

О, йдзі з салодкіх з'яў жыцця чар піць,
Ты, што як дзень, як зоры!
Карона жджэ цябе, йдзі з клеткі злой
Уладаць, яснець і жыць!
Табе вастрогу адкрыю запоры,
Ужо віць гарыць
І ржэ, і ржэ конь быстры мой:
Там песні, ўцеха, там жыцця яснота,
Там сноў прадзецца ніць,
Каб срыбрам льсніці між радасці ўзлётаў!
Йдзі ў зоры!
Тут цені, пустка, тут глуш і мяртвота —
Йдзі жыць.

Фуртыянка паяўляецца з вялікім пуком ключоў падчас апошніх слоў песні Блуднага рыцара.

Псіха
*(кідаецца к браме)*

О, жыць! о, жыць! на свет!
Вазьмі мяне, вазьмі!
Й нясі
Ў прасвет,
Дзе свеціць сонца ў блакіце! —
Тут смерць! — я смагну жыці!

Фуртыянка
*(выдае страшэнны крык жудасці)*

Ох!

Псіха
*(азіраецца і спасцерагае прыйшоўшую)*

Давай ключы! ключы!

**Фуртыянка**

О жудасць! о жудасць!

Псіха

Дай ключы! хутчэй! ключы!

Фуртыянка
*(ударае яе пуком ключоў)*

На, на! ты нікчэмная! вераломная! нягодная святой сукенкі! На! ты вырадак! Насенне чартоўскае, на! Ключы, на! на!

Б'е яе. На званіцы адзываецца звон, абвяшчаючы прыбыццё апата. Дзядзінец у той час запаўняецца, уваходзе ў святочным уборы Ксенія, пры [illegible] манашкі і капелан.

Ксенія

Сястра Фуртыянка! адчыняй вялікую браму!

Капелан

Яго правялебнасць князь апат наш прыбывае.

Фуртыянка
*(падае да ног Ксеніі)*

О маці! маці!

Ксенія

Што тут сталася?

Фуртыянка
*(паказвае на Псіху)*

Гэта нягодніца! — Я злавіла пры вялікай браме — слухала бязбожнага пяяння, згаварывалася! Выйсці адгэтуль хацела, уцякаць! Мая віна! — адышла на хвілю...

Вікарыя

О, жудасць! Няшчасная!

Капелан
*(да Псіхі)*

Праўда ж гэта? праўда?

Псіха

Так...

Фуртыянка

На свет! на свет! — крычала — да сонца!

Сярод манашак шорах абурэння, усе адступаюць, пакідаючы Псіху самую паўбоччы.

Ксенія
*(паўтарае глуха)*

Да сонца!..

Чуваць тройчы ўдары ў браму.

Ксенія
*(да Фуртыянкі)*

Адчыні, сястра, вялікую браму!

Фуртыянка спаўняе загад. Цераз адчыненыя вароты ўходзе А. Б л я к с. Апат — у фіялетавым плашчы, з падперазаным мечам. За ім мнагалічная прыдворня д в а р а н, д у х о ў н і к а ў і с л у ж б і т а ў.

Ксенія

Вітаем цябе на парозе, ласкавы наш войча!

А. Блякс

Паздароўкана будзь, маці, у імя Бога! Знябыўся я вялікай падарожай. Загадай, каб мне паказалі святліцу, дзе аддыхнуць мог бы.

Ксенія

Ў жалобе, войча, стаю прад табою
Й не адчыню манастырскіх пакояў,
Аж суд тут зробіш!

А. Блякс

А што ж там новага? Хто вінаваты?

Ксенія

Шатан! Вось на шатана прад табою
Заношу скаргу, што ў стада закраўся
Й авечкі белыя крадзе мне, пане!

А. Блякс

Шатана магу праклясці, але на касцёр яго не пашлю! Маці, кажы, каго вінаваціш?

Ксенія

Віню я вецер, сюды што ўлятае
Й душы кусіць,
Яснае сонца, якое праменем
Грэшныя будзіць маркоты,
Кроў маладую, што ў жылах бурліцца
Дзяцей, аддадзеных Богу,
І гэту браму, што зводзіць тым, быццам
Жыццё за ёй там, а не ля ног крыжа!
Заношу скаргу я — маць дзяцей гэтых!
Судзі ты!

А. Блякс

Я хачу знаць праступак і ведаць, хто вінаваты! Вецер, сонца ці браму судзіць не магу!

Ксенія

Дык дзіцянё судзі тое, якое
З пакусы сонца, і ветру, і брамы
Ўнясло згаршэнне
Ў гэты Хрыстосаў дом!

*(Звяртаецца да манашак.)*

Прывесці няшчасную!

Фуртыянка
*(цягне да апата Псіху)*

Вось яна тут! тут гэта нягодніца!

А. Блякс

Што ўчыніла?

Фуртыянка

Уцякаць хацела, пакінуць святыя манастырскія муры, у свет пусціцца з залётнікам!

Манашкі

Пакарай яе, войча! пакарай яе! О, жудасць!

Капелан

Войча! будзь для яе міласцівым! Яна яшчэ маладая...

А. Блякс

Закон не знае міласэрдзя, а я тут — закон! *(Зближаецца да Псіхі, глядзіць.)* Ты ж гэта... ты! Знаю цябе... Уцякаць хацела?

Фуртыянка

Запярэчыць не можа, не можа! Я сама бачыла.

А. Блякс
*(да Псіхі)*

Чаму? — пытаюся, чаму?

Псіха
*(падносіць галаву)*

Ты знаеш!
Да сонца хацела я йсці! да жыцця!
Тут цень! тут смерць! тут гроб!
Я прагну жыць!

Капелан

Згублёна!

Ксенія
*(глуха)*

Дзіця, беднае дзіця маё...

А. Блякс

А так... жыць жадаеш! Мусім цябе надалей ухаваць ад падобных шатанскіх пакусаў! Час ужо найвялікшы... Апошнія дні, якія табе яшчэ застаюцца, правядзеш у найглыбейшым манастырскім лёху, не бачачы ні святла, ні людскога твару, не чуючы іншага голасу, апрача застыгаючага бурлення крыві тваёй і шэлесту капляў вільгаці, спадаючых са скляпення. Будзем маліцца за цябе.

Ксенія
*(да манашак)*

Вядзіце засуджаную! Сягоння дзень жалобы...

Манашкі выводзяць Псіху, якая сланяецца. У гэты час сярод панурай глушы разлягаецца яшчэ раз з-за брамы песня Блуднага рыцара.

На свет, на сонца йдзі! Ў гароды там,
Дзе льсняць рож асалоды,
Ждучы тваіх рук, дзе для ног тваіх
Ў кругу злацістых брам
Выкулі ў рожавых мармурах сходы,
Вядуць што ў храм
Жыцця й Святла...

IV

# НА ПЕРАЛОМЕ

## АСОБЫ ДЗЕІ

Псіха, удзельная італьянская княгіня.
Блякс, начальнік яе наёмных нямецкіх войск.
Петра, княгінін прыбліжоны, гісторык.
Ларэнца, дварак.
Джані, капітан палацавай варты.
Армініо, разьбяр і архітэктар.
Джыралямa, паэта і маляр.
Лета
Бэля } прыдворныя дамы.
Кармэн
Пасол.
Жаўнеры, службіты.

Рэч дзеялася ў Італіі з пачаткам XVI веку.

Рэнесансавая зала, раздзеленая на дзве палавіны калумнадай. Другая палавіна, углыбі, узнесена па-над пярэдняй на пару ступеняў. Дзверы ўглыбі, з левага боку двое дзвярэй: у верхняй і ніжняй палавіне; з правага — у верхняй палавіне — вакно, у ніжняй — дзверы.

Армініо
*(бяжыць за адхадзячай ўглыб Псіхай)*

Ты вельмі срогая, пані!

Псіха
*(якая ўзыходзіла па сходах, затрымліваецца і адварочваецца)*

Не, пане!
Я толькі пекная...

*(Падае яму руку.)*

Армініо
*(цалуючы яе ў руку)*

Дык не чурайся!
Люблю, княгіня, цябе!

Псіха

Я ўзаемна
Люблю мастацтва тваё...

Армініо

Што мастацтва!
Што мне статуяў мармуравых тоўпы,
Што несці славу пайшлі маю ў светы,
Калі каханне маё...

Псіха

Ці гатовы
План той ладжэты?..

Армініо

Дзіцё ты благое,
Што з людскім сэрцам гуляе й шукае
Ўсцяж перамен... Ты нічога не любіш!

Псіха

О, не! Люблю я мастацтва, прыгожасць —
Жыццё, якое ўзлятае фантанам,
І недзе высока ў небе згарае,
І дажджом попелу валіцца долкі...

Армініо

Загорка кажаш!

Псіха

Што ж я вінавата,
Што не такое жыццё, як хачу я?
Што гэтай пусткі драпежнай у сэрцы,
Галоднай пусткі запоўніць не ў сілах
Ні ўсе пабеды майго кандацьера,
Ні збыткаў шык...

Армініо

А каханне?!

Псіха

Так... толькі ж
Каханне тое, якое даеш мне,
Маей не зможа ўспакоіць маркоты...

Армініо

Жыццё я дам! Ці ж любіць болей можна?

Псіха

Хоць гэта й праўдай было б, мне не хопіць!..
Любіцца ў рэчы хацела б вялікай,
Страшлівай, вечнай! Ўваччу мне чырвона
Й сярод статуяў і музыкі лютняў
Кроў часам нейкая скрозь сон здаецца
Й жыццё другое — праз полымя й буру...
Што? задрыжэў ты? Куй мармур, Арміні0! —
Калі статую ты выкуеш буры,
Тады мо...

Армініо

Будзеш любіць?

Псіха

Твор куплю твой!

Адварочваецца і ўсходзе ў глыб залы.

Петра
*(уходзе цераз дзверы з левага боку, углыбі)*

Дастойна пані...

Псіха

А што там?

Петра

Пасол жджэ...

Псіха

Яшчэ? — хай войдзе.

Армініо

Бывайце, князіня!

Кланяецца і выходзе налева. Петра ўпушчае пасла. Пасол, у страю наёмных нямецкіх войск, уходзіць.

Псіха

Яшчэ Вы тутка?

Пасол

Чакаю адказу...

Псіха

Аб што ж ідзе там?

Пасол

Княгіня забыла?
Дык паўтару, хоць начальнік наказ даў
Пасольства словы раз толькі абвесціць!

Псіха

Аб што ж там... просіць маіх войск начальнік?

Пасол

Начальнік гэтых войск, што прыйшлі з Альпаў
Сюды з ім разам і ў бітвах крывавых
Меч яго маючы хвалы праводцам,
Здабычы ўзялі шмат з ласкі ягонай:
Блякс немец, пан мой, вярнуўся з паходу —
Здабыў тры месты — і жджэ нагароды!

Псіха

Харч ім заплачан!

Пасол

Рукі ён жадае
Тваёй, а з ёю — княжацкага трону!

Псіха
*(звяртаецца да Петра)*

Паслухай, верны мой Петра, як будзеш
Калі дарайцам якога дзе князя,
Парай, што раю: няхай камандзіраў
Наёмных войскаў трымае, як гончых:
Пусціць на звера з навязі, а после
Ўзяць на ланцуг і ўміг храпы скаваці,
Каб, як раз'юшацца, пана не зжэрлі!

Петра

Дастойна пані...

Пасол

Ці гэта адказ ёсць
Для майго пана?

Псіха

Скажы, што захочаш.

Пасол

Скажу, што чуў я!

Выходзе. Псіха збліжаецца да вакна.

Петра
*(падыходзе за ёй)*

Зусім неразважна
У цябе, княгіня, сарваліся словы!

Псіха

Ці ж я зухвальцу магла даць інакшы
Адказ?

Петра

Так, але ўладарнікаў мудрасць
На тым успёрта, каб толькі тады ўжо
Чыніць знявагу, калі ўсцерагчыся
Ад помсты можна, што знача... забіці!
Вось... калі ёсць хто з адданых...

Псіха

Забіць! ах,
Забіць! Ці ж мала забіла? — Мой Петра,
Пішаш гістор'ю цяперашніх часаў,
Дык напішы маю... Не! не пішы лепш!
Ці... што любіла з жыццём я гуляці,
Гром небяспек выклікаць і глядзеці
З усмешкай богаў на дні і здарэнні...

Петра

Так, напішу я...

Псіха

...Што з самых дзічэйшых
Начальнік дзікі ў мяне быў і слухаў,
Што на пабеды яго гледзя з гідай
І на лоб страшны яго... скульсь мне знаны...
Здаўна, жыцця з ім не будучы пэўна,
Расла ад шчасця, што слухаці мусіў
Праціўны гэты мяне! што сабрала
К сабе артыстаў з зямлі ўсёй італьскай
Самых важнейшых, што пабудавала

Палацы з золата — а ўсёй уцехай
Было мне ў гэтым, што бачыла марнасць
Ва ўсім наўкола... Ды йшчэ... адно тое:
Што я маркочуся, Петра.

Петра

І гэта
Спішу, што пані маркоцішся ў красе
Жыцця й багацця, ў дзявочых лет цвеце,
Сярод артыстаў, што славу разносяць,
Сярод людзей, цябе любяць якія,
І ты не знаеш, чаго так маркотна...

Псіха

Не знаю, Петра, чаму мне маркотна...
Хацела б тое найці, што згубіла,
А што? не помню... Сон, можа, а можа...
Якое шчасце... прапаўшае? Ўрэшце
Нуда ўсё, Петра! Нуджуся...

Выходзе цераз дзверы ўглыбі.

Петра
*(пазірае за ёю)*

Што ж! можа...

Сыходзе па сходах кпераду.

Джыралява
*(выходзе справа адпераду)*

Дзень добры, Петра!

Петра

Здароў, Джыралява...

Джыралява

Была княгіня тут?

Петра

Толькі што выйшла...

Джыралява

Не знаеш, слухаці будзе сягоння
Падчас абеду...

Петра

Што слухаць?

Джыраляма

Паэму.
Даў ёй прагледзеці трэцюю песню;
Прыйшоў з чацвёртай...

Петра

Таксама даўгая?

Джыраляма

Яшчэ даўжэйша — актаваў на дваццаць!
Сягоння ўночы закончыў... Калі ўжо
І гэта песня яе не парушыць,
То...

Петра

Можа, можа, яе й разварушыць...

Джыраляма

Скажы, ці праўда вось гэткія чуткі,
Што кандацьер у заплату пабедаў
Сваіх жадае самое княгіні?

Петра

Як бы...

Джыраляма

Дык можа і стацца? Во ліха!
Што тады будзе?

Петра

Нічога! — мець будзем
Другога пана, што будзе мурзаты,
Як кожны немец, і, як кандацьеры,
Дурны...

Джыраляма

Але ж я люблю яе! чуеш?
Ля ног яе ўмру!

Петра

Мо лепей было бы,
Каб напісалі аб гэтым паэму,
Або абраз такі намалявалі?
Смерць у мастацтве пякней, як у жыцці,
Якое смерці не зносіць...

Джыралямa

Ты кажаш,
Абраз? а добра — абраз... ці паэму...

Задумваецца. Улятаюць Джані і Ларэнца.

Джані

Дзе ёсць княгіня?

Петра

Што ж гэта, паноўе,
За справа пільная?

Ларэнца

Ах, дзе княгіня?
Хачу пабачыць княгіню й то зараз!

Бяжыць да дзвярэй углыбі і ўдарае іх рукаўём ад шпагі.

Джыралямa

Так не гадзіцца!..

Бэля
*(паяўляецца на парозе)*

Што гэта такое!..

Ларэнца

Дзе, пані, княжна? Я мушу ў міг гэты
З ёй гаварыць...

Бэля

Яе міласць чытае
Паэму.

Джыралямa

Петра, маю, ах, паэму...

Джані

Дык, калі ласка, скажыце княгіні,
Што з вельмі пільнаю справай прыйшлі мы...

Джыраляма

Але ж, паноўе...

Бэля

Нельга замінаці!

Ларэнца

Per Bacchо! мушу яе як стой бачыць!

Адпіхае Бэлю і хоча ўвайсці. У гэту хвілю на парозе паяўляецца Псіха з рукапісам у руках.

<Псіха>

Што за разруха тут?

Ларэнца

Вашая міласць...

Псіха

А! Джыраляма! Вітай мне, паэта!
Ад ўчарашняга дня не быў у мяне ты,
Аднак жа словы твае ўсё мне звоняць!..

Паказвае на трыманую ў руках паперыну. Джыраляма аддае нізкі паклон.

Джані

Паслухай, пані...

Псіха

Вітай, капітане,—
Сягоння мо паабедаеш з намі?

Ларэнца

Ёсць справы важныя...

Псіха

Добра... Кажыце...

*(Звяртаецца да Джыралямa.)*

Плывуць звароткі твае, як крыніца
Разбіта ў перлы аб скалы з крышталю...
Паэт! вянок заслужыў ты на голаў!

Джані

Паслухай, княжна...

Псіха

*(рассеяна)*

Кажыце!

Ларэнца

Рэч вельмі
Сур'ёзна...

Азіраецца на прысутных.

Псіха

Гэта прыяцелі...

Петра

Мусім
Пайсці?

Псіха

Але ж...

Ларэнца

Так! На богаў! — хутчэй жа!

Петра і Джыралямa выходзяць праз дзверы направа, Бэля адступае ўглыб.

Псіха

Што ж там за справа?

*(Пазірае ў рукапіс.)*

Джані

Ўласціва прыходзім...

Псіха

Ах, слухай, Джані, якая зваротка!

*(Чытае.)*

«Жыцця захочаш — аддам! Калі славы, —
Пад ногі кіну табе, як з брыльянтаў
Вянок, а ты патапчы для забавы,
А калі...»

Ларэнца
*(з абурэннем)*

Пані! аб жыцце тваё йдзе!
Кінь папер гэту ды слухай!

Псіха

Аб жыцце?

Джані

На жаль, так! — Вашых жаўнераў начальнік.

Псіха

Ах! Блякс... Пасол яго быў: ён жадае
Маёй рукі!

Ларэнца

Цяпер княства жадае!

Псіха
*(вынёсла)*

Ці ад яго вы пасламі з'явілісь!

Джані
*(раптоўным рухам адкрывае зраненыя грудзі)*

Глядзі! пісьмо, во, якое прынёс я,
Ягоным пісана штыхам!

Псіха

Што гэта?..

Ларэнца

Блякс аблёг места і ўслух табе грозіць,
Што жыць не будзеш да вечара, княжна!

Псіха

А маё войска?

Джані

За Бляксам пайшлі ўсе
Й равуць: «Князь Блякс хай жыве! Хай жыве
князь!»
Усе! апроч невялікае жмені,
Што мне паддана... На смерць мы гатовы.

Псіха

На смерць? А люд мой? народ мой падданы?

Ларэнца

Княгіня! й чым жа ты люд свой купіла,
Каб пры табе стаў? Даруй, што кажу так...
Твае падданыя даню плацілі,
Здалёк на харомы гледзя, якія
Капрыз твой зменны паўзносіў, і толькі
Дагадкі паміж падданых хадзілі,
Што ёсць там скарбы, што ёсць абразы там
І мармуровыя тоўпы статуяў —
Усе да богаў паганскіх падобны...
Люд быў галодны! Пабедныя войны
Вяла ты: люд твой аддаў грош апошні,
Каб землі й слава твае ўзрасталі!
Цяпер жа Блякс, твой сабака сярдзіты,
Кім свет цкавала, з увязі сарваўся
І на цябе зубы скаліць, а люду
Ён грошы суліць! І гэна галытня...

Псіха

Дык люд з ім разам? Ён, кажаш, люд склікаў?

Джані

Так,— і за ім люд ідзе...

Псіха

Люд... Сапраўды,
Цяпер й толькі прыпомніла тое,
Што люд я маю...

Ларэнца

Чаму ж не ўперад!
Пакуль быў корны...

Псіха

А сёння, як бура,
Ўстаў ён, магутны? Ўсё крыша віхурай?
Са мной ваюе? Пяройдзе па троне,
Па маім княстве пяройдзе й кароне
І пойдзе, а куды? Там безумовы
Не быць мне, хоць мо й хацела б...

Ларэнца

Князь новы
Люд павядзе твой!

Псіха
*(зрываецца)*

О, не! мая гойнасць
Яшчэ не дасца!

Ларэнца

Не зводзь сябе, пані!
Люд хоча волі! Яе не дасі ўжо,—
Дасць... іншы хтось!

Псіха
*(па хвілі)*

Дык няма ўжо ратунку?

Ларэнца

Ёсць, калі гэта зваць можна ратункам...

Псіха

Скажыце!

Ларэнца

Голас замёр мой...

Псіха

Кажыце!

Ларэнца

Пайсці па Бляксаву ласку й няласку
Або... ўцякаць.

Псіха
*(адварочваецца нездаволена)*

Што ты скажаш, Джані?

Джані

Мой абавязак — з сваімі ўдальцамі
Памёрць пад брамаю твайго палаца.
І гэта споўню.

Псіха

Дык тут застануся.

Ларэнца

Быць сведкай смерці тваёй не хачу, бо...

Псіха
*(перабівае)*

Ну, добра, добра! мае дарагія,
Пакіньма гэта! Як шмат, вам здаецца,
Пяройдзе часу, пакуль Блякс тут будзе?

Ларэнца

З гадзіну, можа...

Джані

Дзве! За дзве ручуся!
Жыць я жадаю яшчэ дзве гадзіны...

Псіха

Дык вы ядыны,— вы ўдвух яшчэ толькі...
Чаму пры мне засталіся? скажыце!

Ларэнца і Джані пахіляюць моўчкі галовы.

Псіха

Мяне вы любіце?

Ларэнца і Джані

Княжна!

Псіха

Падайце
Мне рукі, дзікай была я ўладаркай,
Уся адданая бляску і красам,
Але прайшло ўжо. Мне пуста на сэрцы,
І да каханняў ужо іншых маркота
Перада мной адчыняе варота,
Ды ўсмешка гэта й лісць гэты з аблічча...
Без слёз кідаю. Ўжо будучнасць кліча...
І так я рада!

Ларэнца

Што кажаш, княгіня?
Якія словы!..

Псіха

Нічога! Хачу быць
Праз дзве гадзіны вясёлай. Прашу вас
На баль...

Ларэнца

Там вораг твой ломе ўжо брамы!

Псіха

Тут не чуваці! Ў галінах аліўных
Садоў княжацкіх гук бітваў завязне:
Здавацца будзе — шумяць там цыпрысы...
Калі страшнейшы крык бухне, заглушаць
Яго на сценах тут блюшчы й макаты...
Дык покуль можна, я знаць не хачу больш
Нічога. Склічу другоў сваіх мілых,
А вы маўчыце, што ўжо маё княства
Век дажывае... Хачу, каб так згасла,
Як дзень пагодны...

Джані

Бяседуй! ручуся
За дзве гадзіны, глядзі на гадзіннік!
Дзяржу ў руках час!

*(Паварачваецца к выхаду.)*

Псіха

Ідзеш?

Джані

Стаць на варце...

*(Ідзе да дзвярэй, аднак перад парогам затрымліваецца.)*

Псіха!..

Псіха падае яму руку. Джані прыкленчвае і ў доўгім пацалунку ціснe руку Псіхі да губаў, пасля шпарка ўстае і, не азіраючыся за сябе, выходзе.

Псіха
*(да Ларэнца)*

А ты?

Ларэнца

Я? — З табой застануся,
Пакуль...

Псіха

Ну, годзе ўжо!

Армініо ўходзе.

Ў сам час прыйшоў ты,
Мастак! Хацела ўжо слуг пасылаць і
Цябе прасіць...

Армініо

Я прыйшоў папрашчацца
З табой, княгіня!

*(Падае ёй паперыну.)*

Тут ёсць план ладжэты,
Што ўзнесць ты мела ў сваім агародзе.
План акуратны, яго будаўнічы
Выпаўніць кожны.

Псіха

Што ж гэта? Пакінуць
Мяне манішся?

Армініо

У свет еду!

Псіха

Ладжэту —
Мо не збудую, але вас, мастача,
Задзержу...

Армініо

Пані! Мы мусім расстацца! —
Надмер... люблю вас.

Псіха

Праз гэта адходзіш?
Дык на дзень толькі, да вечара толькі,
Не! дзве гадзіны яшчэ астанецесь,
А после йдзеце за славай сваею,
Дзе лёс вас кліча...

Армініо
*(па хвілі няпэўнасці)*

Для вас астануся...

Псіха

О, й добра! дзякуй! — Сягоння дадзела
Я вас, даруйце! Так болей не будзе...

*(Да Ларэнца.)*

Будзь гаспадаром, пакуль што, Ларэнца,
І скліч прыяцеляў нашых. Я выйду
Аддаць прыказы і ўбор свой святочны
Надзець.

*(Выходзе.)*

Армініо

Што гэта?

Ларэнца

Бяседа!

Армініо

Заранне!

Ларэнца

Ўжо час апошні, вер, слаўны мастача!

Выцягвае меч і аглядае лязо.

Армініо

Што ж гэта, пане, ў руках меч мяркуеш?

Ларэнца

Гляджу, ці вострьі...

Усовае меч у похву. Слугі ўносяць стол і заставу.

Ларэнца
*(ідзе да дзвярэй справа і адчыняе іх насцеж)*

Прашу вас, паноўе,
Княгіня бавіць сказала вас, покуль
Сама не прыйдзе.

Уходзяць Петра і Джыралява.

Петра

Штось раіліась доўга...

Ларэнца

Рэч вельмі пільная!

Джыраляма

Га! Што, Армініо!
Аб ласку ў княжны ўсё цягам хлапочаш?

Армініо

Як ты...

Джыраляма

Дзе Джані?

Ларэнца

Пайшоў, каб наладзіць
Паказ ваяцкі, якім яе міласць
Сваіх прыяцеляў хоча пацешыць.

Джыраляма

Што ж тут за свята?

Ларэнца

Вялікае свята!

Армініо

У чэсць пабеднага, мабыць, ваякі,
Які вярнуўся. Я ў горадзе бачыў
Рух надзвычайны. Ўсе прущца да брамаў...

Ларэнца

І сюды прыйдуць.

Петра
*(да Ларэнца)*

Мне штось неспакойна;
Быў я прысутным пры гутарцы княжны
З паслом...

Ларэнца

Ах! глупства,— ўжо ўладжана справа!

Петра

Так? ці памысна?

Ларэнца

О, вельмі памысна!

Петра
*(да сябе)*

А гэткім чынам мець будзем вяселле!

Уходзе Псіха, на сукні, у якой была ўперад адзета, мае накінуты багаты плашч, на галаве ў яе блішчыць князеўская дыядэма (карона). Побач з ёю йдуць яе дамы: Лета, Бэля і Кармэн. Слугі ўносяць стравы, фрукты і віно.

Псіха

Сядайце, другі мае дарагія,
Хачу сягоння быць з вамі вясёлай!

Джыралямa

Сягоння, пані, раўня ты дню й сонцу!

Псіха

Калі я сонца — гуляйце ж у сонцы!
Што ж ты, Армініо! Яшчэ ўсё нявесел?
Ці ж не забыўся яшчэ сваёй крыўды?

Арминіо

Я ўжо забыўся, як ты заяснела!

Псіха
*(сядае)*

Ах! вось так люба! Ларэнца! Я песень
Хачу! Што думаеш?.. Песень! Вісіць там,
Глянь, мандаліна,— вазьмі й грай... Ці лепей —
Не! Будзем слухаць цяпер Джыраляма.
Паэт! ты меў нам чытаць сваю песню...

Джыралямa

Яна пры мне тут.

Псіха

Дык вось прашу я...
Аб чым жа песня?

Джыраляма

Аб чым? Аб каханні!
Адна вось гэта струна ў мяне грае
Ўсцяж...

Псіха

Аб каханні!.. Вы ж любіце вельмі
Мяне? — скажыце! Кахаеце ўсе вы?

Петра

Я стар, княгіня, а йшчэ вас кахаю!

Псіха

Я веру, Петра. А вы што, артысты?

Арменіо

Няўжо табе йшчэ слоў трэба, княгіня?
Ўцячы хацеў я адгэтуль, ды смерць мне
Была б лягчэйшай. Тады бы ты, можа,
Дала мне веры...

Псіха

А ты, Джыраляма?

Джыраляма

І што скажу я, паэт, які толькі
Жыве, каб весціць тваю ўсюдах славу!
Маляр, што красы твае векавечню!
Хацеў бы змогу мець, каб даказаці
К табе каханне сваё! Каб лёс лучыў
Які мне спосаб...

Ларэнца

Не кратай лепш лёсу!

Псіха

Ах! як жа добра, што вамі кахана!
Дык без мяне вам было б вельмі пуста?

Джыраляма

Жыць не здалеў бы!

Арменіо

Памёр без цябе б я!

Псіха
*(звяртаецца да Ларэнца з лёгкай ірoніяй)*

І што ж, Ларэнца? глядзі, як кахаюць
Вось тыя другі? Табе ж ці не сорам
Свайго маўчання пры столькі прысягах?
Ты не кахаеш мяне. Ты не даў бы
Жыцця! Дзе ж Джані? Ён такжа не любіць,
Калі на баль не прыйшоў...

Джыралямa
*(пагардліва)*

Ах! ваяка...

Ларэнца

Мабыць...

Псіха

І слушна! Чым для вас была я? —
Ўладаркай толькі! Тады як артыстам
Давала золата, ласкі й натхненне,
Усмешкі ясныя, весялосць сонца!
Але што ж гэта? Йшчэ поўныя чаркі?
Прашу вас, піце! на віват мне піце!

Петра
*(падымае кяліх)*

Жыві нам, княжна! ўладай лет без ліку!

Арміньо і Джыраляма

Жыві нам! покуль...

Стукаюцца чаркамі з Псіхай, у якой чарка покнула.

Лета

О! чарка...

Бэля

Благі знак!

Псіха

Благое шкло! Залатую мне дайце!
За тост ваш дзякую з золата чаркай!

*(П'е.)*

Але глядзіце! — вось нудзяцца дамы:
Дык забаўляйце ж! То ж тут не адна я.
Засмейся ж, Лета! — люблю твой смех срыбны,
Што звоніць шчыра, бы ў горах каскады!
Расхмурся, Бэля! Хай вочы блішчацца!
Люблю прыгожасць тваю, красавіца! —
Кармэн! Запей нам! Ларэнца зайграе...

Кармэн

Як хочаш, пані!

Лета

Падам інструменты...

Прыносіць мандаліну й дае Ларэнца

Кармэн

Аб чым спяваці?

Псіха

Аб шчасці! аб шчасці!

Кармэн
*(пяе пры ўторы ігры Ларэнца)*

Шукала шчасця, мае сястрыцы!
Мкнучы праз сушы і моры,—
А шчасце, мабыць, мае сястрыцы!
Крылася ў ціхім кляшторы!..
Шукала шчасця, мае сястрыцы!
Ў ціхім між бораў кляшторы,—
А шчасце, мабыць, мае сястрыцы!
Крылася ў князевым двары!
Шукала шчасця, мае сястрыцы!
Ў сонечным князевым двары,—
А шчасце, мабыць...

Псіха
*(перабівае)*

Досць гэтай песні! Песнь гэта маркоты,
А тут укруг нас жыццё і вяселле...
Жыццё! — што! праўда?

Джыралямa

Жыццё тут і любасць!

Арміно

Да смерці верная любасць!..

Псіха

О! веру...
Ці ж льга не верыць, калі бажыцёся,
Артысты слаўныя на ўсю Італью?
Але ўжо годзе! Паслухаем, што нам
Паэта скажа. Мастак Джыраляма,
Чытайце песню! Наліць віна, слугі!
Зважай жа, Петра! Ты будзеш суддзёю,
Калі захопіць, судзіць не патраплю!
Арміно! сядзь тут пры мне во так... блізка...
Мастак! мы слухаем!

Петра

Слухаю такжа...

Джыраляма
*(выступае і, успёршыся аб калумну, пачынае чытаць)*

«Арнольда сёння займуся [illegible] доляй,
Радрыга кіну ў нары чарадзея,
Спяшу к Арнольду. Мой рыцар ніколі
Не кратаў святасць рукою сваею.
Як вось пазнаў, што з кабетаю ў полі
Змагацца трэба: заўзятасць, як вея,
Прапала ў сэрцы,— меч кідае, кленча...
Ўдар над нязбройным рука ўзнесла нейча.
Пазнаў ён Дору... О любасць святая,
Што крышыш коп'і, жалезныя шчыты,
І ў сэрцы годзіш...»

На двары перад домам выбухвае змешаны гоман; штось, быццам крыкі, быццам водклікі бітваў. Ларэнца бяжыць да вакна.

Арміно
*(зрываецца)*

Што там?

Псіха

Нічога! — Народ мой падданы
Прыйшоў пад вокны, каб біць мне віваты.
Ці ж вы спужаліся?

Петра

Там не віваты!
А стрэлы!

Псіха

Гэта з мажджэраў страляюць
У чэсць начальніка... Праўда, Ларэнца?

Ларэнца
*(вяртаецца да стала)*

Але, так, пані.

Псіха

Чытай, Джыраляма!

Джыраляма
*(чытае)*

«...У сэрца годзіш праз панцыр якая,—
О любасць! зорка з нябесных блакітаў!
Прамень твой душам Шлях Млечны ўсыпае,
Калі захочуць пакінуць граніты
Зямлі: шчаслівы, хто ў жыцці сустрэне
Цябе, о любасць! — не страшна й цярпенне!
Хай мая песня...»

Воклікі і бразг на сходах.

Петра
*(паўстае)*

Тут штосьці дзеецца! Ўжо бразг ля брамаў!
Княгіня!

Псіха

Сядзьце. Муштруюцца стражы.
Джані іх вучыць... О верны мой Джані!..

Арміньо

Што гэта знача? Ты, пані, збялела!

Псіха

Так Джыраляма ўзварушыў паэмай.
Чытай, мастача!..

*(Хавае твар у далонях.)*

Джыралямa
*(чытае голасам не зусім пэўным)*

«Хай мая песня, што так цябе славіць,
Да сэрца трапіць маёй яснай пані,
Хай залатым сном рай земскі ёй справіць...»

Спыняе. Ларэнца ўстае і збліжаецца да дзвярэй.

Псіха

Ах, слухай, Ларэнца!

Ларэнца
*(выцягвае нязначна шпагу)*

Ўсім слухам слухаю! Ў слух сам змяніўся!

Прыслухваючыся да водклікаў знадворку, апіраецца левым плячом аб вушак дзвераў, шпагу трымае напагатоўі ў правай руцэ.

Псіха
*(да Джыраляма)*

На здзіў песнь ваша!

Джыралямa
*(чытае з прыбываючым неспакоем)*

«...Хай залатым сном рай земскі ёй справіць
І хай ёй скажа, той, што мяне раніць,
Што без яе не хачу сябе збавіць,
А з ёй, вясёлы, пайду ў беспрыстанне,
З ёй, што мне шчасця прыносіць засновы;
Хай песнь ёй скажа, што ўмерць я гатовы
Дзеля яе...»

Ад аднаго раптоўнага ўдару знадворку разлятаюцца дзверы: ўвальваецца Блякс у зброі. Усе прысутныя мужчыны зрываюцца з перапудам, кабеты ціснуцца з крыкам каля Псіхі, якая стаіць думная, нерухомая, спакойная. Ларэнца ў часе, калі дзверы адчыніліся, кідаецца з паднятай шпагай на Блякса.

Блякс

Гадзюка!

*(Абвальвае яго адным ударам цяжкага двуручнага меча і, пераскочыўшы цераз труп, увальваецца на сяродак залы.)*

Дзе княжна?!

Псіха

Я тут, як бачыш.

Кабеты

О пані! о пані!

Арміньо

Тут здрада!

Петра

К зброі!

Блякс

Ні з месца! Хто меч свой
Дастане — згіне!

Джыраляма

Даруй, ваша міласць...
Мы...

Псіха

А што ж гэта, прыяцелі, ха! ха!
То ж для мяне вы маніліся гінуць!
Арміньо! Петра! мастак Джыраляма!
Мяне ж вы любіце!

Петра

Так... Але болей —
Жыццё... У раю...

Псіха

А! люба жыццё вам!
Адзін быў толькі — і тут лёг навекі,
Другі пад брамай — труп свежы, малойчы!
Былі й няма іх! а я во, глядзіце,
Не плачу...

*(Да Блякса.)*

Што вам патрэба?

Блякс

Княжацкі
Пасад з табой ці жыццё тваё, княжна!
Ка мне, жаўнеры!

Жаўнеры
*(увальваюцца гуртам з громкім воклікам)*

Князь Блякс хай жыве наш!

Таўпа народу
*(за вакном паўтарае)*

Няхай жыве князь!

Блякс
*(да прысутных)*

А вы? Хто з вас будзе
Маўчаць — мой вораг!

Петра
*(па хвілі няпэўнасці)*

Няхай жа жыве князь!

Армініо і Джыралямa
*(паўтараюць няпэўна)*

Жыве хай...

Блякс
*(да Псіхі)*

Чуеш?

Псіха

Га! мушу паддацца.
Падайце чарку, хай вып'ю з усімі
Здароўе новага князя!

*(З персценя, які мае на пальцу, усыпае да залатой чаркі атруту.)*

Жыве хай
Князь Блякс, наследаўнік Псіхі! й пануе!..

П'е.

Петра

Во так! разумею.

*(Да слугі.)*

Налі князю чарку,
Хай разам з намі...

Псіха пахіснулася, бляднее.

Кабеты
*(з крыкам)*

Атрулася! Гора!
Княжна! Ўмірае!

Псіха
*(змагаючыся з агарняючай яе смерцю, зрываецца яшчэ раз і кажа, гледзячы Бляксу ў вочы)*

Не! я іду... далей...

Сланяецца і валіцца на рукі падтрымліваючых яе дам.

## V

## ЦЕРАЗ КРОЎ

### АСОБЫ ДЗЕІ

Гаспадар.
Псіха, дзяўчына, прыслугоўваючая ў кавярні.
I Госць, II Госць } у кавярні.
Малады чалавек.
Дэ ля Рош.
Начальнік патролю, Дантон } за сцэнай.
Блякс, разнік, правадыр таўпы.
Ганец.
Галасы з народу.
Таўпа: Мужчыны і Кабеты.

Рэч дзеялася ў Парыжы, на світанні дня 2 верасня 1792 г.

Кавярня, адчыняючаяся ўглыбі шырокай верандай на пляц у старой часці Парыжа. Нутро хаты, уладжанае папросту і трохі бруднае, асвятляюць дзве аліўныя лямпы, звісаючыя на дротах да столі. Па левым баку шафа з напіткамі і доўгі буфетавы стол; направа дзверы. Некалькі дзераўляных столікаў, часткаю толькі пакрытых каляровымі абрусамі, побач іх лавы і ўслончыкі, выплетаныя саломай. Позняя ноч. Пляц перад кавярняй зусім цёмны,— кладуцца па ім толькі жоўтыя палосы слабага святла ад кавярняных лямпаў.

Неспакойная, поўная чакання цішыня.

Гаспадар стаіць абапёрты плячыма аб буфет (прылавак), за кожным шэлестам пазірае ў бок пляца.

Адзін з гасцей сядзіць з успёртымі на стале локцямі і паложанай на кулаках барадою, маючы перад сабою парожную шклянку, і глядзіць тупа і ўпарта перад сабою.

Другі госць вылаяўся ціха, устае, пераходзе праз кавярню і сядае на іншым месцы.

Малады, утулены ў кут, жмакае нервовымі рухамі пакінутую на стале газету, азіраецца, як бы хацеў распачаць гутарку, але калі ўсе маўчаць,

бармоча толькі штось невыразнае, потым хапае шклянку і выпівае з яе рэшту віна.

Псіха стаіць абапёртая аб слуп веранды, загледжаная ўглыб. Гадзіннік вызваньвае трэцюю гадзіну.

Гаспадар

Ужо трэцяя...

I Госць

Да ліха!..

II Госць

І нічога яшчэ...

Малады
*(па хвілі, нервова, падвышаным голасам)*

Віно!

Псіха адварачваецца, ідзе к буфету, бярэ пляшку і налівае яму кяліх, пасля моўчкі сядае ў куце направа.
Адна з завешаных пад столлю лямпаў пачынае дымець і гаснуць.

II Госць

Лямпы гаснуць...

Гаспадар
*(здымае лямпу і гасіць зусім)*

Не хапіла ўжо алівы... Свеціцца цэлую ноч...

Малады
*(зрываецца раптоўна, ударае кулаком аб стол і кажа, ходзячы неспакойна па хаце)*

Гэта ўжо можна сапраўды ашалець! Цэлую ноч... і нічога... нічога... нічога!

Уходзіць Дэ ля Рош у мундзіры нацыянальнага гвардзейца.

Вітаю.

Гаспадар

Добрага дня.

Малады
*(адварачваецца жыва)*

А! ты, браце! Што чутна?

Дэ ля Рош

Глуха. Іду ад прадмесня,
Народ не спіць, жджэ ўсё...

*(Да гаспадара.)*

Гэй, грамадзянін,
Каб шклянку грогу... Пякельная сцюжа...

*(Спасцерагае Псіху, якая ідзе прыладзіць яму грогу.)*

Яшчэ не спіш ты?

Псіха

Не сплю. Ці спаць можна ў такую ноч?..

I Госць

Так...

II Госць

Няма яшчэ вестак?

Дэ ля Рош
*(гледзячы на Псіху, кажа з рассеянасцю)*

Яшчэ не... Толькі ж павінны быць к ранню...

Гаспадар

Світанне блізка...

I Госць

Каб добрую толькі
Дало навіну...

II Госць

А што? Небяспека?!

Малады
*(парыўча)*

Што за нявера?..

I Госць

У глухіх ценях почас
Бадуцца думкі... Там шэсцьдзесят тысяч
Прусаў, а з імі яшчэ аўстрыякаў
Бадай са столькі...

Гаспадар

А яшчэ дабаў і тысяч
Шаснаццаць нашых паноў, каралеўцаў,
Што проць нас з ворагам змову ўчынілі...

Псіха

А наша войска? Народнае войска!

Дэ ля Рош

Седанскай арміі згінуў начальнік,
Не ўбараніла паўночная Лёнгвы...

Псіха

Дык калі войска не хопіць, то пойдзе
Люд з гэтых вуліц, з завулкаў, з прадмесцяў,
З кіямі, босы, аборваны,— зрушыць
Каменне з бруку на бой...

Дэ ля Рош

Ці пабедзіць!

Малады

Змоўч! Гэта здрада! Тут нельга сумніцца!
Суду той годзен, хто сільна не верыць
У моц народу...

Псіха

— і ў гэтую праўду,
Што вольныя пабеджаюць!

І Госць

Дай Божа!

Гаспадар

Бог нам нічога не дасць, калі самі
Не возьмем! Слухайце: покуль жыве тут
Кароль і покуль у Радзе там блазны...

ІІ Госць
*(перабівае)*

Эй, грамадзянін! Ты іх не пагані!
Ёсць людзі там, галаву прад якімі
Схіліць належа!

Малады

Свабодныя людзі
Не схіляць галоў!

Гаспадар

А я паўтараю,
Што гэта блазны, што цёплую маюць
Ваду ў жылах. Дасюль у Парыжы
Усё павінна было быць іначай:
Кароль — на нарах! Паны — без галоваў!
Народ — ніхто больш! — народу ўся ўлада!
Мы досьць цярпелі ў крыві і няволі!
Чакалі досіць свайго вызвалення!
Свабода і роўнасць...

На пляцу перад верандай чуваць галасы і цяжкія крокі.

II Госць

Што гэта?

Малады
*(вызірае)*

Ідзе варта!

Бягуць усе да дзвярэй веранды.

Гаспадар
*(кліча)*

Гэй, грамадзянін! А што там такое?

Голас Начальніка Варты
*(з надворку)*

Хапаем птушачак, дзядзька,— па ночы
Хапаем!

Дэ ля Рош

Каго?

Голас Начальніка

Паноў! Ёсць прыказы
Арыштаваці ўсіх падазроных...

Гаспадар

Нарэшце!

Малады

Пойдзем!

Гаспадар

Ты, Псіха, застанься
І пільнуй дом...

Псіха

Добра...

Выходзяць усе, апрача Дэ ля Роша і Псіхі.
Гадзіннік вызваньвае чацвёртую гадзіну.
Дэ ля Рош сядзіць задуманы з пахілянай галавою.

Псіха
*(паступае к верандзе і, апершыся аб слуп, глядзіць у цёмную глыб. Па хвілі пачынае казаць дзіўна зменены голасам)*

Бурліць кроў... Ноч цёмная,
А там пад брукам кроў плыве
Жылай падзёмнаю,
Бурліць і рве...
О, кроў! О, кроў! Заззяй зарою!
О, загарыся нам, сонца!..
О!..

Дэ ля Рош
*(жыва)*

Псіха!

Псіха
*(уздрыгнула, як бы раптам збуджаная)*

Тут я.

Дэ ля Рош

Навокала глуха...
А так здалося, што стогне штось, кліча...

Псіха
*(паўголасам да сябе)*

Павеяў вецер усходні...
Шэрымі крыллямі раптам лапоча
Паміж радоў камяніцаў
Над цвёрдым вуліцы брукам...
О, сонца, ўзыдзі нам! сонца!

Дэ ля Рош

Што кажаш?

Псіха
*(змененым тонам)*

Нічога. Матку маю бізунамі засеклі, бацьку забіта, калі крычаў на вуліцы: «Хай жыве свабода!..» Упаў тварам на брук, і цяжкія салдацкія боты прайшлі па целе ягоным. Але нічога і не кажу. Заву толькі сонца, каб узышло...

Глядзіць зноў углыб.

Дэ ля Рош
*(па хвілі)*

Псіха!

Псіха

Слухаю. Ці патрабуеш чаго?

Дэ ля Рош

Не! Ты мяне не слухаеш, не бачыш мяне нават! Зірнула на мяне, але думка твая недзе далёка. Бачыў, як душа тваіх вочаў пайшла туды — у цёмную глыб таей вуліцы... дзе будынак Камуны!

Псіха

Самдзеле. Бачу цябе і слухаю, грамадзянін.

Дэ ля Рош

Грамадзянін! — ці ж не маеш для мяне іншай назовы?

Псіха

Гэтай назовай здароўкаюцца ўсе вольныя. Але калі хочаш, магу такжа называць цябе іначай...

Дэ ля Рош

Хацеў бы...

Псіха

Магу казаць табе: панічок! Ты харошы — маеш румяныя шчокі і белыя выпешчаныя рукі — панічок.

Дэ ля Рош

Нашто з мяне насміхаешся?

Псіха

Не насміхаюся. Гэта праўда.

Дэ ля Рош

Бачышся ад мяне, адпіхаеш... А ўсёжткі я для цябе, для цябе ядына...

Псіха

Для мяне?

Дэ ля Рош

Так. Ты ведаеш, што я патомак старой шляхоцкай радні, ведаеш, што ўсе мае сваякі арыштаваны або ў ссылцы...

Псіха

Або ў радах варожай арміі, якая ідзе ваяваць з намі...

Дэ ля Рош
*(парыўча)*

І ўсё гэта так! Не пярэчу. А я — глядзі! — тут, з трохкалёрнай стужкай, у мундзіры Нацыянальнай Гвардыі, на службе... свабодзе! на службе народу, таго народу, які...

Псіха

Маўчы! Я выйшла з гэтага народу і люблю гэты народ!

Дэ ля Рош

А я цябе люблю! — чуеш! — цябе адну на свеце! Люблю гэты блеск тваіх вочаў і голас твой агністы, люблю цябе ўсю! О! Чаму ж ты мне з рук вырываешся! Скажы, што мне яшчэ ўчыніць, што зрабіць, каб ты была мая?

Псіха

Жыву Свабодай...

Дэ ля Рош

Праклятая! — яна мне цябе забірае!

Псіха

Не так! — Свабоду ўзлюбі, а зблізішся да мяне!

Дэ ля Рош

Га! Свабода!.. Кінуўся я ў гэты вір — дзеля цябе! Захоплівае мяне часам і нясе, як пажар сноп саломы, выдзерты

з страхі паланеючай хаткі. . Але ці ж можна любіць агонь, які пажырае?

Псіха

Толькі такі агонь любацці годзен! — бо толькі такі ачышчае і збаўляе! — Ці гэта разумееш?

Дэ ля Рош
*(па хвілі)*

Дзіўная часам гутарка твая... Не магу я паверыць, каб ты на гэтых вуліцах і сярод гэтага люду жыццё ўсё спагнала...

Псіха
*(задумваецца)*

Жыццё? І хто ведае, якое яно доўгае сапраўды? Дзе пачынаецца і дзе канчаецца...

Дэ ля Рош

Штось для мяне незразумелага ёсць у табе...

*(Па хвілі жыва.)*

Слухай! — іду заплюшчыўшы вочы за табой, служу тваей справе, слухаю тваіх прыказаў, забываюся на ўсё, усё пасвячаю табе — а не ведаю нават, хто ты?

Псіха
*(паціскае плячыма)*

Як бачыш: простая дзяўчына!

Дэ ля Рош

Не! Ты нечым болей!

Псіха

Ну дык так! — я — грамадзянка свабоднага народу!

Дэ ля Рош

Яшчэ больш нечым! — У першы раз помню,
Цябе я ўбачыў, калі люд Бастыллю
Браў. На чале ты народу ішла, плыла,—
Не! Ты ляцела, узнятая рукамі
Таўпы, агністым здаючысь анёлам:
З агнём крывавага ў высі штандару,
З агнём у вачах, у вуснах, у ўзнятай
Руцэ...— з святла, з пяруноў, ці мо з цела,
Не знаю...

Псіха

Гэта Свабода была там!

Дэ ля Рош

Душа!

Псіха

Я!

Дэ ля Рош

З тых пор жыву табой, Псіха!

Псіха

Няпраўда! Зводзішся толькі. У самым дзеле для цябе чужое ўсё тое, чым я жыву... Адыдзі!

Дэ ля Рош

Не, не! Мне так здаецца, што раз ужо я абмінуў цябе некалі, можа, у сне... гэтым разам...

Псіха

Зноў абмінеш.

Дэ ля Рош

Я не хачу! — Псіха... Пойдзеш са мною! Ты пойдзеш!

Недзе ўглыбі ўзнімаецца раптам змешаны гоман далёкай таўпы, які праз хвілю моўкне.

Псіха

Чуеш во гоман? Ускрыкі!

Дэ ля Рош
*(уздрыгнуў)*

Зрухнуўся горад...

Псіха

Час гэта настаў мой!

Дэ ля Рош
*(надслухоўвае)*

Прайшло, як фаля. Зноў ціха і глуха...

Псіха
*(да сябе)*

Сіл! Сіл! — сягоння, і толькі сягоння
З пабедай выйсці...

Дэ ля Рош
*(па хвілі)*

Твар табе меніцца... Нешта як боль прайшла па ім... Псіха!

Псіха паварочваецца моўчкі да яго.

Дэ ля Рош

Вочы твае бліснулі цвёрда блісканнем сталі,— губы маеш зацятыя... Якая ты прыгожая! — О! Каб ты ведала, як я люблю цябе! Будзь маёю!

Псіха
*(выбухае смехам)*

Ха, ха, ха! Ха, ха!

Дэ ля Рош

Смяешся? — ты смяешся!

Псіха
*(паважна)*

Ці ты не адчуваеш, грамадзянін, як фальшыва заскрыпелі твае словы аб каханні ў гэтай ночы чакання, у гэтай дзіўнай хвілі, калі, можа, там важацца лёсы вольнага народу? Калі з сэрца жывая ліецца кроў? Калі мае ўдарыць вызвалення звон?

Дэ ля Рош

Звон ударыць, але не ведама яшчэ, да чаго народ пакліча! — Страх мяне дзіўны забірае. А і ты сама — бачу — што баішся...

Псіха

Не!

Дэ ля Рош

Не пярэч!

*(Па хвілі.)*

Ці ведаеш, якая любасць салодкая? Якім захопліваючым голасам кліча? Які супакой дае бязмежны?

Псіха

Проч з супакоем! — Слёз на мне праклён
І боль вякоў — і пот — і кроў,
У мне гарыць народны гнеў і стон,—
А вызваленне — досціг мой!

Дэ ля Рош

Адна любасць дае вызваленне! яна адкупляе і збаўляе! — Паслухай, паслухай мяне толькі! — Маркотныя рукі к табе працягваю! Люблю цябе, жыву табою! — Псіха! Ці ж нішто не дрыгне ў тваім сэрцы?

Псіха
*(па хвілі)*

А хоць дрыгнула б... Хоць недзе на дне там
Якая спала б журба па... каханні,
Па шчасці ціхім, дурным — што ж такое?
Няўжо ты думаеш,— гэтыя рукі,
Што сцяг над людам узнесць хочаць крывавы,
Пясціць маглі бы? — а губы, якія
Дрыжаць ад крыку агністай Свабоды,
Маглі б калі цалаваці — пакорна?!

Дэ ля Рош

Я навучу цябе! — любіш мяне! Пайдзі са мною!

Псіха

Ніколі!

Дэ ля Рош

Пайдзі!

Псіха

Ніколі! — Перш павінна была б праклясці гэты цуд, гэта маё ўмілаванне, маё ўсыццё, што тут родзіцца з крыві: Свабода і Народ!

Дэ ля Рош

Дык пракляні!

Псіха

Проч!

Дэ ля Рош

Гэта ж, павер, неабміннае, гэта ж мусіць стацца! — Глядзі толькі на гэту навокал цябе таўпу! Табе здаецца, што маеш над ёю ўладу, але пачакай, у любы дзень абудзіцца ў ёй нікчомны, злосны, крыважадны звер, а тады... Слухай мяне, Псіха, там на поўдню пад Пірынеямі ёсць замак маёй радні, узнесены некалі адным з маіх продкаў, які пад назваю Блуднага Рыцара Сонца аб'яжджаў землі з песняй на губах і крэпкім мечам у руцэ, змагаючыся за справядлівасць, пакуль упаў. Але замак стаіць да сягоняшняга дня. Слухай мяне, там можна схавацца ад свету.

Псіха

Не спакушай!

Дэ ля Рош

Там можна — у зялёных сувуззях над шумячымі крыніцамі — быць вольным папраўдзе і шчаслівым, здалёк ад гэтай крыклівай, горкай ды крывавай камедыі, якая тут разыгрываецца! Што цябе ўсё гэта абходзіць! О! Выслухай мяне! Пайдзі са мною! — багаццем цябе акружу, любасцяй, роскашай, пышнасцяй!..

Псіха
*(кажа звольна, гледзячы яму ў вочы)*

Мне здаецца, што ты супраўды не ведаеш, хто я такая!

Дэ ля Рош

Кабета, якую я кахаю!

Псіха

Не!
Я крыўда — і труд,
І жар — і моц — і рух,
Устаючы з путаў дух!
Я — Люд!

Чуваць раптам біццё званоў.

Дэ ля Рош

Звон!

Псіха

Звоняць званы на пагудку!

Дэ ля Рош

Трывога!

Псіха

На бой!!

Кавярня запаўняецца збегаючым зусюль Народам.
Неба шарэе світаннем.

Галасы з Народу

Што гэта?
Звон!
Рада
Біць загадала ў званы! —
На трывогу!

Ганец
*(улетае)*

Народ! з пабоішча весць!

Галасы

Весткі! Весткі!
Што? Што чуваць?!
Кажы! грамадзянін!..

Ганец

Схапіць дух дайце... ляту.

Галасы

Што такое?

Ганец

Вердэн...

Дэ ля Рош

Пабеда?

Ганец

Вердэн наш паддаўся!
Прусак узяў горад!

Сярод прысутных раптам залягае страшнае, грабавое, поўнае бязмежнага задзіўлення маўчанне. Ледзьве шты-гэны парушыцца, зціха загаворыць да таварыша. Урэшце неспакой узрастае,— не хапае толькі якога слова, сігналу...

Псіха
*(выступае на сяродак)*

Ці чулі?

Галасы
*(выбухаюць раптам, як пачыналася бура)*

Гора! На ворага! У бітву!
Народ! Да зброі!

Псіха

Туды! дзе Камуна!
Агонь свабоды каваць на пяруны!

Выбягае на чале таўпы ўглыб.
У апусцеўшай хаце застаецца толькі Дэ ля Рош і азіраецца вакол задзіўлены, як бы не разумеў яшчэ, што сталася.
Па хвілі ўбягае ад вуліцы Гаспадар.

Гаспадар

Ужо знаеш?

Дэ ля Рош

Так!

Гаспадар

Захапіў людзей зглузд!
Усё ўверх дном...

Дэ ля Рош

Люд яна захапіла...

Гаспадар

Хто гэткі?

Дэ ля Рош

Псіха.

Гаспадар

Не дзеўкава справа,
Тут мужа трэба...

Галасы збіраючагася на вуліцы Народу

Усяму віна Рада!
Не мае моцы!
Хай улады зрачэцца!
Змусіць іх! — Шэльмы!

Гаспадар

Патрэбен тут муж! Муж!

Блякс
*(убягае на чале таўпы)*

Гэй, грамадзяне! а ведаеце ўжо, што кажуць па ўсім горадзе, што нашае войска шальмоўскім спосабам і зусім не патрыятычным дало пабіць сябе гэтым наёмнікам каралёў?

Гаспадар

Так, яно паддалося, падобна, большай сіле...

Блякс

Ах, што гэта знача: паддалося большай сіле! Гэта ёсць здрада, калі пазволілі пабіць сябе, тады калі мы іх выслалі на тое, каб пабядзілі! Здрада!

Галасы
*(адразу рэдкія)*

Але! здрада! здрада!

Блякс

Хто там камандаваў? Рошамбо! — павінен быць пацягнуты на суд народу, за здраду! Усе павінны быць суджаны! — ад генерала аж да простага салдата.

Галасы
*(штораз гусцейшыя)*

Добра кажа! Пад суд! За здраду!
Хай жыве грамадзянін Блякс!

Блякс

Дзякуй, грамадзяне. Але... што ж мы цяпер пачнём? Дзядзька Воба, што пачнём? Вораг мае дарогу адкрытую, абляжа Парыж... Загуба нам грозіць!

Гаспадар

Паміж Вердэнам і Парыжам ляжыць яшчэ зямля Французаў, і вольныя Французы жывуць на ёй, грамадзянін!

Галасы

Прапала войска!
Здалі каралём нас!

Віной тут Рада! —
Усіх іх павешаць!

Заварушэнне.

Воклік Народу
*(выбухае раптам перад кавярняй)*

Хай жыве Дантон!

Усе ціснуцца адразу ўглыб цераз веранду.
Дэ ля Рош і Гаспадар толькі застаюцца ўнутры пры дзвярах.

Гаспадар
*(пазірае ўглыб)*

Дантон... У сам час з'яўляцца. Ці бачыш?

Дэ ля Рош
*(глядзіць таксама)*

Цёмна яшчэ,— чуць магу яго згледзіць... Запалілі цяпер паходні... Таўпа яго абступіла, ціснецца вакол яго, узносіць яго...

Гаспадар

І што? і што?

Дэ ля Рош

Дае знак рукою, будзе прамаўляць...

Гаспадар

Ці чуеш, што кажа?

Дэ ля Рош

Таўпа бурыцца і фалюе, не магу слоў схапіць...

Гаспадар

Ціха!

Голас Дантона
*(прамаўляючага непадалёк на пляцу, даходзіць сярод хвілёвага заціша да поўных, на ўдар молата падобных гукаў)*

На нас каралі ідуць?
Тым лепей, брацця! Шукаць іх не трэба:
Прыходзяць самі! Хай жа зямля гэта,
Куды паспелі ступіць і збяшчэнціць

Ватагай збройных падданцаў, край гэты
Свабоды — хай для іх будзе магілай...

Далейшыя словы заглушаюць воклікі таўпы.

Дэ ля Рош

Як быццам віхор прынёс пад мора водгулле буры
далёкай і ўтапіў ізноў іх у звіхраных фалях...

Гаспадар

Слухай толькі, слухай!

Голас Дантона
*(грыміць ізноў сярод хвілёвай цішы)*

...рукі мазольныя вашы,
Усё ж тыя рукі, што муры Бастыллі
У груз дробны рвалі, на вуліцах места
Таўклі медзяныя цароў статуі,
Якія вылі пад молата ўдарам,
Як звон! — Цяпер не мёртвых статуяў
Пайдзем валіць, а жывых зністажаці
Тыранаў, што нас...

Галасы

Смерць тыранам! Смерць і загуба!

Голас Дантона

Адвагі толькі...

Чуваць стрэл гарматні, прыклікаючы агульнае паўстанне.

Во чулі гарматні
Гром, што вас кліча да зброі? Гэй, брацця!
Не на трывогу стрэл гэты! — а гэта
Гром першых крокаў Свабоды к Пабедзе:
Ужо папеджаем!.. бо вольны народ мы!..
Паўстаньце ўсе...

Галасы
*(зрываюцца раптам з усіх старон, як бура)*

Народ! да зброі! За волю! На ворага!

Голас Дантона
*(выбіваецца яшчэ раз з сілаю грымоту)*

Дрыжаць хай каты! Дрыжаць каралі хай!
І тыя здраднікі, што іх чакаюць!

Хай задрыжаць каралеўчыкі! — чулі?!
Бо люд узняўся...

Галасы

На смерць і жыццё ў бой!
Жыве хай Дантон!
Жыве хай свабода!

Таўпа на пляцу сярод воклікаў рассыпаецца; шмат якія цiснуцца ў кавярню, паміж іншымі Б л я к с.
Развідняецца штораз болей, неўзабаве мае ўзысці сонца. Фіялетавы адсвет заранку, упадаючы цераз адчыненую веранду, нягодзіцца з жоўтым бліскам аліўнай лямпы.

Блякс
*(уходзючы, кажа да напіраючых вокала)*

«Хай задрыжаць каралеўчыкі!» — во як казаў...

Гаспадар

Народ зваў да зброі...

Блякс

Да зброі, —
Так... Толькі ж ворага хто нам наклікаў?

Гаспадар

Кароль і здраднікі тыя...

Блякс

Яшчэ іх
Ёсць шмат між намі.

Галасы

Го! Здраднікі! Згубцы!
Смерць! Смерць за здраду!

Блякс

Смерць! Добра сказалі!

Дэ ля Рош

О, Хрысце!

Гаспадар

Што вам?

Дэ ля Рош

Мая там радня ўся!

Гаспадар

Няма радні тым, хто служыць народу!
Смерць здрайцам!

*(Падбягае наперад.)*

Блякс

Ну ж, як быкоў рэзаць шляхту!
Сеч!..

Дэ ля Рош
*(высоўваецца наперад)*

Грамадзяне! Падумайце лепей,
Як выгнаць ворага, што ідзе з-за межаў!
А шляхту кіньце! Яны ўжо пад стражай...
Сягоння ўночы ўсіх чыста няпэўных
Ксяндзоў, паноў, каралеўскіх прыслужняў
Замкнута — ўсіх! Усе поўныя турмы!

Блякс

Тым лепей, вашаць! Хапаць іх не трэба!
У клетцы птушкі, адно лбы зрываці!
Наперад! Я павяду!

Галасы

Гэй, наперад!

Таўпа з Бляксам на чале скіроўваецца к адчыненым дзвярам, калі ўмомант адзываюцца на вуліцы зыкі марсыльянкі; сярод воклікаў паяўляецца на парозе Псіха, трымаючы ў руках трохкаляровы штандар і вядучы за сабой аддзел Збройных Ахвотнікаў.

Воклікі

Няхай жыве нам Свабода і Айчына!

Блякс

Глядзеце! Гэта новыя ахвяры! Гэта моладзь наша, якую Рада ізноў гоне ў вагонь, на жыр ворагу, каб марна гінулі! — Ці ж пазволіце на гэта, грамадзяне?

Псіха

Проч, трус, адгэтуль! Вяду я ў вагонь іх,
Са мной — пабедзяць!

Галасы

Пабедзяць! Хай Псіха
Жыве!

Блякс

А здрайцы ад нас дадуць ходу!..
За мной!

Псіха
*(заступае дарогу таўпе)*

Куды?

Блякс

Кроў ідзём ліці здрайцам!

Псіха

Не так! Сваю кроў нясеце ў ахвяру
Народнай волі! Нясеце на бітвы
Свае галовы!

Блякс

Што яшчэ за вар'яцтва?
Мы маем гінуць? А хто збярэ жніва?

Псіха

І што з таго вам, чыё жніва будзе,
Калі вам — шчасным — моц дана сяўбы?
Ліць кроў для прышлых сталеццяў сяўбы,
Кроў жыватворную, плодную, з грудзяў?
За волю, роўнасць, за браторства цуд,
За край, за люд!
На крывавы пот ратаёў,
Сяўцоў ахвярны труд
Я клічу вас!
— На бой!!
Хай лес штыкоў у час
Свабоды ніву аслоніць сабою,—
О, люд ты мой!
— Да зброі! да зброі! да зброі!

Галасы

Да зброі!

Цiснуцца ўглыб.

Блякс

Эй, грамадзяне! Яшчэ вораг далёка!
Перш трэба дома наладзіць парадак...
Кароль і ў нас ёсць, ды ёсць яго хеўра,
Што к нам наклікала ворага здрадна!

Галасы

Смерць каралеўскім прыслужням!

Дэ ля Рош
*(молючы)*

Браты! Не плямцесь крывёю бяззбройных!

Блякс
*(адпіхае яго)*

Проч! проч адгэтуль! Ты, відна, сам здрайца!
Звясці ўсіх чыста! Парэзаць! Павешаць!
Хай каралі, што ідуць к нам, пачуюць,
Якое ладзім мы тут прывітанне
Для каралёў і прыяцеляў іхніх!

Галасы

Да турмаў!

Псіха

Стойце!

Блякс

Што яшчэ за прыказы,
Калі ідзём споўніць крывавы суд люду!

Псіха

Я прыкажу вам! Я — ў імя Свабоды,
Што тут як полымя стала над вамі!

Дэ ля Рош
*(да Псіхі)*

Стрымай! Стрымай іх! Чын станецца страшны!

Псіха

Я не ўстрымляю! — Я толькі бунтую!
Хачу святыя полымі ўзнецiць!
Не можна рук вам паганіць!

Разліта вамі кроў
Згрызае хай вякоў спляснелу іржу,
Якой ужо сённі не змыць слязьмі,
— Але хай рук вам не пляміць!

Блякс

Чаго тут лезеш? — Мы ведаем самі
Што чыніць маем!..

Псіха

Вас Бацькаўшчына кліча! —
Служыць жа Бацькаўшчыне ідзеце!
У вянкі ўбярэце сонечны воблік,
— А калі знойдзецца цернь паміж кветак,
То ў цернь!
Зара, зара над вамі,
Хоча ўзысці —
Адно ёй працай адкрыць трэба дзверы!..
За места ідзеце ўзносіць акопы!
Армію ладзіць ідзеце!
Уміраць за Свабоду!
На ворага ідзеце! На ворага!
Вянком служэце!

Блякс

Усё па чародзе! Перш мусім упарадкавацца з здрайцамі! Я на пекных славах не знаюся, але адно ведаю: рэзаць!

Галасы

Смерць здрайцам!

Заварушэнне сярод таўпы.

Псіха

Брацця! Слухайце...

Блякс
*(заглушае яе словы крыкам)*

Гэй, грамадзяне! Будзеце ж вы слухаць голасу шалёнай дзеўкі, якая хоча вам запярэчыць вялікага права народу: права помсты і прыгавору? Далей за мной! На суд!

Псіха

Стойце! — кроў гэта спаганіць
Вякоў неспаганены плод!

Спаганіць народ!
Яны... вось, можа... нявінны!

Блякс

Чуеце! Яна смее здзеквацца над народам! Агіду кідае на вас, якія цярпелі і падалі ад працы, знябытку і няволі, а нявіннымі называе тых праклятых панкоў, што з нашымі ворагамі змову ўчынілі! Проч з ёй!

Галасы

Проч! Проч!

Блякс
*(да Псіхі)*

Бачыш! Ты тут не патрэбна! Я народ павяду!

Псіха
*(заступае яму дарогу)*

Не важся! Стой!

Блякс

З дарогі! Народ гэты мой!

*(Павальвае Псіху ўдарам кулака.)*

Гэй, люд! За мною! Да турмаў! На суд!

Галасы

На суд! На суд!

Выючы і равучы, вывальваюцца ўсе за Бляксам, ідучым наперадзе. У апусцеўшай хаце застаецца Псіха, лежачая самлеўшы на здоптаным штандары, і Дэ ля Рош.

Усходзячае сонца азалачвае іх поўным святлом.

Дэ ля Рош паступае некалькі крокаў ўглыб, глядзіць — пасля з разпачлівым рухам вяртаецца. Спасцярогшы Псіху, ляжачую на зямлі, бярэ вады і чуціць яе.

Псіха
*(будзючыся з абамлення)*

Што гэта? Раніца — і сонца і сон нейкі... страшны...

*(Моўкне — пасля зрываючыся раптам.)*

Дзе яны?!

Дэ ля Рош

Пайшлі — ў імя свабоды... без цябе!

Углыбі выбухае змешаны звярыны рык чэрні.

Чуеш!

Псіха
*(надслухоўвае, як бы яшчэ не разумела,— і раптам са стогнам хавае твар у далонях)*

Ах!

Дэ ля Рош
*(тузае яе за руку)*

Не закрывай воч! глядзі! Во — свабода!
Во гэта сяўба вякоў!
Во збаўленне цераз кроў!
Бачыш, вывалаклі некалькіх мужчын — і дзве кабеты — і старца... Чуеш гэты рык? Ха, ха, ха! Суд адбываецца! суд! Бачыш паднятыя калы, палкі, нажы? Ха, ха, ха! Ха, ха, ха! Шпаркая справядлівасць — нават ката не патрэба! Ха, ха, ха! Глядзі! Глядзі! Свабода!

Зрывае кукарду і шапку і кідае на зямлю.

Проч знакі рабства ў новай тыраніі!

Псіха
*(з гідасцяй)*

Кроў!!

Дэ ля Рош

Уздрыгваеш перад ёй? Гэта ж тваё жніва! Твой буйны ўраджай!

Псіха
*(блудна)*

Што я тут сніла?.. Дзе ж той дзень? Збаўленне?
Мая дзе любасць? Усё пацямнела
У вачах мне... Кроў! агіда! бруд!
Пракляты дзень! Пракляты люд!
І я праклята...

Дэ ля Рош

Клянеш? — а значыць, зраўняліся ўжо мы!
Абое сплямлены здрадай пароўну: —
Чуеш! мае там прыяцелі гінуць
І мае сябры, якіх я пакінуў

— Для цябе!
І ты, жыццём што было, праклянула!
Цяпер ты — мая!
Пайдзі за мной!

Псіха
*(зрываецца)*

Не! Не! — гэта яшчэ не канец! Я зноў іх захаплю! На сонца звярну іх нанова! Пабеджу яшчэ... Проч! — Іду...

Хапае пакінуты штандар.
Галасы раз'юшаныя грымяць здалёк.

На смерць! На смерць!

Дэ ля Рош

Ідзі!..

Псіха станула, раздумвае, — трохкалёрны сцяг Свабоды выпадае ёй з рукі.

Ха, ха! Абманка!
Ці ж ты не бачыш, што ўсё ўжо — зайодна?
Што ўжо звер дзікі раз'юшыўся ў стадзе
І ты ўжо моцы не маеш ніякай? —
Кроў на табе!

Псіха

І на мне?..

*(Глядзіць блудна навокал і ўрэшце апускаецца на зямлю.)*

Кроў!..

Дэ ля Рош
*(па хвілі маўчання кладзе ёй руку на плячо)*
Псіха...

Псіха
*(непарушаная — з ціхім стогнам)*
Забыцца! Не бачыць!..

Дэ ля Рош
*(схіляецца над ёй)*
Там на поўдні каля Пірынеяў ёсць замак радні маёй...

Псіха
*(узносіць галаву)*

Дэ ля Рош

Пайдзі са мной. Няхай станецца. Ты мая.

Псіха

Дасі забыццё?

Дэ ля Рош

Каханне табе дам...

Псіха ўстае.

Дэ ля Рош

Кветкі нам усё заснуюць... Белыя і сінія кветкі нам будуць цвісці... Хочаш?

Псіха

Так.

Дэ ля Рош

А губы твае будуць цалаваць?

Псіха

Так, так.

Дэ ля Рош

Твае рукі пясціць мяне будуць?

Псіха

Так.

Дэ ля Рош
*(абымае яе рукамі)*

Пайдзі!

Голас Таўпы ўваддалі.

На смерць! На смерць!



# ЗЯМЛЯ

*Апавяданне*

*З украінскай — П. Панча*

Цёмная наша бацькаўшчына.

*М. Хвілёвы*

## I

Бягуць дзве каляіны, а па баках вясною памытая азіміна ды ружовая ярына. Дарожка вузенькая, і калі яна пасцелецца ў даліну, насустрач выскачаць маладзенькія хаткі, а далей, нібы жывёла на выгане, хлявы, хаты, клуні.

Мазалёўка: вёска хат са сто.

За лесам — Гаўрылаўка, а пад лесам маёнтак.

Цяпер кажуць: «Быўшы Бугайскай».

Дзяды былі паноў Бугайскіх, а ўнукі — савецкія.

Выглядалі ўнукі цераз вышываныя павуціннем вокны на поле і ўсё больш дзіву даваліся:

— Перад носам зямля, а сеюць у Гаўрылаўцы.

А ў нядзелю «на дубках» (вуліца каля поля) Назар Кардаш паглядзіць навокал сябе ды нібы брытваю:

— Эх, і зямелька ж, хлопцы! Толькі лядашчая анатэма: ляжыць сабе, як пярына, а няма, каб падскочыла ды мазалёўцам проста ў рот: «Не турбуйцеся, казаў той, спажывайце на здаровейка».

Мазалёўцы супяць бровы, як старыя стрэхі, ды плююць лушпінкамі сланечніку:

— Разумны!

А Раман, як дэлегат,— за ўсіх:

— Надакучыла ўжо і ездзіць.

— Да Бугайскай на паклон? — пытае Назар.

— Можа, хто і туды ездзіў, а я і па камітэтах ужо лазіў.

А з грамады, паміж іншым:

— Застаў дурня Богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е...

— А ведама,— кажа Назар,— гаўрылаўцы, мабыць, не маліліся Богу, а пачулі волю, загналі адразу плуг, дый ядуць

цяпер хлеба, а як я казаў: «Хлопцы, бярэма зямлю, яна наша, мы ж арандавалі», дык чухацца пачалі: «Ды ці яно ж гэтае надоўга, ды трэба спярша ў пані спытацца...» Пані! Э-э-х, элементы! — Услед за гэтым Назар раздражліва плюнуў і закінуў: — Вазілі, вазілі яйцы па ўсіх-усюдых, аж пакуль гаўрылаўцы ўсю зямлю да сябе прыгарнулі, а яны ўсё — пані.

А хтось кажа:

— Лукаш, той і ўчора ездзіў да яе.

Ніякавата Лукашу:

— Ды я так сабе — па дарозе заехаў, ну і пытаўся: «Як жа гэта будзе з зямлёй, што вось гаўрылаўцы заграблі?»

— А ты масла вазіў?

Раздражняюцца старыя:

— Назар, стрымай язык за зубамі. Кажы, Лукаш, што ж яна, як?

— Кажа, адным словам, выганіць іх к такой-сякой матары, і больш нічога, а я проці вас — Божа барані.

— Няхай яна бацьку свайму раскажа,— зноў умяшаўся Назар.— Выганіць. Якая разумная — людзі трэці год як аруць, а яна пацкоўвае дурняў... Вось засталося каля двара валок з пяць, дык хай гэтае не правароніць.

Лукаш быў у горадзе, ведае і нібы аж задаволена кідае:

— Гамані, цябе не запыталі...

— А то што?

— Кантора ўжо ўзяла ў арэнду аж на дзевяць год.— Сказаў і вокам абвёў наўкола, гэта значыць: «вось чаго я да пані заязджаў».

Мазалёўцы аж панямелі, а потым замахалі рукамі, як ветракі крыллямі:

— А хіба не я казаў?

— Дагаманіліся.

Кожны хацеў быць прарокам, і кожны хацеў быць усярэдзіне кола. Штырхаліся, плявалі лушпінкамі сланечніку і словамі, потым раздражліва пырскалі скрозь зубы і зайздросна перабягалі вачыма па чорнай раллі:

— Вось цяпер і паскачаце без зямелькі, а жывёліну хоць на лысіне пасі.

— Зараз, дый годзе...

— Прасядзелі рэвалюцыю на печы,— зноў кажа Кардаш, смеючыся сабе пад тонкімі, як швайка, вусамі,— сядзелі ды гадалі, што да вас прыдуць яшчэ прасіць: «Галубочкі, не бойцеся, бярыце», а вось знайшліся і без вас людзі.

— Ды якая ж кантора?

Лукаш ведаў, але і не ведаў:

— Кажуць жа вам — кантора... той...

— Забыўся?

Хто быў у шэрых шынелях, дапамагаюць:

— Можа,— Нарабраз?

— Не, той у Антонаўцы ўзяў.

— Можа,— дактары, як іх цяпер?

— Вось жа і тыя ўзялі, толькі недзе ў іншым месцы.

— А хто табе казаў?

— Ды пані ж. Андрэй, і ты ж там быў.

Андрэй углядаецца кудысь у поле:

— Я не прыслухоўваўся. Маё дзела — старана.

Назар раздражніваецца:

— Такжа — «па дарозе» — цмокнуць у ручку?

Андрэй бярэ суседа за рукаў добрага кажуха і ківае ўбок галавою:

— Хадзем, сваце. Гырчыць па-сабачаму: думае, як пабываў у бальшавікоў, дык і розуму набраўся. Адзін чорт, як свяціў хлеў у твайго бацькі рэбрамі, дык і дагэтуль свеціць. А мы, брат, праз тое, што ручку ў пані цалавалі, не палінялі і ў царкве сваё месца ведаем. Хадзем!

Лукаш дадае шэптам:

— Казала, заўтра прыедзе ў Мазалёўку, толькі не зюкайце. Ад яе акуратна і дазнаемся.

Потым пабегаў вачыма па світках ды шынелях, што засталіся «на дубках», і пацягнуўся за кажухамі.

— Дазнавайцеся,— кінуў ужо наўздагон Кардаш,— ды свежанькага маслачка збіце для яе.

А Мікіта і той на ўсю пыску:

— А то на посніцы ёй, мабыць, маркотна сядзець!

## II

Пані Бугайская — удава. Палкоўніка Бугайскага забілі на вайне. Сядзела пані ў сваім маёнтку аж да восені дзевятнаццатага года.

— Якая там рэвалюцыя? Звычайны бунт,— гаварыла яна заўсёды Андрэю.— Вось няхай паспрабуюць не аддаць мне арэнды!

Андрэй мяў тады ў руках аўчынкавую шапку і, махаючы, як ліс хвастом, адказваў:

— Не турбуйцеся, пані, цяпер аддадуць да фунцікаў. Гэта раней тая гніда Кардашова, Назар, каламуціў усіх, а зараз, як дачуўся аб казаках, дык і заняло.

— І ўсім ім зойме, як яшчэ прыйдзе з войскам мой Вальдэмар.

— Ну, вось і добра. Бо мы і заўтра даставім, але той «Камбед» без бізуна не намовіш.

Гутаркі вяліся заўсёды на парозе кухні. Андрэй, не важачыся сесці, стаяў пасяродку, а пані Бугайская, трымаючы на руках мопсіка, паглядала з пакою.

— А чаму ж вы не выселіце з сяла гэных бунтароў? — пыталася Бугайская.

— Як жа, звычайна б выселілі, каб не такі час, а то ж Бог яго ведае, якая гэта ўлада будзе. От вы газету чытаеце, ці гэта праўда, што быццам дзянікінцы ўцякаюць ужо?

— Брахня!

Цераз тое, што армія кацілася назад, Бугайская не спала ўжо некалькі начэй, але вось так раптам паверыць, што гэта ўжо рэвалюцыя, яна не хацела.

— Брахня, Андрэй! Армія яшчэ дужая, каб прымусіць заплаціць арэнду!

Але аднэй ночы Андрэй, відаць, і сам не паверыў пані: замурзаны і перапалоханы, ён, не звяртаючы ўвагі на лямант мопсікаў, уваліўся проста ў пакой пані Бугайскай.

— Уцякайце, пані,— банда ідзе!

Бугайская ў аднэй начной кашулі, белая як смерць забылася і аб арміі, і пра свае сорак гадоў і завярцелася па пакоі, як уюн.

— Мілька, Варка, каробкі!.. Божа, ды чаму ж Вальдэмара нямашака?

— Гэта з войскам? — запытаўся Андрэй, выкідаючы, як мора на бераг пену, на кілім белыя мусліны.— Хутчэй вярціцеся, пані, каб хоць за лес выскачыць.

— Мілька, Варка! Ах, Божа, куды яны падзеліся!.. Андрэй, лаві сабачак!

Андрэй ткнуў полы кажуха за пояс і згроб разам дзвюх, але адразу ж і пусціў.

— Хай іх нячыстая — кусаюцца!

— Ах, Божа, Зізі, Бібі! Лаві, Андрэй, хіба яны дужы, яны — маленькія!

Праз паўгадзіны пані Бугайская, трымаючы аберуч мопсікаў, трэслася ўжо на Андрэевых калёсах цераз Гаўрылаўку ў горад.

* * *

Праз два гады паздыхалі і Зізі, і Бібі. Самую паню падтрымлівала ў горадзе калішняя няня толькі дзеля таго, што ў пані яшчэ былі ядвабныя кашулі ды сукні.

На тым тыдні забрала Марынка апошнюю спадніцу, а назад яна прынесла лусту чорнага хлеба.

Быў яшчэ ў пані капялюшык з зялёным калібры, але гэта ўсё, што звязвала яе з колішнім светам, што грэла ў ёй яшчэ надзею. У капялюшыку яна хадзіла «па народу» чысціць выходкі на рынкавым пляцы, у ім жа хадзіла збіраць трэсачкі па горадзе, у капялюшыку прыйшла сёння пані Бугайская і да свайго маёнтка.

«Казаў Андрэй: — Можа, што-небудзь за арэнду збярэм».

Як здань, выйшла яна з лесу і, перапалохліва азіраючыся, паміж саду прадзерлася да калішняга свайго дому. Праходзячы каля вакон, якія, нібы выпечанымі вачыма, дзівіліся на пусты дзядзінец, пані Бугайская па дарозе завесіла і прычапіла развалтужаную акяніцу. Дыбаючы па вывернутых цаглінах, яна ўзышла на ганак і, нібы сава, села на парозе.

Сонца з хрустальнага блакіту пыхкала вясенннім пушыстым подыхам, пазірала ў выскаленае вока аблезлага калібры і зырка бліскацела ў чарапках пабітага шкла. Руіны будынка, з аблупленымі фрэскамі на абголеных сценах пакояў, і белы слуп на зялёным дзядзінцы, і шэрая фігура ў хімерным уборы на ганку,— усё гэта як бы ляжала друзам на абноўленым вясною смецці. Але відаць было, што не паспее яшчэ задзічэць сад, як прырода затчэ гэтыя руіны аднолькавым дываном.

Проста перад ганкам, на шляху, замітусіў экіпаж. На паваротцы коні крута звярнулі ў маёнтак.

Для пані гэта выдалася сном.

«Да нас нехта едзе!»

Вочы засвяціліся, як шкелцы на сонцы. Яшчэ адна хвіліна — і яна б нецярпліва гукнула:

— Моцька, Варка,— сустрэньце пана!

Але коні з вераўчанымі лейцамі прабеглі ў браму (адны толькі слупы стаялі пры дарозе) і паволі спыніліся. Відаць было, што і яздок, і коні добра разумелі, што каля якіх руін не спыніцца, усё роўна.

Сталі пасярод дзядзінца.

Яздок з выпраўкай вайсковага начальства зручна саскочыў на траву і гаспадарскім вокам абвёў панадворак. Даўжэй затрымаўся на доме. Што там сядзела пані, ён заўважыў

толькі цяпер, і ад неспадзеўкі, і ад такога каларытнага малюнка на яго выглядзе адбілася перапалоханае здзіўленне.

А пані стаяла, як загіпнатызаваная: на скамянелым абліччы, як бы навекі, замерла ўсмешка прыветлівай гаспадыні.

Размінаючы застыўшыя калені, яздок падышоў да ганка і хацеў ужо выказаць сваё здзіўленне, што тут яшчэ ёсць людзі, як пані падняла рукі і істэрычна ўскрыкнула:

— Вальдэмар! — і ўпала яму на грудзі.

Вальдэмар азірнуўся на вазніцу, адным рухам паставіў паню на зямлю і асцярожлівым голасам зашаптаў:

— Цёця, цёця, гэта вы? Я ўжо страціў надзею пабачыць...

Пані хліпала і сілілася зноў палажыць галаву яму на грудзі.

— Мілы мой хлопчык,— ціха зашаптала яна,— ты ў госці прыехаў да цёці, думаў зноў пабачыць усё, як было?

Вальдэмар неспакойна азірнуўся на вазніцу, які выпраг коні і з зацікаўленнем разглядаў ужо паню. Ад пудзіла, якое ставяць на каноплях, яна розніпася толькі жывымі вачыма, поўнымі радасных слёз.

Вальдэмар узяў цвёрда паню за локаць, і яны пайшлі за дом.

— Ах, Вальдэмар! — кінулася зноў яна яму на грудзі, як толькі заступіла іх пахіленая сцяна.— Чаму ты не прыбыў тады з войскам, гэта ж усё было б цэлае, яно ж табе прызначалася,— і яна любасна зазірнула ў яго калючыя вочы,— ты ж мой адзіны патомак. А цяпер? Ты думаў, што я ўсё яшчэ тут жыву?

— О не, цёця! — спакойна ўжо прагаварыў Вальдэмар.— Я ж добра ведаў, што тут ужо пустка, нават і аб тым, што гэты маёнтак быў бы мой, а таму я і дабіваўся быць тут упраўляючым.

— Ты ведаў?! Ты — упраўляючым?!

У гэтую хвіліну, скрадаючыся, як кот, паміж дрэў у садзе замітусіў Андрэй.

Вальдэмар нервова закусіў вострыя вусы і насупіў бровы. Збянтэжыўся і Андрэй. Пасля нясмела прагаварыў:

— Можа, гаспадар прыехалі? Дзень добры!

— Так, гаспадар,— адказаў Вальдэмар, націскаючы голас на апошнім слове.

— Значыць, ад канторы?

— І ад канторы. А ты што, можа, таксама хацеў арандаваць?

Пані не цярпелася сказаць нешта Андрэю, нарэшце запыталася:

— А калі ж мне арэнду? Вы ж абяцалі сягоння!

Андрэй забегаў спуджанымі вачыма па упраўляючым, а той пытальна ўставіўся на паню.

— Ах, Вальдэмар, я ж табе не казала яшчэ.— Яна хутка нагнула яго галаву і зашаптала на вуха.

Задаволеная ўсмешка пад канец шаптання цалкам сагнала суровасць з аблічча Вальдэмара.

— Угу,— нарэшце працягнуў ён.

Пані таксама шэптам прагаварыла і да Андрэя:

— Мой пляменнік,— і павяла вачыма ў бок Вальдэмара.

Ліслівае здзіўленне адбілася і ў Андрэя.

— Ага-а.

Праз паўгадзіны пані, умовіўшыся з Вальдэмарам, што яна пачакае яго на шляху, як цень расплылася на ўзлессі.

Андрэй яшчэ раз сцвердзіў:

— Заўтра ўжо абавязкова завязу,— і пайшоў за ўпраўляючым аглядаць маёнтак.

— Добры садок быў,— гаварыў ён, абломліваючы сухое галлё.— Тут яго тры маргі, гэта ўжо правільна, бо яшчэ нашы бацькі яго арандавалі. А вось і аблога — адно няўгоддзе, хіба авечак толькі пасвіць, а яго там, мабыць, маргоў з дванаццаць набярэцца.

На грачанішчы густа зелянела азіміна.

— Во тут вам ужо і прыбытак,— разважна гутарыў далей Андрэй,— яны не пыталі, як хапалі, ну і вы іх не пытайце. А тут маргоў з трыццаць будзе.

Ён хутка падлічыў у думках і хітра падміргнуў упраўляючаму:

— Гэта ўжо сто шэсцьдзесят пудоў у кішэні.

Вальдэмару былі не даспадобы такія падуфалыя абходзіны з ім, але пуды былі прыемнымі для яго.

Вальдэмар намагаўся ўсміхацца хоць хвілінамі.

Андрэй як бы сам быў гаспадаром гэтага маёнтка.

— Згодна з планам, тут лічыцца меней, але мужыкам яго заўсёды здавалі за пяць валок.

Калі Вальдэмар збіраўся ўжо сядаць на брычку, Андрэй напомніў яшчэ раз:

— Дык вось жа, Вальдэмар Пятровіч, каб так, як я казаў, то будзе справа,— пасля дадаў шэптам: — І пані не будзе галодная. А калі пападзе да такіх, як гэны Назар або Раман, то плакалі вашы грошыкі.

— Добра, значыць, да суботы я чакаць буду вас у канторы.— І сунуў руку.

Андрэй беражліва сціснуў яе абедзвюма рукамі і накіраваўся ў бок лесу, а брычка па зялёнай траве затуркацела ў бок Мазалёўкі.

III

Сястра Назара, Аксана, замужам за Раманам, а ў Рамана знаёмы (калісь па чарцы) служыў у той жа, што і трэба, канторы. А Мікіта, той ніколі не адмаўляўся — іх мазалёўцы і паслалі.

— Едзьце і рабіце. Ды барзджэй! Няхай нам здаюць у арэнду. Бо Гарпіна ж Андрэева ўжо прагаварылася, што маюць здаваць.

Паехалі.

Знайшлі знаёмага. Дзесятак яец — раіць браць.

— Таргуйцеся толькі добра.

Паабяцалі калісь выпіць па чарцы і пайшлі да канторы.

І ліханька ж бы на іх, на гэтыя канторы ды канцылярыі з іх кабінетамі ды дакладамі. Доўга топчацца па вуліцы, пасядзіць на тратуары, закурыць раз і другі цыгарку і зноў да дзвярэй. Добра, калі адтуль бокам такі ж сярмяжнік. Ну, да яго:

— Гэта сюды? Ну што — пускаюць?

— Ды вось тры дні таўкуся, хай яно згарыць, ледзь дабіўся!

Зайшлі.

У канторы кажуць:

— Пачакайце, начальнік заняты.

— Можа, і заняты, хіба ж гэта тое, што ў нас?

Чакаюць. Доўга чакаюць. Нават занудзіла ўжо ад тых цыгарак, калі пазволілі і мазалёўцам зайсці ў кабінет.

Выслухаў заклапочаны начальнік і, нібы вінавата, кажа:

— Да сакратара, калі ласка, звярніцеся.

— Значыць, не туды папалі.

Каля сакратаровага стала, як на рынку, Мікіта папрабаваў локцямі, але адразу ж нейкая паненачка гвалт зрабіла:

— Хуліганства! Гуны нейкія, а не таварышы.

Мікіце слова «гуны» — не спадабалася, і ён, як спелая вішня, вылез назад.

Праз паўгадзіны наперадзе ўжо лез Раман:

— Хух! Ледзьве дабіліся!

— Вы кажыце, чаго вам трэба, а хухкаць будзеце сабе дзе на вуліцы.

Раман пачырванеў.

— Ды наконт арэнды ж.

— Якая арэнда?

— Ды пра маёнтак.

— Вам, відаць, да Земаддзела трэба, а вы ў мяне час адбіраеце. Яшчэ хто там?

— Ды як жа, таварышу, калі ж гэта да вас.

— Не замінайце, таварыш! Звярніцеся да дзяжурнага.

Раман глянуў на Мікіту, а той на яго, і абодва разам занепакоіліся:

— Во, каб цябе немач перакаціла, яшчэ і не ўправімся за сягоння.

Зноў пайшлі ад стала да стала.

У калідоры на крэсле без адной ножкі знайшлі хлапчука.

— Дзе ж, яго чэрці, тут дзяжурны?

— Я.

Раман аж плюнуў:

— Ці бачылі такую аказію: гэта ты наконт арэнды ведаеш, ці што?

Хлапчук выцер рукавом востры, як у вераб'я, нос і вырашыў абразіцца:

— Па-першае, на падлогу не плюйце, гэта вам не царскі рэжым, а па-другое, дзе ваша заява з адпаведнай гербавай маркай?

— Заява?

У Рамана і рукі апусціліся.

— Не, мабыць, перш давай закурым.

Кончык носа падскочыў, і ластаўчынае аблічча адразу забылася абразу.

— І мне можна? Ой, ой, гэта саматрэст, дазвольце больш узяць?

— Бяры.

— Слухайце, калі вы што аб арэндзе, дык гэта да новага ўпраўляючага. Вунь да яго дзверы.

Чуць толькі ўступілі ў кабінет, як апатычнае аблічча ўпраўляючага раптам абярнулася да іх, нібы аблупленая памаранча.

— З Мазалёўкі? Хто яшчэ? Хто? — Памаранча пачала вянуць.— Назар?

Знікла памаранча, а на тое месца да мазалёўцаў стырчэла ўжо шэрае аблічча, нібы сякера, прыціснутая абухам да спінкі крэсла.

— Так, мне даручана здаць у арэнду, але (пра сябе падумаўшы: «Якога чорта Андрэй не ідзе?»), але гэта прыдзецца, мабыць, да суботы пачакаць.

— Куды там чакаць, таварышу, калі ось зямля ўжо, як порах. То ж лішнія два дні гэтыя і гадуюць людзей.

Упраўляючы стукнуў сваім абухам па крэсле, перарэзаў усмешкай, як шчэрбінай лязо сякеры, і сказаў:

— Добра. Па дванаццаць пудоў агулам, і ні фунта меней.

Мазалёўцы ўспомнілі раду: таргуйцеся.

— Па восем,— кажа баязліва Раман.

— Дванаццаць.

— Восем... ну — дзевяць.

Аблічча ўпраўляючага рабілася яшчэ вастрэйшым.

— Дванаццаць не даеце?

Перапуджана зірнуў Раман на Мікіту:

— Ды мы вось пойдзем параімся.

Выйшлі, яшчэ раз скруцілі па цыгарцы. Потым Раман плюнуў скрозь зубы дый кажа:

— Яно, як памеркаваць, што маргоў з трыццаць ёсць ужо гатовай, дык нібы і нічога.

Мікіта асцерагае:

— Глядзі, бо то, відаць, жулік сядзіць, што таргуецца: вочы так і шныраюць.

— Ну, дык як ты думаеш? — цягнуў сваё Раман.

— Кажу ж табе — жулік.

— Ды я пытаюся наконт цаны?

— Глядзі, каб толькі не аб'ехаў — вот і ўсё.

— Дык і ты ж зважай.

— А мне хіба што, я сабе так: кажуць — едзь, чаго ж і не паехаць.

— Ну, па дзесяць можна, я думаю,— злуецца Раман.

А Мікіта як бы нішто ні ў чым:

— А ўжо ж, гэта так: скажуць па дзесяць, то і па дзесяць дасі.

Дакурылі цыгаркі ды зноў у кабінет.

Упраўляючы сядзіць, надуўшыся, як індык.

— Дванаццаць.

Хоць ты кроў з носа.

Раман чухае патыліцу, а Мікіта не зводзіць вачэй з рук упраўляючага.

— Значыць, і па дзесяць не будзе?

— Нават і па адзінаццаць, не то што па дзесяць.

Раман ужо скрабе патыліцу (сказана ў Мазалёўцы, «бярыце»):

— Ну, ты як, Мікіта?

— Ды я ўсё бачу.

— А каб па дванаццаць?

— Ды ўжо сколькі скажуць.

Упраўляючы раскрыў срэбны партабак. Папяросы, як свечачкі парафінавыя.

— Бярыце, таварышы!

Раман узяў і, затаіўшы дух, прыкурыў. А Мікіта толькі вока прыжмурыў на залатую манаграму.

— Ну, дык што,— намагаецца ўпраўляючы запытаць усмешкай,— пішам кантракт?

— На ўсю?

— Да шматка, каб я і сцежкі туды не таптаў.

Надрукавалі ўмову і зачыталі:

«... Такого-то года и месяца гр-не хутора Мозалевки Роман Шкандыба и Никита Бубна заключили...» і г. д. і г. д.

Раман глядзеў проста ў рот упраўляючаму. Мікіта разглядаў па сценах плакаты, а ўпраўляючы трайкатаў, як барабан:

«...В том, что они берут...»

Дачыталі.

У Рамана скакалі ў галаве: «валюта, товарный рубль, издержки, операционный план и тысяча двести пудов пшеницы». «Як бы яшчэ раз паслухаць»,— думае Раман.

А ўпраўляючы зноў папяросу і з усмешкай, як з новай капейкай:

— Падпісваем?

І першым расчыркнуўся на ўвесь аркуш: «Упаўнаважаны Заготконторы...», а далей былі толькі хвосцікі.

Раман думае: «Яшчэ за дурня палічыць». Бярэ пяро і сабе пасля «Роман Шкандыба» цягне хвосцік.

А Мікіта нічога не думаў, выцер аб галаву пяро і моўчкі пагрэмзаў недзе на друкаваным месцы.

Узялі копію, з'елі каля воза па акрайцы хлеба і паехалі да Мазалёўкі.

Мікіта і на возе ўспомніў:

— Ну і жулік, відаць, гэны, што падпісваў, спецыяльны жулік: бач, які хвост закруціў. Глядзі, Раман, каб не аб'ехалі!

— Ды ты ж чуў, што чыталі.

— А нешта яго разбярэш: балбоча, як індык той.

Потым засланіў даланёй вочы ад сонца і ўтаропіўся на шлях.

— Ці не Андрэй гэта коціць?

Прыгледзеўся і Раман:

— Ён і ёсць.

Хутка зблізіліся вазы. Заёрзаўся Андрэй на мяшках, а Раман як бы аж усцешыўся:

— Ну, дзядзька Андрэй, вось зямелька,— і кантрактам памахаў.

Каб гром на месцы распластаў Андрэева каня, і то меней было б здзіўлення ў яго вачах. Паспеў толькі гукнуць:

— Што? — і наўскокі ў горад.

## IV

У горадзе радыётычкі ў неба і — Еўропа ў маленькім пакоі, а на сяле радыё — Хімка: хустку на галаву і — саро-кай цераз тын:

— Чулі?.. прыехалі... узялі ў арэнду!

І праз пяць хвілін у Рамана поўна хата.

Сваты Андрэевы спачатку ў сенцах тапталіся ды паціс-калі плячыма: штосьці не маглі ўцяміць, а далей і ў хату зайшлі.

— Ну, што вы прывезлі? Расказвайце.

Раман сёрбаў халодны боршч і адчуваў сябе героем: для грамады клапаціўся.

— Што прывёз? — Дастаў паперыну і кінуў на стол.— Зямлю прывёз. Вось наце, чытайце.

Ігнат (быў калісь ротным пісарам) пахахоліў чуб і пачаў чытаць. Слухаюць мазалёўцы, слухае і Раман: «Все налоги и продналог, еще и по двенадцать пудов с десятины и тысячу двести пудов неустойки...» Забегаў вачыма па тварах — насупіўся.

А сваты Андрэевы:

— Значыцца, і за аблогі, і за сажалку таксама па два-наццаць.— Перасміхнуліся, быццам козыра прыкупілі: — Добрая табе камерцыя — бывайце!

Выйшлі, а за імі зрушыліся і іншыя.

Раман схапіўся — аж боршч пад стол.

— Куды ж вы, а наконт зямлі?

— Каб па тры, ды каб чыстая, без налогаў, тады я хоць і ўсю, а так і пядзі не трэба.

І таксама з хаты.

Іншыя самі з сабой:

— Можна ўжо і па пяць даць, але ж не за аблогі. На грачанішчы то і я вазьму.

Ігнат яшчэ раз пахахоліў чуб і зняважліва кінуў:

— Эх вы, галовы палісаднікавыя, куды ж ваша абраш-чэнне было, як кантракт падпісвалі? Ну, мы набярэм, акурат, па дванаццаць за пахань, а няўгоддзі, абратна, каму заста-нуцца? А гэта прапорцыя.

Рамана абсыпала гарачым прыскам: людзі выходзілі.

— Дык чаго ж вы нюхі адварочваеце? — крыкнуў ён услед.— Усёй жа грамадой бралі!

Сусед кінуў ужо з сяней:

— А я падпісваўся?

Гэтага толькі і чакалі тыя, што шапталіся яшчэ ў хаце:

— Вось жа і мы кажам: «Хіба ты нас спісваў? Дзе гэта відана? Ці ты думаеш, што бядак мае з чаго і па дванаццаць заплаціць? Папрабуй сам пагаспадарыць, калі гэта так узяў?»

Раман схапіў кантракт.

— А гэта што? Вось напісана ўсё, брат!

Вочы скакалі з радка на радок. Аб сябрах ані слова: умова складзена была толькі з ім ды з Мікітаю.

Холадна, горача.

Пасунуўся на покуць.

А людзі — былі, няма.

Каля парога раптам загаласіла жонка. Яе сэрца адчула бяду раней, чымся ўцяміў муж.

Раман зваліўся галавой на стол, і раскудлачанае валассё заскакала па разлітым баршчы: «Шэсцьсот пудоў цераз тыдзень. А дзе іх узяць? Ну, цялушка, ну хата... а потым з жабрацкай торбай?»

Прыходзіў Мікіта. Яго ўжо лаялі на вуліцы.

Раман пазіраў чырвонымі вачыма і пытаўся:

— Дзе ж былі хоць твае вочы?

— А хіба ж я не казаў, што жулік?

— Што ж цяпер? Цераз тыдзень тэрмін.

— А мне што, народ, значыць — і паехаў!

— А як у суд пацягнуць?

Мікіта, як і не лыс.

— З голага, што з святога.

Раман замаргаў, строс на дол штосьці падобнае да расы і адвярнуўся.

Жонка ўжо адгаласіла першы боль і пачала вастрыць злосць, як мянташкай касу.

— ... Дурнейшых на ўсю вёску не знайшлося,— пырскала яна.— Вот мы, знакам тым, зробім. Цэлы век ніхто не мог, а мы за дзень... Куды ж, бач, разумныя, як Бэркавы штаны!

Мікіта пазіраў скоса на вялікі жывот Аксаны і думаў: «Хлопчык ці дзяўчынка?»

А Аксана не ўнімалася:

— Злыбеды мала, бач, зазналі, дык трэба яшчэ, каб па патыліцы з хаты далі.

Рамана гэта быццам тупой пілкай пілавала.

— Аксана, хоць ты перастань, і без цябе ўжо цяжка!

— Не, не пакіну, як будуць апісваць, то і маіх падушак не памілуюць, а дзеці хай тады за торбу ды за падай-божа пад парогамі вымальваць?

— Чаго там апісваць,— устаўляе і Мікіта.— Хіба ж народ дапусціць?

Лепш бы на ражон наткнулася Раманава сэрца. Ён злосна грымнуў кулаком па стале.

— Народ, кажаш? Хто, Андрэй ды Лукаш ці Кандрат за цябе заступяцца? А як жа? Яны возьмуць зямельку, скажы толькі, што нязмога твая — з горлам выдзеруць, ды табе толькі фігу дадуць. Куды ж, бач, з рук галаты браць; не, ім трэба, каб мы прыйшлі да іх ды пакланіліся: «На вас, казаў той, толькі і надзея...» А не дачакаюцца яны, павукі праклятыя!

— А як жа? — перакрыквала Аксана.— У нас і без іх ад збожжа засекі трашчаць!

— Не мяшайся, Аксана.

— Цяпер не мяшайся, а як ехаў, дык апошнюю капейку выдзер.

Раман яшчэ зласней ударыў па стале:

— Не ўтыкайся, куды морда не лезе, кажу табе!

— А як апісваць, то...

Раман звар'яцела размахнуўся і бухнуў яе ў жывот.

Ойкнула Аксана, вочы пад лоб — і асунулася каля стала.

Мікіта націснуў на вочы шапку, паглядзеў на вялікі Аксанін жывот (падумаў: «Восьмае») і выйшаў з хаты.

## V

Першыя гулі спраўляла вясна: полем дулі голыя ветры, у аксаміт прыбіралася па вечарах ралля.

Штораніцы мазалёўцы, як на кірмаш, ехалі на поле. На пуцявінах тады да малінавых адвячоркаў маячылі калёсы, а коні — сыльвэткай на чорным полі. Вярталіся дамоў мазалёўцы, абсмаленыя на вугаль, з моцным пахам зямлі.

А Раман сядзеў адлюдкам каля стала і азіраўся панура ў цёмны куток. Вострая злосць, як бітыя шкелкі, калола ў грудзі. Хацелася заціснуць усю крыўду ў кулак і грымнуць ім або сабе па галаве, або во гэтае спакойнае сяло, каб ад яго засталася вось гэта адна дробязь. Можа, хоць яна ўжо не будзе падобна да сваіх хцівых бацькоў... «Ну, я вас правучу,— ківаў ён у вакно,— вы пазнаеце, як чужымі рукамі жар заграбаць!»

А напасць агніла яшчэ больш: у хаціне, у муках раджэння, стагнала Аксана.

Заходзілі вечарамі суседзі, раілі: «Бяры сам, а потым ад сябе. Можа, і не заробіш, але ж і ў страце не будзеш». Раман тады гаварыў: «А ўжо ж што так, прыставай да

кампаніі». Сусед браў шапку і нізка кланяўся: «Дзякуй вам»: гэта знача — «Не мела баба клопату, дык купіла парасё... Куды ўжо нам непісьменным».

Раман схопліваўся і, як злоўлены звер, насіўся па хаце: «А-а, непісьменны? А як ад пані бралі, дык аб гэтым не думалі. Добра ж: гаўрылаўцам аддам, чорту, д'яблу аддам, сябе звяду, а не пакланюся вам, рылатым».

Найпазней заходзілі такія, як і ён.

А чым яны парадзяць? «Мы ж не адмаўляемся, хіба нам не патрэбна паша, ці што; але што ж, калі нязмога наша: дарага».

Адзін толькі Назар, як сякерай, сек:

— Трасца вашай матары! Не я казаў: «Складайма незамож», дык не — баяліся, што галотай пачнуць дражніць, усё ў мардатыя перліся.

— Ну, дый што б твой «незамож» зрабіў?

— Што? Патрапіў бы каму след на пуза наступіць, і збожжа усё б да функціка было. І іншыя б сцежкі знайшлі.

— Ну, ужо разляпаўся, ты лепей скажы, што цяпер рабіць?

— Браць ды сеяць.

— А плаціць жалудамі?

Назар вызверыўся:

— Ну, дык к чорту кантракт. Вот яшчэ марнота безгаловая сабралася.

— Дык падпісана ж!

— А можа, гэта элемент які, што кантракт пісаў. Хіба іх мала да савецкае ўлады прысмакталася?

— Элемент? Валадзімір нейкі, а не лімэнт, а далей чорт яго знае — можа, і лімэнт які.

Назар пагрыз ногці, і раптам:

— Стойце, таварышы, вы зложылі ўмову на пяць валок, а там столькі і ў заводзе не было, гэта я і без плана дакажу.

— План?

— А ён ёсць такі? Вам паказвалі яго?

Раман увесь час падпіраў далонямі галаву і горача ўсоваў рады, а на апошнія словы нават галаву падняў:

— План?

Аж вочы засвяціліся зоркамі:

— Няма плана, гэта і ў канторы казалі, што згарэў, мабыць, у маёнтку.

— Глядзі яго, што за Назар, і прыдумае.

— Ну, дык што ж цяпер?

— Давай, казаў той, пяць валок і ні лапіны меней.

Заходзіў зноў Мікіта. Раіліся і вырашылі: на раніцу ехаць у горад.

За два дні першы раз ушчыпнуў Раман крышку хлеба і цераз сілу яго праглынуў.

## VI

Па гары, па гары, цераз даліну, направа — сталыпінскія хутары, а побач з дарогай, тыкаючы ў неба аглоблямі, віднеліся на пуцявінах вазы. Па-над сіняй паласой клубкамі ўздымаўся пыл. Шлях у горад. Блізка, а воз туркоча нудна і назойліва.

Раман звесіў ногі цераз драбкі і бязмысна глядзіць у зямлю. Учора як бы праяснілася ў галаве, а сёння ён зноў віўся, як у цянётах: «Ну скажу — зацямненне на мяне найшло, няхай цягнуць у суд... А можа, такі змілуюцца: няўжо астатнюю цялічку прадаваць? Ну, з мяне цялічку, а з Мікіты — душу возьмеш ці дранай світкай дзірку заткнеш?»

Сэрца ныла з абразы — для грамады ж клапаціўся, не для сябе. А лес наперадзе ўсё яшчэ сцелецца.

...Калі Раман і Мікіта заявілі ў канторы, што на такіх умовах не возьмуць, то ўпраўляючы, смеючыся з-пад вусоў, адказаў ім коратка:

— Бачылі, што куплялі?

Мазалёўцы хапаюцца за апошняе:

— Там не будзе пяць валок.

А ўпраўляючы забегаў, было, вачыма, а пасля як шылам:

— А ў кантракце што сказана: «Более или менее, сколько окажется». Так яно, хлопцы, а цераз тры дні не ўнясёце палавіны — хадзеце ў суд.

Рамана гэтыя словы рэзалі, як па жывым, і ён упарта цвярдзіў:

— Няма там пяць валок, як хочаце, і «более» і «менее» няма там...

Мікіта зірнуў з-пад ілба на вострый твар упраўляючага і ўспомніў штосьці падобнае з Назаравага.

— А як мы пойдзем да самага таварыша начальніка,— неяк неспадзявана выгукнуў ён.— Можа, тут лімэнт завёўся?

На гэта ўжо вызверыўся ўпраўляючы:

— Хоць да трох чартоў! А яшчэ арандатары, думалі, мабыць, што і ўвесь век будзеце кроў смактаць з пралетарскай рэвалюцыі? Не, галубочкі, дарэмшчына мінулася. Цяпер тав. Ленін пра такіх, як вы, казаў: «Няхай абрастаюць, а мы

будзем іх стрыгчы». Дыктатура, брат, пралетарыята, а не арандароў... і за такія выразы пры «исполнении служебных обязанностей», якімі ты абражаеш мяне, цяпер і начальнік не памілуе.

У кабінет начальніка пайшоў ужо сам Раман. Мікіце нешта прыспічыла курыць.

— Сяўба ўжо праходзіць,— кажа начальнік,— а вы цяпер адмаўляецеся,— так, таварышы, няможна. Няма там пяці валок — мы вам не ворагі, праверым, вылічым. А ўмова складалася для таго, каб прымушаць выконваць абавязкі. Будзем правяраць!

А ў кантракце — «более или менее».

VII

Людзі сеялі, агародніну садзілі, а Раман хадзіў, як адлюдак. З тыдзень, як у хаце не палілася, не варылася.

Аксана пасля мёртвага дзіцяці і сама чуць дыхала.

Галодныя і замурзаныя малечы скігаталі праз цэлыя дні каля ложка на зямлі, на зямлі і засыналі.

«Хоць бы гром ударыў у мяне, або што,— думаў Раман,— чаму ж гэным мардатым не іначай і чэрці памагаюць дзяцей калыхаць. А тут не паспеў з парабкоў выбіцца, на табе — хата згарэла, узняўся на ногі,— ідзі на вайну зямлю абараняць. Ну, я ж абараняў. Дык дзе ж тая зямля? Досыць і таго, што мне асколкам бок пранізала. У-у!..»

Як старонкі кнігі, пачынаюць скакаць павекі, а за імі і думкі: «Чаму прыгавару не ўзяў? Ну, няхай, можа, на мяне зацямненне найшло, дык я ж быў адзін, ды яшчэ можна сказаць, Мікіта, а вас жа цэлая грамада... Ды на чорта той і прыгавар, калі вы сумленныя людзі!»

Не павесяліў Рамана і каморнік, якога прыслала кантора... «На галаве значок блішчыць, а ў галаве што? Або ж яго правераш: калі захоча, столькі і налічыць».

Разам з каморнікам прыехаў і нейкі маладзенькі ўпаўнаважаны ад канторы, Раман яму проста сказаў:

— Дарма гэта ўсё робіцца, таварышу, перадавалі б у суд адразу, дый годзе.

Хацеў упаўнаважаны пажартаваць, ужо і вочы паскаліў, а зірнуўшы на Рамана, толькі прагаварыў:

— Ці чуеце, абойдзецца неяк, не турбуйцеся; а над кантрактам, таварышу, яшчэ і рэвалюцыйнае сумленне ёсць.

Не зразумеў Раман і безнадзейна рукой махнуў:

— Хай абходзіцца, мне ўжо ўсё роўна, хіба для другіх будзе навука, як грамадзе служыць.

Каморнік апатычна аглядаў пакрыўленыя сцены і бледныя на іх парасткі раслін. Голы вецер на полі прадзьмуў наскрозь яго тандэтнае паліто і падобнымі да гусячых лап зрабіў чырвоныя рукі. Галодная фантазія гарадскога чалавека яшчэ ў дарозе намалявала перад ім варанае, смажанае і печанае, але на гэтым незасланым чорным стале быў толькі густы насціл пылу. Дзеля гэтага змярканне, якое сунулася на вокны, было не пазбыта нудным і тхнула каціным памётам.

Гутарку, якую намагаліся весці ўпаўнаважаныя з Раманам, цягнулі яны нудна і бязвольна, як бы толькі для таго, каб пад дзырканне цвіркуноў не думаць аб смачнай вячэры ды мяккай пасцелі.

Каморнік сядзеў каля соннага вакна і толькі раз запытаўся:

— За горла, значыцца, бярэ ўжо чужаніца, а камнезам жа дзе ваш? Ці вы думаеце і сваімі сіламі справіцца?

У голасе яго клекатала злосць.

Раман на гэта аж выскаліўся.

— І вы тое ж? Ды на чорта нам той незам! Нам хлеб патрэбен, збожжа, таварышу, патрэбна, ды каб мы аднэй думкі былі. А то, бачыце, злыдні не іначай, і галаву ва ўсіх адабралі... А вы — незам!

Каморнік сярдзіта плюнуў на падлогу і, пляскаючы далоняй па кулаку, затупаў па хаце. Калі хто зацягваўся цыгаркай, вогнік мітусіўся кожны раз на медзі яго значка і непакоіў Рамана. «Хіба яго праверыш? Колькі трэба, столькі і налічыць».

І мазалёўцы таксама думалі: «Захоча — абдурыць». Параілі Раману хоць цяпер пільней пазіраць. Раман на гэта толькі махнуў рукой.

Тады даручылі Ігнату запісваць «чыста ўсё». Тут жа папрасілі ў каморніка аркуш паперы.

## VIII

На другі дзень да самага вечара былі на мяжы. Маладое поле пахла сонцам і зялёнай крывёй раслін, ад чаго чырвоная кроў у людзей рабілася бурліваю і неспакойнаю. Парабчукі, якія за тычкамі, скакалі цераз канавы, як падцёлкі, шчабяталі глупствы, і іх маладыя галасы звонка адбіваліся ад лесу. Ужо і на Мікітавым твары зайграла спакуса вясны.

— Ігнат, варон не лічы,— кідае ён прысутным.— Глядзі, вунь каморнік цэлы морг у кішэню пацягнуў.

Ігнат заклапочана паднімаўся з зялёнага долу, настойліва тыкаў свой нос у каморнікаў нататнік, жмурыў вочы над трубкай, пасля праз кулак і ўсё пісаў сабе на паперцы.

А Раману да ўсяго гэтага было хоць бы што. Ён, шэры, з адтапыранай, як шарсцінне, барадой, сядзеў апушчэнікам на купіне і глядзеў некуды далёка па-за межы гэтае зямлі.

Раніцой прыходзіў і Назар Кардаш. Відаць, за ноч ён нешта надумаўся, бо гаманіў яшчэ больш разбітна і самаўпэўнена. Пад канец кінуў нават з пагардай:

— Эх вы, гніды, а не граждане — вас яшчэ толькі ногцем, а вы ўжо ракам, а дзе ж жалезная рука рабочых і сялян?

Потым падышоў да Рамана і раздразліва запытаў:

— А ты ўжо здыхаеш? Хоць да вечара пачакай... и яшчэ грамадзянін!

Зеленкаватыя яго вочы, як шкелкі тэадаліта, востра бліскалі над пабітым воспаю тварам.

А Раман як бы нічога не чуў, тады Кардаш плюнуў сабе пад ногі і з мяжы звярнуў да Гаўрылаўкі.

У палудзенны час Ігнат забыўся пра абавязкі кантралёра, засунуў за халяву свой нататнік і паплёўся на сяло абедаць.

Назад Ігнат вярнуўся, калі ўжо праца на полі была скончана, але ён паспеў яшчэ патаптацца важна каля тэадаліта і паставіць у «нататнік» яшчэ адну палачку. Услед за гэтым з палавіны свайго «нататніка» ён скруціў казіную ножку і, лічачы даручаную справу ўжо закончанай, уздыхнуў з палягчэннем.

Вечарам з мяжы пайшлі зноў да Рамана.

Ішлі панура і моўчкі, як бы разам з вячэрнімі змрокамі насунулася і думка аб нейкім незразумелым для іх новым жыцці. Хто яго тварыў? Яны аб гэтым не думалі, а толькі адчувалі, што і Мазалёўка ўжо скаламуцілася, як паводка ў часе вясны.

Каля Андрэевых варот стаялі коні, на якіх ездзіў упраўляючы. Прыкмеціўшы людзей, што надыходзілі з поля, шэрая фігура ў капялюшыку з аблезлым калібры мітусліва ссунулася з брычкі і знікла ў дзядзінцы.

Калі выйшлі на дарогу, упаўнаважаны ад канторы, быццам аблічыўшы ўжо вымер, звярнуўся да Рамана:

— Цярпі, казак,— атаманам будзеш. Глядзі, яшчэ кантора цябе стане прасіць, каб хоць на восень забраў.

— Няхай хоць і дарам аддаюць,— крывячы губы, адказаў Раман,— мне цяпер аднолькава: тое, што я за тыдзень выцерпеў, ужо не адкупіш пудамі.— Потым дабавіў, памаўчаўшы: — А зямлі нам не браць...

На парозе сустрэла заплаканае дзяўчо:

— Тата, мама кажа свечку ёй даць у рукі, а я не ведаю, дзе яна?

У цёмнай хаце пачарнеў шэры вечар і дыхнуў вільготнай задухай.

* * *

Праз увесь час, пакуль каморнік напаў са злосцю цокаў на лічніках і выводзіў каля падслепаватай газоўкі лічбіны, Раман толькі раз зайшоў у гэту хату.

Папароўся ён за абразамі, заглянуў у шафу і выйшаў некуды ў бакоўку. А суседзі, вяртаючыся з поля, забягалі на святло газоўкі, прыглядаліся да каморніцкіх вылікаў і смяяліся з Ігнатавай арыфметыкі.

— Акуратнюсенька так і ў яго было,— і ехалі сабе дамоў.

Дзверы не зачыняліся, бо на месца выйшаўшых прыходзілі другія. Дзе хто тыкаў у паперыну заскарузлымі, як пудзіла, пальцамі.

— Во, бач — аблогі. Будзе хоць куды на пагулянку хадзіць Раману.

Прыйшоў і Назар Кардаш. З ім было яшчэ двух з Гаўрылаўкі. Паглядзеў Назар на план і цвёрда запытаўся:

— Ну, колькі намералі?

Каморнік заклапочана адмахнуўся рукою:

— Паспееце.

— Ды нам усё роўна, колькі там ні будзе, але гэтыя таварышы з гаўрылаўскага «незаможу»,— і ён кіўнуў на тых, што зайшлі разам з ім,— дык яны, значыцца, усе да кампаніі прыстаюць.

— А не — дык і самі,— дабавіў адзін з гаўрылаўцаў.

— Дзе Раман?

— Ды ён, мабыць, каля бабы.

Каморнік нарэшце цокнуў апошні раз на лічніках і з відавочным задавальненнем запытаўся ў свой чарод:

— Ну, дзе гаспадар? Хай за пляшкай пасылае.

Дзядзькі заварушыліся і прысунуліся да стала.

— Колькі ж яно там паказвае?

— Ці так, як па-нашаму?
— Без пляшкі не даведаецеся.
— Ды гэта не цяжка,— у Хімкі дымілася...
— А ўсё ж такі?
— Маргоў на сем аблічылі?
Каморнік зрабіў доўгую паўзу, потым быццам туза прыкупіў:
— Больш.
Дзядзькі радасна захваляваліся:
— Ды дзе ж той Раман?
Гукнулі.
Ніхто не адклікнуўся.
Заглянулі ў бакоўку і аслупелі.
На брудным ложку ўжо са свечкай у руках ляжала Аксана. Яе амярцвелыя вочы шкляным бляскам быццам уляпіліся ў столь.
Рамана не было.
Назар заварушыўся:
— Дзе бацька?
Дзеці перапалохана заверашчэлі і папаўзлі да матчынага ложка ў цёмны куток.
За Назарам хутка выйшлі на двор.
Яшчэ раз гукнулі.
Ціха.
У клуню чорным атворам зіялі вароты.
Кінуліся туды.
...З бэлькі на лейцах звісаў Раман.



# ПАСТУХ

*Стэпавая легенда*

*З украінскай — А. Любчанкі*

## I

Сонца ўсім раздувала маладыя грудзі, налівала жылы п'янай смалою,— ой, плылі ў блакіт зялёныя прасторы без канца, без краю...

Сакавітыя дні праходзілі пахуча, падалі ў бязвесці ночы, і росная прамаразь у стэпе ад змяркання аж да світання,— ой, плылі ў блакіт зялёныя прасторы без канца, без краю...

Перабеглі росамі дзікагрывыя коні, а за імі стогалоса табуны людзей — запалалі вагнішчы, зачадзіў пыл над стэпам.

...Угары ж — багацце на ўсё неба. А ён да багацця вышчарыў зубы і размінаў, шчаслівы, на руцэ сваёй мясістае лапушынне. Зялёнасокам цягліцы паціраў і нюхаў цягліцы,— о, ён добра ведаў, як пахне сонца.

Гэтак меўся ў прасторах смуглявы Вар.

Зашасціць кавыль — ужо драпежнікам прыехаў, распазнае:

Заяц.

Ліс.

Скок на каня і — наўздагон.

Вецер юнаку проста ў грудзі: стой!

— Стой! — і размахнецца на ветраных касмыках.

— О-е-й! — з далёкіх пушчаў — о-е-й! — а юнак толькі смяецца.

Гнеўны пярун па хмарах тут крэсне і неба маланкай пора, пора; пастухі спалохана на зямлю ніц,— а шалёна імчыцца ў далечыню, імчыцца і выпінае супроць ветру, расхрыстаныя грудзі — на!

Гэтак вырастаў у прасторах смуглявы Вар.

II

Мора зеляністае... авечак табуны... А за імі: гэй ды гэй! Нявольнікі-пастухі.

Яны б пагэйківаць не рады, ды вунь шатры: там пісагі, нагаі, там князь пракляты між дзевак сядзіць і п'е віно, а збройнае таварыства да ног яго паблізу сыпе рогат.

І думаў Вар: «Няўжо ж гэта без князёў не можна?»

— О-е-й! — з далёкіх пушчаў.

Мора зеляністае падхапіла і панесла — о-е-й,— і больш нічога.

Няўжо ж не можна без князёў?

Зацвітала зямля потам і падала ў бязвесць ночы. І зноў цэлую ноч з княжых шатроў гул-гоман трывожны аж месяц кавылі хіліў, аж гойсалі з перапуду коні.

Няўжо ж не можна...

III

Перапоўніла жылы п'янай смалою — занялася агнём семнаццатая вясна.

Абняўшы зямлю рукамі, чакаў пастух сінявокую пастушку. Яна ўжо ішла, усміхалася прыветна і аглядалася на шатры.

— Лаан! О, ідзі ж, Лаан!

Усміхалася прыветна, старажліва аглядалася.

— О, ідзі ж!

Кумыс шмыгануў па жылах — схапіў яе на рукі Вар і імчаў, як вецер, аж пакуль не ўпалі ў знямозе...

— Вар... Вар...

...А яшчэ мёд на зубах, яшчэ і густа пахлі косы...

IV

Гэй, палавілі жаўтаполыя пляшыўцы, гэй, на ўзбярэжжы каля гарадзішча...

Прадавалі Вара чужынцам за персцень залаты.

Гэтак недаторклівы грывач паводзіць бліскавічным вокам,— церпіць, маўчыць, вычэквае...

...А там недзе п'яна пахла лапушынне, мядова пахлі косы.

Што?

Не.

Раз-раз! — ірвануў, разбіў, каго ў жывот, каму пяском засыпаў вочы...

— О-е-й,— захвалявалася пляшыўё,— о-е-й,— стралою ў стэп.

...Ужо як пакінулі ўзгор'і прыморскія, як вярталіся качавішчам, злавілі Вара.

— Дык ты ўцякаць?..

Ятрыліся доўга раны — залізваў, зямлёю прысыпаў і вышчыраў да багацця зубы.

А выхадзіўся — як бы не той юнак, як бы напаўпаморак: таемна, абыходам, вачыма ў зямлю.

І толькі як гаманілі аб занядбанай пастушай долі, як з барадатых сыпаўся мох, а з маладых бура,— бушаваў бурай Вар.

— Нашто нам князь і збройнае таварыства? Нашто?

Тады бровы нібы крыллі шулляковы...

Нашто?

## V

Не хмара нізка над стэпам, не дзікі табун раз'імчаўся капытамі,— гэта ў цьме ў начной драпежнікам падкрадаліся сарматы.

Досвіта тонка празвінела страла.

Узняўся ў табары трывожны гул, ды было яму позна: ужо вораг зрабіў сваю справу, ужо знікаў у тумане.

Чаму ж бо пастухі крэпка засыналі, чаму дабра княжага не даглядалі, ворага-драпежніка да табару падпускалі?..

— Нагаяў...

І раскацілася кавылём палахліва, рассыпалася гадзюкавым свістам...

Дзе спатыкнуўся, дзе ўпаў, там ужо шматкі крывавыя — не цела.

Дзе спатыкнуўся, дзе ўпаў...

Аж да вечара стогнам гайдала блакіт, аж да познай ночы Вар спалохана шуршэў па травах — доўга прыгнетліва стагнала ноч.

Упаў, скрываўлены, перад каменным бажышчам.

— Ты бачыш? Ты чуеш?

І плюнуў богу ў мёртвыя вочы.

—Ты...

Іржала ноч...

## VI

Князь наказаў рыхтавацца ў паход.

Лютым роем завіхрыла, дзынканнем, скрыгатам зацвіглі-ла — сякеры, дзіды на сонцы толькі бліс, бліс.

А віно ракою, і ў захліпе гарланіла збройнае таварыства, выхваляючыся зваяваць сарматаў...

Ды як наступала ноч — ужо Вар сярод пастухоў.

— Уцякайма. На што нам паход? Уцякайма.

— Куды?

— Ці ж мала нам месца? Будзем жыць самі, без князёў.

Адказалі моўчкі, поглядам на шатры.

— Дык хадзем на іх. Яны п'яныя, нас жа больш. Хадзем і паб'ем.

Шумавіннем шугануў шалёны заклік — іскрамі з вуснаў у вусны.

— Я з табою! — падбегла Лаан, а ў руцэ нож.

Запаланеліся пастушыя сэрцы, але думка падзялілася:

— Не час. Пачакаем трохі.

— Не, ідзем. Ужо даволі чакалі.

Падзяліўся, акаламуціўся гэты мурашнік — віхурай, вярніборам гул нястрыманы, доўгі гул...

— У-лю-лю! — раптам ударыла на сполах з шатроў, страсянула мурашнікам — і поўзам пацякло ў кавыль...

— Гэй, куды, страхапуды?

...Папаўзлі напуджаныя ў кавыль.

А ўжо звінела, тупацела з шатроў.

— Ну, памятайце ж!

Падхапіў на каня сінявокую — о-е-й! — навослеп ў далеч.

Наўздагон — толькі візг, драпежны посвіст арканаў...

## VII

— Ось вы якія...— прыжмурыў князь вочы, калі прывялі да яго ўцекачоў.

Доўга панавала маўчанне і праніклівa ўсмокталіся княжыя вочы ў Лаан.

— Прыгожая...— сказаў нарэшце,— упершыню бачу такую прыгожую... А каб не ўцякала, кінься ў мой шацёр...

Падцятай сцяблінкай упала, да ботаў прыпала:

— Усё што хочаш, усё што скажаш, толькі яго не забівай. Я вінна, я...

— Годзе! — піргнуў яе ў грудзі і да Вара: — А ты заўтра пойдзеш у паход... і калі ты папраўдзе такі адважны і калі хочаш жыць, прынясі мне з сабою сто сармацкіх галоў.

## VIII

Талачыла кавыль густая навала — стэп маўчаў...

Падалі ночы, уставалі дні, а стэп маўчаў, прыгожы і здрадлівы.

...Над Варам жа крылатая думка: дазнаешся, княжа, маёй адвагі.

Падалі ночы...

Так ось залунала далечыня чорнай муравой...

Ой, трывожна стагнаў сармацкі бубен, а на світанні ўжо як бы ні ў чым прабудзіўся стэп.

Не пярун красянуў крэсівам, рассыпаючы люты грукат, не вецер-завіруха пагнаў бярэмямі хмары, засланяючы сонца, уздымаючы стогны ў паветры,— смяротным пабоішчам стыкнуліся ў стэпе два неўблаганыя звяры.

Рынуўся табун на табун... крывёй задымелі травы...

— Дазнаешся, княжа, маёй адвагі.— І навальніцаю ўрэзаўся ў самую гушчу.

Вот ужо ля самюсенькіх княжых рук трушчыць варожыя галовы, от — размахнецца ў запале неаглядны юнак і ўгразне сякерай у княжыя рамёны...

Ды толькі спрытна адбіваюць яго руку верныя збройнікі, ніяк не ўлучыць.

...Сцягнуліся сарматы, рынулі цесным натоўпам — пачало княжае ваяцтва ісці ў россып.

Тут махнуў князь бэрлам: ураз увязалі да быстрага каня новую князёву каханку, Лаан сінявокую, саўганулі дзідай каня і пусцілі яго на сарматаў.

Хмарай пасунуў да ездака вораг, і як тое варанне, сыпнула ваяцтва з новай заўзятасцю.

Сторчгалавой кінуўся і Вар — толькі свіст завяз у вушах, толькі храсткалі косткі пад ударамі...

## IX

Апускалася змярканне — аж тады пабеглі сарматы, усцілаючы даліну трупамі.

Яшчэ доўга ўздыхала даліна, дасыта ўпівалася памрочная помста...

— А дзе той юнак, што ў баі загаціў мне дарогу падлінай? — гукнуў князь.

Прывялі Вара.

— На, ваяча, выпі з майго рогу, табе папраўдзе не бракуе адвагі!

— Так, валадыру, але бракуе спрыту. Я яшчэ не заслужыў з твайго рогу піць. Як заслужу, тады дазволь.

— О, як я бачу, ты слуга руплівы. Што ж, калі так, то з гэтага дня ты мой найбліжэйшы гайдук.

І кінуў яму персцень з сваёй рукі.

## X

Сакавітыя дні праходзілі пахуча, падалі ў безвесць ночы, і росная шэрань у стэпе ад змяркання аж да світання,— ой, плылі ў блакіт зялёныя прасторы без канца, без краю...

А там недзе: гэй ды гэй...

Там — пісагі, нагаі.

— Нічога, чакайце, ды толькі не прагаўкайцеся,— з шатроў пракрадаўся княжы гайдук,— цяпер я з вамі да астанку.

Але ў адказ — знявага, бо ведалі, як у шатрах выхваляюць гайдука, якую яму складаюць пашану.

— Пляці, гайдуча... Калі чужынцам прадавалі, ты ўцякаў, хаваўся, а цяпер за персцень сам прадаўся...

Разгневана запаляўся юнак, але ўжо словы завялым лісцем падалі на вецер.

І ішоў панура...

...На воўчых скурах песціў князь сінявокую пастушку, а ён нізенька схіляў галаву, ён цішком-крадком у траву і ў роспачы нажом збіваў на пену зямлю.

— Пачакайце! — тужліва сэрца морам зелянiстым.— Я ж буду ўцякаць, ш ж да астанку...

## XI

Была ноч, не пахлі мёдам травы, пахлі шатры кумысам, він0м ды потам...

Над чадным вогнішчам п'яны гул. Абымалі юнака ў разгуле, слінілі пацалункамі.

— У нашага князя гайдук, як пёс.

І непрытомна ў корчах падалі, засыпалі.

— Ой, гайдуча, не драмі...— гарачы шэпт пырхнуў панад вухам.

Аж гэта паўзла распластаная Лаан...

— Ён на сягоння і мяне прагнаў з шатра. Сягоння ён, нарэшце, сам. Ідзі!

Усхапіўся юнак, пайшоў.

(Дзесь толькі ойкнула сякера і ў чэрапе засела вечным сном...)

А выйшаў — захістаўся, як бы п'яны...

(Дзесь там гойсалі адурэлыя коні — іржала ноч...)

Яшчэ доўга кумысам крапілі чаднае вогнішча, смяяўся юнак доўга і шчасліва...

## XII

Раніцай брызнула сонца крыкам:

— Князь забіты!

Дзынкнула, бліснула ў табары жудасцю,— але хто ведаў?

— Князь забіты! — гучэла, каціласся ў прасторы.

...А ўжо наймілейшага князева гайдука і каханку схапілі, звязалі, ужо паспешна ўвесь табар у кучу зганялі, у жалобны паход выпраўлялі...

І паплыла цьмяная туга...

Падалі ў тугу ночы, згаралі ў санцавеі дні...

А світаннем карбаваў дзядуля свой склют, тры дзесяткі рубчыкаў накарбаваў — аж тады ўціхла рыпенне вазоў, стомлена паў на магілу жаночы лямант.

Глыбокую магілу капалі ў стэпе, каб ніхто не парушыў спакою ані грознага князя, ні яго найбліжэйшых — сінявокай Лаан і заўзятага Вара.

Толькі пастухі, засыпаючы тую магілу, добра ведалі, каго хаваюць, і маўкліва складалі вялікую прысягу.

* * *

...Табунамі разбегліся дні, разбегліся ў задуме вякі даўгагрывыя, а ў стэпах, пераможна апетых жалейкамі, яшчэ і дагэтуль стаіць магіла.

Праляціць быстракрылы над ёю, кране лапушынне... лапушынне не паспее схіліцца, а ён ужо, гэй-гэй, расчэсвае жыта...



# № 2002

*Апавяданне*

*З украінскай — А. Любчанкі*

Газета была ў вялікіх тлустых плямах, пахла газай, і Барыс Паўлавіч, беручы яе ў рукі, гідліва паморшчыўся.

— Ну, хіба ж так можна? Глядзіце,— памахаў ён газетаю перад самым носам Марты і, перабегшы вачыма па ёмкай падатканай постаці з закасанымі рукавамі, зноў паморшчыўся і пачаў дакараць: — Дый на сябе паглядзіце, хіба так можна? Усё ж такі вы кухарка, а ходзіце, як той з мазніцай. Хто-небудзь з публікі ненарокам загляне ў кухню — і ўцячэ... Ад аднаго выгляду ўцячэ... Ды мая нябожчыца вас і дня не трымала б. Колькі ўжо гаварылася — і ўсё як на вецер... Яшчэ і губы надзімаеце... А я маю права сказаць — я гаспадар, сталоўка мая, вы ў сталоўцы служыце... Значыцца...

— Ужо, ужо завялі,— перабіла нарэшце Марта.— Раз вы гаспадар, дык падсыпце грошай. Тады і буду чысцёхаю хадзіць. А што я вам газету папсавала, дык хіба ж я вінна? Нясеш з рынку ўсё ў кучы — ну, недзе і хлюпнула... Сумысля сапсавала, ці што?

І, крутануўшы спадніцай, выйшла.

Барыс Паўлавіч закусіў губы, паглядзеў ёй услед, паківаў галавою.

— Народ... ненажоры...— працадзіў ён паўголасам, і на твары адбілася патайна-ўшчыплівая думка.

Найчасцей такія натацыі перападалі дзецям, прычым Барыс Паўлавіч і перад імі любіў спасылацца на пакойную жонку, як на беззаганны прыклад, і дацінаў голасна, дабітна смакуючы кожнае слова, каб і староннія чулі. Любіў Барыс Паўлавіч пахарахоліцца, зайграць, як актор.

Сягоння ж хоць не было нікога з староннiх і хоць сам ён меў на сабе зашмальцаваную пару, але яго проста нервавалі матэрыяльныя няўдачы апошніх дзён, і ён быў гатовы да ўсяго прычапіцца.

Дый Марта, на яго погляд, была найлепшым аб'ектам для дакораў. Марту ён ставіў за стварэнне ніжэйшай расы. Як былы ўласнік пяціпавярховай камяніцы, ён падыходзіў да яе з пэўнай прадузятасцю ды з своеадменнай пагардай.

Барыс Паўлавіч разгарнуў газету. З таго часу, як узмацнілася рэвалюцыя, ён перастаў чытаць першыя старонкі і заўсёды пачынаў з абвестак, прамысловай хронікі ды рыначных кан'юнктур. Цікавіўся таксама рубрыкай «Здарэнні і злачынствы». А калі зазіраў далей, то хіба там была выключная навіна, аб якой гаманілі ў сталоўцы.

Над самымі «Здарэннямі», у вялікай шэра-сіняй пляме цягнуліся слупкі лічбін. Думаючы, што гэта нейкія новыя біржавыя вылікі, Барыс Паўлавіч, як слуп, утаропіў туды вочы.

Над лічбамі стаяла:

ВЫЙГРЫШНАЯ ЛАТАРЭЯ

Прачытаў, і рукі ў яго задрыжэлі. Хутка паправіў акуляры і зноў паднёс газету да самага носа.

Лічбы, лічбы, лічбы...

Хапіўся за кішэню, дастаў запісную кніжку і пачаў зваряць.

У яго, апроч сваіх нумароў, былі старанна занатаваны і таго-сяго з суседзяў ды знаёмых, што латарэю ўважалі за справу няпэўную. Падзяляючы на словах іхнюю думку, ён усё ж такі занатоўваў. Пэўна меў на мэце нейкія цікавыя меркаванні, і таму так трэслася газета ў яго руках і так нястрымна разбягаліся вочы.

Лічбы, лічбы, лічбы...

І ўсё не тое, і ўсё не тое...

Пад самым носам пахла нафтай, але ён гатоў быў цалаваць шэра-сінюю пляму, абы... што такое?

№ 2002.

Тут і там. Няўжо?

Працёр вочы, яшчэ раз глянуў.

Так, і тут і там — № 2002.

А ў запісной кніжцы проці нумару стаяла: Марта.

Хвіліну ён сядзеў нерухома, як бы прыкіпеў да крэсла.

Потым з-пад ілба агледзеўся і, злажыўшы газету, ціханька сунуў яе разам з кніжкай у кішэню.

На гэта ён ніяк не спадзяваўся. Запісаў ён амаль выпадкова, бо неяк толькі на момант паказалі яму білет.

Відаць было, што Марта білет хавае і да латарэі адносіцца з давер'ем, але як заўсёды, хаваецца ад усіх, як той слімак у чарапашыну.

Ён доўга не мог асвоіцца з думкай, што Марта выйграла. Некалькі раз забягаў у кухню, асцярожна кідаў на яе ўпарты погляд і кожны раз заўважаў у ёй нешта новае, на што раней і не звяртаў увагі. Кожны раз яна набывала ў яго вачах нейкіх дзіўных рысак — ператваралася, здавалася іншай.

Яму было прыемна, што да часу ён гаспадар такой цікавай таямніцы, але ў той жа час зайздрасць драпала пад сэрцам.

Марта заўважыла пільны погляд. Гэты погляд здаўся ёй трохі дзіўным, але зразумела яна па-свойму. Спачатку завязала на галаву чыстую хусцінку, спусціла ніжэй спадніцу. Але пасля надакучыла, што гаспадар назойліва круціцца ў кухні, і яна прабурчэла:

— Чаго б гэта я таўклася між гаршкамі?.. Ідзіце сабе адгэтуль, сам-дзеле...

Барыс Паўлавіч ледзь дачакаўся чацвертай гадзіны (так у газеце) і пабег у горад, у тое месца, дзе адбывалася латарэя. Распытаўшы, што і як, ён жывасілам праціснуўся наперад. На шчасце, напаткаўся знаёмы, што часта бываў у сталоўцы, і праз яго Барыс Паўлавіч пачуў дакладныя разведкі.

— Які, вы кажаце, нумар? 2002? — здзіўлена і неспакойна запытаўся той у Барыса Паўлавіча, звяртаючыся па нейкім часе з-за перагародкі.

— Так. 2002.

— Дык ведаеце што? Стопак чыстага золата ў чатыры фунты. Той самы, аб якім пісалася...

Барыс Паўлавіч пачуў, як гарачая хваля ўдарыла яму ў галаву, выступаючы потам на твары, як занямелі ногі, але стрымаў сябе і крыва ўсміхнуўся:

— Ды не жартуйце... Кажыце праўду.

— Ды ей-жа-ей... Ну, якія жарты? Можаце самі пайсці і пераканацца. Вось дык пашанцавала... Віншую!..

Барыс Паўлавіч запабегліва патрос галавой:

— Не, не, не... Гэта ж не я... Гэта прыяцель у мяне... Ляжыць, бедачына... А скажыце, калі ж выдаваць будуць?

— Цераз два тыдні. Прыходзьце — і магарыч.

Як звар'яцелы, выбег ён на вуліцу. Заўзята штурхаўся на ходніках. Спатыкнуўся. Амаль што не папаў пад трамвай. Нічога не разумеў. Нічога не бачыў — толькі падалі растопленым золатам вялізныя лічбы: 2002.

Калі ж узяўся за клямку сваіх дзвярэй і ўспомніў Марту, узбуджэнне ахаладзела, заціхла. Пастаяў крыху і пайшоў завулкам міма свайго двара.

Яго найбольш непакоіла, што Марта заўчасу можа даведацца. Сягоння яна яшчэ нічога не ведае — гэта ясна. Але заўтра ці то на рынку, ці дзе іначай напэўна ж пачуе і пачне дакопвацца. Тады будзе позна. Тады ўжо ніякім спосабам не выманіць у яе білета і прападзе — страшна падумаць — прападзе з-пад самюсенькіх рук гэткая сума. Колькі ж можна зрабіць! Адразу ўсе свае няўдачы задаволіць: сталоўку к чорту, замест яе рэстаран, кабарэ, прыбыткі... Страшна падумаць!

Але як дастаць гэты білет? Марта не такая ўжо недарэка — лёгка не выдурыш...

Доўга хадзіў Барыс Паўлавіч, і дзесяткі самых розных планаў грамадзіліся, раскідаліся ў яго галаве. Галава ўжо пачынала круціцца, у роце сохла як бы ад гарачкі, у вачах туман, і ў тумане вялізныя агністыя лічбы...

Сцямнела ўжо, калі пайшоў дамоў. Перамагаючы сваё хваляванне, штучна спакойна ўзяўся за штодзённую параніну. Але як толькі папалася на вочы Марта, сэрца ў яго зараз жа сціснулася — яна і не яна. Не Марта, а нейкая загадкавая, дзіўная істота. Нават не тое — нейкая кабалістычная чартоўшчына, жывы, рухомы № 2002.

— Марта,— злавіў ён яе ў праходзе за руку,— у мяне да вас ёсць дужа вялікая справа.

Яна здзіўлена глянула на яго і ціха, пакорна адказала:

— Добра.

* * *

Калі зачынілі сталоўку, дзеці ўжо спалі. Барыс Паўлавіч старанна зачыніў дзверы да іхняга пакою і нецярпліва на цыпках круціўся з кутка ў куток, пакуль не ўвайшла Марта.

Ветліва запрапанаваў сесці. Для бадзёрасці скруціў цыгарку, адкашляўся і пачаў:

— Тое, што я вам зараз скажу, вас вельмі здзівіць. Можа, і пакрыўдзіць, але што рабіць... Цяпер такія часы, што кожную хвіліну да ўсяго трэба быць гатовым... Вы, Марта, у мяне служыце ўжо два гады і дзіцё пры сабе трымаеце. Здаецца, нічым я вас не крыўдзіў, грошы плаціў акуратна, толькі за неахайнасць рабіў вымовы, як вось нават сягоння, але ж вы самі ведаеце, што...

— Барыс Паўлавіч,— раптам замаргала Марта,— я ўжо ведаю, да чаго гэта вы... Барыс Паўлавіч, я ж, даражэнькі, нявінна, бо работа мая такая. Ведаю я, што вы са шляхетных і чыстату любіце, але калі хочаце мяне за гэта штрафаваць ці адмовіць службе, то...

— Ды пачакайце, не гэта,— перабіў Барыс Паўлавіч,— вы лепей слухайце. Вы думаеце, мне сапраўды так важна, што нехта там з публікі пабачыць вас бруднаю. Думаеце, важна. Напляваць... А мне важна, каб вы, вы былі чыстая. Вы памятаеце маю нябожчыцу. Ані табе цярушынкі. Я прывык... Так... А цяпер паслухайце — я сам, у мяне дзеці. Вы такжа самі і ў вас дзіцянё... Я ўжо не малады і вы не маладая. Разумееце?

— Ой, матачкі, вы штосьці такое гаворыце, што я і баюся.

— Не бойцеся, Марта, я сумленны чалавек... Ашуканства мне ўжо не па гадах. Ужо колькі раз падштурхоўвалі мяне ўсе вам сказаць, але замест таго або маўчаў, або лаяўся... Ды што там доўга. Кажыце проста: пойдзеце за мяне замуж?

Марта аслупела.

А Барыс Паўлавіч падсунуўся да яе бліжэй, узяў за руку і, зазіраючы ў вочы, пачаў густа сыпаць словамі. Гаварыў аб тым, як яна будзе гаспадарыць у сталоўцы, як міла, спакойна яны будуць будаваць жыццё ды вучыць дзяцей. Гаварыў, што яна даўно ўжо ўпала яму ў вока, што любіць яе, у яскравых словах разгортваў шырыню свайго пачуцця. Паясніў, чаму маўчаў дагэтуль. Хацеў бо, як сумленны чалавек, сябе праверыць і падгатаваць Марту. Між іншым, зайздросліва закінуў аб суседзе шафёры, які часта заглядае на кухню, і прасіў неадкладна з ім скончыць. Прасіў надоўга справу не адкладаць — заўтра ж пайсці і запісацца.

— Ну, Мартачка?

Яна была як у сне. Яна ніяк не магла зразумець.

— Чакайце, дайце хоць падумаць... Я ніяк...

— Ды што вы, як бы дзяўчынка... Гавораць жа двое дарослых. Гавару я, Барыс Паўлавіч, якому, здаецца, паверыць можна. Усё ў вашых руках. Або так, або так. Вырашайце!

— Я... добра...

Ён сквапна прыпаў да рукі і толькі, калі адарваўся, заўважыў, што рука потная ды чырвоная, а пад ногцямі густыя жалобныя палоскі. Яго занудзіла, і ён хутчэй адвярнуў галаву.

— Дзіўна мне, дзіўна...— звольна ў салодкай задуме прашаптала Марта,— ніяк не сцямлю... І чаму так хутка? Заўтра! Дайце хоць...

— Не, Мартачка,— занепакоена перабіў ён,— гэта не хутка, гэта ўжо даўно. Больш чакаць не магу і не хачу... Даволі чакаць. Заўтра ж, неадменна заўтра...

Мільганула думка, каб адразу перайсці да галоўнага, але заўчасу стрымаўся. Зразумеў, што гэтым можна толькі выклікаць падазрэнне і сапсаваць усю справу.

Найлепей — заўтра, калі росчырк пяра дарэшты заспакоіць і пераканае.

***

Уначы, як заўсёды, пастукаў шафёр.

Марта злёгку адхіліла дзверы і праз тоненькую шпарку холадна заявіла:

— І не хадзі, і не грукай... Канец.

— Ці не адурэла ты, Марта? Што такое?

— А такое... Выходжу замуж за гаспадара. Заўтра на запіс іду. Зразумеў? — і перад самым шафёравым носам ляснула дзвярыма.

Яна доўга не магла заснуць. Падушка гарэла, гарэлі шчокі. І думак гарачых была поўная галава.

Счакаўшы, засвяціла лямпу, зняла заседжанае мухамі люстэрачка і, старанна абцёршы яго, глянула на сябе. Усхваляваныя вялікія вочы як бы ап'янелі, як бы завалакліся слязою. А пад вачыма зморшчкі, і на лобе зморшчкі, і падбародак у зморшчках. Жыццё паспела ўжо пакласці нямала адзнак, так пакалечыла, што яна і не спадзявалася.

І, углядаючыся, яна памаленьку пачала нешта ўспамінаць, пачала спазнаваць гэтыя заўчасныя адзнакі, чытаць па іх, як з кніжкі. Усё яе жыццё з вечнымі клапотамі, выслужваннем, паняверанием, гаротнае, вялікае для яе і непрыкметнае для іншых, жыццё адразу стала як на далоні.

Марта ўздыхнула, але пачула, што ёй радасна-лёгка. Цяпер гэтага ўжо не будзе, цяпер усё будзе іначай, панавому...

Раптам погляд яе спыніўся на кашулі — брудная, у жоўтых плямах. Стала самой сорамна, аж завалтузілася на ложку. Калі ж успала на думку, што такая інтымная неахайнасць найболей можа адпіхнуць ад яе Барыса Паўлавіча, яна зжахнулася і дала сабе слова заўтра ж упарадкаваць свой убор.

Ноч прапаўзла, як тыя мары, неспакойна, расхрыстана..

Урыўкамі сыходзіла нешта любае, сыходзіла і страшнае.

На раніцу, лежачы нерухома, як бы пасля цяжкай хваробы, яна доўга не магла апамятацца. Усё, што сталася ўчора, здавалася толькі цудоўным сном. Было нават смешна. А калі ў расплюшчаныя вочы скокнулі пустатлівыя светлыя зайчыкі, праганяючы неадчэпную дрымоту, калі перад свядомасцю ва ўсёй немажлівай велічыні вырасла голая рэчаіснасць,— Марта занепакоілася.

Больш і больш ахоплівала яе развага. Асабліва дзіўнай здавалася ёй непаседлівасць Барыса Паўлавіча.

Усё ж такі лепей спачатку падумаць, праверыць. Не пашкодзіць трохі адцягнуць. Тады, прынамсі, можна абмеркаваць справу ўсебакова, бо зараз ніяк не ўспрымала свядомасць неспадзяванае думкі аб супольным жыцці з гаспадаром — ды яшчэ з былым панам. Паноў ужо Марта добра ведала. Нямала ёй даводзілася цярпець. Праўда, цяпер і сабе яна знала цану, не баялася хоць каму адкрыта сказаць у вочы тое, што мела на думцы, і была праз гэта шчаслівай і гордай. Яна надта цаніла ўласную волю ды незалежнасць, якой так доўга чакала, даражыла ёю нават у штодзённым дробнічным жыцці, і цяпер непакоілася, што гэтую волю да пэўнай меры могуць прымусова падцяць. Але, можа, цяпер і калішнія паны сталі папраўдзе шчырэйшымі, сапраўды змяніліся, як і ўсё навакол...

Марта яшчэ не паспела канчаткова вырашыць, як на парозе з'явіўся Барыс Паўлавіч і, цёпла прывітаўшыся, з закаханнем узяў яе галаву ў рукі.

— Я чакаю. Хадзем!

— Ой, даражэнькі!.. Мо пачакаем? Ды ўжо ці не лепей па нядзелі?

— Не, не, не,— запярэчыў ён, ласкава ўсміхаючыся.

І зноў пачаў даводзіць, што адцягванне толькі запутае справу. Галоўнае, як ён запэўняў, сягоння якраз прыпадалі ягоныя асабіста-гістарычныя і месяц і дзень: гэтай жа даты ён жаніўся першы раз.

— Мабыць, так на раду напісана,— прагаварыў Барыс Паўлавіч і рашуча, неадступна дадаў: — Дык я чакаю. Цераз чвэрць гадзіны ідзем.

— Ой, дзіўна мне...— але яна больш не магла працівіцца. Паверыла.

Павыцягвала ўсе свае клункі ды схованкі, разгрэбла іх, з поспехам збіралася. І да рэшты была занепакоена, што не мае ніводнай чыстай, дарэчнай кашулі.

Далей яна ўжо нічога не памятала... Далей — паўдня, як у тумане.

І толькі як выйшлі ўжо з пахмурага чужога будынку і хтосьці, віншуючы, пачаў ціснуць ёй руку, яна трохі апомнілася.

— Ой, ліханька, я і забылася... Вечар скора, а ў мяне дагэтуль мяса няма. Ідзіце сабе, а я пабягу...

Яе хацелі сутрымаць, клікалі, смяяліся, але яна адмахнулася і, спатыкаючыся, хутчэй пабегла на рынак. Яе цяпер гнала адзіная, нястрыманая думка.

Калі, за парадай знаёмых крамнікаў, яна з гэтай думкай заскочыла да старога рыначнага майстра, той, глянуўшы на яе зачырванелы твар ды нервовыя рукі, адразу настаражыўся і хітра прыжмурыў вочы.

А Марта, хапаючыся, выграбла з-за пазухі замурзаны вузялок і пачала шматаць яго дрыжачымі рукамі.

— Колькі за гэта? — запыталася яна, разгарнуўшы сваю скарбнічку і кідаючы на стол залаты крыжык ды скамечаную бледна-зялёную паперку.

— А на што вам прадаць? — падазрона спытаўся майстар.

— Грошай цяпер мне шмат трэба. Колькі?

Ён падкінуў на далоні крыжык, агледзеў, абнюхаў. Пасля разгарнуў паперыну:

— № 2002,— і, хвіліну падумаўшы, хітра павёў траслівымі вуснамі: — Пачакайце трошкі... Я на гэту паперку спытаюся цаны, бо я не ведаю,— ціханька пасунуўся ў другі пакой.

Ён яшчэ доўга таргаваўся, граючы на цярплівасці дзіўнаўсхваляванага госця, і калі, атрымаўшы нарэшце грошы, збянтэжаны госць пабег з хаты, майстар ветліва пакланіўся яму ўслед і любоўна пагладзіў на далоні бледна-зялёную паперку.

...Дамоў Марта вярталася, шчасліва ўсміхаючыся,— яна купіла сабе бялізны з добрага тонкага палатна.



# ЦІХІ ХУТАР

*Апавяданне*

*З украінскай — А. Любчанкі*

— Паўла! Табе вось ліст з мястэчка перадалі...

У пакоі цёмна. Адказу няма.

— Паўла! Ці спіш? — гукнула ямчэй.

З кутка палахліва сарваўся сухі кашаль, абляцеў увесь пакой і здзіўлена прахрыпеў:

— Што такое?

— На, чытай.

Антаніна кінула ліст і, сярдзіта соўгаючы чаравікамі, выйшла.

Нешта бубніла пад нос, але Карніенка не расчуў.

Засвяціў лямпу.

На крэслах ля групкі зноў паразвешваны пялёнкі.

Глянуў — і са злосцю бухнуў крэслам.

Сказаць Антаніне — зноў сварка, слёзы...

«Ану яго к чорту»,— заскрыгатаў зубамі і, падняўшы беражліва мокрыя анучы, беражліва павесіў іх на тое самае месца.

Ліст быў змяты, без штэмпеля — па руках ішоў — і толькі на канверце нехта размахнуўся алоўкам:

«Ціхі Хутар. Тав. Карніенку».

А ў лісце таксама алоўкам.

«Тав. Паўла! Угадай, хто гэта табе піша. Толькі не глядзі адразу на подпіс. Я зараз выпадкова ў Лукашоўцы.

Сказалі мне, што ты тут. На шостым годзе зноў доля прывядзе пабачыцца. Прыязджай сягоння. Чакаю.

Успомні Кастрычнік, разбіты трамвай, барацьбу і Зіну.

...Калі прыехаць не зможаш, то ў нядзелю пад вечар я сама буду ў цябе».

Карніенка падняў галаву і спыніў погляд на лямпе — агонь прыкоўваў.

А думкі паплылі ў розныя бакі. Закруціліся. Падняліся завірухаю.

Хацеў зноў перачытаць, але літары рассыпаліся:

— Успомні Кастрычнік, разбіты трамвай... Зіну...

Ах, так, гэта ж яны ўдваіх тады засталіся. На бруку валяліся мёртвыя і параненыя, кулі свісталі здрадліва, а Зіна, раскудлачаная, чырвоная, сціскала карабін і напружана ляскала затворам.

Калі варожая лавіна аблягла плошчу і трэба было ўцякаць, гэта ж яна, Зіна, моцна сціснула яго руку, шпарка пацалавала ў шчаку і, адпіргнуўшы ад сябе, кінула наўздагон:

— Не здавайся!

З таго часу ён нічога не чуў аб ёй і быў пэвен, што яе, заўзятую, тады ж і забілі.

Успомнілася невялічкая постаць у рудым кажушку, грубыя рысы твару, жучкі-вочы, такія быстрыя і разумныя...

— Вы, таварыш Паўла, інтэлігент, і вы не можаце мяне зразумець,— неўгамонна заўзята Зіна.

...Крык, нервовыя рэзкія рухі, сівыя пасмы дыму, супярэчкі, таварышкі, «мардабой» — гэта Зіна.

...Рух—Зіна.

...І бурлівае пачуццё, першы магутны спеў душы — таксама Зіна.

Карніенка ўскочыў, бадзёра захадзіў па пакоі.

«Патэ-журнал»,— успомніў ён і засмяяўся. Так яе празвалі таварышы: яна заўсёды першая прыносіла ўсе навіны, яна ўсё знала.

Дзверы рыпнулі...

— Вячэраць будзеш?

Карніенка глядзеў збянтэжана, не адказваў.

— Вячэраць будзеш, пытаю?

Кіўнуў галавой і, падышоўшы бліжэй, узяў Антаніну за рукі.

— Ды пакінь, не да гуляў... Вунь дзіцё плача.

— Антаніначка, не тое, пачакай... Гэта я ліст атрымаў... Ведаеш, да мяне заўтра госці прыедуць... Харошыя госці.

Ён весела ляпнуў далонямі і пацёр рукі.

— Ну?

— Дык вось, Антаніначка, прырыхтуй усё як след... Разумееш.

Антаніна моўчкі слухала.

— Не надоўга прыедуць... Можа, пераначуюць.
— Хто ж гэта? Сваякі, ці як?
— Не сваякі, а добрыя знаёмыя.
— Дык хто?
— Адна... паненка...
Антаніна адвесіла ніжнюю губу і скоса глянула на Карніенку.
Ён заўважыў. Чакаючы запытанняў, скруціў цыгарку і доўга калупаўся каля лямпы — прыкурваў.
— Бяжы хлявы нанач пазачыняй,— кінула нарэшце і зашлёпала па хаце.

* * *

На другі дзень, калі ўстаў Карніенка, у хаце было ўжо прыбрана і Антаніна паролася на кухні.
Моцна грукалі дзверы — Антаніна сярдзіта. Яна нічога больш не распытвалася, моўчкі хадзіла і толькі з-пад ілба кідала падазроныя погляды на мужа.
А Карніенка старанна вастрыў брытву і высвістваў улюбёную серэнаду Брага.
— Ды не свішчы! Па чартох занудзіўся?
— Маўчок, Антаніначка, маўчок,— прыціснуў палец да губ і фальшыва засмяяўся.
Калі ж дзверы зачыніліся, пакруціў галавой і плюнуў.
Вясёлы настрой, што нарадзіўся раніцой, паволі адміраў.
Чым бліжэй надыходзіў час прыезду Зіны, тым больш нерваваўся Карніенка. Асабліва нервавалася Антаніна. Сягоння яна здавалася яму надта агіднай, і расла да яе злосць. Стараўся стрымаць сябе. Ведаў, што калі цярплівасць абарвецца і ён зачэпіць Антаніну, будзе сварка. А тады прападзе ўвесь дзень, прападзе і стрэча госця. І скончыцца тым, што яна яго вылае. Ён жа заціхне і спакорыцца, як гэта было ўжо не раз.
...А ўспаміны чапляліся адзін за адзін. Успаміны луналі матылькамі і, асядаючы глыбока ў душы, паўзлі і паўзлі, як тая ліпкая чарва.
Сягоння Карніенка раздваіўся: за дзвярыма, недзе там на двары, быў Карніенка-юнак, што любіў бурлівае жыццё і пераможна круціў яго за чуб, а тут, у нізенькім пакоі, між грамафонам і пялёнкамі,— Карніенка-абыватаць, пакорны і плаксівы, якога скруціла жыццё рукамі Антаніны.

Можа, усё, што было,— толькі «юны задор», усё брахня?

І пачуцці да Зіны, першы магутны спеў душы — таксама брахня?

Карніенка не ведаў. Пераблыталіся думкі, пасыпаліся ўспаміны... Адно толькі ясна — не хапала мужнасці, не патрапіў быць дужым.

Так, гэта ясна: калі бурай замяло бацькоўскую маёмасць, калі забілі брата, ворага радасна-чырвоных дзён — гэта ён раптам спыніўся ў шалёным лёце, падумаў і, апусціўшы крыллі, пакульгаў назад.

А потым пустка ў душы, блуканне, беспрытульнасць, тыф...

Разганяла ветрам смецце па стэпах, і зачапіўся Карніенка ў Ціхім Хутары. Ён не думаў заставацца тут надоўга, толькі хацеў адпачыць.

Гаспадыня добрая, хата чапурненькая. У хаце падслепаватыя ваконцы з надтрэснутымі і складна падлепленымі шыбамі. Штурхнеш — і падгніўшыя рамкі раз'ехаліся, а ў твар струменькам пяшчотны пах саду...

У Ціхім Хутары жыццё спакойнае.

Кастрычнік грозна праходзіў недзе там, вялікімі шляхамі.

Карніенка чуў яго, чуў — і не верыў...

Калі ж высвятлялася, што ўсе шляхі сатруцца і будзе Кастрычнік скрозь, у кожнай шчыліне,— закралася трывога. І тады Карніенка зразумеў, што ён сапраўды лішні, што ён праспаў і што апошні этап яго адступлення — Антаніна.

Але як гэта ўсё расказаць Зіне? Ці зразумее яна яго? Ці захоча выслухаць?

Карніенка нервова паціраў рукі, курыў цыгарку за цыгаркай і вялікімі крокамі мерыў пакой.

— Будзем чакаць з абедам, ці як?

Антаніна накрывала стол чыстым абрусам, прывычнымі рукамі падбірала начынне, і місачкі жаласліва дзынкалі пад яе рукамі.

Гэта дзынканне таксама раздражняла.

Карніенка рашуча павярнуўся да яе, хацеў нешта сказаць. Перад вачыма — моцная, кругленькая постаць, з-пад чырвонай хусткі тоўстыя шчокі, падушка дрыжачых грудзей...

Новае, іншае, зусім не тое, што было, як бы хто падмяніў, як бы ўпершыню ўбачыў.

— Дык будзем, пытаю? Ужо час.

Карніенка закусіў губы.

— Па-ча-каем,— паволі і ціха выціснуў скрозь зубы.

Заверашчала ў калысцы. Антаніна штурхнула яго і клубком пакацілася да ложка.

— Люў... люў... люў... Маўчы, бо бацька біць будзе...

Расхрыстала грудзі і, кормячы дзіцё, паплыла з ім па хаце. Карніенка страсануўся, быццам бізуном паласнулі праз плечы, і, схапіўшы карталюшку паперы, шпарка пачаў пісаць.

— Антаніначка, я і забыўся, мне да Карпа трэба забегчы. Я хутка... Як прыедуць, ты перапрасі і гэту пісульку дай... Я хутка...

Схапіў шапку і выбег.

Ля Карпавага плоту ён раздумліва патаптаўся і пайшоў мяжою ў стэп.

* * *

Зіна і на гэты раз не здрадзіла сваёй пунктуальнасці: як толькі змрок падпоўз да вакон, яна шумна расчыніла дзверы ў пахмурнай хаце.

Насустрач першым выплыў з пацёмкаў накрыты стол і вышчарыўся з гасціннай насмешкай радком місачак.

— Ого! Што гэта ў вас, хрэсьбіны ці радзіны? — рассыпалася звонкім смехам і прывіталася.

Нізенькі пакой насупіўся: гэты рухлівы госць патрывожыў спакой і разбудзіў дзіцё.

— Ага, гэта ваш сынок?

— Мой і Паўлаў,— сур'ёзна адказала Антаніна.

— Так, так, ведаю. Мне ўжо ўсё расказалі...— і, схапіўшы за нос дзіцянё, зноў рассмяялася, упарта пранізваючы поглядам маленькі тварык.

— А дзе ж таварыш Паўла?

— Выбег тут да суседа... Зараз прыйдзе. Тут вам запіску пакінуў.

Зіна разгарнула:

«Выбачай мяне, але не чакай. Не прыйду... Не магу, зразумей. Ведаеш, Зіна, калі загасіць агонь, ды не прыдушыць кноту, свечка моцна начадзіць. Вось такі ж кнот у мяне ў душы чадзіць... Не магу. Зразумей...»

Зіна яшчэ раз перачытала, потым схапіла аловак і ўгары чыркнула рэзалюцыю:

«Інтэлігент. Ганчырка».

— Ну, бывайце... Жадаю ўсяго найлепшага.

Антаніна захадзілася:

— Ды куды ж вы? Пачакайце. Начаваць жа будзеце...

— Не. Няма часу,— і, адвітаўшыся, шпарка выйшла.

Антаніна павяла плячыма і здзіўлена застыла сярод хаты.



Зусім сцямнела, калі пастукаўся Карніенка.

Антаніна шпурнула ў яго лаянкай і расхадзілася на ўсю хату.

А Карніенка, як пабіты сабака, ціханька сеў ля стала і, не адрываючыся ад лямпы, доўга глядзеў на агонь. Чакаў — пакуль угамоніцца жонка.

— Пасмешышча з мяне рабіць? Патаскух у госці клічаш, а пасля сам уцякаеш!

І залілася слязьмі.

Ён раптам ускочыў і трахнуў па стале кулаком так, што місачкі перапуджана задрымцелі і з плачам пакаціліся далоў.

Антаніна ўраз жа змоўкла.

Але сварка зацягнулася да поўначы, і Карніенка ўжо не мог заснуць...

... Досвіта заверашчалі пеўні, і ноч папаўзла на лясы.

Тады Карніенка схамянуўся, разгарнуў пісульку, перачытаў яшчэ раз.

Стала балюча. Засвярбела ў горле да слёз.

Шпарка пачаў адзявацца.

— Ты куды?

— Не тваё дзела.

— Куды? — саскочыла з ложка і ўчапілася, як зверанё. Вочы білі полымем адчаю, пякучага малення (просьбы)...

Яшчэ хвіліна — і Карніенка павінен спакарыцца.

Зразумеў.

Раптам схапіў яе ў абоймы і... вагаючыся... праз хвіліну штосілы адкінуў на пасцель.

Яна бегла за ім праз увесь двор, але ён не азірнуўся...



Да мястэчка было дзесяць з гакам.

Карніенка прыйшоў стомлены. Толькі тут, у канцылярыі выканкома, дзе яму сказалі чакаць Зіну, ён заўважыў, што зусім не падгатаваны да спаткання: усю дарогу думаў аб Антаніне, аб тым, што можа стацца там у час яго адсутнасці.

Заспакоена пакруціў галавой:

«Вось зараз яна можа ўвайсці...»

І Зіна ўвайшла — стройная, рашучая, з портфелем пад пахай.

— А-а-а... Як маемся?

— Таварышка Зіна, выбачайце і зразумейце ж...

— Выбачаю і разумею. Гэта калісь я не магла зразумець, чаму вы з намі, а цяпер... цяпер я вас цалкам разумею.

Карніенка толькі адкрыў рот, каб сказаць,— Зіна перабіла:

— Ну, мне няма калі — на раён еду. Бывайце!

Ускочыла на воз і ветліва ўсміхнулася.

Ён доўга глядзеў услед...

Потым схіліў галаву і памаленьку пайшоў назад — сцежкай, на Ціхі Хутар.



# ПАЭТЫЧНЫЯ ЎРЫЎКІ З П'ЕСЫ «ІДЫЛІЯ»

*З польскай — В. Дуніна-Марцінкевіча*

## АКТ І

### Сцэна V

Камісар.

*Спеў*

№ 3

Калі прыгожай дзяўчыне
Павабнасць свету засвеціць,—
К ёй мігам думак рой хлыне,
Галоўку ўскружаць, ахвацяць.
Адно ўсё думае тое —
Аб вабным хлапцу і строі.

І хлопец з'явіцца хутка,—
Пойдуць гамонкі, уздыханні,—
Аб красках баіць ён чутка,
Аб шчырым баіць каханні.
За сведку неба стаўляе,
І вось млее дзеўчына тая.

Звольна пужліву асвоіць;
Каб узаемнасць здабыці,
Свае залёты падвоіць,
Моліць — яго палюбіці.
Гэтак для птушкі вясковай
Клетачка мігам гатова.

Калі ж дзяўчына спрыт мае,
Цянёты хлапцовы ўбача,—
Тады бяда, ды якая!

Душа бурліцца і плача.
Сэрца да літасці клоніць,
І так дзяўчына ўжо тоніць.

Зведзена так і папраўдзе,
Аддаючы яму сэрца,
Калі ўжо іншых той здрадзіў,—
Ахвярай жалю стаецца!
Бядачка кволіць дарэмна,
Але ўжо згубы не верне.

### Сцэна VII

Ю л і я, пераадзетая за дачку Шчырэцкага.

Ю л і я *(адна — рэчытатывам).*

№ 5

Ой, думкі, ой, мары
Дзіцячага веку!
Шмат будзіце чараў
Ў душы чалавека!

Як сягоння, здаецца, бачу век праснёны,
Калі з мілым Каролем у гэты лес зялёны
Мы хадзілі спакойна пад апекай Бога.
Нашы сэрцы дзіцячы не зналі трывогаў.

*Раманс*

О край мой любы, мой родны!
Ты знаеш думак прычыны.
Тут, як у раі, аздобна,
Ціснуцца дзецтва ўспаміны.
Сваймі вось гэта рукамі
Кусточак ружы саджала,
А тут павяўшы з слязамі
Тульпаны я палівала.
На месцы ўсё засталося,
Як вабна ўсё засталося!

Далей — малая крыніца,
Дзе мы глядзеліся ў пары,
Вабіла чыстай вадзіцай,

За ёй — салодкія мары!
Лог, па якім мы з Каролем
За матылёчкам лятапі
І гналі ажно ў поле;
Як матылькі, мы гулялі.
Усё тут, як некалі, бачу.
Толькі Караля не бачу!

### Сцэна IX

*Дуэт*

№ 6

Юлія.
Што за пудзіла пляцецца?
Так і рынецца, здаецца.
Ах! якая п'яніц міна!
Навум.
Ой! Не гадкая дзяўчына!
Юлія.
Ён сюды, знаць, ісці хоча.
На мяне ўтаропіў вочы.
Мусіць думку нейку мець.
Навум.
Трэба к ней добра падсесць.
Юлія.
Надарма мая трывога,—
Можа ён мне быць падмогай.
Кінем гідасць сваю вон
Ды спытаем, што за ён.
Навум.
Добра прыгаворка кажа:
Скора едзе той, хто мажа.
Трэба рыбку прысваіць,
Гарэлкаю напаіць.

### Сцэна XII

*Спеў*

№ 7

Ян.
Вось для выгады карчма вам!
Вокны чуць відаць з гразішчы;
Мілы вецер свістам жвавым
Цераз шчэліны скрозь свішча;

Брудны выгляд у шынкаркі;
На стале бутэлькі, чаркі;
Жыжка з іх на стол сцякае;
Шабасоўка чуць міргае;
Жыды сноўдаюць, як здані;
Стары рэбе штось мямляне;
Селянін ляжыць пад лаўкай,
П'яны, рваны, нерухавы;
Яго жонка, чуць жывая,
Каля печы спачывае,
Дзіцё ядам з грудзі пое!
Вось абраз галытні тое.

*Спеў*

№ 8

К а р о л ь.

Францыя! Край мой ядыны!
Добрай ты славай багата.
Маеш узнеслых шмат чынаў,
Найбольш прыгожых дзяўчатаў.
Бачачы іхнюю ўроду, } *2 разы*
Творы шаную прыроды.
З мілым французскім дзе тварам
Калі сустрэнеш дзяўчыну,
Вочкі гарацы яе жарам,
Поглядам паляць без спыну.
Гэткая постаць, здаецца, } *2 разы*
Звабіла б тыграва сэрца.
Хай яе вабныя красы
Толькі ўпадуць табе ў вока,
Зараз жа ў сэрца без часу
Воблік уесца глыбока.
Французска дзеўчына тая } *2 разы*
Душу тваю захапляе.
Днём тваю думку жывую
Вабіць прынаднай красою,
А як заснеш — сон малюе
Усё хараство незбытое.
Будзіць смагню без патолі, } *2 разы*
Ах! каб мець грошы найболей!

*Спеў*

№ 9

Я н.

Ах, зірні ў бок гэны, пане!

Кароль.

Што ж ты ўбачыў там, мой Яне?

Я н.

Вельмі пекную дзяўчынку,
Што, як сарна, лёгка, вабна,
Што, як лялька, стройна, зграбна,
Рвець малінку за малінкай.
У заклад стаўлю віна шклянку,
Што не ўступіць парыжанкам.

Кароль.

Ах, калі хто гэта бачыў?
Ці табе ў вачах маяча,
Каб раўняці дзеўку тую,
Нерухавую, брыдкую,
Да парыжскіх ненаглядак,
Што сваёй красою, складам
Цэлы свет змагчы гатовы,
Усім закручваюць галовы?

Я н.

Пане, глянь: да нас ступае,
Складна, вабная такая!

**Сцэна XIII**

Тыя ж і Юлія, паволі ідучы, спявае.

Юлія.

Зайшоў ужо месяц, свет спачывае,
А хто ж там кліча над борам?
Мабыць, філён мой мяне чакае
Пад маладым ясакорам.

*(Заўважыўшы Караля, прыкідваецца перапалоханай.)*

Ах!.. *(Некалькі тактаў паўзы.)*

*Тэрцэт*

Што за дзіўны погляд бачу?
Не згадаю, што ён знача?
І пужае, і трывожа,
Памажы мне, моцны Божа!

Кароль і Ян.

Ці то чары, ці з'яўленне!
Вельмі ж мілае стварэнне!
Вочы, тварык — глянуць міла!
Мне душу ўсю захапіла.

Навум.

Пасуць яе, як воўк мяса,
Спадабалася ім краса,
Чы іх ліха тут прыгнала?
Сватанне маё прапала!

Юлія.

Ён з мяне воч не спускае.

Кароль.

Як яна, ах, захапляе!

Ян.

Віна стаўлю ў заклад шклянку,
Пляшка будзе хай заставай...
Вер мне, пане, што яна во
Закасуе й парыжанку.

Паўтараюць тэрцэт.

### Сцэна XIV

*Спеў*

№ 10

Кароль.

Што за сэрца! што за вабнасць!

Ян.

А якая ручак зграбнасць!

Кароль.

Што за розум! Што за вочы!

Ян.

А як шоўк косы дзявочы!

Кароль і Ян *(разам)*.

Ах! для гэтае дзявіцы
Памяць, розум я губляю!
Прэч усё, што з заграніцы!
Я над імі крыж стаўляю.

Ян.

І краса цвіце такая
Ў вашай вёсцы з ласкі боскай.

Кароль.
Я не знаў, што мая вёска
Гэткі скарб — дзяўчыну мае.
Навум.
Не для нас, знаць, дзеўка-дворка.
Добра кажа прыгаворка:
Гдзе толькі мужык з слаўцом,
Там за ім пуга з вузлом.
Кароль.
Дык спяшайма ў двор затое
Да радні на прывітанне.
Ян.
Там з кахання на сняданне
Лыкну чарку для настрою.
Кароль, Ян (*разам паўтараюць*).
Ах! для гэтае дзявіцы
Памяць, розум я губляю!
Прэч усё, што з заграніцы!
Я над імі крыж стаўляю.

### Сцэна XV

Хор дворных.
Зірні ў бок гэты, ласкавы пане!
І тут прыхільна цябе вітаюць.
Прымі ты шчыра гэта вітанне.
Хай табе шчасцем дні ў нас лунаюць!
Юлія (*выступаючы, спявае*).
Калі з далёкіх ластаўка ніваў
Вясной вяртае дамоў шчаслiва,
Свой забывае далёкі вырай,
Ў роднай сялібе цешыцца шчыра.
І ты, о пане, сярод сабраных
Сялян застанься жыць назаўсёды;
Шукай пацехі сярод падданых;
Будзь для іх бацькам і асалодай.
Кароль.
Радасць, якую тут спатыкаю,
Не меў у ніякім краю дагэтуль.
Ян.
Я з хвалявання слёз не стрымаю,
Ажна да чаркі збыўся імпэту.

К а м і с а р *(убок).*

Ох, на такое пана вітанне
Дрыжу я цэлы! Што ж далей будзе?
Маё бабахне, знаць, панаванне,
Калі не з'едзе зноў ён у людзі.

Н а в у м *(убок).*

Над сіратою Бог з калітою.
Што ж, камісару, будзе з табою,
Як пан дзядзічны з намі асядзе!
Не будзеш болей глуміць нас, гадзе!

Х о р.

Здароў будзь дома, ласкавы пане!
Тутка прыхільна цябе вітаюць.
Прымі ты шчыра гэта вітанне.
Хай табе шчасцем дні ў нас лунаюць!

К а м і с а р.

№ 11

Гэй, хто жывы! млоды, стары,
Хай шукае кожны пары!
Хлопцы, клічце дзевак у таны!
Так сказаў наш пан каханы.

Становяцца да танцаў: 1-я пара — Дабровіч з сялянкай, 2-я — камісар з другой сялянкай, 3-я — Навум з камісарыхай, 4-я — Ян з Югасяй і г.д.

Н а в у м.

Добра прыгаворка кажа:
Вяліць пан, то скачы, ўража!

Х о р.

Гэй, хто жывы і *г.д.*

Спяваюць чатыры радкі, танцуючы.

Д а б р о в і ч *(заканчваючы паланез).*

Калі споўнілі тым часам
Звычай даўны ў першым тане,
Ты, Югася, сам-насам
Павядзі для нас гулянне.

Юлія танцуе балет.

Я н *(да Кароля).*

Ах! як яна прыгожа ў тане!

К а р о л ь *(са злосцю).*

А табе маўчаць, балване!

Я н.

Ах! тут кожны ашалее!

Кароль.

Сцеражыся! бо загрэю!

Хор дворных.

Ах, як лёгка! Як на фалі.
То вось бліжэй, то вось далей;
З ветрам мкнецца ўперагонкі,
Стан павабны, гібкі, тонкі!

Хор сялян.

Прыгожа, як анялочак,
А лёгка, як матылёчак;
Ножкамі перабірае,
Аж у вачах нам мігае.

Дабровіч.

Вельмі дзякуй! Брава! Брава!
А цяпер ўсе — толькі жвава!
Хай працягнецца забава,
Жыва ў пары... Ўлева! Ўправа!

## АКТ II

### Сцэна III

Юлія і камісар.

№ 2

Юлія.

Як вясна свет асвяціла,
Гоніць сон з сябе зямліца;
Ад вясенняй ласкі мілай
Ўсё смяецца, весяліцца;
Птушка песняй шчабятлівай
Славіць сонца над палянкай,
Апяваючы жычліва
Свайго мілага каханка;
Толькі ж мне журбуе сэрца,
Гэтай радасці не знае,
Да мінулых дзён імкнецца
І баліць, баліць без краю.

Камісар.

Ах, каго так ты ўзлюбіла,
Што запела гэтак міла?

Юлія.

Так не ўходзе, пан дабродзей,
Падслухоўваць, як злодзей.

Камісар.

Калі тут на адзіноце
Жаласліва так спявае,—
Песняй сэрца разахвоціць
І мне лёс мой разгадае.

Юлія.

Калі я на адзіноце
Думку думаю аб любым,—
Ён, як жораў на балоце,
Ладзіць, быццам хоча згубы.

Камісар.

Мая Югаська!
Ціпачка, краска!
Мой ты мігдалік!
Мой спецыялік!
Мей жа вока на залёты!
Для мяне ўсім даўно ты,
Для цябе жыву, уздыхаю
І з любосці высыхаю!

Юлія.

Які чорт яму прысніўся?
Ці ж, пан, Бога не баішся?
Ўжо вам ломіць старасць косці,
А вы лезеце з любосцяй!
Маеш жонку! ці ж гадзіцца
Так жанатаму любіцца?

Камісар.

*Арыя*

Мая люба! мая міла!
Воч тваіх не земска сіла
Ўзяла сэрца мне. Ах!
Надала мук, не спытаўшы!
Дык і сэрца й душу ўзяўшы,
Дай жа мне сваё! Ах!

Ні адна калісь дзяўчына,
Хоць салодка, як маліна,
Не змагла мяне. Ах!
Ты ж мне ўсё жыццё змяніла,
І цярплю, цярплю няміла,
Бачачы цябе. Ах!

З тых пор смутак ссе мне грудзі,
Свет не міл, не мілы людзі,
Хоць гавей душой. Ах!
Разгані ж мае ўздыханні,
Сэрца выпаўні жаданні,
Ты, анёле мой! Ах!

### Сцэна VI

№ 3

Я н.

Добры вечар, маё каханне!

Ю л і я.

Ваша служка, пане Яне!

Я н.

Як здароўе, як жывецца?

Ю л і я.

Ў галаве мне штось вярзецца.

Я н *(з залётамі)*.

Я шукаў паненкі ўсюды,
А знайшоў вось тут, як цуда.

Ю л і я *(холадна)*.

Ці ж знаходзіць рэч цяжкая?
Латва знойдзе, хто шукае.

Я н *(убок)*.

Як прызнацца ёй ў любосці?
Ажна страх трасе мне косці!
Паспытаць жа цяпер мушу,
Ці ёй сэрца не парушу?

Ю л і я *(убок)*.

Чую, гэты патароча
Заляцацца ка мне хоча;
Але прысягну на душу,
Што з яго закпіці мушу.

Я н.

Калі ласка...

Ю л і я.

Што ж такое?

Я н.

Ах! сваё ўчуццё святое
Для цябе я пасвячаю
І любіць век прысягаю.

Юлія.

Пан Ян, бачу, ў жарты ўдаўся.
Як жа стрэнуць парыжанкі,
Што да простае сялянкі
Гэтак смагла заляцаўся?

Ян.

А хай немач іх зматае!
Вер, кажу я не на жарты:
Парыжанка хоць якая
Пры табе і грош не варта.

*Раманс*

У цябе, паненка, залётныя вочкі,
У іх бачу сонца і тайнасці ночкі;
А так павабна на свет пазіраюць,
Што, калі гляну, мне думкі ўсе таюць.
Чую, сэрца б'ецца сільна,
Чую, што люблю прыхільна.

Юлія.

Дзякую.

Ян.

У цябе, паненка, усмешка, як сонца,
А, як лілея, твар белы без конца;
Такая яснасць у твары анельскім,
Што часта к думкам ляту я нябескім:
Доля! дай мне за каханку
Вось такую багавянку.

Юлія.

Дзякую.

Ян.

За галасок твой срабрысты, ласк поўны,
Аддаў бы зараз, каб меў я, мільёны!
Бо як пачне ім пяяць, залівацца,
Ах! вечна табе я жадаў бы ўслухацца,
А так дарага цаню я,
Бо ўвесь чыста ў ім тану я.

Юлія.

Вельмі ўдзячна за пахвалы,
Але вам скажу заране,
Што мне будзеце вы сталым,
Я не веру, пане Яне!

Ян.

Ах, павер мне! бо самдзела,
Калі будзеш мне ты ўпартай,

Ў лоб сабе я тут жа стрэлю!
Гэта я кажу не жартам.

Юлія (*убок*).

Ох! задам табе гулянкі!
Пачакай, парыжскі пане!
Не захочаш ты каханкі
Тут шукаць у сельскім стане!

Ян (*убок*).

От увёў яе ў гулянкі!
Ўжо магу сказаць я смела,
Што да цнот маёй Юганкі
Мне дарога папрасцела.

## Сцэна VII

Навум і Юлія.

№ 4

Навум.

Добра прымоўка нас учыць:
Панска вока каня тучыць.
Што сватоў к ей маю слаць.
Лепш самому папытаць.

Юлія.

Вось дык нейкае насланне!
Шчэ паўзе і гэта зданне.

Навум.

Як бы тут ёй заляцацца,
Кабы лепей спадабацца?
Гутаркамі ёй заграю,—
Пазнае, што розум маю.

Юлія.

Але добра, што ён тутка.
Ў галаву прыйшла мне думка:
Гэта пудзіла ўпаўне
Дапаможа ў справе мне.

Навум (*з залётамі*).

Што ты сама тут дзямідзіш?
А чы ты мяне не відзіш?
Ляпей сядзем на калодзе,
Пагаворым а прыгодзе;
От сядзем сабе у рад,
Кабы пан Бог быў нам рад.

Да зрабі мне адну ласку,
Прымі абаранкаў вязку
І скажы мне праўду шчэру:
Любіш? не? а я паверу;
І тагды на скору руку
Зробім з сабою заруку.
Не саромейся, а скора
Гавары, мая сікора!

Юлія.

Я смяюся проста з мусу,
Хоць да смеху й ёсць пакуса.
Але гэты дзед ўпаўне
Дапаможа ў справе мне.

Навум.

Прымаўка кажа: маўчу,
Дык, пэўне, замуж хачу.
Яна ж не кажа нічога;
Ой, хоча замуж нябога.

## Сцэна VIII

Кароль адзін.

Кароль *(рэчытатывам)*.

№ 5

Не знаю, што такое, ці сон, ці то ява,
Ўсюды пры мне воблік яе і пастава.
Скрозь бачу, як яснее няземскай красою
І лёгка так у скоках плыве над зямлёю!

*Раманс*

За леты маладыя
Я зведаў модны свет,
І ўсюды, дзе ні быў я,
Страчаў дзявочы цвет:

Гішпанкі, італьянкі
Ўсміхаліся ка мне,
Залётна парыжанкі
Там вабілі мяне;

І немак, гаспадыняў,
Чуў на сабе паглёд.

Альпійскія дзяўчыны
Мяне сачылі ў лёт;

Сябе ж я не трывожыў,
Як гэтай, ні адной.
Ах! як яна прыгожа!
О, колькі вабы ў ёй!

### Сцэна IX

*Спеў*

Ю л і я.

№ 6

Мужчына кожнай сочыць след,
Бландынкі ці брунеткі;
Любіць усіх прыгожых — мэт
Дзяўчыны і кабеткі.
Уздыхае дотуль, слёзы лье,
Аж сэрца не падстрэліць;
Праз хвілю, глянь!.. той хітры змей
Ўжо з іншай любасць дзеліць.
Дык калі сэрца праб'е ўлёт,
Хай розум яго лечыць;
Бо хоць мужчына повен цнот,
Нясталасць іх нявечыць.
Дзяўчына! слухай маіх рад,
За хлопцам не ганіся;
Кінь род мужчынскі, поўны здрад,
Ды ў манастыр замкніся.

*Спеў*

№ 7

К а р о л ь.
Не глядзі так на мяне ты!
Твой пагляд мне будзіць сэрца!
З губ тваіх плывуць прыветы,—
Чарадзейка ты, здаецца.
Вабны ўсмех твой і наіўны,
Як на губках разальецца,
Гэткі мілы, гэткі дзіўны!..
Чарадзейка ты, здаецца.

Стрэліш вочкам — стрэл у мэце.
Тваёй ласкі не даб'ецца,
Хто пачаў любіць, цярпеці,—
Чарадзейка ты, здаецца.
Твар твой кветкамі зіяе;
А краса, што з яго мкнецца,
Так узносіць! захапляе!..
Чарадзейка ты, здаецца.

Ю л і я.

№ 8

Гаспадары дзень працы штодзённай канчаюць,
Усё смагне спачынку а захадзе сонца.
Жвава з поля жывёла ідзе па пагонцы.
Потам зліты селянін да хаткі спяшаець;
А той спеў яго смутны, што мкне рэхам,
Знача, як яго ціснё да болю нядоля.

Здалёку чуцен хор сялян, які штораз прыбліжаецца.

*а*
Ужо сонца западае,
Дадому нас прызывае.
Мы ж дзела сваё зрабілі,
Дворску паншчызну адбылі.

К а р о л ь і Ю л і я *(разам)*.

*б*
О як жа міла ў цішы вясковай
Думаць і думаць сабе самотна!
А гэтым думкам спеў уторыць словы
Квілячай птушкі ў вечар маркотны.

*б*
Здалёку голас салоўкі мчыцца,
Там люд вяртае з поля рабочы,
Тут шнур жывёлы, тут шэпт крыніцы
Твой слух галубяць і вабяць вочы.

**Сцэна XII**

Ш ч ы р э ц к і.

№ 9

Цсыт! паволі, без галасу,
На свае мясцы ідзеце.
Кожны, покуль што да часу,
Будзь так блізка на прымеце.

## Сцэна XIII

№ 9

Кароль.

Прыйдзі, мой любы анеле!
Клічу цябе я, ўлюбёны.
Сцежку табе тут усцеле
Кветкамі любасць да скону.
Ах! час падходзе да ранка,—
Прыйдзі, мая ты каханка!
Тонучы ў хвілях прыемных,
Сэрцы два любасці смагай
Злучым навекі ўзаемна,
Верныя словы й прысягам.
Ах! час падходзе да ранка,—
Прыйдзі, мая ты каханка!

## Сцэна XIV

Кароль.

Калі слух мяне не зводзе,
Голас чуецца яе!
Ах! міг гэты ўзнагародзе
Ўсе ў жыцці бяды мае.

## Сцэна XV

Ян і камісар паўтараюць гэтыя 4 радкі. Тут паволі прыбліжаецца Юлія, акрыўшыся палярынай, і падыходзіць да дзярновай лавачкі пад дрэвам, час ад часу злёгку плешчучы ў далоні, а Уршуля да альтанкі направа, і крыху пасля Навум, пераадзеты ў вопратку сялянкі, да альтанкі налева.

Юлія.

О Кароль мой, о юнача!
Нікне цэлы свет у цьме.
Ці ты тут? ці дзе іначай?
Адкажы, прашу я, мне.

Навум *(убок)*.

Прымаўкам трэба даць веры:
Паночы ўсе каты шэры.
Цёмна ж ноч — ён не спазнае.
Пэўна мяне спадабае. *(Ідзе да альтанкі налева.)*

К а р о л ь, к а м і с а р і Я н.

Што за радасна часіна!
Што на свеце з ёй зраўняе,
Як кахання цэль ядыны,
Сваю любу тут я маю?

Ю л і я.

О Кароль! табой жыву я,
З сэрцам да цябе ляту я.

К а р о л ь.

О, каб магла чуць ты чуласць восць тую,
Што для цябе там ў грудзях бушуе,—
Маім бы словам паверыла пэўна
І пакахала мяне бы ўзаемна.

Ю л і я.

Мой мілы! што я цябе спадабала,
Ці ж тваё сэрца таго не згадала?
Ах! вер, Кароль, мне! табе прысягаю,
Што мая любасць павек не сканае!

К а р о л ь, к а м і с а р, Я н (*паўтараюць*).

Што за радасна часіна! і *г.д.*

Ю л і я.

Глянь! відаць, ужо світае,
Закаханых свет вітае.

## Сцэна XVI

*Вадэвіль*

№ 10

К а р о л ь.

Магутна ўлада кахання!
Яно пануе ў прыродзе;
У кожным будзіць жаданні,
Ў ім шчасце жыцця знаходзе.
У моднай вучаны школе,
Я жыў, як і жыць не варта.
Каханнем сходаны сёння,
Змяніў я сэрца не жартам.

Ю л і я.

Вы, што заўладалі людам,
А заняты ўцехі шумам,
І аддалі злым прыблудам,
Мейце ж тое ў вашых думах:

Што мужык ці пан з-над пана,
Роўна Бог на небе дбае.
І ў яго той паважаны,
Хто сам іншых паважае.

Ян.

Зведаў я амаль паўсвета,
Быў ў Парыжы і ў Лёндыне,
І во ўсё-ткі ў мае леты
Даў злавіць сябе дзяўчыне.
Але, кажучы між намі,
І ў Парыжы дурань зглупіць:
Каб меў золата пудамі,
Сабе розуму не купіць.

Навум.

Вы, паночкі, сакалочкі,
Паслухайце гутарочкі:
Хоць умерці не падацца,
Каб вам толькі спадабацца.
Не зрабіце ж вы нам мукі;
А, злажыўшы гэтак рукі,
У ладоні моцна біце,
Потым... дахаты ідзіце.

Хор.

Здаваленне, якое адчуць мы гатовы,
Будзем помніць удзячна у кожнае хвілі,
Калі публіка шчыра нам скажа хоць слова,
Што ігрою сваёй мы яе захапілі.

*Канец*



## № 1. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Вільня. 21 лістапада 1909 г.*

Вельмі паважаны паночку!

Даруйце, што асмельваюся так часта Вам дакучаць, але што я, гаротны, зраблю, калі маё паганае палажэнне да гэтага змушае. Я хацеў бы запытацца Вашай ласкі, што добрага чутно аб маёй справе? Я ў Вільні доўга не магу трымацца, а так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным мейсцы, каб сябе загартаваць і ашліфаваць на службу беларушчыны і беларускаму грамадзянству. Пан Антоні Л<уцкевіч>, прыехаўшы з Пецярбургу, нічога пацяшаючага не прывёз для мяне. Мне надта хацелася б убіцца ў Пецярбурзе ў якую-колечы бібліятэку; так гэта заняцце нeяк страшна люблю! Калі б што-небудзь падвярнулася, то тэлеграфуйце мне — я кажнай секунды магу да Вас з'явіцца.

Калі нічога зноснага не прыдумаеце, то такі папраўдзе са мной кепска будзе.

Просячы яшчэ раз даражэнькага паночка і ўсіх супольнікаў не забывацца на мяне, астаюся з паважаннем і шчырым жычэннем усяго добрага *І. Луцэвіч.*

Вільня. 21/XI <19>09 г.

## № 2. ДА Л. М. КЛЕЙНБАРТА

*Санкт-Пецярбург. 1910 г.*

Глубокоуважаемый Лев Наумович!

Вам желательно иметь, как Вы там по-книжному называете, мою автобиографию. Что же, пожалуйста. Чем могу — рад служить. Однако чего-нибудь интересного и

светлого мало в ней найдется, т. к. суждено мне принадлежать к разряду тех многочисленных на святой Руси людей, которых обыкновенно величают париями, скитальцами и т. п. титулами.

Родился я [redacted] 1882 г., кажется, в Виленской губ<ернии>, на границе ее с Борисовским у<ездом> Минск<ой> губ<ернии>.

Отец мой сначала арендовал землю, потом служил у помещиков «экономом» (что-то вроде старшего приказчика в имении), затем оставил службу и уже до конца своей жизни скитался арендатором по помещичьим усадьбам. Грамоте — первоначально на польском языке — обучал меня странствующий «дарэктар». Это особый в Белоруссии тип учителя-передвижника, тип, к сожалению, уже вымирающий вследствие усердного преследования в нашем крае внешкольного обучения детей, в особенности лицами, не имеющими на это специальных казенных бумажек.

Учился я довольно усердно, усердие это увеличилось еще более после того, как в один прекрасный день отец мой сделал мне усердное, далеко не лестное для меня отцовское внушение каким-то радикально действующим предметом (кажется — уздечкой) за мои, по его мнению, малые успехи в науках.

Кстати, отмечу, что отец мой был грамотен настолько, что даже знал три арифметических действия — сложение, вычитание и умножение, и только деление осталось для него какой-то неразгаданной загадкой.

Русскую азбуку выучил [redacted] каким-то непостижимым для меня образом по календарю при помощи прислуги, обладающей, на мое счастье, всеми тайнами гражданского алфавита. Впоследствии еще два-три «дарэктары» один за другим обогащали мой ум своими небогатыми познаниями.

Потом несколько месяцев побывал в народном училище, где и удостоился единственного свидетельства об окончании учебного заведения.

Отец мой некоторое время носился с мыслью приготовить меня в какую-нибудь среднюю школу, но это так [redacted] осталось несбытыми мечтами.

Нужда заставила меня взяться за другую науку, а именно — читать грустную книгу помещичьей пашни и писать печальную повесть своего горя сохой да косою.

Но жажда знания не давала мне покоя, хотя все пути к науке, как говорится, были для меня совершенно отрезаны. Единственное, что оставалось,— это книги, и я им отдался всей душой и сердцем. Днем работал по хозяйству, а ночью читал и перечитывал все, что попадалось под руку.

Отец, конечно, смотрел на это не очень дружелюбно, т. к. подобное увлечение считал излишней роскошью для селянина-работника и бесполезным уничтожением керосина.

Волей-неволей приходилось с этим считаться и держаться с книжками настороже.

Пришлось керосинное освещение заменять более дешевым материалом, а именно — пользоваться снисходительной в таких случаях мечтательницей луной или дымящим костром в поле на ночном. Книги старался я доставать, где только было возможно, хотя это последнее представляется в наших захолустных уголках далеко не легким делом.

Впоследствии познакомился я с одним соседним помещиком-поляком, который любезно разрешил мне пользоваться его довольно обширной польской библиотекой. К тому же времени мне удалось пойти с отцом на компромисс и выписать журнал «Родина».

Из отдельных авторов более всего нравились мне: польские — В. Сырокомля и Г. Сенкевич, русские — М. Лермонтов и М. Горький.

Когда мне было приблизительно лет 19—20, умер мой отец, оставив нас — семеро детей (я — самый старший) и мать, а в полтора года после смерти отца эпидемия унесла в могилу в течение одной недели единственного моего брата и двух младших сестер.

Конечно, такая преждевременная утрата дорогих лиц не могла не отразиться на мне угнетающе, тем более что причиной этих несчастий считал я нашу бесприютную, полную всяких лишений, скитальческую жизнь. Страшно становилось за будущее, и тут я решил бросить пахать чужое поле и стал подыскивать себе какую-нибудь службу.

Благодаря, как водится, протекции я достал место письмоводителя у одного следователя. Последний был вполне культурный человек, играл на скрипке и любил при случае развлекать своих гостей (доктора, начальн<ика> почт<овой> конторы и др.) чтением следственного криминального материала (относящегося к изнасилованию и растлению малолетних).

К сожалению, пробыв у следователя 2—3 недели, получил от него записочку, гласящую, что «вы-де, мол, молодой человек, не обладаете приятным почерком, ввиду чего подружески советую вам вернуться к прежнему образу жизни». Одним словом, прогнал. После этой канцелярской службы вскоре получил я место приказчика в одном имении Могилевск<ой> губ<ернии>. Тут мне поставил мой хлебодатель главным условием моих обязанностей, насколько возможно

эксплуатировать рабочие руки. Но эта моя эксплуатация долго не продолжалась. Заболела моя мать, и меня вызвали домой.

Когда мать выздоровела, я решил поступить в винокуренный завод практикантом, надеясь таким путем добиться чина винокура, дабы, имея летом свободное время, читать книжки и писать стишки.

Прослужив верой и правдой три года в помещичьих винокурнях, где, кстати добавлю, считался я официально практикантом, а на самом деле исполнял обязанности рабочего, я бросил эту специальность и уехал в Вильну. В Вильне достал я место в библиотеке, место, о котором с детства мечтал.

Свободное время от занятий в библиотеке посвящал ред<акции> «Наша ніва» и пописывал стишки.

В Вильне пробыл я полтора года и затем уехал в Петербург за наукой, т. е. чтобы поступить на какие-нибудь общеобразовательные курсы, каковых не было в Вильне, и этим хоть мало-мальски пополнить свое образование. В Петербург приехал я без копейки за душой и только благодаря исключительно отзывчивому сердцу профессора Б. И. Эпимах-Шипилло кое-как пристроился и существую в холодной и суровой столице.

Писать начал я с 1904 г., но сначала ничего путного не выходило, т. к. не имел тогда еще ни малейшего представления о теории стихосложения. Впоследствии попалась мне в руки стилистика, и дело стало налаживаться.

Первый сборник моих стихов по обыкновению удостоился даже двойной конфискации: первый раз по распоряжению Петербургского комитета по делам печати, а второй — по предписанию виленской администрации. Однако оба раза конфискация была снята.

Вам, может быть, интересны мои, в известные периоды жизни, переживания и мировоззрения. Все это приблизительно отразилось на моих стихотворениях. Безусловно, о многом приходится умалчивать, ибо в наши веселые времена не везде и не обо всем удобно вслух рассуждать. В заключение, пародируя стихотворение русского поэта, скажу:

Суждены нам благие порывы,
Да свершить ничего не дают.

Петроград, 1910 г.

Из печати вышли след. мои книги: «Жалейка» (1908), «Hušlar» (1910), «Адвечная песня» (1910), «Сон на кургане» (1912), «Паўлінка» (1913), «Шляхам жыцця» (1913).

## № 3. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «НАША НІВА»

*Да 24 ліпеня 1911 г.*

У кантору «Нашай нівы»

Будзьце ласкавы высылаць на Акопы і на маё імя «Нашу ніву» рускімі і польскімі літарамі. Вышліце такжа простай бандэроляй на мой рахунак «Жалейку», «Гусляра» і «Адв<ечную> песню» па аднаму экземпляру простай бандэроллю.

*Ів. Луцэвіч*

## № 4. ДА Л. М. КЛЕЙНБАРТА

*Санкт-Пецярбург. 25 кастрычніка 1911 г.*

СПб. 25/X 1911 г.

Глубокоуважаемый Лев Максимович!

Посылаю в Ваше распоряжение свои книжонки. Буду очень и очень Вам благодарен, если дадите мне какую-нибудь возможность ближе познакомиться с русским литературным миром, который меня постоянно интересовал и интересует, но который, к сожалению, доселе мне совершенно незнаком. Думаю, что это в некоторой степени было бы для меня не бесполезно. Та обстановка и среда, в которой с детства верчусь, которая и по настоящее время мало изменилась к лучшему в моральном отношении, как-то меня не удовлетворяет. Хочется чего-то более широкого, более светлого. Я сам ораторским искусством не обладаю и собеседник <из> меня, пожалуй, скучный, но послушать и поучиться у других каждый сумеет, если только пожелает. Одним словом, Лев Максимович, делайте, как считаете лучшим, за все буду Вам сердечно благодарен.

Примите уверение в моем искреннем к Вам уважении.

Всегда готовый к услугам *Ив. Луцевич.*

## № 5. ДА Л. М. КЛЕЙНБАРТА

*Санкт-Пецярбург. 27 лютага 1912 г.*

СПб. 27/II 1912 г.

Глубокоуважаемый Лев Наумович!

Посылаю Вам, хотя и с маленьким опозданием, корректурный оттиск статьи А. Новины. Между прочим, обращаю Ваше внимание на статью этого же автора в журнале «Запросы жизни» в № 6 (от 10/II 1912 г.).

Примите уверение в моем искреннем к Вам уважении.

Ваш слуга *Ив. Луцевич*

## № 6. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Акопы. 5 чэрвеня 1912 г.*

Акопы. 5/VI 1912 г.

Вельмі паважаны і дарагі паночку!

«Маладую Беларусь» атрымаў і шчыра дзякую за яе Суполцы. Дужа пекна выглядае, адно толькі несамавіта, што «М<аладая> Б<еларусь>» мае апратку непрактычную. Дзіўлюся пану старшыне, што ратаваў за паперу, каб была добрая, а вокладку зрабіў такую, што нават у мяне на трэці дзень паляцела.

Я бы ад шчырага сэрца радзіў надалей рабіць вокладку мацнейшую, бо гэта страшэнна непрактычная. Заадно прасіў бы для адбіткі зрабіць мацнейшую. Цяпер другая рэч. Дужа мне прыкра, што п. старшына не лічыўся з маёй просьбай і па-свойму папраўляў лірніка, дзе ён рыфмуецца з другім словам. Значыцца, выйшла ні к сялу ні к гораду. Ну, але гэта глупства. Другі раз, як буду аддаваць што-колечы да друку пану старшыне, то буду таргавацца на чым стала.

Цяпер, даражэнькі паночку, як я ўжо і прасіў, будзьце ласкавы прыслаць мне колькі штук «М. Б.» і маіх адбітак «Сон на кургане».

А далей, жыву, як гарох пры дарозе, хоць не даюся, каб усякі дурань мяне шчыпаў.

Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў пану Лявіцкаму, і ён казаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца «Паўлінка», напісана прозай, з шляхоцкага жыцця.

Калі мне ўдасца перапісаць на машынцы ў колькі экземплярах, то дарагому п. прафесару прышлю адзін экземпляр для прагляду.

Маюся ў канцы гэтага месяца паехаць у Вільню, разумеецца, калі будуць на гэта грошы. Наконта гэтых апошніх вельмі прасіў бы п. старшыну, каб ён з ласкі сваёй выслаў мне ў палавіне гэтага месяца якіх рублёў 15, бо страшэнна патрэбна.

Напішыце, вельмі паважаны і даражэнькі паночку, што чуваць у Вас і ў Суполцы. Я, як перапішу (апрацую) начыстую «Паўлінку», думаю напісаць паэмку «Рагнеда», гістарычную рэч, з жыцця Полацкага княства, а после, после, як Бог дасць. На днях маюся з'ездзіць да кс. Астрамовіча, а стуль, пагасціўшы трохі дома, усё-такі пастараюся быць у Вільні. Калі, даражэнькі паночку, будзеце ў Вільні? — Добра б было пабачыцца.

Затым астаюся шчыра Вам аддany Ваш слуга *Ів. Луцэвіч.*

Пішыце, дарагі паночку, і не думайце, што мне вельмі дома весела і радасна жывецца.

Ваш *І. Л.*

Папрасіце, паночку, п. Грыневіча, каб ён прыслаў мне свае песні, 1-ы і 2-і зборн<ікі>.

## № 7. ДА Б. І.ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Акопы. 26 ліпеня 1912 г.*

Акопы. 26/VII 1912 г.

Вельмі паважаны і дарагі паночку!

Я гаварыў наконта шаблі, і собственнік яе згаджаецца аддаць Вам за 8 рублёў. Падробнае апісанне гэтай шаблі нойдзеце ў п. Ластоўскага. Во то ж калі згаджаецеся на гэту цану, то будзьце ласкавы выслаць зараз жа грошы, а я, едучы ў Піцер, прывязу Вам гэтае аружжа.

У мяне нічога цікавага не чуваць. Думаю толькі аб тым, каб як дастаць грошы на дарогу, і больш нічога.

У суботу еду ў Стоўбцы да Коласа, а стуль да кс. Астрамовіча і дамоў.

Затым цісну моцна Вашу руку.

Ваш слуга *Ів. Луцэвіч*

## № 8. ДА Л. М. КЛЕЙНБАРТА

*Санкт-Пецярбург. Да 16 верасня 1912 г.*

Глубокоуважаемый Лев Наумович! Вчера я справлялся по телефону три раза между 5 и 8-ю часами вечера, но д-ра Еремича не было дома. Сегодня мне передали по телефону, что Александр Порфирьевич приглашает меня к себе, конечно, не указывая времени. В больнице он занят до 1 часа дня. Я думаю, если разрешите, приехать к Вам в воскресенье (16/IX) в ч. 12-м, так чтобы я от Вас успел быть у доктора к 1 часу. Мне хотелось бы, если поеду с Вами или один, поговорить сначала с Александром Порфирьевичем об издании моих вещиц в общих чертах, а уже потом в назначенное доктором свободное время выработать подробный план издания. Приблизительно и подсчитаю, сколько выйдет всего печатных листов и сколько сравнительно это будет стоить. О подробностях расхода придется переговорить с типографией. Конечно, говорю об этом, имея в виду, если издание будет налаживаться.

Примите уверение в искренней к Вам преданности Ваш слуга *Ив. Луцевич.*

P. S. Адрес журнала «Борьба с ложью»: Графский пер., д. 9, кв. 18.

## № 9. ДА Л. М. КЛЕЙНБАРТА

*Санкт-Пецярбург. 21 верасня 1912 г.*

Глубокоуважаемый Лев Наумович!

Будьте любезны, приготовьте оставленные у Вас мои рукописи, чтобы я их мог забрать, если бы Вас не оказалось дома, т. к. на днях (23/IX) предполагаю побывать в Ваших палестинах.

Беседовал я с Александром Порфирьевичем относительно издания моих стихотворений. Порешили выпустить томик в 15 печатн<ых> листов, куда войдут только те из лучших моих произведений, которые не вошли в отдельные уже изданные мои книжки. Окончательное условие с типографией будет заключено, наверно, еще в этом месяце.

Остаюсь искренне Вам преданный Ваш слуга *Ив. Луцевич.*
СПб., 21/IX 1912 г.

## № 10. ДА Л. М. КЛЕЙНБАРТА

*Санкт-Пецярбург. 22 лютага 1913 г.*

СПб. 22/II 1913 г.

Глубокоуважаемый Лев Максимович! Не откажите прислать, по получении этой открытки, оставленную у Вас мою автобиографию — она мне сейчас очень нужна для статьи в одну энциклопедию. А также возвратите, пожалуйста, книги со штемпелем Б. Игн. Эпимах-Шипилло. Словарь и книги крайне ему необходимы.

С совершенным почтением Ваш слуга *Ив. Луцевич.*

Адрес мой: В.О.4 линия, д. 45, кв. 16.

## № 11. ДА В. Ю. ЛАСТОЎСКАГА

*Санкт-Пецярбург. 2 сакавіка 1913 г.*

СПб. 2/III-13 г.

Даражэнькі паночку!

Будзьце ласкавы атпісаць мне канешне аб рэцэнзіях, друкаваных аб маіх кніжках. Калі не можаце дэталічна ўказаць даты і № тэй газеты або кніжкі, у якой надрукавана, то хоць дайце названне часопісі, а я ў публічнай бібліятэцы вышукаю што патрэбна. Бо бачыце, рэч у тым: мяне просіць прафесар Венгераў даць яму гэтыя ведамасці для энцыклапедыі Бракгаўза і для «Критического словаря». Прашу Вас ласкай, зрабіце для мяне гэту спраўку. Чаму ніякога чорта не пішаце?

*Ваш Ів. Луцэвіч*

Не забудзьце ўказаць нумар «Tygodnik Krajowy», выдав<аны> у Кіеве.

## № 12. ДА А. І. ЛУЦКЕВІЧА

*Санкт-Пецярбург. 31 сакавіка 1913 г.*

СПб. 31/ІІІ-13 г.

Шчырапаважаны Паночку!

Пан Іваноўскі перадаваў, што Вы дасцё свой артыкул у 3-ці сшытак «М<аладой> Б<еларусі>». Вота ж, Паночку, ці не маглі бы гэтай ласкі зрабіць у скорым часе, бо ўжо нас друкарня ганяе аб матэрыял<ах>.

Шчыра Ваш адданы *Ів. Луцэвіч*

## № 13. ДА А. І. ЛУЦКЕВІЧА

*Санкт-Пецярбург. 6 красавіка 1913 г.*

СПб. 6/IV-13 г.

Шчырапаважаны Паночку!

Пісульку Вашу атрымаў і дужа за яе дзякую. Стаццю сваю, Паночку, прысылайце хоць па Вялікадню, бо, бачыце, рэч у тым, што ў нас ніхто не ўмее напісаць палітычны артыкул. Мейсца для Вас аставілі ў «М<аладой> Б<еларусі>» цэлы аркуш, так што вельмі добра было бы, каб стацця Ваша (адна або дзве) былі не меншыя і не большыя за 16 страніц друку фармату «М.Б.». Пакуль што будзем друкаваць, пачынаючы з 17 стр. Ага, чуць не забыўся: не 16, а 14 стр., бо 2 стр. зойме заглаўны ліст.

Цяпер, Паночку, вось што: я паслаў Вам для рэцэнзіі «Шляхам жыцця». Вота ж вельмі шчыра прасіў бы Вашай ласкі даць дзе можна хоць маленькія адзывы аб гэтай кніжцы, а такжа памясціць абвесткі ў «Н<ашай> н<іве>», «Kurjeru krajowym», «Веч<ерней> газ<ете>» і др., я за гэта заплаціць не магу, але ў апошнім разе, то можна было бы адлічыць гэты расход пры прадажы кніжкі ў «Н<ашай> н<іве>».

У «Н<ашу> н<іву>» я неўзабаве вышлю крыху экземпл<яраў> на камісію. Пашлю таксама ў Вільню на склад якую тысячу штук, толькі рэч у тым, што ў «Н<ашай> н<іве>»

гэтых экз<емпляраў> баюся складаць на выпадак канфіскацыі, бо склад выдання надрукаваны ў «Суполцы» і ў «Н<ашай> н<іве>». Дык падумайце, Паночку, аб гэтым і хоць пару слоў мне напішыце.

«Веч<ернюю> газ<ету>» атрымліваю, за што шлю Вам шчыры дзякуй. Што да кірунку і зместу Вашай газеты, то, адным словам, трэба Вас павіншаваць. Газета такая, якой лепшай трудна і выдумаць для правінцыі!

А цяпер віншую Вас, Паночку, з надыходзячым Вялікаднем, жычу Вам усяго найлепшага, а найважнейшае — вытрываласці і здароўя ў Вашай нялёгкай ідэёвай працы.

Ваш слуга *Ів. Луцэвіч*

P. S. Я ўскорасці пасля свят выязджаю з Піцера, дык было б добра здаць Ваш рукапіс да гэтага часу ў друкарню.

*Ів. Л.*

## № 14. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «НАША НІВА»

*Санкт-Пецярбург. 18 красавіка 1913 г.*

СПб. 18.IV.1913 г.

Шаноўны пане рэдактар!

Цікава дужа вядзецца ў Вашай газеце аддзел беларускай бібліяграфіі. У апошнім, 15 нумары «Нашай нівы» ў пашт<овай> скрынцы надрукавана: «За студзень і люты нічога не выйшла, у маі выйдзе зб. вершаў М. Багдановіча, а можа, і яшчэ што-колечы, калі збярэмся з грашыма». Што гэта — жарт першаапрэльскі ці што іншае?.. Напомню Вам, што ў студні выйшла «М<аладая> Беларусь», 2-і сшытак, а ў красавіку — мая кніжка «Шляхам жыцця», каторую ў Вашу рэдакцыю паслаў. Аб гэтых кніжках Вы нават не рачылі надрукаваць у сваёй газеце абвестак, хоць абвестка «Н<ашай> н<івы>» надрукавана ў 2-м сш<ытку> «М<аладой> Б<еларусі>». Мне здаецца, што за 5 год майго супрацоўніцтва я не заслужыў на тое, каб так беззасценчыва ігнарыраваць маю нававыйшаўшую кнігу, як гэта Вы зрабілі ў пашт<овай> скрынцы сваёй газеты.

З паважаннем *І. Купала*

## № 15. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Акопы. 2 чэрвеня 1913 г.*

Акопы. 2. VI-13 г.

Даражэнькі паночку!

Пасылаю Вам пры гэтым спісак кніжак, каторыя я магу тутака купіць. Будзьце ласкавы харашэнька разгледзець гэты спісак і напісаць мне ў скорым часе, ці кніжкі гэтыя варты што-колечы, чы не. А такжа ці можна будзе іх каму-колечы спусціць у Вільні. Мoжа бы, пагаварылі аб гэтым з п. Іванам і п. Обстам. Апрача гэтых, ёсць колькі дзесяткаў французскіх, нямецкіх і ангельскіх, але між імі, як разглядаў, няма нічога путнага. Яшчэ раз прашу Вашай ласкі, разгледзьце гэты каталог і напішыце мне як найхутчэй. Пішучы, не канешне выменяць усё названне кніжкі, а можна проста саслацца на нумар, пад каторым яна стаіць у спіску, а я па астаўленаму ў сябе дублікату буду ведаць, аб якой кніжцы рэч ідзе. Можа бы, якая бібліятэка ці музей выбралі сабе з іх для камплекту.

Што чутно ў Вас? Ці пераехаў у Вільню п. Іваноўскі і як стаяць справы са зборнікам «Маладой Беларусі»? Ці паслалі, паночку, як абяцалі, у рэдакцыі мае кніжкі «Шл<яхам> жыцця»? Калі не, то прашу Вашай ласкі на ўсіх багоў земскіх і нябескіх, пашліце іх, буду вельмі Вам удзячны.

Будзьце ласкавы, купляйце для мяне і прысылайце «Biela-rusa», калі яшчэ выходзе. Я прасіў аб гэтым п. Бычкоўскага, і ён абяца<ў> высылаць, але, як відаць, то мой «шчыры» прыяцель п. Лявіцкі не лічыць мяне годным чытання гэтай газеткі.

У мяне нічога цікавага не чуваць. Сяджу дома, як мыша ў нары, і чакаю ў моры пагоды. На вёсцы цяпер, як самі дагадываецеся, хораша, але трох<і> пагода падгулівае,— апошнія часы — холад і дождж. Здароўе маё не ажэбы, пакашліваю трохі. Сягоння еду ў Мінск і думаю пабываць у доктара, а то ўжо пачынаю баяцца, каб не пайсці да Абрагама на піва.

Перачытваю белар<ускія> этнагр<афічныя> зборнікі — Шэйна, Смаленскі, апісанне Магілёўск<ай> губ<ерні> і др.; пробаваў некаторыя песні напісаць на народны сюжэт, але праца гэтакая не з лёгкіх. Думаю апрацаваць некаторыя паданні, калі ўдадуцца, то прышлю Вам. Цяпер будзьце здаровенькі і вясёленькі. Усяго светлага і радаснага!

Ваш слуга *Ів. Луцэвіч*

Канешне напішыце.

## № 16. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «НАША НІВА»

*Акопы. 17 ліпеня 1913 г.*

Акопы. 17/VII-13 г.

Паважаная рэдакцыя!

Прашу, калі ласка, памясціць у чарговым нумары «Н<ашай> н<івы>» вось што:

Папраўка.

У № 28 «Н.н.» за гэты год памылкова надрукавана шостая (лічачы з гары) чатырохрадковая зваротка верша Я. Купалы «Навука». Папраўдзе гэта зваротка павінна чытацца вось як:

У брэдняў верыць кучы,
У што не вера той,
Хто нас гэтак вуча
Летам і зімой.

С паважэннем *Ів. Луцэвіч*

P. S. Чаму ў вас німа загалоўнага *Ў*?

## № 17. ДА Г. ЛЕЎЧЫКА

*Вільня. 7 лютага 1914 г.*

Паважаны пане! Вашага «Чыжыка» аддалі ўжо друкаваць рускімі літарамі. Будзьце ласкавы прыслаць як найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якія папраўкі, то прышліце папраўлены экземпляр.

Астаюся са шчырай да Вас пашанай сакратар Беларускага выдавецтва *Ів. Луцэвіч.*

Вільня. 7/II-14 г.

P. S. Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі б, каб Вы самі зрабілі.

*Ів. Л.*

## № 18. ДА К. ЛЕЙКІ

*Вільня. 21 лютага 1914 г.*

Вельмі паважаны Пане!

Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні хацела бы выдаць сваім коштам Вашы творы асобнай кніжкай. Калі бы Вы, Паночку, на гэта згадзіліся, то шчыра бы Вас прасілі адабраць і акуратна прагледзіць матэрыял для кніжкі і прыслаць нам яго ў мажліва скорым часе. Кніжку пастарайцеся зрабіць па магчымасці таўсцейшую.

Чакаючы ад Вас хуткага адказу, астаюся са шчырай да Вас пашанай.

Сакратар Выдавецтва *Ів. Луцэвіч*

Вільня. 21/II-14 г.

## № 19. ДА А. А. КАРЫНФСКАГА

*Вільня. 24 лютага 1914 г.*

Глубокоуважаемый и дорогой Аполлон Аполлонович!

Простите великодушно, что так долго не писал Вам. Но... Вы человек занятой, и я не празднующий, так что и «духовно» мы, я думаю, один другого себе представляем. Теперь же к Вам маленькая просьба. Не откажите, пожалуйста, прислать мне тех № журналов, в которых Вы печатали мои переводы. Тут, в Вильне, я не мог отыскать их. Исполните мою просьбу, конечно, только в том случае, если это для Вас незатруднительно. Ежели у Вас нет под рукой этих журналов, то потрудитесь и напишите в редакцию, чтобы оттуда выслали прямо по моему адресу наложенным платежом.

Простите за беспокойство и примите пожелания Вам всего светлого и радостного от искренне преданного Вам *Ив. Луцевича.*

Низкий поклон и сердечный привет пани Марианне и моей тезке панне Янине.

*Ив. Л.*

## № 20. ДА Б. А. ТАРАШКЕВІЧА

*Вільня. 4 сакавіка 1914 г.*

Вільня. 4.III-1914 г.

Дзядзька Тарас!

Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці штонебудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прыслаць нам яго, калі не, то будзьце такімі добранькімі і спрытнымі ды як найхутчэй гэта зрабіце. Просіць Вас аб гэта п. Іваноўскі, старшыня Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні. Граматыку Вашу хоча Таварыства выдаць і пусціць у свет у «назіданіе» маладому беларускаму пакаленню. Дык варушыцеся, дзядзька, і ў шапку не спіце. Чакаем хуткага ад Вас адказу.

Шчыра Вам адданы сакратар выдавецтва *Ів. Луцэвіч*

## № 21. ДА А. А. КАРЫНФСКАГА

*Вільня. 16 сакавіка 1914 г.*

Вильня. 16/III-14 г.

Глубокоуважаемый и дорогой Аполлон Аполлонович!

Снова я замешкался с ответом на Ваше сердечное письмо. Что же поделать? Таков уж с меня лентяй! Читал я и перечитывал по нескольку раз Ваши переводы. Замечательно точны и красивы! Читая их, я вот что надумался: как бы это, Аполлон Аполлонович, устроить, чтобы этих переводов с меня сделать целую уйму и выпустить их отдельной книжкой? Что Вы на это? Мне кажется, что такая книжка пользовалась бы несомненным успехом, особенно в нашем крае. Для большей важности Вы бы поместили под заголовком — «авторизованный перевод». Я со своей стороны постарался бы разрекламировать в краевой — русской, белорусской и даже еврейской печати. Конечно, переводы делали бы Вы, Аполлон Аполлонович, тех из моих стихотв<орений>, которые бы больше всего нравились. Жаль только, что Вы смотрите с недоверием на латинский шрифт, а то в «Huślare» нашлось бы несколько сносных вещиц для перевода. Может быть, переписать Вам на русский?..

Если эта мысль моя Вас, Аполлон Аполлонович, заинтересует, то черкните, пожалуйста, об этом пару словечек. Как-никак, а Вы бы, не кто другой, явились в этом деле пионером, з<а> что Вам белорусы сказали бы великое спасибо. Подумайте!

А теперь о чем другом.

Что Вы, Аполлон Аполлонович, подпускаете в своих письмах такой ненужный пессимизм? Да Вам с такой известностью только жить-поживать да добра наживать!

После «Поздних огней» Вы можете еще зажечь «вечные огни», которые и так уже зажгли и зажигаете в сердцах своих читателей. А пессимизм? Оставим его, Аполлон Аполлонович, своим недругам. Вот мне-то пессимизм скорее подошел бы к лицу. Молодость уходит, а сделано так мало, так мало... В минувшем нет ничего радостного и светлого, будущее тоже в мрачных красках рисуется. Вот тут и живи! Теперь вдобавок еще хвораю немножко. Был в бане, простудился и вот уж другую неделю еле ноги влачу и ни о чем думать не в состоянии.

Когда улучите свободную минутку, пишите, Аполлон Аполлонович. Все, что только появится мое в печати, буду Вам сейчас же присылать. А теперь всего светлого и радостного. Передайте мой сердечный привет и низкий поклон Марианне Иосифовне. Заступитесь, Аполлон Аполлонович, за меня перед Марианной Иосифовной, если будет очень ругать меня за неисполнение обещанного. Все вдохновение не приходит.

Всего хорошего. *И. Луцевич*

Вильна, Каштановая, 5, кв. 4.

Простите за длинное и безграмотное письмо.

### № 22. ДА А. А. КАРЫНФСКАГА

*Вільня. 6 красавіка 1914 г.*

Вільно. 6/IV-14

Глубокоуважаемый и дорогой Аполлон Аполлонович!

Поздравляю Вас с Светлым Христовым Воскресеньем. Всего Вам светлого и радостного в жизни. Низкий поклон Пани Марьянне и самые лучшие пожелания Яне.

Ваш весь *Ив. Луцевич*

## № 23. ДА А. А. КАРЫНФСКАГА

*Вільня. 15 красавіка 1914 г.*

Вильна. 15/IV-14 г.

Глубокоуважаемый и дорогой Аполлон Аполлонович.

Открыточки Ваши обе получил, за что шлю Вам сердечное спасибо. Посылаю Вам с этим часть стихов из «Huślara», переписанных мною когда-то на машинке. Теперь переписал бы больше,— но времени очень мало.

Слово «гаротны» будет дословно — «горемычный». Если другие слова встретятся Вам непонятные, то выпишите на бумажке и пришлите. Когда уедете на дачу — пришлите свой адресок.

Всего светлого.

Ваш *Ив. Луцевич*

Сообщите, пожалуйста, о получении высланной с этим бандероли.

Привет Марианне Иосифовне.

## № 24. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Вільня. 28 верасня 1914 г.*

28/IX-14 г.

Вельмі паважаны і даражэнькі паночку!

Звяртаюся да Вас са шчырай і пакорнай просьбай, у якой на ўсё чыста Вас прашу, не адкажыце. Кнігарня і Суполка прадалі за гэты час «Шляхам жыцця» каля 700 экземпляраў. З выручаных грошы, паводлуг умовы, належыцца мне пэвен працэнт. Якую частку я магу атрымаць з гэтых грошы — ёсць у пратаколах Суполкі, сказана. Вось жа, даражэнькі паночку, не адкажыце, зрабіце для мяне ласку і вышліце на маё імя сто рублёў. Я страшэнна находжуся ў крытычным палажэнні, так што хоць вешайся. Атрымліваю тут толькі 30 рубл<ёў>, і гэтых мо і хапіла б, каб не іншыя надзвычайныя расходы. Купіў сабе вясной гарнітур за 30 р., а пасля лячыў зубы, што абышлося мне 50 р. Вось дзеля гэтага мусіў залажыць свой загарак і зрабіць так прыватнага доўгу. Загарку ўжо выходзе срок, і можа прапасці ў ламбардзе. У да<да>тку надыходзе срок плаціць за кватэру, за якую плаціць

«Наша ніва». Але цяпер яны не маюць грошы, дык мушу я сам хоць частку ўнясці, каб гаспадар не выкінуў на двор рэдакцыі. І што рабіць з усім гэтым — проста з мазгоў сыходжу. Дабаўлю, што гэта кватэра пад рэдакцыю нанята на маё імя. Са стараны я нідзе не магу зарабіць, нават выехаць дамоў не магу, бо сам адзін рэдагую цяпер «Нашу ніву». Ластоўскі заняты толькі кнігарняй. Я звярну<ў>ся да «Выдавецкага таварыства», каб яны мне далі з кнігарні за прададныя «Шляхам жыцця» належачую мне долю. Але выдавецтва адаслала мяне да Суполкі, уласціва да Вас, даражэнькі паночку. Дык не адкажыце і паратуйце, спісаўшы гэтыя грошы з майго рахунку ў Суполцы. Вы ўжо, паночку, не раз мяне ратавалі ў цяжкую мінуту, дык дапамажыце і цяпер. Іначай прыйдзецца згінуць без часу і вырачыся ўсёй беларускай справы, якая мне цяпер стала даражэй жыцця. Усю душу і ўсе сілы цяпер укладаю ў «Нашу ніву», каторую стараюся паставіць па сіле магчымасці на належачую вышыню. Апрача працы непамернай каля газеты, маю шмат усялякіх непрыятнасцей, звязаных і з рэдагаваннем, і з выдаваннем. Яшчэ і цяпер у мяне не топіцца ў печы і прыходзіцца калець і хварэць, бо няма за што купіць дроў. У дадатку, каб яго немач, мой кажух саўсім раскідаўся, і не маю ў чым паказацца на вуліцу і злазіць у цэнзуру. Цяперака, калі Вы мне, даражэнькі паночку, дапаможаце, то буду лепей галадаць і абарванцам хадзіць, чымся дакучаць Вам сваёй просьбай, бо шчыра адчуваю, сколькі ўжо дабра Вы мне і так дагэтуль зрабілі. Па праўдзе кажучы, увесь свой даход з кніжак павінен быў аддаваць Вам за тую ласку, што Вы мне дагэтуль рабілі. Але што я, няшчасны, зраблю, калі іначай нічога не выходзе. А жыць хочацца і шчыра працаваць для сваёй Бацькаўшчыны. Маю надзею, паночку, што Вы не адкажаце ў гэтай просьбе Вашага пакорнага слугі. Гэты ліст пісаць да Вас заставіла мяне, папраўдзе, безвыходнае маё палажэнне, якое ляда дзень можа выбіць мяне саўсім з жыцця. Чакаючы ад Вас, паночку даражэнькі, адказу, астаюся шчыра Вам адданы і Ваш пакорны слуга *Ів. Луцэвіч.*

Адрас мой: Вильна, Виленская, 29, Ивану Доминиковичу Луцевичу.

P. S. Як Вам, паночку, падабаюцца апошнія нумары «Н<ашай> н<івы>»? Я настаяў, і ўзноў выдаецца большым размерам. *І. Л.*

Напішыце, паночку!

## № 25. ДА А. А. КАРЫНФСКАГА

*14 снежня 1914 г.*

Поздравляю именинами Сердечные пожелания *Купала*

## № 26. ДА Я. Н. ДРАЗДОВІЧА

*Вільня. 4 ліпеня 1915 г.*

Вільня. 4/VII-15 г.

Вельмі паважаны пане.

Ваш малюнак, выабражаючый курную печ, рэдакцыя атрымала і шчыра Вам дзякуе за гэты падарунак. Спадзяваемся, што Вы яшчэ шмат пекных абразоў памалюеце з жыцця і прыроды роднай, беларускай.

Са шчырай пашанай *І. Луцэвіч*

## № 27. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Масква. 28 верасня 1915 г.*

Масква. 28/IX-15 г.

Вельмі паважаны і дарагі паночку!

На днях быў у мяне Паўловіч і перадаў Вашу пасылачку. Шчыра Вам за яе дзякую — вельмі прыгадзілася. У Маскве сяк-так устроіўся, толькі цяжка надта з грашыма ды непакоіць на добрае прызыў ратнікаў ІІ-га разраду. (Я ратнік прызыву 1903 г.) На лекцыі ў Шаняўскага універсітэт ужо хаджу па часоваму білету — гэта дзеля таго, што падаў я просьбу аб асвабаджэнні ад платы, і рэзультат выясніцца толькі 29/IX. Настраенне няважнае,— найгорш тое, што чалавек не ведае, якое ліха цябе чакае заўтра.

Масква мне не зусім падабаецца — нейкая яна заплутаная і не зусім выразная. Петраград ямчэй захоплівае нашу думку сваёй велічынёй і размахам. Пазнаёміўся ўжо з некалькімі студэнтамі і ўступіў членам у т-ва «О<бщест>во взаимопомощи учащимся Северо-Зап<адного> края»,— нават выбралі мяне ў упраўленне гэтага т-ва. Што чуваць у Петраградзе? Ці сабіраецца ў Вас, паночку, хоць крыху

даўнейшай публікі? Паўтараю Вам просьбу аб адрасе Душэўскага або Тарашкевіча. Калі ласка, прышліце мне гэтыя адрасы, а такжа кніжкі, аб каторых Вас прасіў. Напішыце, паночку, хто прыбыў у Петраград з віленскіх уцекачоў.

Затым будзьце здаровы, паночку, усяго Вам найлепшага. Паклон п. Гагалінскаму і пані Пясецкай.

Шчыра Вам адданы *Янка Купала*

Адрас: Москва, Владимиро-Долгоруковская, д. 27, кв. 73.
Пішыце, паночку.

## № 28. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Полацк. 26 верасня 1916 г.*

Полацк. 26/IX-1916 г.

Вельмі паважаны і даражэнькі паночку!

Я надовечы дастаў адрас Максіма Багдановіча, каторы Вам пасылаю: г. Ярославль, ред. газ. «Ярославльский голос», М. Богдановичу. Пры гэтым яшчэ раз напамінаю Вам, паночку, каб Вы былі ласкавы паціснуць петраградскіх беларусаў; каб тыя заняліся справай беларускага аддзела ў зб. «Отечество». Гэта вельмі важная справа, і стыдна будзе нам, калі мы праспім яе ў шапку. Можна спадзявацца, што з часам зб. «Отечество» будуць служыць інфармацыоннай кніжкай нацыянальных рухаў у Расіі, і вельмі сумна будзе, калі аб беларусах там будзе мала або дрэнна напісана. Трэба ўсіх сіл далажыць, каб не свяціць пасля вачыма перад светам. Каб ■ мог, то сам бы паехаў у Петраград спецыяльне ў гэтай справе.

Цяперака пару слоў аб сабе. Жыву па-стараму, як пан прафесар мяне і бачыў. Жонка трохі на нервы хварэе. Вось ці не знаеце, паночку, якога добрага доктара ад гэтай хваробы, а то чыстая бяда, і сама мучаецца, і мне невялікае шчасце.

Нядаўна былі ў нас п. п. Гагалінскія. Вельмі былі ім рады, аб пану прафесару гутарылі. Яны пыталіся, ці не паедзе ад нас хто ў Петраград, каб пасылку ад іх пану прафесару завезці. Мы абяцалі, як толькі будзе магчымасць, споўніць іх просьбу.

Пішыце, паночку, што чуваць у Петраградзе, што і як з нашымі беларусамі. На Каляды, калі буду мець лішні час і

грошы, то, можа, заскочым з жонкай на пару дзён у Петраград, але гэта нічога яшчэ пэўнага.

А цяпер пакуль што будзьце, паночку, здаровы і вясёлы, паклон усім беларусам.

Шчыра вам адданы Ваш слуга *Ів. Луцэвіч*

P. S. Нізкі паклон і жаданне ўсяго найлепшага пані Пясецкай.

## № 29. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ДЗЯННІЦА»

*Смаленск. 11 жніўня 1918 г.*

Смаленск. 11.VIII.18 г.

У кантору «Дзянніцы»

Вельмі паважаныя дзядзькі!

Будзьце ласкавы выслаць мне 9, 10 і 13 нумар «Дзянніцы», каторыя недзе ў мяне загубіліся, а гэта мне вельмі патрэбна да камплекту. За высылку буду шчыра ўдзячны.

З паваж<аннем> *Ів. Луцэвіч*

Адрас мой: г. Смоленск, М. Богословская, 5.

## № 30. ДА І. А. БЕЛАВУСАВА

*Смаленск. 16 верасня 1918 г.*

Смоленск. 16/IX-18 г.

Глубокоуважаемый Иван Алексеевич!

Очень извиняюсь, что так долго не отвечал на Ваше любезное письмо — сначала болезнь мне помешала в этом, а потом служебные дела — командировка; г. Турук был у меня, и я ему передал для Вас свои некоторые книжки, исключая «Шляхам жыцця», которой у меня не имеется. Одновременно послал Вам через г. Турука экз<емпляр> журнала «Педагогич<еский> листок», в котором имеется моя краткая биография-заметка А. А. Коринфского. Что касается фотографич<еской> карточки, то таковой в данную минуту не имею, когда снимусь,— обязательно вышлю. Очень признателен Вам, Иван Алексеевич, за любезность, оказанную моим «виршам», и, конечно, ничего не имею против,

чтобы они Вами переводились на русский язык. Кстати, замечу, что многие из моих произведений переведены уже В. Брюсовым и А. А. Коринфским, и полагаю, что вторично переводить таковые будет излишней роскошью.

Примите уверение в искреннем к Вам уважении
*Ив. Луцевич.*

P. S. Льщу себя надеждой иметь Ваши оригинальные и переводные произведения, кроме «Кобзаря», который у меня уже имеется от г. Турука. *Ив. Л.*

### № 31. ДА І. А. БЕЛАВУСАВА

*Смаленск. 6 кастрычніка 1918 г.*

Смоленск. 6/X-18 г.

Глубокоуважаемый Иван Алексеевич!

Посылаю Вам что-то вроде автобиографии, написанной мною в свое время для одного из петроградских литераторов. Толку в ней мало — как я теперь замечаю,— но все же, может быть, что-нибудь Вам пригодится из нее. Написана она, когда я жил в Петрограде и посещал общеобразовательные курсы Черняева (1909—1912). Прибавить к ней ничего не приходится, разве только то: из Петрограда переехал в Вильну, где пришлось редактировать белорусскую газету «Наша ніва». Тут меня застала война, пришлось впоследствии эвакуироваться при занятии немцами Вильны (в конце 1915 г.). Выехал в Москву, где пробыл 3 с лишним месяца, посещая, между прочим, университет Шанявского. Из Москвы выехал в Минск, где поступил на службу в военно-дорожные отряды и пробыл до конца войны, будучи перемещен впоследствии в Полоцк, а потом в Смоленск, в котором и живу по настоящее время. По выезде из Вильны почти ничего не написал. Война, революция и проч. как-то не настраивает на поэтический тон. Вот и все, что могу о себе сказать более-менее путного.

Переводы моих стихов помещены А. А. Коринфским в «Педагогическом листке» (1914 г., кн. 1 и 3, 1915 г., кн. 5). Журнал этот издавался в Москве Тихомировым (М. Большая Молчановка, 18).

Переводы В. Брюсова были напечатаны в одной из виленских газет, печатались ли в других изданиях,— не знаю.

Переводы А. А. Коринфского печатались и в других журналах, кроме «Педагогич<еского> листка».

Адрес г. Турука мне не известен, возможно, что знают в Белорусском национальном комиссариате.

Книги своей «Шляхам жыцця» не могу Вам прислать, т. к. я и сам ее не имею, возможно, что достанете ее в ред<акции> газ<еты> «Дзянніца» — Москва, Поварская, 52.

Адрес Якуба Коласа следующий: г. Обоянь Курск<ой> губ<ернии>, почт<овый> ящ<ик> № 23, Константину Михайловичу Мицкевичу.

В заключение позвольте поблагодарить Вас, Иван Алексеевич, за присланные Вами книги. Это для меня очень и очень милая памятка.

Искренне Вам преданный *Ив. Луцевич*

Адрес: Смоленск, Малая Богословская, 5, Ивану Доминиковичу Луцевичу.

## № 32. ДА І. А. БЕЛАВУСАВА

*Мінск. 5 красавіка 1919 г.*

Минск. 5/IV-19 г.

Многоуважаемый Иван Алексеевич!

Почему-то я был уверен, что послал Вам свой новый адрес, т. к. я еще в январе выехал из Смоленска и в настоящее время живу в Минске. Возможно, что по этой причине и письма Ваши не все попали ко мне. Последнее Ваше письмо от 28.III я получил. Сердечно благодарю за память. Переводы В. Брюсова посылаю. Что касается продуктов, то их отсюда можно посылать исключительно с разрешения продовольств<енного> к<омите>та. Если разрешение удастся заполучить, то Вашу просьбу охотно исполню. Цена на хлеб здесь 12—13 руб. за фунт, сало 55—60 руб. фунт.

Не помню, посылал ли я Вам свою фотографию или нет. А может быть, Вы уже ее где-нибудь раздобыли. Если не имеете, то, должно быть, придется послать Вам. При случае напишите об этом.

Хотелось бы получить те журналы, в которых печатались переводы моих стихов, если это Вас не затруднит, то вышлите, пожалуйста, налож<енным> платеж<ом>.

Желаю Вам всего наилучшего.

Искренне преданный Вам Ваш *Ив. Луцевич.*

Адрес мой: Минск губ<ернский>, Юрьевская ул., 35, кв. 6.

## № 33. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Мінск. 13 красавіка 1919 г.*

Вельмі паважаны і дарагі паночку!

Прашу шчыра прабачэння, што так доўга не даваў Вам аб сабе ніякай весткі. Гэта жыццё так неяк круце-муце, што з чалавекам чорт яго знае што выробляе. Я ўжо жыву ў Мінску. Служу ў Камісарыяце асветы бібліятэкарам пры Беларускім народным доме. Літаратурна-выдавецкі аддзел узяў у друк маё «Раскіданае гняздо» (ужо друкуецца ў Вільні). Цяпер вяду з Камісарыятам перагаворы аб выданні поўнага збору маіх твораў. Том не друкаваных у аддзельных кніжках мною ўжо падабраны. Выйдзе такі велічынёю, як «Шляхам жыцця». Калі сыдуся на варункі з Камісарыятам, то, можа, сёлета і выйдзе гэты том у свет. Многа рукапісаў не магу дашукацца. Бачыце, паночку, рэч у тым: мяне тут у Мінску страшэнна абакралі. У 1916 г. я пакінуў пяць скрынь з кнігамі, рукапісамі і іншымі пісьменнымі матэрыяламі ў беларускай кнігарні пад апеку Уласава і Лявіцкага. Цяпер, як прыехаў у Мінск, то і следу ад усяго гэтага не знайшоў. Раскралі ўсё,— і хто? — свае ж беларусы, каб ім ні дна ні пакрышкі. Вельмі шкода рукапісаў і кніжак. Некаторых кніжак цяпер за ніякія грошы не дастану, як, напр., Статут Літоўскі. І тое яшчэ найгоршае, што тут у Мінску няма ніводнай дарэчнай бібліятэкі, дзе б можна было карыстаць з кніг болей паважных. Цяпер я крыху заняўся студ'ёваннем славянскай міфалогіі агулам і беларускай у часнасці. Але, як ужо сказаў, бяда з кніжкамі. Можа, Вы, паночку, мне ў гэтым памаглі бы? У Петраградзе выйшла кніжка ў 1916 г. Зяленіна «Очерки славянской (ці рускай) мифологии». Дык вось ці не маглі бы мне, паночку, выслаць гэту кніжку наложан<ай> платай? Буду вельмі і вельмі ўдзячны. І агулам, можа, паночку, у Вас знайшліся бы якія дублеты кніжак, дык прасіў бы Вас адступіць іх мне. Бо, як і сказаў,— укралі ўсё: Шэйна, Карскага, Раманава і т. д. і т. д. Цяпер яшчэ просьба да Вас, паночку, ці не знойдзеце ў сваіх паперах майго верша «Цару неба й зямлі». Калі б знайшлі, то прышліце з сваёй ласкі. Па Вялікадні, можа, мне ўдасца вырвацца на якіх пару дзён у Петраград. Вельмі ж хацеў пабачыцца з Вамі. Што Вы, паночку, думаеце рабіць з сабою летам? Кідайце, паночку, гэты няшчасны Піцер і перабірайцеся на пастаяннае жыццё хоць бы ў Мінск. Тут і паветра лепшае, і з прадуктамі лягчэй шмат. Ды тут бы Вам нічога не бракавала дзеля таго, што я магу з вёскі ўсё даставаць, хоць і трудна з прывозам —

адбіраюць. Дык надумайцеся і плюньце на гэты Петраград. Тут цераз Камісарыят можна было бы выхлапатаць пазваленне на перавоз усіх Вашых рэчаў і бібліятэкі. Можна было б зрабіць гэта цераз п. Іваноўскага: ён загадчыкам выдавецка-літаратурнага аддзела пры Камісарыяце. Напішыце, паночку, што аб усім гэтым думаеце. А цяпер бывайце пакуль што здаровенькі. Шлю Вам шчырае жычэнне вясёлых свят і ўсяго найлепшага ў жыцці.

Шчыра Вам адданы Ваш слуга *І. Луцэвіч.*

Менск. 13/IV-19 г.

Адрас: Мінск-Беларускі, Юр'еўская вул., д. № 35, кв. 6.

### № 34. ДА І. А. БЕЛАВУСАВА

*Мінск. 25 красавіка 1919 г.*

Минск. 25/IV-19 г.

Глубокоуважаемый Иван Алексеевич!

Я на праздники уезжал к родным в деревню. Возвратясь, застал Ваше письмо. Спешу с ответом. Фотографии под рукой не имею. Пришлось сняться, что и сделал. На днях будет готова, и не медля Вам вышлю. Буду подгонять фотографа, чтобы долго не возился. Посылаю Вам свои книги стихов, за исключением комедии «Паўлінка» и драмы «Раскіданае гняздо» — обе вещи написаны прозой, последняя на днях выйдет из печати. Все это вышлю как-нибудь дополнительно. Из Ваших книг у меня имеются: «Стихотворения» — кн<игоиздательст>во «Утро», затем «Из песен о труде» и «Кобзарь» да еще «Биографич<еский> очерк» Е. Шведера. Буду очень благодарен, если что-нибудь еще пришлете. А. А. Коринфскому напишу. Жаль и очень жаль его, горемычного. Повстречались мы с ним случайно, и с первых же пор подружились, хотя я и годами, и известностью был куда от него моложе. Имел я его почти все произведения, да случилась с ними беда. В начале войны пришлось сложить свою библиотеку в одном месте на хранение, и очень неудачно. Расхитили мне книги все до одной. А имелись редкие экземпляры, в особенности по белорусоведению. Но ничего не попишешь — пропало.

Кстати, напишите, Иван Алексеевич, что слышно с Н. А. Янчуком: в Москве он или выехал? Я писал ему, но до сих пор никакого ответа не получил.

Да вот еще относительно автобиографии. Посылая Вам ее, я даже не прочел, а писал ее чуть не десять лет тому назад. Нет ли там каких несуразностей. Я думал, что Вы только воспользуетесь как материалом для краткой биографич<еской> заметки. Но если пустили ее целиком — значит, она к этой цели годится. Полагаюсь во всем на Вас. Если же будут за нее меня ругать, то свалю всю вину на Вас, Иван Алексеевич. Отбояривайтесь тогда.

А пока примите пожелания всего Вам наилучшего. От души Вам желаю поправиться.

Искренне преданный Вам *Ив. Луцевич*

## № 35. ДА І. А. БЕЛАВУСАВА

*Мінск. 4 мая 1919 г.*

Минск, Юрьевская, 35. 4/V-19 г.

Глубокоуважаемый Иван Алексеевич!

Наконец-то могу послать Вам свою фотографию. Одновременно посылаю Н. А. Янчуку. Если понадобится Ф. Ф. Туруку, то, я думаю, Вы или Н. А. не откажете одолжить ему фотографию для сделания клише. Буду весьма признателен, если получу и Вашу карточку, хотя, правда, на одной из Ваших книг имеется Ваш портрет. Но это своим чередом, а фотография своим. Просил бы Вас также очень, если имеются под рукой те журналы, в которых печатались переводы моих стихов, выслать мне их. Я искал их здесь в Минске, но не нашел.

Я очень обрадовался, узнав из Вашего письма, что Н. А. Янчук собирается выслать мне кое-какие книги. Действительно, я об этом его просил. Дело в том, что здесь в Минске нет ни одной приличной библиотеки, и достать серьезную книгу не представляется никакой возможности. В особенности книг, касающихся белорусоведения и вообще славяноведения, нет ни в продаже, ни в библиотеках. Я теперь, признаюсь Вам, штудирую, иначе, увлекаюсь славянской мифологией, в частности переходным временем язычества в христианство у нас в России, и по этому вопросу имею всего-навсего одну книжонку Аничкова «Язычество и Древняя Русь». Искал в Смоленске и здесь в Минске книгу Афанасьева «Поэтические воззрения славян на природу» и не нахо-

жу. Вот если бы Вы мне, дорогой Иван Алексеевич, помогли в этом деле, на всю жизнь обязали бы. Я знаю, что эта книга редкая, но достать ее все-таки можно. Если не купить, то не смог ли бы кто-нибудь одолжить ее на некоторое время — возвратил бы в целости и сохранности.

Москву я немножко знаю. В конце 1915 г. жил в ней три месяца с лишним. Москва мне в то время очень понравилась, даже ничего не имел бы тогда поселиться в ней на постоянное житье. Но вот пришлось побывать мне в ней в декабре 1918 г. и уже ни за что бы не жил в Москве.

Когда придется побывать в Москве, то, безусловно, загляну к Вам.

Будзьце здаровенькі і вясёленькі.

Шчыра Вам адданы *Ів. Луцэвіч*

Н. А. Янчуку посылаю две фотографии — одну прошу его одолжить Ф. Ф. Туруку для клише.

## № 36. ДА Ф. Ф. ТУРУКА

*Мінск. 20 ліпеня 1919 г.*

Минск. 20/7

Глубокоуважаемый и дорогой Федор Федорович!

Покорнейшая к Вам просьба: не откажите по использовании клише с моей фотогр<афии> отступить его мне, конечно, если это клише Вам не нужно будет. Буду весьма Вам благодарен за эту любезность.

Если будут какие расходы, то я охотно их покрою. Что слышно у Вас? Поддерживайте как-нибудь свой Белорусский подотдел. Я сегодня узнал — литерат<урно>-издат<ельский> подотдел при Наркомпросе Литбел ликвидируется. Таким чином, остается только Ваш подотдел, который один только сможет что-нибудь издавать. Теперь такое дело: мне передавали, что теперешний завед<ующий> лит<ературно>-изд<ательским> отделом Наркомпроса Литбел тов. Леущенко предполагает ехать в качестве инструктора от своего отдела в Киев и там организовать печатание белорусских книг. Так вот, может быть, Вы списались с ним и устроили бы тоже печатание своих изданий в Киеве. Что Вы на это?

Адрес Леущенко: Бобруйск, Народный комиссариат просвещения Литвы и Белоруссии.

В Минске у нас довольно спокойно. Поляков немного отогнали. Возможно, что Минска так и не удастся им повидать.

Будьте здоровы и веселы. Если надумаетесь, Федор Федорович, побывать в Минске, то не забывайте про нас. Милости просим. Найдется для Вас и комната, и стакан чаю с хлебом и с патокой.

Привет знакомым и друзьям.

Искренне преданный Вам *Ив. Луцевич*

## № 37. ДА Ф. Ф. ТУРУКА

*Мінск. 27 ліпеня 1919 г.*

Глубокоуважаемый Федор Федорович!

Когда я был у Е. Е. Нечаева, он мне читал перевод моего стих<отворения> «Я не паэта». В этом переводе Е. Е. переставил ударение в моем псевдониме: вместо Купа́ла у него выходит Купала́. Тогда я не обратил внимания, но теперь вспомнил и замечаю, что это будет большая несуразность. Так вот, если это стихотв<орение> еще не напечатано в сборнике, то будьте добры его выкинуть или же пусть Е. Е. переделает его.

Теперь вот что: оказывается, в Петрограде большинство издательств и типографий не национализировано. Так что некоторые издательства работают относительно хорошо. Адрес одного такого издательства я посылаю Вам: Петроград, Невский 55, Изд. «Земля», Алексей Иванович Имнейшвили.

Так вот, может быть, Вы, Федор Федорович, с ними спишетесь относительно издания моего сборника стихов. К тому же в Петрограде в нескольких типографиях имеется шрифт белорусский, напр<имер> в типогр<афии> Пентковского, Большая Подъяческая; типогр<афии> Коллинса, Б. Дворянская; типогр<афии> Акад<емии> Наук и др.

Все это на всякий случай Вам сообщаю, может быть, авось удастся этим воспользоваться.

Всего хорошего.

Искренне Вам преданный Ваш *Ив. Луцевич*

Почему не пишите. Не забудьте про клише.

Минск. 27/VII

## № 38. ДА Я. Ф. КАРСКАГА

*Мінск. 4 кастрычніка 1919 г.*

Менск. 4/X-19 г.

Радзіўся я 25 чэрвеня (ст.ст.) 1882 года непадалёк ад Радашковіч, Вілейск<і> пав<ет>, у фальв<арку> Вязынка, а ўсе дзіцячыя гады і моладасць правёў, бадзяючыся па Барысаўскім і Менскім пав<етах> Менскай губ<ерні>. Бацька мой родам з Ігуменшчыны, паходзіць з дробнай засцянковай шляхты, выгнанай нейкім польскім князем са сваёй зямлі. З маладосці працаваў бацька на арандаванай зямлі (на запашках), а пасля пайшоў служыць панам. Спачатку служыў цівуном, а пасля аканомам аж да часу, калі мне было гадоў 8—10. Тады ізноў арандаваў фальваркі. Дзіцячыя гады я правёў крыху панічыкам, як аканомскі сын. Вучылі мяне спачатку па-польску пры помачы вандроўных вучыцеляў. Па-расійску навучыўся я ад сваёй нянькі. Быў у бацькі каляндар, у каторым маю ўвагу звярнулі асабліва словы: «Дозволено цензурою», гэта, мусіць, дзеля таго, што першыя літары гэтых слоў не падобны да польскіх. Вучыўся я наогул добра. Палавіну аднэй зімы вучыўся ў народн<ым> вучылішчы ў Сенніцы, недалёка ад Менска. Пасля крыху ў Менску ў нейкай прыватнай прыгатоўчай школе. З часам бацька хацеў мяне прыгатаваць у рэальную школу. Прыгатаўляў сын дырэктара Менскай рэальнай школы Ул. Ів. Самойла. Але нічога не выйшла. Паміма таго, што дырэктар мяне прымаў без экзамену, бацька пастанавіў не аддаваць у школу, а ісці гаспадарыць.

Гаспадар з мяне выйшаў кепскі. Гаспадаркі не любіў, а вазіўся заўсёды з кніжкамі, за што меў ад бацькі частую нагонку. Бацька пасля жалеў, што не вучыў мяне, але па часе. Маючы гадоў 15—16, скончыў я за адну зіму Бяларуцкае народнае вучылішча ў Бяларучах Менск<ага> пав<ета>, хоць, па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэта вучылішча, я знаў болей, чымся там вымагалася праграмай.

Да 21 года гаспадарыў дома — араў, касіў, сек дровы. Гаспадарка на чужой зямлі надаела. К таму часу памёр бацька, малодшы брат і дзве меншыя сястры. Гэта страшэнна мяне змагло. Кінуў гаспадарыць дома, а пайшоў шукаць лёгкага хлеба ў паноў. Гэтак праслужыў тры гады ў броварах. Зазнаў там такога пекла, якога яшчэ не меў. Кінуў гэту работу і папаў у Вільню, дзе ўжо выходзіла бел<аруская>

газ<ета> «Наша ніва». У Вільні працаваў у бібліятэцы і ў «Нашай ніве». З Вільні апынуўся ў Петраградзе на агульнанавучных курсах Чарняева, на якіх прабыў 4 зімы. Экзаменаў не складаў. З Петраграда зноў пераехаў у Вільню, дзе прыйшлося рэдагаваць «Нашу ніву» і працаваць у «Бел<арускім> выдавецкім таварыстве». У 1915 г. змушаны быў эвакуацыяй выехаць у Маскву; там у 1916 г. жаніўся і выехаў у Менск, з Менска ў Полацк, пасля ў Смаленск, адтуль зноў у Менск, дзе цяпер і жыву.

Маладосць прайшла мая страшэнна пагана. Чытанне кніжак без разбору, а чытаў я іх вельмі шмат, разбудзіла маю фантазію. І вось у душы маёй быў вечна нейкі пякельны разлад. Ніяк не мог я пагадзіць акружаючага рэальнага жыцця з жыццём думак, фантазіі, якія пачарпнуў з кніг.

Якія былі адносіны царскага ўрада да мяне? Трудна адказаць. Хіба — ніякія. Вось толькі хіба тое, што мая кніжка «Жалейка» была канфіскавана і выдаўцоў яе цягнулі ў суд. Але праз пратэкцыю канфіскату знялі. Рукапісы мае ў Вільні ў «Нашай ніве» была захапіла ахранка, пасля часць вярнула, а часць прапала. За ніякія справы ні разу не судзіўся. Толькі ў часе вайны канфіскавалі адзін нумар «Нашай нівы» — і мяне як рэдактара вызываў следавацель, але справа заглухла. Агулам палітыкай не займаўся, так што ні стары, ні паслярэвалюцыйны ўрад мяне не чапалі.

*Ів. Луцэвіч (Я. Купала)*

## № 39. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «БЕЛАРУСЬ»

*Мінск. 20 сакавіка 1920 г.*

Ліст у рэдакцыю

Вельмі паважаны Пане Рэдактар!

Не адкажыце надрукаваць у Вашай газеце гэтых колькі слоў.

9 студзеня г.г. я цяжка захварэў і 13 студзеня я ўжо быў у Земскай бальніцы, дзе пралежыў да 20 сакавіка.

У часе гэтай маёй хваробы шмат асоб аказалі мне папраўдзе братнюю помач і апеку. Не могучы кожнаму з асобку падзякаваць, як на гэта яны заслужылі сваімі шчырымі адно-

сінамі к майму няшчасцю, я лічу сваім святым абавязкам хоць на гэтым месцы ўспомніць гэтых асоб добрым словам.

Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму: першаму — за аперацыю, дзякуючы якой я амаль не з таго свету ўскрос, а другому за шчыра-бацькоўскі даглёд і перавязкі, якімі стараўся аблягчыць мае цяжкія мучэнні. Таксама дзякую ад усёй душы ўсім сёстрам бальнічным, асабліва п. Галіне Суднік, якая праз увесь час даглядала мяне ў бальніцы, як родная сястра.

Кс. рэктару Абрантовічу, п. Гіркант, п. Якобіні, п. Вайтовіч прыношу сваю шчырую падзяку за іх добрую апеку ў трудныя дні маёй хваробы.

Не магу таксама не ўспомніць добрым словам д-ра Малькевіча, які на кватэры аказаў мне першую помач, а так жа прафесара Іваноўскага, Б. Тарашкевіча, Ясінскага, Ерохава і інш., што сваімі рукамі на насілках занеслі мяне з кватэры аж у бальніцу. І ўсім чыста, што не забыліся на мяне ў гэты жудкі час, нізка кланяюся і шчыра дзякую.

З пашанай *Янка Купала*

Менск. 20/III-20 г.

## № 40. ДА Я. Ф. КАРСКАГА

*Мінск. 29 сакавіка 1920 г.*

Вельмі паважаны Пане Прафесар!

Вы мне казалі, Пане Прафесар, што прывезлі з Варшавы часць сваёй бібліятэкі. Дык ці не знойдзецца цяпер у Вас рэкамендаваных Вамі кніг к перакладу «Слова а палку Ігаравым», а іменна: пераклад «Слова» Е. Барсава, а такжа праца Ф. Е. Корша («Опыт восстановления стихотворн<ого> размера в «Слове» и т. д.).

Быў бы вельмі ўдзячны, калі б гэтых кніг Вы мне, Пане Прафесар, пажычылі.

Таксама прасіў бы пакінуць для мяне 2-і т. (ч. II і III) Вашай працы «Белорусы».

Шчыра Вам адданы Ваш *Ів. Луцэвіч.*

Менск. 29/III-20 г.

## № 41. ДА А. І. ЛУЦКЕВІЧА

*Мінск. 3 мая 1920 г.*

Вельмі паважаны Паночку!

Пасылаю Вам фат<а>графіі на клішэ. Зрабіце ласку і аддайце іх у цынкаграфію.

1. Вялікія фатагр<афіі> (іх 7 (сем) шт<ук>) хай зменшаць напалавіну, зпаміж іх акварэль «Віленскія негацыянты...», хай зробяць без подпісу.

2. Фатагр<афіі> у канверце № 1 (6 шт<ук>) зрабіць у размеры, як яны ёсць.

3. Таксама фатагр<афіі> у канв<ерце> № 2 (17 шт<ук>) размер можна пакінуць той самы, толькі Вы, Паночку, зрабіце з цынкографам выбар: якія з іх выйдуць на клішэ, а якія не.

4. Фатагр<афію> кабінет<най> форм<ы> «Вярыга-Дарэўскі» (подпіс на абароце) аставіць як яна ёсць, але толькі што ў чорнай абводцы, без белага поля.

5. У пасыланай Вам кнізе «Księga Pamiątkowa» ў I томе, стр. 337, знайдзіце фатагр<афію> Чачота. Хай з яе зробяць клішэ, крыху зменшыўшы і без подпісу.

Для арыентацыі пасылаю Вам № «Рунь».

Таксама пасылаю адну тысячу марак; што выйдзе даражэй — то я Вам зараз жа вышлю па атрыманні рахунка.

Будзьце ласкавы, Паночку, пацісnуць цынкографа, каб зрабіў як найхутчэй, ды пры першай аказіі перашліце клішэ мне.

Астаюся шчыра Вам аддані

Ваш *Ів. Луцэвіч*

Менск. 3/V-20 г.

P. S. Што чуваць з Вашым журналам? Як будзе называцца? На днях вышлю Вам папраўлены верш «Хаўтурны марш».

## № 42. ДА А. І. ЛУЦКЕВІЧА

*Мінск. 2 чэрвеня 1920 г.*

Рэдакцыя беларускай тыднёвай часопісі «Рунь»

Вельмі паважаны Паночку!

Будзьце ласкавы, пастарайцеся выслаць па магчымасці хутчэй «Księga Pamiątkowa» і фатаграфію В.-Дарэўскага. Па-першае — гэтыя рэчы не мае, а па-другое — кніга мне вельмі патрэбна для стацці ў «Руні».

Што чутно з Вашым месячнікам? Надрукуйце ў ім абвестку аб «Руні», мы гэта зробім аб вашай часопісі, прышліце толькі тэкст абвесткі.

Са шчырым паваж<аннем> *Ів. Луцэвіч*

## № 43. ДА Ф. Ф. ТУРУКА

*Мінск. 13 жніўня 1920 г.*

Глубокоуважаемый Федор Федорович!

Простите, что снова беспокою Вас своим письмом. Вчера позабыл просить Вас о следующем: не сможете ли Вы выслать для меня несколько экз<емпляров> вышедшей книги моих переводов на русский язык, а также все ставки оплаты труда журналистов и литературных работников и все последние узаконения и постановления по этому вопросу Советского правительства. Все это, должно быть, можно достать в Профсоюзе Советск<их> журналистов на М. Лубянке, РОСТА.

Буду очень признателен, если не откажете в этой моей просьбе.

Ваш *Ив. Луцевич*

Минск, Захарьевская, 137.

## № 44. ДА Ф. Ф. ТУРУКА

*<1920?>*

Глубокоуважаемый Федор Федорович!

В прошлом году, будучи в Москве, я оставил Вам рукопись своих стихов «Спадчына» и получил в счет гонорара аванс. До сего времени, как мне передавали, книга эта Белорусским подотделом не издана. Так вот, не посоветуете ли, дорогой Федор Федорович, как бы ускорить печатание этого сборника. Нельзя ли сделать так: если представится возможность, издать сборник здесь в Минске на средства Лит<ературно>-издат<ельского> отдела Наркомпроса Бе-

лоруссии с условием, что с авторского гонорара будет возвращен Белорусскому подотделу в Москве полученный мною аванс. Как Вы на это смотрите? Был бы Вам очень признателен, если бы Вы по возможности в скором времени сообщили мне свои соображения. Без Вашего согласия на это, конечно, издать книги я не смогу. А может быть, Вы зачислите полученный мною аванс на какую-нибудь другую мою книгу, напр. на издание моего сборника «Huślar» русским шрифтом, вышедшего только латинкой и к тому уже разошедшегося.

Одним словом, глубокоуважаемый Федор Федорович, подумайте и дайте ответ, как эту всю историю оформить, чтобы и волк был сыт и козы целы.

Я слышал, что Вы собираетесь приехать в Минск. Дело очень хорошее. Работы культурной тут много, а работников мало.

Искренне преданный Вам *Ив. Луцевич*

Адрес мой: Минск, Захарьевская, 137, Ивану Доминиковичу Луцевичу.

### № 45. ДА Я. Ф. КАРСКАГА

*Мінск. 5 студзеня 1922 г.*

Яго Міласці праф<есару> Карскаму.

Паважаны Прафесар!

Я ўжо даўно выслаў Вам пісьмо і «Вольны Сцяг» № 5(7) і першы аркуш № 6(8), але адрасаваў на Акадэмію навук. Цяпер, атрымаўшы Вашу адкрытку, мы выслалі па два экз. № 3, 4, 5 і 6-га за 1921 г. Будзьце ласкавы паведаміць аб атрыманні. Пастараюся выслаць Вам іншыя выйшаўшыя бел<арускія> выданні.

Прасіў бы Вашай ласкі звярнуць увагу на мой пераклад вершам «Песні аб паходзе Ігара», надрукаваны ў № 5(7) і 6(8) «Вольн<ага> сцягу». Хацеў бы пачуць Вашы думкі аб гэтай маёй працы. У лісце, пасланым на Акадэмію, я падрабней напісаў Вам аб гэтым.

Шчыра Вам аддany *Ів. Луцэвіч*

Менск. 5/I-22 г.

## № 46. ДА Б. І. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*Мінск. 20 верасня 1922 г.*

Вельмі паважаны і дарагі паночку!

Апрача кніг, што атрымалі праз п. Сушынскую і гр. Сіманоўскага, я і Бядуля былі Вам паслалі <кнігі> праз нейкага студэнта — фаміліі не помню — у пачатку 1921 г.,—там была і «Варта». Але, відаць, гэты студэнт, знаёмы Сушынскага, гэтай пасылкі Вам не перадаў.

Цяпер пасылаю Вам:

1) «Варту», 2) «Адраджэнне», 3) «Раскіданае гняздо», 4) «Маладая Беларусь», 5) «Методыка арыфметыкі», 6) «Зоркі» № 4 за 22 г. (1-га нум<ара> не маю, але як знайду, прышлю), 7) «Граматыку» ч. II Лёсіка, 8) «Матывы лірыкі М. Чарота». У «Методыцы» на вокладцы пойдзе спіс выйшаўшых апошнім часам з друку кніг. Якіх у Вас не будзе, я змагу перасдаць.

Кнігі, выданыя за граніцай, яшчэ не атрыманы (Вы, паночку, дарма думалі, што аб Вас забыліся ўсе, да сябе я гэтага аднесці не магу. Я заўсёды шчыра аб Вас думаў і ад усяго сэрца жадаў, каб чым-небудзь аказаць Вам сваю сардэчную прыязнь і памяць. Толькі жыццё маё асабістае так складалася, што мае добрыя думкі разбіваліся аб усялякія перашкоды).

Пасля таго як я гасціў у Вас у фальварку, прыязджаючы з Полацку, я ў скорым часе (у канцы 1917 г.) выехаў у Смаленск. Там, жывучы праз увесь цяжкі і жудкі 1918 г., я папраўдзе быў як непрытомны. Там жа ў Смаленску атрымаў Ваш ліст з просьбай аб пасылцы.

Гэтага я ніякімі сіламі зрабіць не мог, бо забаронена было пасылаць што-небудзь з Смаленску. (Думаў атрымаць камандзіроўку ў Петраград, але не ўдалося.) У пачатку 1919 г. пераехаў у Мінск. Але і тут вялікага мёду не было спачатку. Перамены ўладароў і інш. не давалі прасветласці.

На дабітку ўсяго ў 1920 г., у студзені, я захварэў страшнай хваробай: гнойнае запаленне сляпой кішкі (па-вучонаму перытаніт). Пралежаў у бальніцы, змагаючыся з смерцю, тры месяцы і выйшаў з пакрыўленай губай і з надломаным зусім здароўем. Папраўдзе пабываў на тым свеце. Толькі дзякуючы добрай апецы, асабліва ксяндзу рэктару б. Мінскай духоўнай семінарыі Абрантовічу, я не пайшоў да Абрагама на піва. У пачатку 1921 г. перахварэў на плеўрыт, сёлета нядаўна — на нейкую жаўтуху. Адным словам, жылося апошнія гады і жывецца не вельмі радасна.

Я некалькі разоў праз гэты час пісаў да Вас, паночку, але адказу ніякага не атрымаў. Мне гэта было вельмі цяжка, але складаў усё гэта на агульна цяжкія для ўсіх varункі сучаснага

жыцця. І так яно было. Але дай Божа, каб нам усім жылося лягчэй.

Надта хацелася б мне пабываць у Петраградзе. Апрача таго, каб з Вамі, паночку, павідацца, маю справу яшчэ і ў Публічную бібліятэку. Рэч у тым, што я вычытаў у працы Барсава, што рукапіс «Слова а палку Ігаравым» быў напісаны беларускім пісьмом. Але гэта так адрыўкова сказана, што мушу яшчэ разгледзець сякія-такія працы па гэтаму пытанню, асабліва працу Калайдовіча, на якім языку быў напісаны гэты памятнік. Паміж іншым, ці маеце, паночку, часопісь «Рунь», якая выходзіла пры паляках пад маёй рэдакцыяй, і «Вольны сцяг», які выходзіў у 1921-м і адзін нумар у 1922 г. (болей не выходзе).

Затым бывайце здаровенькі і вясёленькі. Будзьце добрых думак аба мне і аб усіх нашых беларусах.

Шчыра Вам адданы і Ваш пакорны слуга *Ів. Луцэвіч.*

Менск. 20/IX-22 г.

Дарагі паночку!

Можа, аддавец гэтага п. Вера Краўцэвічанка будзе шукаць сабе працы, то будзьце ласкавы не адкажыце ёй у сваёй магчымай у гэтым падмозе-пратэкцыі.

Кніжкі ў пакунку для праф. Карскага будзьце ласкавы перадаць яму пры аказіі.

Ваш *Ів. Луцэвіч*

## № 47. У НАРКАМАСВЕТЫ

*Мінск. 3 лютага 1926 г.*

Калі нічога Наркамасветы не мае процi наймення маім імем школы, я згаджаюся.

*Я. Купала*

3/II-26 г.

## № 48. У НАРКАМАСВЕТЫ

*Мінск. 29 мая 1926 г.*

Шчыра дзякуючы за ўвагу, якую мне аказала полацкае настаўніцтва і вучнёўства, надаючы маё імя школе, я процi гэтага нічога не маю, калі Наркамасветы на гэта згодзен.

*Я. Купала*

Мінск. 27/V-26 г.

## № 49. ДА В. Ф. СТАНКЕВІЧА

*Карлсбад. 12 жніўня 1927 г.*

Karlsbad. 12/VIII-27 г.

Kochany Wicio!
Nie wiem, czy otrzymałes mój list, pisany do Was z Warszawy. Bawię więc w Karlsbadzie, napisz. Adres: Čechoslovacja, Karlsbad, třida Hansa-Heilinga, Jan Buchtela, pro Lucevič.
A zatem pozdrowienie wszystkim, przyjeżdżaj z Władką do Karlsbadu.

Wasz *J. Łucewicz*

## № 50. ДА В. Ф. СТАНКЕВІЧА

*Карлавы Вары. 29 жніўня 1927 г.*

Karlovy Vary. 29/VIII-27 г.

Kochany Wicio!
Pocztówkę Twoją otrzymałem. Dziękuję. Z Zakopanem pewno nic nie będzie. Przebędę parę tygodni lisznich tu albo w Niemc[z]ech. Od 23/8 od Władki nie mam żadnej wiadomości, i nie wiem, jak stoją sprawy u niej z wizami. Ta niepewność mnie trochę nie na rękę, bo kuracja moja tu dobiega do końca, a dalej bez wiadomości od Władki nie wiem c[o] ze sobą robić. W każdym razie będę czekał na nią albo na wiadomość od niej tu w Karlsbadzie. Bywajcie zdrowi i weseli.

Szczerze oddany *Janka*

## № 51. ДА Л. М. КЛЕЙНБАРТА

*Мінск. 23 лістапада 1927 г.*

Минск. 23/XI-27 г.

Глубокоуважаемый Лев Максимович!
Простите, что так долго не сумел я выполнить Вашего задания. Помешала много заграница, куда я ездил со специальной целью лечиться. Потом, когда приехал, всякие дела здорово мешали. Посылаю Вам при этом кусок своей хро-

нологии, если что пригодится, используйте. Все же по использовании просил бы Вас вернуть мне этот материал, чтобы не пришлось мне в другой раз его составлять. Если еще что-нибудь взбредет на память, то напишу и пришлю Вам. Кое-какие автобиографич<еские> данные Вы сможете найти в книжке переводов моих стихотв<орений> на русский язык «Избранные стихотв<орения>», а также у Карского. Если книжки с моими переводами у Вас не имеется, то сообщите, а я вышлю.

Фотографии постараюсь подыскать и выслать Вам. Жалею, что мы с Вами вместе не выбрали необходимых, когда Вы были в Минске.

Искренне Вам преданный *Ив. Луцевич*

I

1) Отец мой родился в застенке (хуторе) Пески Игуменск<ого> у<езда> Могилянск<ой> вол<ости> Минск<ой> губ<ернии>.

Эти Пески были подарены предкам отца за какие-то заслуги, но потом оказались во владении кн<язей> Радзивиллов. Эти последние выбросили весною от посевов всю семью Луцевичей на улицу (как говорится).

2) После этого Луцевичи взяли в аренду фольв<арк> Камень помещ<ика> Говорки, около Ивенца, Минск<ой> губ<ернии>.

3) Из Каменя переехали тоже на аренду в Раговичи пом<ещика> Наборовского Старосельск<ой> вол<ости> Минск<ой> губ<ернии>. Там же отец мой в 1879 г. женился на Бенигне Ивановне Волосевич, родом из фольв<арка> Нешота, около м<естеч>ка Рубежевичи, Минск<ой> губ<ернии>.

4) Из Рагович отец отделился от семьи и пошел служить в Поморщину около Ракова (Минск<ая> губ<ерния>) к помещику Здеховскому, отцу братьев Здеховских, из которых в настоящее время в Польше один — профессором (был и министром), а другой — романист, литератор.

5) Из Поморщины отец снова переходит на аренд<ованную> землю в фольв<арк> Вязынка пом<ещика> Замбржицкого Радошк<овичской> вол<ости> Вилейск<ого> у<езда> Виленск<ой> губ<ернии>.

## № 133. ДА Я. С. МАЗАЛЬКОВА

*Пячышчы. 20 красавіка 1942 г.*

Печищи. 20/IV-42 г.

Дорогой Евгений Семенович!

Из газет я заключил, что Вы находитесь в Москве, а посему и пишу. Я очень рад, что кое-кто из моих добрых друзей остались на старом месте. Буду Вам очень признателен, Евгений Семенович, если хоть пару слов напишете, что слышно в наших издательских сферах.

Я как выехал в средине октября из Москвы, то никаких вестей от Гослитиздата и др. из<датель>ств не имею.

Денег за сборник белорусской литературы, составленный Вами, я ничего не получил. Может быть, Вы мне, Евгений Семенович, поможете в этом деле. Если Петр Иванович Чагин в Москве, то попросите его от моего имени, может быть, он что-нибудь сделает. Кроме того, в «Красной Звезде» было напечатано, что печатается в Военном из<датель>стве мой сборник стихов. Не откажите туда мимоходом заглянуть или позвонить, в каком положении это дело. А деньги, как Вам самому хорошо известно, всегда нужны.

Напишите, как Вам живется в Москве, а также Вашей маме.

Я живу здесь под самой Казанью, по другой бок Волги. Живется сносно. Питаемся неплохо. Если будете в Казани, заезжайте в гости, будем очень рады. В Союзе писателей знают, где я живу.

Передайте мой искренний привет П. И. Чагину, если его увидите.

Вам желаю всего светлого и радостного.

Ваш *Я. Купала*

Адрес мой: Татарская АССР, Верхне-Услонский р-н, Печищи, мельница.

## № 134. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

*Пячышчы. 1 мая 1942 г.*

Печышчы. 1/V-42 г.

Мілыя таварышы.

Далучаю пры гэтым верш: «Яшчэ: Хлопчык і лётчык». Калі падойдзе, друкуйце ў «Савецкай Беларусі».

Ваш *Я. Купала*

Чаму ніхто з вас ні чорта не напіша мне? Па-мойму, гэта зусім неяк не зграбна. Пішыце. *Я. К.*



Янка Купала. 1940 г.

Апалон Карынфскі
з жонкай Марыянай




Б. І. Эпімах-Шыпіла.
1929 г.





Янка Купала і Якуб Колас
сярод супрацоўнікаў Інбелкульта. 1922 г.



Янка Купала і Якуб Колас сярод супрацоўнікаў санаторыя. У першым радзе: Якуб Колас, Ціна Джавахішвілі, Янка Купала. У другім радзе: галоўны ўрач санаторыя У. Кікнадзе. Цхалтуба, 1941 г.



Янка Купала (злева)
з сям'ёй доктара Калітоўскага. Кіславодск, 1934 г.



Янка Купала. 1940 г.

М. М. Галадзед віншуе Янку Купалу
з 30-годдзем творчай дзейнасці. 1935 г.





Сяргей
Гарадзецкі



Валерый
Брусаў

## № 135. ДА Б. А. ЕМЯЛЬЯНАВА

*Пячышчы. 8 мая 1942 г.*

Печищи. 8/V-42 г.

Дорогой Боря!

Ты сердишься — значит, ты неправ. По приезде из Москвы под Казань я был прямо в убийственном настроении. Потом болел — грипп, ревматизм и всякая другая чертовщина.

Теперь к делу — насчет рекомендации. Я, кажется, давал ее в Москве. Теперь, само собой, посылаю, но не уверен в успехе да и содержание-то не знаю, как лучше составить.

Должен тебе сказать, что процедура приема в Союз такая. Имеется комиссия, которая подготовляет и доклад о данном кандидате. Докладчик докладывает на Правлении Союза с мотивированными доводами о данном кандидате.

Вот тебе нужно иметь такого докладчика, который отстаивал бы твои интересы перед Правлением. Возможно, теперь произошли изменения, и тебя без никаких примут в Союз в Новосибирске. Вот и все насчет Союза, и уж, пожалуйста, не злись. А то Колас на меня собак вешает ни за что ни про что, и ты еще начнешь, тогда хоть в матушку Волгу бросайся.

Живу я случайно под самой Казанью по другую сторону Волги при мельнице с разрешения очень приятного директора. Вышло это из того, что до переезда в Печищах не смог переехать через Волгу из-за наступивших морозов, а потом, когда можно было переехать, я все же остался на месте по соображениям бытового характера.

Живется неплохо, пайком и прочим вполне обеспечен. Очередей никаких не знаю. Мельница над самой Волгой на берегу. Яртымик больше у меня не работает, начал хамить, вплоть до личных оскорблений, и потребовал расчета. К это<му> его довело безделие абсолютное в продолжении всей зимы.

Что же? На сегодня хватит. Да! Если наловишь много рыбы и настреляешь много дичи,— привези, вместе покушаем.

Твой *Я. Купала*

Сердечный привет твоей жене (как зовут, так и не помню).

*Я. К.*

## № 136. У СП СССР

*Казань. 8 мая 1942 г.*

В Союз Советских писателей СССР

Настоящим подтверждаю ходатайство тов. Емельянова Бориса Александровича о приеме его в члены Союза Сов. писателей.

Тов. Емельянов является автором многих рассказов, печатавшихся в «Новом мире», «Молодой гвардии», «30 днях», автор повести «Дундич» и многих военно-литературных работ. Ввиду изложенного я и рекомендую тов. Емельянова Б. А. как вполне заслуживающего быть членом ССП.

*Янка Купала*

Член Президиума ССП СССР

Казань. 8/V-42 г.

## № 137. ДА І. А. КРУПЕНІ І Ц. С. ГАРБУНОВА

*Пячышчы. 8 мая 1942 г.*

Печышчы. 8.V-42 г.

Дарагія таварышы Крупеня і Гарбуноў!

Ад усёй душы дзякую Вам за памяць, за першамайскае прывітанне і падарак. Апошні вельмі прыгадзіўся.

Для журнала «Славяне» новага падхадзячага матэрыялу ў мяне няма. Пасылаю два ранейшыя вершы — «Грабежнік» і «Беларускім партызанам». Хоць апошні і друкаваўся ў цэнтральнай нашай прэсе — у «Красной Звезде», але думаю, што гэта не памяшае друкаваць яго ў такім спецыяльным журнале, як «Славяне». Мяне, між іншым, цікавіць, ці ён у нас будзе выходзіць толькі па-руску, ці і на іншых славянскіх мовах — тых славян, што жывуць у Савецкім Саюзе. Мне здаецца, што кіруючыя артыкулы маглі б друкавацца на рускай мове, а белетрыстыка — проза, паэзія — на мовах усіх савецкіх славян.

Яшчэ адно: я атрымаў ад тав. Лаўрэнцьева, адказнага сакратара Усеславянск<ага> камітэта, адносіну, у якой ён просіць напісаць артыкул (дае пяць тэм на выбар) для загр<анічнага> выдання журнала.

З гэтым мне трудна будзе справіцца і абяцаць не магу. З вершаў, калі што талковае напішацца, буду пасылаць.

Я вельмі прасіў бы Вас перапісаць прыложаныя вершы і перадаць тав. Лаўрэнцьеву. Я думаю, для заграніцы яны зусім падыдуць.

Тав. Васілеўскі быў у мяне 4.V і збіраўся прыехаць 5-га. Але зносіны праз Волгу папсаваліся, і, відаць, праз гэта не змог заехаць. А шкода. Былі яшчэ такія-сякія справы, аб які<х> хацелася з ім пагаварыць і тое-сёе ўдакладніць. Шофера Яртыміка я зволіў, т. е. ён патрабаваў расчоту. Апошні час па-хуліганску стаў ка мне адносіцца і абражаць без прычыны.

Жыву я тут добра, паёк мяне зусім забяспечвае, у чарзе стаяць не прыходзіцца. Дырэктар млына адносіцца ўважліва і йдзе на спатканне, калі што мне патрабуецца.

Усяго Вам найлепшага, мілыя таварышы.

Ваш *Янка Купала*

Тав. Панамарэнку мой нізкі паклон і ўсяго радаснага яму ў жыцці.

*Я. К.*

Прасіў бы пераслаць пры аказіі мне грошы, пенсію і дэпутацкія.

*Я. К.*

## № 138. ДА К. ЧОРНАГА І П. Н. КАВАЛЁВА

*Пячышчы. 9 мая 1942 г.*

Печышчы. 9/V-42 г.

Дарагія таварышы Кузьма і Кавалёў!

Ліст Ваш атрымаў. Шчыра дзякую за памяць. А я думаў, што Вы мяне зусім забылі.

Здароўе маё няважнае. Прахварэў грыпам і нейкім мабыць раматусам: балелі ўсе косці. Цяпер лепей, толькі з правай рукой няладна — баліць і нічога ёй не магу падымаць. Над чым-небудзь працаваць толькі збіраюся. Чакаю цяпла і зелені. Тады забяруся ў кусты і буду прыдумываць усякія штукі.

Я паслаў Вам верш «Яшчэ: Хлопчык і лётчык». Ці атрымалі? Загаловак, бадай, лепей было б даць «Хлопчык і лётчык у часе вайны». Паслаў яго і ў «Праўду», зрабіце пратэкцыю, каб надрукавалі. Як што напішацца — прышлю.

Ваш *Я. Купала*

Шчырае прывітанне хлопцам (усім), якія жывуць у гасцініцы «Масква».

*Я. К.*

## № 139. ДА У. Ф. ЛУЦЭВІЧ

*Масква. 19 чэрвеня 1942 г.*

Дарагая Владка!

Заехаў добра. Затрымаўся ў гасц<ініцы> «Масква» часова ў т. Крупені. Сягоння абяцаюць даць асобны нумар. Сягоння пайду па справах у выдавецтвы, да доктара і г. д.

Перадай маё самае шчырае і сардэчнае спачуванне Наякшыным у іх вялікім няшчасці. Як дастану нумар, дам тэлеграму для адраса. Бачыў Лынькова, Кузьму, Крапіву.

Бывай здарова. Т. Чышэвіч мяне падганяе, бо спяшае на поезд.

Цалую.

Твой *Янка*

19/VI-42 г.

## № 140. ДА У. Ф. ЛУЦЭВІЧ

*Масква. 25 чэрвеня 1942 г.*

Все хорошо. Лечусь в Кремлевской клинике. Беспрерывные дожди. Холод. Гостиница Москва 414 Привет

*Купала*



## І. А. АДАМОВІЧУ І С. С. ШАМАРДЗІНОЙ

**Дарагому і вельмі паважанаму Старшыні Саўнаркому БССР т. Язэпу Адамавічу і слаўнай цётцы Зосі Шамардзінай на добры ўспамін. Янка Купала. 16/V-26 г. Менск.**

*На кнізе: Зб. тв., 1926, т. II (адз. зах. 4).*

**Даражэнькаму і вельмі паважанаму Язэпу Адамавічу на добры ўспамін. Шчыра адданы Янка Купала. Менск. 7/VI-27 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1925, т. I (адз. зах. 2).*

**Вельмі паважаным і даражэнькім Зосьцы і Язэпу, сваім найлепшым прыяцелям ад шчырага сэрца. Янка Купала. Масква, 5/VII-30 г.**

*На кнізе: «Творы. 1918—1928». Мн., 1930 (адз. зах. 15).*

**Даражэнькай цётачцы Зосі Адамовіч шчыра адданы Я. Купала. Менск, 6/IV-29 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. Ф-31).*

*Адамовіч Язэп* (Іосіф Адамавіч; 1897—1937) — дзяржаўны дзеяч БССР. З Я. Купалам знаёмы з пачатку 20-х гг. Сябравалі, неаднаразова сустракаліся сем'ямі. З 1924-га па 1927 г.— Старшыня СНК БССР. Ад імя беларускага ўрада з нагоды 20-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы падпісаў віншаванне і пастанову аб прысваенні яму звання народны паэт Беларусі. У маі 1926 г. разам выязджалі ў Полацк, дзе выступалі на літаратурным вечары. Відаць, першая кніга была падаравана пасля гэтай паездкі. Да мая 1927 г. жыў у Мінску, затым пераехаў у Маскву. З 1932 г.— на Далёкім Усходзе (начальнік Камчацкага акцыянернага таварыства,

кіраўнік цукровых і рыбакансервных прадпрыемстваў). У абстаноўцы масавых рэпрэсій скончыў жыццё самагубствам.

*Шамардзіна Соф'я Сяргееўна* (1894—1980) — жонка І. А. Адамовіча.

У 20-я гады заг. аддзела Наркамата юстыцыі, пракурор Мінскай акругі, старшыня Галоўпалітасветы БССР. Аўтар успамінаў пра Я. Купалу ў кн. «Народны паэт Беларусі» (Мн.,1962).

## З. І. АЗГУРУ

**На добрую памяць шчыра паважанаму, здольнаму мастаку т. З. Азгуру. Я. Купала. Менск, 12/III-26 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1925, т. І. Захоўваецца ў музеі З. Азгура. Друкуецца па: З. Азгур «Успаміны пра Янку Купалу» ў кн. «Янка Купала». Мн., 1962. С. 154—170.*

**Азгуру на памятку. Янка Купала. Менск, 10/IX-30г.**

*На кнізе: «Творы. 1918—1928». Мн., 1930. Друкуецца па: гл. папярэдні надпіс. С. 162—163.*

*Азгур Заір Ісакавіч* (1908—1995) — народны мастак Беларусі (1944). Народны мастак СССР (1973). Правадзейны член АМ СССР (1958). Працаваў у галіне станковай і манументальнай скульптуры, прыхільнік строгай рэалістычнай формы. Зрабіў некалькі бюстаў і помнікаў Я. Купалы, юбілейны медаль да 90-годдзя з дня нараджэння паэта. Пазнаёміліся ў 1924 г. З. Азгур доўгі час жыў на кватэры ў Я. Купалы на вул. Правіянскай, калі працаваў над бюстам паэта (1924—1925). У час вучобы ў Ленінградзе Я. Купала памагаў яму матэрыяльна. Разам у складзе беларускай дэлегацыі ўдзельнічалі ў Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве (1940). Пра сустрэчы з Я. Купалам Азгур пакінуў успаміны ў кн. «Незабыўнае» (Мн., 1962).

## З. І. БАНДАРЫНАЙ

**Мілай Зіне Янка Купала. Менск, 7/І-36 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы 1936 г. (адз. зах. Ф-346).*

*Бандарына Зінаіда Аляксандраўна* (1909—1959) — беларуская пісьменніца. З Я. Купалам пазнаёмілася ў Мінску ў 20-я гады ў яго доме на вул. Захар'еўскай. Часта сустракалі-

ся на літаратурных вечарах, была ў гасцях паэта падчас прыезду з Масквы на канікулы ў 30-я гады. У 1948—1950 гг. загадчыца філіяла Літаратурнага музея Я. Купалы ў Вязынцы. Пакінула шмат успамінаў пра паэта, прысвяціла яму верш «Па купалаўскіх сцежках».

## С. Я. БАРАНАВЫХ

**Міленькаму і даражэнькаму Сымону. Янка. Менск, 21/VIII-32 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1932, т. VI (адз. зах. 54).*

*Баранавых* (сапр. Баранаў) *Сымон Якаўлевіч* (1900—1942) — беларускі празаік, дзіцячы пісьменнік. Знаходзіўся ў цеснай дружбе з Я. Купалам з часу вучобы на Мінскім рабфаку (1925—1928). Разам ездзілі ў творчыя камандзіроўкі ў Барысаў, на адкрыццё Днепрагэса, у Харкаў. Да Купалавага верша «А зязюлька кукавала...» падабраў народную мелодыю. Аўтар імпрэсіі «Матчын сын», якая выклікала негатыўную ацэнку з боку афіцыйных уладаў. З лістапада 1936 г. арыштаваны, асуджаны на 10 год пазбаўлення волі. Рэабілітаваны ў 1954 г.

## І. М. БАРАШКУ

**Дарагому Іл. Барашку, каб не забыўся аб супольным дружным жыцці ў Менску. Янка Купала. Менск. 16/XI-32 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1929, т. II (адз. зах. 7).*

**Дарагому і міламу тав. Іл. Барашку на ўспамін. Янка Купала. Менск, 16/XI-32 г.**

*На кнізе: Зб.тв., 1928, т. I (адз. зах. 51).*

**Міламу Іл. Барашку на добрую памятку аб мілым развітанні ў Менску і з пажаданнем, каб хутчэй вярнуўся на БССР. Я. Купала. Менск, 16/XI-32 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1928, т. V (адз. зах. 1206).*

**Дарагому Барашку на памятку Янка Купала. Менск, 16/XI-32 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1932, т. VI (адз. зах. 53).*

**Даражэнькаму Іларыёну Барашку. Янка Купала. Ленінград, 12/VII-33 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1928, т. V (адз. зах. 52).*

*Барашка Іларыён Мацвеевіч* (1905—1968) — беларускі пісьменнік, драматург, крытык. З Я. Купалам пазнаёміўся ў рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» у 1922 г. З 1924 г., працуючы ў рэдакцыі часопіса «Полымя», часта наведваўся да паэта. Сябравалі. Сустракаліся ў Мінску, Маскве і Ленінградзе. У маі 1930 г.— адзін з арганізатараў купалаўскіх урачыстасцей у Мінску і Маскве. У 1932—1936 гг.— рэдактар на студыі «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе. З 6-га па 13 ліп. 1933 г. Я. Купала ў складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў наведаў горад на Няве. І. М. Барашка быў у ліку асоб, якія сустракалі і суправаджалі паэта ў тэатры і музеі. Я. Купала разам з жонкай і А. Александровічам наведалі кінастудыю. Аператар А. Кальцаты зняў на стужку выступленне паэта, а ролік з кінастужкай падараваў Я. Купалу. Там жа быў атрыманы сярэбраны партсігар з надпісам «Янку Купалу — калектыў супрацоўнікаў кінастудыі «Савецкая Беларусь».

## М. Ф. І В. М. БАХМЕЦЬЕВЫМ

**Милым дорогим Марии Фёдоровне и Владимиру Матвеевичу Бахметьевым от сердца. Янка Купала. Казань, 31/IV-42 г.**

*На кнізе: «От сердца». Стихи и поэмы (1933—1940). М., 1941 (адз. зах. 33).*

*Бахмецьевы: Марыя Фёдараўна* (1889—1966) — рускі празаік, аўтар успамінаў пра Я. Купалу; *Уладзімір Мацвеевіч* (1885—1963) — рускі пісьменнік, прысвяціў творчасці паэта артыкул «Прывітанне». Знаёмыя Я. Купалы з 30-х гадоў. Сустракаліся ў Мінску, Маскве на з'ездах, пленумах і інш. мерапрыемствах. Зблізіліся ў 1941—1942 гг. у Казані, куды пераехала ў гады Вялікай Айчыннай вайны праўленне ССП СССР. Разам удзельнічалі ў радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа (18.01.1942). Я. Купала жыў у Казані з 13 лістап. 1941 г. па чэрв. 1942 г.

## Ю. І. БІБІЛЕ

**На ўспамін аб першым спатканні ў Мінску.**

*На кнізе: «Адвечная песня». Пецярбург, 1910. Не захавалася. Друкуецца па: зб. «Успаміны пра Янку Купалу». Мн., 1982. С. 114—121.*

*Бібіла Юлія Іосіфаўна* (1897—1974) — знаёмая Я. Купалы. Пасля заканчэння гімназіі працавала настаўніцай у школе г. Бабруйска. У канцы 1920 г. была накіравана ў Мінск для пошуку патрэбнай літаратуры для бібліятэкі. У Наркамасветы ёй параілі звярнуцца да Я. Купалы. Сустрэча адбылася на кватэры паэта. Ю. Бібіла атрымала шмат кніг для бібліятэкі, а на развітанне дзве Купалавы — для сябе. Адна з іх была з надпісам. Увосень 1921 г. пераехала ў Мінск, працавала ў бібліятэцы. З 1922 г. узначаліла беларускі аддзел Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Часта сустракалася з Я. Купалам. Склала бібліяграфію яго твораў дарэвалюцыйнага і даваеннага часоў, напісала ўспаміны пра паэта. З 1927 г. жыла ў Саратаве.

## БІБЛІЯТЭЦЫ С.-ПЕЦЯРБУРГСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

**В Библиотеку С.-Петербургского Императорского Университета. От Автора. (Иван Доминикович Луцевич). СПб., 22/IV-13 г.**

*На кнізе: «Паўлінка». Пецярбург, 1913 (адз. зах. 38).*

**В Библиотеку С.-Петербургского Императорского Университета. От Автора. (Иван Доминикович Луцевич). СПб., 22/ IV-13 г.**

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913 (адз. зах. 41).*

У бібліятэцы пры Пецярбургскім універсітэце (афіцыйная назва Навуковая бібліятэка імя М. Горкага) працаваў Б. І. Эпімах-Шыпіла, з якім Я. Купалу звязвала творчая дружба. Са снеж. 1909 г. па лета 1913 г. паэт жыў на кватэры Б. І. Эпімах-Шыпілы, часта наведваў яго на працы, карыстаўся кнігамі бібліятэкі. Напрыканцы свайго знаходжання ў Пецярбургу — 22 крас. 1913 г.— Я. Купала падараваў дзве кнігі з аднолькавым надпісам бібліятэцы. У 1928 г. паэт пісаў: «Сумеснае жыццё маё з гэтым чалавекам назаўсёды пакінула ў мяне самыя лепшыя ўспаміны» (Літ. і мастацтва, 1981, № 42, 16 кастр. у публікацыі М. Камінскага і В. Скалабана «Купалавай напісана рукой...»).

## А. Д. БУРСІКАВАЙ

**Пане Люсі Полазавай у знак падзякі за кветкі.**

*На кнізе, якая не захавался. Друкуецца па: Энцыклапедычны даведнік «Янка Купала». Мн., 1986. С. 97*[1].

*Бурсікава* (дзяв. Полазава) *Алена Дзмітрыеўна* (1906—?) — знаёмая Я. Купалы з 1919 г. Дачка мастака Д. М. Полазава, з якім паэта звязвалі сяброўскія адносіны. Я. Купала часта наведваў дом мастака. 29 крас. 1921 г. ён пакінуў аўтограф у альбоме А. Д. Бурсікавай, запісаўшы свой верш «Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі...» з прысвячэннем: «У альбом п. Люсі Полазавай», а ў дзень нараджэння на наступны год падараваў ёй кнігу В. М. Вараноўскага «Айчынная вайна 1812 г. у межах Смаленскай губерні» (СПб., 1912) таксама з аўтографам.

## В. Я. БРУСАВУ

**На памятку Валерыю Якаўлевічу Брусаву. Янка Купала. Вільня, 18/VIII-1914 г.**

*На кнізе: «Адвечная песня». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 10).*

**Са шчырым здароўканнем Валерыю Якаўлевічу Брусаву. Янка Купала. Вільня, 18/VIII-1914 г.**

*На кнізе: «Сон на кургане». Пецярбург, 1912 (адз. зах. 11).*

**Валерыю Якаўлевічу Брусаву на добрую памятку першага спаткання ў Вільні ад вучаніка і паклонніка Я. Купалы. Вільня, 18/VIII-1914 г.**

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913 (адз. зах. 12).*

*Брусаў Валерый Якаўлевіч* (1873—1924) — рускі паэт, прафесар. У жніўні 1914 г. наведаў Вільню. Адбылося некалькі вечароў, на якіх В. Брусаў выступіў з чытаннем сваіх твораў. На адным з іх, у памяшканні літоўскага клуба «Рута», пазнаёміўся з Я. Купалам. У знак прыязнасці Я. Купала падараваў В. Брусаву тры кнігі з дарчымі надпісамі, а рускі паэт — рукапіс свайго перакладу Купалавага верша «По лесам как зацветали...» («Як у лесе зацвіталі...») з аўтографам: «Ивану Доминиковичу Луцевичу на память о встрече, с благодарностью за посещение. В. Б. Вильна, 18 августа 1914 г.».

---

[1] Далей — ЭД.

## К. А. БУЙЛО

**Мілай Костцы на ўспамін аб віленскіх барыкадах. Шчыра Я. Купала. Масква, 2/III-29 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1928, т. I (адз. зах. 6).*

**Даражэнькай К. А. Калечыц на ўспамін аб яе слаўным мужу. Янка Купала, які любіць. 2/III-29 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1928, т. V (адз. зах. 5).*

**Дарагой мілай К. Буйло. Янка Купала. Масква, 2/IX-34 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1934 (адз. зах. 18).*

**Мілай Костцы на мілы ўспамін. Янка. Масква, 9/III-35 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1934 (адз. зах. 27).*

*Буйло* (сапр. Калечыц) *Канстанцыя Антонаўна* (1893—1986) — беларуская паэтэса. З Я. Купалам звязвалі творчыя і сяброўскія адносіны. У «Нашай ніве» за 1909 г. быў змешчаны першы верш К. Буйло. Я. Купала звярнуў увагу на талент маладой паэтэсы, пачаў з ёй перапісвацца. У 1910 г. прысвяціў ёй верш «Мая думка». Пазнаёміліся ў Вільні. Ва ўспамінах К. Буйло адзначана: «Дзяўчынкай гадоў 14-ці, прыехаўшы ў Вільню, я першы раз зайшла ў рэдакцыю «Нашай нівы»... Вечарам высветлілася, што ўсе мае знаёмыя выехалі на дачу і мне няма дзе начаваць. Купала прапанаваў мне пераначаваць у рэдакцыі. Гэта было не зусім зручна, але выбару ў мяне не было, і я вымушана была згадзіцца. На другім паверсе, у кабінеце рэдактара, была шырокая мяккая канапа, вялікі дубовы стол з мармуровым пісьмовым прыладкам, засланы зялёным сукном...» (БДАМЛіМ, ф. 263, воп. 1, адз. зах. 57). Цяжкім дубовым сталом К. Буйло зачыняла дзверы ад пакоя Я. Купалы. Напамінак аб гэтым выпадку ў дарчым надпісе на Зб. тв., 1928. Т 1. Неаднаразова сустракаліся ў Мінску, Полацку, Маскве, куды К. Буйло пераехала з 1923 г.

Паэтэса прысвяціла Я. Купалу шмат вершаў, напісала аб ім успаміны. Муж К. Буйло Віталь Адольфавіч Калечыц быў незаконна арыштаваны.

## А. М. БЫЧКОЎСКАМУ

**На добрую память уважаемому Антону Николаевичу Бычковскому. И. Д. Луцевич. Вильно. 20/XII-1908 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы 1908 г. (адз. зах. Ф-4).*

*Бычкоўскі Антон Мікалаевіч* (1867—1919) — знаёмы Я. Купалы, у хаце якога ў в. Лысая Гара Лагойскага раёна часта збіраліся настаўнікі з в. Беларучы і Лекараўка. Я. Купала быў частым госцем у доме Бычкоўскіх, а ў 1903 г. хрысціў іх дачку Марыю.

## П. А. БЫЧКОЎСКАМУ

**На добрую память Петрусю Бычковскому. Янка Купала. 29/VI-13 г. Акопы.**

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913 (адз. зах. 13).*

*Бычкоўскі Пётр Антонавіч* (1899—1981) — жыхар в. Лысая Гара Лагойскага раёна. Знаёмы Я. Купалы. З бацькам Бычкоўскага ў паэта былі сяброўскія адносіны. Ва ўспамінах ён пісаў: «І яшчэ памятаю фэст на Пятра ў 1913 годзе. У гэты дзень Янка Купала быў у нас у гасцях і падараваў і падпісаў мне свой зборнік «Шляхам жыцця».

## А. М. ВАЗНЯСЕНСКАМУ

**Вельмі паважанаму праф. А. Н. Вознесенскому ад Я. Купалы. 19.X.[34].**

*На кнізе: «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов». М., 1919 (адз. зах. 968).*

*Вазнясенскі Аляксандр Мікалаевіч* (1888—1966) — рускі і беларускі літаратуразнавец, доктар філалагічных навук (1944). Знаёмы Я. Купалы. У 1921—1930 гг.— прафесар Белдзяржуніверсітэта. 19 сак. 1922 г. выступаў з дакладам пра творчасць Купалы на вечары з нагоды 40-годдзя з дня нараджэння паэта. Вясной 1926 г. наведаў дом Купалы. У 1930—1934 гг. жыў і працаваў у Маскве. У 1934 г. быў высланы ў Ташкент, а з 1939 г.— прафесар Казанскага педагагічнага інстытута. У 1942 г. сустракаўся з Я. Купалам у Казані і Пячышчах. Аўтар працы «Паэмы Янкі Купалы» (1927).

## А. І. ГАГАЛІНСКАМУ

**Даражэнькаму і міленькаму А. Гагалінскаму на добры ўспамін міла і браточна праведзеных у Піцеры чатырох год спольнага жыцця і спольных нягод. Ад гаротнага аўтара Я. Купалы. СПб., 2/XII-13 г.**

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913. Захоўваецца ў бібліятэцы Маскоўскага універсітэта. Друкуецца па: В. Рагойша. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 17.*

*Гагалінскі Антон Іванавіч* (?—1943) — знаёмы Я. Купалы. Пляменнік Б. І. Эпімах-Шыпілы, студэнт Пецярбургскага універсітэта. Пляменнікаў Антона, Ігната і Соф'ю (з васьмі дзяцей Гагалінскіх) пасля пажару на хутары Залессе летам 1910 г. Б. І. Эпімах-Шыпіла прытуліў у сябе на кватэры, дзе жыў і Я. Купала, калі вучыўся на курсах А. С. Чарняева (1909—1913). Сустракаліся ў 1916 г. З 1925 г. разам з дзядзькам Б. І. Эпімах-Шыпілам А. Гагалінскі жыў у Мінску, а з 1930 г.— у Краснаярскім краі. У 1943 г. удзельнічаў у баях пад Масквой, быў цяжка паранены і памёр у эвакуацыйным шпіталі.

## С. М. ГАРАДЗЕЦКАМУ

**С. М. Гарадзецкаму на добры ўспамін. Янка Купала. Масква, 7/XI-30 г.**

*На кнізе: «Творы. 1918—1928». Мн., 1930 (адз. зах. 16).*

**Дорогому С. М. Городецкому с сердечным приветом Я. Купала. Минск, 24/X-33 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1933 (адз. зах. 17).*

**1934. 25/V. Сергею. Янка.**

*На фотаздымку: Я. Купала разам з С. Гарадзецкім сфатаграфаваны 10.06.1933 г. (адз. зах. 132).*

**Милому славному моему другу Сергею Митрофановичу Городецкому. Янка Купала. Москва, 21/X-36 г.**

*На кнізе: «Под новым солнцем». М., 1936 (адз. зах. 29).*

**Моему милому другу Сергею Митрофановичу Городецкому на память о долголетней дружбе. Янка Купала. Москва, 5/II-39 г.**

*На кнізе: «Избранные произведения». М., 1938 (адз. зах. 30).*

**Сергею Митрофановичу Городецкому моему милому доброму другу и товарищу. Янка Купала. Москва, 2/IV-39 г.**

*На кнізе: «Вибрані твори. 1905—1936». Київ—Харків, 1937 (адз. зах. 34).*

**Сергею Городецкому с дружеским приветом и любовью. Янка Купала. Москва, 14/IV-39 г.**

*На кнізе: «Выбраныя творы. 1905—1916». Мн., 1935. Т. I (адз. зах. 20).*

**Милому другу Сереже. Москва. 26.06.1939 г. Янка.**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. Ф-67).*

**Сереже Янка. Минск-Москва. 8/XII-26/XII-1940 г.**

*На кнізе: «Курган». Паэмы. Мн., 1940 (адз. зах. 31).*

**Дорогому Сергею Янка. 6/1-41 г. Москва.**

*На кнізе: «Ад сэрца». Мн., 1940 (адз. зах. 23).*

*Гарадзецкі Сяргей Мітрафанавіч* (1884—1967) — рускі паэт і перакладчык. Адзін з заснавальнікаў акмеізму — мадэрнісцкай плыні ў рускай паэзіі 10-х гг. XX ст. (Г. Ахматава, М. Гумілёў, В. Мандэльштам). З Я. Купалам знаходзіўся ў цеснай дружбе. Часта сустракаліся на працягу 1933—1941 гг. у Маскве, Мінску, перапісваліся. Пераклаў на рускую мову больш за 40 твораў Я. Купалы. Напісаў артыкул «Тры вершы» («ЛГ», 26.03.1940).

## М. І. ГАРЭЦКАМУ

**Дарагому Максіму Гарэцкаму з жонкай і дзеткамі на добры ўспамін. Янка Купала. Менск, 15/VIII-1925 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1925, т. I (адз. зах. 1).*

*Гарэцкі Максім Іванавіч* (1893—1938) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, фальклярыст, перакладчык. З Я. Купалам пазнаёміўся ў рэдакцыі «Нашай нівы» (Вільня) у 1913 г. Падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіліся ў Смаленску і часта сустракаліся. З кастрычніка 1923 г. М. Гарэцкі ў Мінску. Выкладаў мову і літаратуру на рабфаку БДУ, у Мінскім веттэхнікуме, Горацкай с/гаспадарчай акадэміі. З 1928 г. вёў даследчую работу ў Інбелкульце і Акадэміі навук Беларусі. Даследчык Купалавай творчасці. Пры-

свяціў яму раздзел у «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920), шэраг артыкулаў, напісаў біяграфію паэта. У 1930 г. арыштаваны, асуджаны і высланы ў Вятку. У 1937 г. асуджаны паўторна і ў 1938 г. расстраляны. Рэабілітаваны ў 1959 г.

## П. Ф. І Н. І. ГЛЕБКАМ

**Мілым Глебкам ад шчырага сэрца Янка. Менск, 5/V-35 г.**

*На кнізе: «Выбраныя творы». Мн., 1935. Захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі (ф. 24, адз. зах. 2759).*

**Дарагім і мілым Ніне і Ноніку Глебкам на памятку. Янка Купала. Менск, 3/II-36 г.**

*На кнізе: «Песня будаўніцтву». Вершы. Мн., 1936. Захоўваецца там жа (ф. 24, адз. зах. 2760).*

**Ноніку Глебку — Янка Купала. Мінск, 3/XII-39 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1939. Захоўваецца там жа (ф. 24, адз. зах. 2774).*

*Глебка Пётр Фёдаравіч* (1905—1969) — беларускі паэт, вучоны-лінгвіст, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН БССР (1957). Адзін з вучняў і паслядоўнікаў Я. Купалы. Пазнаёміліся ў 1925 г. на кватэры ў Купалы і на працягу многіх гадоў падтрымлівалі сяброўскія адносіны. Разам ездзілі ў творчыя камандзіроўкі (Бабруйск, Тбілісі, Маскву). П. Глебка прысвяціў Я. Купалу вершы «Песня», «Жывое слова», шмат артыкулаў і ўспаміны. Нонік — сяброўская мянушка П. Глебкі.

*Ніна Іларыёнаўна* (дзявочае прозвішча — Бялькевіч) — жонка П. Глебкі, знаёмая Я. Купалы. Ва ўспамінах пісала: «Асабістае знаёмства адбылося праз Пятра Глебку і з цягам часу перайшло ў шчырае сяброўства... У 1934 г. я пачала працаваць у Акадэміі навук у Інстытуце літаратуры і мастацтва. Рыхтавалі 1-ы том акадэмічнага выдання твораў Івана Дамінікавіча, і Купала дазволіў мне карыстацца яго літаратурным архівам. Па абавязку маёй работы ў доме Купалы бывала я амаль кожны дзень... Па-бацькоўску клапатлівы быў Купала ў адносінах да мяне, да Пятра Фёдаравіча і наогул да ўсёй нашай сям'і...» (Маладосць. 1992. № 6. С. 158).

## А. М. ГОРКАМУ

**Дорогому Алексею Максимовичу Горькому. Любимому трудящимися всего необъятного Советского Союза. Янка Купала. Москва, 19/VIII-34 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1934. Друкуецца па: ЭД. С. 161.*

*Горкі Максім* (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936) — рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Упершыню Горкі пачуў імя Купалы ў чэрвені 1910 г. на в. Капры ад беларускага настаўніка А. Ф. Посаха. Горкі пераклаў верш «А хто там ідзе?» на рускую мову, зрабіўшы прыпіску: «Прашу Янку Купалу дараваць мне дрэнны пераклад яго красамоўнай і суровай песні» (М. Горкі. Зб. тв. Т. 24. М., 1953. С. 135). Першая сустрэча адбылася 30 мая 1929 г., калі група беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх быў і Я. Купала, на ст. Негарэлае вітала М. Горкага, які вяртаўся з Італіі на радзіму. Другая сустрэча — у Маскве ў дні работы 1-га Усесаюзнага з'езда ССП (14.08.—2.09.1934 г.). 19.08.1934 г. Я. Купала старшынстваваў на ранішнім пасяджэнні, у знак прыязнасці падарыў М. Горкаму сваю кнігу з аўтографам. На з'ездзе Я. Купалу быў уручаны членскі білет за № 47, падпісаны старшынёй праўлення СП СССР М. Горкім. Разам з дэлегатамі з'езда (А. Фадзеевым, А. Талстым, С. Стальскім, А. Лахуці, П. Панчам, М. Джавахішвілі і інш.) Я. Купала наведаў рэдакцыю «Правды», сустракаўся з М. Горкім на яго дачы. У 1935 г. у сувязі з 30-годдзем літаратурнай дзейнасці Я. Купалы М. Горкі павіншаваў юбіляра і даслаў тэлеграму: «Сардэчнае прывітанне нястомнаму паплечніку, паэту-рэвалюцыянеру». Перапісваліся. Я. Купала прысвяціў Горкаму верш «Памяці Максіма Горкага».

## І. І. ГРАМОВІЧУ

**Тав. І. І. Грамовічу, майму земляку-беларусу, на памяць аб спатканні ў Маскве, з пажаданнем шчаслівай долі на яго баявым пасту. Янка Купала. Масква, 11/IX-41 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1941 (адз. зах. 42).*

*Грамовіч Іван Іванавіч* (1918—1986) — беларускі пісьменнік, аўтар успамінаў аб паэце. Знаёмы Я. Купалы з 1935 г. Апошняя сустрэча адбылася ў Маскве на кватэры

мастака К. С. Елісеева (па вул. Вялікая Грузінская) у 1941 г. І. Грамовіч у час службы ў войску пад Масквой патэлефанаваў паэту і быў запрошаны ў госці. У падарунак аб гэтай сустрэчы атрымаў ад Я. Купалы кнігу з дарчым надпісам.

## М. А. ГРАМЫКУ

**Свайму найлепшаму калегу Грамыку са шчырым сэрцам. Янка Купала. Менск, 3/V-22 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы. Друкуецца па: зб. «Успаміны пра Янку Купалу». Мн., 1962. С. 54—57.*

*Грамыка Міхайла* (Міхаіл Аляксандравіч; 1885—1969) — беларускі пісьменнік, вучоны-геолаг. Знаёмства з Я. Купалам адбылося «праз некалькі дзён пасля пераезду Грамыкі з Адэсы ў Мінск у 1921 г.». Сябравалі сем'ямі, часта сустракаліся падчас жыцця ў Мінску (да 1930 г.). Я. Купала з жонкай былі «пасаджонымі» бацькамі на вяселлі Грамыкаў. У 1930 г. асуджаны і высланы ў Іванава-Вазнясенск. З 1936 г. жыў у Кіраўску Мурманскай вобласці.

## П. ГРАНІТУ

**Дарагому Петрусю Граніту на добрую памятку аб нашай сустрэчы ў Лідзе. Янка Купала. Ліда, 15/III-40 г.**

*На зб. вершаў: «Беларусі ардэнаноснай». Мн., 1937. Не захаваўся. Друкуецца па: часоп. «Полымя», 1982, № 7 у публікацыі Рачыцкага А. «Народны дэпутат».*

*Граніт Пятрусь* (Івашэвіч Іван Пятровіч, 1909—1980) — беларускі паэт, настаўнік. У сак. 1940 г. у Лідзе разам з Н. Тарас, В. Таўлаем і А. Іверсам сустракаўся з Я. Купалам і разам выступалі перад выбаршчыкамі на літаратурных вечарах. Аўтар артыкулаў: «Беларускі народны паэт Янка Купала» і «Янка Купала».

## А. М. ГРАЦЫЯНСКАМУ

**Лётчику-испытателю А. Грацианскому с искренним пожеланием счастливой и долгой жизни и побед над врагом на славу нашей Родины. Янка Купала. Москва, 11/IX-41 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1941 (адз. зах. 32).*

*Грацыянскі Аляксей Мікалаевіч* (1905—?) — лётчык-выпрабавальнік. Герой Савецкага Саюза (1957). Пазнаёміліся ў верас. 1941 г. у Маскве на кватэры пісьменніка М. Зінгера, які жыў побач з мастаком К. Елісеевым. Неаднаразова сустракаліся на працягу верасня—лістапада 1941 г. Аўтар успамінаў аб Я. Купалу.

## Т. Д. ДЖАВАХІШВІЛІ

**Доктору Тине Джавахишвили, славной златокудрой грузинке жить, как в сказке, вечно с песней радости и счастья. Янка Купала. Цхалтубо. 30/XI-38 г.**

*На кнізе: «Избранные произведения». М., 1938 (адз. зах. 1134).*

**Дорогой Тине Дмитриевне Джавахишвили с глубоким уважением и преданностью. Янка Купала. Минск, 5/IV-41 г.**

*На кнізе: «Избранные произведения». М., 1939 (адз. зах. 1331).*

*Джавахішвілі Ціна Дзмітрыеўна* (?) — урач 1-га санаторыя спецлечсанпрофа. Сустракалася з Я. Купалам у Цхалтуба (1938, 1939) і Мінску (1941).

## У. М. ДУБОЎКУ

**Уладку Дубоўку ад шчырага сэрца. Я. Купала. 25/V-25 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. Ф-27).*

*Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч* (1900—1976) — беларускі паэт. Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1924 г. у Мінску. У тым жа годзе разам адпачывалі на Чорным моры. Сустракаліся на працягу 1925—1929 гг. Прысвяціў паэту верш «Янку Купалу» і шэраг артыкулаў.

## А. ДУДАРУ

**Алесю Янка. 29.III.32 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1929, т. II. (адз. зах. 968).*

*Дудар Алесь* (сапр. Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч; 1904—1937) — беларускі паэт, крытык, перакладчык. З Я. Купалам знаёмы з 20-х гадоў, бываў у яго дома. У

1927—1928 гг. рэдактар часопіса «Маладняк», ад імя якога вітаў Купалу з 20-годдзем літаратурнай дзейнасці. Разам ездзілі ў творчыя камандзіроўкі, сустракаліся на літаратурных вечарах. Аўтар артыкулаў пра Я. Купалу і яго творчасць.

## В. Л. ДЫЛУ

**Шчыраму працаўніку на ніве эканамічнага і нацыянальнага адраджэння Беларусі Осіпу Лявонавічу Дыло ў знак праўдзівай пашаны. Янка Купала. Менск, 4/VII-22 г.**

*На кнізе: «Спадчына». Мн., 1922. Захоўваецца ў БДАМЛіМ (ф. 53, воп. 1, адз. зах. 260).*

*Дыла Язэп* (Восіп Лявонавіч; 1880—1973) — беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік. Блізкі знаёмы Я. Купалы. Упершыню сустрэўся з ім у пачатку студзеня 1919 г. у Смаленску, дзе тады жыў паэт. У 1921—1924 гг. сустракаліся неаднаразова ў Мінску, абодва працавалі ў Тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта і ў выдавецкім таварыстве. У 1926 г., адпачываючы ў Кіславодску, наведаў Я. Купалу і Я. Коласа ў Есентуках, ездзіў з імі ў Пяцігорск. Аўтар успамінаў і «Матэрыялаў да біяграфіі Я. Купалы, запісаных з уласных выказванняў паэта ў Мінску» ў 1928—1929 гг.

## М. Н. І К. С. ЕЛІСЕЕВЫМ

**т. Елісееву на памятку. Янка Купала. Менск, 16/IX-30 г.**

*На кнізе: «Творы. 1918—1928». Мн., 1930 (адз. зах. 48).*

**Задушевной милой Магдалине Николаевне от сердца. Янка Кулала.**

*На кнізе: «Избранные стихи». Смоленск, 1937 (адз. зах. 49).*

**Милой Магдалине Николаевне Елисеевой с искренним приветом и уважением Янка Купала. Москва, 9/VII-38 г.**

*На кнізе: «Избранные произведения». М., 1938 (адз. зах. 50).*

*Елісееў Канстанцін Сцяпанавіч* (1890—1968) — рускі графік-карыкатурыст, мастак тэатра і кіно. Заслужаны дзеяч мастацтва РСФСР (1945). Блізкі сябар Я. Купалы. Пазнаёміліся ў 1920 г., калі Елісееў жыў у Мінску і працаваў мастаком у Беларускім першым дзяржаўным тэатры (БДТ-1). Пасля пераезду К. Елісеева ў Маскву на сталае месца жы-

харства Я. Купала часта спыняўся ў яго на кватэры. У 1930 г. Елісееў наведаў паэта, калі прыязджаў у Мінск. Апошняя сустрэча адбылася за тры дні да трагічнай гібелі Я. Купалы, 26 чэрв. 1942 г. у гасцініцы «Масква».

*Елісеева Магдаліна Мікалаеўна* — жонка мастака.

## Б. А. ЕМЯЛЬЯНАВУ

**Дорогому Борису от сердца. Янка Купала. Москва, 19/VI-40 г.**

*На кнізе: «Ад сэрца». Вершы. Мн., 1940 (адз. зах. 24).*

*Емяльянаў Барыс Аляксандравіч* (1903—1965) — рускі пісьменнік. Знаёмы Я. Купалы з 1930 г. Асабліва зблізіўся з ім у ліпені—кастрычніку 1941 г. ў Маскве.

## А. ЕРМАЛОВІЧУ

**W dowód przyjaźni i szacunku Panu Antoniemu Jarmołowiczu od szczere życzliwego i pryjaznego J. Łucewicz. 27/VIII-1904 r. Sieliszese.**

У знак сяброўства і павагі пану Антону Ермаловічу ад шчыра зычлівага і прыязнага Я. Луцэвіч. Селішча. *(Пераклад з польскай мовы У. Мархеля.)*

*На фотаздымку Я. Купалы 1904 г. (адз. зах. Ф-340).*

*Ермаловіч Антон.*— Біяграфічныя звесткі не выяўлены. Як сведчыць пляменніца Я. Купалы Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, з успамінаў сваёй маці яна ведае, што Ермаловіч быў кіраўніком спраў у Зігмунда Чаховіча ў маёнтку Бяседы.

## І. І. ЗАМОЦІНУ

**Вельмі паважанаму праф. І. Замоціну на добры ўспамін. Шчыра адданы Янка Купала. Менск, 28/X-27 г.**

*На кнізе: Зб. тв. 1927, т. III. Захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАНБ (адз. зах. ПР-996).*

**Вельмі паважанаму праф. І. Замоціну на добры ўспамін Янка Купала. Менск, 13/VI-28 г.**

*На кнізе: Зб. тв. 1928, т. IV. Захоўваецца ў ЦНБ імя Я. Коласа НАНБ (ПР-1815).*

*Замоцін Іван Іванавіч* (1873—1942) — вучоны, літаратуразнавец. Акадэмік АН БССР (1928). У 1922 г. запрошаны ў Мінск, дзе ў Беларускім дзяржуніверсітэце, а з 1931 г.— у Мінскім педінстытуце выкладаў філалогію. Прафесарскую працу адначасова спалучаў з навукова-даследчай, працуючы з 1925 г. у Інбелкульце, а пасля яго рэарганізацыі — у Акадэміі навук БССР. Быў знаёмы з Я. Купалам. Жыццю і творчасці паэта прысвяціў арт. «Беларуская драматургія. Драматычныя творы Янкі Купалы» («Узвышша», 1927, № 1), «Янка Купала» («ЛГ», 10.02.36), пісаў пра яго ў брашуры «Мастацкая літаратура ў школьным выкладанні» (1927—1928). У крас. 1938 г. арыштаваны, 5.08.1939 г. асуджаны да васьмі гадоў зняволення. Адбываючы тэрмін пакарання ў Комі АССР, І. І. Замоцін памёр у турэмнай бальніцы 25 мая 1942 г. Рэабілітаваны ў 1956 г.

## Т. ЗДАНОВІЧ

**На добры ўспамін п. Тамары Здановіч. Янка Купала. Менск, 16/1-22 г.**

*На кнізе: «Спадчына». Мн., 1922 (адз. зах. 154).*

*Здановіч Тамара.*— Біяграфічныя звесткі не выяўлены. Адна з першых атрымала ў падарунак кнігу «Спадчына» з дарчым надпісам Я. Купалы.

## М. Э. ЗІНГЕРУ

**Моему дорогому бомбоубежищу — Максу Зингеру — Янка Купала. 23 июля 1941 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1939. Не захавалася. Друкуецца па: часоп. «Неман», 1982, № 2 у публікацыі «Летом сорок первого...» (с. 148—149).*

**Милому Максу Эммануиловичу Зингеру за приют, за дружеское отношение — опекуну дорогому от сердца. Янка Купала.**

*На кнізе: «От сердца». Стихи и поэмы. (1933—1941). М., 1941. Друкуецца па: гл. папярэдні надпіс.*

*Зінгер Макс Эмануілавіч* (1899—1960) — рускі пісьменнік, палярнік. Сусед па дому сябра Купалы — К. Елісеева. Пазнаёміліся ў ліп. 1941 г. падчас аднаго з паветраных налётаў на Маскву. М. Зінгер прадставіў Я. Купалу і Уладзіславе Францаўне сваю кватэру як «бомбасховішча».

## ІНСТЫТУТУ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ А. М. ГОРКАГА

**Институту мировой литературы имени А. М. Горького в знак признательности за прекрасную Пушкинскую выставку в нашем ЦДКА. Янка Купала. Минск, 19/IV-37 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага (ф. 109, воп. 1, адз. зах. 8). Друкуецца па: В. Рагойша. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 75.*

У 1937 г. адзначалася стагоддзе з дня смерці А. С. Пушкіна. Я. Купала ўваходзіў у склад Беларускага і Усесаюзнага пушкінскіх юбілейных камітэтаў, у працы якіх прымаў удзел. Выстаўка пасля Масквы пабывала і ў іншых гарадах краіны. У крас. 1937 г. яна размясцілася ў Мінскім Цэнтральным доме Чырвонай Арміі (зараз акругoвы Дом афіцэраў), на якой Я. Купала прысутнічаў і пакінуў свой фотаздымак з дарчым надпісам арганізатару выстаўкі.

## М. В. І Л. І. ІСАКОЎСКІМ

**Дорогому тов. М. В. Исаковскому с сердечным приветом. Я. Купала. Минск, 10/VI-34 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн.,1934 (адз. зах. 19).*

**На добрую память Вам, дорогой Михаил Васильевич Исаковский. Янка Купала. Минск, 17/XII-36 г.**

*На кнізе: «Выбраныя творы». Мн., 1936, т. II. Захоўваецца ў Расійскім ЦДАЛіМ (ф. 1373, воп. 3, адз. зах. 179). Друкуецца па: В. Рагойша. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 95.*

**Тов. М. В. Исаковскому. Янка Купала. Минск, 17/XII-36 г.**

*На кнізе: «Песня будаўніцтву». Вершы. Мн., 1936 (адз. зах. 22).*

**Дорогим Лидии Ивановне и Михаилу Васильевичу Исаковским. С сердечным приветом Янка Купала. Москва, 8/VII-38 г.**

*На кнізе: «Слова аб палку Ігаравым» у перакладзе Я. Купалы. Мн., 1938. Захоўваецца ў Расійскім ЦДАЛіМ (ф. 1373, воп. 3, адз. зах. 179). Друкуецца па: В. Рагойша. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 96.*

**Милому дорогому Михаилу Васильевичу Исаковскому с чувством сердечной благодарности за его прекрасные переводы моих стихов. Янка Купала. Москва, 3/VI-40 г.**

*На кнізе: «Ад сэрца». Вершы. Мн., 1940 (адз. зах. 25).*

**Дорогому М. В. Исаковскому с сердечным приветом. Янка Купала. Москва, 7/IV-41 г.**

*На кнізе: «Выбраныя творы». Мн., 1937, т. III. Захоўваецца ў Расійскім ЦДАЛіМ (ф. 1373, воп. 3, адз. зах. 179).*

*Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч* (1900—1973) — рускі паэт і перакладчык. З Я. Купалам пазнаёміўся ў лют. 1934 г. у клубе СП БССР, а пасля сустрэчы ў Смаленску на з'ездзе пісьменнікаў Заходняй вобласці ў красавіку таго ж года між імі ўсталяваліся сяброўскія адносіны. Неаднаразова сустракаліся ў Маскве, Мінску і інш. гарадах. Перапісваліся. Аўтар артыкулаў пра Я. Купалу, прысвяціў яму верш «З народам ты вырас, спяваў для народа», пераклаў больш за семдзесят твораў паэта.

*Лідзія Іванаўна* — жонка М. В. Ісакоўскага.

## В. У., Я. Ф. І Р. КАЛІТОЎСКІМ

**Вельмі паважанаму і даражэнькаму д-ру Я. Ф. Калітоўскаму на добры ўспамін аб шахматных турнірах у Кіславодску. Шчыра ўдзячны пацыент Янка Купала. Кіславодск, 22/IX-28 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1926, т. II (адз. зах. 3).*

**Дорогим Ольге Владимировне, Риточке и Евгению Фёдоровичу с сердечным приветом. Я. Купала. Кисловодск, 18/XII-34 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1934 (адз. зах. 28).*

**Дорогому доктору Евгению Фёдоровичу Калитовскому с глубоким уважением и признательностью. Янка Купала. Минск, 25/III-39 г.**

*На кнізе: «Слова аб палку Ігаравым» у перакладзе Я. Купалы. Мн., 1938 (адз. зах. 1555).*

*Калітоўскі Яўген Фёдаравіч* (1896—1980) — беларускі вучоны ў галіне фізіятэрапіі і курорталогіі, кандыдат медыцынскіх навук. З Я. Купалам пазнаёміўся ў час навучання ў медыцынскім інстытуце (1915—1917). Па стану здароўя пакінуў Беларусь у 1926 г. і пераехаў у Кіславодск, дзе працаваў у санаторыі імя М. Горкага. Я. Купалу з сям'ёй Калітоўскіх звязвала цесная дружба. Сустракаліся ў Мінску (1921—1926), а пазней у Кіславодску.

*Вольга Уладзіміраўна* (1903—?) — рэнтгентэхнік. Жонка Я. Ф. Калітоўскага. Пазнаёмілася з Я. Купалам у Мінску ў 1924 г. Паэт часта наведваў дом Калітоўскіх. Рыта — іх дачка.

## Г. А. КАРАВАЕВАЙ

**На памяць пра паездку ў Чэхаславакію.**

*На кнізе: «Песня будаўніцтву». Мн., 1936. Не захавалася. Друкуецца па: часоп. «Полымя», 1962, № 7 у публікацыі Г. Караваевай «Вялікі сын Беларусі», с. 124—132.*

*Караваева Ганна Аляксандраўна* (1893—1979) — руская пісьменніца. Галоўны рэдактар часопіса «Молодая гвардия» (1931—1938), карэспандэнт «Правды» на Урале ў гады Айчыннай вайны. З творчасцю Я. Купалы знаёма з 1915 г. па артыкуле М. Горкага «Пра пісьменнікаў-самавукаў» у часоп. «Современный мир» (1911, № 2), у якім быў змешчаны верш «А хто там ідзе?». Першая сустрэча адбылася на пачатку 1930-х гг. у Маскве, затым неаднаразова бачыліся там жа ў 1934, 1939, 1940 і 1942 гг. З 3-га па 20 кастр. 1935 г. у складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў разам падарожнічалі па Чэхаславакіі. У лютым 1936 г. была ў Мінску, гасцявала ў доме Я. Купалы. 1 ліп. 1942 г. выступіла на пахаванні паэта. Напісала ўспаміны аб сустрэчах з ім.

## У. Г. КАРАЛЕНКУ

**Вельмі паважанаму пану У. Г. Караленку ў знак шчырай пашаноты яго прац на полі грамадзянскім. Аўтар Янка Купала. СПб., 7/1-1911 г.**

*На кнізе: «Жалейка». Пецярбург, 1908. Захоўваецца ў Доме-музеі У. Караленкі ў Палтаве. Друкуецца па: часоп. «Неман», 1982, № 2 у публікацыі С. Букчына «Вся Ваша честная деятельность...», с. 150—161.*

*Караленка Уладзімір Галакціёнавіч* (1853—1921) — рускі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч. З 1906 г. адказны выдавец «Русского богатства» ў г. Палтава. Па справах выдавецтва часта наведваў Пецярбург, дзе і адбылося знаёмства з Я. Купалам, які са снежня 1909-га па 1913 г. там жыў і вучыўся. У пачатку студзеня 1911 г. група пісьменнікаў з Пецярбурга і Масквы адзначыла 25-гадовы юбілей вяртання пісьменніка з ссылкі і сярэбранае вяселле Караленкаў. Відаць, у гэты дзень была падаравана і кніга Я. Купалы.

## А. А. І М. І. КАРЫНФСКІМ

**Дорогому Аполлону Аполлоновичу Коринфскому. Янка Купала. СПб., 23/XI-13 г.**

*На кнізе: «Адвечная песня». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 44).*

**Славному и милому Аполлону Аполлоновичу Коринфскому. Я. Купала. СПб., 23/XI-13 г.**

*На кнізе: «Гусляр». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 40).*

**Дорогому Аполлону Аполлоновичу Коринфскому от искренно преданного Янки Купалы. СПб., 23/XI-13 г.**

*На кнізе: «Сон на кургане». Пецярбург, 1912 (адз. зах. 39).*

**Глубокоуважаемому и дорогому Аполлону Аполлоновичу Коринфскому в знак искренней признательности и уважения его чудному таланту. Янка Купала. СПб., 23/XI-13 г.**

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913 (адз. зах. 45).*

**Дорогому и милому А. А. Коринфскому и Марьяне Иосифовне на добрую память. Янка Купала. Минск, 12/V-33 г. Октябрьская, 36а.**

*На кнізе: Зб. тв., 1932, т. VI (адз. зах. 46).*

*Карынфскі Апалон Апалонавіч* (1868—1937) — рускі паэт і перакладчык. З Я. Купалам пазнаёміўся ў Пецярбургу, падчас яго вучобы на курсах А. С. Чарняева. Паэт успамінаў: «Сустрэліся мы з ім выпадкова і з першых жа хвілін пасябравалі, хоць ■ гадамі і вядомасцю быў куды ад яго маладзей». Я. Купала часта наведваў дом Карынфскага, «часам начаваў у Апалона Апалонавіча ў кабінеце». У альбоме жонкі перакладчыка *Марыі Восіпаўны* (1879—1960) — 6 лістап. 1913 г. Я. Купала пакінуў свой аўтограф сярод інскрыптаў іншых вядомых асоб, запісаўшы верш «А ты, сіраціна, жыві...». У 1913—1914 гг. Карынфскі пераклаў 16 вершаў Я. Купалы і напісаў біяграфічную даведку паэта, змешчаную ў часоп. «Педагогический листок» (1914. Кн. 1). Перад ад'ездам з Пецярбурга Я. Купала падараваў перакладчыку 4 кнігі з надпісамі. У маі 1933 г. сустракаліся ў Мінску. У 30-я гады А. А. Карынфскі быў рэпрэсіраваны.

## ЯКУБУ КОЛАСУ

**Шкадую, дружа Колас, што тут цябе няма,**
**Ярчэй свяціла б сонца, мякчэй была б зіма.**
**Дзве тысячы кілометраў сягоння дзеляць нас,**
**Але што значаць вольным адлегласці і час.**

*На фотаздымку Я. Купалы 1932 г. у Кіславодску. Не захаваўся. Друкуецца па: Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Мн., 2000. С. 145.*

*Якуб Колас* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Паплечнік і сябар Я. Купалы. Асабіста пазнаёміліся ў Смольні ў жніўні 1912 г., праз год адбылася сустрэча ў Вільні. З 1921 г. разам працавалі ў Інбелкульце, амаль трыццаць год падтрымлівалі цёплыя прыяцельскія адносіны, сябравалі сем'ямі, разам выязджалі і ўдзельнічалі ў розных форумах, канферэнцыях і інш. мерапрыемствах. Пяру Я. Коласа належыць шэраг артыкулаў, прысвечаных Я. Купалу і яго творчасці.

## Ф. Я. КОНУ

**Вельмі паважанаму тав. Феліксу Кону шчыра ўдзячны за добрыя словы ў дзень юбілею. Янка Купала. Масква, 12/VI-30 г.**

*На кнізе: «Творы. 1918—1928». Мн., 1930 (адз. зах. 1263).*

*Кон Фелікс Якаўлевіч* (1864—1941) — дзеяч расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху, член калегіі і заг. секцыі мастацтва і літаратуры Наркамасветы РСФСР. З Я. Купалам сустракаліся неаднаразова. Ф. Кон вітаў паэта з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці ў маі 1930 г. у Маскве. Разам былі ў прэзідыуме на ўрачыстай вечарыне з нагоды 85-й гадавіны з дня смерці А. Міцкевіча (26 лістап. 1940 г.).

## В. Ю. ЛАСТОЎСКАМУ

**Даражэнькаму Власту шчыра адданы аўтар. Янка Купала. СПб., 14/II-13 г.**

*На кнізе: «Паўлінка». Пецярбург, 1913 (адз. зах. 1208).*

*Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч* (1883—1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец. Член-карэспандэнт Украінскай акадэміі грамадазнаўства ў Празе (1926). Акадэмік АН БССР (1928). З Я. Купалам пазнаёміўся ў сакавіку 1909 г. у сувязі з прызначэннем на пасаду рэдакцыйнага сакратара «Нашай нівы» (1909—1915). Кватэра Ластоўскіх была месцам збору беларускай і літоўскай інтэлігенцыі, сярод якой быў і Я. Купала. Сябравалі. Часта сустракаліся. В. Ластоўскаму і яго жонцы Марыі ў 1909 г. паэт прысвяціў верш «Песня званара», а ў 1910 г. вітаў выхад «Кароткай гісторыі Беларусі» Ластоўскага вершам «Дудар». У 1916—1917 гг. рэдактар газеты «Гоман». З красавіка 1927 г. на пасадзе дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея, працаваў у Інбелкульце, АН БССР, уваходзіў у камісію па рэформе беларускага правапісу. У 1928 г. напісаў успаміны пра нашаніўскі перыяд і пра Я. Купалу (Пушкінскі дом, ф. 586, адз. зах. 116). У 1930 г. пазбаўлены звання акадэміка і высланы з Беларусі на 5 год у Саратаў. Паўторна асуджаны ў 1937 г. і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны па першым прыгаворы ў 1988 г., а па другім — у 1958 г.

## У. Г. ЛІДЗІНУ

**Дорогому тов. Лидину с сердечным приветом. Я. Купала.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1933. Друкуецца па: ЭД. С. 339.*

**Дорогому тов. В. Г. Лидину с искренним приветом. Я. Купала. Минск, 11/VI-34 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1934. Друкуецца па: гл. папярэдні надпіс.*

*Лідзін Уладзімір Германавіч* (1894—1979) — рускі пісьменнік. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 30-я гады. У жніўні 1933 г. разам наведалі Беламорска-Балтыйскі канал. Сустракаліся ў Мінску з 8-га па 14 чэрв. 1934 г. на 1-м Усебеларускім з'ездзе пісьменнікаў.

## А. І. ЛУЦКЕВІЧУ

**Усімі паважаемаму працаўніку на ніве Беларускай. Пану А. Луцкевічу на добрую памятку ад шчырага сэрца. Янук Купала. Вільня. 18/VIII-1909 г.** (Тэкст напісаны лацінскім шрыфтам.)

*На фотаздымку Я. Купалы 1908 г. (адз. зах. Ф-342).*

**Вытрыманаму і шчыраму працаўніку на ніве беларускага адраджэння п. Антону Луцкевічу. Янка Купала. СПб., 14/X-1910 г.** (Тэкст напісаны лацінскім шрыфтам.)

*На кнізе: «Гусляр». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 1222).*

*Луцкевіч Антон Іванавіч* (1884—1942) — беларускі публіцыст, літаратурны крытык і грамадскі дзеяч. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1908 г. у «Нашай ніве», рэдактарам якой ён быў з 1906 г. Прысвяціў Купале шэраг артыкулаў у беларускім і польскім друку. У 1939 г. арыштаваны, прыгавораны да шасці гадоў зняволення. Рэабілітаваны ў 1989 г.

## Г. МААРЫ

**Гургену Маари с сердечным приветом. Янка Купала. Минск, 15/II-36 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы. Друкуецца па: ЭД. С. 369.*

*Маары Гурген* (сапр. Аджамян Гурген Рыгоравіч; 1903—1969) — армянскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Армянскай ССР (1965). Знаёмы Я. Купалы.

## Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

**Милому Евгению Семёновичу Мозолькову с искренним приветом и уважением. Янка Купала. Москва. 22/X-38 г.**

*На кнізе: «Слова аб палку Ігаравым» у перакладзе Я. Купалы. Мн., 1938 (адз. зах. 30).*

**Мозольков.**

*На кнізе: «Прымакі». Мн., 1936 (адз. зах. 35).*

*Мазалькоў Яўген Сямёнавіч* (1909—1969) — рускі крытык і літаратуразнавец, перакладчык і рэдактар кніг Я. Купалы на рускай мове. Аўтар кніг, успамінаў і шматлікіх артыкулаў пра жыццёвы і творчы шлях паэта. З 1948-га па 1969 г. — старшыня камісіі, а потым Савета па беларускай літаратуры

пры праўленні СП СССР. З Я. Купалам пазнаёміўся ў сярэдзіне 1930-х гг. Сябравалі. Сустракаліся ў Маскве і Мінску, на дачы паэта ў Ляўках. Перапісваліся. Апошні раз бачыліся ў гасцініцы «Масква» 28 чэрв. 1942 г.

## В. П. МАЛЧАНАВАЙ

**Міленькай Валі на добрую памяць. Янка Купала. Мінск, 26/IX-40 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1937 (адз. зах. 652).*

*Валя* (Малчанава Валерыя Паўлаўна) — дачка *Малчанава Паўла Сцяпанавіча* (1902—1977), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі (1940), народнага артыста СССР (1948). З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1920 г. Сябравалі сем'ямі. Кніга была падаравана дачцэ П. С. Малчанава, калі ён прыехаў разам з тэатрам на гастролі ў Мінск і яго сям'я пражывала каля месяца ў доме паэта. Апошні раз бачыліся ў 1940 г.

## В. І. МАЦКО

**Вячаславу з вялікай пашанай. Янка Купала. Масква. 24.6.1937.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1937 (адз. зах. 59).*

*Мацко Вячаслаў Іосіфавіч* (1903—1975) — беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1952).

## М. А. МАШАРУ

**Дарагому Міхасю Машару на памяць аб нашай сустрэчы на вольнай і ўз'яднанай нашай роднай беларускай зямлі. Шчыра жадаю поспеху і шчасця ў жыцці і працы. Янка Купала. 28.X.1939 г. Беласток.**

*На дэпутацкім блакноце М. А. Машары. Не захаваўся. Друкуецца па: часоп. «Полымя», 1961, № 7 у публікацыі М. Машары «Сустрэчы з Янкам Купалам».*

*Машара Міхась* (Міхаіл Антонавіч; 1902—1976) — беларускі паэт, празаік, драматург, перакладчык. У 1939 г. Машара кіраваў аддзелам народнай асветы ў Шаркоўшчынскім р-не. Быў абраны дэпутатам Народнага сходу ў Беластоку, які праходзіў 28—30 кастр. 1939 г. У час аднаго з пасяджэнняў П. Броўка пазнаёміў яго з Я. Купалам. Пазней сустракаліся ў Мінску, Ярцаве, Казані і ў чэрвені 1942 г. у Маскве. Аўтар вершаў «Янку Купалу», «Вялікаму песняру» і ўспамінаў аб паэце.

## А. М. МЕТЭХЕЛІ

**Незабываемой Елене Михайловне на память от благодарных пациентов. А. Новиков-Прибой. С большой любовью и сердечностью. 17.1.1938. Янка Купала.**

*На фотаздымку Я. Купалы і А. Новікава-Прыбоя. Цхалтуба, 1938 г. (адз. зах. 66).*

*Метэхелі* (па мужу Джавахішвілі) *Алёна Міхайлаўна* (1912—?) — урач 1-га санаторыя спецлечсанпрофа г. Цхалтуба, з 1935 г.— галоўны ўрач той жа ўстановы. Знаёмства адбылося ў студзені 1938 г., калі пасля завяршэння Руставелеўскага пленума (24—30.12.1937) у Тбілісі Я. Купала разам з А. Серафімовічам і А. Новікавым-Прыбоем знаходзіўся ў санаторыі г. Цхалтуба. Перад ад'ездам Я. Купала падараваў А. Метэхелі рукапіс прысвечанага ёй верша «Генацвале» з паметай «Цхалтуба. 20.1.1938 г.». Паўторна сустракаліся ў лістападзе 1938 г.

## В. М. МОНІЧУ

**В. М. Моничу с искренним приветом. Янка Купала. Москва. Съезд. 1/IX-34 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1934 (адз. зах. 1022).*

*Моніч Васіль Міхайлавіч* (1898—?) — знаёмы Я. Купалы. Былы ваеннаслужачы, падпалкоўнік запасу. Пазнаёміліся ў Маскве, ва Універсітэце народаў Захаду на вечары, прысвечаным 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы (1925). Пазней сустракаліся ў Маскве на 1-м Усесаюзным з'ездзе ССП (17.08—2.09.34) і ў 1940 г.

## П. В. МЯДЗЁЛЦЫ

**Дарагой Паўлінцы на памятку ад шчырага сэрца. Янка Купала. Менск, 19/1-30 г.**

*На кнізе: «Сборник стихов». М.—Л., 1930 (адз. зах. 26).*

**Паўлінцы Янка. Менск, 19/1-30 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. Ф-32).*

**Даражэнькай Паўлінцы на памятку. Янка. Менск, 19/VI-30 г.**

*На кнізе: «Творы. 1918—1928». Мн., 1930 (адз. зах. 14).*

**Паўлінцы на памятку. Янка. Масква, 18/III-36 г.**

*На кнізе: «Песня будаўніцтву». Вершы. Мн., 1936 (адз. зах. 21).*

*Мядзёлка Паўліна Вікенцьеўна* (1893—1974) — заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Пасля заканчэння Віленскай жаночай гімназіі ў 1912 г. працавала настаўніцай. Удзельніца Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні, Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (1917—1918, 1920). Паводле яе ўспамінаў, з Я. Купалам пазнаёмілася ў Вільні ў 1909-м ці 1910 г. Падтрымлівалі сяброўскія адносіны, асабліва зімой 1912—1913 гг. у Пецярбургу падчас вучобы паэта на курсах А. С. Чарняева і ў 1913—1914 гг. у Вільні. Адна з першых выконвала ролю Паўлінкі ў аднайменнай камедыі Я. Купалы. Пазней сустракаліся ў Полацку, Мінску і Маскве. Я. Купала прысвяціў П. Мядзёлцы верш «Снілася дзяўчыне» і інш. Падзялілася ўспамінамі аб паэце ў кнізе «Сцежкамі жыцця» (Мн., 1974).

## М. У. НАРЭЙКУ

**Майму лепшаму пляменніку Міхасю Нарэйку, добраму інжынеру. На добрую памяць. Янка Купала. Менск. 1/I-36 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. Ф-57).*

*Нарэйка Міхаіл Уладзіслававіч* (1904—1980) — стрыечны пляменнік Я. Купалы, сын стрыечнай сястры паэта І. М. Луцэвіч-Нарэйка. Інжынер-палкоўнік. Працаваў у Мінску, Ленінградзе; выкладчыкам ВНУ ў Новачаркаску, з 1960 г.— у будтрэсце № 5 Мінска. Я. Купала падтрымліваў яго матэрыяльна ў час вучобы ў тэхнікуме і інстытуце.

## С. М. НОВІКУ-ПЯЮНУ

**Міламу Сяргею Пяюну пад час сустрэчы ў Слоніме. Янка Купала. 14.ХІ-39 г.**

*У блакноце С. Новіка-Пяюна. Не захаваўся. Друкуецца па: зб. «Народны паэт Беларусі». Мн., 1962. С. 190.*

*Новік-Пяюн Сяргей* (сапр. Новік Сяргей Міхайлавіч; 1906—1994) — беларускі паэт, празаік. Пасля заканчэння Нясвіжскай гімназіі (1918—1924) скончыў беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні (1926). За культурна-асветніцкую работу неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Адбыў пяцігадовую ссылку на Паморʼі (1926—1931). З 1931 г. жыў у Слоніме, дзе і адбылася сустрэча з Я. Купалам 14 лістап. 1939 г. Сябравалі. Бачыліся ў Маскве (1934, 1935, 1940) і ў Мінску (1936), Тбілісі (1937), Цхалтуба (1938). Суправаджаў паэта да Г. Леўчыка. На Слонімшчыне працаваў інспектарам раённага аддзела народнай асветы (1930—1940), дырэктарам краязнаўчага музея (1940—1941). За сувязь з партызанамі прыгавораны фашысцкімі ўладамі да пакарання смерцю. Вызвалены з Калдычэўскага лагера смерці партызанамі, працягваў працу ў тым жа музеі да 1944 г. У 1944 г. зноў арыштаваны, асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі і сасланы на Калыму. Рэабілітаваны 5.11.1958 г. З 1959 г. жыў у Мінску. Я. Купалу прысвяціў шэраг артыкулаў.

## Я. ОБСТУ

**Na pamiatkę pierwszego spotkania się w Petersburgu p. J.Obst jako dowód prawdziwego szacunku dla sławnej i pięknej przeszłości polskiej, od szczerego serca poswięcam. J.Kupała. Peterburg. 14/XI-1910 h.**

На памяць аб першым спатканні ў Пецярбургу п. Я. Обсту як доказ сапраўднага шацунку для слаўнай і цудоўнай польскай мінуласці. Ад шчырага сэрца прысвячаю. Я. Купала. Пецярбург. 14/XI-1910 г. *(Пераклад з польскай мовы У. Мархеля.)*

*На кнізе: «Гусляр». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 1221).*

**Ахвярую ад усяго сэрца п<ану> Я. Обсту на доказ супольнага цярпення ў няволі. Янка Купала.** (Тэкст напісаны лацінскім шрыфтам.)

*На кнізе: «Адвечная песня». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 1220).*

**Wiele szanownemu i drogiemu panu Janowi Obst w dowód ščerej przyjaźni. Janka Kupała. Petersburg, 6/IV-13r.**

Дужа шаноўнаму і дарагому пану Яну Обсту на доказ шчырай прыязні. Янка Купала. Пецярбург, 6/IV-13 г. *(Пераклад з польскай мовы У. Мархеля.)*

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913. Захоўваецца ў Бібліятэцы Літоўскай АН (R-20/2).*

*Обст Ян* (Ян Германавіч; 1876—1941?) — гісторык, выдавец, журналіст. Працаваў сакратаром у рэдакцыі «Kraj» (1903 г.— да спынення дзейнасці ў 1909 г.). У 1911 г. у Пецярбургу Обст заснаваў «Kwartalnik Litewski». Пасля пераезду яго ў тым жа годзе на сталае месца жыхарства ў Вільню змяніла месца знаходжання і рэдакцыя часопіса, якая з 1912-га па 1913 г. выходзіла пад новай назвай «Litwa i Rus». Відаць, у час знаходжання Я. Купалы ў Пецярбургу (1909—1913) і адбылося яго знаёмства з Обстам. Так, у часоп. «Litwa i Rus» за 1912 г. быў змешчаны верш Я. Купалы «Лірнік вясковы», прысвечаны 50-годдзю з дня смерці польскага і беларускага паэта-дэмакрата У. Сыракомлі.

## С. Е. ПАЛУЯНУ

**На добрую памятку С. Палуяну афярую ад шчырага сэрца. Я. Купала. Вільня, 29/XI-1909 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. Ф-5).*

*Палуян Сяргей Епіфанавіч* (1890—1910) — беларускі публіцыст, празаік, літаратуразнавец, адзін з пачынальнікаў беларускай літаратурнай крытыкі. Блізкі сябар Я. Купалы. Пазнаёміліся ў рэдакцыі «Нашай нівы» ў 1909 г., але знаёмства было нядоўгім, у 1910 г. С. Палуян скончыў жыццё самагубствам. Смерць сябра глыбока ўзрушыла Я. Купалу. У сувязі з гэтай трагічнай падзеяй ім быў напісаны верш «Памяці С. Палуяна» і прысвечана паэма «Курган».

## П. ПАНЧУ

**П. Панчу. Я. Купала. Менск, 18/V-[28 г.]**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. Ф-345).*

**Дарагому Пятру Панчу са шчырай пашанай. Янка Купала. Масква, з'езд 25/VIII-34 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1934 (адз. зах. 43).*

*Панч Пятро* (сапр. Панчанка Пётр Іосіфавіч; 1891—1978) — украінскі пісьменнік. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1928 г. у Харкаве. Сябравалі. Неаднаразова сустракаліся ў Мінску, Маскве. Я. Купала пераклаў на беларускую мову апавяданне П. Панча «Зямля» (1928).

## М. А. ПАПОВУ

**Шчыра паважанаму т. М. А. Папову на добры ўспамін. Янка Купала. 26/VII-26 г. Менск.**

*На рэжысёрскім экземпляры п'есы «Тутэйшыя» Я. Купалы, якая рыхтавалася М. Паповым да пастаноўкі ў 1926 г. на сцэне Беларускага першага дзяржаўнага тэатра (БДТ-1). Захоўваецца ў Расійскім ЦДАЛіМ (ф. 837, воп. 2, адз. зах. 10).*

*Папоў Мікалай Аляксандравіч* (1871—1949) — рускі рэжысёр, драматург. У 1925—1926 гг.— мастацкі кіраўнік Беларускага першага дзяржаўнага тэатра (БДТ-1).

## А. Ф. ПОСАХУ

**Дарагому Андрэю Фёдаравічу Посаху на добры ўспамін аб мінулых спатканнях у Яхімоўшчыне ў 1906 г., спатканнях мілых, шчырых. Янка Купала. Мінск, 12/V-40 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1940, т. IV. Захоўваецца ў прыватным кнігазборы. Друкуецца па часоп. «Маладосць», 1964, № 7 у публікацыі Р. Семашкевіча «Ён дружыў з Купалам».*

*Посах Андрэй Фёдаравіч* (1884—1945) — педагог, кандыдат фізіка-матэматычных навук. Знаёмы Я. Купалы з 1906 г. А. Посах у той час настаўнічаў у сельскай пачатковай школе ў Гарадзілаве, а Я. Купала працаваў на бровары ў Яхімаўшчыне. Падтрымлівалі сяброўскія адносіны. Пасля ад'езду

Я. Купалы з Яхімаўшчыны вясной 1907 г. на працягу трох год перапісваліся. У чэрвені 1910 г. А. Посах у складзе дэлегацыі беларускіх настаўнікаў наведаў Італію, дзе сустракаўся з А. М. Горкім і пазнаёміў яго з вершамі Я. Купалы. У час першай сусветнай вайны А. Посах служыў у рускай арміі, а пасля зноў настаўнічаў. У 1920 г. пераехаў у Мінск. Працаваў выкладчыкам матэматыкі на рабфаку мінскага медінстытута. Напісаў успаміны пра Я. Купалу ў зб. «Янка Купала» (Мн., 1952) і «Такі ён быў» (Мн., 1975).

## А. Я. ПРАКАПЧУКУ

**Дарагому Прафесару Акадэміку А. Я. Пракапчуку на добрую памяць. Шчыра адданы Янка Купала. 21/IV-1940 г. Мінск.**

*На кнізе: Зб. тв., 1940, т. IV (адз. зах. 8).*

*Пракапчук Андрэй Якаўлевіч* (1896—1970) — беларускі вучоны ў галіне дэрматавенералогіі. Акадэмік АН БССР (1940). Знаёмы Я. Купалы з канца 20-х гг. У кастрычніку 1940 г. разам з паэтам наведаў Гродна. Аўтар успамінаў пра Я. Купалу «З перажытага» (Полымя. 1968. № 11).

## Я. Э. ПФЛЯЎМБАЎМ

**Мілай слаўнай Жэні на добры ўспамін. Янка Купала. Масква. 7/VI-40 г.**

*На кнізе: «Ад сэрца». Вершы. Мн., 1940 (адз. зах. 1348).*

**Мілай Жэні на памятку. Янка Купала. Масква. 16/1-41 г.**

*На кнізе: «Песня будаўніцтву». Вершы. Мн., 1936 (адз. зах. 1320).*

**Мілай засумаванай Жэні з сонечным прыветам. Янка Купала. Масква. 16.1.41 г.**

*На кнізе: Паэмы. Мн., 1940. Захоўваецца ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане. Друкуецца па: Юрась Лаўрык. «Беларускія кніжныя пазнанні ў зборах Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане». Лондан, 2001. С. 34.*

*Пфляўмбаўм Яўгенія Эргардаўна* (1908—1996) — беларуская паэтэса, перакладчык. Уваходзіла ў кіруючыя органы «Маладняка», БелАППа. Працавала бібліёграфам Кніжнай палаты пры Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя

У. І. Леніна (1930—1932), літсупрацоўнікам рэспубліканскай газеты «Звязда». У 1933 г. выехала ў Сібір (г. Марыінск) услед за сваім мужам, паэтам М. Лужаніным, які быў рэпрэсіраваны. Пасля заканчэння тэрміну пакарання мужа, у 1935 г., не маючы магчымасці вярнуцца на радзіму, разам з ім пераязджае ў Маскву да сваіх бацькоў. З Я. Купалам сустракалася ў Маскве.

## А. П. РАБІНІНАЙ

**Усё мінаецца, адно толькі шчасце і радасць не мінаецца. Дарагой Аляксандры Пятроўне Рабінінай. Шчасліваму другу Я. Купала. Менск, 10.5.1935 г.**

*На фотаздымку Я. Купалы (адз. зах. 324).*

*Рабініна Аляксандра Пятроўна* (1897—1977) — супрацоўніца выдавецтва «Художественная литература» (г. Масква), загадчыца рэдакцыі творчасці народаў СССР, пасля — намеснік дырэктара выдавецтва. З Я. Купалам пазнаёмілася ў пачатку 1930-х гг. Пры яе непасрэдным удзеле выдадзены кнігі «Над ракою Арэсай» (1933) і «Выбраныя вершы і паэмы. 1906—1935» (1935) і інш. выданні. Сябравалі, перапісваліся.

## Л. М. РАГОЎСКАМУ

**Wielmoznemu p. L. M. Rogowskiemu w dowod glebokieko szacunku i szczerego uznania prac poswiecanych dla rozkwitu sztuki Bialoruskiej. J. Kupala. Peterburg. 23/VI-1910 h.**

Вяльможнаму п. Л. М. Рагоўскаму ў знак глыбокай пашаны і шчырага прызнання прац, прысвечаных росквіту беларускага мастацтва. *(Пераклад з польскай мовы У. Мархеля.)*

*На кнізе: «Адвечная песня». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 1207).*

**Kompozytorowi p. L. M. Rogowskiemu w dowud prawdziwego uznania prac Jego pokladanych na rozwicie sztuki bialoruskiej. Od szczerego serca ofiarowuje. Janka Kupala. Petersburg. 27/9 III/IV 1911r.**

Кампазітару п. Л. М. Рагоўскаму ў знак сапраўднага прызнання прац Яго, прысвечаных развіццю беларускага мастацтва. Ад шчырага сэрца ахвярую. Янка Купала. Пецярбург, 27/9/III/IV 1911 г.

*На кнізе: «Гусляр». Пецярбург, 1910. Захоўваецца ў Вроцлаве, у Бібліятэцы імя Асалінскіх. Друкуецца па: Позняк Т., Рагойша В. Янка Купала і Людамір Міхал Рагоўскі. Sława Orientalis, 1976, № 1. Пераклад В. Рагойшы.*

*Рагоўскі Людамір Міхал* (1881—1954) — польскі кампазітар і дырыжор. Пасля заканчэння Варшаўскай кансерваторыі і творчай стажыроўкі ў шэрагу буйнейшых музычных цэнтраў таго часу (Вена, Рым, Парыж, Лейпцыг, Мюнхен) у 1909 г. прыехаў у Вільню на працу, дзе ўзначаліў сімфанічны аркестр польскага музычнага таварыства «Лютня». Першым яго вядомым творам у беларускай музыцы была мелодыя песні да верша Я. Купалы «А хто там ідзе?», упершыню выкананая 12 лют. 1910 г. У 1911 г. Л. Рагоўскі пакінуў Вільню і выехаў у Парыж. Дата пад дарчым надпісам на кнізе сведчыць, што перад ад'ездам Рагоўскі наведаў Пецярбург, дзе, відаць, і сустрэўся з Я. Купалам.

## Я. РАЙНІСУ

**Вельмі паважанаму слаўнаму Песняру Латвіі Я. Райнісу. Шчыра прыязны Янка Купала. Менск, 19/XI-26 г.** (Тэкст напісаны лацінскім шрыфтам.)

*На кнізе: «Безназоўнае». Мн., 1925. Друкуецца па ксеракопіі. Захоўваецца ў Доме-музеі Я. Райніса (R-20/2).*

**Вельмі паважанаму песняру Латвіі Я. Райнісу. Шчыра прыязны Янка Купала. Менск, 19/XI-26 г.** (Тэкст напісаны лацінскім шрыфтам.)

*На кнізе: Зб. тв., 1925, т. I. Друкуецца па ксеракопіі з кнігі. Захоўваецца ў Доме-музеі Я. Райніса (R-20/2).*

*Райніс Ян* (сапр. Пліекшан Яніс Крыш'янавіч; 1865—1929) — латышскі паэт, драматург, грамадскі дзеяч. Народны паэт Латв. ССР (1940). З Я. Купалам падтрымліваў сяброўскія адносіны, перапісваліся. Сустракаліся ў Мінску, у час Першай беларускай акадэмічнай канферэнцыі (14—21 лістап. 1926 г.).

## І. РЫТАР

**Мілай дзяўчыне, Іне Рытар, на ўваходзіны. Шчыра адданы Янка Купала. 20.1.1930 г.**

*На кнізе: «Жалейка». Не захавалася. Друкуецца па: Сачанка Б. На суд гісторыі. Успаміны, дыялогі. Мн., 1994. С. 84.*

*Рытар-Каханоўская Іна* (псеўд. Саковіч Аляксандра; 1906—?) — празаік. Малодшая сястра жонкі пісьменніка М. Грамыкі — Лідзіі. З восені 1921 г. жыла ў Мінску ў сям'і Грамыкаў побач з Я. Купалам. У тым жа годзе пазнаёмілася з паэтам «на каляднай ялінцы ў дзіцячым доме», дзе працавала яе сястра. Кнігу з надпісам атрымала на вечарыне ў доме Лёсікаў, дзе ў 1930 г. жыла. Працавала настаўніцай у Пярэвіцкай школе, з канца 20-х гадоў выкладала на рабфаку пры БДУ. Пасля ад'езду сястры з дзецьмі ўслед за М. Грамыкам у ссылку (1931) выйшла замуж і пераехала жыць у Маскву. Апошні раз бачылася з Я. Купалам у дні Дэкады беларускага мастацтва ў 1940 г. З мая 1950 г. жыла ў ЗША.

## Л. І. РЫТАР

**Міламу і чыстаму настаўніку і шчыраму беларускаму грамадзяніну п. Лідзе Рытар у дзень яе імянін 13/ІІІ-22 г. ад усёй душы. Янка Купала. 5/IV — Менск.**

*На фотаздымку Я. Купалы. Захоўваецца ў прыватным кнігазборы. Друкуецца па: Сачанка Б. На суд гісторыі. Успаміны, дыялогі. Мн., 1994. С. 85.*

*Рытар* (дзявочае, па мужу Грамыка) *Лідзія Іванаўна* (1898—?) — педагог. У Мінску з 1921 г. У тым жа годзе пазнаёмілася з Я. Купалам і Уладзіславай Францаўнай. У кастрычніку 1922 г. паэт быў на вяселлі Грамыкаў, падтрымліваў з гэтай сям'ёй сяброўскія адносіны да выезду іх з Беларусі. У 1931 г. выехала з дзецьмі ў Іванава-Вазнясенск услед за мужам, які быў рэпрэсіраваны. З 1936 г. жыла з сям'ёй у Кіраўску Мурманскай вобласці.

## А. М. САКУ

**Кс. А. Саку ад шчырай душы на ўспамін аб Пецярбургу. Янка Купала. Менск, 3/XI-25[г.].**

*На кнізе: Зб. тв., 1925, т. I (адз. зах. 47).*

*Сак Аляксандр Мікалаевіч* (1890—1937) — знаёмы Я. Купалы. Пасля заканчэння Пінскай гімназіі вучыўся ў Пецярбургскім лясным інстытуце. У 1917 г. скончыў Пецярбургскую каталіцкую духоўную семінарыю. З 1917-га па 1929 г. быў ксяндзом у Мінску, Койданаве і Мазыры. У 1929 г. адмовіўся ад сану і працаваў у Беларускім дзяржаўным музеі, затым у Белдзяржвыдавецтве. З Я. Купалам пазнаёміўся на адным з суботнікаў беларускай моладзі на кватэры Б. І. Эпімах-Шыпілы, у якога беларускі паэт жыў на працягу 1909—1913 гг. У 1924—1925 гг., прыязджаючы ў Мінск, заўсёды наведваў дом Я. Купалы. Па ўспамінах жонкі Сака — Я. Бяганскай, Я. Купала разам з Уладзіславай Францаўнай наведваў Алеся Мікалаевіча і яго маці ў доме па вул. Свярдлова, дзе, відаць, і падараваў сваю кнігу. У 1930 г. А. Сак быў арыштаваны, а ў 1931 г.— сасланы на пяць гадоў.

## У. І. САМОЙЛУ

**На довад шчырага шацунку і сардэчнай прыязні найлепшаму і найсправядлівейшаму свайму ўчыцелю, дабрадзею пану Ул. Ів. Самойла ад Янука Купалы. Вільня. 16.XII. [1]908 г.**

**Шчасліў будзь, заступніку бедных людзей,**
**Жыві, дажывіся больш радасных дней. Я. Купала.**

*На фотаздымку Я. Купалы 1908 г. (адз. зах. Ф-3).*

*Самойла Уладзімір Іванавіч* (1878—1941) — публіцыст, даследчык беларускай, рускай і інш. літаратур, паэт, празаік, перакладчык, удзельнік беларускага культурна-грамадскага руху пачатку XX ст. Сябар і настаўнік Я. Купалы. Пазнаёміліся ў 1904 г. Памагаў будучаму паэту падрыхтавацца да паступлення ў Мінскае рэальнае вучылішча, але па сямей-

ных абставінах планы паэта не збыліся. У. Самойла першым заўважыў і ацаніў паэтычны талент Я. Купалы, быў першым перакладчыкам яго твораў на рускую мову, садзейнічаў выданню першага зб. «Жалейка» і дэбюту ў друку з вершам «Мужык» у мінскай газеце «Северо-Западный край» (15.05.1905), дзе ў той час У. Самойла супрацоўнічаў. Фотаздымак Я. Купала падараваў У. І. Самойлу перад ад'ездам у Пецярбург. Як вынікае з перапіскі У. Самойлы з Б. І. Эпімах-Шыпілам і пацвярджаецца датай у дарчым надпісу, сустрэча Я. Купалы з У. І. Самойлам адбылася ў Вільні 16 снеж. 1908 г., калі яны, відаць, абмяняліся падарункамі: У. Самойла атрымаў фотаздымак, а Я. Купала — рэкамендацыйны ліст Самойлы, з якім і паехаў да Б. І. Эпімах-Шыпілы.

## І. С. СВЯНЦІЦКАМУ

**Шчыра паважанаму праф. Іл. С. Сьвянціцкаму. З прывітаннем Янка Купала. Менск, 19.02.27 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1926, т. II. Захоўваецца ў Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стафаніка. Друкуецца па: В. Рагойша. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 63.*

**Шчыра паважанаму праф. Сьвянціцкаму. З прывітаньнем Янка Купала. Менск, 19.02.27 г.**

*На кнізе: «Спадчына». Мн., 1922. Захоўваецца ў Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стафаніка. Друкуецца па: В. Рагойша. Напісана рукой Купалы. С. 63.*

*Свянціцкі Іларыён Сямёнавіч* (1876—1956) — украінскі філолаг, мастацтвазнавец, адзін з дзеячаў еўрапейскай беларушчыны, гісторык мовы, літаратуры славянскіх народаў, палеограф, знаўца старажытнага мастацтва. З Я. Купалам пазнаёміўся летам 1927 г. У канцы 1926-га — пач. 1927 г. прафесар Львоўскага універсітэта наведаў Беларусь па запрашэнні Інбелкульта. Нагодай для паездкі з'явілася Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу. Але на яе І. Свянціцкі не паспеў (была зачытана толькі яго віншавальная тэлеграма), а запрашэнне наведаць Беларусь ён

выкарыстаў пазней. Калі быў у Мінску, сустракаўся і з Я. Купалам. Меў перапіску з паэтам. Пісаў пра Я. Купалу ў кнізе «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі» (1928).

## Л. С. СЕЎРУКУ

**Вельмі паважанаму прафесару п. Л. С. Сеўруку ў довад прызнання яго прац і думак, пакладзеных на карысць маці-Беларусі і яе нешчасліваму народу. Ад шчырага сэрца Янка Купала. Пецярбург, 25/VI-1910 г.**

*На кнізе: «Адвечная песня». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 1311).*

**У знак вялікай пашаноты і паважаннем т. Леаніду Сафоніевічу Севруку, шчырым сэрцам праўдзіва адданы Janka Kupala. Пецярбург, 10/X-1910 г.**

*На кнізе: «Гусляр». Пецярбург, 1910 (адз. зах. 1312).*

**Яго міласці Леаніду Сафоніевічу Севруку на добрую памятку ад шчырага сэрца — Янка Купала. СПб., 14/IV-1913 г.**

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913 (адз. зах. 1313).*

*Сеўрук Леанід Сафоніевіч* (1867—?) — выкладчык прыродазнаўства ў Санкт-Пецярбургскім сіроцкім інстытуце. Аўтар «Методыкі пачатковага курсу прыродазнаўства» (1902) і інш. Удзельнік беларускага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX ст. Аказваў матэрыяльную дапамогу выд-ву «Загляне сонца і ў наша аконца», сабраў вялікую бібліятэку беларускіх кніг. З Я. Купалам пазнаёміўся ў час яго знаходжання ў Пецярбургу (1909—1913).

## В. СЛАВІНСКАМУ

**На памятку пабыту ў Кенах пану Вітольду Славінскаму шчыра прыязны Я. Купала. Вільня, 31/X-13 г.** (Тэкст напісаны лацінскім шрыфтам.)

*На кнізе: «Шляхам жыцця». Пецярбург, 1913. Захоўваецца ў Бібліятэцы Літоўскай АН (R-20/2). Друкуецца па ксеракопіі.*

*Славінскі Вітальд* (1882—1962) — грамадскі дзеяч, прафесар Медыцынскай акадэміі ў Беластоку (Польшча). Пазнаёміўся з Я. Купалам у Вільні. 15 верас. 1912 г. Я. Купала і В. Славінскі разам у складзе групы беларускай і польскай інтэлігенцыі наведалі Барэйкаўшчыну, дзе жыў У. Сыракомля (1853—1862), а затым дом бацькоў В. Славінскага ў Кенах.

## В. Е. СМІРНОВУ

**Дорогому В. Е. Смирнову на добрую память о встрече в Печищах. С искренним приветом Я. Купала. Печищи. 27.2.42 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1939. Друкуецца па: газ. «Чырвоная змена» (7.09.1963) у публікацыі В. Е. Смірнова «Незабыўныя сустрэчы».*

**В. Е. Смирнову на память. Янка Купала. Печищи. 27.2.42 г.**

*На кнізе: «Стихи о Родине». М., 1941. Друкуецца па: гл. папярэдні надпіс.*

*Смірноў Віталій Емяльянавіч* (1900—1975) — знаёмы Я. Купалы. Працаваў загадчыкам аддзела Міністэрства юстыцыі Татарскай АССР. Знаёмства адбылося ў Пячышчах, на кватэры Я. Купалы, 27 лют. 1942 г., дзе паэт пражываў падчас эвакуацыі. Другі раз сустракаліся ў пачатку вясны 1942 г. у Казані. Напісаў успаміны аб сустрэчах з Я. Купалам.

## В. Ф. СТАНКЕВІЧУ

**Найлепшаму Віцюсю ад Уладкі і Янкі. 5/IV-16 г.** (Пераклад з польскай мовы.)

*На блакноце з гравіроўкай на сярэбранай пласціне (адз. зах. С-8).*

*Станкевіч Вікенцій Францавіч* (1886—1980) — брат Уладзіславы Францаўны Луцэвіч. Інжынер, працаваў на керамічным заводзе ў Гродна, пазней пераехаў жыць у Польшчу. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1905 г. у Яхімаўшчыне. Разам служылі ў Полацку і Смаленску (1916—1918). У 1940 г. наведаў дачу Я. Купалы ў Ляўках.

## А. П. СТАРАСЦІНУ

**Вельмі паважанаму Д-ру А. П. Старасціну ў знак шчырай удзячнасці за гасцінны прыём у санаторыі «Красный шахтер». Янка Купала. Кіславодск. 25.9.28 г.**

*На кнізе: «Безназоўнае». Мн., 1925 (адз. зах. 963).*

*Старасцін Анатоль Пятровіч* (1875—1929) — знаёмы Я. Купалы. Да 1921 г. працаваў урачом у г. Сочы, затым галоўным урачом санаторыя «Красный шахтер» у Кіславодску. Пазнаёміліся ў 1928 г., калі паэт знаходзіўся ў санаторыі.

## А. Ф. СТАФАНОВІЧУ

**Маладому рэдактару ад старога паэта Купалы [1935 г.].**

*На кнізе: «Спадчына». Мн., 1922. Не захавалася. Друкуецца па: зб. «Успаміны пра Янку Купалу». Мн., 1982. С. 230—238.*

*Стафановіч Аляксандр Філіпавіч* (1905—?) — заслужаны работнік культурна-асветнай работы Літвы. Знаёмы Я. Купалы. У 1932 г. працаваў у Барысаве намеснікам рэдактара райгазеты, рэдактарам радыёвяшчання. Пазней быў прызначаны рэдактарам газеты «Бальшавік Барысаўшчыны», дзе і пазнаёміўся з Я. Купалам у маі 1933 г. Сустракаліся часта. Падчас апошняй сустрэчы, якая адбылася ў 1935 г., атрымаў у падарунак кнігу. Перапісваліся. Аўтар артыкулаў пра Я. Купалу.

## В. П. ТАЎЛАЮ

**Таварышу Таўлаю на ўспамін аб сустрэчы ў Лідзе. Янка Купала. [15.03.1940 г.].**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1938. Не захавалася. Друкуецца па часоп. «Полымя», 1982, № 7 у публікацыі А. Рачыцкага «Народны дэпутат». С. 143—146.*

*Таўлай Валянцін Паўлавіч* (1914—1947) — беларускі паэт. Знаёмства адбылося на кватэры Я. Купалы ў 1931 г. У 1940 г. разам выступалі перад выбаршчыкамі ў Лідзе. Працуючы ў 1945—1947 гг. у Літаратурным музеі Янкі Купалы, шмат зрабіў для вывучэння жыццёвага і творчага шляху паэта. Аўтар артыкулаў пра спадчыну Я. Купалы.

## П. Р. ТЫЧЫНЕ

**П. Тычыне на добры ўспамін аб Мінску. Шчыра аддany Я. Купала. Менск, 18/V-28 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1926, т. II. Захоўваецца ў прыватным кнігазборы. Друкуецца па ксеракопіі.*

**Дарагому П. Г. Тычыне. Шчыра аддany Я. Купала. Менск, 12/X-33 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1938. Захоўваецца ў прыватным кнігазборы. Друкуецца па ксеракопіі.*

**Дарагому Паўлу Грыгоравічу Тычыне — любаму песняру Украіны. Янка Купала. Масква, 21/VIII-34 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1934. Захоўваецца ў прыватным кнігазборы. Друкуецца па ксеракопіі.*

**Даражэнькаму П. Г. Тычыне са шчырым прыветам Я. Купала. Масква, 21/VIII-34 г.**

*На кнізе: «Над ракою Арэсай». Мн., 1934. Захоўваецца ў прыватным кнігазборы. Друкуецца па ксеракопіі.*

*Тычына Паўло Рыгоравіч* (1891—1967) — украінскі паэт, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН УССР (1929). Першы перакладчык твораў Я. Купалы на ўкраінскую мову. Пазнаёміліся ў Харкаве ў 1928 г. Сябравалі. У лісце да Л. М. Клейнбарта ад 11.01.1929 г. Я. Купала пісаў: «Из ук-

раинских поэтов больше всего, конечно, люблю Шевченко, из современных — Тычину». Сустракаліся ў Мінску, Маскве, Кіеве, Ерэване, Тбілісі. Прысвяціў шэраг артыкулаў Я. Купалу і яго творчасці, пераклаў на ўкраінскую мову камедыю «Паўлінка», называў паэта «першай з вяршынь беларускага Эльбруса паэзіі».

## У. В. ЧАРЖЫНСКАМУ

**Дарагім Чэржынскім на памяць. Янка Купала. Пячышчы. 4/V-42 г.**

*На кнізе: «От сердца». Стихи и поэмы (1933—1941). М., 1941 (адз. зах. 37).*

*Чаржынскі* (Дзяржынскі) *Уладзіслаў Вікенцьевіч* (1897—1974) — беларускі літаратуразнавец, крытык. У 1922—1924 гг. выкладаў на рабфаку БДУ і працаваў у Інбелкульце. Знаёмы Я. Купалы. З 1925 г. супрацоўнік часопіса «Полымя». На працягу 1925—1928 гг. напісаў шэраг артыкулаў, рэцэнзій, даследаванняў па творчасці паэта. У 1931 г. асуджаны і высланы на 5 гадоў у Казань, дзе працаваў выкладчыкам.

## ДЗ. І. ШЫРЫНУ-ЮРЭНЕЎСКАМУ

**Паважанаму тав. Д. І. Шырыну-Юрэнеўскаму шчыра ўдзячны за прывітанні ў дзень юбілею. Янка Купала. Масква. 12/VI-30 г.**

*На кнізе: Зб. тв., 1928, т. І. Захоўваецца ў Дзяржаўным літаратурным музеі г. Масквы. Друкуецца па: В. Рагойша. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 72.*

*Шырын-Юрэнеўскі Дзмітрый Ільіч* (?) — рускі паэт. Аўтар кнігі вершаў «В пути». Знаёмы Я. Купалы. Віншаваў паэта з 25-годдзем творчай дзейнасці на вечары, які праходзіў у Камуністычнай Акадэміі ў Маскве (9.06.1930 г.).

## С. В. ЭЛЬГЕРУ

**Чудесному человеку, великому чувашскому певцу С. В. Эльгеру на память моей встречи в столице Чувашской республики г. Чебоксарах. С сердечной любовью Я. Купала. Чебоксары. 29.X.1941 г.**

*На кнізе: «Ад сэрца». М., 1941. Захоўваецца ў прыватным кнігазборы. Друкуецца па: зб. «Успаміны пра Янку Купалу». Мн., 1982. С. 258—265.*

*Эльгер Сямён Васільевіч* (1894—1966) — чувашскі пісьменнік. Знаёмы з Я. Купалам з верасня 1939 г. У 1941 г. сустрэліся ў Чувашыі, у г. Чабаксары, дзе Я. Купала быў вымушаны затрымацца з-за паломкі аўтатранспарту па дарозе ў г. Казань, куды быў эвакуіраваны. Я. Купала жыў на кватэры С. Эльгера з 27 кастр. па 2 лістап. 1941 г.



«Апрацаванне тэрміналогіі «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» пачалося гуманітарнай секцыяй Беларускае Навукова-тэрміналагічнае камісіі ў 1921 г. і закончылася ў 1922 г.— Тэрміналагічнай камісіяй гуманітарнай секцыі Інстытута беларускае культуры.

Спачатку мелася на мэце апрацаванне сцісла стылістычнай тэрміналогіі, г. зн. тэорыі прозы і паэзіі. Але калі прыйшлося падбіраць тэрміны, то адразу выяснілася немагчымасць прытрымлівацца гэтае сцісласці: тэорыя прозы й паэзіі так шырока абхоплівае ўсе галіны літаратурнага мастацтва, што выдзеліць сцісла стылістычныя тэрміны й замкнуцца ў пэўных рамках было б непажаданым абмежаваннем усяе працы ў дадзенай галіне. Апрача таго, калі б і выдзеліць дзе-якія сцісла стылістычныя тэрміны, то яны амаль што ўсе пераняты ўсімі народамі з грэцкае або лацінскае мовы, як, напр.: *проза, паэзія, драма, лірыка,* якія не паддаюцца перакладу, і гэтакім чынам прыйшлося б даць не беларускія тэрміны, а чужаземныя ў беларускім правапісе. Дзеля гэтых вось прычын было вырашана надаць тэрміналогіі болей жыццёвага характару і абхапіць хоць частку таго літаратурнага слоўнікавага матэрыялу, з якім на кожным кроку прыходзіцца спатыкацца кожнаму пісьменніку ў сваёй літаратурнай працы. Гэтым Тэрміналагічная камісія манілася дасягнуць хоць і не поўнасцю дзвюх мэт: 1) даць самыя патрэбныя тэрміны для тэорыі прозы й паэзіі і 2) даць беларускі тэрміналагічны матэрыял для літаратурнае практыкі, каб гэтым хоць крыху дапамагчы нашаму пісьменству, асабліва часапіснаму, пазбавіцца ад лішняй, у большай частцы непатрэбнай і незразумелай, чужаземшчыны.

Разглядаючы чужаземныя тэрміны, Камісія старалася па магчымасці даваць заместа іх толькі беларускія, а калі й пакідаліся чужаземныя, то ўжо такія, што: або агульнапрынятыя, як, напр.: *літаратура, санет, ода*, або пашыраныя і ў народзе, як, напр.: *камедыя, талент, артысты*. Побач з беларускім ставіўся чужаземны тэрмін толькі тады, калі ён — таксама добра вядомае слова ў народзе. Агулам жа Камісія лічыла лішнім даваць чужаземныя тэрміны побач з беларускімі, зважаючы на тое, што калі хто захоча карыстацца з чужаземшчыны, то яе знойдзе і паміма беларускай тэрміналогіі.

Уся змешчаная ў гэтай кнізе тэрміналогія «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» канчаткова разгледжана й прынята Тэрміналагічнай камісіяй гуманітарнай секцыі Інстытута беларускае культуры ў складзе сяброў Камісіі: *М. Байкова, М. Гуткоўскага, Я. Лёсіка, І. Луцэвіча, К. Міцкевіча, С. Некрашэвіча, С. Плаўніка* і *У. Чаржынскага*.

Слоўнікавы матэрыял для тэрміналогіі ў ліку 2500 слоў сабраў паводле альфабэту, упарадкаваў,ператлумачыў пабеларуску і прынятую тэрміналогію зрэдагаваў

Старшыня гуманітарнай секцыі Інстытута беларускае культуры *Ів. Луцэвіч*.

Менск, студзень 1923 г.».

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Абонемент | Перадплата |
| 2 | Абонент | Перадплатчык |
| 3 | Абсурд | Недарэчнасьць |
| 4 | Абсурдный | Недарэчны |
| 5 | Авансцена | Перадсцэна |
| 6 | Авантюра | Авантура |
| 7 | Авантюрист | Авантурнік |
| 8 | Авантюристический | Авантурны |
| 9 | Автобиограф | Уласнажыцьцяпісец |
| 10 | Автобиографический | Уласнажыцьцяпісны |
| 11 | Автобиография | Уласнажыцьцяпіс |
| 12 | Автограф | Уласнапіс |
| 13 | Автор | Аўтор |
| 14 | Авторизованный | Аўторызаваны |
| 15 | Авторитет | Аўторытэт |
| 16 | Автотип | Адбітка |
| 17 | Адонический стих | Адонісавы верш |
| 18 | Акростих | Акростых |
| 19 | Акт (*действие*) | Дзея |

| | | |
|---|---|---|
| 20 | Актер | Актор |
| 21 | Актриса | Акторка |
| 22 | Актуальность | Здольнадзейнасьць |
| 23 | Актуальный | Здольнадзейны |
| 24 | Акцент | Націск, вымова, акцэнт |
| 25 | Акцентировать | Акцэнтаваць |
| 26 | Акцентуация | Акцэнтаваньне |
| 27 | Акция | Дзеяньне, дзея |
| 28 | Александрийский стих | Александрыйскі верш |
| 29 | Алкеев стих | Алькейскі верш |
| 30 | Алкмеонический стих | Алькмэонічны верш |
| 31 | Аллегорический | Іншасказальны |
| 32 | Аллегория | Іншасказ |
| 33 | Аллитерация | Сугучнасьць |
| 34 | Аллюзия | Намяненьне |
| 35 | Альбом | Альбом |
| 36 | Альманах | Альманах |
| 37 | Амфиболический | Двузначны |
| 38 | Амфиболия | Двузначнасьць |
| 39 | Амфибрахий | Амфібрах |
| 40 | Амфибрахический | Амфібрахічны |
| 41 | Анаграмма | Надпіс |
| 42 | Анаграф | Надпіс |
| 43 | Анакреонтические стихи | Анакрэонтычныя вершы |
| 44 | Анакрустический стих | Анакрустычны верш |
| 45 | Аналогический | Падобны |
| 46 | Аналогия | Падобнасьць |
| 47 | Анапест | Анапэст |
| 48 | Анапестический | Анапэстычны |
| 49 | Анастрофа | Перастаўка |
| 50 | Анафора | Паўтарэньне |
| 51 | Анахронизм | Нясучаснасьць |
| 52 | Анекдот | Анэкдот |
| 53 | Анекдотический | Анэкдотны |
| 54 | Аноним | Бязыменьнік |
| 55 | Анонимный | Бязыменны |
| 56 | Анонс | Паведамленьне |
| 57 | Антикритика | Антыкрытыка |
| 58 | Антологическое стихотворение | Антолёгічны верш |
| 59 | Антология | Антолёгія |
| 60 | Антракт | Перапынак |
| 61 | Аплодисменты | Воплескі |
| 62 | Апокриф | Апокрыф |

| | | |
|---|---|---|
| 63 | Апокрифический | Апокрыфічны |
| 64 | Аполог | Байка |
| 65 | Апострофа | Зварот |
| 66 | Апофеоз | Убагаўленьне, апотэоз |
| 67 | Аппозиция | Даказ |
| 68 | Аргумент | Довад |
| 69 | Аргументация | Давядзеньне |
| 70 | Ария | Сьпеў |
| 71 | Артизм | Мастацкасьць, артызм |
| 72 | Артист | Мастак, артысты |
| 73 | Артистический | Мастацкі, артыстычны |
| 74 | Архаизм | Старасьведчына |
| 75 | Архаистический | Старасьвецкі |
| 76 | Асонанс | Сугалосьсе |
| 77 | Ассимиляция | Упадабленьне |
| 78 | Аудитория | Слухальня |
| 79 | Аутентик | Аўтэнтык |
| 80 | Аутентический | Аўтэнтычны |
| 81 | Афареза | Скарочаньне, усячэньне |
| 82 | Афиша | Абвестка |
| 83 | Афоризм | Выслоўе |
| 84 | Балет | Балет |
| 85 | Баллада | Баляда |
| 86 | Банальность | Будзённасьць |
| 87 | Банальный | Будзённы |
| 88 | Бард | Бард |
| 89 | Баркаролла | Баркароля |
| 90 | Баснописец | Байкапісец |
| 91 | Баснословный | Баечны |
| 92 | Басня | Байка |
| 93 | Бахий | Бахі |
| 94 | Беллетрист | Бэлетрысты |
| 95 | Беллетристика | Краснае пісьменства, бэлетрыстыка |
| 96 | Беллетристический | Бэлетрыстычны |
| 97 | Белый стих | Белы верш |
| 98 | Бессмыслица | Недарэчнасьць |
| 99 | Библиограф | Кнігавед |
| 100 | Библиография | Кнігапіс |
| 101 | Библиотека | Кніжня |
| 102 | Библиотекарь | Кнігар |
| 103 | Библия | Біблія |
| 104 | Биограф | Жыцьцяпісец |

| | | |
|---|---|---|
| 105 | Биографический | Жыцьцяпісны |
| 106 | Биография | Жыцьцяпіс |
| 107 | Благозвучие | Мілагучнасьць |
| 108 | Благозвучный | Мілагучны |
| 109 | Богатырский эпос | Гэроічны эпос |
| 110 | Богатырь | Волат, асілак |
| 111 | Божественность | Боскасьць |
| 112 | Божественный | Боскі |
| 113 | Божество | Боства |
| 114 | Брошюра | Сшытак, брошура |
| 115 | Буквальный | Літаральны |
| 116 | Буколика | Буколіка |
| 117 | Буф-опера | Комічная опэра |
| 118 | Былина | Быліна |
| 119 | Быль | Быль |
| 120 | Быт | Быт |
| 121 | Бытописатель | Бытапісец |
| 122 | Бюллетень | Паведамленьне |
| 123 | Вакхическая стопа | Бахічная стопа |
| 124 | Варваризм | Чужаслоў |
| 125 | Вариант | Адменьнік |
| 126 | Введение | Уводзіны |
| 127 | Вдохновение | Надхненьне |
| 128 | Версификатор | Вершавальнік |
| 129 | Версификация | Вершаваньне |
| 130 | Версия | Чутка, пагалоска |
| 131 | Вертеп | Батлейка |
| 132 | Вертепное действо | Батлеечная дзея |
| 133 | Вестник | Зьвястун |
| 134 | Вилланела | Вілянэля |
| 135 | Витьеватость | Віцьеватасьць |
| 136 | Витьеватый | Віцьеваты |
| 137 | Внезапность | Раптоўнасьць |
| 138 | Водевиль | Водэвіль |
| 139 | Возвещение | Апавяшчэньне |
| 140 | Возвышенный | Узьнёслы |
| 141 | Воззвание | Адозва |
| 142 | Возобновление | Аднаўленьне |
| 143 | Волшебник | Чараўнік |
| 144 | Волшебница | Чараўніца |
| 145 | Волшебный | Чараўнічы |
| 146 | Воображение | Выабражэньне |
| 147 | Вопрос | Пытаньне |

| | | |
|---|---|---|
| 148 | Вопрошение | Запытаньне |
| 149 | Восклицание | Вокліч |
| 150 | Воспевание | Апяваньне |
| 151 | Воспитание | Выхаваньне |
| 152 | Воспоминание | Успамін |
| 153 | Восприимчивость | Перанятлівасьць |
| 154 | Восприятие | Пераняцьце |
| 155 | Восторг | Узьнясеньне, захапленьне |
| 156 | Восторженный (*лиризм*) | Узьнёслы |
| 157 | Восхищение | Захапленьне |
| 158 | Впечатление | Уражаньне |
| 159 | Вступление | Уступ |
| 160 | Второстепенный | Другарадны |
| 161 | Вульгаризм | Прастаслоўе |
| 162 | Вульгарный | Прастацкі |
| 163 | Выражение | Выраз |
| 164 | Выразительность | Выразнасьць, выразістасьць, выразьлівасьць |
| 165 | Выразительный | Выразны, выразісты, выразьлівы |
| 166 | Газета | Часопіс, газэта |
| 167 | Галлицизм | Галіцызм |
| 168 | Гармонизация | Суладжаньне |
| 169 | Гармонический | Суладны |
| 170 | Гармоничность | Суладнасьць |
| 171 | Гармония | Суладзьдзе |
| 172 | Гасконада | Гасконада |
| 173 | Гексаметр | Шасьцістоп, шасьцімер, гэксамэтр |
| 174 | Генеалогия | Радавод |
| 175 | Гениальность | Гэніяльнасьць |
| 176 | Гениальный | Гэніяльны |
| 177 | Гений | Гэні |
| 178 | Героизм | Гэроізм |
| 179 | Героиня | Гэроіня |
| 180 | Герой | Гэрой |
| 181 | Героический стих | Гэроічны верш |
| 182 | Героический эпос | Гэроічны эпос |
| 183 | Гимн | Гымн |
| 184 | Гипербола | Пераўвялічаньне |
| 185 | Гиперболический | Пераўвялічаны |
| 186 | Глава | Разьдзел |
| 187 | Гликонический стих | Гліконічны верш |

| | | |
|---|---|---|
| 188 | Говор | Гаворка, гоман |
| 189 | Говор (*диалект*) | Гаворка |
| 190 | Гомоним | Аднайменьнік |
| 191 | Градация | Ступеняваньне |
| 192 | Грамота (*акт*) | Грамата |
| 193 | Грамота, грамотность | Пісьменнасьць |
| 194 | Грамотный | Пісьменны |
| 195 | Графоман | Графоман |
| 196 | Графомания | Графоманія |
| 197 | Дактилический | Дактылічны |
| 198 | Дактиль | Дактыль |
| 199 | Двусмысленность | Двузначнасьць |
| 200 | Двустишие | Двуверш |
| 201 | Действие | Дзея |
| 202 | Действительность | Рэчавістасьць |
| 203 | Действительный | Рэчавісты |
| 204 | Действующие лица | Асобы дзеі |
| 205 | Декадент | Дэкадэнт |
| 206 | Декадентизм | Дэкадэнцтва |
| 207 | Декастихон | Дзесяціверш |
| 208 | Декламатор | Дэкляматар |
| 209 | Декламация | Дэклямацыя |
| 210 | Декламировать | Дэклямаваць |
| 211 | Декорация | Дэкорацыя |
| 212 | Декорировать | Дэкараваць |
| 213 | Диалект | Гаворка |
| 214 | Диалектика | Дыялектыка |
| 215 | Диалог | Размова |
| 216 | Диалогический | Размоўны |
| 217 | Дивертисмент | Розназбор |
| 218 | Дидактизм | Навучальнасьць |
| 219 | Дидактическая поэзия | Навучальная поэзыя |
| 220 | Диколический | Дыколічны |
| 221 | Диколон | Дыколён |
| 222 | Дикция | Вымаўленьне |
| 223 | Дисгармония | Разладзьдзе |
| 224 | Дискуссия | Супрэчка |
| 225 | Диспондей | Дыспондэй |
| 226 | Диспут | Дыспут |
| 227 | Диссонанс | Рознагучнасьць |
| 228 | Дифирамб | Выхваленьне |
| 229 | Дифтонг | Двугук |
| 230 | Диффамация | Абняслава |

| | | |
|---|---|---|
| 231 | Дневник | Дзеньнік |
| 232 | Добавление | Дадатак |
| 233 | Довод | Довад |
| 234 | Документ | Дакумэнт |
| 235 | Дополнение | Дапаўненьне |
| 236 | Достижение | Дасяг |
| 237 | Дохмий | Дохмі |
| 238 | Драма | Драма |
| 239 | Драматизировать | Драматызаваць |
| 240 | Драматизм | Драматызм |
| 241 | Драматический | Драматычны |
| 242 | Драматург | Драматысты |
| 243 | Драматургия | Драматыка |
| 244 | Дуализм | Двуістотнасьць |
| 245 | Дубликат | Падвойнік, дубальт |
| 246 | Дуэт | Двусьпеў |
| 247 | Евангелие | Эвангэля |
| 248 | Евангелический | Эвангэлічны |
| 249 | Естественность | Натуральнасьць |
| 250 | Жанр | Род |
| 251 | Жанровый | Радавы |
| 252 | Жаргон | Жаргон |
| 253 | Жесткость | Жорсткасьць |
| 254 | Жестокость | Акрутнасьць |
| 255 | Живописец | Маляр |
| 256 | Живописный | Маляўнічы |
| 257 | Живопись | Малярства |
| 258 | Жизненность | Жыцьцёвасьць |
| 259 | Журнал | Часапіс |
| 260 | Журналист | Часапісец |
| 261 | Журналистика | Часапісьменства |
| 262 | Журнальный | Часапісны |
| 263 | Заблуждение | Абмылка |
| 264 | Завещание | Адпіс, тэстамант |
| 265 | Завязка | Завязка |
| 266 | Загадка | Загадка |
| 267 | Загадочность | Загадковасьць |
| 268 | Загадочный | Загадковы |
| 269 | Заглавие | Загаловак |
| 270 | Заглавный | Загалоўны |
| 271 | Заговор (*литер.*) | Загавор, замова |

| | | |
|---|---|---|
| 272 | Заговор (*юрид.*) | Змова |
| 273 | Заголовок | Загаловак |
| 274 | Загромождение | Заграмаджэньне |
| 275 | Заимствование | Запазычаньне |
| 276 | Заклинание | Загаварваньне, заклінаньне |
| 277 | Заклятие | Закляцьце |
| 278 | Заметка | Нататка, заметка |
| 279 | Замечание | Увага, заўважаньне |
| 280 | Замысел | Задум |
| 281 | Занавес | Заслона |
| 282 | Записки | Запіскі |
| 283 | Запросы | Вымогі |
| 284 | Заурядный | Звычайны |
| 285 | Звено | Зьвяно |
| 286 | Звукоподражание | Гукаперайманьне |
| 287 | Зияние | Аднагалосьсе |
| 288 | Знание | Веда |
| 289 | Зодчество | Будаўніцтва |
| 290 | Зодчий | Будаўнічы |
| 291 | Зрелище | Відавішча |
| 292 | Зритель | Глядзельнік, відоўца |
| 293 | Зрительный зал | Глядзельня, відоўня |
| 294 | Игра (*на инструм.*) | Граньне |
| 295 | Игра (*артистов, слов*) | Ігра |
| 296 | Идеал | Ідэал |
| 297 | Идеализировать | Ідэалізаваць |
| 298 | Идеализм | Ідэалізм |
| 299 | Идеалист | Ідэалісты |
| 300 | Идеальность | Ідэальнасьць |
| 301 | Идеальный | Ідэальны |
| 302 | Идейность | Ідэйнасьць |
| 303 | Идейный | Ідэйны |
| 304 | Идентичность | Тоесамасьць |
| 305 | Идентичный | Той самы |
| 306 | Идеолог | Ідэолёг |
| 307 | Идеология | Ідэолёгія |
| 308 | Идея | Ідэя |
| 309 | Идиллический | Сялянaчны |
| 310 | Идиллия | Сялянка, ідылія |
| 311 | Избыток | Надмер |
| 312 | Изваяние | Вылепак |
| 313 | Известие | Вестка |
| 314 | Известный | Вядомы |

| | | |
|---|---|---|
| 315 | Издание | Выданьне |
| 316 | Издатель | Выдавец |
| 317 | Издательство | Выдавецтва |
| 318 | Изложение | Выкладаньне, выклад |
| 319 | Изображение | Выяўленьне, маляваньне, вобраз |
| 320 | Изобразительный | Вобразны |
| 321 | Изотонический | Аднагучны |
| 322 | Изречение | Выслоўе |
| 323 | Изучение | Выўчэньне |
| 324 | Изысканность | Вытворнасьць |
| 325 | Изысканный | Вытворны |
| 326 | Изящество | Прыгожасьць |
| 327 | Изящный | Прыгожы |
| 328 | Иллюзия | Ілюзія |
| 329 | Иллюзорный | Ілюзійны |
| 330 | Иллюстрация | Ілюстрацыя |
| 331 | Иллюстрированный | Ілюстраваны |
| 332 | Иллюстрировать | Ілюстраваць |
| 333 | Импрессионизм | Імпрэсіянізм |
| 334 | Импровизатор | Імправізатар |
| 335 | Импровизация | Імправізацыя |
| 336 | Импровизировать | Імправізаваць |
| 337 | Индивидуальность | Асабовасьць |
| 338 | Индивидуальный | Асабовы |
| 339 | Инициалы | Ініцыялы, пачатнікі |
| 340 | Иносказание | Іншасказ |
| 341 | Иносказательно | Іншасказна |
| 342 | Иностранный | Чужаземны |
| 343 | Инспирация | Надханьне |
| 344 | Инспирированный | Надханы |
| 345 | Инсценизатор | Усцэнізатар |
| 346 | Инсценизация | Усцэнізаваньне |
| 347 | Инсценизирование | Усцэнізаваньне |
| 348 | Инсценизировать | Усцэнізаваць |
| 349 | Интеллект | Розум |
| 350 | Интеллектуальность | Разумовасьць |
| 351 | Интеллектуальный | Разумовы |
| 352 | Интервью | Размова |
| 353 | Интервьюер | Размоўца |
| 354 | Интервьюировать | Распытваць |
| 355 | Интерлюдия | Паміждзея |
| 356 | Интермедия | Паміждзея |
| 357 | Интернационал | Міжнародня |

| | | |
|---|---|---|
| 358 | Интернационализм | Міжнароднасьць |
| 359 | Интернациональный | Міжнародны |
| 360 | Интимность | Інтымнасьць |
| 361 | Интимный | Інтымны |
| 362 | Интонация | Вымова |
| 363 | Интрига | Інтрыга |
| 364 | Интуитивный | Падсьвядомы |
| 365 | Интуиция | Падсьвядомасьць |
| 366 | Информация | Асьведамленьне |
| 367 | Информирование | Асьведамленьне |
| 368 | Информировать | Асьведамляць |
| 369 | Ионический стих | Ёнічны верш |
| 370 | Иронизирование | Высьмяханьне |
| 371 | Иронизировать | Высьмяхацца |
| 372 | Иронический | Высьмешлівы |
| 373 | Ирония | Высьмешка |
| 374 | Искажение | Скажэньне |
| 375 | Искание | Шуканьне |
| 376 | Исключение | Вынятак, выключэньне |
| 377 | Исключительный | Вынятковы, выключны |
| 378 | Искусственность | Штучнасьць |
| 379 | Искусственный | Штучны |
| 380 | Искусство | Штукарства |
| 381 | Историк | Гісторык |
| 382 | Историограф | Гісторыяпісец |
| 383 | Историография | Гісторыяпіс |
| 384 | Исторический | Гісторычны |
| 385 | История | Гісторыя |
| 386 | Источник | Крыніца |
| 387 | Какофония | Немілагучнасьць |
| 388 | Каламбур | Жартаслоўе |
| 389 | Каламбурист | Жартаслоўца |
| 390 | Каламбурный | Жартаслоўны |
| 391 | Календарный | Каляндарны |
| 392 | Календарь | Каляндар |
| 393 | Каллиграф | Прыгожапісец |
| 394 | Каллиграфия | Прыгожапіс |
| 395 | Кансиона | Кансыёна |
| 396 | Кантата | Кантата |
| 397 | Кантилена | Кантылена |
| 398 | Канты | Канты |
| 399 | Канцион | Канцыён |
| 400 | Канцона | Канцона |

| | | |
|---|---|---|
| 401 | Карикатура | Карыкатура |
| 402 | Карикатурист | Карыкатурысты |
| 403 | Карикатурный | Карыкатурны |
| 404 | Картина | Малюнак, вобраз |
| 405 | Картинность | Маляўнічасьць, вобразнасьць |
| 406 | Картинный | Маляўнічы, вобразны |
| 407 | Каталог | Рэчасьпіс |
| 408 | Катастрофа (*драм.*) | Разьвязка |
| 409 | Класс (*сосл.*) | Кляса, стан |
| 410 | Классик | Клясык |
| 411 | Классицизм | Клясыцызм |
| 412 | Классический | Клясычны |
| 413 | Классный | Клясавы |
| 414 | Классовый | Клясавы, станавы |
| 415 | Клерикализм | Клерыкалізм |
| 416 | Клерикальный | Клерыкальны |
| 417 | Книга | Кніга |
| 418 | Книжный | Кніжны |
| 419 | Коллективизм | Суспольнасьць |
| 420 | Коллективный | Суспольны |
| 421 | Коллизия | Супрэчнасьць |
| 422 | Колорит | Афарбоўка |
| 423 | Комедиант | Комэдыянт |
| 424 | Комедия | Комэдыя |
| 425 | Комизм | Комізм |
| 426 | Комик | Комік |
| 427 | Комический | Комічны |
| 428 | Компилировать | Падбіраць, компіляваць |
| 429 | Компилятивный | Зборны, компіляцыйны |
| 430 | Компилятор | Падборшчык, компілятар |
| 431 | Компиляция | Збор, зьбіраніна, компіляцыя |
| 432 | Комплект | Поўналік |
| 433 | Комплектование | Упоўналічваньне |
| 434 | Композитор | Композытар |
| 435 | Композиция | Композыцыя |
| 436 | Коммуна | Комуна |
| 437 | Коммунизм | Комунізм |
| 438 | Коммунистический | Комуністычны |
| 439 | Контраст | Супраціўнасьць |
| 440 | Копирование | Коп'яваньне, сьпісваньне |
| 441 | Копия | Копія |
| 442 | Корректирование | Выпраўляньне, корэктаваньне |

| | | |
|---|---|---|
| 443 | Корректировать | Выпраўляць, корэктаваць |
| 444 | Корректор | Выпраўшчык, корэктар |
| 445 | Корректура | Выпраўка, корэкта |
| 446 | Корреспондент | Дапішчык |
| 447 | Корреспонденция (*газ.*) | Допіс |
| 448 | Космический | Сусьветны |
| 449 | Космополит | Сусьветнік, космапаліт |
| 450 | Космополитический | Сусьветна-грамадзянскі |
| 451 | Крайность | Крайнасьць |
| 452 | Красная строка | Новы радок |
| 453 | Красноречивый | Красамоўны |
| 454 | Красноречие | Красамоўства |
| 455 | Красота | Прыгожасьць, хараство |
| 456 | Краткость | Кораткасьць |
| 457 | Критик | Крытык |
| 458 | Критика | Крытыка |
| 459 | Критический | Крытычны |
| 460 | Кукольная комедия | Лялечная комэдыя |
| 461 | Кукольный театр | Лялечны тэатр |
| 462 | Кулиса | Засьценьне, куліса |
| 463 | Кульминационный | Найвысшы, кульмінацыйны |
| 464 | Культ | Культ |
| 465 | Культура | Культура |
| 466 | Культурный | Культурны |
| 467 | Куплет | Прыпеўка |
| 468 | Куплетист | Прыпявальнік |
| 469 | Курс | Курс |
| 470 | Лаконизм | Маласлоўе, ляконізм |
| 471 | Лаконический | Маласлоўны, ляконічны |
| 472 | Лапидарный (*стиль*) | Сьціслы, ляпідарны |
| 473 | Ласкательный | Ласкальны |
| 474 | Латинизм | Лацінізм |
| 475 | Легенда | Легэнда |
| 476 | Легендарный | Легэндарны |
| 477 | Лейтмотив | Кіраўнічая думка |
| 478 | Лексикографический | Словапісны |
| 479 | Лексикография | Словапіс |
| 480 | Лексиколог | Словазнаўца |
| 481 | Лексикология | Словазнаўства |
| 482 | Лексикон | Слоўнік |
| 483 | Лексический | Слоўнікавы |
| 484 | Лекция | Лекцыя |
| 485 | Леонический стих | Леонічны верш |

На палетках — межы, між народаў — межы,
Па ўсёй Беларусі — глушыні мядзвежай —

Папалам дзялілі, пад адным прымусам,
Гора і галечу яўрэй з беларусам.

Яшчэ сёння глянеш — курганы, магілы —
Сведкі даўніх боек варожае сілы.

Біўся кароль шведскі на нашых загонах,
Біўся з рускім царам за троны, кароны.

Тут палі таптала войска Банапарта,
Тут жыццё людское ставілі на карту.

Ішоў год за годам, ішоў век за векам,
А мы пад няволяй, пад вячыстым здзекам.

Паны і жандары ды ксяндзы з папамі
На шыях народных селі груганамі,

А яны заўсёды катаваць умелі,
Ад святой нядзелі да святой нядзелі.

Бізуны і розгі жудка секлі плечы,
І нагайка секла, і ланцуг калечыў.

Яснага прасвету ад радзін да смерці
У жыцці не зналі ні бацькі, ні дзеці.

Не раз бунтаваўся народ супроць катаў,
Паўставаў і нішчыў палацы магнатаў.

Нам жа знішчыць катаў не хапала сілы,
Зноў паны-магнаты гналі у магілы.

Сіроты і ўдовы пралівалі слёзы
На лясы сухія, на ніцыя лозы.

Гэтак вёсны, леты, восені і зімы
Гора песні пела на зямлі радзімай.

Гора песні пела, пела, не сціхала,
Ды як бы нядолі было людзям мала.

Грымнулі гарматы у нядобрым часе,
І дымам-пажарам зямля абвілася.

Пайшло спусташэнне, пайшло зніштажэнне,
Беларусь загразла ў крыві па калені.

Бежанцамі людзі пабрылі па свеце
Шукаць па дарозе голаду і смерці.

І гінулі марна без хаты, без хлеба,
І думалі людзі, што гэтак і трэба.

А вакол агнішчы, а вакол атрута,
Брат страляе брата, звяр'ё вые люта.

Бліндажы, акопы зрэзалі краіну,
Валяюцца трупы побач бацькі з сынам.

Груганы на полі падбіраюць косці,
Груган заклікае гругана у госці.

Канаюць салдаты у разні крывавай,
Паны-генералы падбіраюць славу.

Вырастае сіла гневу над сусветам —
І прыйшоў Кастрычнік, і прыйшлі Саветы.

Але на Саветы рынуліся зграяй,
Зноў нядоля вісне над гаротным краем.

І паны-нацдэмы з «высокае рады»
Рады, што германцы захапілі ўладу.

Пішуць лісты, пішуць нямецкаму цару:
— Заставайся, цару, у нас гаспадарыць.

Народ беларускі аддаем да скону
Ураздроб і оптам пад тваю карону.

Потым Бела-Польшча жаўнераў нагнала,
Князі і магнаты ды графы навалай

Рынуліся ў бітву, на нашае гора,
Ваяваць за Польшчу «ад мора да мора».

Зноў загаласілі мястэчкі і сёлы,
Гарады замёрлі, жудасць, смерць вакола.

Вісельні скуголяць, грукацяць расстрэлы,
Пагром за пагромам, свет у дыме белы.

Кіеў у пажары, і Менск у пажары,
Чыняць суд-расправу польскія жандары.

Ой вы, пушчы нашы, ой ты, наша поле,
Вы яшчэ не зналі гэткай горкай долі!

Але банду белых панскіх легіёнаў
Выгнала адвага Арміі Чырвонай.

Сцяг чырвоны ўзвіўся над Менскам-сталіцай,—
Годзе табе, пане, у нас весяліцца!

І ўцякала зграя паноў да Варшавы,
У нас збаляваўшы свой банкет крывавы.

І ўздыхнуў свабодна край наш яснай доляй,
Подлым акупантам не вярнуцца болей!

* * *

Цяпер прыгадаеш былую навалу,
Дык сам застанешся ўспамінам не рад:
У вёсцы маленькая кузня стаяла,
Ў мястэчку стаяў саматужны варштат.

Быў бровар у пана, была сыраварня,
На беразе рэчкі кулацкі быў млын.
Чарнелі ў лясах адзінока смалярні,
Ў слабодках гібелі майстэрні аўчын.

Былі ў нас руіны, як помнікі часу,
Бядняцкая шыя была для ярма.
Была ў нас індустрыяй — фабрыка квасу,
А фабрыкай гневу — была ў нас турма!

Прайшлі беззаконня крывавыя годы,
Мы гордыя славай сваіх перамог.

І рокатны гул новых фабрык, заводаў
Зліваецца з песнямі новых дарог.

Пад Оршай на чорных балотных прасторах
Збудован БелДРЭС, і, заместа лучын,
Ён ходзіць па хатах — святло сваё дорыць,
Ён — сіла матораў, ён — сэрца машын.

Пад Гомелем высіцца гмах шклозавода,
У Гомелі вырас магутны «Сельмаш» —
Работа руплівая дзвюх пяцігодак,—
І ордэнам Леніна край ззяе наш.

Лясоў у нас многа, і робім мы з дрэва
Цудоўны, вясёлкавых колераў шоўк.
Здабыты працоўнымі скарб Магілёва
У нашу індустрыю горда ўвайшоў.

Лясоў у нас многа, і мы збудавалі
Ў Бабруйску сусветны лясны камбінат.
Дзе курныя, бедныя хаты стаялі —
Паставіў ён тысячы сонечных хат.

Лясоў у нас многа, і стала, як звычай,
Што горад Барысаў, за якасць работ,
За скрынкі сваіх першакласных сярнічак
Сцяг славы здабытай нясе з году ў год.

У Рэчыцы, Віцебску, Менску — усюды
Дзесяткі заводаў уведзены ў строй.
Як дзіўнаю казкай, як сталінскім цудам,
Валодаем тэхнікай перадавой.

У Крычаве горамі крэйда ляжала —
Там намі збудован цэментны завод.
А ў нетрах зямлі беларускай нямала
Яшчэ неразведаных новых парод!

Наш торф — гэта буйных багаццяў скарбніца:
І спірт, і апал, і ўгнаенне, і газ;
Наш торф — энергетыкі нашай крыніца,
І торф — матэр'ял будаўніцтва у нас.

Квартал за кварталам растуць камяніцы.
Былое правінцыі гінуць сляды.

Наш Менск стаў сапраўднай культурнай сталіцай.
Растуць у рэспубліцы ўсе гарады.

Старога мястэчка даўно не спаткаеш,
Дзе гора брыло ад варот да варот.
Мы спадчыну ўпартаю працай змяняем:
Дзе кузня чарнела — сягоння завод.

За прасніцай болей не слепяцца вочы,
Як гэта заўсёды было на вяку.
Адзеты калгаснік, адзеты рабочы,
Дзяўчатам на свята хапае шаўку.

Шавец і кравец, і ліцейшчык, і столяр,
І слесар, каваль, і друкар, і гарбар —
Іх цэх, як святліца, там сонца даволі,
Там кветкі, там болей не знаюць ахвяр.

Прамову тваю, правадыр наш, мы помнім
Пра ўзняты вялікі стаханаўскі рух.
Мы кожнае слова прачулі, і сёння —
Адзін вырабляе, што некалі ўдвух.

Рушко, і Гунько, і Арэстаў, і Зубаў,
І Гладышаў, Мельнікава і Харнас —
І многа іх лепшых, настаўнік наш любы,
Твае гэта вучні — героі між нас.

Таварыш Вілетнікава і Слесарова,
Еўсюціна, Розенберг, Туфар, Скабло —
Паэты ім дораць гарачае слова,
Ім славаю яснае сонца ўзышло.

Стаханаўскім стала жыццё маладое,
Стаханаўцы — дочкі твае і сыны.
Растуць з камсамольскага племя героі,
Растуць з піянерскіх атрадаў яны.

Растуць нашы сілы за працаю плённай,
Не вырве ў нас вораг наш сталінскі руль.
І неба ў нас крэпасць сваёй абароны,
І ў небе ў нас ходзіць крылаты патруль.

Адважны і пільны ўзлятае высока,
Краіну сваю аглядае штодня —

І цешыцца сэрца, і цешыцца вока:
Якое раздолле, прастор, шырыня!

* * *

Разліліся ляны ў полі возерам сінім,
Ячмянямі красуюць, шумяць балаты.
Каласамі густымі наўсцяж па краіне
Узрастаюць пшаніцы, аўсы і жыты.

Спеюць поўныя соку купчастыя грэчкі,
Па садах палымнее вішнёвы пажар.
Як далёка яны — дні тугі і галечы,
Пра якія спяваў не адзін наш гусляр.

Беларускі мужык чалавекам стаў звацца,
Ён пазбыўся навечна нядолі шнуроў.
Мы за год ад зямлі маем столькі багацця,
Колькі мелі раней за дзесяткі гадоў,

Бо прыйшлі на палі трактары, як асілкі,
Здзірванелыя нівы плугамі падняць.
За сабою жняяркі вядуць і касілкі
І машыны, што бульбу садзіць і капаць.

А машыны працуюць і спорна, і дбайна,
Досыць сіл над сахою паклаў чалавек.
Горда полем шырокім праходзяць камбайны,
Ручаіны зярнят паплылі у засек.

Людзі нашых калгасаў растуць з кожным годам,
Многіх ведае сёння Савецкі Саюз,
Атрымалі з іх семдзесят тры нагароду —
Ордэны за выдатную працу сваю.

Пра іх новыя склалі быліны і песні,
Наша гордасць сягоння яны і краса.
Вось Клішэвіч Васіль, брыгадзір на Палессі,
Трыццаць цэнтнераў даў нам з гектара аўса.

І нямала такіх па брыгадах і звеннях
Працавітых майстроў пладавітых зямель.
Засявае за змену таварыш Рудзеня
Адным трактарам семдзесят га канапель.

Спорна праца ідзе у калгасным парадку,
Узаралі апошняй вясной як адзін
Трактарыст Ахрамовіч, Пятровіч, Аладка
Па трынаццаць гектараў за дзесяць гадзін.

Сэрца наша жаданнем такім апавіта:
Працаваць, каб пазнаць усю радасць жыцця.
Так працуе таварыш Батоўкін Мікіта,
Спрактыкованы конюх з калгаса «Акцябр».

У сваёй гаспадарцы, не знаючы страты,
Ён наладзіў такі клапатлівы дагляд —
Сорак шэсць у калгасе яго конематак,
Сорак шэсць ён гадуе ад іх жарабят.

А Ражкоў? — Аб ім гоман ідзе па краіне!
За сто трыццаць гадзін, як хвіліна адна,
На трапальнай электраматорнай машыне
Даў шэсць тысяч семсот кілаграм валакна.

Стаў вясёлы той кут, дзе раней галасілі,
Дзе палын з крапівой мог спакойна расці.
Толькі частку вялікай мы працы зрабілі,
Але вёскі забітай нідзе не знайсці.

Вёскі той, што была нам пакутай вякамі,
Дзе жылі заадно і святы, і вядзьмак,
У якой мы былі жабракамі, рабамі,
У якой панаваў-гаспадарыў кулак.

Адыходзіў ён з боем пад націскам нашым,
Нападаў спадцішка, і паліў, і страляў.
Мы зламалі яго сваім ладам калгасным,
Нам навечна аддадзена наша зямля.

Мы багатыя хлебам, і мясам, і рыбай,
І па трубах да хат прыбягае вада.
Зашумелі сады каля новых сядзібаў,
Пчолы рояцца спорна па нашых садах.

Многа новых раслін мы ў рэспубліцы маем,
Цвет мічурынскіх яблынь над краем павіс.
Вінаградныя лозы з паўднёвага краю,
А з усходняга краю прыйшоў кок-сагыз.

Ходзяць нашы каровы, авечкі гуртамі,
І штогод усё большы прырост маладых.
Коні сытыя горача б'юць капытамі,
Першы маршал нам скажа — мы сядзем на іх.

Мы заможнымі сталі з калгаснага ладу:
Масла, сыр, каўбаса і віно сваё ёсць.
Усяго на стале, і мы шчыра так рады,
Калі хату з дарогі наведае госць.

У часы адпачынку ў запале нястрымным
Маладосць весяліцца, аж хата звініць.
Ад душы табе скажам, наш Сталін любімы,
Як добра, як весела сёння нам жыць.

* * *

Стала светлай, пісьменнаю наша краіна,
Забабонаў і прымхаў мы скінулі груз.
І не крыжык — адзнаку пакуты і кпінаў,—
А пісьмо табе піша цяпер беларус.

Сёння сотні сярэдніх, дзесяткі вышэйшых
Навучальных, даследчых у нас устаноў.
Маладосці на свеце няма шчаслівейшай,
Як у нашых шчаслівых дачок і сыноў.

У прасторныя, чыстыя, новыя школы
Яны кожную раніцу дружна ідуць,
Многа іх — белакурых, чарнявых, вясёлых,—
Тваё светлае імя у сэрцах нясуць.

Галасы іх гучаць разнастайнаю мовай:
Тут яўрэі, палякі і латышы.
Тут жыве беларускае, рускае слова,
А пачуцці адзіныя ў кожнай душы.

Беларускую мову трымалі ў загоне,
Каб народ не пазбыў нематы і бяды...
З намі гэтаю мовай гавораць сягоння
Маркс і Энгельс, і Ленін, і ты, правадыр!

Мы расцілі яе клапатліва, надзейна,
За яе правялі мы з нацдэмамі бой.

І даступнымі сталі нам Пушкін і Гейне,
Руставелі і Горкі, Бальзак і Талстой.

Гэтай мовай друкуюцца кнігі, газеты,
У мільёнах ідуць у сяло, ў гарады.
Гэтай мовай пісьменнікі нашы, паэты
Табе славу пяюць, дарагі правадыр.

Мы скарбніцы народнай культуры збіраем,
Мы багацце даўнейшых легенд беражэм,
Пра сучаснае новыя казкі складаем,
Пра жыццё наша новыя песні пяем.

У народаў рэспублікі — клубы, тэатры,
Велізарнейшы лік самадзейных гурткоў,
Кінафабрыка, паркі і здольныя кадры
Песняроў, кампазітараў і мастакоў.

Узрасло дзесяць тысяч работнікаў плённых:
Інжынеры і тэхнікі — фабрык майстры,
Трыццаць тысяч настаўнікаў, сотні вучоных,
Аграномы, асветнікі і дактары.

На вышыні навукі, з кайданаў раскутай,
Узняліся народы краіны цяпер,—
Навуковыя маюць свае інстытуты
На чале з Акадэміяй БССР.

* * *

Мы поспехі нашы ў баях здабывалі,
Да радасці партыя нас прывяла,
Вучылі вялікія Ленін і Сталін,
А дружба народаў нам сілу дала.

Разбіць ланцугі і пазбыцца былога
Нам рускі рабочы, як брат, дапамог.
І наша краіна з братэрскай падмогай
Няспынна да новых ідзе перамог.

Яна ўпершыню расцвіла як дзяржава,
Ад шчырага сэрца удзячна табе,

Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КП(б)Б.

Тут вучні твае нам яе узрасцілі,
Тут Фрунзе змаганне за партыю вёў,
Яднаў Кагановіч у Гомелі сілы,
У Віцебску сілы згуртоўваў Яжоў.

А гэтая партыя воляй адзінай
Здзяйсняла нязменна указы твае,
І наша балотна-лясная краіна
Сягоння ў чароўнай красе паўстае.

І нашай з народамі братнімі дружбы,
Што гора былое змяла ў небыццё,
Клянемся: ніколі ніхто не парушыць,
Яна — наша сіла і наша жыццё.

Калісьці, яшчэ у падполлі глыбокім,
І Ленін, і ты гэту дружбу каваў,
Праз цемру гадоў тых празорлівым вокам
Савецкіх рэспублік саюз аглядаў.

Народы сумесна прайшлі праз віхуры,
Сумесна сустрэлі свой радасны час.
І ад Негарэлага аж да Амура
Злучыла радзіма вялікая нас.

За гэту радзіму Кацельнікаў згінуў...
Яшчэ нават стрэл над зямлёй не заціх,
З заходняй граніцы Савецкай краіны
На ўсход ад'язджае Георгій Чэрных.

Радзіме байцы нашы шчыра аддany,
І ворагі моц іх паспелі адчуць.
Чырвонаармейцу любоў і пашану
І песню адвагі народы нясуць.

Ні пядзі нікому зямлі не дадзім мы,
Ад ворагаў кожны вяршок адстаім!
Усім нам насустрач выходзіць радзіма
З вялікім і шчодрым багаццем сваім.

Яна надзяляе нас працай і славай,
Яна — гэта мужны, адважны народ,
Яна беражэ чалавечае права
На працу, на радасць, на творчы палёт.

Агні бальшавіцкіх ідэй, як сузор'і,
Усходзяць над светам і свет абнялі
І свецяць нізінам, узгор'ям, прымор'ям,
Як новае сонца шчаслівай зямлі.

Ты, мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх, у золак адзін.
Твая Канстытуцыя — сцяг пакаленняў —
Узнімае народы нявольных краін.

Усё, аб чым марылі людзі і снілі,
Прыбітыя гнётам, пракляццем старым,
У Савецкім Саюзе з'яўляецца быллю,
І нашае шчасце мы свету дарым.

Твой вобраз, як покліч, устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крамля нашым сэрцам з табою,
І першая думка у нас — пра цябе.

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла
І ласкай сагрэла палі, гарады.
Ты рэк паўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц — дарагі правадыр.

Праз тры рэвалюцыі, бойкі, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна — дарагі правадыр.

Табе — наша радасць, любоў і адданасць,
Табе — пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,
Ты наша жыццё — дарагі правадыр.

Ураду вялікай Краіны Саветаў
І партыі, даўшай нам шчасце і мір,
За гонар, за веліч людскога расцвету
Падзяку прымі — дарагі правадыр.

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход...
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

*Пісьмо падпісалі 2 мільёны працоўных Савецкай Беларусі. Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну ў вершах пераказалі паэты:*

*Янка Купала*
*Якуб Колас*
*Андрэй Александровіч*
*Пятрусь Броўка*
*Пятро Глебка*
*Ізі Харык*

## ДВАНАЦЦАЦЬ ПЕСЕНЬ

**пра нашу неперамождную Чырвоную Армію, пра яе творца і натхніцеля вялікага Сталіна, пра яе палкаводца Клімента Варашылава, пра гераічныя паходы і бітвы, пра мужнасць сыноў беларускай зямлі, пра надзейную варту савецкіх граніц, пра еднасць народа і арміі, пра нашых шчаслівых і смелых дзяцей, пра нашу сталінскую радасную моладзь,— напісалі Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка,— прысвячаецца слаўнай рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі і яе правадыру — першаму маршалу краіны сацыялізму**

**Кліменту Яфрэмавічу Варашылаву**

На плошчы! на вуліцы радасным строем!
Рассыпцеся, кветкі, дажджом прамяністым!
Вітайце байцоў і любімых герояў —
Адважных пілотаў і смелых танкістаў!

У небе высокім плывуць самалёты,
Па бруку грукочуць цяжкія марціры,
Шарэнга ў шарэнгу праходзіць пяхота,
Наперадзе горда ідуць камандзіры.

Вы чуеце, коціцца ўзрушаным валам
Шырокае рэха ад песень і крокаў...

Наперад, аркестры! На пляц, запявалы!
Хай марш узаўецца высока, высока.

I

Мы помнім змаганне, паходныя маршы,
Мы помнім, як выйшаў са зброяй народ
Жыццё бараніць рэвалюцыі нашай —
На поўнач, на поўдзень, на захад, на ўсход.

Мы йшлі пераможна пад посвісты куляў,
Мы гналі бандытаў з савецкай зямлі,
Разбіты быў вораг — мы вольна ўздыхнулі,
Нам Ленін і Сталін магутнасць далі.

Радзіма, ты ў росквіце сацыялізму!
Хай шалам кіпіць фашыстоўская кроў:
За нашай граніцай справяць будзе трызну
Смяротная бура над зграяй паноў.

Мы помнім змаганне, мінулыя маршы,
Мы помнім суровыя дні непагод...
А вораг зачэпіць — адпорам бясстрашным
Адкажа бясстрашны савецкі народ.

II

Яшчэ не заціхлі над плошчаю маршы,—
Пранеслася песня, падобная грому,
Як вырас з луганскага слесара маршал,
Як стаў ён любімым жалезным наркомам:

Быў слесар луганскі,
А сталь ён каваў
І песні-вяснянкі
Пра волю спяваў.

І слухалі песню
Заводы і бор,
Умчаў яе вецер,
Адносіў віхор.

Іскрыліся ў горне
Агніста вуглі,

А іскры далёка
Ляцець не маглі.

Біў молат магутна,
Як гора, як гнеў,
Кавадла звінела,
І молат звінеў.

І кузня звінела,
І слухала даль...
І выкаваў волю,
Як іскру, як сталь.

III

Шчаслівыя людзі! Спявае краіна,
Грыміць урачыстасць ад краю да краю,
Адно аб мінулым цяжкія ўспаміны
Часамі на момант душу засмучаюць:

Жудка стане на сэрцы,
Калі ўспомніш сягоння,
Як цары-самадзержцы
Людзей гналі на бойню;

Як Вільгельма салдаты
І панят легіёны
Руйнавалі нам хаты,
Спусташалі загоны.

Заглушаў посвіст куляў
Салавейкаву славу,
Кукавала зязюля,
Не к дабру кукавала.

Пакідаў гняздо бусел,
Свае пожні і сосны,
Паляцеў, не вярнуўся
Ў тыя чорныя вёсны.

Беларусь пад панамі,
Пад жандарам і царам
Палівала слязамі
І крывёю папары.

IV

Але не згінаўся народ наш ніколі,
На царскую зграю ўзнімаўся паходам,
І вобразы паўшых герояў за волю
Заўсёды у сэрцах і думках народа:

Белапольскія уланы
Лютымі былі —
Цёмнай ноччу партызанаў
На расстрэл вялі.

Ён ішоў пад бізунамі,
Баявы атрад,
Закаваны кайданамі
Па чатыры ў рад.

Перамучаныя ногі
Па пяску брылі.
Над апошняю дарогай
Хмары слёз плылі.

На світанні, рана-рана
Біў смяротны час.
Золак бліснуў партызанам,
Ды астатні раз.

І калі не стала смелых,
Аж заплакаў бор,
З неба сіняга зляцела
Многа ясных зор.

V

Спакой вам і слава! Сябрынаю цеснай
Стаім мы сягоння пры вашай магіле,
Прыносім вам нашы найлепшыя песні
Аб тым, як вы белую шляхту грамілі.

Пройдзем мы слядамі боек,
Барацьбою шлях багаты,
Прыгадаем пра былое,
Пра вядомы год дваццаты.

У той год вялікі Ленін
На паноў ішоў крывавых,
З курных хат і сутарэнняў
Сталін вёў дарогай славы.

Гулка ў лесе пелі хвоі,
Калыхаўся дуб вячысты,
Як вялі нас грамадою
Камандзіры-камуністы.

Мы на сініх на азёрах
Мылі раненыя ногі,
Як ішлі палямі, борам
Мы, узнятыя трывогай.

Як ішлі ў адной кагорце,
Каб разбіць няшчадна гада...
Бацька з сынам быў на фронце,
Дзед падвозіў ім снарады.

І ніхто не быў там лішнім,
Як ішлі байцы-героі:
Маткі мылі нам бялізну
І хадзілі за сахою.

Помніць доўгі шлях Варшаўскі,
Помніць Нёман і Бяроза,
Як ляцеў апрычнік панскі,
Пакідаючы абозы.

На нашы палеткі, у нашы прысады
Праклятае панства ніколі не прыйдзе,
Нядарам у бітвах хадзілі брыгады
Пад слаўнай камандаю Арджанікідзе.

## VI.

Пад Барысавам палонным,
За Бярозаю-ракой
Войска Арміі Чырвонай
Сабірала сілы ў бой.

«Ледзь над лесам сонца ўзыдзе,
Фронт прарваць, нанёсшы ўдар» —

Так рашаў Арджанікідзе —
Палкаводзец-камісар.

Ноч расой паіла кветкі,
Над ракой туман стаяў.
Рапарт пятае разведкі
Ў гэту ноч Сярго прымаў.

Як дазор, дубы-сталеткі
Засланялі грамаду.
І сказаў Сярго: «Ў разведку
Сам, таварышы, пайду».

І таемна, ўнепрыкметку,
Цераз брод і твань балот,
Вёў Сярго атрад разведкі
Тылам ворага ў абход.

Шлях расчысціў куляй меткай,
Вёў атрад у стоме сіл:
Дваццаць вёрст прайшоў разведкай,
Дваццаць вёрст зайшоў у тыл.

На дапрос за трэцім — следам
І чацверты ўзяты пан.
Ад паноў Сярго разведаў
Пра апошні польскі план.

З думай дум сваіх, з развагай
Ён, схаваўшыся, ляжаў,
Беларускіх смачных ягад
Першы раз пакаштаваў.

Дзень мінуў. Паўзуць сапёры,
На ваду кладуць масты.
Будзе бой! І нават зоры
Гасяць бляск свой залаты.

Знаў Сярго сакрэт нядарам:
Полк байцоў адвёў тайком
І, прарваўшы фронт ударам,
Закідаў ліхім агнём.

І ў атаку — на палякаў,
На акоп — штыкамі ў лоб!

Сталлю бралі, вызвалялі
Беларускі Перакоп.

## VII

Вітанне і песня адважным героям!
Прайшлі яны буры, прайшлі навальніцы.
Сыны іх магутныя сталінскім строем
Вартуюць савецкіх рэспублік граніцы.

Ішоў дазорны, пільным вокам
Глядзеў праз зараслі ў прасвет
І раптам у снягах глыбокіх
Заўважыў нейчы свежы след.

Відаць, нядаўна на світанні
Граніцу вораг перайшоў,
Яго слядоў незатаптаных
Яшчэ і вецер не замёў.

Да баявых прыгодаў звычны,
Без меркаванняў і разваг
Шынель скідае пагранічнік,
Бяжыць з вінтоўкай па слядах.

Абліўся твар гарачым потам,
Усю душу калоціць дрож.
Цяжэюць ногі. Скінуў боты
І ўжо імчыцца басанож.

Калючы снег у ногі коле...
Дарма! Настаў апошні час:
Ужо відаць за лесам поле,
А там дарога і калгас.

Ужо калгаснікі і дзеці
Бягуць гурбой наперарэз.
Але і вораг іх прыкмеціў
І зноў, як воўк, пабег у лес.

Няхай! Не ўдасца план злачынны:
Сабраўшы сілы, вартавы
Прабег яшчэ адну хвіліну
І ўзяў ён ворага жывым.

Вам не прасунуць бруднай лапы
Крывавы свой спраўляць папас:
Мы б'ем без промаху гестапа,
Калі мы б'ем, бандыты, вас!

Граніцы нашы ў сталь адзеты,
Заўсёды меткі наш прыцэл!
Хто мкнецца несці смерць Саветам,
Таму адзін прысуд — расстрэл!

VIII

Таварышы, нашай зямлі абаронцы,
Вы сталі заслонай на нашых граніцах,
На вас пазіраюць і зоры і сонца,
І песні пяюць вам лясы і крыніцы.

Упрыгожым нашы хаты
І вянкі саўём на браме
Ды накрыем, як у свята,
Стол калгаснымі дарамі:
Хлебам, мёдам, сырам, мясам...
Хоць і проста, але шчыра,
Запрашаем вас калгасам,
Вас, байцы і камандзіры.

Вы — апора наша, сіла,
Наша радасць, наша слава,
Нам бяседа з вамі міла,
З вамі бавіць час цікава,

Чым багаты — тым і рады.
Сваё ўсё: пітво, закускі.
Сок пладовы з свайго саду,
Віны з ягад беларускіх.

У бяседзе у прыязнай
Прыгадаем нашы былі,
Як у час ліхі, адказны
Мы на ворага хадзілі.

Шчыльна злітаю калонай,
Сэрцам Сталіна сагрэты,

Сілу Арміі Чырвонай
Паказалі ўсяму свету.

Хто ж памкнецца — песня спета:
Госць нязваны будзе біты!
Няхай вораг помніць гэта,
Вораг тайны і адкрыты.

## IX

Ліецца гаворка ў бяседзе калгаснай.
Здарэнні, падзеі, прыгоды, ўспаміны...
Шчаслівая ж маці з усмешкаю яснай
Гаворыць пра любага, слаўнага сына:

Спаць малога палажыла,
Неспакойны сын не спіць:
«Раскажы, як Варашылаў
Вёў рабочых панства біць?»

Заспявала калыханку,
Як збіраўся рад у рад
За ракою, за Луганкай,
Варашылаўскі атрад.

Выцíралі ўпотай слёзы
Непаслушныя жанкі.
Камандзір — луганскі слесар —
Аглядаў браневікі.

Добра помніць Дубавязка,
Як, пакінуўшы майдан,
Уцякалі немцы ў касках
Ад луганскіх партызан,

Як нязломнаю калонай,
Пад шрапнельны свіст і звон,
Варашылаў і Будзённы
Вялі войска цераз Дон.

Беларускія загоны,
Не забудуцца й яны,
Як ад шабель Першай Коннай
Беглі польскія паны.

Слава нашага наркома
Прагрымела з краю ў край...
Будзь жа й ты, сынок, свядомы,
Нам на радасць падрастай.

Будзь адважным, мужным сынам,
Падрастай на ўцеху ўсім,
Беражы сваю краіну,
Як луганскі слесар Клім.

X

Частуюцца госці, пяюць і гамоняць,
Дзяўчаты пітво і закускі падносяць,
Іграюць цымбалы, іграе гармонік,
А хлопчык у лётчыка ласкава просіць:

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Хачу я з табой паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае ў лесе мядзведзь.

Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не відаць іх чаму,
Як рэкі ў далёкія моры
Улетку плывуць і ўзіму.

Мне ўжо надакучыла дома.
Ў дзіцячы хадзі адно сад,
А так паглядзеў бы, вядома,
На іншы парадак і лад.

Вось гэтак у добрым здароўі
Мы будзем ляцець і ляцець.
Вазьмі ж мяне, лётчык, з сабою,
Не будзеш ты клопату мець!

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі,
Ляцеці далёка, высока
Ды так пабываці ў Крамлі.

І там з паднябеснае далі
Гукнуць над зямлёй і людзьмі:

«Дзень добры, таварыш наш Сталін.
Паклон з самалёта прымі!»

## XI

Дзяўчаты з байцамі пусціліся ў скокі
(Віхор гімнасцёрак і кофтачак сініх!).
На прызбе зенітчык, чарнявы, высокі,
Гаворыць з запалам прыгожай дзяўчыне:

«Ды скажу табе я, мілай,
Быў дзянёк, ды нештодзённы:
Сам таварыш Варашылаў
Прынімаў парад ваенны.

Не высокі сабе ростам,
Не высокі і не нізкі,
А такі вясёлы, просты,
А такі прыветны, блізкі.

А свой погляд, свой юначы,
Калі кіне, бы зарніца,—
Сэрца з радасцю заскача,
Кроў адвагай забурліцца.

Адным словам, свой брат родны,
Так і хочаш, мая Каця,
Быць яго дастойным, годным,
За яго жыццё аддаці.

Конь пад ім, прост вярнігора!
А як скача, як гарцуе!
Як вачыма лічыць зоры,
Ён вушамі вайну чуе.

Вайну чуе, броў не хмура,
Толькі бліскаюць падкоўкі,
Бо яздок на ім, што бура,
З віхрам пойдзе ўперагонкі.

У міжбур'е з ім жыць міла,
Лёгка ж будзе і ў паходзе.
Во які наш Варашылаў!
Во які наш палкаводзец!»

XII

За маршалам нашым, за нашым наркомам
Мы пойдзем з'яднанаю сілай заўсёды.
Вы чуеце — гулкі, раскацісты гоман?!
Вы чуеце — крочаць юнацкія годы?!
    На кліч роднай партыі цвёрда,
        З уздымам
    Ідзе маладосць нашай гордай
        Радзімы.

    Ідзе маладосць нашай шыры
        З'яднацца
    У грозную армію міру
        У працы.

    Ім сцежкаю сцелюцца кветкі
        Вяснянкі,
    Вітаць іх выходзяць танкеткі
        І танкі.

    І строй самалётаў высокі
        Займае,
    І сонца, як дыск кулямёта,
        Усплывае.

    Іх пільныя вочы-дазоры
        Граніцы,
    Ім здрадная цемень, як вораг,
        Скарыцца.

    І пройдзе іх слава заўсёды
        Над светам.
    Жывіце спакойна, народы
        Саветаў!

* * *

Падымем жа чаркі сям'ёю народаў
За армію нашу, за грозную сілу,
За маршала нашых геройскіх паходаў, —
Хай доўгія годы жыве Варашылаў!

Падымем жа чаркі за партыю нашу,
Што нас прывяла да здабыткаў вялізных,
За мудры ЦК, баявы і бясстрашны,—
Хай славіцца ленінскі штаб бальшавізма!

Падымем жа самыя поўныя чаркі
За вобраз, раскрыўшы нам светлыя далі,
За слаўнае імя, за геній наш яркі,—
Хай славіцца Сталін!
— Няхай жыве Сталін!

## РАДЗІМЕ І ПРАВАДЫРУ

*(Вершы і песні аб Сталінскай Канстытуцыі)*

Читайте,
завидуйте,
я —
гражданин
Советского Союза.

*У. Маякоўскі*

### I

Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад сэрца і звонка, як медзь,—
Якую ў жніво пяе ў полі жняя,
Якую ў касьбу пяе ў лузе касец.
Багата ўраджаем,
Зямля расквітнела,
У будучнасць людзі
Ўзіраюцца смела.
Аб Сталіне-сейбіту песня мая.
А песня з душы і гартоўна, як сталь,—
Якую пяе арлоў горных сям'я,
Якую пяе пры кавадле каваль.
Арлы-самалёты
Ўсё неба ўзялі,

І волю здабылі
Сабе кавалі.
Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад сонца, ад зор залатых,—
Якую пяе уся наша зямля,
Аб сейбіту светлы разносячы слых.
Ён даў для народаў
Асноўны закон,
І дружбу народаў
Навек стварыў ён.

II

Я з гэтаю песняй, як зоры, высокай,
Выходжу ў прасторы дарогай шырокай,
У думках і марах раблю свой абход
На поўнач і поўдзень, на захад і ўсход.

Я сам гаспадар неабсяжнай краіны
І верны слуга дарагое айчыны,
Народу майго гераічнага сын —
Савецкай рэспублікі грамадзянін.

Са мною гаворыць, як быццам жывая,
Сагрэтая сонцам зямля маладая,
Імклівыя рэкі, дарог паясы,
Лугі і палеткі, бары і лясы.

Увесь гэты скарб незлічона багаты:
Шырокія нівы і светлыя хаты,
Укрытыя лістам і цветам сады,
Залітыя срэбным святлом гарады,

Чыгункі і шахты, палі і заводы,
Глыбокія нетры і плынныя воды,
Высокага неба празрысты блакіт
І гоманы пушчы і шэлест ракіт,

Усё, да апошняй пясчынкі зямлі
На ўзоранай трактарным плугам раллі,
Ад краю — у край, ад заходу — да ўсходу
Належыць майму маладому народу.

І скрозь над усім неабсяжным прасцягам
Жыццё пурпуровым абвеяна сцягам,
Дзе золатам радасці вышыты герб:
У сонечных променях молат і серп.

І скрозь наша доля пад сцягам чырвоным
Асвечана Сталінскім мудрым Законам,
Дзе кожная літара — шчасцем для нас,
Гарыць, як крыштальна-агністы алмаз.

І вольны народ за жыццё і дзяржаву
Спявае вялікаму Сталіну славу...

* * *

Беларуская краіна,
Твой шырокі шлях!
Над табою ў зорнай сіні
Палымнее сцяг.

Гэта ты упартай воляй
На прастор і шыр
Вывеў нас з былой няволі,
Мудры правадыр.

І цвіце мой край чароўных
Пушчаў і азёр
У сям'і свабодных, роўных
Маладых сясцёр.

Гэта ты рукою дужай
Даў народам мір,
Нас навек з'яднаўшы дружбай,
Мудры правадыр.

І ніякія напасці
Ў самы трудны час
Не парушаць долі-шчасця,
Не падзеляць нас.

Мы ідзем адной калонай,
Бурнаю, што вір,

Пад зарой твайго Закона,
Мудры правадыр.

І, сабраўшыся на першы
Незвычайны сход,
У Савет сыноў найлепшых
Выбера народ.

Ты да новай перамогі
На прастор і шыр
Нам паказваеш дарогі,
Мудры правадыр.

III

Між кветак і дрэў на заводскім двары
Сышліся у час перапынку сябры.
І я падышоў і прысеў каля іх.
Сябры гаварылі аб справах сваіх.
Прыемна вясновай лагоднай парой
Сабрацца, пагутарыць паміж сабой.

Здаецца, яшчэ гэта ўчора было —
Тут ветры гулі, сухазелле расло,
Дзічэлі ў абдымках густой нематы
Спрадвеку пакрытыя пылам кусты.
А сёння тут цуда ствapae народ:
Збудованы сонечны горад-завод.

Наўсцяж камяніцы,— іх вырасла шмат,—
Абкружаны шумам кляновых прысад.
З узнятай рукою, як мужнасці кліч,
На плошчы стаіць неўміручы Ільіч.
Ля помніка мудрага правадыра
Вясёлыя песні пяе дзетвара.

Я помню — нас тысячы гэткіх, як я,
На працу пазвала краіна мая.
І ў спёку, і ў сцюжу, і ноччу, і днём —
Зямлю абуджаў, не сціхаючы, гром.
Я цэглу за цэглай у сцены ўкладаў,
Я сам сваё шчасце сабе будаваў.

Я знаю, што мне беспрацоўным не
быць,
Што голад не будзе за мною хадзіць.
Радзіма! Яна прад вачыма ўстае,
Нам права на працу і радасць дае.
Гляджу на сяброў — на шчаслівых
людзей:
Няма ў іх трывогі за заўтрашні дзень.

Сагрэтыя сталінскім сонцам вясны,
Былое жыццё ўспамінаюць яны:
Калісь працавалі з цямна да цямна,
А песціла толькі галеча адна.
Цяпер наша праца — і радасць, і чэсць,
А хто не працуе — той і не есць!

Прарэзаў блакітную цішу гудок,
Сябры мае ўсталі, паскорылі крок.
Як добра на поўныя грудзі дыхнуць,
Сваю маладосць баявую адчуць!
І цешыцца сэрца... А хто з нас не рад?
І кожны становіцца зноў за варштат.

Зноў коціцца гул гаварлівых машын,
Зноў праца ўскіпае і ўсе як адзін
З любоўю і ўпартасцю гаспадара
Куюць незлічоныя скарбы дабра.
І я між сяброў за варштатам стаю,
Працую і песню ад сэрца пяю...

* * *

Люблю працаваць я на славу,
Люблю, калі праца кіпіць.
А родная наша дзяржава
Мне права дае адпачыць!
І клікнуць мяне параходы
Праз гоман стэпаў і далін.
Як добра жыць народу
Шчаслівых савецкіх краін.
Я сталінскай ласкай сагрэты,
Люблю я вандроўнікам быць
І сцежкамі звонкага лета
Прасторам радзімы хадзіць.

Ніколі, ні ў якія годы
Не ведалі гэткіх часін.
Як добра жывецца народу
Шчаслівых савецкіх краін!
Са стрэльбай сваёй за плячыма
Люблю паляваць на зары,
Калі туманамі, як дымам,
Закрыты густыя бары.
Спраўляць з дзетварой карагоды
Люблю я пад шумам рабін.
Як добра жывецца народу
Шчаслівых савецкіх краін!
Люблю я прыгожасці Крыма,
Каўказскіх аснежаных гор,
Люблю цябе, наша радзіма,
Твой сонцам заліты прастор.
Табе я адданы заўсёды,
Я — родны і верны твой сын.
Як добра жывецца народу
Шчаслівых савецкіх краін!

IV

Старая я. Мне шмат гадоў.
Я многа маю расказаць.
Дачок пяцёра, сем сыноў
Мне давялося гадаваць.

Сляза па твары пацячэ,
Калі аб днях успомніш тых:
Устанеш досвіткам яшчэ,
Навáрыш поліўкі на ўсіх.

Малых — аж цесна у кутку,
Адной іх трэба даглядаць:
На плечы возьмеш, на руку,
На поле пойдзеш жыта жаць.

На шнур паставіш таганы,
Дзяцей паложыш, ды адна,
Не разгінаючы спіны,
Сярпом махаеш дацямна.

Так замардуешся за дзень,
Што ледзь ступаеш, ідучы,
Дахаты вернешся, як цень,
Ніхто не скажа адпачыць.

Жанчына чахла без пары:
Бяспраўе скрозь, пакуты, здзек.
Сцвярджаў усім закон стары:
Яна — раба, не чалавек.

Мінулі чорныя гады...
Спявайце, сёстры, весялей:
Цяпер і яслі, і сады —
Усё для матак і дзяцей.

Шчаслівы дзень! Шчаслівы час!
Наш край, ты казкаю расцвіў!
Вялікі Сталін, бацька наш,
Дзяцей да сэрца прытуліў.

Ён мае шмат дачок, сыноў,
На ўсю зямлю яго сям'я.
Не мала мне, старой, гадоў,
Ды вельмі ганаруся я,

Што з ім жыву адной парой,
Што маладзею я цяпер.
Пілотаў тры ў сям'і маёй,
Дзве трактарысткі, інжынер.

Дарогу кожны адшукаў,
Усіх ён вывеў нас у свет,
Усе правы жанчынам даў —
Іх выбіраюць у Савет.

Прымі, настаўнік, ад жанок,
Ад матак, радасных сясцёр
З вясновых кветак наш вянок,
Абсыпаны агнямі зор.

Ты наша сонца! Нам квітнець
Пад ясным поглядам тваім,
Давайце, сёстры, будзем пець
Аб нашым сонцы дарагім!

Хай наша песня на усход
Ляціць, як птушка да Крамля...
Як славіць Сталіна народ!
Як славіць Сталіна зямля!

* * *

Ой, шумі ты, радуйся,
Беларускі бор.
Узлятай ты, песенька,
Да высокіх зор.

Праляці над гоманам
Спелых каласоў,
Праляці над плошчамі
Шумных гарадоў,

Над Масквой-сталіцаю
Сокалам кружы,
Раскажы ты Сталіну,
Роднаму скажы,

Што жанкі шчаслівыя
Радасна жывуць,
Што яму ад сэрцайка
Прывітанне шлюць.

Ой, шумі ты, радуйся,
Беларускі бор.
Узлятай ты, песенька,
Да высокіх зор!

V

Сядзем, сынку, на хвіліну
Ды зірнем наўкола.
Час абраць табе пуціну —
Кліча цябе школа.

Глянь, арлёнак мой шчаслівы,
На свой шлях прасторны:
Лёг ён, ясны ды жычлівы,
Прамяністы, зорны.

Ідзі смела, дзе ты хочаш
І дзе сэрцу люба:
Пала ў вечнасць цемра ночы,
Наш прыгнёт і згуба...

Не было калісьці ходу,
Выхаду з туману:
Замест школ — астрог народу,
А навука — пану.

З нашай працы шмат гімназій
Паны будавалі,
Нас жа, бедных, у сярмязе
У іх не пускалі.

З нашых скарбаў, з роднай мовы
Учынялі здзекі,
Толькі й чулі нас дубровы,
Поле, луг ды рэкі.

Не прасторныя — крывыя
Мелі мы дарогі;
Вандравалі з торбай, з кіем,
Што ні крок — парогі.

Вам жа, племя маладое,
Дні вясны насталі —
Даў жыццё вам залатое
Родны бацька Сталін!

Вам, здаровым і вясёлым,
Цвет зямлі Саветаў,
Збудаваны клубы, школы,
Універсітэты.

Пра навуку урачыста
У сваім Законе
Сталін сэрцам камуніста
Напісаў сягоння.

Вам, вясёлым сакалятам
Вольнага народа,
Даў ён шчодра і багата,
Каб дабром валодаць;

Каб узброіць вашы сілы
Бальшавіцкай воляй,
Каб наш край чырванакрылы
Узбагаціць болей;

Каб умножыць нашу славу,
Сілу даць айчыне,
Каб мы ленінскую справу
Узнялі ў вышыні;

Каб узнеслі над зямлёю,
Па-над цэлым светам
Край наш грознаю скалою,
Сонцам-яснацветам.

* * *

Прасвятлелі вочы,
Беларусь, твае.
Аб жыцці шчаслівым
Твой народ пяе.

Заквітнелі буйна
Сёлы, гарады,—
Не ясі ты болей
Хлеба з лебяды.

Стала ты багатай,
Станеш багацей.
Сталінскія школы
Маеш для дзяцей.

Ясныя дзянніцы
Глянулі на нас.
Грымнем дружна песню
Пра вясёлы час!

Вольнай Беларусі —
Шырыня, разгон,
Песняю мы славім
Сталінскі Закон.

VI

На чатырнаццаць дзён дамоў
Прыехаўшы з граніцы,

Да дзеда ў госці я прыйшоў,
Як бліскалі зарніцы.

Абшар арцельнага дабра
Мы вартавалі з дзедам.
Ужо чаканая зара
Займаецца над светам.

Абходжу разам з дзедам я
Світальныя прасторы.
І мы прыйшлі да ручая.
У небе гаснуць зоры.

Умыўся дзед. Звініць вада
Празрыстая, лясная.
Яго сівая барада
Увесь ручай займае.

Ідзем на стан. Паважна ён
Дае наказ калгасны:
Ахоўваць Сталіна Закон —
Радзімы розум ясны.

Старонкай з кнігі залатой
Здаецца поле дзеду,
Бо Сталін дбалаю рукой
Зямлю засеяў гэту.

Праходзіць дзед з кійком сваім
І мудры сказ чытае,
І кожны колас перад ім,
Як літара жывая.

Ідуць унукі жыта жаць
Сцяжынкаю зялёнай,
А мы — на стан — адпачываць
Пасля начы бяссоннай.

Турботы дзедавы ў цішы
На хвалях ураджая
Пад жніўны спеў закалышы,
Радзіма дарагая!..

Я ведаю — на цэлы свет
Закон сцвярджае проста:

Жыві, працуй, шчаслівы дзед,
Гадоў за дзевяноста,

Жыві ў пашане сярод нас
На славу ўсёй краіне,—
Цябе дзяржава і калгас
Без хлеба не пакіне.

На чарнаморскі светлы пляж
Паехаць маеш права —
Шануе твой працоўны стаж
Савецкая дзяржава.

Ахоўвае твае правы
У старасці глыбокай
Закон радзімае Масквы
Пад зоркаю высокай.

* * *

Калгаснай сялібай
Праходзяць дзяды,
На іхным шляху —
Маладыя сады.
І яблык з галінак
Здымаюць яны —
І самы даспелы,
І самы буйны.

У лес, што сваім
Называлі паны,
Прыходзяць калгаса
Сівыя сыны.
І кошык сплятуць
Каля светлай вады
І ягад лясных
Назбіраюць дзяды.

А там, дзе калісьці
Балота было,
Арцельнае збожжа
Да неба ўзрасло.
І звяжуць дзяды
Залатыя пучкі:

Ад кожнага поля
Па тры каласкі.

Сустрэнуць іх людзі,
Спытаюць: куды?
— Да Сталіна ў госці! —
Адкажуць дзяды.

VII

Ідзе правадыр па бязмежным прасторы,
Спакойны і просты, а вочы, як зоры,
Што праменем ясным наскрозь праняллі
І глыб акіянаў, і нетры зямлі.

У сэрца ён кожнаму глянуць умее,
Выполвае злое, разумнае сее —
Вялікі і мудры ў сваёй прастаце,
Дзе гляне, там радасць і слава расце,

Адвагай і мужнасцю поўняцца грудзі,
І подзвігі твораць звычайныя людзі,
І край мой — шчаслівы і песняй звініць,
І будзем мы песню грудзьмі бараніць.

Навокал нямала драпежнікаў лютых,
І нашыя песні — ім горай атруты,
І точыць ім сэрца зялёная злосць...
Па смерць сюды прыйдзе няпрошаны госць!

Ёсць што бараніць нам і чым бараніцца:
Скала непрыступная — наша граніца,
І пораху хопіць у нас і свінца,
Каб ворагаў знішчыць усіх да канца.

І армія наша абута, адзета,
Вялікай любоўю народа сагрэта;
Яе камандзіры — працоўных сыны,
На смерць за Радзіму гатовы яны.

Зямля аж гудзе, як ідуць батальёны,—
Вядзе Варашылаў герояў мільёны,
І кожны — радзімы сваёй патрыёт
І ворагу сэрца праб'е навылёт.

Над хмарамі грозна ракочуць маторы,
Сталёвыя птахі ўзвіліся пад зоры,
Праз вецер і хмары ідуць напралом,
У кожнага — ворагу смерць пад крылом.

І я — грамадзянін вялікай краіны.
Яе бараніць у цяжкія хвіліны,
Калі да мяжы падпаўзе гадаўё, —
І мой абавязак, і права маё.

Падхоплены бурным парывам адзіным,
І я разганюся ў палёце арліным
І ворага метка на мушку вазьму,
Каб трапіць у самае сэрца яму.

Мы сілы падвоім, мы храбрасць патроім,
Іх прагнасць мы іх жа крывёю напоім, —
Як ворану вышэй арла не лятаць,
Так ворагу нашай зямлі не таптаць.

* * *

На золку рана конь заржаў,
Баец з пабыўкі ад'язджаў,
З падругай выйшаў за сяло,
Абняў, ускочыў на сядло, —

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

Калі настане грозны час —
Радзіма ў бой пакліча нас,
Я клятву верную даю —
Не быць апошнім у баю.

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

Насустрач буры і агню
Я смела шпоры дам каню,
За шчасце наша, за красу
Фашысту галаву знясу.

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

Чакай — вярнуся жыў-здароў,
Героем я прыйду дамоў.
Сустрэць ты выйдзеш за сяло,
Цябе вазьму я на сядло.

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

## VIII

Сустракай, мая краіна,
Дзень свой урачысты,
Што ідзе к табе гасцінна,
Ясны, прамяністы.

Прыбірайся гожа, дбала,
Упрыгожвай хаты:
Каб ты слаўна святкавала
Гэтакае свята.

З цемры гнёту, здзеку, гора,
З занядбанай долі
Выйшла сёння ты ў прасторы
Бальшавіцкай воляй.

У ясноты дзён праз хвалі
Бур, вайны, аблогі
Вывеў Ленін, вядзе Сталін
Вернаю дарогай.

У баях з ардой драпежнай,
З панскаю навалай
Стаць краінай незалежнай
Права здабывала.

Здабыла ты гэта права
Дружбаю народаў.

Ўсім народам нашым слава!
Слава іх паходам!

На разлог калгасных гоняў,
На гмах лесу сіні
Пазіраеш ты сягоння
Вокам гаспадыні;

На дарогі, што па краю
Носяць шум імклівы;
На балоты, дзе буяюць
Маладыя нівы;

На паселішчы, на сёлы,
Гарады, заводы
І на свой народ вясёлы,
На яго прыгоды.

Дык выходзь, мая краіна,
Як сястра да брата,
Высылай дачку і сына,
Свой народ, на свята!

Грамадой, як сталь, з'яднанай
Вышлі самых лепшых,
Самых шчырых і адданых
У парламент першы,

Каб усё сваё старанне,
Волю, сілу, мэты
Аддалі на красаванне
Сталінскіх Саветаў.

IX

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Бо хто калі думаў, што я жыці буду,
Як птушка, як вецер над нівай квяцістай,
І дзівам дзівіцца вялікаму цуду,
Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.

Што ты, правадыр, нібы яснае сонца,
Мне вочы адкрыеш на землі і неба...
Свяціся ж ты, сонца, ў маё век аконца!
Вітаю цябе я і соллю, і хлебам.

Ісці ўперад будуць вякі, пакаленні,
Законы ж твае, нібы светач нязгаслы,
Шляхі асвятляць будуць светлым імкненнем,
Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.

Тваіх, правадыр мой, законаў асновы,
Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы
Грудзьмі бараніць у змаганні суровым —
Мой гонар вялікі і мой абавязак.

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы!

*Янка Купала, Якуб Колас,*
*Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка,*
*Пятро Глебка, Кандрат Крапіва,*
*Аркадзь Куляшоў.*

## ЛІСТЫ, ТЭЛЕГРАМЫ, НЕКРАЛОГІ

### ДА В. Я. БРУСАВА

*Мінск. 16 снежня 1923 г.*

Прывітальная тэлеграма В. Брусаву

У пяцідзесятую гадавіну слаўнага Вашага жыцця, пасвячонага службе мастацкаму слову, мы, беларускія паэты і пісьменнікі, шлём Вам найлепшыя пажаданні ў далейшай Вашай творчай працы. Мы рады адзначыць Вашу шчырую працу на карысць Саюза Савецкіх Рэспублік і іхных гаспадароў — рабочых і сялян. Народная беларуская літаратура, якая развівалася на працягу сваёй кароткай гісторыі ў цесным яднанні з рэвалюцыйным рухам, у цяперашні час святкуе завяршэнне задач, пастаўленых ёю ў першы перыяд

свайго развіцця,— вызваленне беларускіх працоўных мас ад палітычнай, эканамічнай і нацыянальна-культурнай няволі. Лічым сабе за гонар, што ў цяжкія для нас дні Вы звярнулі сваю аўтарытэтную ўвагу на беларускую літаратуру, перадаўшы сваім вялікім мастацтвам яе ўзоры расійскаму чытачу. Прывітанне Вам братняе.

*Купала, Колас, Гартны, Бядуля, Чарот, Гарэцкі.*

## ТЭЛЕГРАМА <З НАГОДЫ 10-Й ГАДАВІНЫ З ДНЯ СМЕРЦІ ШОЛАМ-АЛЕЙХЕМА>

*Мінск. 14 мая 1926 г.*

У дзень 10-годдзя смерці Ш. Алейхема мы выказваем яўрэйскім працоўным масам наш агульны жаль з прычыны ўласнай страты.

Але не наша справа сумаваць, калі мы бачым, што яўрэйская культура нараўне з беларускай культурай і культурамі іншых нацыянальнасцей у Беларусі пачала пашырацца на карысць працоўных мас СССР.

Наша яўрэйская літаратура развіваецца так, што яна становіцца прыкладам для яўрэйскай літаратуры на ўсім свеце.

Няхай яўрэйская культура з яе творчасцю паможа ўсім цаніць сілу рабочага класа, няхай яна стане крыніцай для далейшага натхнення ў справе вызвалення прыгнечаных з-пад прыгону капіталу!

Старшыня СНК БССР *Адамовіч.*
Народны камісар *Асветы Баліцкі.*
Бел. народны паэт *Я. Купала.*

## ДА СУДА НАД НЯМЕЦКІМ ПРАЛЕТАРСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ ІАГАНЕСАМ БЕХЕРАМ

*Мінск. 11 сакавіка 1928 г.*

Беларускія пісьменнікі і таварыства культурнай сувязі з заграніцай паслалі Лейпцыгскаму суду наступную тэлеграму: 16 сакавіка Нямецкі Дзяржаўны Суд мае судзіць выдатнага

пралетарскага пісьменніка за яго літаратурныя работы. Абвінавачанне вольнае думкі паэта, выказчыка настрояў мільённых працоўных гушчаў, выяўляецца ганебным і некультурным учынкам, які не робіць гонару Нямецкай рэспубліцы як культурнай краіны.

Сваім абвінавачаннем Бехера нямецкая буржуазія хоча задушыць развіццё рэвалюцыйнай пралетарскай нямецкай літаратуры, знаходзячы ў ёй адзін са сродкаў змагання працоўных гушчаў за сваё сацыяльнае вызваленне.

Мы моцна пратэстуем супраць старон над судовай расправай над Бехерам.

Арганізацыя беларускіх пісьменнікаў «Полымя», народны паэт *Янка Купала*, народны паэт *Якуб Колас, Міхась Зарэцкі, Алесь Гурло, Андрэй Александровіч, Алесь Дудар, Янка Нёманскі.*

Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцаю: *Цішка Гартны, Міхась Чарот.*

Беларускае таварыства драматычных пісьменнікаў: *Міхась Грамыка, Уладзіслаў Галубок, Васіль Сташэўскі, Алесь Ляжневіч.*

Беларускае аб'яднанне пісьменнікаў «Маладняк»: *Янка Ліманоўскі, Браніслаў Вансоўскі, П. Галавач.*

## ДА М. М. ГАЛАДЗЕДА

*Мінск. 10 снежня 1928 г.*

Старшыні Савета народных камісараў
тав. Галадзеду
Літаратараў і грамадскіх дзеячоў Беларусі

Хадайніцтва.

У лістападзе месяцы 1926 г. у г. Менск прыехаў з Польшчы вядомы беларускі літаратар і драматург Францішак Аляхновіч.

1 студзеня 1927 г. ён быў арыштаваны, а потым і высланы тэрмінам на 10 гадоў у Салавецкі лагер.

З таго часу Францішак Аляхновіч знаходзіцца ў зняволенні, з таго часу цяжкія ўмовы жыцця падточваюць яго з кожным днём і без таго слабое здароўе.

Для першага стварцы і арганізатара Беларускага тэатра ў 1910 г. у Вільні, для пісьменніка, аддаўшага многія гады культурна-асветніцкай працы на карысць заняволеных царызмам працоўных, аддаўшага цэлыя гады турэмнага зняволення і саслання ў дарэвалюцыйную эпоху, для актыўнейшага беларускага дзеяча і драматурга, якім з'яўляецца Францішак Аляхновіч, мы просім літасці як для чалавека, свядома ці несвядома ўчыніўшага праступак.

Мы просім дараваць яму волю ў імя вялікай урачыстасці працоўных мас, урачыстасці, якою будзе адзначана дзесяцігоддзе з дня агалашэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — 1-м студзенем 1929 г.

10 снежня 1928 г.

*Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, В. Ластоўскі, С. Некрашэвіч, Я. Дыла, Галубок, Ф. Ждановіч, М. Грамыка, М. Гарэцкі.*

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА»

*Мінск. 21 лютага 1929 г.*

Ліст у рэдакцыю

Шаноўны т. рэдактар!

У «Звяздзе» (№ 40) была змешчана інфармацыя, зусім не адпавядаючая рэчаіснасці. У заметцы паведамлялася, што Купала і Колас сёння выязджаюць у Ленінград для наладжвання сувязі паміж літаратарамі і навуковымі дзеячамі Беларусі і Ленінграда.

Па-першае. Выязджае не адзін толькі Купала і Колас, а цэлая група пісьменнікаў, і, па-другое, група едзе проста ў экскурсію для азнаямлення з культурнымі ўстановамі Ленінграда. Наладжванне ж сувязей, аб якіх гаворыцца ў заметцы, зусім не ўваходзіць у задачы паездкі.

*Якуб Колас, Янка Купала.*

*Мінск. 15 верасня 1934 г.*

Цяжка губляць чалавека, якога ведаеш, у якога вучыўся.

Яўгені Іванавіч Барычэўскі быў чалавекам высокай культуры, чалавекам кіпучай энергіі, выдатным прафесарам.

Студэнты і пісьменнікі добра ведалі і паважалі тав. Барычэўскага. Адзін з лепшых лектараў і знаўцаў старажытнай і еўрапейскай літаратур, ён шмат даў нам і шмат дапамог.

Тав. Барычэўскі напісаў рад навуковых работ па паэтыцы, якія з'яўляюцца ўкладам у нашу савецкую літаратуру, на якіх многія з нас вучыліся і працавалі.

*Янка Купала, Андрэй Александровіч, Платон Галавач, Барыс Мікуліч, Сяргей Знаёмы, Валеры Маракоў, Алесь Дудар, П. Хатулёў, С. Левін, Паслядовіч, Пятрусь Броўка, Алесь Кучар, М. Модэль, М. Багун, М. Аляхновіч, Р. Мурашка.*

## ДА З. БЯДУЛІ

*Мінск. 23 кастрычніка 1935 г.*

Беларускія пісьменнікі — юбіляру

Дарагі Змітрок Бядуля!

Праўленне Саюза савецкіх пісьменнікаў ад імя ўсіх літаратараў Савецкай Беларусі горача вітае Вас у дзень 25-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасці.

Шмат хто з інтэлігенцыі, сярод якіх былі і Вы, у часе Акцябра хісталіся і не разумелі ўсёй гістарычнай велічы пралетарскай рэвалюцыі як новай эры ў гісторыі чалавецтва. Нас асабліва радуе тое, што Вы сёння цвёрда сталі на савецкія пазіцыі і з'яўляецеся актыўным удзельнікам у барацьбе за пабудову сацыялістычнага грамадства.

Сёння Вы, як і большасць талантлівай старой інтэлігенцыі, зусім шчыра прызнаўшы памылковасць сваіх поглядаў, адкрыта, шчыра заявіўшы аб гэтым, сталі ў рады барацьбітоў за перадавыя ідэі чалавецтва, з'яўляецеся адным з выдатных прадстаўнікоў у справе стварэння сацыялістычнай культуры.

Ваш юбілей з'яўляецца яркім прыкладам клапатлівых адносін партыі, якая цярпліва выхоўвала людзей старой культуры, ствараючы ўсе ўмовы для плённай творчай работы на карысць новым людзям — новага, светлага, разумнага сацыялістычнага жыцця.

Ваш юбілей — бліскучы паказчык правільнага правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, паказ вялікага росту і росквіту культуры беларускага народу.

Будаўнікі сацыялізма чакаюць ад Вас паказу дзівосных спраў людзей нашай краіны, паказу нашай гераічнай сапраўднасці, паказу гарачых дзён будаўніцтва сацыялізма.

Мы ўпэўнены, што Вы і ў далейшым будзеце ў радах актыўных тварцоў вялікага мастацтва бальшавізма.

Жадаем Вам доўга жыць і працаваць на карысць рабочага класа. Жадаем Вам поспеху ў справе стварэння вялікіх мастацкіх палотнаў, вартых нашай вялікай эпохі — эпохі любімага Сталіна.

*А. Александровіч, Я. Бранштэйн, П. Броўка, І. Гурскі, П. Галавач, Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, М. Клімковіч, К. Чорны, М. Чарот, І. Харык.*

## ДА І. Д. ХАРЫКА

*Мінск. 17 лістапада 1935 г.*

Пісьменнікі Савецкай Беларусі — юбіляру

Дарагі Ісак Давыдавіч!

15 год таму назад ты, будучы местачковым юнакомпаэтам, увайшоў у яўрэйскую савецкую літаратуру.

Наша вялікая маці — сацыялістычная радзіма — любоўна ўзяла цябе за руку і павяла па тым слаўным шляху, які ўпрыгожаны цяпер тваім 15-гадовым юбілеем.

Яўрэйскія працоўныя масы, лепшыя рэвалюцыйныя элементы яўрэйскіх працоўных за мяжой чытаюць цябе, любяць і цэняць тым больш і глыбей, чым больш цябе ненавідзіць яўрэйская буржуазія, чыю культуру шавінізма ты па-майстэрску выкрываў і выкрываеш у сваіх творах.

Барацьба за асноўныя прынцыпы бальшавіцкага інтэрнацыяналізма пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі — вось

што натхняла лепшыя твае паэтычныя творы, пашырала твой ідэйны кругагляд. Гэтай барацьбе ты, бясспрэчна, прысвеціш усё далейшае творчае жыццё, бо без барацьбы за пралетарскі інтэрнацыяналізм няма сапраўднага мастацтва.

Шмат якія тэмы нашай рэчаіснасці чакаюць твайго майстэрскага пяра. Ты ў росквіце тваіх творчых сіл, і няма межаў росту мастака краіны сацыялізма.

Слава партыі, якая любоўна вырошчвае свае кадры!

Слава ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыцы!

Прывітанне пралетарскаму паэту Ізі Харыку!

*А. Александровіч, Я. Бранштэйн, П. Броўка, І. Гурскі, Я. Купала, Я. Колас, М. Клімковіч, К. Чорны, М. Чарот.*

## ДА ТРЭЦЯГА БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА

*Мінск. 23 снежня 1935 г.*

Праўленне ССП БССР горача вітае калектыў БДТ-3 і Вас асабіста, тав. Галубок,— першага народнага артыста рэспублікі, у дзень 15-гадовага юбілею слаўнага, сапраўды народнага тэатра.

Цяжкі і складаны шлях прайшоў тэатр. Шмат было няўдач, а часамі зрываў і памылак ідэйна-творчага парадку. Але стаўшы цвёрда на савецкія пазіцыі, калектыў тэатра пад кіраўніцтвам КП(б)Б перамог цяжкасці і выйшаў на сонечны шлях, які вядзе да яснай далі, да аўладання сапраўднымі вышынямі тэатральнай культуры, да стварэння паўнацэннага мастацтва, вартага новага, сацыялістычнага чалавека.

Жадаем калектыву тэатра поспехаў у яго далейшай рабоце на карысць сацыялістычнай радзімы. Спадзяемся, што вы яшчэ больш шчыльна звяжацеся з савецкімі драматургамі нашай дзівоснай краіны і разам з імі створыце не адзін яркі, хвалюючы спектакль, які будзе помнікам чалавечай культуры нашай эпохі, эпохі Леніна — Сталіна.

Праўленне Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР:
*А. Александровіч, З. Аксельрод, П. Броўка, Я. Бранштэйн, І. Гурскі, П. Галавач, Я. Колас, М. Клімковіч, Я. Купала, К. Крапіва, М. Лынькоў, І. Харык, М. Чарот, К. Чорны.*

# КАМЕНТАРЫІ



Дадзены том складаецца з 8 раздзелаў.

1. Пераклады: «Галька» У. Вольскага, «Эрос і Псіха» Е. Жулаўскага, апавяданні П. Панча «Зямля» і А. Лубчанкі «Пастух» (Стэпавая легенда), «2002», «Ціхі Хутар» і паэтычныя ўрыўкі з п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча «Ідылія» («Sielanka»).
2. Эпісталярная спадчына (лісты, паштоўкі, тэлеграмы).
3. Дарчыя надпісы.
4. «Расейска-беларускі слоўнік».
5. Калектыўнае (вершаваныя творы, лісты, тэлеграмы, некралогі).
6. Службовыя і асабістыя дакументы.
7. Дадатак.
8. Dubia.

Каментарыі. Паказальнік па адрасатах. Паказальнік імёнаў.

Матэрыялы раздзелаў «Эпісталярная спадчына» і «Калектыўнае» падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці.

Крыніцай для большасці публікацый з'яўляюцца аўтографы і фотакопіі, а таксама часопісы, газеты і асобныя выданні.

Пераважная колькасць матэрыялаў, змешчаных у томе, уключаюцца ў Збор твораў упершыню, значная частка з іх друкуецца наогул упершыню.

У параўнанні з папярэднім Зборам твораў, 1972—1976, істотна павялічана колькасць лістоў, а ў апублікаваных раней узноўлены купюры. Агульная колькасць лістоў — 140 адзінак. Значна пашыраны тэксталагічны і рэальны каментарый.

Упершыню ў практыцы выдання Збору твораў у дадзены том уключаюцца ў асобны раздзел службовыя і асабістыя дакументы, якія значна пашыраюць уяўленне пра творчую і грамадскую дзейнасць Янкі Купалы.

Здабыткам дадзенага выдання з'явіцца і раздзел «Дарчыя надпісы», у якім шырока прадстаўлена кола асоб, з якімі сябраваў, працаваў і быў знаёмы народны паэт.

Упершыню пасля 1923 г. публікуецца «Расейска-беларускі слоўнік», у падрыхтоўцы якога актыўны ўдзел прымаў Я. Купала.

Паколькі для значнай часткі матэрыялаў, змешчаных у томе, выкарыстаны фонды Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы, у каментарыях указваюцца толькі адзінкі захавання. Іншыя крыніцы агаворваюцца ў кожным канкрэтным выпадку.

У лістах, паштоўках і тэлеграмах акрамя аўтарскай даты даецца рэдактарская ў тэксце злева. Пры адсутнасці аўтарскай даты ў каментарыях аргументуецца рэдактарская.

Імёны асоб і гістарычныя падзеі ў асноўным каменціруюцца пры першым упамінанні, у далейшым даюцца спасылкі на папярэдні каментарый.

Назвы архіваў і кнігасховішчаў падаюцца ў каментарыях у скарочаным варыянце, іх поўная назва прадстаўлена ў «Спісе скарачэнняў».

Пераклады падрыхтавалі: *А. І. Шамякіна* («Галька» У. Вольскага і «Эрос і Псіха» Е. Жулаўскага), *Т. Р. Строева* («Зямля» П. Панча, «Пастух» (Стэпавая легенда), «2002» і «Ціхі Хутар» А. Любчанкі), *Я. Я. Янушкевіч* (паэтычныя ўрыўкі з п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча «Ідылія».

Эпісталярная спадчына — *С. В. Забродская, Э. А. Золава, Т. Р. Строева, А. І. Шамякіна.*

Дарчыя надпісы — *К. А. Казыра.*

«Расейска-беларускі слоўнік» — *В. П. Рагойша.*

Калектыўнае (вершаваныя творы, лісты, тэлеграмы, некралогі) — *С. В. Забродская* (вершаваныя творы), *Э. А. Золава, Г. В. Якаўлева.*

Службовыя і асабістыя дакументы падрыхтаваны ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь *А. М. Гесь, В. Дз. Селяменевым, В. У. Скалабанам.*

Праца па падрыхтоўцы да выдання «Эпісталярнай спадчыны» была распачата *Л. М. Мазанік.*

Кантрольная рэдакцыя, паказальнік па адрасатах, імянны паказальнік *Э. А. Золавай.*

Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і асабіста галоўнаму захавальніку фондаў *М. К. Чабатарэвіч* за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў для дадзенага тома.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

Архіў АН РФ — Архіў Акадэміі навук Расійскай Федэрацыі.
БДАМЛіМ — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.
BPMSW — Публічная бібліятэка сталічнага горада Варшавы.
ДзАСВ (ГАСО) — Дзяржаўны архіў Смаленскай вобласці.
ДзАРФ — Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі.
ДзАЛ — Дзяржаўны архіў Літвы.
ДзГАЛ — Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы.
ІРЛІ — Інстытут рускай літаратуры Пушкінскі дом.
ІСЛІ (ИМЛИ) — Інстытут сусветнай літаратуры імя М. Горкага.
НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.
НБУ — Нацыянальная бібліятэка Украіны.
РДзАЛМ — Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва.
РДзГА — Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў.
РНБ (СПб) — Расійская нацыянальная бібліятэка (СПб).
ЦГА Масквы — Цэнтральны гістарычны архіў Масквы.
ЦНБ НАНБ — Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.
ЦДАМЛіМ Украіны — Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Украіны.

*Галька* (с. 7)

Пераклад з польскай мовы лібрэта У. Вольскага оперы С. Манюшкі «Галька».

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. IV, дзе ўпершыню апублікаваны.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца чарнавы аўтограф на 17 вузкіх палосках паперы, напісаны фіялетавым чарнілам і алоўкам, без подпісу і даты (адз. зах. 331, л. 1—17).

Пераклад быў завершаны Я. Купалам у 1922 г., аб чым сведчыць наступная памета на вокладцы зборніка «Шляхам жыцця» (Вільня, 1923): «Галька», 1922. Падрыхтавана да друку».

*Вольскі Уладзімір* (1824—1882) — польскі пісьменнік.

*Манюшка Станіслаў* (1819—1872) — польскі кампазітар, дырыжор і педагог.

Прэм'ера оперы адбылася ў Вільні ў 1848 г. У першапачатковай рэдакцыі (1846—1847) лібрэта мела 2 дзеі. У далейшым яно было перапрацавана. У перакладзе Я. Купалы — 4 дзеі.

У XIX ст. опера «Галька» была вельмі папулярнай. Яе ставілі тэатры Пецярбурга, Масквы, Кіева. У адной з пастановак оперы дэбютаваў славуты Ф. Шаляпін. У Мінску пастаноўка оперы была ажыццёўлена ў 1975 г. Нацыянальным тэатрам оперы і балета Беларусі.

У рэцэнзіі на IV том (1928) Зб. тв. Янкі Купалы Язэп Пушча пісаў: «Шкада, што Янка Купала пад творамі гэтага тома не паставіў дат. Даты якраз у гэтым выпадку рэч вельмі паважная, бо яны дапамаглі б устанавіць у некаторай ступені позу аўтара да сваіх твораў, а так надзвычай цяжка, напрыклад, гаварыць аб оперы «Галька» Уладзіміра Вольскага, якая, здаецца, у друку яшчэ нідзе не была і якую аўтар знайшоў магчымым, а мабыць, і патрэбным, выдрукаваць у 1928 г. Наогул, цікава было б ведаць, у якую гэта паласу свае творчасці Янка Купала выбіраў гэткія творы для перакладу, калі мне здаецца, што яны ідуць уразрэз з агульнай накіраванасцю творчасці паэта. А можа, яна якраз адпавядае сучаснаму погляду паэта на паэзію, на шляхі яе развіцця, можа, ён у ёй знайшоў блізкае да свайго светаадчуванне? Акрамя таго, даты ў даным выпадку мелі б значны ўплыў і на выбар пункту погляду рэцэнзента, а адсюль і на ацэнку гэтых твораў: ці з'яўляюцца, скажам, яны жывымі мастацкімі арганізмамі для сучаснага стану нашае паэзіі, ці, можа, яны ўсяго помнікі з гісторыі нашай літаратуры, дакументы з паэтычнага архіва народнага паэта? ... З перакладаў — два: «Песня аб паходзе Ігара» і оперы «Галька». Першы пераклад надзвычай удалы як блізкасцю свайго зместу да аўтэнтыка, так і сваім мастацкім афармаваннем. Якое метрычнае і страфічнае багацце, а як магутна і вобразна гучыць беларуская мова! Затое нельга гэтага сказаць аб «Гальцы». Шмат сустракаецца зваротаў мовы не беларускай, польскай, а таксама слоў і націскаў; ды і наогул дзіўна, чым магла зацікавіць гэта шляхецкая опера Купалу? Твор сам па сабе маламастацкі,— няўжо тым, што Манюшка напісаў да яго музыку?» (часоп. «Узвышша», 1928. № 3. С. 165, 166).

С. 8: *Адравонжа ды Памянам* — польскія шляхецкія гербы.

Варыянты чарнавога аўтографа:

14 Сёння лучацца ў адно
25 Іх зычлівасць знана нам
30 Бо ўжо смею вас так зваць
32а Што мне ў сэрцы стала ззяць.
б *Як у асноўным тэксце*

40 а Як той ад віхру цвет паламаны.
б *Як у асноўным тэксце*
44–46 Дзе ў ім лялея завяла?
Гэткі слязяны
Я не, хто гэта, хто?
Пасля 48: *Тут і ў далейшым: Ян*
51 а Гэту дзеўку тут на зло?
б *Як у асноўным тэксце*
55 У гэтым часе? Вот дзіва.
61 Гэтак вельмі ўжо засмела
64 Як нам радасць і вяселле.
69 а Колькі ў ім дабра, пакоры
б *Як у асноўным тэксце*
70–71 а { Што яго на самым дзеле
Раніць так людское гора.
б { Што так шчыра на самым дзеле
Яго раніць так людское гора
73 Што азваўся к нам.
75 Але на ўсхліпы гора,
Пасля 79: *Рэмарка адсутнічае*
80 а Скуль прышла сюды без маёй волі?
б *Як у асноўным тэксце*
81–83 Хіба пекла яе носе?
Хоць жальба яе мне зморай,
Ды ўжо позна, ўжо збылося...
86 а Як пабачу, супакою
б *Як у асноўным тэксце*
88 Яе слёз баюся!
89 а Чаму мне ў хвілях тых адзінокіх.
б *Як у асноўным тэксце*
108 Дзе маё сонца на ясным небе?
Пасля 110: *Рэмарка адсутнічае*
112–113 Лявонка гэты (*тут і ў далейшым.* Лявонка *замест* Ёнтак)
Казаў без спыну,
129 О, мой саколе, супакойся, супакойся!
131 Хутчэй пакінь ты гэтыя муры,
135 А после ў час вярнёмся там —
167 а Малады наш, дзе ты, дзе ты?!
б Малады! Ты як з пахмелля!
170 а У чапку радзіўся, браце.
б *Як у асноўным тэксце*
174 А музыка з пуста грай...
190 І так к сэрцу
Пасля 195 *Тут і ў далейшым:* Ян і Зося
196 Войча, мілы!
221 а Там бяседа, там вясёласць! —
б *Як у асноўным тэксце*
224 а Зноў вернецца ў горны край.
б *Як у асноўным тэксце*
226 а Бо чакаці ўжо да дзела,
б *Як у асноўным тэксце*
232–233 Ані ■ ў рэчцы плаваюча рыбка,
Ані маю крылле ластавачкі шыбкай

238—240 Аганьком хоць блудным, што так бледна зззяе.
Як бы мая слёзка, што к табе сплывае!
Ані мне ў крынічцы блыскаці адлюднай,
242 Толькі ўецца енк мой па зімных расінах,
245 Ах, і нашто ж было так, Лявонка, бедную зводзіць?
255—256 Ах, мой Лявонка, і нашто было
Мучыць напрасна?
258 а Смяешся ты! Ідзем адсюль!
б Смяешся ты! Уцякайма зсюль!
259 Дык жыва ўход!
261 а Нեяк так страшна дзяўчыне з вёскі!
б Неяк так страшна сельскай дзяўчыне!
268 Жывей туды, дзе горы нашы
271—272 Дык пойдзем там, калі жджэ нас!
Калі ён там.
279—284 Яму веру я!
Не вер ты ў ласкі усе панічовы
К беднай дзяўчыне, ты не вер!
З салодкай усмешкай, як дзень маёвы
У сэрцы сталь, на слёзы звер.
286 Ты злы цяпер.
289—290 Калі як дожджу вясною ў сушу,
Жадаў цябе, а ён: мець мушу!
297—298 Так ён зманіў, не прыдзе тут,—
А ты яму йшчэ верыш, дзяўчына!
303—304 З той пекнай паннай, што бачыш там,
Вяселле п'е, вось так як пан!
311—312 Майго тут бацька дзіцяняці! —
Бяжым адсюль да маці!
316 Лявонка, вядзі мяне!
319—320 а Ах, што за крык,
Скуль гэты гвалт?
б *Як у асноўным тэксце*
325 а А сказаць там дворні,
б Чэлядзі сказаць,
393 а Кожны сам сябе вяселіць,
б Сябе людзі падвяселяць,
395—396 Хай жа думку падахвоціць
І забудзе крыўды ўласнай!
397 а Вось паніч з сваей нявестай
б *Як у асноўным тэксце*
399 а А як будзе ў іх вяселле,
б А як будзе ў іх бяседа,
в *Як у асноўным тэксце*
419 а Праўда, гладкі, добры ў слове,
б Ён прыкладны, добры ў слове,
в Праўда, укладны, добры ў слове,
421 Ой, кабеты!
423 Хай дзень будзе ўсё яснейшы!
427 Але разам і смутнейшы.
429 Хай дзень будзе і яснейшы!
431 І з кірмашу шмат народу.
Пасля 431: *Рэмарка адсутнічае*
435 Што за хлапчук пляцецца з дзеўкай?
440 Дый бяда як не паможа!

444 а З нашай вёскі які дзіцянё
б З майго сяла дзяўчук.
445 Скуль, Лявонка, ты прыходзіш.
447 Я іду ад пана.
Пасля 447. Галька (*непрытомная*).
449 Не пазнаць мяне нарэшце.
457—458 Як змянілась, як збядзілась,
Ажно глянуць стыд людзям!
460—461 Гэтак кончаць заляцанкі.
Там паніч з сваёй каханкай.
463 а Аб мужычцы думаць што?
б *Як у асноўным тэксце*
466 Скажы, Лявонка, як было там?
469 Як яе ўбачыў — чула прыласіў
470 а І ўсяляк маніць на словах
б *Як у асноўным тэксце*
473—475 Не мог сцярпець маны тых слоў, —
Сказаў ёй праўду, і нас тут ён
Сказаў за браму выгнаць, як псоў.
484 І ў дол рухнуў, як той камень.
487 Доля такая іх!
495 а Во ўжо і едуць!
б Во і едуць!
497 Няшчасна Галька! Сілай тут прэцца.
505 а Ад крыўды барані!
б Ад здзеку барані!
516—521 Ой, шуміць лес адзінока.
Жаласна шуміць,
А малойцу жыць нялёгка.
Бо душа баліць.
З людзей іншых да нікога.
Да цябе адно, нябога,
526 Шоў і з гнёздаў для цябе я
527—528 а { Птушак дастаў.
Лепшыя кветкі з гораў нашых
б *Як у асноўным тэксце*
529 а Рваў табе ўдзень,
б Рваў табе ў час,
в *Як у асноўным тэксце*
530 І найлепшыя з кірмашу
534 а Расце кусцік, расце ў дрэўца.
б З зерня вырас буйны колас.
в *Як у асноўным тэксце*
537 а Ты ўзрасла, як чар.
б *Як у асноўным тэксце*
539 а Рынуў ты ў пажар,
б *Як у асноўным тэксце*
564 Дзякуй, дзякуй, паненачка.
569—571 Громка! бо я...
Прывітаем як васелле!
Дзякуй, дзякуй, паненачцы.
577 а Каб яе хоць не пазнала!
б *Як у асноўным тэксце*
582—583 Якая ж бедна дзяўчына,
Глянь, Дземба, з тварам сялзлівым?

588 Пашто я ўбачыў няшчасну?
593 Яго пагардай датне!
595—598 Дрыжу са страху, з трывогі
Тнуць слёзы гэтай нябогі.
Нікчэмна я звёў яе.
Пазнала, урэшце, пазнала,
602 Над маей крыўдай злітуйся, Божа.
612 Ёмка Бог караць умее,
617 Што чыніць з беднай
621—622 Ну, ідзема да касцёла!
Час, ах час ужо, мрок дакола!
624 Маё сэрца жалем змог.
631 І няшчасце.
634 Ну дык далей, жыва нам!
643 Дык цяпер паверыш мне!
647—649 Прад аўтарам сталі разам!
Поп чытае, яны сполам
Яму ўтораць сціха, з выразам
651 А твой Янка весел.
653 Мяне шкода! Ты ж, Лявонка,
659 Ой, каб ты, Лявонка, знаў,
669 У хатцы ціха ўмірае,
674 І птах пражорны пісклятκі
676 Маё дзіцё ўмірае!
677 а О, мой маленькі
б *Як у асноўным тэксце*
679—680 Цябе ўбярэ?
Цябе спаўе?
684 А слёз крывавых ручай святы..
695 а Вытры слёзы і цярпенне,
б *Як у асноўным тэксце*
696 Божа моцны, літасць мей!
700 а Няўжо хапіла б біці змогі
б *Як у асноўным тэксце*
704 О жый шчаслівы, хоць не для мяне
706—707 І памаліся часам за мяне,
О Янка! Багаслаўляю цябе.
708—713 *Адсутнічаюць*

*Эрос і Псіха* (с. 43)

Пераклад з польскай мовы фантастычна-алегарычнай драмы Ежы Жулаўскага «Эрос і Псіха» (1904).

У аснову п'есы «Эрос і Псіха» Е. Жулаўскі паклаў міф, выкарыстаны яшчэ Апулеем. Царэўна шчаслівай краіны Аркады Псіха, убачыўшы бога Эраса, палюбіла яго і за гэта павінна быць пакараная смерцю.

Драма складаецца з 7 раздзелаў. Першыя тры раздзелы («У Аркадыі», «Змярканне багоў», «Пад крыжам») друкуюцца па часоп. «Вольны сцяг», 1921, № 5, 1 снеж.; 1921, № 6, 25 снеж.; 1922, № 1, 1 студз. Чацвёрты раздзел («На пераломе») — па белавым аўтографе (адз. зах. 32, л. 1—31).

У Збор твораў гэтыя раздзелы ўпершыню былі ўключаны ў 1976 г., т. VII. Пяты раздзел («Цераз кроў») і сёмы — (без назвы і незавершаны) у Збор твораў уключаюцца ўпершыню. Шосты раздзел драмы не захаваўся.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца белавыя аўтографы чацвёртага і пятага раздзелаў, чарнавы варыянт сёмага раздзела, а таксама чарнавыя накіды і асобныя старонкі першых чатырох раздзелаў.

Акрамя таго, у ДзЛМЯнК захоўваюцца не зусім чытэльныя чарнавыя накіды і асобныя старонкі першых чатырох раздзелаў, а таксама пятага і сёмага раздзелаў.

*Жулаўскі Ежы* (1874—1915) — польскі паэт, драматург. Над перакладам драмы Купала працаваў у перыяд з 1921-га па 1926 г.

Беларуская тэатральная студыя, якая ў 1926 г. ператварылася ў БДТ-2 (Віцебск), ажыццявіла пастаноўку драмы ў гэтым жа годзе. У 1927—1928 гг. спектакль ставіўся ў Маскве ў час гастроляў БДТ-2.

Гэта драма была падрыхтавана ў свой час (1926) у Маскве Беларускай тэатральнай студыяй, якая ў 1926 г. была ператворана ў Другі Беларускі дзяржаўны тэатр (Віцебск). На сцэне гэтага тэатра спектакль працягваў сваё існаванне. Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Б. Афонін.

Спектакль «Эрос і Псіха» ў пастаноўцы БДТ-2 не застаўся па-за ўвагай мясцовага віцебскага друку і праз некалькі гадоў: «Ад «Апраметнай» да «Разлому», ад «Эрос і Псіхеі» да «Горада вятроў» — гэта дыстанцыя велізарнага размеру, гэта — буйны крок наперад, гэта ўжо дакумент, які сведчыць аб тым, што калектыў БДТ-2 уцяміў ролю, якую адыгрывае мастацтва, зараз у сэнсе пралетарскага выхавання і арганізацыі працоўных «мас» (газ. «Віцебскі пралетарый», 1930, 17 сак.).

Спектакль «Эрос і Псіхея» быў уключаны ў рэпертуар, калі з 16 кастр. 1927 г. да вясны 1928 г. БДТ-2 гастраліраваў у Мінску.

I. У Аркадыі

*Аркадыя* — гарыстая вобласць у цэнтры Пелапанеса, радзіма старажытных грэчаскіх культаў, месца падзей, што ляглі ў аснову многіх міфаў. Для эліністычных паэтаў і Вергілія малюнкі прыроды Аркадыі з'яўляліся фонам для апісання ідылічных сцэн з пастухоўскага жыцця («аркадскія пастухі»).

*Псіха*, або *Псіхея* — 1) у грэчаскай міфалогіі жонка Эрота; 2) душа, якая звычайна адлюстроўвалася ў вобразе дзяўчыны.

*Эрос*, або *Эрот* — грэчаскі бог кахання (рымскі Амур, Купідон). Сын бога вайны Арэса і Афрадыты. Залатыя стрэлы з лука Эроса прыносілі людзям і багам пачуццё кахання, а разам з ім шчасце, радасць, пакуты і нават пагібель. У пазнейшыя часы Эрос звязваецца з міфам аб Псіхеі, якая стала яго жонкай.

*Гермес* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі бог жывёлагадоўлі, гандлю і прыбытку, падарожнікаў, шчасця і г. д. Сын Зеўса і Маі. Пасланнік алімпійскіх багоў і праваднік душ нябожчыкаў у царства Аіда. У рымскай міфалогіі — Меркурый.

*Багаліца* — багалікая.

*Гадэс*, або *Аід* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі бог падземнага царства, сын Кронаса і Рэі, брат Зеўса, Пасейдона, Геры, Дземетры і Гесціі, муж Персефоны і назва самога падземнага царства. У хрысціянстве міф пра Аіда ператварыўся ў міф пра пекла, куды пасля смерці трапляюць душы грэшнікаў.

*Алімп* — найвышэйшы горны масіў у Паўночнай Грэцыі (каля заліва Тэрмаікос). У старажытных грэкаў — свяшчэнная гара, дзе жылі багі.

*Мглавіцы* — туманнасці.

*Пажога* — пажар, зарава.

*Узвуззе* — цясніна, яр.

II. Змярканне багоў

*Маратонскія* — марафонскія.

*Тэсальскія* — фесальскія.

*Промы* — паромы.

*Гомар* — старажытнагрэчаскі паэт Гамер, аўтар «Іліяды» і «Адысеі».

*Ахайскія* — ахейцы, жыхары Ахеі, вобласці, якая знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы Пелапанеса.

*Марсава слава* — ваенная слава.

*Сакрат* (470/469—399 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф. Вусна распаўсюджваў свае погляды ў Афінах, дзе меў многіх вучняў і паслядоўнікаў (Платон, Арыстып і інш.). Абвінавачаны ў тым, што ўвёў новых багоў і дрэнна ўплываў на моладзь. Пакараны смерцю (прыняў атруту).

*Срога* — люта, жорстка.

*Ердан* — рака Іардан у Заходняй Азіі. Упадае ў Мёртвае мора. Працякае па паўпустынных раёнах сучаснай Іарданіі.

III. Пад крыжам

*Законніца* — манахіня.

*Апат* — абат, ігумен манастыра.

*Кружганак (прысёнак)* — пярэдняя.

*Габіты* — манаскія расы.

*Прапорцы* — сцягі.

*Мша* — меса, абедня, служба.

*Ралейнікі* — земляробы.

*Пасторал* — посах.

*Шатан* — сатана.

IV. На пераломе

*Лёджэта* — лоджыя.

*Кандацьеры* — атаманы наёмных ваенных атрадаў у Італіі XIV—XVI стст., якія знаходзіліся на службе ў асобных гаспадароў і Рымскіх Пап.

*Корны* — пакорны.

*Блюшчы* — плюшчы.

*Макаты* — габелены.

*Мажджэры* — марціры.

V. Цераз кроў

*Дантон Жорж Жак* (28.10.1759—5.4.1794) — дзеяч Французскай рэвалюцыі (1789—1794), адзін з правадыроў якабінцаў. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання (10.8.1792), якое скінула манархію. Быў дэпутатам Канвента, міністрам юстыцыі ў новым урадзе. З 1793 г. член Камітэта грамадскага выратавання; выступаў за прымірэнне з жырандыстамі, супраць рэвалюцыйнага тэрору. Асуджаны рэвалюцыйным трыбуналам, гільяцінаваны.

С. 134: *Рэч дзеялася ў Парыжы, на світанні дня 2 верасня 1792 г.*— Дзеянне п'есы адбываецца ў час другога перыяду Французскай буржуазнай рэвалюцыі, які праходзіў з 10.8.1792 г. да 2.6.1793 г. У гэты перыяд рэвалюцыі быў арыштаваны і пакараны смерцю кароль Людовік XVI, уведзена ўсеагульнае (для мужчын) выбарчае права, паводле якога быў выбраны Нацыянальны канвент. Ускладніліся адносіны паміж рознымі буржуазнымі палітычнымі групоўкамі.

*Дэ ля Рош* — відаць, нацыянальны гвардзеец. Іншых звестак не выяўлена.

С. 136—137: ...*Там шэсцьдзесят тысяч Прусаў, а з імі яшчэ аўстрыякаў / Бадай ва столькі... А яшчэ дабаў і тысяч шаснаццаць нашых паноў. каралеўцаў, што проць нас з ворагам змову ўчынілі...*— У вёсцы Вальмі (Францыя) 20.8.1792 г. войскі рэвалюцыйнай Францыі на чале з Ш. Дзюмур'е і Ф. Келерманам упершыню далі адпор аўстра-прускім інтэрвентам і французскім раялістам пад кіраўніцтвам К. Браўншвейгскага, якія імкнуліся аднавіць абсалютызм, і вымусілі іх адступіць.

С. 137: *Седанскай арміі згінуў начальнік, Не ўбараніла паўночная Лёнгвы...*— Назва арміі паходзіць, відаць, ад французскага горада Седан на рацэ Мёз, які ў мінулым быў цэнтрам умацаванага пагранічнага раёна.

С. 142: ...*калі люд Бастыллю Браў.*— Каралеўская турма Бастылія была штурмам узята 14 ліп. 1789 г.

*Пірынеі* — Пірэнеі, Пірэнейскія горы, горная сістэма на паўднёвым захадзе Еўропы — у Іспаніі, Францыі, Андоры.

*Вердэн* — горад на паўночным усходзе Францыі на рацэ Мёз (Маас).

*Рошамбо Жан Баптыст Донасіен* (1725—1807) — французскі маршал, з адзнакай удзельнічаў у сямігадовай вайне. У 1789 г. далучыўся да партыі руху, але заставаўся памяркоўным. У 1791 г. прызначаны камандуючым паўночнай арміяй, у 1792 г. выйшаў у адстаўку, у 1793 г. заключаны ў турму, дзе знаходзіўся да перавароту 9 тэрмідора.

*Марсыльянка* — «Марсельеза», французская рэвалюцыйная песня. Словы і музыка К. Ж. Ружэ дэ Ліля (1792). Спачатку называлася «Боевой песней Рейнской армии», затым «Маршем марсельцев» або «Марсельезой». Пры Трэцяй рэспубліцы стала дзяржаўным гімнам Францыі (з 14 ліп. 1975 г. выконваецца ў новай музычнай рэдакцыі). У Расіі атрымала распаўсюджанне «Рабочая Марсельеза» (мелодыя «Марсельезы», тэкст П. Л. Лаўрова, апублікавана ў газ. «Вперед», 1.7.1875).

VII. Без назвы

*Мацар* — уладальнік.

*Звадыятка* — звадыяшка (*разм.*), зводніца, падбухторшчыца.

*Эон* — у міфалагічных уяўленнях познаантычнага язычніцтва персаніфікацыя часу. Эон уяўляў сабой бажаство, якое мае чалавечае цела, ільвіную галаву, а цела яго абвіта змеямі. У Я. Купалы ўжыты множны лік.

Слухай, дзяўчына, у вялікай ты ласцы.
Людзей двух мудрых прышло з-за граніцы
Каб азіраці тваю тут асобу
Тваю... бачыць
І з каралеўскай ласкавае згоды
Цябе цікавы...

II Мудры
*(Перапыняе)*

Не так, не так, вашаць!
Людзям ды Мудрым цікавасць не ўходзіць,
Прымета гэта таўпы. Мы прышлі вось,
Каб тут дзівіцца з вялікай дурноты.

I Мудры
*(Перапыняе)*

Не так вы кажаце! Мы не дзівіліся!
Людзей нямудрых адзнакай здзіўлення
Не наша гэта рэч.

Мудры

Мы адно хочам
Цябе пабачыць і ясна давесці,
Што хоць таўпа збунтаваная хоча
Цябе увольніць, што быццам ты здольна
Свет ажывіць абумёрлы на нова:
Мы мудрацы караля Блякса слугі
Цвярдзім станоўча, што ты не патрэбна
І што без цябе ўсё зрабіці ўдасца...
Ці хочаш, цэнячы гонар вялікі,
У супрэчкі з намі ўдацца?

I Мудры

Не бойся
Таго, што мусіш што мы пераспорым.

Мы людзі Мудрыя, ты ж — Душа толькі,
Якой даўно ўжо прапала (усё шчэзла) значэнне.

II Мудры

Табе я мог бы давесці, што нават
Ты не існуеш.

Мудры

Не хоча казаці.

I Мудры

На адазвіся ж. Мы ласку знаем
Скарэй (ураз) з тваіх слоў смяяцца нябудзем

Псіха

II Мудры

Дарма прышлі мы сюды...

Мудры чалавек

Не! Заўсёды
Цікава вельмі пазнаць к
Дзе сядзіць гэта быццам бы саветы
Маніцца збавіць ад згубы. А ўрэшці
Кароль тут будзе, у ягонай прыдворні
Мо не было бы для нас ужо месца
Дык вось прышоўшы раней скарыстаем
З таго, што ўбачым рэч дзіўную гэту...

I Мудры

Не разумею я ўсёй таей справы,
Хоць я і мудры.

Мудры

Знаць справа дурная.

I Мудры

Што ж за такая яна цудатворка
I за што замкнута сюды.

Мудры

Хто такая?
Ні я, і ніхто больш не знае з тых часоў
Яна — не знаю
З адвечных нейкіх вякоў прыблудзіла
Сказаў бы, з светаў даўно ўжо забытых,
Каб на зямлі караля ўсеўладарцы
Бунт сеяць. Гэта яе вось праступак найбольшы!

II Мудры

Чаму ж кароль забіць не прыкажа.

Мудры

Не памагае! Забітая — нанова
Усё недзе родзіцца адвек бунтарка.
Зноў лад муціць, які ўстанавіў тут
Кароль Блякс. З гэтага ж гутарка ходзе
Паміж народам, дурным, як заўсёды,
Што не смяротна яна і што мог

Моц адрадзіць адміраўшыя светы,
Пакуль не дасць Каралю дабравольна
Паклону і гэтым сваю моц знiстожыць
Во, сябры, чуеце? Бы фаля ў моры,
Таўпа аб сцены турмы б'е таўстыя
І крычыць, каб звольніць яе...

І Мудры

У самым дзелі
Таўпу належала б здаўна знiстожыць
Аб гэта ў кніжцы сваёй ўжо пісаў я.

Псіха

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Мудры

О так. Работнік для нас не патрэбны
Ужо болей, — бо за яго ўсё машына
Спаўняе. Толькі ж не шкодзіла б пэўна
(Ці так? Не знаю) Змусіць гэну ведзьму
Каб каралю ўсё ж паклон дабравольна
Дала. Тады б быў спакой. Але дарам
Кароль дагэтуль што дня к ёй сыходзе
Праз сваіх слуг яе памаўляе,
Каб паддалася... сягоння ж найгорай!
Муры турэмныя хоць і тоўстыя,
Таўпы напорышча могуць не здзержыць.

ІІ Мудры

Не разумею, чаго таўпе трэба
Чаго бунтуецца? То ж ёсць дабрабыт
І ёсць парадак.

Дазорац

Кароль ідзе! — ўжо ідзе...

І Мудры

Стан каралеўскі ў лёх (склеп, дол) гэты сыходзе!

ІІ Мудры

Дрыжыць мне сэрца...

Мудры

На бок адасту

. . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Прамовец

Яго ўсяможнасць, кароль, зямлі ўладца,
Пан самаўладны. Мацар безгранічны
Казаць меў ласку, каб прад яго вочы
Прывесці астрожніцу зараз.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Прамовец

Паклон
Ударся тварам

Ніц упадзі, ніц!
Кажу, упадзі ніц.

Прамовец

Каралеўская ласка
Заклікаць хоча цябе яшчэ раз трэці
Каб аддала ёй паклон добраахвотна
*(Па хвілі)*
Табе вядома, што ты тут прыкавана (замкнута)
За то, што вечных была бунтоў іскрай
І беспакой безупынна пладзіла!
Ты — звадыятка, ты і ашуканка-манюка, ты топчаш
Правы і законы, наогул бунтарка
бунтарніца люду
І забівачка і сееш згаршэнне
і робіш падкопы!
Твае вось віны, — але кароль добры
табе ўсё прабачыць, ......... калі ты
Падзеш на твар прад ягоным вяліччам.
*(Па хвілі кажа далей.)*
Кароль дазнаў, што праз нейкія чары,
Якія толькі на смех ці на згубу,
Аднак быць могуць прыгодны ў вапошняй патрэбе
Патрэбе дзеля сваёй добрай мэты:
Ты здольна гінучы свет ажывіць зноў
Кароль у гэта не верыць (бо смешна!) смех быў бы!
І не знаходзе, каб трэ было гэта
Ускрашаць зноў сонца гаснучае ў небе
Ці зелень выводзіць з зямлі адваротна (нанова)
З падмогай чараў, калі мы ўжо маем
Цяпло і святло, вытваронае штучна
На электрычнай машыне і досіць
Запасаў ежы дабытых хэмічна.
Але кароль наш надмеру ласкавы
І як паклон адаб'еш добраахвотна,
Табе пазволіць, — таўпе на пацеху —
Пры ім забавіцца спробамі цуду...
. . . . . . . . . . . . . . .

Прамовец

Упадзі ніц! — вер каралеўскаму слову,
Што будзеш вольнай і ў чэсці нанова!
. . . . . . . . . . . . . . .

Псіха

. . . . . . . . . . . . . . .

Прамовец

Дарэмна слухаеш! Моцны мур лёху
Твайго муры
І без каралеўскае волі не ўвойдзе
Ніхто сюды не ўвойдзе ні сама, і ты не выйдзеш
Прымі ж лепш чэсць
Паслухай слоў каралеўскіх (ую) упаўшы

На твар.

*(Па хвілі маўчання)*

Што знача твая непарушнасць?

Псіха

Хай сам кароль, калі хоча што, кажа...
Яму адкажу я.

Галасы

Кароль?! — што сказала?
Вар'ятка

Прамовец

*(да караля)*

Самдель вар'ятка! Але... аб свет ходзе...

Блякс

Чаго ты хочаш

Псіха

Не! Ты аб што просіш?

Блякс

*(па хвілі)*

Паклон аддай мне... належны ўладарцу.

Псіха

Ха-ха! дык столькі ж, кароль, ты жадаеш
Ад тэй жабрачкі у путах, якая
Стаіць прад
З жалезам збіта стаіць прад табою!
Ты пан сусвету, кароль усеўладны,
Ядыны дзедзіч старой земскай кулі,—
А я? Такой жа няма ў свеце крыўды,
Якой зняслі ад цябе не прышлося!
Ты сон спугнуў мой дзіцячы, высмеяў
Мае маркоты, здушыў лёт да неба,
Маю ты светнасць здаптаў, зламаў сілу
Мя ты зганьбіў і пхнуўшы на збродню
Змкнуў як звера, цяпер жа прыходзіш,
Каб аддала ■ паклон табе нізкі
Мацар гінучага свету, які ўжо
Пад маей уладай трупее.— Ну, як жа
Табе паклон аддам добравольны,
Калі я ў путах.
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Дазорац

Дарма мы трудзімся!
Урасла сталь у цела, і замкі заржавелі —
Не паддаюцца...

Псіха

Дык прэч жа ад рук мне!
Магу знаць звольніцца толькі сама я!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І Мудры

Як ніць сарвала сталёвыя сковы!

Мудры

Во гэта чары! — яна здольнай будзе
Ускрасіць свет з мёртвых!

Галасы

Збаў нас! Збаў нас! Пані!
Мы молім
Цябе благаем

Псіха

Вас збавіць — ці ж можна
*(падымае руку)*
Але тых, гэтых, якія там — клічуць...

Блякс

Глядзі, каб путаў не даў я таўсцейшых!
На твар!

Псіха

Твая моц цар трупаў ужо аслабла
Закуй мяне і чакай апоследняй
сваёй гадзіны! Во слухай галодных, якіх і золатам
ты не насыціш!
І цешся з мудрасці, што ўжо няздольна
адзін з зямлі вызваць халоднай
Лісток з зямлі ўзрасціці халоднай
С спакою цешся, які ўраз жа будзе
Ужо апошняй і смертнаю глушаш
Перамогай цешся сваёй, але помні,
Што ў мяне адной жыцця пачатак
І што мяне можна згнясці, ды ніколі
забіць. Скажы скуць мне рукі нанава.
Кароль, але я кажу: табе гэта
Тваё жалеза маіх рук не здзержыць.

Галасы

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Змілуйся, пане! Прамові, прамові
Хай нас ратуе! Жыць пад табою добра,
Дый хочам сонца, жыцця, хочам кветак!
Змілуйся пане.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прамовец

. . . . . . . . . . . . . . . . . .
ўзбурэнняў
Баюся разрухаў...
Калі б табе яшчэ ў такім страшным (жуткім) часе
Святую вернасць зламаць захацелі,
тады...

Псіха

Грыміць во як, чуеце? — фаля!
Хадзеце вы, што завеце Душы! Я
У муры б'ю гэтыя сэрцам і сцежку
Сцялю праз камень для вас! Дык хадзеце!
Вось надышла ўжо часіна дасыту!
Вось я астатняй адкуплена казняй
Сабрала сілы: усе мяне клічуць,
Мяне ўсе знаеце, як не хапіла
Мяне паміж вас! Хадзеце, для вас я
Дам вызваленне — сабе і вам. Хадзеце!
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .

Бякс

. . . . . . . . . . . . . . .

Ніц упадзі!

Псіха

Упадзі ты, нявольнік.

Галасы

Што гэта? Згублена!

Галасы

Псіха! О, Псіха!

Псіха

На твар! — казала...

Галасы

О згроза

Псіха

Гінь, звер ты!
. . . . . . . . . . . . . .

Эрос

О, Псіха!

Псіха

Эрос! Эрос!

Хор

Вітай, Псіха!
. . . . . . . . . . . . . . .

Псіха

Вось зноў пры мне ты пан, каханак, кароль!

Гэдона

Абцёрты слёзы твае, забыты боль!

Псіха

Хай злуча шлюб з табою мяне па гроб!

Каллёна

Прашоў тваіх тых ужо час горкіх проб!

Псіха

Даруй, спакой мне, дай мне загладу він!

Меліка

Ты цераз споўнены збаўлена ўжо чын!

Псіха

Тваёй хачу ўжо на векі векаў быць!

Гагна

Мінула мора пакут а бераг тут ляжыць!

Псіха

Цябе шукала і нікога век болей
Ідучы праз багны жыцця і крутавішчы
Калі ў сне гэта твой твар мне іскрыцца
Хай жа ніколі мой сон не мінецца.

Хор

Прыгожай, шчаснай, нявіннай і спеўнай
Са сну цяжкага ўстаеш, каралеўна!

Гэдона

Вітай праз сонца, што ў далі льсніць сіней

Каллёна

Вітай праз кветкі на гэтай лагчыне

Меліка

Вітай пра горы птушатаў у гаі!

Гагна

Вітай праз віры срабрыстых ручаяў!

Эрос

Ці чуеш песні, што іграюць,
Ды зноў цябе каралеўну вітаюць
На блонях вечнай тваёй жа айчыны?
Замкнуты раны твае і крывавіны,
Што ў тваіх белых палах рылі церні,
За ценем маім ідучы калісь верне,
Выгнанкай босай праз жыцця разоры
Ішла ў загнанні, праз гной земскі — ў зоры
А што ўвесь чыста знясла боль і труд
А што цябе не збыдліў земскі бруд
Хоць мат пільгрыміх чапляўся ў след
Ты цвет во лілы вышла з якіх,
З якіх узрасла ты во лілії цвет.
Як калісь белы і толькі сагбёны
Расой слёз срыбных, якою Эоны
У пралёце плачуць над горам, ліхотай,
Стаецца праўдай твая ўся маркота

І што адно сном было ў першай добе.
Па чым ламала ты рукі ў жалобе
— Калі зляцеў сон — як блукала ў цені,—
Сягоння явай зіяе ў праменні:
Вось [redacted] сыходжу ў красе яснай сонца
На рай вялікі апошні, бясконца!

Псіха

О, Эрос! Эрос! Кароль мой і пане!

Эрос

О так! — Я Эрос, бо [redacted] — над адхланяй
Хаосу, рукі прасцёршы, з бязруху
Дрыжэнне вызваў і чарамі духу,
З яго свет вывеў квяцісты, ў яснотах,
Бо вось тварэц я хацення і маркоты
Якая ў глыб б'е, ці ў неба прасторы
Жыцця ахвярнік і болю прыспора
Але што маю ў сабе ўвесь пачатак
Канец усіх рэчаў, з якіх на астатак
Клубок пляцецца забы
Забыць і журбам даю моц цярпенне
І ўспакаенне апошняе журбаў
І ласку шчасця нявысненай, ціхай:
Завуся яшчэ я — о, Псіха.
Дрыжэнне вызваў і чарамі духу
З яго свет вывеў квяцісты, у яснотах,
Бо вось тварэц я хацення і маркоты,
Якая ў глыб б'е, ці ў неба прасторы,
Жыцця ахвярнік і болю прыспора.—
Сабой з'яўляючы, як і пачатак,
Канец усіх рэчаў, з якіх на астатак
Клубок пляцецца, даю моц цярпення
Забыць і журбаў даю ўспакаенне
І радасць шчасця нявысненай, ціхай:
Завуся яшчэ я — о, Псіха!

Пахіляецца і складае пацалунак на губах узлюбёнай.
Усе прысутныя прыкленківаюць, дзе-якія падаюць на твар.
Наступае ціша апошняя.

Варыянты аўтографа:

35 Й ўсю пару з убораў хай вып'е і высcе
37—38 Сыпецца ў смазе па земскай вільгоці
І воўну беліць, а твар дзеўчы залоціць.
43 Золата, скарбаў, зброі поўны усялякай святліцы.
45 А скарб найбольшы — дачку маладую.
47 а З намі не скакала — ці што цябе мучыць?
б Не йшла ў гульні з намі — ці што цябе мучыць?
в Пакінула гульні — ці што цябе мучыць?
48—49 Ці ўжо так вочкі, нараўне з звяздамі,
Забавіў тваіх шчок вобраз бліскучы,
53—54 Глядзішся ў ваду, як недзе мчыцца,
Й не кінеш вокам на слуг верных, што гуляюць
58 а Ужо ж мы шчаслівы
б Вось тут мы вясёлы
в *Як у асноўным тэксце*

62 На хорам бацькі твайго красы небывалай,
63 а Й на гай лаўровы, ад кветак ружовы,
б Й на гай цяністы, ад кветак ружовы,
69 а Мы разам з табою!
б *Як у асноўным тэксце*
71—72 а Ці не было вам у думках ніколі,
Каб паляцеці за скалы, на полі
б *Як у асноўным тэксце*
73—75 а Туды! Й пабачыць, што там ёсць за імі
Ці так, як тутка, зялёнае поле,
Ці мо які там край выснены дзіўны?
б *Як у асноўным тэксце*
79 а Тут надта
б *Як у асноўным тэксце*
84 а Я не знаю
б А я скуль знаю?..
в *Як у асноўным тэксце*
85 Ужо высахлі ўборы,
86 а На белы камень завешаны ў пору,
б *Як у асноўным тэксце*
87—88 а Ужо час прынесці лазовыя кошы,
Й добра вадзіцай пабеляну воўну
б Цяпер пара ўжо прынесці лазовыя кошы,
І ў іх напоўніці пабеляну воўну,
90 Дамоў яны вярнуліся поўны,
98 а Пакліч уперад йшчэ парабка,
б *Як у асноўным тэксце*
99 Каб жыва прынёс к нам пляцёныя кашы...
105 а І ён пытае, бяжы, толькі жвава!
б І ён пытае, бяжы, толькі шпарка!
в *Як у асноўным тэксце*
106, 108 а Й цягні кашолкі, што там за кладкай
Бялізна сохне, памытая здаўна!
б *Як у асноўным тэксце*
109 а Яшчэ на ліха засне па дарозе шэльма!
б Яшчэ ў дарозе засне гэты зломак!
в *Як у асноўным тэксце*
111 а Адстаньце, дзеўкі, калі вам кажу я,
б Адстаньце, паганыя дзеўкі, калі вось маўчу я,
в Адстаньце, паганыя дзеўкі, каб вас пустадомак!
113 а Калі узлуюся ж, кажу, не дарую!
б *Як у асноўным тэксце*
115 а Або дзяўчаты спярша пакупацца ахвочы,
б Мо дзяўчаты раней купацца ахвочы,
118 а Пастанем гэтта вянком хараводным,
б Пастанем гэтта вянком неразвейным,
120 а Далей, дзяўчаты! Хай громам б'е рэха,
б Гэй жа, дзяўчаты! Хай громам б'е рэха,
в *Як у асноўным тэксце*
121 Збуджона песняй і нашай ахвотай
125 Там тыя сарокі могуць скакаць сабе
уволю, толькі ты, Бляксе, ідзі да работы.
127 а Пачну я таночную песню!
б Пачну я песню напеўна!
131 а Скачыце... Гэты блеск сонца заходні
б *Як у асноўным тэксце*

134 а Дзе ляжыць сонца ахвярай крывавай...
б *Як у асноўным тэксце*
135 Што ж гэта? Селі вакола ўсе ціха,
138 а Без цябе забава нішто нам не знача!
б Без цябе забава што для нас знача!
140 а Чым раз'ясніці твой воблік задумны?
б Чым гэты смутак табе разагнаць маркотны?
в *Як у асноўным тэксце*
141 а Мо песні хочаш — спяю ўраз, ахвотна?
б *Як у асноўным тэксце*
142 а Ці... аб магутнасці бацькі скарбніцах,
б Ці... аб неабнятных бацькі крыніцах,
143—145 Пана ўладарнага ніваў бязмежных,
Ці аб красе мо тваей негаданай? —
Загадвай, пані!
149 Святых, вячэрніх, таемных гадзін...
155 Скажа аб тым, як неяк на ранні
159 а Звяр'ё, што ноч адно сочучы ў бары,—
б *Як у асноўным тэксце*
160 І раптам ткнуты вялікаю моцай,
162 а Паў на калені, к небу ўзнёс рукі:
б *Як у асноўным тэксце*
163 а О, зорка, зорка! спусціся на глебу,
б О, зорка, зорка! не дай цярпець мукі,
164 Й тады вось выстраліў з лона агніца
167 Й святлом жыве так... У песні той спеўнай
184—187 Ўся песня, знай, аб табе, каралеўна!
Як вечар сонца зацьміць пазалоту,
Чало тваё йскрыцца яснасцю звеўнай,
А на раменях, як дзве быццам вясёлкі.
186 а Як з павуціны дзве красны балонкі,
б Як з павуціны дзве ясныя столкі,
в Як з павуціны дзве цветныя столкі,
192 а Расой іскрацца...
б *Як у асноўным тэксце*
203—204
а { І ўсё жывое, жадаўчае плоду.
Нам нельга ў дзень яму замінаці }
б { І ўсё жывое, што плоду жадае.
Нам замінаці нельга яму ў справе, }
205 а Якое тут хутка можа пачаці;
б *Як у асноўным тэксце*
211 а Мы ходзім шыбка! дык можам адстаці...
б Мы ходзім шыбка, дык можам не ўгнаці...
213 Застанешся! — доўга?
214 а А як захочаш, твая ж бо слуга я...
б *Як у асноўным тэксце*
215 Пайшлі ўжо тыя... Саколка — Арэта
217 а Майго айца, караля-магутніка...
б *Як у асноўным тэксце*
219 І роўная красай з багамі Кальёна.
225 І ў белі йдуць там па ўсходах злачоных,
226 Акутых, вядуць што проста да брамы на заслонні
227—228
а { Замчышча бацькі майго, глянь праз браму,
Адкрыту яснасць агністаю плямай — }
б *Як у асноўным тэксце*

234 Спладжоны з людскай агромнай маркоты
236—238 Здаецца, помню пра дзіўныя гаі
І ў скалах вісячыя рэкі-рачаі
У глыбіні мораў, пад небныя шчыты
243 а Не знаю... Ён мой не названы,
б *Як у асноўным тэксце*
246 а І я — ў маркоце, з жаданнем і верай,
б *Як у асноўным тэксце*
283 Цяпер блакіт бесканечны разляжа
284 а І зорамі ймжыць... О, шчасныя хвілі.
б *Як у асноўным тэксце*
291 І з'яў весцяць хвілі ядынай у шчасці.
299—300 Йдзе ноч без шэлесту ў постаці ўдовай...
а Ці чуеш? — нейкія крылляў узмахі
б *Як у асноўным тэксце*
304—305 І зораў белых нябылую беласць?..
Прайшла скрозь, дрыжа, па кветках, па дрэвах...
316 а Каго ты клічаш, князёўна? Мне страшна!
б *Як у асноўным тэксце*
317 а Я — што крыніца, што гэтае дрэва ў лесе.
б Я — што крыніца, што лісцік дрыжачы,
318 Я толькі арфа, што песні пяе ўсім у прадвесні,
319 а Калі ты пальцам кранеш яе складна!..
б *Як у асноўным тэксце*
324—325 Адным пакратам сваіх рук чароўных!
Аж без цябе я? — нічым — сухім лістам
330 а Адна я сама тут,
б *Як у асноўным тэксце*
331 Цябе маркота мая прызывае!
333—335 О, ты магутны, няведамы Божа,
Які ёсць — чую — як процьма, як мора,
Як безгранічна паветра прасторы!
339—340 Грудзей адклікам, крылоў тваіх ценем.
О, ты вялікі, о Божа нязнаны!
346 І на крыніцу, што прыход твой весціць.
356 а Якаясь музыка, поўная ласкі,
б Якаясь музыка, поўная ўцехі,
в *Як у асноўным тэксце*
357 а Скрозь пранікае мяне ўсю,
б *Як у асноўным тэксце*
362 а Ад шчасця млею, ад болю пяшчоты...
б Ад шчасця млею, ад млоснага болю...
в Ад шчасця млею, ад болесці млоснай пяшчоты...
363 Уладар мой ясны! кароль ты мой ўзносны!
364 а Затоннем неба ўзносілі крылаты,
б *Як у асноўным тэксце*
373—374 Днець пачынае, а йшчэ мае крыллі быстры
Мусяць ночку дагнаць, што ўцякае
375 а О, не адходзь! Я хачу йшчэ на аблічча пабачыць,
б О, не адходзь! Я хачу йшчэ на аблічча зірнуць тваё,
376 Што цень нядобры цяпер закрывае ўладна;
379 а Як та крыніца, дзе неба глядзіцца,
б У якой бязбрэжнае неба глядзіцца,
381 а Яны напеўны, як воблак сняжысты,
б Яны падобны воблакам сняжыстым,
в *Як у асноўным тэксце*

382—383 Што сыпе ў небе росы быццам яблокі тыя.
Маўчы, мая міла!
384 а Ці чуеш, як я мілосна сціскаю?
б *Як у асноўным тэксце*
386 Цябе йшчэ ўбачыць, каханак мой мілы
394 Мяне той знае, не пазнае хто,
398—399 Табе зямлю збудаваў я зялёную,
Як ты яшчэ спала, табе я на стрэчу
Паміж 402—403: І вось мая ты! Мая, мая — Псіха!
410 а Пазнаць цябе ці ж не будзе мне змога?
б Ці ж ніколі пазнаць не змагу я?
411—412 Чаму ж адну толькі дарогу даўгую
Адбудзеш, покі ка мне найдзеш ходы.
Пры табе буду — нябачаны, вечны, заўсёды вячысты!
415 У моц праз мяне расці і ўзлятаці,
423 Матыль ясняны!
426 а Во ўжо й дзень падходзе,
б *Як у асноўным тэксце*
428 а Маймі валасмі звяжу цябе шчыльне
б *Як у асноўным тэксце*
474 О слаўся ў ранічных красах вясёлак —
478 Воч нашых радасць, сявец няўпынны,
481 а Жыцця жывіцель бязмежна красуеш,
б *Як у асноўным тэксце*
499 а Удаволь спагнаць з ім пякучую журбу
б *Як у асноўным тэксце*
505 У вясельным страі!
508 Проч ад мяне йдзі! Проч
520 ... Помні толькі, што ты мяне сама пракляла!
524 Каб зямля чорная лепей глынула!..
526 а Як корч смалісты, кінуты ў агнішча
б Як корч смалісты, гаручы ў агнішчы
в *Як у асноўным тэксце*
527—529 Страшнога слова таго ўжо навекі! —
Судзіце карай мяне найцяжэйшай;
Усё я выцерплю, вас славячы, богі,
540 а Дайшоў твой голас да шчытоў Алімпу
б *Як у асноўным тэксце*
549 а Калі не стала яго, і ты знаеш, што плачам
б *Як у асноўным тэксце*
552 а Калі не дасі мне надзеі, што буду
б *Як у асноўным тэксце*
562 Стварыў усё чыста і ўсім чыста ўладае —
566 а За яго крылляў ганяючысь шумам,
б За яго крылляў сочачы шумам,
в *Як у асноўным тэксце*
569 а Не верыць, верыць і ў час буры блукацца,
б Не верыць, верыць, блудзіць сярод буры,
573 а Якую ў лоне тваім ён навеяў
б *Як у асноўным тэксце*
641 Смагнуць 'ншчэ па душы заблуканай.
648 Яшчэ нам сняцца Маратону гоні
650—652 Ды Ксэрксавы гаручыя промы,
І па-над Азіяй — пажар крывавы,
І мудрацоў нашых песні і слава

653 а І клум статуяў, сабраных да Ромы!
б *Як у асноўным тэксце*
659 Мы плацім нашай былой нашай славай!
661 Што рве нам грудзі да горкага поту
663—664 Якая жыць па нас будзе заўсёды,
Калі ўжо смутныя сыйдзем ў магілу,
672—673 Як за нас іншы здабывае землі,
А для забаўкі... лічыць тыя гукі,
677 Шал, песні, збыткі, як усё — адна згуба,
692 То йдзі там смяяцца!
696 Так ломіш...
699 а Які там шум?.. Ідзі й цешся!
б Што гулка там?.. Ідзі й цешся!
703—704 Гняце мне ў горле паветра й заўзятасць!
Мне грудзі ціснe, як бачу, што гэты
706 Уладай гнібіць людзец, як сам, лепшых.
714—715 Так, твая праўда, так! Мы — патаптаны,
Йшчэ горш: бяссільны,— яшчэ горш: нікчомны!
716 а О! вы, наследнікі лаўраў павяўшых!
б Знаю вас, дзедзічы выцвіўшай славы.
730 Шкада, што богі далі і віно вам...
733 Вам музыкантамі быць і пяўцамі.
748 На міг прарваная, далей шалее!
758 Не Марса сёння чцім, святкуем сёння Эраса!
767 Прэч ад грудзей мне! Смярдзіш віном, старча!
780 О, ты прыгожая майская кветка!..
783 Віна! філосаф заве: віна!
787 а І п'ецца з імі прыемна і гладка!
б І п'ецца з імі прыемна, са смакам!
789—790 Умеюць вашую цаніць ласку...
Здраднік!
794 Не руш яго больш — то ж гэта філосаф!
799 Забараняе, каб так чалавека
808—809 а { Намеснік, толькі пара мне йсці ўжо...
Вам жычу добрай забавы!
б *Як у асноўным тэксце*
826 а З мяне ён кпіць!
б *Як у асноўным тэксце*
827 То ж гэта абраза!
831 Не! Ты, намеснік, мной не ўладаеш!
839 І праўду кажаш! Жывых не павінны
842 Арыстос быццам даволі багаты,
849 а Ці сапсуў гумар вам старык той?
б *Як у асноўным тэксце*
850 Вянок на галаў мне з свежых рож дайце! —
861 Хай новыя нацягнуць!
868 Была ў горадзе вандроўка — спявачка!
882 Слуга! — так да нашага пана гавора!
887 Вядзе мяне сум, нясе мора хваля,
891 Добрая думка! Спявай нам, дзяўчына!
901—902 Праз гулкія месты, праз шумныя моры;
Дзе сонца гасне, уставаюць скуль зоры,
914 а Калісь мне згінуў у блакітаў затонні
б *Як у асноўным тэксце*
919 Малю вас! — Ці вы яго не сустрэлі?..

921 *а* Мы яго знаем. Ты добра папала, дзяўчына!
*б* *Як у асноўным тэксце*
922 Мы ўсе, што тут у яго на службе!
925 *а* І ні тут з намі ў яго чэсць у нашай кампаніі
*б* *Як у асноўным тэксце*
928—929 *а* Тут Эрас панам, усё ён прыкмеце,
Усім вочы любасна кветкамі ўквеце!
*б* *Як у асноўным тэксце*
943—944 Ён, як захоча, то спаліць і стравіць,
І, як захоча, асвеціць і збавіць!
946 *а* У ім я, выгнанка, па смерць закахана,
*б* Яго — выгнанка — люблю я няўстанна,
951 Ці не зышоў, каб з маей ўжо балесці
957 Скажы, скуль знаеш яго, белаліца?
960 *а* І нашу ў сабе я яго таямніцу
*б* *Як у асноўным тэксце*
971—972 Й твая таксама?
А так, як жа! Здаўна няма праўды!
975 Дык вазьмі гэту вар'ятку ў навуку!
977 Пайсці ў навуку? Ён у справах Эраса
980 Каб жыць раскошна! — Тады мо здалееш
982 *а* Запець нам песню не гэтак нудную!
*б* *Як у асноўным тэксце*
984 Без пятуха як нясці яйкі маюць!
985 *а* Не кпі так! Глянь: як шчырванела!
*б* *Як у асноўным тэксце*
989 Эрос,— дзіцянётка,
992 *а* Ў сэрцы — рана, мру з маркоты —
*б* *Як у асноўным тэксце*
1001 Тут, дзе ў грудзях рана,
1006 О, залётнае дзіцятка!
1014 А ты за нудныя песні: на — плату!
1027 *а* З намеснікам кепска!
*б* *Як у асноўным тэксце*
1030 А, чорт, чартаніца!
1040 Яе не знаю? Йдзе зсюль — каралеўна!..
1050 *а* І змые з вочаў усе загаворы
*б* *Як у асноўным тэксце*
1052—1055 Дурман апутаў... Шмат выпіў, знаць, віна
Так, так дурман нейкі... Йдзі адсюль, дзяўчына.
Калі не хочаш, каб голаў тапор табе скінуў.
Даруйце, што быў аслабнуў я штосьці,
1078 А йдзе той толькі за ім, хто ў загнанні...
1084 *а* А дзе ён ступіць, усходзяць там лілы,
*б* *Як у асноўным тэксце*
1092 *а* Што, як усмешка, у высях там свеціць,
*б* *Як у асноўным тэксце*
1093—1094 І маё сэрца ў руках, так як струны,
З якіх, як захоча, ён песню расквеціць...
1111 Ачысце сэрца, калі перахрысце,

У чарнавым варыянце раздзела III наступны спіс дзеючых асоб:

Ксенія.
Сястра-гаспадыня.
Сястра-вартаўніца.
Псіха, законніца.

Ганна, вясковая дзяўчына.
Духоўнік манастырскі.
А. Блякс.
Блудны рыцар сонца.
Манашкі і дваране.

1346 Вось аддала я табе ўсё жыццё
1353 а Цябе бачыла ў снах дзіцячых,
б *Як у асноўным тэксце*
1355 а Між пастухамі, дзяцьмі і аўцамі,
б *Як у асноўным тэксце*
1358—1359 Калісь, даўно, ўжо я йшла асвятляцца
У бляск сонца і ў неб лазуры...
1370 О, сэрца, сэрца! Не сні ў нябыцці!
1373 — Ты сонца і зор стварыў многа —
1388—1389 Грашу, як гляну на сонца ў блакіце:
Грэх! Грэх, усё чыста грэх? —
1405 Ад чарадзеяў маю сёння весць
1407 Што ў няволі ты, мой снёны цуд!
1411—1413 Знаць, рыцарскі крывавы труд —
Скрышыць муры і знішчожыць лёх гэты
Й вянок табе з рож сплесці,
1425 а Табе вастрогу адкрыю вароты,
б *Як у асноўным тэксце*
1540 І там пад небам згарае,
1541 а І дажджом блыскотак спадае на зямлю.
б *Як у асноўным тэксце*
1553 а Аддам жыццё я! Ці ж можна даць болей?
б *Як у асноўным тэксце*
1565 а Любіць хацела б у рэчы вялікай,
б *Як у асноўным тэксце*
1583 Я ўсё заплаціла!
1588—1589 а { Дай маю раду: няхай камандзіраў,
Наёмныя войска, як сабак трымае,
б *Як у асноўным тэксце*
1591 Узяць хутка на ўвязь і шчэліны скуці,
1602 Так, але князяў мудрасць
1604 Чыніць абразу, калі ўсцерагчыся
1606 а Вось... калі ёсць хто з верных...
б *Як у асноўным тэксце*
1611—1613 Ці... што любіла гуляць з жыццём гэтым,
Гром небяспек вызываць і глядзеці
З багоў усмешкай на дні і здарэнні...
1617 а Што гледзя з гідасцяй на яго пабеды
б *Як у асноўным тэксце*
1620—1621 Дрыжэла з радасці, што слухаць мусіў
Ненавісны гэты мяне!
1623 Выбраўшы самых важнейшых, што пабудавала
1625 А ўцехай ў гэты, што бачыла марнасць
1633 а Й чаму не знаеш, і што маркоцішся...
б *Як у асноўным тэксце*
1645—1646 У абедзе...
Слухаць? Што слухаць?
1648 а { Даў песню трэцюю ёй для прагляду;
Даў ёй прагледзіць тры першыя песні;
б *Як у асноўным тэксце*

1650 Ці доўгая такжа?
1655 Можа, можа яе і зварушa...
1656 а Скажы, ці праўда, што кажуць у месце
б Скажы, ці праўда, што ў горадзе кажуць
в *Як у асноўным тэксце*
1660 Дык гэта мо збыцца? Вось ліха!
1662 Нічога! Мы мець пана
1667 а У нагах яе ўмру!
б *Як у асноўным тэксце*
1668 Ці не лепш было бы,
1672 Якое смерці не любіць..
1675 Дзе ёсць княгіня?
1681 Што за гвалт такі тут?
1682—1683 а { Дзе, пані, княжна? Я мушу тут
Зараз з ёй гаварыць...
б *Як у асноўным тэксце*
1684 а Княжна занята
б *Як у асноўным тэксце*
1692 Што тут за гоманы?
1694 А! Джыраляма! Вітай мне, паэта мой!
1704 а Паэт! вянок для цябе мець належыць!
б *Як у асноўным тэксце*
1710 Маем
1713 Так! на Бога! — ды хутка!
1722 Кінь паперы ды слухай!
1725 Ах! Блякс... Пасол ягоны быў: жадае
1729—1730 а { Глядзі пісьмо во, якое табе я прыношу,
Яго напісана штыхом!
б *Як у асноўным тэксце*
1732 Блякс аблёг горад і ўслух табе грозіць,
1737—1738 а { Усё! з выняткам таей толькі жмені,
Што ■ належу... на смерць мы гатовы.
б { Усе! апроч тэй толькі жмені,
Што я кірую... на смерць мы гатовы.
1743 а Народ твой толькі плаціў век даніну.
б *Як у асноўным тэксце*
1752—1753 Каб узрасталі твае землі й слава!
Цяпер Блякс твой жа сабака сярдзіты,
1755 а І шчырыць зубы на цябе, а народу
б І скаліць зубы на цябе, а народу
в *Як у асноўным тэксце*
1756—1757 Грашыма суліць — гэта галытня...
Дык люд з ім разам? Ён склікаў люд, кажыш?
1761—1762 а { Што пада мною люд ёсць...
Чаму ж не раней!
б *Як у асноўным тэксце*
1772 а О, не! мая добрасць
б *Як у асноўным тэксце*
1775—1776 а { Люд хоча волі! Яе не дасце вы, —
Дасць... нехта іншы!
б *Як у асноўным тэксце*
1782 На ласку Бляксаву здаецца й няласку,
1786 Памерці ў браме тваёга палацу.
1789 Смерць тваю бачыць не хочу, бо пакуль
1790 Махнём на гэта! Як шмат, вам здаецца,

1799 Княжа!
1808 Я гэтак рада!
1814 Там вораг твой крыша ўжо брамы!
1817 Здавацца будзе — адно шум цыпрысаў...
1821 Нічога. Склічу другоў сваіх верных,
1822—1823 А вы мне адно, адно не кажэце,
Што маё княства жыве дзень апошні
1823 а Век дажывае... Хачу, каб зашло так,
б *Як у асноўным тэксце*
1845 Спяшыш мяне ты?
1848 Ці буду ставіць, але вас, мастача,
1850 а Пані! мы мусім вас кінуць!
б *Як у асноўным тэксце*
1858 Так шчыра дзякуй! — сягоння дадзела
1876 Аб ласку ў княжны заўсёды хлапочыш?
1891 а Ах! глупства,— ўжо скончана справа!
б *Як у асноўным тэксце*
1894 А гэта знача, мець будзем вяселле!
1897 Сягоння, пані, падобна ты сонцу!
1900—1901 Пасля заяснела, пабачыўшы ўзрок твой!
Ах! гэта міла! — Ларэнца! Я песень
1912 Усё...
1964 А шчасце вольна, кажуць мае сястрыцы!
1973—1976 У панскім князевым двары,—
А шчасце вольна...
Досць гэтай песні! — То песнь маркоты,
2002 Што тут?
2005 Ці ж вы спалохалісь?
2010 Так ёсць, так, пані
2013 На небе зорка, спавіта ў блакіты!
2014 а Прамень твой душам шлях млечны ўбівае,
б Прамень твой душам шлях млечны ўкладае,
2024 Песнь Джыралямы мяне так варушыць.
2025 Чытай, чытай, мой мастача!..
2037 Хай скажа песня, што ўмерць я гатовы
2041 Я тут! Што трэба?
2043 Здрада!

*Зямля* (с. 161)

Пераклад з украінскай мовы аднайменнага апавядання П. Панча.

Друкуецца па кн.: Панч П. Зямля. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Менск, 1928, дзе ўпершыню надрукавана ў перакладзе на беларускую мову.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Панч Пятро* (сапр. Панчанка Пётр Іосіфавіч; 1891—1978) — украінскі пісьменнік. Неаднаразова сустракаўся з Я. Купалам. У 1928 г.— у Харкаве і Мінску на святкаванні юбілею Т. Шаўчэнкі, у 1932 г.— у Харкаве на адкрыцці Днепрагэса, у 1934 г.— у Маскве на 1-м з'ездзе савецкіх пісьменнікаў, у 1935 г.— у Харкаве на адкрыцці помніка Т. Шаўчэнку. П. Панч выступіў на пахаванні Я. Купалы ў Маскве.

Пісаць пачаў у час службы ў арміі (1916—1921). Першыя нарысы апублікаваны ў 1922 г. У 1923 г. выйшлі ў свет першыя творы — аповесці «Там, дзе вербы над ставам» і «Гнёзда старі». Аўтар шматлікіх кніг апавяданняў, аповесцей, рамана «Облога ночі» (1933) і гістарычнага рамана «Гомонила Україна» (1954). П. Панч — лаўрэат прэміі імя Т. Шаўчэнкі.

С. 176: *...направа — сталыпінскія хутары...*— Па закону аб зямельнай рэформе ад 9.11.1906 г. сялянам дазвалялася выходзіць з абшчыны і перасяляцца на хутары.

С.178: *Камнезам* — камітэт незаможных сялян.

*Пастух* (с. 182)

Пераклад з украінскай мовы апавядання А. Любчанкі «Пастух» (Стэпавая легенда).

Друкуецца па кн.: Любчанка А. Пастух. Апавяданні. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Менск, 1929, дзе ўпершыню надрукавана ў перакладзе на беларускую мову.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Любчанка Аркадзь* (1899—1945) — украінскі пісьменнік, родам з Кіеўшчыны, актыўны дзеяч літаратурнага руху 1920—1930-х гг. Сакратар літаратурнага аб'яднання «Гарт», супрацоўнік і сакратар ВАПЛІТ (літ. часопіс арганізацыі ўкраінскіх пісьменнікаў — Вольнай Акадэміі пралетарскай літаратуры).

Друкавацца пачаў у 1918 г. Аўтар рамантычна-імпрэсіяністкіх зб. апавяданняў і аповесцей «Буремна путь» (1927), «Вона» (1929), «Вертеп» (1930), «Вітрила тривог» (1932) і інш. Памёр у Германіі. Пасмяротна выдадзены «Щоденник» (1951). Пісаў нарысы, перакладаў з французскай мовы А. Дадэ і Ф. Марыяка[1].

*№ 2002* (с. 189)

Пераклад з украінскай мовы апавядання А. Любчанкі.

Друкуецца па кн.: Любчанка А. Пастух. Апавяданні. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Менск, 1929, дзе ўпершыню надрукаваны па беларускай мове.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Ціхі Хутар* (с. 197)

Пераклад з украінскай мовы апавядання А. Любчанкі.

Друкуецца па кн.: Любчанка А. Пастух. Апавяданні. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Менск, 1929, дзе ўпершыню надрукавана на беларускай мове.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Паэтычныя ўрыўкі з камедыі «Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча* (с. 204)

Друкуецца па кн.: Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 2002 (уклад. Я. Янушкевіч).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Лібрэта камедыі-оперы «Ідылія» («Sielanka») напісана ў 1842—1844 гг., упершыню друкавалася ў асобным выданні «Sielanka». Opera we dwóch aktach, napisana przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Wilno, drukiem Józefa Zawadzkiego, 1846.

Упершыню ставілася на сцэне ў Мінску 9.02.1852 г. У творы паны размаўляюць па-польску, сяляне, часам паненка Юлія і камісар,— па-беларуску.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску захоўваецца выпіска з пратакола рэдакцыйнай калегіі Інстытута беларускай культуры ад 24.02.1926 г. «Аб выданні камедыі Вінцука Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка», у якой, у прыватнасці, адзначалася: «Асноўны тэкст камедыі ўзяты з копіі, спісанае нябожчыкам Аляксандрам Бурбісам з друкаванага паасобніку «Сялянкі» выдання 1846 году, які знаходзіцца ў Кракаве... Пераклад на сучасную беларускую мову зроблены Язэпам Лёсікам — проза і Янкам Купалам — вершы. У назначаным да друку рукапісу, у аснову якога пакладзены так званы бурбісаўскі спісак «Сялянкі», зроблена параўнанне з так званым Мазырскім спіскам «Сялянкі» 1860 году, які носіць загаловак «Różna miłość bywa» (БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1434, л. 1 адв.). Працяглы час камедыя

---

[1] Звесткі прадстаўлены Т. В. Кабржыцкай і В. П. Рагойшам.

«Каханне бывае featured» (рукапіс знаходзіцца ў Лондане) памылкова лічылася арыгінальным творам драматурга, пакуль што не адшуканым (гл. БелСЭ. Т. 4. Мн., 1971. С. 313; Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 134).

Першапублікацыя поўнага беларускага перакладу камедыі здзейснена ў выданні «В. І. Дунін-Марцінкевіч. Збор твораў» (Мн., 1958. С. 7—65) з наступным сціслым каментарам: «Друкуецца па выданні «Sielanka». Opera we dwóch aktach, napisana przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Wilno, 1846.

Твор напісаны на польскай мове. Але сяляне размаўляюць па-беларуску. Вершаваныя радкі «Сялянкі» падаюцца па перакладу Я. Купалы. Рукапіс перакладу захоўваецца ў музеі Я. Купалы» (с. 421).

У дадзенай публікацыі ўрыўкаў дзе-нідзе пакінуты радкі, прыналежныя Навуму Прыгаворку, хору сялян, г. зн. напісаныя ў арыгінале па-беларуску, каб падкрэсліць перакладчыцкае майстэрства песняра, паколькі Янка Купала вымушаны быў шукаць рыфму для рэчытатыву Юліі, Кароля і г. д. абумоўленую папярэднімі рэплікамі герояў камедыі-оперы.

Чарнавыя аўтографы перакладу Я. Купалы захоўваюцца ў ДзЛМЯнК (ф. 1, воп. 1, адз. зах. 333—334).

Іншыя варыянты:

| | | |
|---|---|---|
| С. 204 | р. 3 | *Зараз ёй* думак рой хлыне, |
| | р. 6 | Аб вабным *хлопцы* і строі. |
| | р. 9 | Аб *красах* баіць ён чутка. |
| | р. 12 | *Аж* млее дзеўчына тая. |
| | р. 17 | Гэтак для птушкі з *дубровы* |
| | р. 20 | *І хлапца цянёты абходзе* |
| С. 205 | р. 1—2 | У *душы* бурліцца і плача. |
| | | Сэрца да літасці *гнецца* |
| | р. 14—15 | Як сягоння, здаецца, бачу век *дзіцячы*, |
| | | Калі з мілым Каролем у гэты лес *шумячы* |
| | р. 19—20 | О край мой любы, *радзімы*! |
| | | Ты знаеш думак *жаданні*. |
| | | Тут, як у *небе*, аздобна, |
| | р. 23 | *Кусток я ружы садзіла* |
| С. 206 | р. 5 | *І страху яму наганялі* |
| | р. 12—13 | *Ён сюды ісці, знаць, хоча.* |
| | | *На мяне ўпёр свае вочы.* |
| | р. 18 | *Кіньма* гідасць сваю вон |
| С. 207 | р. 16 | *А больш* прыгожых дзяўчатаў.. |
| | р. 19 | *З мілай французскаю тварай* |
| С. 210 | р. 10 | Лыкну *водкі* для настрою. |
| | р. 25—27 | Шукай пацехі *ў шчасці* падданых; |
| | | *Дзецьмі сваімі кіруй, як бацька.* |
| | р. 28 | Радасць, якую тут *знаходжу* |
| | р. 29 | Я з *расчулення* слёз не стрымаю, |
| | р. 30 | Ажна да чаркі *няма* імпэту. |
| С. 211 | р. 16 | *Загадаў так пан наш слаўны.* |
| С. 212 | р. 14—15 | *Як вясна зямлю збудзіла,* |
| | | *Сон зямля скідае цяжкі* |
| | р. 20—22 | Апяваючы *шчасліва* |
| | | *Сваю мілую птушыну.* |
| | | Толькі ж мне *маркотна ў сэрцы / сумуе сэрца,* |
| | р. 25 | *І цярпіць, цярпіць* без краю. |
| | р. 26 | *Ах, хто гэтакі шчаслівы,* |
| | р. 27 | Што *ўспомнілі жычліва.* |
| С. 213 | р. 4—5 | *Палахліва* так спявае,— |
| | | *Аб сваей дазнаю долі* |

| | | |
|---|---|---|
| | р. 10 | Следам *лазіць*, хоча згубы. |
| | р. 19 | *Што яму ў думках сніцца?* |
| | р. 19—22 | Ці ж, пан, Бога не баішся? |
| | | *Хоць сівізна ўжо цярушыць,* |
| | | *Галаву любосьцяй сушыць.* |
| | р. 25—26 | Воч тваіх *страшная* сіла |
| | | *Сэрца мне ўзяла.* Ах! |
| | р. 30 | Дай *сваё ўзамен.* Ах! |
| С. 214 | р. 15—18 | *Як жа ёй тут аб'яснюся?* |
| | | *Увесь са страху аж трасуся!* |
| | | Усё ж цяпер *спытаці* мушу, |
| | | Ці ёй сэрца не парушу? |
| | р. 19—22 | *Відаць*, гэты патароча |
| | | Заляцацца ка мне хоча; |
| | | Але *пабажусь* на душу, |
| | | *Я яму падстрою штуку.* |
| С. 215 | р. 4—6 | Гэтак *смачна* заляцаўся? |
| | | А хай *возьме там іх ліха!* |
| | | Вер, кажу я не *паўжартам:* |
| | р. 11—14 | *А столькі красы ў сабе яны маюць,* |
| | | Што, калі гляну, мне думкі ўсе таюць. |
| | | Чую, *чую* сэрца б'ецца, |
| | | Ах, люблю *цябе ў сакрэце.* |
| | р. 17 | А, як лілея, *чало тваё ў белі* |
| | р. 23 | За твой бы *голас срабрысты*, ласк поўны, |
| С. 217 | р. 9—10 | Я смяюся *бо так смешна,* |
| | | Хоць *спуста смяяцца грэшна.* |
| | р. 29 | І немак *гаспадарных* |
| С. 218 | р. 7—9 | *Мужчына* кожнай *след сачыць,* |
| | | Бландынкі ці брунеткі; |
| | | *Усіх прыгожых рад любіць* |
| | р. 14 | З другой *ужо* любасць дзеліць. |

## ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА

*№ 1. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 225)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 1—2).

Упершыню з купюрай — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 1, л. 1—2).

*Эпімах-Шыпіла Браніслаў Ігнатавіч* (1859—1934) — беларускі выдавец і мовазнавец, адзін з арганізатараў беларускага выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца». Адыграў значную ролю ў жыцці Я. Купалы, садзейнічаў станаўленню літаратурнага таленту паэта. Рэдактар першага зборніка Я. Купалы «Жалейка», а таксама ўкладальнік і рэдактар зборніка «Гусляр». У 1925—1927 гг. рэдактар, у 1927—1929 гг. дырэктар камісіі Інбелкульта па складанні слоўніка жывой беларускай мовы.

Арыштаваны 18 ліп. 1930 г. Крымінальная справа па абвінавачванні была спынена 12 верас. 1930 г. Быў вызвалены з-пад варты. Памёр 6 чэрв. 1934 г.

*...што добрага чутно аб маёй справе?* — Гаворка ідзе пра намер Я. Купалы паступіць на агульнаадукацыйныя курсы А. С. Чарняева. Б. Эпімах-Шыпіла садзейнічаў паступленню паэта (снеж. 1909 г.).

*Антоні Л.— Луцкевіч Антон Іванавіч* (1884—1942. Адзін з літаратурных псеўданімаў — А. Навіна) — палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст, літаратурны крытык. Удзельнічаў у наладжванні выпуску газ. «Наша доля» і «Наша ніва», уваходзіў у склад іх рэдакцый. Адзін з выдаўцоў і аўтараў газ. «Гоман». Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні ў 1921 г. Беларускага музея імя І. Луцкевіча. Аўтар прац пра творчасць Я. Купалы («Нашы песняры», Вільня,

1918; «Пуцяводныя ідэі беларускай літаратуры», Вільня, 1921; «Янка Купала як прарок Адраджэння», Вільня, 1932). Арыштаваны 30 верас. 1939 г. па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Рашэннем Асобай нарады пры НКУС СССР асуджаны на 6 гадоў зняволення, у час якога і памёр. Рэабілітаваны ў 1989 г.

*№ 2. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 225)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1560, л. 1—8).

Упершыню — Я. Купала «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 1—8).

У Збор твораў уключаны ўпершыню ў Зб. тв., 1963 г., т. VI.

Ліст уяўляе сабой аўтабіяграфію, напісаную Я. Купалам у Пецярбургу ў 1910 г. па просьбе Л. М. Клейнбарта. У 1918 г. паэт даслаў аўтабіяграфію І. А. Белавусаву, які пры падрыхтоўцы да выдання першага зборніка вершаў паэта на рускай мове выкарыстаў дадзены тэкст у прадмове.

*Клейнбарт Леў Максімавіч*[1] (1875—1950) — рускі крытык, публіцыст. Першы біёграф Я. Купалы, аўтар першай манаграфіі пра паэта («Янка Купала. Вопыт характарыстыкі літаратурнай і біяграфічнай. 1929—1934»)[2], якая так і не пабачыла свет.

С. *226: Родился я в 1882 г., кажется, в Виленской губ<ернии>...*— Я. Купала нарадзіўся 25 чэрв. (7 ліп.) у фальварку Вязынка Мінскага павета, цяпер в. Вязынка Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.

*Потом несколько месяцев побывал в народном училище...*— У студзені — сакавіку 1889 г. Я. Купала вучыўся ў Сенніцкім двухкласным народным вучылішчы ў настаўніцы А. В. Сонцавай.

*...приготовить меня в какую-нибудь среднюю школу...*— У 1890 г., калі сям'я Луцэвічаў жыла ў Мінску, Янка каля пяці месяцаў наведваў прыватную падрыхтоўчую школу. Але паступлення не адбылося.

С. *227: Впоследствии познакомился я с одним соседним помещиком-поляком...*— Гаворка ідзе пра ўладальніка суседняга маёнтка Зігмунта Чаховіча (1831—1907), з якім паэт пазнаёміўся ў 1895 г. У той час З. Чаховіч, як удзельнік паўстання Каліноўскага, жыў на паўлегальным становішчы ў сваім маёнтку Малыя Бяседы.

*«Родина»* (1879—1917) — ілюстраваны штотыднёвы часопіс. Выдаваўся ў Пецярбургу і прызначаўся для «сямейнага чытання».

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. Кандратовіч Людвік Францішак Уладзіслаў; 1823—1862) — польскі і беларускі паэт. Сыракомля быў у ліку паэтаў, з чыіх твораў Я. Купала пачынаў перакладчыцкую дзейнасць. Памяці Сыракомлі Я. Купала прысвяціў верш «Лірнік вясковы» (1912).

*Сянкевіч Генрых* (1846—1916) — польскі пісьменнік. Аўтар твораў «Агнём і мячом», «Патоп», «Пан Валадыеўскі», «Quo vadis», «Крыжакі» і інш.

*Лермантаў Міхаіл Юр'евіч* (1814—1841) — рускі паэт.

*Горкі Максім* (Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936) — рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

*Когда мне было приблизительно лет 19—20, умер мой отец... а в полтора года после смерти отца эпидемия унесла в могилу в течение одной недели единственного моего брата и двух младших сестер.*— У маі 1902 г. памёр бацька Я. Купалы Д. А. Луцэвіч. Праз паўгода памірае ад шкарлятыны малодшы брат Казік, а яшчэ праз тыдзень — сёстры Сабіна і Гэля.

---

[1] Я. Купала памылкова называе імя па бацьку ў лістах № 2, 8, 9. З ліста № 10 ад 22.II.1913 паэт выпраўляе гэту недакладнасць.

[2] Машынапісны тэкст даследавання захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. 1, воп. 11, адз. зах. 49).

С. 227: *...получил я место приказчика в одном имении Могилевск<ой> губ<ернии>.*— Снежань 1903-га — вясна 1904 г.— працуе ў канторы маёнтка Беліца Сенненскага павета Магілёўскай губ.

С. 228: *...решил поступить в винокуренный завод...*— З восені 1905 г. да верасня 1908 г. працуе вінакурам на броварах.

*...уехал в Вильну.*— З верасня 1908 г. жыве ў Вільні. Працуе бібліятэкарам у прыватнай бібліятэцы «Знание» Б. Л. Даніловіча. Адначасова супрацоўнічае ў газ. «Наша ніва».

*...затем уехал в Петербург за наукой.*— У снежні 1909 г. Я. Купала едзе ў Пецярбург, дзе паступае на агульнаадукацыйныя курсы А. С. Чарняева.

*Писать начал я с 1904 г. ...*— З усяго напісанага паэтам у гэты час да нас дайшлі вершы «Мая доля», «Kobiecie» (на польскай мове) і «Modlitwa» (прысвяцаецца Я. Купалу).

*Первый сборник моих стихов по обыкновению удостоился даже двойной конфискации...*— Зб. «Жалейка» (1908) адразу пасля выхаду ў свет быў канфіскаваны Пецярбургскім і Віленскім камітэтамі па справах друку. Больш падрабязна пра гэта гл: дадзенае выданне, т. 1, с. 419—421.

*Суждены нам благие порывы, / Да свершить ничего не дают...* — Радкі з верша М. А. Някрасава «Рыцарь на час» (1862): «Суждены вам благие порывы, // Но свершить ничего не дано...»

### *№ 3. У рэдакцыю газеты «Наша ніва»* (с. 229)

Друкуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 3, адз. зах. 47, л. 52). Дата на лісце адсутнічае.

Датуецца па рэгістрацыйным надпісе: «Исп. 24/VII-1911 г. № 27».

Упершыню — Рагойша В. Вяршыні. Мн., 1991. С. 55.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...на Акопы...*— Сядзіба маці і сясцёр Я. Купалы, дзе паэт, пачынаючы з 1911 г., адпачываў.

*...польскімі літарамі...*— Маецца на ўвазе напісанне лацінскімі літарамі (лацінкай).

### *№ 4. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 229)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 110, л. 1—2).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2).

*Посылаю в Ваше распоряжение свои книжонки.*— Відаць, гаворка ідзе пра зборнікі «Жалейка» (1908), «Гусляр» (1910), паэму «Адвечная песня» (1910), якія выйшлі з друку да гэтага часу.

### *№ 5. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 230)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 110, л. 3).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 1).

*Посылаю Вам... корректурный оттиск статьи А. Новины.*— Гаворка, відаць, ідзе пра артыкулы «На дарозе да новага жыцця» ці «К пытанню аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве», якія былі надрукаваны ў часоп. «Маладая Беларусь», 1912, адпаведна ў № 1 і № 2.

*Навіна А.*— Гл. камент. да ліста № 1.

*...обращаю Ваше внимание на статью этого же автора в журнале «Запросы жизни», в № 6 (от 10/II 1912 г.).* — Часопіс «Запросы жизни» выдаваўся на працягу 1909—1912 гг. Выявіць артыкул А. Навіны пакуль не ўдалося.

### *№ 6. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 230)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 3—4 адв.).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 1, л. 3—6).

*С. 230: «Маладую Беларусь» атрымаў і шчыра дзякую за яе Супол-цы.*— Гаворка ідзе пра літаратурны альманах, які выдаваўся суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу ў 1912—1913 гг. Усяго выйшлі 3 сшыткі. У № 1 (1912) упершыню была апублікавана драматычная паэма Я. Купалы «Сон на кургане».

*...пану Лявіцкаму...— Лявіцкі Антон Іванавіч* (псеўд. Ядвігін Ш.; 1868—1922) — беларускі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай прозы. Сябраваў з Я. Купалам, апублікаваў першую рэцэнзію на яго зборнік «Жалей-ка» («Минское эхо». 9.07.1908).

*Маюся ў канцы гэтага месяца паехаць у Вільню.*— Я. Купала наведаў Вільню 23, 24 чэрв.

*...думаю напісаць паэмку «Рагнеда»...*— Пазней Я. Купала даў твору назву «Гарыслава». (Гл. камент. да паэмы: дадзенае выданне, т. 6, с. 406.)

*...на днях маюся з'ездзіць да кс. Астрамовіча...— Астрамовіч Аляк-сандр Сцяпанавіч* (псеўд. Зязюля Андрэй; 1878—1921) — беларускі паэт. Скончыў каталіцкую духоўную семінарыю ў Пецярбургу (1910). Адзін з арганіза-тараў з'езда беларускага каталіцкага духавенства ў 1917 г. у Мінску. Быў знаёмы з Я. Купалам, Я. Коласам, А. Грыневічам. Друкаваўся з 1909 г. у газ. «Наша ніва», «Беларус», «Крыніца», «Вольная Беларусь» і інш. Аўтар беларускага рэлігійнага гімна «Божа, што калісь народы...». Разам з А. Грыневічам выдаў зб. «Беларускія песні з нотамі» (СПб., т. II. 1912).

*Папрасіце, паночку, п. Грыневіча, каб ён прыслаў мне свае песні, 1-ы і 2-і збор<нікі>.*— Гаворка ідзе пра зб. «Беларускія песні з нотамі» (Пб, т. I, 1910; т. II, 1912 разам з А. Зязюлем).

*Грыневіч Антон Антонавіч* (1877—1937) — збіральнік беларускага му-зычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар. Заснавальнік у Пецярбургу ў 1910 г. выдавецтва, якое на працягу 3 гадоў выпусціла 11 кніг, у тым ліку творы Я. Купалы («Гусляр» і «Адвечная песня»), Я. Коласа і У. Галубка. У 1923 г. выдаў першы беларускі падручнік па музыцы «Навука спеву», у 1925 г.— «Беларускі дзіцячы спеўнік». 6 верас. 1933 г. арыштаваны і, паводле пастановы пазасудовага органа ад 9 сак. 1934 г., зняволены на 10 гадоў у папраўча-працоўны лагер. Рэабілітаваны 16 жн. 1956 г.

### *№ 7. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 231)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 1, л. 7—8).

Упершыню са скарачэннем — газ. «Літ. і мастацтва», 1945, 22 жн. у падборцы неапублікаваных лістоў Я. Купалы. Аўтар публікацыі — В. Таўлай.

*Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч* (1883—1938) — беларускі грамадска-па-літычны дзеяч, гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік, літаратура-знавец. У той час рэдакцыйны сакратар газ. «Наша ніва» (1909—1914). У 1916—1917 гг.— рэдактар газ. «Гоман». Акадэмік АН БССР. Арыштаваны 21 ліп. 1930 г. і сасланы на 5 гадоў у Саратаў. 20 жн. 1937 г. ізноў арыштаваны і 23 студз. 1938 г. расстраляны. Рэабілітаваны двойчы — 16 верас. 1958 г. і 10 чэрв. 1988 г.

*У суботу еду ў Стоўбцы да Коласа...*— Гаворка ідзе пра першую сустрэ-чу Я. Купалы і Я. Коласа, якая адбылася на пачатку жніўня 1912 г. Пазней Я. Колас успамінаў: «Наша сустрэча насіла сяброўскі характар, нібыта мы даўно асабіста знаёмы. Я на ўсё жыццё запамятаў вобраз Янкі Купалы, тады маладога трыццацігадовага чалавека ў поўным росквіце жыццёвых і творчых сіл. Гэта быў вясёлы, жыццярадасны, схільны да дабрадушных жартаў і гумару чалавек» (Такі ён быў. Мн., 1975. С. 10).

*...да кс. Астрамовіча...*— Гл. камент. да ліста № 6.

*№ 8. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 232)

Друкуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 110, л. 4, 5, 5 адв.).

Датуецца паводле зместу ліста.

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 14—16).

*Ярэміч Аляксандр Парфіравіч* (1876—1920) — урач, знаёмы Я. Купалы. Паходзіў з Беларусі. Доктар медыцынскіх навук. У час знаёмства з паэтам у 1910 г. быў дырэктарам былой Елісееўскай бальніцы ў Пецярбургу. Фінансаваў выданне зборніка «Шляхам жыцця» (1913).

*№ 9. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 232)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 110, л. 6—7).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 12—13).

*Порешили выпустить томик в 15 печатн<ых> листов...*— Гаворка ідзе пра будучы зборнік «Шляхам жыцця» (Пецярбург, 1913).

*№ 10. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 233)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 110, л. 8).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 17).

*...оставленную у Вас мою автобиографию — она мне сейчас очень нужна для статьи в одну энциклопедию.*— Гаворка ідзе пра аўтабіяграфію, напісаную ў 1910 г. па просьбе Л. М. Клейнбарта. Я. Купала меў на ўвазе «Энцыклапедычны слоўнік» Ф. А. Бракгаўза і І. А. Эфрона.

*№ 11. Да В. Ю. Ластоўскага* (с. 233)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 3).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1997, 25 ліп. у публікацыі Я. Янушкевіча.

*Ластоўскі В. Ю.*— Гл. камент. да ліста № 7.

*...прафесар Вянгераў...*— *Вянгераў Сямён Апанасавіч* (1855—1920) — рускі гісторык літаратуры, бібліёграф, складальнік шматтомных бія- і бібліяграфічных слоўнікаў па рускай літаратуры. З 1891 г. С. А. Вянгераў быў рэдактарам літаратурнага аддзела «Энцыклапедычнага слоўніка» Ф. А. Бракгаўза і І. А. Эфрона.

*...энцыклапедыі Бракгаўза...*— Гаворка ідзе пра «Энцыклапедычны слоўнік» Ф. А. Бракгаўза і І. А. Эфрона (Пецярбург, 1890—1907). У 1911 г. меркавалася выдаць «Новы энцыклапедычны слоўнік». Выйшла 29 тамоў з намечаных 48. Відаць, менавіта для дадзенага выдання былі патрэбны звесткі пра паэта.

*...для «Критико-биографического словаря».*— Я. Купала гаворыць пра «Крытыка-біяграфічны слоўнік рускіх пісьменнікаў і вучоных. Ад пачатку рускай адукаванасці да нашых дзён» (т. 1—6, 1886—1904, выданне не скончана).

*№ 12. Да А. І. Луцкевіча* (с. 234)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 4). У паштоўцы зверху: «Спб. 31/III<19>13 г.».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Пан Іваноўскі...*— *Іваноўскі Вацлаў Леанардавіч* (1880—1943) — беларускі дзеяч. Доктар тэхнічных навук. Займаўся выдавецкай дзейнасцю, зрабіў апрацоўку першага буквара сучаснай беларускай мовы з асноўнымі моваведчымі тэрмінамі. У пачатку 1906 г. узначаліў створанае ім у Пецярбургу першае беларускае выдавецтва — суполку «Загляне сонца і ў наша аконца». Арганізаваў выпуск штотыднёвіка «Рунь». Адначасова супрацоўнічаў у газ. «Наша доля»

і «Наша ніва» (псеўд. Вацюк Тройца). У 1913—1915 гг. у Вільні кіраваў Беларускім выдавецкім таварыствам, садзейнічаў заснаванню беларускай кнігарні В. Ластоўскага. У сакавіку — верасні 1915 г. старшыня Беларускага таварыства дапамогі пацярпеўшым ад вайны. У 1922—1939 гг. прафесар Варшаўскага політэхнічнага інстытута. У 1942 г. прызначаны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі на пасаду бургамістра Мінска. У 1943 г. старшыня Беларускай рады даверу пры генеральным камісару Беларусі В. Кубэ. Паводле афіцыйнай версіі, забіты ў Мінску ў 1943 г. савецкімі партызанамі.

С. 234: *...што Вы дасцё свой артыкул у 3-ці сшытак «М<аладой> Б<еларусі>.*— Гаворка ідзе пра артыкул «Наш шлях», які быў надрукаваны ў № 3 часоп. «Маладая Беларусь», 1913.

### *№ 13. Да А. І. Луцкевіча* (с. 234)

Друкуецца і датуецца па аўтографе. (адз. зах. 4).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...я паслаў Вам для рэцэнзіі «Шляхам жыцця»...*— А. І. Луцкевіч выканаў просьбу Я. Купалы: 26 крас. 1913 г. у газ. «Наша ніва» з'явілася першая рэцэнзія на зборнік пад назвай «Шляхам жыцця».

*«Kurjer krajowy»* — газета на польскай мове, выдавалася ў 1912—1914 гг. у Вільні.

*«Веч. газ.»* — «Вечерняя газета», штодзённая грамадска-палітычная газета ліберальнага кірунку. Выдавалася ў Вільні ў 1912—1915 гг. на рускай мове.

С. 235: *Я ўскорасці пасля свят выязджаю з Піцера...*— Паводле даты пад вершам «Братка і Сястрыца» (Акопы. 23.V.13 г.) можна меркаваць, што Я. Купала выехаў з Пецярбурга пасля Вялікадня.

### *№ 14. У рэдакцыю «Нашай нівы»* (с. 235)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 1).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1945, 22 жн. у публікацыі В. Таўлая.

*...зб. вершаў М. Багдановіча...*— Гаворка ідзе пра зб. «Вянок» (1913).

*...за 5 год майго супрацоўніцтва...*— Я. Купала пачаў супрацоўнічаць з газ. «Наша ніва» восенню 1908 г.

*... каб так беззасценчыва ігнараваць маю нававыйшаўшую кнігу...*— Рэцэнзія А. Навіны на зб. «Шляхам жыцця» з'явілася ў «Нашай ніве» 26 крас. 1913 г.

### *№ 15. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 236)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 1, л. 9—10).

Упершыню са скарачэннямі — газ. «Літаратура і мастацтва», 1945, 22 жн. у падборцы неапублікаваных лістоў Я. Купалы. Аўтар публікацыі — В. Таўлай.

*...пагаварылі аб гэтым з п. Іванам...*— Відаць, размова ідзе пра Івана Луцкевіча.

*Луцкевіч Іван Іванавіч* (1881—1919) — празаік, публіцыст, археолаг, краязнавец, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст. Па яго ініцыятыве ў Вільні былі створаны газ. «Наша доля» (1906) і «Наша ніва» (1906—1915), а таксама кнігавыдавецкія суполкі «Наша хата», «Беларускае выдавецкае таварыства», «Беларускі музычна-драматычны гурток». Намаганнямі І. Луцкевіча ў Вільні з'явілася газ. «Гоман» (1916—1918), яго асабістая калекцыя беларускіх старажытнасцей стала асновай Беларускага музея ў Вільні (1921). Апошняй яго справай было адкрыццё ў Вільні першай беларускай гімназіі (1919).

*...і п. Обстам.— Обст Ян* (1876—1941?) — гісторык, выдавец, журналіст. У 1910—1911 гг. выдаваў у Пецярбургу «Литовский квартальник» (на польскай мове), у 1911—1915 гг. у Вільні — «Штодзённую газету». Адзін з актыўных папулярызатараў Віленшчыны. З Я. Купалам пазнаёміўся ў Пецярбургу.

С. 236: *Ці паслалі... у рэдакцыі мае кніжкі «Шл<яхам> жыцця»?* — Трэці зборнік Я. Купалы «Шляхам жыцця» выйшаў з друку ў Пецярбургу на пачатку крас. 1913 г. у выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца». Відаць, Б. І. Эпімах-Шыпіла абяцаў разаслаць кнігу па рэдакцыях вядомых газет для атрымання водгукаў на зборнік.

*...купляйце... і прысылайце «Bielarusa»...* — Штотыднёвая грамадска-палітычная літаратурна-мастацкая і рэлігійна-асветніцкая газета. Выдавалася на беларускай мове ў Вільні ў 1913—1915 гг., друкавалася лацінкай. Была разлічана пераважна на каталіцкую частку беларускіх сялян і інтэлігенцыі. Рэдактары-выдаўцы: А. І. Бычкоўскі, з № 5 за 1914 г.— Б. А. Пачопка.

*...п. Лявіцкі.*— Гл. камент. да ліста № 6.

*...ўжо пачынаю баяцца, каб не пайсці да Абрагама на піва.*— Тут: паміраць (*разм., жарт.*).

*Перачытваю белар<ускія> этнаграф<ічныя> зборнікі — Шэйна...*— *Шэйн Павел Васільевіч* (1826—1900) — этнограф, фалькларыст, аўтар наступных зборнікаў: «Рускія народныя песні» (1870), «Беларускія народныя песні» (1874), «Велікарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і т. п.» (т. 1, вып. 1—2, 1898—1902), «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (т. 1—3, 1887—1902).

### *№ 16. У рэдакцыю газеты «Наша ніва»* (с. 237)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 1).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*«Навука»* — верш Я. Купалы (гл. дадзенае выданне, т. 3, с. 165, 312).

### *№ 17. Да Г. Леўчыка* (с. 237)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (КП6996/А522).

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1973, № 2, с. 28 у публікацыі А. Іверса «Гальяш Леўчык у «Нашай ніве».

Ліст напісаны на бланку «Беларускага выдавецкага таварыства», дзе ў той час Я. Купала быў сакратаром.

*Леўчык Гальяш* (сапр. Ляўковіч Ілья Міхайлавіч; 1880—1944) — беларускі паэт. Друкаваўся ў «Нашай ніве» з 1908 г. Аўтар зборніка вершаў «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912, лацінкаю). Беларускае выдавецкае таварыства меркавала апублікаваць зборнік кірыліцай, але гэтаму перашкодзіла першая сусветная вайна. Я. Купала добра ведаў Г. Леўчыка яшчэ да рэвалюцыі. «Вяртаючыся з Народнага сходу з Беластоку 14 лістапада 1939 г., Народны паэт Беларусі спецыяльна заехаў у Слонім, каб сустрэцца з Г. Леўчыкам, з якім не бачыўся больш за 20 год» («Гродненская правда», 1963, 30 ліп., публікацыя В. Шундрыка).

### *№ 18. Да К. Лейкі* (с. 238)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (КП15246/А603).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1945, 22 жн. з недакладнай датай: 12.2.1914 г.

*Лейка Кандрат Тодаравіч* (1860—1921) — беларускі пісьменнік.

*...хацела бы выдаць сваім коштам Вашы творы асобнай кніжкай.*— Адказваючы на прапанову Беларускага выдавецкага таварыства, К. Лейка даслаў у рэдакцыю газ. «Наша ніва» рукапіс зборніка апавяданняў «Засеўкі», але выхаду зборніка перашкодзіла першая сусветная вайна. У 1921 г. пісьменнік выслаў у Беларускае навуковае таварыства 8 сшыткаў са сваімі творамі, лёс якіх дагэтуль невядомы. Некаторыя рукапісы К. Лейкі захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай Рэспублікі ў Вільнюсе.

*№ 19. Да А. А. Карынфскага* (с. 238)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 5).

Датуецца па паштовым штэмпелі: Вільня, 24.II.14 г.

Упершыню — часоп. «Неман», 1961, № 1, с. 119—125 у публікацыі А. Малюцінай «Янка Купала і Апалон Карынфскі».

*Карынфскі Апалон Апалонавіч* (1868—1937) — рускі паэт і перакладчык. Быў знаёмы з Я. Купалам. Адзін з першых перакладчыкаў яго вершаў на рускую мову. Пераклады былі надрукаваны ў часоп. «Педагогический листок» (1914, кн. 1, 3; 1915, кн. 5; 1916, кн. 2); часоп. «Весь мир» (1914, № 33); газ. «Трезвая жизнь» (1913, снеж.).

*...пани Марианне...— Марыяна Іосіфаўна* — жонка А. А. Карынфскага.

*...моей тёзке панне Янине.— Панна Яніна* — малодшая сястра М. І. Карынфскай, якая ў 1913 г. прыязджала да яе з Варшавы. Яніну ў сям'і часта называлі Янкай.

У сямейным архіве А. Карынфскага быў выяўлены невядомы пераклад верша «Не шукай...». Пад тэкстам дата: 6 студз. 1914 г. Прыводзім гэты пераклад:

НЕ ИЩИ

Не ищи ты счастья-доли
На чужом, далеком поле,
За шумливым лесом-бором,
За морским ли тем простором
Не ищи ты счастья-доли!

Ты найдешь его так близко,
Там — где мать, клоняся низко,
Колыбель твою качала,
Песню сыну напевала,—
Лишь умей искать ты близко!..

Не ищи друзей себе ты
Меж чужих! Вдали нигде ты
Ни на рынках, ни в палатах,
Ни среди панов богатых
Не ищи друзей себе ты!

Ты найдешь их близко-близко —
Возле хаты возле низкой,
Там — где детство проходило,
Где коса твоя косила,—
Лишь умей искать ты близко...

Не ищи ты, брат мой, в жизни
С ветром матери-отчизны,—
Ни на суше, ни на море,
Ни при счастье, ни при горе
Не ищи ее ты в жизни! —

Ты найдешь ее так близко —
Не высоко и не низко,—
Позабудь все перелеты,
Только в сердце глянь свое ты —
И найдешь отчизну близко!..

*№ 20. Да Б. А. Тарашкевіча* (с. 239)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (ф. 3, воп. 1, спр. 226). Пад тэкстам: Вільня, 4/III-1914. Аўтограф напісаны чорным чарнілам на бланку Беларускага выдавецкага таварыства: Вільня, Каштанавая, д. 5, кв. 4. Адрасавана Клаўдзію Сцяпанавічу Душэўскаму з просьбай перадаць дзядзьку Б. Тарашкевічу.

Упершыню — зб. «Народныя песняры», 1972 з недакладнай датай: 4.IX-1913 г. Публікацыя падрыхтавана В. Рагойшам[1].

У Зб. тв., 1976, т. VII апублікаваны з нязначным скарачэннем.

*Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч* (1892—1938) — беларускі грамадска-палітычны і асветны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладчык, літаратуразнавец. Акадэмік АН БССР. У 1921—1922 гг. дырэктар Віленскай гімназіі, адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў Таварыства беларускай школы. Аўтар «Беларускай граматыкі для школ» (1918). 6 мая 1937 г. арыштаваны, 5 студз. 1938 г. асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны. Рэабілітаваны 26 студз. 1957 г.

*...п. Іваноўскі...*— Гл. каментарый да ліста № 12.

*№ 21. Да А. А. Карынфскага* (с. 239)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 5).

Упершыню — часоп. «Неман», 1961, № 1, с. 119—125.

*Заступитесь... за меня перед Марианной Иосифовной, если будет очень ругать меня за неисполнение обещанного.*— Я. Купала ў свой час абяцаў напісаць верш для жонкі А. Карынфскага, але не выканаў абяцання.

*№ 22. Да А. А. Карынфскага* (с. 240)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 5).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*№ 23. Да А. А. Карынфскага* (с. 241)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 5).

Упершыню — часоп. «Неман», 1961, № 1, с. 119—125.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*№ 24. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 241)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 5—6 адв.).

Упершыню са скарачэннем — Зб. тв., 1963, т. VI.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 1, л. 11—14).

*...і Суполка...*— Выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца» (1906—1914). Выдала зборнікі Я. Купалы «Жалейка» (1908), «Шляхам жыцця» (1913) і драматычную паэму «Сон на кургане» (1912).

*Загарак (пол.)* — гадзіннік.

*Ляда* — lada dzien *(пол.)* — Тут у сэнсе: кожны дзень.

С. 242: *...сам адзін рэдагуе цяпер «Нашу ніву».*— Да сакавіка 1914 г. Я. Купала з'яўляўся літсупрацоўнікам «Нашай нівы». З 7 сак., калі за подпісам Купалы выйшаў чарговы нумар газеты, ён стаў яе рэдактарам, а з 16.5.1914-га па 7(20).8.1915 г.— рэдактарам-выдаўцом.

*Ластоўскі заняты толькі кнігарняй.*— Гл. камент. да ліста № 12.

*Я звярнуўся да «Выдавецкага таварыства»...*— Маецца на ўвазе Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні. Існавала ў 1913—1915 гг. і ў 1919—1930 гг. Выдавала і распаўсюджвала творы беларускай літаратуры. Заснавана 1(14).7.1913 г. Б. Даніловічам, І. Луцкевічам і інш. на базе выдавецтва «Нашай нівы». У 1913—1914 гг. сакратаром выдавецтва працаваў Я. Купала.

---

[1] У ЭД дата таксама недакладная.

*№ 25. Да А. А. Карынфскага* (с. 243)

Друкуецца па тэксце тэлеграмы (адз. зах. 5).

Датуецца па паштовым штэмпелі.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*№ 26. Да Я. Н. Драздовіча* (с. 243)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі (ф. 2, воп. 1, адз. зах. 45).

Ліст напісаны на бланку рэдакцыі «Наша ніва».

Упершыню — часоп. «Мастацтва Беларусі», 1983, № 11 у публікацыі В. Скалабана «Паплечнікі».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Драздовіч Язэп Нарцысавіч* (1888—1954) — беларускі графік, жывапісец, скульптар. Супрацоўнічаў з Я. Купалам у часоп. «Рунь» у 1920 г. У 1927 г. аформіў выданне «Паўлінкі» (Вільня).

*№ 27. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 243)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 7, 7 адв., 8, 8 адв.).

Упершыню са скарачэннем — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 1, л. 15—18).

*...быў у мяне Паўловіч...— Паўловіч Альберт Францавіч* (1875—1951) — беларускі паэт-сатырык і драматург, сябар Я. Купалы. Выдаў кнігу вершаў «Снапок» (1910) і драму «Васількі» (1919). Прысвяціў Я. Купалу вершы «Каліва праўды» (1908) і «Ноч на Івана Купалу» (1910).

*На лекцыі ў Шаняўскага універсітэт ужо хаджу...*— Размова ідзе пра Маскоўскі гарадскі народны універсітэт імя А. Л. Шаняўскага, навучальную ўстанову, адкрытую на сродкі гэтага ліберальнага дзеяча народнай асветы. Існаваў у 1908—1918 гг. Я. Купала паступіў вучыцца ў верасні 1915 г. на І курс гісторыка-філасофскага цыкла універсітэта. Ва універсітэце вучыліся ў свой час А. Серафімовіч, І. Белавусаў, С. Ясенін і інш. У канцы студзеня 1916 г. спыніў вучобу ў сувязі з прызывам у армію і пераездам у Мінск.

С. 244: *Паўтараю Вам просьбу аб адрасе Душэўскага...— Душэўскі* (Душ-Душэўскі) *Клаўдзій Сцяпанавіч* (1891—1959) — беларускі культурны і палітычны дзеяч. Сустракаўся з Я. Купалам у час вучобы паэта на курсах А. С. Чарняева. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі і на беларускіх настаўніцкіх курсах. У пачатку 1921 г. арыштаваны польскімі ўладамі і пасля вызвалення (7.2.1921) эмігрыраваў у Каўнас. Прымаў актыўны ўдзел у грамадска-культурным жыцці беларускай эміграцыі, быў адным з кіраўнікоў Беларускага цэнтра ў Літве (з 1933 г. яго старшыня), Літоўска-Беларускага таварыства. Рэдагаваў часопіс «Беларускі сцяг» (1922), прымаў удзел у выданні часопіса «Крывіч» (1923—1926), выдаваў і рэдагаваў часопіс «Беларускі асяродак» (з 1933 г.). Перакладаў на беларускую мову і выдаваў дапаможнікі для школ. Пасля далучэння Літвы да СССР зняволены ў турму (жнівень 1940-га — чэрвень 1941 г.). У жніўні 1943 г. арыштаваны нямецка-фашысцкімі ўладамі за дапамогу грамадзянам яўрэйскай нацыянальнасці, адбываў пакаранне ў канцлагеры каля г. п. Правянішкес. У 1944—1945 гг.— дацэнт Каўнаскага універсітэта. У снежні 1946-га — маі 1947 г. пад следствам у Вільнюсе. Пасля новага арышту (люты 1952 г.) як «актыўны беларускі нацыяналіст» асуджаны да 25 гадоў зняволення. Вызвалены ў красавіку 1955 г. Пахаваны ў Каўнасе.

У ДзЛМЯнК захоўваецца рукапісны зб. «Шляхам жыцця», 1913, падараваны К. Душэўскаму[1]. Яму Я. Купала выдаў даверанасць для атрымання з Галоўнага ўпраўлення па справах друку здадзеныя ў Камітэт драматычныя творы[2].

---

[1] Дадзенае выданне. Т. 1. С. 431.

[2] Дадзенае выданне. Т. 7. С. 372.

С. 244: *...аб адрасе... Тарашкевіча.*— Гл. камент. да ліста № 20.

*Паклон п. Гагалінскаму...— Гагалінскі Антон Іванавіч* (?—1943) — пляменнік Б. І. Эпімах-Шыпілы. Гагалінскі жыў у Пецярбургу ў Б. І. Эпімах-Шыпілы разам з Я. Купалам. Удзельнічаў у масавых сцэнах у пецярбургскай пастаноўцы «Паўлінкі». З 1925 г. жыў у Мінску, у 1930-я гады — у Краснаярскім краі. Загінуў на фронце.

*...і пані Пясецкай.— Пясецкая* — хатняя гаспадыня Б. І. Эпімах-Шыпілы ў Пецярбургу. Родам з Беларусі. Паводле ўспамінаў — добрая, ветлівая і клапатлівая жанчына.

*№ 28. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 244)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 10—10 адв.).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 1, л. 19—22).

*...адрас Максіма Багдановіча.— Багдановіч Максім Адамавіч* (1891—1917) — беларускі паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры. Дзіцячыя гады правёў у Гродне (1892—1896), жыў і вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе (1896—1908) і Яраслаўлі (1908—1916). Скончыў Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй у Яраслаўлі (1916) і ў канцы верасня пераехаў у Мінск. Аўтар паэтычнага зборніка «Вянок» (1913). Магчыма, калі пісаўся гэты ліст, М. Багдановіча ўжо не было ў Яраслаўлі.

*...ред. газ. «Ярославский голос»...*— На самай справе газета называлася «Голос». Выходзіла ў Яраслаўлі з 1909-га па 1917 г.

*...заняліся справай беларускага аддзела ў зб. «Отечество».*— Маецца на ўвазе зб. «Отечество», т. 1, які выйшаў у 1916 г. пад рэдакцыяй прафесара Бадуэна дэ Куртэнэ, прафесара Н. А. Грэдэскула, Б. А. Гурэвіча і інш. Зборнік складаўся з двух раздзелаў: грамадска-палітычнага і гісторыка-літаратурнага. Другі раздзел складаўся з перакладаў на рускую мову твораў лепшых пісьменнікаў нацыянальных літаратур. Творы беларускіх пісьменнікаў па невядомай прычыне ў зборнік не ўвайшлі.

*...былі ў нас п. п. Гагалінскія.*— Гл. камент. да ліста № 27.

С. 245: *Нізкі паклон... п. Пясецкай.*— Гл. тамсама.

*№ 29. У рэдакцыю газеты «Дзянніца»* (с. 245)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 1, л. 32).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1981, 16 кастр. у публікацыі М. Камінскай і В. Скалабана.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Фотакопія аўтографа ДзЛМЯнК (НД 6619).

*«Дзянніца»* — першая савецкая газета на беларускай мове, орган Беларускага нацыянальнага камісарыята. Выдавалася з 1.3.1918 г. у Петраградзе, з 6.4.1918 г. да 24.2.1919 г.— у Маскве. Рэдактарам газеты быў Цішка Гартны.

*№ 30. Да І. А. Белавусава* (с. 245)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 734).

Упершыню — кн. «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі». Вып. III. Мн., 1960 у публікацыі Р. Гульман.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 6).

*Белавусаў Іван Аляксеевіч* (1863—1930) — рускі паэт і перакладчык. Актыўны папулярызатар і адзін з першых перакладчыкаў твораў Я. Купалы, складальнік і рэдактар першага зборніка твораў паэта на рускай мове («Избранные стихотворения в переводах русских поэтов». М., 1919).

*...г. Турук был у меня...— Турук Фёдар Фёдаравіч* (1889—1960) — беларускі гісторык і грамадскі дзеяч. З Я. Купалам пазнаёміўся ў Пецярбургу, відаць, у перыяд з 1911-га па 1915 г., у час вучобы ў інстытуце. Складальнік і

аўтар прадмовы «Курса беларусазнаўства» (1920). У 1915—1918 гг. выкладчык гімназіі ў Мінску і Маскве.

З сакавіка 1918 г. працаваў загадчыкам культурна-асветніцкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята. З красавіка 1919 г.— загадчык Беларускага пададдзела аддзела асветы нацыянальных меншасцей Наркамата асветы РСФСР. Ф. Турук садзейнічаў развіццю беларускай культуры і навукі: быў адным з арганізатараў Беларускага народнага універсітэта і Беларускага навукова-культурнага таварыства ў Маскве. Прымаў удзел у выданні «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Будучы ў Маскве восенню 1918 г., Я. Купала перадаў Ф. Туруку рукапісны варыянт зборніка «Спадчына» для выдання Беларускім пададдзелам.

*...послал Вам экз<емпляр> журнала «Педагогич<еский> листок».*— У часоп. «Педагогический листок» (1914, кн. 1, 3; 1915, кн. 5) была апублікавана біяграфічная даведка пра Я. Купалу разам з 11 вершамі ў перакладзе А. А. Карынфскага.

С. 246: *...иметь Ваши оригинальные и переводные произведения, кроме «Кобзаря»...*— І. А. Белавусаў пераклаў «Кобзаря» Т. Шаўчэнкі ў 1911 г. (другое выданне перакладу выйшла ў 1919 г.).

*№ 31. Да І. А. Белавусава* (с. 246)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 734).

Упершыню — кн. «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі». Вып. III. Мн., 1960 у публікацыі Р. Гульман.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 6).

У Зб. тв., 1976, т. VII друкаваўся з купюрай.

*...что-то вроде автобиографии, написанной мною... для одного из петроградских литераторов.*— Гаворка ідзе пра Л. М. Клейнбарта, якому паэт у 1910 г. даслаў сваю аўтабіяграфію.

*Переводы В. Брюсова были напечатаны в одной из виленских газет...*— Маецца на ўвазе «Вечерняя газета», 1914, ад 11 і 15 жн., у якой былі апублікаваны пераклады 4 вершаў: «Як у лесе зацвіталі...», «На Купалле», «Адцвітанне» і «У начным царстве».

*Брусаў Валерый Якаўлевіч* (1873—1924) — рускі пісьменнік. У снежні 1923 г. на Беларусі адзначалася 50-годдзе з дня нараджэння В. Брусава. 12 снеж. ён быў абраны ганаровым членам Інбелкульта.

*№ 32. Да І. А. Белавусава* (с. 247)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 734).

Упершыню — кн. «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі». Вып. III. Мн., 1960 у публікацыі Р. Гульман.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 6).

*...в январе выехал из Смоленска и в настоящее время живу в Минске.*— Пасля абвяшчэння БССР Я. Купала 21 студз. 1919 г. пераехаў у Мінск на пастаяннае жыхарства.

*№ 33. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 248)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 11—13).

Упершыню са скарачэннямі — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 1, л. 23—25).

*...узяў у друк маё «Раскіданае гняздо».*— Гаворка ідзе пра драму, якая была завершана 4.9.1913 г. Выйшла з друку ў Вільні ў 1919 г.

*Цяпер вяду... перагаворы аб выданні поўнага збору маіх твораў.*— Першы збор твораў Я. Купалы ў 6 тамах пачаў выходзіць у 1925 г., быў завершаны ў 1932 г.

*Том не друкаваных у аддзельных кніжках мною ўжо падабраны.*— Творы, пра якія ідзе гаворка, склалі зб. «Спадчына». Ён выйшаў з друку ў 1922 г. у Мінску.

С. 248: *...пад апеку Уласава.— Уласаў Аляксандр Мікітавіч* (1874—1941) — беларускі грамадскі і культурны дзеяч, выдавец, публіцыст. Адзін з арганізатараў і актывістаў Беларускай сацыялістычнай грамады, член яе ЦК. Рыхтаваў да друку газ. «Наша доля», з 8 снеж. 1906 г. да 16 мая 1914 г. быў рэдактарам-выдаўцом газ. «Наша ніва». Адзін з заснавальнікаў беларускага выдавецкага таварыства «Наша хата» ў Вільні. У 1912 г. у Вільні наладзіў выданне сельскагаспадарчага часопіса «Саха», у 1914 г. у Мінску — краязнаўчага часопіса для беларускай моладзі «Лучынка». Пры актыўным удзеле А. Уласава наладжана выданне рэдакцыяй «Нашай нівы» беларускіх календароў (1910—1913), зборнікаў «Нашай нівы» (выйшлі ў 1912 г. два нумары кірыліцай і лацінкай), кніг Я. Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., Э. Ажэшкі і інш.

На выбарах у лістападзе 1922 г. абраны ў польскі сейм як беспартыйны. Арганізатар і адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. Пад яго апякунствам дзейнічала ў 1922—1929 гг. Радашковіцкая беларуская гімназія імя Ф. Скарыны. 16 кастр. 1939 г. арыштаваны органамі НКУС па абвінавачванні ў «шпіёнска-правакатарскай дзейнасці». 29 кастр. 1940 г. асуджаны на 5 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах. Памёр ад паралічу сэрца 11 сак. 1941 г. у Новасібірску. Рэабілітаваны 6 студз. 1961 г.

*...пад апеку... Лявіцкага.*— Гл. камент. да ліста № 6.

*...укралі ўсё: Шэйна...*— Гл. камент. да ліста № 15.

*...Карскага...*— Маецца на ўвазе праца Я. Ф. Карскага «Беларусы» (т. I—III, 1903—1922).

*...Раманава...— Раманаў Еўдакім Раманавіч* (1855—1922) — беларускі археолаг, этнограф, краязнавец, педагог. Пры жыцці вучонага выйшлі 9 тамоў «Беларускага зборніка» (1886—1912). 10-ы том выпусціў Інбелкульт. 11—12 тамы загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Галоўнай тэмай яго навуковай дзейнасці быў пошук самабытнасці нацыянальнай культуры беларускага народа, яго права на самасцвярджэнне. Можна меркаваць, што ў бібліятэцы Я. Купалы былі некаторыя з кніг вядомага вучонага, які апублікаваў больш за 200 прац па этнаграфіі, фальклору, гісторыі, археалогіі і мове беларусаў, больш за 10 тысяч фальклорных твораў.

С. 249: *...зрабіць гэта праз Іваноўскага...*— Гл. камент. да ліста № 12.

### *№ 34. Да І. А. Белавусава* (с. 249)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 734).

Упершыню — кн. «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі». Вып. III. Мн., 1960, у публікацыі Р. Гульман.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 6).

*...«Биографич<еский> очерк» Е. Шведера.*— Праца Е. Шведара «Певец природы Иван Алексеевич Белоусов» (М., 1918).

*...что слышно с Н. А. Янчуком...— Янчук Мікалай Андрэевіч* (1859—1921) — беларускі, украінскі і рускі гісторык, этнограф, фалькларыст і літаратуразнавец. Пачынальнік беларускай музычнай фалькларыстыкі. Напісаў музыку да верша Я. Купалы «Нашай ніве» (1911). Прымаў актыўны ўдзел у рэдагаванні кн. «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919). Для гэтага выдання М. А. Янчук пераклаў 4 вершы: «Нашай ніве» (1911), «Ой, чаму на хаты гэтыя» (1906), «Над сваёй Айчызнай» (1906) і «Я відзеў душы сільныя» (1905—1907). Аўтар даследаванняў «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Старадаўні перыяд» (Мінск, 1922); «Очерки по белорусской литературе» под ред. М. А. Янчука, вып. 1. (М., 1920) і інш.

### *№ 35. Да І. А. Белавусава* (с. 250)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 734, л. 8).

Упершыню — кн. «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі». Вып. III. Мн., 1960, у публікацыі Р. Гульман.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 6).

С. 250: *...книжонку Аничкова «Язычество и Древняя Русь»...— Анічкаў Я. В.* (1866—1937) — рускі літаратуразнавец. «Язычество и Древняя Русь» (1914).

*...книгу Афанасьева «Поэтические воззрения славян на природу»...— Афанасьеў Аляксандр Мікалаевіч* (1826—1871) — рускі фалькларыст, этнограф, гісторык, літаратуразнавец. «Поэтические воззрения славян на природу» ў 3 т. (1865—1869).

С. 251: *Москву я немножко знаю. В конце 1915 г. жил в ней три месяца с лишним.*— У Маскву Я. Купала пераехаў у верасні 1915 г.

*№ 36. Да Ф. Ф. Турука* (с. 251)

Друкуецца і датуецца па аўтографе: 20.VII 1919 г. (адз. зах. 8). Год вызначаны паводле зместу.

Упершыню — «Полымя», 1962, № 4, у перакладзе на беларускую мову Я. Шарахоўскага[1].

*№ 37. Да Ф. Ф. Турука* (с. 252)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 8).

Першая старонка ліста — фотакопія, другая — рукапісная.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Нячаеў Ягор Яфімавіч* (1859—1925) — рускі паэт і перакладчык. Разам з І. Белавусавым, В. Брусавым, А. Карынфскім удзельнічаў у падрыхтоўцы першага зборніка Я. Купалы на рускай мове («Избранные стихотворения в переводах русских поэтов». М., 1919).

*№ 38. Да Я. Ф. Карскага* (с. 253)

Друкуецца і датуецца па кн.: Е. Ф. Карский. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. Пг., 1922, дзе ўпершыню апублікаваны.

Лісты Я. Купалы да акадэміка *Карскага Яўхіма Фёдаравіча* (1861—1931), беларускага філолага-славіста, заснавальніка беларускай філалогіі, адносяцца да 1919—1922 гг. У 1919 г. акадэмік Я. Ф. Карскі, працягваючы работу па завяршэнні сваёй шматтомнай працы «Беларусы» (1903—1922), звярнуўся да Я. Купалы з лістом, у якім прасіў паэта ўдакладніць некаторыя моманты біяграфіі. «Так как сообщаемые в разных изданиях об И. Луцевиче биографические сведения,— адзначае Я. Ф. Карскі,— отличались неясностью и сбивчивостью (гл. «Вопросы жизни», 1912, № 6; «Наша Ніва», 1909, № 60; A. Nawina. «Naśy piesniary» и др.» и др.), то мы обратились за ними непосредственно к самому писателю. Его ответное письмо, как объясняющее многое в его поэзии, приводим в подлиннике» (Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. Пг., 1922). У раздзеле «Іван Дамінікавіч Луцэвіч» 3-га тома працы «Беларусы» Я. Ф. Карскі змясціў аўтабіяграфію паэта і прааналізаваў арыгінальныя і перакладныя яго творы да 1922 г.

У Зб. тв., 1976, т. VII ліст друкаваўся без апошняга сказа.

*Самойла Уладзімір Іванавіч* (1878—1941) — беларускі і рускі публіцыст, літаратурны крытык. Пры садзейнічанні У. Самойлы ў газ. «Северо-Западный край» 15(28).5.1905 г. надрукаваны на беларускай мове верш Я. Купалы «Мужык» — першае выступленне паэта ў друку.

С. 254: *...на агульнанавучальных курсах Чарняева.*— Агульнаадукацыйныя вячэрнія курсы Аляксандра Сяргеевіча Чарняева (1873—1915) — чатырохгадовая сярэдняя навучальная ўстанова для дарослых, якая дзейнічала ў 1902—1915 гг. у Пецярбургу.

*З Петраграда зноў пераехаў у Вільню...*— Да 8 кастр. 1913 г.

---

[1] Аўтографы лістоў паступілі ў ДзЛМЯнК у 1961 г.

С. 254: *У 1915 г. змушаны быў... дзе цяпер і жыву.*— З набліжэннем фронту 8.8.1915 г. эвакуіраваўся з Вільні, жыў у Арле, Маскве. Са студзеня 1916 г. Я. Купала — на вайсковай службе: некалькі месяцаў служыў у Мінску старшым рабочым у дарожна-будаўнічым атрадзе, потым у Полацку. 23 студз. 1916 г. у Маскве Я. Купала ажаніўся з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч. Восенню, у дні Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, пераязджае ў Смаленск. З ліпеня 1918 г.— агент па забеспячэнні харчамі Заходняй вобласці. У 1919 г., пасля абвяшчэння БССР, пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск.

*...мая кніжка «Жалейка» была канфіскавана...*— Гл. камент. да ліста № 2.

*...і мяне як рэдактара...*— Я. Купала з 7.3.1914 г.— рэдактар «Нашай нівы», з 16.5.1914 г. па 7.8.1915 г.— рэдактар-выдавец.

*№ 39. У рэдакцыю газеты «Беларусь»* (с. 254)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, № 64, 23 сак., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: Менск, 20/III-20 г.

У БДАМЛіМ (ф. 68, воп. 1, адз. зах. 160) захоўваецца скарочаны рукапісны тэкст ліста, напісаны невядомаю рукою. Паколькі рукапіс знаходзіцца ў фондзе В. Таўлая, ёсць падставы лічыць яго аўтографам В. Таўлая, які хутчэй за ўсё перапісаў тэкст ліста з газеты.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 255: *Кс. Рэктару Абрантовічу.*— *Абрантовіч Фабіян* (1884—1940) — каталіцкі святар усходняга абраду, прэлат Мінскай і Пінскай капітул, архімандрыт, доктар філасофіі, магістр тэалогіі, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, адзін з ідэолагаў і заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху XX ст., тэарэтык і практык беларускага уніяцтва, педагог. Як публіцыст друкаваўся пад псеўданімам Фабіч (Fabič).

*...прафесара Івлноўскага, Б. Тарашкевіча, Ясінскага, Ерохава і інш.*—

*Іваноўскі В. Л.*— Гл. камент. да ліста № 12.

*Тарашкевіч Б. А.*— Гл. камент. да ліста № 20.

*Ясінскі Антон Мікітавіч* (1864—1933) — прафесар, доктар усеагульнай гісторыі. Прафесар Юр'еўскага універсітэта, арганізатар, дырэктар і прафесар пядінстытута ў Маскве, прафесар Маскоўскага універсітэта. З 1922-га па 1918 г.— прафесар на кафедры гісторыі сярэдніх вякоў педфака БДУ, правадзейны член ІБК і Чэшскай АН.

*№ 40. Да Я. Ф. Карскага* (с. 255)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (архіў АН РФ. ф. 292, воп. 2, адз. зах. 70, л. 3).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1946, 17 жн.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 7, л. 1).

*Карскі Я. Ф.*— Гл. камент. да ліста № 38.

*Дык ці не знойдзецца цяпер у Вас рэкамендаваных Вамі кніг к пераkладу «Слова а палку Ігаравым»...*— 30 кастр. 1919 г. Я. Купала завяршыў празаічны пераклад на беларускую мову «Слова аб палку Ігаравым», помніка старажытнарускай літаратуры, напісанага ў 1185 г. невядомым аўтарам. Гэта быў першы савецкі пераклад славутага твора. Як вядома, Я. Ф. Карскі досыць высока ацаніў празаічны пераклад Я. Купалы і параіў яму зрабіць вершаваны пераклад «Слова...». Перакладу папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца, вывучэнне даследаванняў аб помніку. Вершаваны пераклад зроблены ў Акопах, завершаны 5 верас. 1921 г.

*...пераклад «Слова» Е. Барсава, а также працу Ф. Е. Корша...*— Я. Купала меў на ўвазе манаграфію Е. В. Барсава «Слово о полку Игореве» как художественный памятник Киевской дружинной Руси» (т. 1—3, М., 1887—1889); Ф. Е. Корша «Слово о полку Игореве». Исследования по русско-

му языку», т. 2, вып. 6, СПб., 1909. У лісце размова, відаць, ідзе пра другі том манаграфіі Е. В. Барсава, у якім змяшчаўся зроблены ім пераклад-каментарый «Слова...».

*№ 41. Да А. І. Луцкевіча* (с. 256)

Друкуецца і датуецца па кн. «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі» (укл. С. Шупа. Вільня—Нью-Ёрк—Мінск—Прага, 1998. Кн. 1—2. С. 74), дзе ўпершыню апублікаваны.

Аўтографы захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Літвы (ф. 582).

Ліст напісаны на бланку тыднёвіка «Рунь» і накіраваны ў Вільню.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Вярыга-Дарэўскі Арцём Ігнатавіч* (псеўд. Беларуская Дуда; 1816—1884) — беларускі пісьменнік-дэмакрат, жыў у Стайках паблізу Віцебска. Падтрымліваў сувязі з У. Сыракомлем, А. Кіркорам, В. Дуніным-Марцінкевічам, В. Каратынскім, Я. Вулкам, А. Рыпінскім. У час паўстання 1863—1864 гг. — адзін з арганізатараў узброенага выступлення на Віцебшчыне. У 1863 г. арыштаваны і зняволены ў віцебскую турму, у 1865 г. сасланы ва Усолле (Усходняя Сібір). З 1868 г. на пасяленні ў Іркуцку. Памёр у Сібіры. Аўтар драмы «Гордасць», камедый «Хцівасць» і «Грэх 4-ы — гнеў» і іншых твораў. Беларускія творы пры жыцці не друкаваліся з-за цэнзурных умоў, рукапісы іх не знойдзены.

*Чачот Ян Тадэвуш* (1796—1847) — беларускі і польскі паэт, фалькларыст. Скончыў Навагрудскую дамініканскую школу (1815), дзе пасябраваў з А. Міцкевічам. За ўдзел у студэнцкіх згуртаваннях зняволены ў віленскую турму (1823), потым сасланы на Урал, пераведзены ў Уфу, Цвер. На радзіму вярнуўся ў 1833 г. Пісаць пачаў у перыяд навучання ў Віленскім універсітэце (1815—1816). У 1818—1819 гг. напісаў каля 10 балад, шмат вершаў і песень, заснаваных на беларускім фальклоры (многія напісаны па-беларуску). Беларускім вершам вітаў прыезд з Коўна ў Вільню А. Міцкевіча (канец 1819 г.). Аўтар лібрэта аперэты «Малгажата з Зембіна». Чачот збіраў і вывучаў беларускі фальклор. Выдаў «Сялянскія песні» (1837—1846, Вільня) — 6 фальклорных зборнікаў, куды ўвайшло каля 1000 песень у перакладзе на польскую мову і ў арыгінале, а таксама прыказкі і прымаўкі, слоўнік беларускай мовы (200 слоў) і ўласныя беларускія песні.

*Для арыентацыі пасылаю Вам № «Рунь».* — Першы нумар рэдагаванага Я. Купалам часоп. «Рунь» выйшаў 2.05.1920 г.

*Верш «Хаўтурны марш»* — пераклад з польскай мовы верша К. Уеўскага «Marsz pogrzebowy». Я. Купала рыхтаваў яго публікацыю ў зб. «Наша ніва», 1920, кн. 1, дзе пераклад быў надрукаваны ўпершыню з паметай: Мінск, 9.IV.1920 г.

*№ 42. Да А. І. Луцкевіча* (с. 256)

Друкуецца і датуецца па кн. «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі», с. 773, дзе ўпершыню апублікаваны.

Аўтографы захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Літвы (ф. 582).

Ліст напісаны на бланку тыднёвіка «Рунь» і накіраваны ў Вільню.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 257: *Што чутно з Вашым месячнікам?* — З сакавіка 1920 г. А. Луцкевіч знаходзіўся ў Вільні, куды прыехаў пасля сваёй адстаўкі з паста Старшыні Рады БНР. У Вільні аднавіў выданне газ. «Наша ніва», да канца года склаў і выдаў зборнікі «Наша ніва». Я. Купала, відаць, менавіта іх меў на ўвазе. Вось якое тлумачэнне даецца ў названай вышэй кнізе дакументаў: «У траўні меўся выйсці № 1 месячніка «Наша ніва». З прычыны выхаду пад гэтым назовам літоўскага польскамоўнага перыёдыку выйшаў «Зборнік «Нашай нівы».

## № 43. *Да Ф. Ф. Турука* (с. 257)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 8).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

...*не сможете ли Вы выслать для меня несколько экз<емпляров> вышедшей книги моих переводов на русский язык...* — Гаворка ідзе пра зборнік «Янка Купала. Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

## № 44. *Да Ф. Ф. Турука* (с. 257)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 8).

Датуецца паводле зместу ліста.

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

...*я оставил Вам рукопись своих стихов «Спадчына»...* — *Зборнік «Спадчына»* — першае выданне твораў Я. Купалы пасля рэвалюцыі. Рукапісны варыянт зборніка быў падрыхтаваны ў 1918 г., але ён не захаваўся. Выдадзены ў Мінску ў 1922 г. Беларускім кааператыўна-выдавецкім таварыствам «Адраджэнне».

С. 258: ...*на издание моего зборника «Huślar» русским шрифтом...* — Зборнік «Гусляр» выйшаў з друку ў 1910 г. у Пецярбургу лацінскім шрыфтам у друкарні К. Пянткоўскага.

## № 45. *Да Я. Ф. Карскага* (с. 258)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (архіў АН РФ, ф. 292, воп. 2, адз. зах. 70, л. 1).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1946, 17 жн.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 7, л. 2—3).

*Я ўжо даўно выслаў Вам пісьмо і «Вольны сцяг» № 5(7) і першы аркуш № 6(8)...* — У № 5(7) і № 6(8) часоп. «Вольны сцяг» за 1921 г. змешчаны вершаваны купалаўскі пераклад «Слова аб палку Ігаравым» пад загалоўкам «Песня аб паходзе Ігара», пераклад з польскай мовы на беларускую 2 раздзелаў паэтычнай сімвалісцкай драмы Е. Жулаўскага «Эрос і Псіха».

*Цяпер, атрымаўшы Вашу адкрытку, мы выслалі па два экз. № 3...* — У № 3 часоп. «Вольны сцяг» за 1921 г. змешчана лекцыя У. Ігнатоўскага «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі», у якой асобны раздзел прысвечаны жыццю і творчасці Я. Купалы.

*Хацеў бы пачуць Вашы думкі аб гэтай маёй працы.* — Я. Купала атрымаў ад Я. Ф. Карскага падрабязны ліст пра вершаваны пераклад «Слова аб палку Ігаравым». Гэты ліст ад 16 студз. 1922 г., дзе пераклад ацэньваецца вельмі высока, захоўваецца ў архіве ІРЛІ (ф. 586, № 242, л. 1—1 адв.). Прыводзім яго тэкст:

«Петроград, 16 января 1922 г.

Многоуважаемый Иван Доминикович!

Ваш стихотворный перевод «Сл<ова> о п<олку> И<гореве>» вышел прекрасным: везде видно понимание старого текста и заметно художественное чутье, не говоря уже о легком стиле, соответствующем содержанию картины. В Вашей обработке белорусский язык оказался на высоте. Мне кажется только, что напрасно Вы избегаете нерифмованных стихов. Если бы Вы их не боялись, не пришлось бы обращаться ко многим ассонансам (созвучиям), которые рифм не составляют. Но это пустяк.

Для примечаний в отдельном издании для Вас достаточно одного Е. В. Барсова: нет ли его в университетской библиотеке? Имейте в виду, что книга Барсова — оттиск из Чтений в Моск<овском> общ<естве> истории и древн<остей> российских, печаталась в 80-х годах XIX ст. Если бы представилась оказия, я прислал бы Вам для пользования экземпляр нашей академической библиотеки. По почте этого сделать нельзя: книга в переплете, с укупоркой

будет очень дорого стоить, да и может пропасть. Собственного экземпляра не имею.

Ваш перевод я дал для просмотра и специалисту по «Сл<ову> о п<олку> И<гореве>» академику В. Н. Перетцу; он тоже согласен со мной относительно его достоинств.

Желаю Вам всего наилучшего!

Преданный вам *Е. Карский*».

*№ 46. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы* (с. 259)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 14—17 адв.).

Упершыню са скарачэннямі — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 1, л. 26—30).

*...што атрымалі праз п. Сушынскую...*— Відаць, гаворка ідзе пра жонку *Сушынскага Язэпа Францавіча* (1885—1967), знаёмага Я. Купалы.

*...праз гр. Сіманоўскага...— Сіманоўскі Іосіф Бенцыянавіч* (1892—1967) — беларускі бібліятэказнавец і бібліёграф. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1921 г.

*...там была і «Варта».*— Літаратурна-грамадскі, навукова-гістарычны і эканамічны часопіс. Выдадзены па ініцыятыве кіраўніцтва БНР у кастрычніку 1918 г. у Мінску — адзіны нумар на беларускай мове. Змешчаны публікацыі, прысвечаныя праблемам дзяржаўнага будаўніцтва, гаспадарчага і культурнага развіцця Беларусі. Літаратурная частка прадстаўлена творамі У. Сыракомлі, Ф. Багушэвіча, М. Гарэцкага, З. Бядулі, А. Паўловіча і інш., партрэтамі Б. І. Эпімах-Шыпілы, Р. Зямкевіча. Змешчаны фотаздымак Народнага сакратарыята Беларусі.

*...пасылаю Вам: ... 2) «Адраджэнне»...*— Відаць, гаворка ідзе пра літаратурна-навуковы веснік Інстытута беларускай культуры. Выдадзена ў 1922 г. толькі адна кніга. У ёй упершыню апублікаваны некаторыя раздзелы з паэмы «Новая зямля» і аповесці «У палескай глушы» Я. Коласа, празаічныя творы К. Каганца, паэма «Крылан» М. Грамыкі і інш.

Надрукаваны таксама артыкулы М. Піятуховіча пра творчасць Я. Коласа, С. Некрашэвіча аб правапісе дзеяслоўных форм, Е. Раманава «Шануйце старасветчыну» і інш. матэрыялы. Шырока пададзена хроніка навуковага і культурнага жыцця, у прыватнасці інфармацыя пра ўрачыстае ўшанаванне Я. Купалы (19.3.1922) і Я. Коласа (30.4.1922) у БДУ. Змешчаны рэцэнзіі на кнігі «Спадчына» Я. Купалы, «Водгулле» Я. Коласа, «Гісторыя беларускае літаратуры» М. Гарэцкага і інш.

*... 3) «Раскіданае гняздо»...*— Гл. камент. да ліста № 30.

*... 4) «Маладая Беларусь»...*— Гл. камент. да ліста № 61.

*... 5) «Методыка арыфметыкі»...*— Маецца на ўвазе падручнік «Зборнік арыфметычных задач і методыка арыфметыкі» Т. Лукашэвіча і С. Валасковіча.

*... 6) «Зоркі» № 4 за 22 г.— «Зоркі»* — дзіцячы часопіс. Выдаваўся Наркаматам асветы Беларусі з лютага 1921 г. па чэрвень 1922 г. у Мінску на беларускай мове. Тут упершыню друкаваліся некаторыя вершы Я. Купалы, пераклады з рускай і польскай паэзіі.

*... 7) «Граматыку» ч. ІІ Лёсіка...*— На працягу 1921—1927 гг. *Лёсік Язэп* (Іосіф) *Юр'евіч* (1883—1940) выдаў некалькі навуковых мовазнаўчых прац: «Практычная граматыка беларускае мовы», «Беларуская мова: Пачатковая граматыка», «Беларуская мова: Правапіс», «Сінтаксіс беларускае мовы», «У справе рэформы нашае азбукі», «Спрашчэнне правапісу», «Да рэформы беларускага правапісу», «Граматыка беларускае мовы: Фанетыка», «Граматыка беларускае мовы: Марфалогія». Відаць, у лісце ідзе гаворка пра апошнюю, названую тут працу.

С. 259: *...прыязджаючы з Полацку...*— На пачатку 1916 г. Я. Купала быў прызваны ў армію. Служыў у Мінску старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Разам з атрадам пераведзены ў Полацк.

*Толькі дзякуючы... ксяндзу рэктару б. Мінскай духоўнай семінарыі Абрантовічу...— Абрантовіч Ф.—* Гл. камент. да ліста № 39.

*...я не пайшоў да Абрагама па піва.*— Гл. камент. да ліста № 14.

С. 260: *...маю справу яшчэ і ў Публічную бібліятэку.*— Публічная бібліятэка імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына, старэйшая бібліятэка Расіі, заснавана ў 1795 г.

*...вычытаў у працы Барсава.— Барсаў Елпідзіфор Васільевіч* (1836—1917) — рускі фалькларыст, збіральнік і даследчык народнай творчасці і старажытнарускай пісьменнасці. Аўтар незакончанай манаграфіі «Слова аб палку Ігаравым» як мастацкі помнік Кіеўскай дружыннай Русі» (т. 1—3, 1887—1889). Я. Купала высока цаніў пераклад Барсавым «Слова...» і карыстаўся ім пры перакладзе твора на беларускую мову.

*...мушу яшчэ разгледзець... працу Калайдовіча...— Калайдовіч Канстанцін Фёдаравіч* (1792—1832) — рускі археограф, гісторык, філолаг. Яму належыць лінгвістычны аналіз «Слова аб палку Ігаравым». Я. Купала, відаць, меў на ўвазе артыкул К. Калайдовіча «Вопыт вырашэння пытання, на якой мове напісана «Песня аб палку Ігара...» («Працы Таварыства аматараў расійскай славеснасці», 1818, ч. II).

*...«Рунь»* — штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс. Выходзіў на беларускай мове ў Мінску з 2.5 да 4.7.1920 г. ва ўмовах акупацыі Беларусі войскамі Польшчы. Кірунак часопіса выявіўся ў сацыяльна-палітычных пытаннях, у творах мастацкай літаратуры і ў літаратурна-мастацкай публіцыстыцы. Выступаў за нацыянальную дзяржаўнасць беларускага народа, усебаковае развіццё яго эканомікі і культуры. У артыкулах і праграмных мастацкіх творах праводзіліся ідэі нацыянальнага рамантызму, самабытнасці беларускай эстэтыкі, літаратуры, мастацтва.

*...«Вольны сцяг»...*— літаратурна-мастацкі і навуковы ілюстраваны часопіс. Выдаваўся ў верасні 1920 г.— студзені 1922 г. у Мінску на беларускай мове. Працягваў традыцыі часопіса «Рунь». Адлюстроўваў пераходны стан беларускай грамадскай думкі і мастацкай літаратуры пачатку 1920-х гадоў. На яго старонках упершыню апублікаваны шэраг твораў, якія сталі здабыткам беларускай культуры. У рэдагаванні «Вольнага сцяга» ўдзельнічаў Я. Купала. Мастацкае афармленне першых нумароў — Я. Драздовіча. Выйшлі 9 нумароў, апошні ў каляровай вокладцы, аўтарства якой належала невядомаму мастаку.

*...Вера Краўцэвічанка...— Краўцэвіч Вера Іванаўна* нарадзілася ў Вільні ў 1900 г., беларуская пісьменніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю. Працавала карэктарам у рэдакцыі «Вольны сцяг». У 1921 г.— артыстка беларускай трупы Белдзяржтэатра. Далейшы лёс невядомы. У Мінску ў перакладзе В. Краўцэвіч на беларускую мову былі выдадзены дзве кнігі: апавяданне М. Баршавы «Лявонка на вёсцы» (1928) і зборнік апавяданняў Скуайрэ «Чайка-скайчек» (1930).

### *№ 47. У Наркамасветы* (с. 260)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 1, спр. 693, л. 2).

Ліст напісаны ў адказ на зварот школьнай рады 3-й Мазырскай сямігадовай школы ад 27 студз. 1926 г.

Пастанова Народнага камісарыята асветы БССР аб наданні 3-й Мазырскай сямігадовай працоўнай школе імя беларускага народнага паэта Івана Луцэвіча (Янкі Купалы) датуецца 31 мая 1926 г.

Упершыню — зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 163.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

№ 48. *У Наркамасветы* (с. 260)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 1, спр. 1475, л. 2).

Ліст напісаны ў адказ на прапанову педсавета школы на адвароце пісьма Наркамасветы БССР Я. Купалу ад 22 мая 1926 г.

Паэт знаходзіўся ў Полацку 10—13 мая 1926 г. 11 мая ў гарадскім тэатры адбыўся літаратурны вечар з яго ўдзелам.

Пастанова Народнага камісарыята асветы БССР аб наданні Полацкай паказальнай школе пры педтэхнікуме імя Я. Купалы датуецца 31 мая 1926 г.

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1965, 12 сак. у публікацыі К. Спасенкавай «Невядомае пісьмо Я. Купалы».

Друкаваўся ў зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 164—166.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

№ 49. *Да В. Ф. Станкевіча* (с. 261)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 9, л. 2).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

У жніўні — кастрычніку 1927 г. Я. Купала быў на лячэнні ў Карлавых Варах (былая нямецкая назва Карлсбад), горад у Чэхіі, курорт.

*Станкевіч Вікенцій Францавіч* (1886—1980) — інжынер, брат жонкі Я. Купалы. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1905 г. у Яхімоўшчыне, сустракаўся ў Акопах, дзе жыў. У час першай сусветнай вайны служыў афіцэрам дарожнабудаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Калі ў 1916 г. Купалу прызвалі на службу ў армію, паспрыяў, каб паэта накіравалі ў гэты атрад. Служылі разам у Полацку, з 1918 г. — у Смаленску. Сустракаліся ў Гродне ў кастрычніку 1940 г. і 28 сак. 1941 г.

Прыводзім тэкст ліста на беларускай мове ў перакладзе У. Мархеля:

«Любы Віця!

Не ведаю, ці ты атрымаў мой ліст, напісаны табе з Варшавы. Я ў Карлсбадзе, напішы. Адрас: Čechoslovacja, Karlsbad, třida Hansa-Heilinga pro Lucewiče.

Перадавай прывітанне ўсім, прыязджай з Уладкай у Карлсбад. От пагуляем.

Ваш *Я. Луцэвіч*».

№ 50. *Да В. Ф. Станкевіча* (с. 261)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 9, л. 1).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

*Станкевіч В. Ф.* — Гл. камент. да ліста № 49.

*З Закапанам, мусіць, нічога не будзе.* — Я. Купала мае на ўвазе курортны горад у Польшчы, куды паэт, відаць, меркаваў паехаць на лячэнне. Але ўрад Польшчы не выдаў Я. Купалу візы.

Прыводзім тэкст ліста на беларускай мове ў перакладзе У. Мархеля:

«Любы Віця!

Паштоўку тваю я атрымаў. Дзякую. З Закапанам, мусіць, нічога не будзе. Пару лішніх тыдняў прабуду тут або ў Нямеччыне. З 23/VIII ад Уладкі няма ніякай весткі, і я не ведаю, у якім стане яе справы з візамі. Гэтая няпэўнасць мне не на руку, бо маё лячэнне тут блізіцца да канца, а далей без весткі ад Уладкі я не ведаю, як мне быць. Ва ўсякім разе буду чакаць яе або вестак ад яе тут, у Карлсбадзе.

Бывайце здаровыя і вясёлыя.
Шчыра аддany *Янка*».

№ 51. *Да Л. М. Клейнбарта* (с. 261)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 110, л. 9, 9 адв.).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 18—30).

У БДАМЛіМ захоўваецца машынапісны экземпляр пісьма, пад якім памета Л. Бэндэ: «Дата и адресат не названы, однако это и есть та «Хронология», о которой Янка Купала пишет Клейнборту в письме от 23/XI-27 г.».

С. 261: *...не сумел я выполнить Вашего задания.*— Прыкладна ў гэты час Клейнбарт пачаў працаваць над кнігай аб жыцці і творчасці Янкі Купалы. У сувязі з гэтым ён часта звяртаўся да паэта з просьбай прысылаць неабходныя матэрыялы.

*Помешала много заграница...*— У жніўні — кастрычніку 1927 г. Я. Купала знаходзіўся на лячэнні ў Карлавых Варах (Чэхія).

С. 262: *...в книжке переводов моих стихотв<орений> на русский язык... а также у Карского.*— Маюцца на ўвазе зборнік Я. Купалы «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919) і кніга Я. Ф. Карскага «Белорусы», т. III, вып. 3, Пг., 1922.

*Отец мой родился...*— Бацька Я. Купалы Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч нарадзіўся 12 мая 1846 г.

*Эти Пески были подарены предкам отца за какие-то заслуги, но потом оказались во владении кн<язей> Радзивиллов.*— Луцэвічы (інакш Лазараўшчына або Пяскі) — засценак за 4 з паловай вярсты ад Магільна і за 13 вёрст ад Узды. Пасля скасавання Нясвіжскага павета належаў да Ігуменскага павета (Магільнянская вол.). Уваходзіў ва ўладанні князёў Радзівілаў, а з 50-х гадоў XIX ст. Вітгенштэйнаў. Тут жылі продкі Я. Купалы, прынамсі, з канца XVII і да 70-х гадоў XIX ст., валодаючы княжацкай зямлёй на чыншавым праве. Гэтае старадаўняе роднае гняздо Луцэвічаў знаходзілася зусім непадалёк ад Мікалаеўшчыны Я. Коласа, і некаторыя метрычныя запісы пра Луцэвічаў рабіліся ў Мікалаеўскім касцёле (гл. : Пуцявінамі Янкі Купалы. Укл. Г. Кісялёў. Мн., 1981).

*...около Ивенца Минск<ой> губ<ернии>.*— *Івянец* — пасёлак гарадскога тыпу ў Валожынскім раёне Мінскай вобласці, вядомы з XIV ст., належаў вял. кн. Вітаўту, пазней кн. Андрэю Уладзіміравічу, Салагубам.

*...в Раговичи... Старосельск<ой> волости Минск<ой> губ<ернии>.*— Зараз Раговічы Мінскага раёна Мінскай вобласці.

*Здзяхоўскі* (імя, г. н. і см. невяд.) — памешчык, уладальнік родавага маёнтка ў в. Ракаў (Валожынскі раён). У лісце 2 фактычныя недакладнасці: у Здзякоўскага было 3 сыны — Мар'ян (1861—1938), Казімір (1878—1942), Ежы (1880 — пасля 1944); прафесар Ягелонскага і Віленскага універсітэтаў Мар'ян Здзяхоўскі памылкова названы Купалам міністрам. Відаць, меўся на ўвазе Ежы Здзякоўскі, які ў 1925—1926 гг. быў міністрам фінансаў у Польшчы.

*...Вязынка... Радошк<овичской> вол<ости> Вилейск<ого> у<езда> Виленск<ой> губ<ернии>.*— Зараз Вязынка ў Маладзечанскім раёне Мінскай вобласці.

С. 263: *...Прудище... Минск<ой> губ<ернии> и у<езда> Беларучской волости.*— Зараз вёска Прудзішча Лагойскага раёна Мінскай вобласці.

*...Селище Минск<ой> губ<ернии> Борисовск<ого> у<езда> Гайно-Слободской вол<ости>.*— Зараз вёска Селішча Лагойскага раёна Мінскай вобласці.

*...Боровцы... Минск<ой> губ<ернии> и у<езда> Острошицко-Городецкой вол<ости>.*— Зараз вёска Бараўцы Мінскага раёна Мінскай вобласці.

*...Окопы... Виленск<ой> губ<ернии> Вилейск<ого> у<езда> Радошковичской волости.*— Зараз вёска Акопы ў Лагойскім раёне Мінскай вобласці.

*Начал учиться в Косине, учил Потапович...*— У 1887 г., калі сям'я Луцэвічаў жыла ў Косіна Барысаўскага павета Мінскай губерні, Янка займаўся ў вандроўнага настаўніка (дарэктара).

*...я учился одну зиму в Сенницком народном училище.*— Гл. камент. да ліста № 2.

С. 263: *...меня смутила надпись на календаре «Дозволено цензурою...»...* — Гл. камент. да ліста № 2.

*...учился в частной приготовительной школе...* — Гл. камент. да ліста № 2.

С. 264: *...одну зиму в Беларучьи (Минск<ой> губ<ернии> и у<езда>)...* — У 1897—1898 гг. вучыўся ў Беларускім двухкласным народным вучылішчы (Мінскі пав. і губ.), якое скончыў за адзін год, атрымаўшы адзіны ў сваім жыцці атэстат аб адукацыі.

С. 265: *В Селище, кажется, в 1901 г. умер весною отец, а осенью того же года единств<енный> брат и две младшие сестры (от скарлатины)...* — Гл. камент. да ліста № 2.

*И вот в 1903 г. (кажется) я пошел на службу, сначала домашним учителем (тоже вроде передвижника), а через два месяца попал писцом к судебному следователю в Радошковичи.* — У 1903 г. працаваў хатнім настаўнікам, а затым на працягу 2—3 тыдняў пісарам судовага следчага ў Радашковічах.

*...им. Толочин... Могилевск<ой> губ<ернии>...* — Зараз Талачын, горад, цэнтр раёна ў Віцебскай вобласці. У яго прыгарадзе Юзафполле знаходзіўся маёнтак Славенскіх, дзе ў снежні 1903 г. Купала павінен быў атрымаць пасаду ў лясніцтве, але яму адмовілі.

*...им<ение> Белица... Сенненск<ого> у<езда> Могил<евской> губ<ернии>.* — Зараз вёска Беліца (або Старая Беліца) у Сенненскім раёне Віцебскай вобласці.

*Там я прослужил сначала в конторе имения... уже в 1904 г. — в качестве младшего приказчика...* — Гл. камент. да ліста № 2.

*...им<ении> Сёмково... Минск<ой> губ<ернии> и у<езда>...* — Зараз вёска Сёмкава Мінскага раёна Мінскай вобласці.

С. 266: *...им<ении> Яхимовщина... Виленск<ой> губ<ернии> Вилейск<ого> у<езда>...* — Зараз вёска Яхімоўшчына Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.

*...им<ении> Дольный Снов... Минск<ой> губ<ернии>...* — Зараз вёска Дольны Сноў Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці.

*...им<ение> Белица Минск<ой> губ<ернии> Новогр<удского> у<езда>...* — Вёска Бенін Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Я. Купала ў лісце памылкова называе вёску Беліцай.

*...на общеобразовательные курсы А. Черняева...* — Курсы А. Чарняева былі адкрыты А. С. Чарняевым у Пецярбургу ў 1902 г. Я. Купала займаўся на курсах з 1909-га па 1913 г. Паступіць на вучобу яму дапамог Б. І. Эпімах-Шыпіла, які выкладаў на курсах лацінскую мову. Гл. камент. да ліста № 38.

*...вместо А. Н. Власова...* — Гл. камент. да ліста № 33.

*Жывапісцаў Сямён Канстанцінавіч* (нарадзіўся ў Гомелі, дата нараджэння невядомая — памёр у 1919 г.) — грамадскі дзеяч, мецэнат літаратуры і мастацтва. Жыў і працаваў у Арле. У 1915 г. яго наведаў Я. Купала. Там паэт напісаў верш «Арліныя крыллі», прысвечаны дачцэ Жывапісцава — Т. С. Жывапісцавай (1896—1942).

*...переехал... в Москву в Народный университет им. Шанявского.* — Гл. камент. да ліста № 27.

### *№ 52. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 267)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 111, л. 1—12).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 31—54).

Часткова апублікаваны ў зб. «Любімы паэт беларускага народа» (Мн., 1960).

*Причиной — кисловодское солнце, прогулки в горы...* — Прыблізна з сярэдзіны верасня знаходзіўся на лячэнні ў Кіславодску.

С. 267: *...из моей краткой биографии...*— Маецца на ўвазе біяграфія Я. Купалы, якая была даслана разам з лістом ад 23/XI-27 г.

*«Северо-Западный календарь»* на 1893 г. выдадзены ў Мінску ў 1892 г. пад рэдакцыяй А. І. Слупскага.

*Кандратовіч Людвіг.*— Гл. камент. да ліста № 2.

*Канапніцкая Марыя* (1842—1910) — польская пісьменніца. Я. Купала пераклаў цэлы шэраг твораў М. Канапніцкай: «Пара», «Каму», «На жалейцы», «Як кароль у паход выходзіў...», «Збудзіўся лес, азваўся лес...», «Тры пары дня», «Доля наша», «Сасонка».

*Ажэшка Эліза* (1841—1910) — польская пісьменніца. Аўтар раманаў «Пампалінскія» (1876), «Над Нёманам» (1887) і аповесцей «Марта» (1873), «Дзюрдзі» (1885), «Хам» (1888) і інш.

*Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1877/78) — рускі паэт. Я. Купала пераклаў на беларускую мову наступныя творы: 2 песні з паэмы «Каму на Русі жыць добра» («Галадоўліца», «Соленая»), вершы «Агароднік», «Нязжатыя гоні», «У людзей і ў нас», «Што ні год, памяншаюцца сілы» і інш.

*Кальцоў Аляксей Васільевіч* (1809—1842) — рускі паэт. У 1909 г. Я. Купала пераклаў верш «Путь» (у перакладзе «Гасцінец»).

*Лермантаў М. Ю.*— Гл. камент. да ліста № 2.

*Надсан Сямён Якаўлевіч* (1862—1887) — рускі паэт-лірык.

*Пушкін Аляксандр Сяргеевіч* (1799—1837) — рускі паэт. Я. Купала пераклаў на беларускую мову паэму «Медны коннік».

*Выспянскі Станіслаў* (1869—1907) — польскі драматург, мастак, паэт і тэатральны дзеяч. Аўтар твораў: «Варшавянка» (1898), «Казімеж Вялікі» (1900), «Вяселле» (1901), «Вызваленне» (1903), «Лістападаўская ноч» (1904) і інш.

*Славацкі Юліуш* (1809—1849) — польскі паэт і драматург. Аўтар твораў: «Ян Бялецкі» (1830), «Марыя Сцюарт» (1830), «Кардыян» (1834), «У Швейцарыі» (1839), «Бацька зачумленых» (1839), «Мазепа» (1840) і інш.

*Міцкевіч Адам* (1798—1855) — польскі паэт, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Аўтар паэм «Конрад Валенрод» (1828), «Дзяды» (1832), «Пан Тадэвуш» (1834) і інш. Я. Купала пераклаў 2 урыўкі з паэмы «Конрад Валенрод», балады «Пані Твардоўская», «Тры Будрысы», «Удагонку» і інш.

*Крашэўскі Юзеф Ігнацы* (1812—1887) — польскі пісьменнік. Буйны раманіст. Стварыў цыкл раманаў пра гісторыю Польшчы. Літаратурная спадчына — каля 600 твораў: «Графіня Козель» (1873), «Бруль» (1874), «Уляна» (1843), «Хата за вёскай» (1853—1854), «Старая казка» (1876) і інш. Я. Купала пераклаў на беларускую мову вершы Ю. Крашэўскага «Дзед і баба», «Да...» (у перакладзе «Ці ты знаеш старонку?»).

С. 268: *...я познакомился с одним польским помещиком Сигизмундом Чеховичем...*— Гл. камент. да ліста № 2.

«Бывшие люди» (1897), «На дне» (1902), «Дети солнца» (1905).

*Андрэеў Леанід Мікалаевіч* (1871—1919) — рускі пісьменнік, пачынальнік рускага экспрэсіянізму.

*Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч* (1796—1866) — дзяржаўны дзеяч Расіі. У 1831 г. і ў 1863—1865 гг. прымаў актыўны ўдзел у жорсткім падаўленні паўстанняў, за што ў сучаснікаў атрымаў прозвішча «Вешальнік».

*Салагуб* (сапр. Цяцернікаў) *Фёдар Кузьміч* (1863—1927) — рускі пісьменнік. Аўтар зборнікаў вершаў «Палітычныя казачкі» (1906), «Палымяны круг» (1908), «Адно каханне» (1921).

*Пшыбышэўскі Станіслаў* (1868—1927) — польскі пісьменнік, буйнейшы прадстаўнік дэкадансу. Аўтар раманаў «Памінальная імша» (1893), «Сінагога сатаны» (1897), драм «Госці» і «Залатое руно» (1901), «Снег» (1903), драматычнай паэмы «Адвечная казка» і інш. Уплыў Пшыбышэўскага на Я. Купалу быў даволі значны.

*Байран Джордж Гордан* (1788—1824) — англійскі паэт, прадстаўнік рэвалюцыйнага рамантызму. Аўтар паэм «Паломніцтва Чайльд-Гарольда» (1812—1818), «Гяур» (1813), «Лара» і «Карсар» (1814), «Шыльёнскі вязень» (1816), вершаванага рамана «Дон Жуан» і інш.

*Шэкспір Уільям* (1564—1616) — англійскі драматург і паэт. Аўтар п'ес «Рычард III» (1593), «Рамэо і Джульета» (1594), «Дванаццатая ноч» (1600), Гамлет» (1601), «Атэла» (1604), «Макбет» (1606), «Кароль Лір» (1606) і інш.

*Шылер Іаган Фрыдрых* (1759—1805) — нямецкі паэт, драматург, тэарэтык мастацтва. Аўтар п'ес «Каварства і каханне» (1784), «Разбойнікі» (1787), «Марыя Сцюарт» (1801) і інш.

*Сервантэс Сааведра Мігель дэ* (1547—1616) — іспанскі пісьменнік і драматург Адраджэння. Аўтар рамана «Дон Кіхот» (1605—1615).

*Гаўптман Герхарт* (1862—1946) — нямецкі пісьменнік, буйнейшы прадстаўнік нямецкага натуралізму. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Аўтар драм «Перад усходам сонца» (1889), «Роза Бернд» (1903), «Перад заходам сонца» (1932) і інш.

*Гамсун Кнут* (сапр. Педэрсен; 1859—1952) — нарвежскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Аўтар раманаў «Голад» (1890), «Пан» (1891), «Містэрыя» (1902), «Беноні» (1908) і інш.

*...и (автор выскочил из памяти) — сочинения его «Бранд», «Строитель Сольнес», «Женщина с моря»...* — Аўтар названых твораў *Ібсен Генрык* (1828—1906) — нарвежскі драматург. Яго творы — «Бранд» (1866), «Пер Гюнт» (1867), «Лялечны дом» («Нора», 1879), «Здані» (1881), «Будаўнік Сольнес» (1892) і інш.

С. 269: *Ядвігін Ш.*— Гл. камент. да ліста № 6.

*...исключенный из университета... за революционную деятельность...*— У 1890 г. за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях Ядвігін Ш. быў арыштаваны і выключаны з Маскоўскага універсітэта.

*...его одна п'еса на белорус<ском> языке ставилась, кажется, в Радошковичах любителями.*— Маецца на ўвазе камедыя «Злодзей» (1892) Ядвігіна Ш., якую рыхтаваў да пастаноўкі самадзейны гурток беларусаў-інтэлігентаў у Радашковічах (пастаноўка забаронена паліцыяй, рукапіс загінуў).

*Самойла У. І.*— Гл. камент. да ліста № 38.

*Бурбіс Алесь* (Аляксандр Лаўрынавіч; 1885—1922) — беларускі грамадскі дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага прафесійнага тэатра. Супрацоўнічаў у «Нашай ніве», прымаў удзел у першай беларускай трупе Ігната Буйніцкага і Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні.

*Скандракоў Сяргей Вячаслававіч* (1876—1953) — беларускі савецкі вучоны ў галіне земляробства. Прафесар. Пазнаёміўся з Купалам у 1904—1905 гг. Адзін з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук», якое рыхтавала да друку зб. «Жалейка».

*...братьями Луцкевичами...*— *Луцкевіч А. І.*— Гл. камент. да ліста № 1.

*Луцкевіч І. І.*— Гл. камент. да ліста № 15.

*...мое первое стихотв<орение> «Мужик» в минской газете «Сев<еро>-Зап<адный> край...*— Верш быў апублікаваны 15 мая 1905 г. *«Северо-Западный край»* — прагрэсіўная грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выходзіла на рускай мове з 1.11.1902 г. да 18.12.1905 г. у Мінску пад рэдакцыяй М. П. Лысаўскога.

*Ясенін Сяргей Аляксандравіч* (1895—1925) — рускі паэт. Зборнікі «Радуніца», «Вясковы часаслоў» (1918), «Персідскія матывы» (1925).

*Карынфскі А. А.*— Гл. камент. да ліста № 19.

*Эпімах-Шыпіла Б. І.*— Гл. камент. да ліста № 1.

С. 271: *Первое стихотворение написал я в Селище, посвященное сестре в день ее именин.*— Верш напісаны ў 1902 г. на польскай мове і прысвечаны роднай сястры Леакадзіі. Верш не захаваўся.

С. 271: *В каком году начал? Должно быть, в 1903 или 1904.*— Пачаў пісаць у 1903 г. на польскай мове (верш «Малітва»), а ў 1904 г. з'явіліся творы на беларускай мове (верш «Мая доля»).

*«Ziarno»* — літаратурна-грамадскі ілюстраваны часопіс. Выходзіў у Варшаве. У 1903—1904 гг. у ім былі надрукаваны асобныя раннія вершы Я. Купалы на польскай мове.

*Багушэвіч Францішак Казіміравіч* (1840—1900) — беларускі паэт-дэмакрат. Зрабіў вялікі ўплыў на развіццё беларускай літаратуры канца XIX — пач. XX ст., у тым ліку на творчасць Купалы.

*Дунін-Марцінкевіч Вінцук* (Вікенцій Іванавіч; 1808—1884) — беларускі паэт, драматург, тэатральны дзеяч. Адзін з першых значных пісьменнікаў новай беларускай літаратуры, папярэднік Я. Купалы. Творчасць Дуніна-Марцінкевіча значна паўплывала на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці Купалы. Паэт прысвяціў 25-годдзю з дня смерці Дуніна-Марцінкевіча верш «Памяці Вінцука Марцінкевіча».

*...это видно из первого тома моих сочинений.*— Маецца на ўвазе 1-ы том шасцітомнага Зб. тв. (1925—1932) і 1-ы том чатырохтомнага Зб. тв. (1928—1940), які з'яўляецца перадрукам 1-га тома 1925 г.

*...Помню, стихотв<орение> «Чаго вам хочацца, панове?» написано мною при перегонном и контрольном аппарате в винокур<енном> заводе...*— Гаворка ідзе пра верш «Ворагам Беларушчыны» (1907), назву якога Я. Купала ў лісце дае па першым радку.

*Зямкевіч Рамуальд Аляксандравіч* (псеўданімы: Раман Суніца, Юры Алелькавіч; 1881—1943 ці 1944) — беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст і гісторык беларускай літаратуры. Друкаваўся з 1909 г. у «Нашай ніве».

С. 272: *Ластоўскі В. Ю.*— Гл. камент. да ліста № 7.

### *№ 53. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 273)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 109, л. 1).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 75).

*Вы уже, наверно, получили... всяких воспоминаний.*— Маюцца на ўвазе аўтабіяграфічныя звесткі і ўспаміны, якія Я. Купала дасылаў Л. Клейнбарту для яго кнігі пра жыццё і творчасць паэта. (Гл. камент. да лістоў № 41, 42.)

### *№ 54. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 273)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 111, л. 13—22).

Упершыню са скарачэннем — Зб. тв., 1963, т. VI.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 55—74).

Урыўкі з ліста апублікаваны ў кн. «Янка Купала (Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы)», Мн., 1952, с. 26—28; «Любімы паэт беларускага народа», Мн., 1960, с. 13—17.

*Багушэвіч Ф.*— Гл. камент. да ліста № 52.

*Дунін-Марцінкевіч В.*— Тамсама.

С. 274: *...появилось в 1905 г. в печати мое стихотворение «Мужик»...*— Першы апублікаваны твор Я. Купалы, верш «Мужык», быў надрукаваны ў мінскай газеце «Северо-Западный край», 1905, 15 мая (ст. ст.).

*...я знакомился с Ядвигиным Ш.*— Гл. камент. да ліста № 6.

С. 275: *«Наша доля»* — першая легальная газета на беларускай мове. Выдавалася кірыліцай і лацінкай групай членаў Беларускай сацыялістычнай грамады ў Вільні з 1.9 да 1.12.1906 г. Выйшла 6 нумароў (5 з іх канфіскаваны). Купала прысвяціў газеце верш «Першай беларускай газеце» (1906).

*«Наша ніва»* — штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выдавалася легальна ў Вільні з 10(23).11.1906 г. да 7(20).8.1915 г. на беларускай мове да 18(31) 1912 г. кірыліцай і лацінкай, пазней кірыліцай.

Першы рэдактар і выдавец С. Вольскі, з 8(21).12.1906 г.— А. Уласаў, з 7.3.1914 г.— рэдактар, з 16.5.1914 г.— рэдактар-выдавец Купала (падлісваўся сапраўдным прозвішчам І. Луцэвіч).

*Бядуля Змітрок* (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі пісьменнік. З Купалам пазнаёміўся ў Вільні ў пачатку 1913 г., куды прыехаў па запрашэнні рэдакцыі «Нашай нівы».

*Колас Якуб* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт БССР (1926). Першая сустрэча паэтаў адбылася на пачатку жніўня 1912 г. на хутары Смольня каля в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, куды Я. Купала прыехаў спецыяльна, каб пазнаёміцца з Я. Коласам.

*Багдановіч М.*— Гл. камент. да ліста № 28.

*Гарун Алесь* (сапр. Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; літ. псеўданімы І. Жывіца, А. Навадворскі, Сальвэсь, А. Сумны; 27.2.(11.3)1887—28.7.1920) — пісьменнік, дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. У 1912 г. працаваў над вершаванай п'есай «Дэпутат». У 1912—1915 гг. дэбютаваў як празаік апавяданнямі «Маладое», «Пан Шабуневіч», «Чалавек без крыві». Падрыхтаваў зборнік вершаў «Матчын дар», у які ўвайшлі вершы 1907—1914 гг. Выдадзены ў 1918 г. Другі паэтычны зборнік «Новая песня» застаўся незавершаным.

*Цётка* (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876—1916) — беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка. Жыла ў Львове, перапісвалася з Я. Купалам, прапагандуючы яго творы сярод львоўскай інтэлігенцыі. Яшчэ да асабістага знаёмства паэт прысвяціў Цётцы верш «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай» (1906). Асабістае знаёмства адбылося ў лютым 1910 г. у Пецярбургу на вечарыне беларускіх студэнтаў, дзе паэтка чытала свае вершы. З 1914 г. вершы Я. Купалы друкаваліся ў часоп. «Лучынка», які рэдагавала Цётка.

*Буйло* (сапр. Калечыц) *Канстанцыя Антонаўна* (1893—1986) — беларуская паэтэса. З Я. Купалам пазнаёмілася ў Вільні. Яшчэ да знаёмства паэт прысвяціў Буйло верш «Мая думка» (1910). Сустракаліся ў Полацку, Маскве, сябравалі. Пісаць пачала пад уплывам Купалы. Першы зборнік К. Буйло «Курганная кветка» (1914) склаў і рэдагаваў Я. Купала. Яму паэтэса прысвяціла свой верш «Звон» (1913).

*Гурло Алесь* (Аляксандр Кандратавіч; 1892—1938) — беларускі паэт. З Купалам пазнаёміўся ў 1910 г. у Пецярбургу. Сустракаліся на вечарах беларускай моладзі ў доме Б. І. Эпімах-Шыпілы.

У 1920—1930 гг. А. Гурло і Я. Купала сябравалі, разам працавалі ў Інбелкульце (з 1921 г.), былі заснавальнікамі і членамі літаратурнага аб'яднання «Полымя».

У 1920—1930 гг. А. Гурло — навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства БелАН. Аўтар зборнікаў «Барвёнак» (1924), «Спатканні» (1925), «Сузор'і» (1926), «Межы» (1929) і інш.

Арыштаваны 25 ліп. 1930 г. па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення СССР 10 крас. 1931 г. сасланы на 5 гадоў у Самару ўмоўна. Памёр 4 лют. 1938 г. у Мінску ад сухотаў. Рэабілітаваны 15 лістап. 1957 г.

*Журба Янка* (сапр. Івашын Іван Якаўлевіч; 1881—1964) — беларускі паэт. З 1902 г. друкаваў этнаграфічныя нарысы ў газ. «Витебские губернские ведомости». Першы верш на беларускай мове «На беразе Дзвіны» апублікаваны ў 1909 г. у «Нашай ніве». Аўтар публіцыстычных артыкулаў («Лісты з Украіны»), апавядання «Перад святам», зборнікаў вершаў для дзяцей «Ластаўкі» (1950), «Сонечная раніца» (1955), «Светлыя дні» (1959).

*Неслухоўскі Іван Люцыянавіч* (псеўд. Лучына Янка; 1851—1897) — беларускі паэт-дэмакрат. Пісаў на беларускай, рускай, польскай мовах. Упершыню выступіў у друку з вершам на рускай мове «Не ради славы иль расчета» ў 1886 г. Друкаваўся ў газ. «Минский листок», «Паўночна-Заходнім календары на

1893 год», польскіх часопісах і штотыднёвіках «Польскі голас», «Калоссе», «Край», «Праўда», «Жыццё» і інш. Яму належыць таксама нарыс «З крывавых дзён» (1889). Збярогся драматургічны абразок паэта без назвы. Ён перакладаў з польскай на беларускую і рускую мовы творы У. Сыракомлі, з рускай на польскую — І. Крылова, М. Някрасава, В. Чуміной і інш., з нямецкай — Г. Гейнэ, з старажытнагрэчаскай — Гамера.

*Чачот Я.*— Гл. камент. да ліста № 41.

*Гартны Цішка* (сапр. Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887—1937) — беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН БССР (1928). Літаратурную дзейнасць пачаў у 1909 г. у газ. «Наша ніва». 9.1.1909 г. быў надрукаваны яго першы верш «Бяздольны». Першы зборнік «Песні» выйшаў у 1913 г. Новай для беларускай паэзіі была рабочая тэматыка. У паслякастрычніцкі час выйшлі зборнікі вершаў «Песні працы і змагання» (1922), «Урачыстасць» (1925), зборнік апавяданняў «Трэскі на хвалях» (1924), «Прысады» (1927, 1930). У 1914—1919 гг. працаваў над раманам «Сокі цаліны». Напісаў п'есы «Хвалі жыцця», «Сацыялістка», «На стыку», «Дзве сілы». Аўтар зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Узгоркі і нізіны» (1928).

З Я. Купалам Цішка Гартны пазнаёміўся ў Пецярбургу, калі наведваў «штаб» беларускага нацыянальнага руху — кватэру Б. І. Эпімах-Шыпілы. У 1919 г. Гартны прыехаў да Я. Купалы ў Смаленск, паведаміў яму пра ўтварэнне БССР. З Я. Купалам удзельнічаў у стварэнні часопіса «Полымя». Разам з ім і А. Александровічам сустракаў на станцыі Негарэлае М. Горкага, які вяртаўся з Італіі (30.5.1929). Неаднаразова ездзіў з Купалам па краіне і за мяжу. У лютым — снежні 1918 г.— галоўны сакратар, загадчык выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамнацы РСФСР, адначасова рэдактар яго органа — газ. «Дзянніца» — першай савецкай газеты на беларускай мове. Удзельнік стварэння Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь, аўтар маніфеста аб яе абвяшчэнні. З 1.1 да 2.2.1919 г. старшыня Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. У 1919—1920 гг. сакратар газ. «Красная звезда» (Харкаў), палітработнік у штабе 14-й арміі Паўднёвага фронту, потым літ. супрацоўнік у штабе Заходняга фронту ў Смаленску. З 1920 г. сакратар, адказны рэдактар газеты «Савецкая Беларусь», з 1921 г. у Мінску, быў рэдактарам часопіса «Полымя», узначальваў Цэнтральны архіў БССР і Дзяржвыдавецтва БССР, бюро Гістпарта ЦБ КП(б)Б, з'яўляўся членам прэзідыума Інбелкульта, навуковым сакратаром камісіі па вывучэнні гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі, працаваў намеснікам наркома асветы і старшынёй Галоўмастацтва БССР. У сакавіку 1922 г. ездзіў у Берлін, каб дамовіцца аб выданні беларускіх падручнікаў і твораў мастацкай літаратуры. У 1923 г. пленум ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб прысваенні Жылуновічу звання народнага паэта Беларусі, аднак пастанова не была выканана. Удзельнік Другой Усебеларускай канферэнцыі (Берлін, 1925). Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1927—1929 гг., член ЦВК БССР у 1920—1931 гг. 16.1.1931 г. пастановай ЦК КП(б)Б выключаны з партыі. У 1934 г. прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР. У 1934—1936 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі Беларускай АН. 15.11.1936 г. арыштаваны органамі НКУС. 7.4.1937 г. памёр у Магілёўскай псіхіятрычнай лячэбніцы. Ёсць звесткі, што скончыў жыццё самагубствам. 19.12.1954 г. рэабілітаваны. Поўнасцю рэабілітаваны 10.9.1987 г.

*Чарот Міхась* (сапр. Кудзелька Міхаіл Сямёнавіч; 1896—1937) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Удзельнік падпольнага руху ў час акупацыі Беларусі войскамі буржуазнай Польшчы. З 1920 г. супрацоўнік, у 1925—1929 гг.— рэдактар газ. «Савецкая Беларусь». Ініцыятар стварэння і кіраўнік з 1923 г. літаратурнай арганізацыі «Маладняк». Друкавацца пачаў з 1918 г. Першы зборнік «Завіруха» выйшаў у 1922 г. Гераіка-рамантычная паэма «Босыя на вогнішчы» (1921) — адзін з найбольш значных твораў беларускай паэзіі. Своеасаблівы працяг гэтага твора — паэма-фантазія «Чырванакрылы

вяшчун» (1923). У 1924 г. выйшлі паэмы «Ленін», «Беларусь лапцюжная», у 1925 г.— «Марына», у 1926 г.— «Карчма». Кніга вершаў «Сонечны паход» выйшла ў 1929 г. Пяру Чарота належаць таксама празаічныя творы: зборнік апавяданняў «Веснаход» (1924), аповесць для юнацтва «Свінапас» (1923—1924), на аснове якой створаны першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль» (1926). Аўтар вадэвіля «Мікітаў лапаць», п'ес для дзяцей «Данілка і Алеська», «Пастушкі» і інш.

Арыштаваны 24 студз. 1937 г. НКУС БССР. Выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР 28 кастр. 1937 г. асуджаны да вышэйшай меры пакарання.

Расстраляны 29 кастр. 1937 г. у Мінску. Рэабілітаваны ў чэрвені 1956 г.

*Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч* (1900—1976) — беларускі паэт, перакладчык. Скончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю (1918), у 1924 г.— Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут ім. В. Брусава ў Маскве. У 1922—1925 гг.— рэдактар беларускага тэксту «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР», адначасова адказны сакратар паспрэдства БССР пры ўрадзе СССР (1923—1924). У 1924—1927 гг. выкладчык беларускай мовы ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду, у 1926—1930 гг.— рэдактар «Збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўраду Саюза ССР». Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», першы рэдактар часопіса «Беларускі піянер». З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1924 г. у Мінску, сустракаліся тут у 1925—1929 гг.

20.7.1930 г. быў беспадстаўна арыштаваны, абвінавачаны ў сувязі з «контррэвалюцыйным» «Саюзам вызвалення Беларусі», асуджаны 10.4.1931 г. на 5 гадоў высылкі ў Яранск. У ліпені 1935 г. тэрмін ссылкі быў падоўжаны на 2 гады. У ліпені 1937 г. пазбаўлены волі на 10 гадоў. Пасля адбыцця тэрміну пакарання жыў у Грузіі. 16 лют. 1949 г. ізноў арыштаваны і ў красавіку 1949 г. асуджаны на 25 гадоў зняволення. Рэабілітаваны 15.11.1957 г.

Друкавацца пачаў з 1921 г. Першы зборнік «Строма» (1923). Аўтар кнігі «Палеская рапсодыя» (1961). Літаратурная прэмія імя Я. Купалы (1962). На беларускую мову перакладаў творы У. Шэкспіра, Дж. Г. Байрана, У. Сыракомлі і інш.

*Кальцоў А. В.*— Гл. камент. да ліста № 52.

*Клюеў Мікалай Аляксеевіч* (1887—1937) — рускі паэт. Зборнікі: «Сосен перезвон» (1912), «Песнослов» (2 кн., 1919), «Изба и поле» (1928).

*Ясенін С. А.*— Гл. камент. да ліста № 52.

*Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (1814—1861) — украінскі паэт, мастак, рэвалюцыйны дэмакрат, заснавальнік новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы. Нарадзіўся ў сям'і прыгоннага селяніна. У 1838 г. быў выкуплены ў памешчыка і паступіў у Пецярбургскую мастацкую акадэмію. Быў звязаны з петрашэўцамі. У 1847 г. за ўдзел у Кірыла-Мяфодзіеўскім таварыстве быў арыштаваны і сасланы радавым у асобны Арэнбургскі корпус. Калі вярнуўся ў 1858 г. у Пецярбург, зблізіўся з Чарнышэўскім і Дабралюбавым. Асноўныя творы: зб. вершаў «Кабзар» (1840), паэмы «Кацярына» (1838), «Гайдамакі» (1841), «Сон» (1844), «Наймітка» (1845), «Неафіты» (1857), «Марыя» (1859), п'еса «Назар Стадоля» (1843).

*Брандэс Георгі* (1842—1927) — дацкі літаратуразнаўца. Аўтар манаграфіі пра Шэкспіра, Гётэ, пісаў таксама артыкулы аб творчасці рускіх пісьменнікаў Л. Талстога, І. Тургенева, Ф. Дастаеўскага, М. Горкага і інш.

*Тычына Паўло Рыгоравіч* (1891—1967) — украінскі грамадскі дзеяч. Аўтар зборнікаў вершаў «Партыя вядзе» (1934), «Пачуццё сям'і адзінай» (1938), «Сталь і пяшчота» (1941) і інш.

З Я. Купалам упершыню сустрэўся ў Харкаве ў 1928 г., куды беларускі паэт прыязджаў па запрашэнні ўкраінскіх пісьменнікаў, двойчы сустракаліся ў Мінску (май 1928 г., верасень 1932 г.— на святкаванні 50-годдзя Я. Купалы).

*Горкі А. М.*— Гл. камент. да ліста № 2.

С. 277: *...уже два месяца, как наша организация «Полымя» собирается выслать несколько членов в Ленинград, в число последних должен попасть и я.*— Сапраўды, з 22 лют. па 6 сак. 1929 г. Я. Купала з дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў наведвае Ленінград.

С. 278: *«Я. Купала ў крытыцы».*— Зборнік «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы» выйшаў у Мінску ў 1928 г. Сярод аўтараў артыкулаў М. Байкоў, Дз. Жылуновіч, І. Замоцін, М. Піятуховіч і інш.

*Посылаю Вам «Чырв<оную> краіну».*— Маецца на ўвазе дадатак да газ. «Савецкая Беларусь». Выйшла тры нумары ў 1927 г. і адзін — у 1929 г.

*№ 55. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 278)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 109, л. 2, 2 адв.).

Упершыню са скарачэннямі — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 76—78).

*...Все же около 20/II думаем быть в Вашей столице.*— З 22 лют. па 6 сак. 1929 г. Я. Купала разам з групай беларускіх пісьменнікаў знаходзіўся ў Ленінградзе.

*...Книга Ваша произвела на меня самое лучшее впечатление...*— Гаворка ідзе аб працы Л. Клейнбарта «Молодая Беларусь. Очерк современной белорусской литературы 1905—1928 гг.» (Мн., 1928).

*Карскі Я. Ф.*— Гл. камент. да ліста № 38.

*Луцкевіч А. І.*— Гл. камент. да ліста № 1.

*Луцкевіч І. І.*— Гл. камент. да ліста № 15.

*№ 56. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 279)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 109, л. 4—4 адв.).

Упершыню са скарачэннем — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 79—80).

*...грамоту правительства о надании мне звания народного поэта.*— 10 чэрв. 1925 г. Савет Народных Камісараў БССР пастанавіў прысвоіць Купалу званне народнага паэта Беларусі.

*Эпімах-Шыпіла Б. І.*— Гл. камент. да ліста № 1.

*...нашлась часть моих рукописей... думаю опубликовать в «Полымі».*— Знойдзеныя творы былі апублікаваны ў часоп. «Полымя», 1929, № 2, 3 і 1930 — № 5, 6.

*Луцкевіч А. І.*— Гл. камент. да ліста № 1.

*№ 57. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 280)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 109, л. 5—6 адв.).

Упершыню са скарачэннямі — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 81—84).

*...Шипилло...— Шыпіла Ігнат Іванавіч* (1887—?) — журналіст. Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю ў 1905 г. У гады першай рускай рэвалюцыі на падпольнай рабоце ў Полацку і Вільні. Тры разы арыштоўваўся царскімі ўладамі. У 1912 г. высланы ў Сібір. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Омску на прафсаюзнай, журналісцкай і педагагічнай рабоце. З 1922 г.— у Мінску, член рэдкалегіі газ. «Беларуская вёска». У 1924—1925 гг.— адказны рэдактар «Савецкай Беларусі», у 1926—1928 гг.— супрацоўнік арганізацыйнага аддзела Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР. Загадчык Белдзяржвыдавецтва. З 1931 г.— у Маскве. Рэпрэсіраваны.

*Гартны Ц.*— Гл. камент. да ліста № 54.

*Напрасно Вы обратили внимание на отзывы недоучек-писак о Вашей книге...*— Гл. камент. да ліста № 55.

С. 280: *Книгу обо мне... заканчивайте...*— Відаць, гаворка ідзе пра манаграфію Л. Клейнбарта «Янка Купала. Вопыт характарыстыкі літаратурнай і біяграфічнай» (1929—1934), якая, на жаль, не была надрукавана з-за нападак на Клейнбарта і Я. Купалу вульгарна-сацыялагічнай крытыкі.

С. 281: *...Брюсов перевел четыре стихотв<орения>...*— Гл. камент. да ліста № 28.

*...нужно для Московского ГИЗа, который... печатает книжку переводных моих стихотв<орений>...*— У 1930 г. у Маскве ў Дзяржаўным выдавецтве РСФСР выйшлі з друку «Избранные стихи» Я. Купалы з уступным артыкулам Л. М. Клейнбарта.

*Равіч Мікалай Аляксандравіч* — савецкі пісьменнік, празаік і драматург, у той час супрацоўнік выдавецтва, дзе рыхтавалася кніга Я. Купалы.

### *№ 58. Да П. Р. Тычыны* (с. 281)

Друкуецца і датуецца па ксеракопіі (НД 5066).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Тычына П. Р.*— Гл. камент. да ліста № 54.

*Сардэчна дзякую Вам за павіншаванне з абраннем мяне акадэмікам славутай Украінскай Акадэміі.*— Я. Купала быў абраны акадэмікам АН Украіны 29 чэрв. 1929 г. разам з П. Тычынам.

*У мяне друкуецца кніжка вершаў «1918—1928»...*— Гаворка ідзе пра паэтычны зборнік «Творы. 1918—1928», які выйшаў у БДВ (Мн., 1930).

### *№ 59. Да Л. М. Клейнбарта* (с. 282)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 109, л. 7—7 адв.).

Упершыню са скарачэннем — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 2, л. 85—86).

*...Шипилло...*— Гл. камент. да ліста № 57.

*Цвікевіч Іван Іванавіч* (1891—1938) — беларускі дзеяч навукі і культуры. Скончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага універсітэта ў 1914 г. Удзельнік першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, ваенны ўрач. У 1920 г. інтэрніраваны ў Германію. З сярэдзіны 1921 г. у Берліне — у замежным аддзеле Дзяржвыдавецтва РСФСР. З мая 1923 г. у Мінску ў Белдзяржвыдавецтве, адначасова член калегіі Наркамата аховы здароўя БССР і старшыня медсекцыі Інстытута беларускай культуры. Аўтар шэрагу навукова-папулярных прац па медыцыне і гісторыі. Арыштаваны 18 ліп. 1930 г. Дзяржаўным палітычным упраўленнем БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10 крас. 1931 г. асуджаны на 5 гадоў папраўча-працоўнага лагера. Пакаранне адбываў у Нарыме, затым працаваў ва Усць-Каменскай райбальніцы Алтайскага краю. 22 жн. 1937 г. ізноў арыштаваны і 1 ліп. 1938 г. асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 1 ліп. 1938 г. Рэабілітаваны 19 верас. 1960 г.

### *№ 60. Да Я. Ф. Калітоўскага* (с. 282)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 10, л. 1).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII з купюрай.

Калітоўскія Яўген Фёдаравіч і Вольга Уладзіміраўна — знаёмыя Я. Купалы, муж і жонка.

*Калітоўскі Яўген Фёдаравіч* (1896—1980) — беларускі вучоны ў галіне фізіятэрапіі і курарталогіі. Сустракаўся з Я. Купалам у Мінску ў 1921—1926 гг. і ў 1926—1940 г. у Кіславодску. Сябра і доктар, які неаднаразова лячыў паэта.

*Цвікевіч Аляксандр Іванавіч* (1888—1937) — дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння. У 1912 г. скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Быў прысяжным павераным у Брэст-Літоўску і Пружанах. Адзін з заснавальнікаў Беларускай народнай грамады ў 1917 г. у Маскве. Працаваў сакратаром у Інбелкульце. З 1929 г. у Інстытуце гісторыі БелАН. Аўтар кнігі «Западно-руссизм» (1929, 2-е выд. 1993).

14 ліп. 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай КАДПУ СССР 10 крас. 1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі. Абвінавачваўся ў тым, што з 1925 г. да дня арышту ўваходзіў у кіруючы цэнтр «контррэвалюцыйнай арганізацыі СВБ і выконваў асноўныя задачы гэтай арганізацыі». Пасля адбыцця пакарання тэрмін ссылкі быў прадоўжаны на 2 гады. Другі раз арыштаваны ў 1937 г. і 17 снеж. таго ж года камісіяй НКУС і пракурора СССР прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 30 снеж. 1937 г. у Мінску.

С. 283: *Сшыткаў для Рыты не купляў...*— Я. Купала мае на ўвазе дачку Калітоўскіх.

*№ 61. Да П. Р. Тычыны* (с. 283)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ЦДАМЛіМ Украіны, ф. 460, воп. 1, адз. зах. 1460).

Упершыню — кн. «Пуцявінамі Янкі Купалы», Мн., 1981, с. 174—175.

Урывак у перакладзе на рускую мову друкаваўся ў часоп. «Неман», 1978, № 8 у публікацыі А. Слесарэнкі «Дружылі паэты».

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 128).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...як стаіць справа з маім зборнікам перакладаў на ўкраінскую мову...*— Гаворка ідзе пра кн. «Вибрані твори». Харьків—Київ, 1937.

*Піліпенка Сяргей Уладзіміравіч* (1891—1943) — украінскі пісьменнік, перакладчык, журналіст, літаратуразнавец. Кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Плуг».

*Як толькі выйдзе мой новы том, я зараз жа Вам вышлю.*— Відаць, Я. Купала меў на ўвазе VI том Збору твораў, 1932, ці III том другога Збору твораў, які таксама выйшаў у 1932 г.

*Беларускае Дзярж<аўнае> в<ыдавецт>ва вырашыла выдаць на беларускай мове творы Шаўчэнкі.*— Маецца на ўвазе кніга «У вянок Т. Р. Шаўчэнку». Мн., 1939.

*№ 62. Да К. С. Елісеева* (с. 284)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 11, л. 1).

Упершыню — Зб. тв., 1976, № VII па аўтографе.

*Елісееў Канстанцін Сцяпанавіч* (1890—1968) — рускі графік, мастак тэатра і кіно. У 1920—1922 гг. жыў у Мінску, мастак БДТ-І. З 1922 г. працаваў у рэдакцыі часоп. «Крокодил» у Маскве. Сябар Я. Купалы.

*№ 63. Да К. С. Елісеева* (с. 284)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 11, л. 2—3).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI. У Зб. тв., 1976, т. VII памылкова пазначана, што ліст друкуецца ўпершыню.

*Елісееў К. С.*— Гл. камент. да ліста № 62.

*Достань для меня как-нибудь... «Кобзарь» Шевченки на русском языке.*— У 1930-я гады на Беларусі адзначалася 120- і 125-годдзе з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі. У лісце да П. Тычыны ад 8 мая 1930 г. Я. Купала раіўся наконт прапановы перакладаць на беларускую мову творы Т. Шаўчэнкі: «Беларускае дзяржаўнае выдавецтва вырашыла выдаць на беларускай мове творы Шаўчэнкі. Мне прапануюць хоць часць узяць на сябе перакладаў і агульную рэдакцыю перакладаў. Мажліва, што згаджуся» (гл. ліст № 61). У сак. 1939 г. «Кабзар» Т. Шаўчэнкі выйшаў на беларускай мове пад рэдакцыяй Я. Купалы і Я. Коласа, у які ўключаны 19 перакладаў Я. Купалы.

*№ 64. Да К. С. Елісеева* (с. 285)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 11, л. 4—5).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII з купюрай.

С. 285: *...потому что на август — сентябрь... в Кисловодске.*— На самай справе не атрымалася так, як планаваў Я. Купала. У жніўні (з 17 па 21) паэт ездзіў на адкрыццё Беламорска-Балтыйскага канала. На лячэнні ў Кісла-водску ён знаходзіўся з 14 лістап. 1933 г. па 5 студз. 1934 г. (гл. ліст № 59).

*...можно было бы придумать и поближе <к> Минску, напр. Талька.*— Талька — вёска ў Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці, на рацэ Талька (83 км ад Мінска).

*№ 65. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 285)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 8, воп. 2, адз. зах. 7).

Упершыню — часоп. «Неман», 1972, № 7.

Публікацыя падрыхтавана ўнучкай армянскага пісьменніка Аванеса Тума-няна — Ірмай Сафразбекян, якая выявіла ліст у архіве С. Гарадзецкага ў сувязі з працай над тэмай «С. Гарадзецкі і Арменія».

*Гарадзецкі Сяргей Мітрафанавіч* (1884—1967) — рускі паэт, перакладчык. Пераклаў на рускую мову больш за 40 твораў Я. Купалы. Блізкі сябар паэта.

*...вышли спешной почтой свой полный исправленный перевод.*— Я. Купала мае на ўвазе пераклад паэмы «Над ракою Арэсай». Паэма была надрукавана ў перакладзе С. Гарадзецкага ў часоп. «Новый мир», 1933, № 10. Асобным выданнем у тым жа перакладзе паэма выйшла ў 1933 г. у Маскве. У лісце да Я. Купалы ад 29 жн. 1933 г. С. Гарадзецкі распавядае аб працы над перакладам: «Совхоз» перевел хорошо, хотя почему-то было трудно... Теперь, после поправок, он тебя удовлетворил (ГИХЛ очень хвалит перевод)» (Неман. 1972. № 7).

*Накаракаў Мікалай Нікандравіч* (1881—1970) — адзін з арганізатараў выдавецтва «Советская энциклопедия». У 1930—1937 гг. дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры (Масква).

*Гронскі Іван Міхайлавіч* — у 1932—1937 гг. адказны рэдактар часоп. «Новый мир». У 1933 г. у часоп. «Новый мир» (№ 10) была надрукавана паэма Я. Купалы «Над ракою Арэсай» у перакладзе С. М. Гарадзецкага.

*№ 66. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 286)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 1220, воп. 1, адз. зах. 63, л. 2).

Друкуецца ўпершыню.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 13, л. 10—11).

*...вышли мне недавно вышедшую в Москве книгу о Беломорско-Балтийском канале...*— У жніўні 1933 г. Я. Купала прысутнічаў на адкрыцці Беламорска-Балтыйскага канала. Аб уражаннях ад паездкі расказаў у артыкуле «Цуда, створанае бальшавікамі» (Літ. і мастацтва. 1933. 23 крас.).

Я. Купала меў на ўвазе кн. «Беломоро-Балтийский канал имени Сталина: История строительства» / под ред. М. Горького. Б. М.: История фабрик и заводов. М., 1934. 614 с.

*№ 67. Да М. К. Хайноўскай* (с. 286)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 12).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Хайноўская Марыя Канстанцінаўна* (1903—1992) — бібліятэкар, знаёмая Я. Купалы. Пазнаёмілася з ім у 1925 г. У 1928—1931 гг. вучылася ў Мінскім медыцынскім інстытуце. У 1928—1941 гг., 1944—1977 гг. загадчыца бібліятэкі СП БССР. Часта сустракалася з Я. Купалам у Мінску ў СП БССР, бывала ў яго дома, на дачы ў Ляўках. У кастр. 1940 г. з Я. Купалам і акад. Пракапчуком А. Я. ездзіла ў Гродна. У час Айчыннай вайны дапамагала матэрыяльна маці паэта Б. І. Луцэвіч і яго сястры Г. Д. Луцэвіч.

*№ 68. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 287)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 8, воп. 2, адз. зах. 8).

Упершыню — часоп. «Неман», 1972, № 7.

*...узнай... что и как с моим сборником...*— Я. Купала мае на ўвазе зборнік «Избранные стихи и поэмы, 1906—1935», які выйшаў з друку на рускай мове ў Маскве пад рэдакцыяй С. Гарадзецкага ў 1935 г. Шэраг твораў у зборніку даюцца ў перакладзе С. Гарадзецкага.

*Пробуду я в Кисловодске до 5.II.1934 г.*— Я. Купала памыліўся: трэба чытаць да 5.I.1934 г. (гл. ліст № 69).

*№ 69. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 287)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 1220, воп. 1, адз. зах. 63, л. 3).

Друкуецца ўпершыню.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 13, л. 1).

*Я, кажется, в письме перепутал...*— Я. Купала мае на ўвазе ліст да С. М. Гарадзецкага ад 9 снеж. 1933 г.

*№ 70. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 287)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 13, л. 1—2).

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1961, № 8 у перакладзе на беларускую мову. Публікацыя падрыхтавана Я. Ю. Раманоўскай. На рускай мове — Зб. тв., 1963, т. VI.

С. 288: *...я послал... для «Нового мира»... твои переводы — «Борисов», «Песни нужны нам».*— Пераклады паэмы «Барысаў» і верша «Трэба нам песень» у часоп. «Новый мир» не друкаваліся. Верш «Трэба нам песень» у перакладзе С. Гарадзецкага друкаваўся ў газ. «Правда» 24 жн. 1934 г. пад назвай «Песни нужны нам», а ўрывак з паэмы «Барысаў» («Город Борисов») 7 кастр. 1934 г. там жа.

*Гронскі І. М.*— Гл. камент. да ліста № 65.

*№ 71. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 288)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 13, л. 3—4).

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1961, № 8 у перакладзе на беларускую мову. Публікацыя падрыхтавана Я. Ю. Раманоўскай. На рускай мове — Зб. тв., 1963, т. VI.

*Гронскі І. М.*— Гл. камент. да ліста № 65.

*...мне очень хотелось бы, чтобы в «Правде» и в «Известиях» появилось что-нибудь из моих вещиц еще в декабре с. г. ...*— У той перыяд, аб якім ідзе гаворка ў лісце Я. Купалы, у газ. «Правда» быў надрукаваны ўрывак з паэмы «Барысаў» («Горад Барысаў», 7 лістап. 1934 г.) і верш «З'езду Саветаў» (1 лют. 1935 г.) у перакладзе С. М. Гарадзецкага.

С. 289: *...ознакомиться с моей старой поэмой «Бандароўна»...*— Паэма ўвайшла ў V т. Збору твораў, 1928 г. Датуецца 24 чэрв. 1913 г.

*Посылаю тебе... стихотворение... «Маруся» и «Марыся».*— Верш пад назвай «Тем, кого люблю» ў перакладзе С. Гарадзецкага быў апублікаваны ў зб. «Пад новым сонцам» (М., 1936). У арыгінале верш меў назву «Для тых, каго люблю» (лістапад, 1934).

*№ 72. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 289)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 13, л. 5—6).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

*...получится сборник меньше предыдущих двух.*— Размова ідзе пра зборнік «Избранные стихи и поэмы, 1906—1935», які выйшаў з друку ў 1935 г. у Маскве пад рэдакцыяй С. М. Гарадзецкага. Два папярэднія зборнікі на рускай мове: «Сборник стихов» (М.—Л., Госиздат, 1930) і «Избранные стихи». (М., «Советская литература», 1934).

С. 290: *...возьми... «Адвечную песню»... «На папасе»...*— Першая паэма была напісана ў 1908 г., апублікавана ў 1910 г. Другая — датуецца 1913 г. Названыя творы С. Гарадзецкі не перакладаў.

*Накаракаў М. Н.*— Гл. камент. да ліста № 65.

### *№ 73. Прывітанне часопісу «Новый мир»* (с. 290)

Друкуецца па часоп. «Новый мир», 1934, № 12, дзе ўпершыню апублікавана. Перададзена па тэлеграфу.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*«Новый мир»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Орган СП СССР. Выдаваўся з 1925 г. у Маскве на рускай мове.

### *№ 74. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 291)

Друкуецца і датуецца па тэксце тэлеграмы (адз. зах. 13, л. 7).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Стихи зимою идут.*— Размова ідзе пра зб. «Избранные стихи и поэмы, 1906—1935» пад рэдакцыяй С. Гарадзецкага (М., 1935).

*Родаў Сямён Абрамавіч* (1893—1968) — рускі паэт і літаратурны крытык. У зб. Я. Купалы «Избранные стихи и поэмы, 1906—1934» пераклаў паэмы «Бандароўна», «Зімою» і «На папасе».

*Берэндгоф Мікалай Сяргеевіч* (1900—?) — рускі паэт. Пераклаў вершы: «Голад» (у кн. «Зборнік беларускай паэзіі». М.—Л., 1930), «З новай думкай» («Правда», 28.XI.1939 г.), «Беларускім партызанам» («Труд», 7.VII.1942), «Хлопчык і лётчык на вайне» (зб. «Беларусь змагаецца». М.—Л., 1943).

### *№ 75. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 291)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 8, воп. 2, адз. зах. 9).

Упершыню — часоп. «Неман», 1972, № 7.

У Зб. тв., 1976, т. VII ліст памылкова датуецца 15.VIII.1935 г.

*...благодарен за перевод «Белоруссии»...*— Размова ідзе аб вершы «Беларусі ардэнаноснай» (1935).

*Несравненно лучше, чем у Светлова.*— Верш «Беларусі ардэнаноснай» у перакладзе М. Святлова быў змешчаны ў газ. «Известия» 16 ліп. 1935 г.

*Теперь меня интересует, как оно попало в «Рабочую Москву...».* — У лісце ад 11 ліп. 1935 г. да Я. Купалы С. М. Гарадзецкі адказаў на запытанне Я. Купалы: «Я перевел эти стихи для «Рабочей Москвы» (ДзЛМЯнК, ф. П-ы, воп. 3, адз. зах. 7).

*Мне очень и очень приятно, что тебе понравилась «Алеся».*— Верш «Алеся» ў перакладзе С. Гарадзецкага быў змешчаны ў зб. Я. Купалы «Под новым солнцем» (М., 1936).

С. 292: *Кстати, в ред<акции> «Правда» лежат два мои стиха... Узнай, что с ними.*— С. Гарадзецкі ў лісце ад 4 жн. 1935 г. адказаў: «В «Правду» звонил, обещали выяснить, но ответного звонка еще не имею» (ДзЛМЯнК, ф. П-ы, воп. 3, адз. зах. 6, л. 1).

*Садись в поезд и приезжай ко мне в гости.*— На запрашэнне Я. Купалы С. М. Гарадзецкі адказаў у лісце да паэта ад 4 жн. 1935 г.: «... я очень хотел бы успеть к тебе хоть на 3 дня. Думаю, что между 10—13 мог бы выехать» (ДзЛМЯнК, ф. П-ы, воп. 3, адз. зах. 6, л. 1).

### *№ 76. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 292)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 8, воп. 2, адз. зах. 10).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч* (1903—1964) — рускі паэт і перакладчык. Першы перакладчык паэмы Я. Купалы «Безназоўнае», вершаў «Беларусі ардэнаноснай», «Будзь смелым!..», «Груган», «З Новым годам!», «Не ўздыхай», «Сонцу».

С. 292: *...не сможешь ли перевести эти стихи («Старые окопы» и «Гости») и поместить их в одной из московских газет или журнале.*— Верш «Старыя акопы» ў перакладзе С. Гарадзецкага быў змешчаны ў газ. «Рабочий» 11 снеж. 1935 г. Верш «Госці» надрукаваны ў газ. «Правда» 6 снеж. 1935 г., але прозвішча перакладчыка не ўказана. 12 снеж. 1935 г. верш «Госці» ў перакладзе С. Гарадзецкага быў надрукаваны ў газ. «Красноармейская правда».

*№ 77. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 293)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 13, л. 8).

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1961, № 8 у перакладзе на беларускую мову. Публікацыя падрыхтавана Я. Ю. Раманоўскай. На рускай мове — Зб. тв., 1976, т. VII.

У Зб. тв., 1976, т. VII памылкова пазначана, што ліст упершыню быў апублікаваны ў часоп. «Неман», 1972, № 7.

*Стихи, кроме «Беларуси орденоносной», ... не давал.*— Гл. камент. да ліста № 75.

*№ 78. Да А. А. Александровіч* (с. 293)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 14).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Ліст напісаны ў Сочы, дзе Я. Купала з Уладзіславай Францаўнай адпачываў у санаторыі «Правда».

*Александровіч Алеся* (Аляксандра Іванаўна; 1904—1947) — беларускі літаратуразнавец і педагог. Сястра беларускага паэта А. Александровіча. З Я. Купалам пазнаёмілася ў пачатку 1920 г. Аўтар артыкулаў пра творчасць Я. Купалы: «Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала)», «Аб дакастрычніцкай творчасці Янкі Купалы», «Паэма «Адвечная песня» ў ацэнцы дарэвалюцыйнай крытыкі». Працуючы ў 1944—1947 гг. у Літаратурным музеі Янкі Купалы, склала жыццёвы і творчы летапіс паэта да 1917 г.

*...старому Міхасю.*— Муж Алесі Александровіч — *Мароз Міхаіл Іванавіч* (1893—1947) — дзяржаўны дзеяч Беларусі. Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі працаваў у вясковай школе. З 1916 г. у арміі, у 1918—1919 гг. супрацоўнік бежанскага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята. У 1924 г.— загадчык Беларускага дзяржаўнага выдавецтва ў Мінску. З 1926 г.— кіраўнік спраў СНК БССР, старшыня камісіі Інбелкульта па ахове помнікаў. Пазней на іншых савецкіх і гаспадарчых пасадах. Быў асабіста знаёмы з Я. Купалам. У 1921 г. дапамагаў паэту адшукаць французскі тэкст «Інтэрнацыянала» для зверкі беларускага перакладу. Летам 1933 г. Купала з жонкай адпачываў у бацькоў М. Мароза ў Капылі. 3.11.1937 г. арыштаваны органамі НКУС БССР, 3.12.1940 г. прыгавораны да зняволення ў папраўча-працоўны лагер, дзе і памёр.

*№ 79. Да М. І. Шыманскай* (с. 294)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 15).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Ліст напісаны з Сочы, дзе ў той час паэт адпачываў.

*Шыманская Марыя Іосіфаўна* (1897—?) — заслужаная настаўніца школы РСФСР, жонка Мікалая Ігнатавіча Шыманскага. З сям'ёй Шыманскіх Я. Купала пазнаёміўся ў красавіку 1935 г. у Копыскім лясніцтве Аршанскага лясгаса, куды ў той час паэт прыехаў у творчую камандзіроўку на чале брыгады беларускіх пісьменнікаў. Летам 1935 г. Купала разам з жонкаю і П. Броўкам жылі ў сям'і Шыманскіх. З канца жніўня да сярэдзіны кастрычніка 1941 г. Купала з жонкаю жылі ў сям'і Шыманскіх у іх доме ў Каломне і ў лясніцтве.

*№ 80. Да Я. Ю. Раманоўскай* (с. 294)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 26).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Датуецца паводле зместу і датавання лістоў.

*Раманоўская Яніна Юльянаўна* (1918—1956) — пляменніца Купалы, дачка Леакадзіі Дамінікаўны і Юльяна Феліксавіча. Урач. З 1927-га па 1940 г. жыла ў доме Купалы па вул. Кастрычніцкая, 40. З 1936 г. кожнае лета праводзіла на дачы паэта ў Ляўках.

С. 294: *Ніне!* — Родныя Яніны Юльянаўны звалі яе Нінай.

### № 81. *Да С. В. Мядзёлкі* (с. 294)

Друкуецца і датуецца па паштоўцы (адз. зах. 27).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Мядзёлка Сігізмунд (Зыгмусь) Вікенцьевіч* (1912—1945) — брат П. Мядзёлкі. Пазнаёміўся з паэтам у 1925 г. У 1925—1935 гг. жыў у доме Купалы па вул. Кастрычніцкая, 36-а. Паэт сябраваў з ім. Віця — хатняе імя.

### № 82. *Да І. Д. Харыка* (с. 294)

Друкуецца і датуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, 17 лістап. Прывітанне паэту з нагоды 15-годдзя літаратурнай дзейнасці. Друкаваўся ў газ. «Рабочий», 1935, 11 снеж. на рускай мове.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Харык Ізі* (Ісак Давыдавіч; 1898—1937) — беларускі і яўрэйскі паэт. Першыя вершы з'явіліся ў друку ў 1920 г. Неаднаразова сустракаўся з Я. Купалам, бываў у сумесных камандзіроўках. Рэпрэсіраваны. Расстраляны 29 кастр. 1937 г.

### № 83. *Да Я. С. Мазалькова* (с. 295)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

*Мазалькоў Яўген Сямёнавіч* (1909—1969) — рускі перакладчык, крытык і літаратуразнавец. Пазнаёміўся з Я. Купалам у сярэдзіне 1930 г. і сябраваў з ім. У чэрвені 1937 г. на дачы ў Ляўках разам чыталі вёрстку новай кнігі Я. Купалы «Избранные произведения» (М., 1938). Быў рэдактарам названай кнігі. Часта сустракаўся з паэтам у час яго знаходжання ў Маскве. Апошняя сустрэча адбылася 28 чэрв. 1942 г. у гасцініцы «Масква». Аўтар манаграфіі «Янка Купала. Жыццё і творчасць» (М., 1949) і ўступных артыкулаў да зборнікаў «Избранные произведения» (М., 1938), «Избранные стихотворения» (М., 1939), «От сердца» (М., 1941), «Избранное» (М.—Л., 1942), «Избранные произведения» (М., 1943) і інш.

*Посылаю Вам 3-й том старого издания... и 1-й том выходящего трехтомника...* — Гаворка ідзе пра Зб. тв., 1927, т. III і Выбраныя творы, 1935, т. I.

*На днях выходит сборник моих последних стихов...* — Маецца на ўвазе зборнік «Песня будаўніцтву» (М., 1936).

### № 84. *У рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва»* (с. 295)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, 23 снеж.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### № 85. *Да Трэцяга Беларускага дзяржаўнага тэатра* (с. 296)

Друкуецца і датуецца па газ. «Звязда», 1935, 23 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Галубок Уладзіслаў Іосіфавіч* (сапр. Голуб; 1882—1937) — беларускі акцёр, рэжысёр, пісьменнік, мастак, тэатральны дзеяч. Адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра. З Я. Купалам пазнаёміўся ў час яго працы ў газ. «Наша ніва». У 1921 г. паставіў у тэатры п'есу «Паўлінка».

*№ 86. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 296)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 1220, воп. 1, адз. зах. 63, л. 4—6).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 13, л. 13—19).

*Сборник я делаю сам и в скором времени привезу готовый в Москву.*— Я. Купала мае на ўвазе зборнік вершаў «Под новым солнцем», які выйшаў у выдавецтве «Художественная литература» ў 1936 г. у Маскве.

*...что Александрович в докладе...*— Гаворка ідзе аб дакладзе А. Александровіча на 3-м пленуме праўлення ССП СССР у Мінску, які адбыўся ў студзені 1936 г.

*№ 87. Да М. І. Паларусава-Шэлебі* (с. 297)

Друкуецца па газ. «Красная Чувашия», 1936, 17 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Шэлебі Мікалай Іванавіч* (сапр. Паларусаў; 1881—1945) — народны паэт Чувашыі. Сустракаліся з Я. Купалам у кастрычніку — лістападзе 1941 г. у Чэбаксарах. Падарыў Я. Купалу сваю кнігу з аўтографам.

*№ 88. Да М. Н. Накаракава* (с. 298)

Друкуецца і датуецца па машынапісным тэксце з подпісам аўтара. Уверсе ліста рэзалюцыя М. Накаракава: «т. Соколову. Сообщить т. Мусоэлян». Дата атрымання ліста пастаўлена Мусаэлян (19.X.36 г.).

Фотакопія захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. 1, воп. 2, адз. зах. 2).

Упершыню — «Неман», 1977, № 8, с. 165 у публікацыі В. Рагойшы «Напісана рукой Купалы...».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Накаракаў М. Н.*— Гл. камент. да ліста № 65.

*Материал для однотомника...*— Гаворка ідзе пра кн. «Избранные произведения» (М., 1938).

*...в связи с юбилеем Коласа...*— 30-годдзе літаратурнай дзейнасці Я. Коласа адзначалася з 3-га па 11 кастр. 1936 г.

*№ 89. Да Я. С. Мазалькова* (с. 298)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

*Раждзественскі Усевалад Аляксандравіч* (1895—1977) — рускі паэт і перакладчык. Перакладаў вершы Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, П. Глебкі, М. Танка, П. Панчанкі і інш. Пераклаў больш за 60 вершаў Я. Купалы. Разам з П. Кабзарэўскім пераклаў «Раскіданае гняздо». Рэдагаваў пераклады зб. «Избранное» (Л., 1973). Прысвяціў Я. Купалу вершы «З народам дзелячы ўсё сэрца...», «Янка Купала».

*Прилагаемое стихотв<орение> ... передайте в Детгиз...*— Відаць, гаворка ідзе пра верш «Хлопчык і лётчык», які ў той час рыхтаваўся да публікацыі на рускай мове.

*Как дело с переводами?* — Маецца на ўвазе, магчыма, зб. «Избранные произведения» (М., 1938), які перакладаў і рэдагаваў Я. С. Мазалькоў.

*Притяните т. Суркова к стилистич<еской> редакции.*— *Суркоў Аляксей Аляксандравіч* (1899—1983) — рускі паэт і грамадскі дзеяч. Пераклаў вершы Я. Купалы «Сонечнаму Шата Руставелі» і «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа».

*№ 90. Да Я. С. Мазалькова* (с. 298)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

С. 299: *...почему не высылают мне авторских экземпляров «Под новым солнцем».*— Зборнік «Под новым солнцем» быў падпісаны да друку 3.VIII.1936 г. Выйшаў у Маскве ў выдавецтве «Художественная литература» ў 1936 г.

*№ 91. Да М. В. Ісакоўскага* (с. 299)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў РНБ.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 17, л. 1—2).

*Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч* (1900—1973) — рускі паэт і перакладчык. Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1934 г., сябраваць пачаў пасля ўдзелу ў рабоце 1-га з'езда пісьменнікаў Заходняй вобласці ў Смаленску (24—25.IX.1934 г.). М. В. Ісакоўскі пераклаў на рускую мову звыш 70 твораў Я. Купалы.

*...переведенное Вами стихотв<орение> «Тебе, наш учитель...»...*— Верш «Табе, правадыр...» напісаны 20.XI.1936 г. У «Лит. газ.» быў апублікаваны 10 снеж. 1936 г. у перакладзе М. Ісакоўскага.

*Как идут у Вас дела с моими переводами.*— У той час ішла падрыхтоўка да выдання кн. «Избранные произведения» (М., 1938), куды ўвайшлі 40 перакладаў М. В. Ісакоўскага.

*№ 92. Да Я. С. Мазалькова* (с. 300)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

*Ваше предисловие просмотрели с Александровичем...*— Гаворка ідзе пра прадмову Я. С. Мазалькова да кн. «Избранные произведения» (М., 1938), якая выйшла пад яго рэдакцыяй.

*Александровіч Андрэй Іванавіч* (1906—1963) — беларускі паэт, член-карэспандэнт АН БССР. У той час быў намеснікам старшыні праўлення СП БССР. Аўтар зборнікаў паэзіі і апавяданняў.

*Исправил ли Городецкий «Над Орессой», а если исправил, то хорошо ли?* — Паэма ў перакладзе С. М. Гарадзецкага ўвайшла ў зборнік «Под новым солнцем» (М., 1936). У лісце да Гарадзецкага ад 4.XII.1934 г. паэт пісаў: «...сделаю сборничек из одних поэм, включив в него «Над рекой Орессой» в твоем переводе. «Над рекой Орессой» придется с тобой вместе проредактировать». Яшчэ да выхаду ў свет зборніка (ліст да С. Гарадзецкага ад 29.II.1936 г.) паэт прасіў яго яшчэ раз прагледзець пераклад паэмы «Над ракой Арэсай». Відаць, у Купалы былі крытычныя заўвагі.

*...Александрович собирается пригласить Вас на наш пленум 15.III.*— Пленум праўлення ССП Беларусі праходзіў з 10-га па 15 мая 1938 г. у Мінску.

*Не попросить ли Исаковского сделать хороший перевод «Над Орессой» и издать альбомным форматом с иллюстрациями?* — М. Ісакоўскі пераклаў паэму на рус. мову. Упершыню гэты пераклад быў апублікаваны ў 1938 г. у кн. «Избранные произведения» (М., 1938).

*Рисунки можно будет заказать Елисееву...— Елісееў К. С.*— Гл. камент. да ліста № 62.

*Лупал Іван Капітонавіч* (1896—1943) — рускі літаратуразнавец, філосаф. Акадэмік АН СССР. У перыяд, калі ён узначальваў Інстытут сусветнай літаратуры, па яго просьбе Я. Купала напісаў для запланаванай гісторыі шматнацыянальнай літаратуры сваю апошнюю аўтабіяграфію (1940 г., не пазней 25.4).

*№ 93. Да Т. Г. Масэнкі* (с. 300)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў аддзеле рукапісных фондаў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі і АН Украіны.

Упершыню — кн. «Янка Купала». Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР (Мн., 1952).

Фатакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 18, л. 1—2).

*Масэнка Тэрэнь Германавіч* (1903—1970) — украінскі паэт. Перакладчык твораў Я. Купалы на ўкраінскую мову. Аўтар артыкулаў пра жыццё і творчасць паэта. Рэдагаваў зборнікі твораў Я. Купалы ў перакладзе на ўкраінскую мову.

*...быў у Маскве...*— Я. Купала прысутнічаў 12 лют. на ўрачыстым вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. С. Пушкіна. 22—26 лют. у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў прымаў удзел у рабоце IV пленума праўлення ССП СССР, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. С. Пушкіна. Чытаў свой пераклад паэмы «Медны коннік».

*Ці не зможаце Вы выслаць... усе творы Пушкіна, якія выйшлі на ўкраінскай мове.*— У 1937 г. адзначалася 100-годдзе з дня смерці паэта. Да юбілею Я. Купала пераклаў паэму А. С. Пушкіна «Медны коннік» (апублікавана ў часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 6). Ёсць звесткі пра тое, што Дзяржвыд Беларусі рыхтаваў да друку выбраныя вершы і паэмы А. С. Пушкіна: «Евгений Онегин» у перакладзе А. Дудара, «Сказка о мертвой царевне и семи богатырях» у перакладзе Я. Купалы (часоп. «Звезда», 1937, № 1, с. 228). На жаль, гэты зборнік не выйшаў.

С. 301: *Цяпер аб маёй кніжцы на ўкраінскай мове.*— Гаворка ідзе пра аднатомнік твораў у перакладзе і пад рэдакцыяй Т. Г. Масэнкі («Вибрані твори», Харьків—Київ, 1937). У зборнік увайшоў 61 верш. Некаторыя вершы датаваны недакладна, паколькі аўтар рабіў гэта, відаць, па памяці. (Гл. 1 том дадзенага выдання. С. 349.)

*Ваця на практыцы...*— Гаворка ідзе пра Вераніку Аблачынскую, дачку Марыі Дамінікаўны, сястры Я. Купалы.

### *№ 94. Да Т. Г. Масэнкі* (с. 301)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў аддзеле рукапісных фондаў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі НАН Украіны.

Упершыню — кн. «Янка Купала». Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР (Мн., 1952).

Фатакопія аўтографа ДзЛМЯнК (адз. зах. 18).

*Адсылаю Вам спісак вершаў з датамі.*— Гэты спіс складаўся з 61 твора, якія Я. Купала прапанаваў для перакладу на ўкраінскую мову.

*Недакладна падпісаны толькі два вершы — «Песні», няма пачатковых радкоў...*— Гл. дадзенае выданне, т. 1, с. 349.

*Ваця ўжо прыехала ў Мінск...*— Гл. камент. да ліста № 93.

### *№ 95. Да Я. С. Мазалькова* (с. 301)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

*Как обстоит дело с «Однотомником»?* — Гаворка ідзе пра кн. «Избранные произведения» (рэдагаванне і прадмова Я. С. Мазалькова. М., 1938).

*Если будете включать стихотв<орение> Коласу, то только в переводе Исаковского...*— Верш «Якубу Коласу» («Жыві ў радасці і ў шчасці», 1936) М. Ісакоўскі не пераклаў, і таму верш не ўвайшоў у названае выданне. Верш быў перакладзены на рускую мову С. Гарадзецкім і ўключаны ў кн. «Избранные стихи» (М., 1939).

*Ісакоўскі М. В.*— Гл. камент. да ліста № 92.

### *№ 96. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 302)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф.1220, воп. 1, адз. зах. 63, л. 8—10).

Упершыню з купюрай — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фатакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 13, л. 20—23).

С. 302: *...позвони Мозолькову, в каком положении моя книга?* — Гаворка ідзе пра аднатомнік «Избранные произведения», які выйшаў у 1938 г. у Маскве пад рэдакцыяй Я. Мазалькова.

*Елісееў К. С.* — Гл. камент. да ліста № 62.

*№ 97. Да Я. С. Мазалькова* (с. 302)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

С. 303: *...в каком положении моя книга.* — Гл. камент. да ліста № 96.

*№ 98. Да М. В. Ісакоўскага* (с. 303)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 17, л. 1—3).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Вот я, как видите, в Кисловодске.* — Я. Купала прыехаў у Кіславодск не пазней 17 лістап. 1937 г. (гл. ліст № 97).

*...стихотв<орение> «Аб Сталіне-сейбіту»...* — Верш быў апублікаваны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1937, 6—7 лістап. з паметай: кастрычнік, 1937, у «Лит. газ.» пад назваю «О Сталине лучшая песня моя» — 26 лістап. 1937 г. у перакладзе М. Ісакоўскага.

*...на имя Лежнева...* — *Ляжнёў І.* (Альтшулер Ісай Рыгоравіч; 1891—1955) — рускі літаратуразнаўца. У 1935—1939 гг. — загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газ. «Правда».

*Стихи «Святочныя вершы»...* — Напісаны ў лістап. 1937 г. да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. На рускую мову пераклаў М. Сідарэнка.

*Стихотв<орение> «Нашаму дэпутату»...* — Верш быў напісаны 17 лістап. 1937 г. у Кіславодску.

*№ 99. Да М. К. Хайноўскай* (с. 304)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 12).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...каб выслалі мне 11-ы нумар «Полымя».* — Часоп. «Полымя рэвалюцыі», № 20 быў прысвечаны 20-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У ім друкаваўся першы раздзел верша «Аб Сталіне-сейбіту». Пад тэкстам: Менск. Кастрычнік 1937 г.

*№ 100. Да М. К. Хайноўскай* (с. 304)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 12).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*№ 101. Да М. В. Ісакоўскага* (с. 305)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 17).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

*...вчера одно письмо... сегодня другое.* — Ліст ад 30 лістап. 1937 г. не захаваўся.

*...то звоните Мусольяну...* — Я. Купала недакладна называе прозвішча В. Н. Мусаэлян, загадчыцы рэдакцыі творчасці народаў СССР.

*...не напечатает стихотв<орение> «Памяти Стальского»...* — Верш «Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага» (1869—1937) быў напісаны 27 лістап. 1937 г. у Кіславодску з выпадку смерці С. Стальскага. Пераклаў на рускую мову Б. Ірынін.

*№ 102. Да Н. І. і П. Ф. Глебкаў* (с. 305)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦНБ НАН Беларусі ў аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі (ф. 24, адз. зах. 2535).

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1992, № 6 у публікацыі Я. Кісялёвай «Купала жартуе».

На паштоўцы з надпісам «Привет из Кисловодска Пете» дапісана «И Нине».

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі паэт. Акадэмік АН БССР (1957). Пазнаёміўся з Я. Купалам вясной 1926 г. Нонік — хатняе імя паэта.

*Глебка Ніна Іларыёнаўна* — жонка П. Ф. Глебкі.

*№ 103. Да М. К. Хайноўскай* (с. 306)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 12).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...пражаць усякімі солюксамі, дэатэрміямі.*— Гаворка ідзе пра лячэбныя электрапрацэдуры.

*№ 104. Да М. К. Хайноўскай* (с. 306)

Друкуецца па аўтографе без даты (адз. зах. 12).

Датуецца ўмоўна: студзень — люты 1938 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*№ 105. Да М. В. Ісакоўскага* (с. 307)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў РНБ.

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 17).

*...где я был на Руставелевском пленуме...*— V пленум праўлення ССП СССР, прысвечаны 750-годдзю з дня нараджэння Шата Руставелі, праходзіў у Тбілісі з 24-га па 30 снеж. 1937 г.

*...стихотворение, посвящ<енное> т. Ворошилову.*— Відаць, Я. Купала меў на ўвазе верш «Нашаму дэпутату», які быў напісаны 17.XI.1937 г. Акрамя названага твора, ёсць яшчэ 4 вершы, у якіх паэт праслаўляе К. Я. Варашылава: «Сыны» (1935), «Як у госці сын прыехаў» (1936), «Песня («Ой, рана, рана войска ўставала...», 1937) і «Чырвонай Арміі паходы» (люты, 1938).

*№ 106. Да Я. С. Мазалькова* (с. 307)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

С. 308: *Из Кисловодска меня вызвали на Руставелевский пленум Союза советских писателей в Тбилиси.*— Гл. камент. да ліста № 92.

*В конце февраля думаю побывать в Москве.*— У Маскву Я. Купала прыехаў толькі 28 студз. 1939 г. у складзе дэлегацыі работнікаў літаратуры і мастацтва БССР для ўдзелу ў вечарах беларускай культуры.

*Я попросил бы Вас, Евгений Семенович, обратить внимание на мой сборник, чтобы его снова не разобрали.*— Гаворка ідзе пра «Избранные произведения» (М., Гослитиздат, 1938). Перадаючы лісты Я. Купалы ў ДзЛМЯнК, Я. С. Мазалькоў зрабіў наступную заўвагу да дадзенага ліста:

«К письму от 1/II-38 г. могу сделать следующее пояснение. Книга Я. Купалы «Избранные произведения» (М., Гослитиздат, 1938), уже после того как верстка была просмотрена автором и подписана к печати, по какой-то нелепой случайности (по вине типографии) была рассыпана, вернее, набор был рассыпан, и книгу пришлось заново набирать. В результате произошла задержка с выпуском книги. Я написал об этом Купале, что, естественно, его огорчило. Письмо Купалы в некоторой степени отражает его реакцию на это мое сообщение. Если составитель комментариев найдет нужным использовать это сообщение,— пусть использует. 29.XI<19>62 г.».

*№ 107. Да Т. Г. Масэнкі* (с. 308)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў аддзеле рукапісных фондаў і тэксталогіі Інстытута Літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі НАН Украіны.

Упершыню — кн. «Янка Купала». Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР (Мн., 1952).

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 18).

*Вашу прапанову затрымацца ў Харкаве... ніяк не магу выканаць...*— Вяртаючыся з Кіславодска, Я. Купала толькі на вакзале сустрэўся з украінскімі пісьменнікамі.

*Пасылаю Вам свае цхалтубскія вершы. Калі зможаце, перакладзіце самі або папрасіце ад майго імені другіх таварышаў-паэтаў...*— Я. Купала знаходзіўся на лячэнні ў Цхалтуба ў студз. 1938 г., дзе напісаў 4 вершы: «Генацвале», «Мы людзі свабодныя», «Грузія» і «То не рыцары з князем...». Верш «Генацвале» пераклаў на ўкраінскую мову У. Сасюра, верш «Грузія» — А. Малышка.

С. 309: *...ці выкарысталі тыя вершы, што ў мяне ўзялі ў Тбілісі.*— Я. Купала сустрэўся з Т. Г. Масэнкам у Тбілісі на V пленуме праўлення ССП СССР, прысвечаным 750-годдзю з дня нараджэння Шата Руставелі.

*...паэму пра Горы...*— паэма прысвечана І. В. Сталіну.

### *№ 108. Да В. Г. Цярэнцьева* (с. 309)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (КП 18105 /А 609).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...спасибо за текст «Сулико».*— Папулярная грузінская песня.

Цхалтуба — бальнеалагічны курорт. Я. Купала лячыўся ў ім у першай палове студзеня і ў лістападзе 1938 г. (ф. 1, воп. 5, адз. зах. 165; воп. 7, адз. зах. 261, 276).

*Я уже написал доктору Елене Михайловне...*— *Метэхелі Алена Міхайлаўна* па мужу Джавахішвілі, у той час галоўны ўрач 1-га санаторыя г. Цхалтуба, у якім Я. Купала лячыўся двойчы. Паэт прысвяціў ёй верш «Генацвале» і падараваў яго рукапіс. Зараз фотакопія аўтографа верша «Генацвале» захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. І, адз. зах. 8-д).

### *№ 109. Да В. Г. Цярэнцьева* (с. 309)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (КП 18106 /А 610).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### *№ 110. Да М. К. Хайноўскай* (с. 310)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 12).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### *№ 111. Да Т. Г. Масэнкі* (с. 310)

Друкуецца па тэксце тэлеграмы (адз. зах. 18).

Датуецца па змесце.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Тэлеграма, відаць, паслана ў сувязі з падрыхтоўкай да друку зб. Я. Купалы ў перакладзе на ўкраінскую мову («Вибрані твори. 1905—1930». Київ—Харьків, 1937).

### *№ 112. Да С. М. Гарадзецкага* (с. 310)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 13, л. 24—27).

Можна меркаваць, што ліст напісаны ў канцы мая 1938 г.

Гэтае меркаванне пацвярджае тое, што ў лісце Я. Купала просіць С. Гарадзецкага, каб экземпляры яго аднатомніка даставілі Я. Коласу ў маскоўскую гасцініцу. Я. Колас жа знаходзіўся ў Маскве прыблізна з 25 мая да 1 чэрв. 1938 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Я очень и очень рад за Тебя, что Тебе сильно удался перевод моего стиха Джамбулу.*— Верш «Джамбулу» ў перакладзе С. Гарадзецкага пад назвай «Лети, моя песня!» быў апублікаваны ў «Литературной газете» 20 мая 1938 г. Верш напісаны з нагоды 75-годдзя творчай дзейнасці казахскага акына Джамбула Джабаева (1846—1945).

С. 311: *...экземпляров моего однотомника...*— Я. Купала мае на ўвазе аднатомнік «Избранные произведения» (М., 1938). Рэдактар — Я. С. Мазалькоў.

*Мазалькоў Я. С.*— Гл. камент. да ліста № 83.

*...поцелуй ручки Нимфе Алексеевне и Рогнеде Сергеевне...*— Размова ідзе аб жонцы і дачцэ С. М. Гарадзецкага.

*...прихворнул серьезно...*— Я. Купала ў маі месяцы цяжка хварэў на запаленне лёгкіх.

*№ 113. Да А. П. Рабінінай* (с. 312)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (РДзАЛМ, ф. 613, воп. 1, адз. зах. 4874, л. 24—26).

Упершыню з купюрай — кн. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 228.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 3).

*Рабініна Аляксандра Пятроўна* (1897—1977) — у той час загадчыца сектара нацыянальных літаратур Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры (Масква). З Купалам пазнаёмілася ў пачатку 1930-х гадоў. Пры яе ўдзеле выдадзены наступныя кнігі паэта: «Над ракой Арэсай», «Выбраныя вершы і паэмы. 1906—1935» (1935), «Пад новым сонцам» (1936), «Выбраныя творы» (1938), «Выбраныя вершы» (1939), «Ад сэрца» (1941) і інш.

*...выслать хоть один экз<емпляр> моего однотомника.*— Гл. камент. да ліста № 112.

*Мозольков Я. С.*— Гл. камент. да ліста № 83.

*Я целый месяц проболел...*— Гл. камент. да ліста № 112.

*№ 114. Да М. В. Ісакоўскага* (с. 312)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 17, л. 1).

Датуецца па паштовым штэмпелі.

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

*У Вас «Три орлицы» и у меня «Тры арліцы».*— Верш «Тры арліцы» быў напісаны 10 кастр. 1938 г., апублікаваны 11.X.1938 г. у газ. «Літ. і мастацтва», «Звязда» і «Чырвоная змена».

Верш прысвечаны беспасадачнаму пералёту лётчыц В. Грызадубавай, П. Асіпенкі і М. Расковай па маршруце Масква—Далёкі Усход у кастрычніку 1938 г. на самалёце «Радзіма».

*№ 115. Да А. І. Шанідзе* (с. 313)

Друкуецца і датуецца па фотакопіі аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 19).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

*Шанідзе Аляксандр Іларыёнавіч* (1907—?) — грузінскі паэт. Я. Купала пазнаёміўся з А. І. Шанідзе ў час святкавання 750-годдзя паэмы Ш. Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры», якое праходзіла ў Тбілісі з 24-га па 30 снеж. 1937 г.

*Живу, как видите, в Цхалтубо.*— У лістап. 1938 г. Я. Купала знаходзіўся на лячэнні ў Цхалтуба. Па дарозе ў Цхалтуба на некалькі дзён затрымаўся ў Тбілісі, дзе пазнаёміўся з выдатнымі мясцінамі горада, помнікамі старажытнай архітэктуры. Наведаў магілу А. С. Грыбаедава. (ДзЛМЯнК, ф. 1, воп. 5, адз. зах. 165).

*Выеду, конечно, первого прямо в Кисловодск через Тбилиси.*— Паэт у Кіславодск не трапіў, аб чым паведаміў А. І. Шанідзе ў лісце ад 8 снеж. 1938 г. (ліст № 116).

*№ 116. Да А. І. Шанідзе* (с. 313)

Друкуецца і датуецца па фотакопіі аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 19).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

*Леанідзе Георгій Мікалаевіч* (1899—1966) — народны паэт Грузіі. Я. Купала пазнаёміўся з грузінскім паэтам у снеж. 1937 г. на V пленуме праўлення

ССП СССР у Тбілісі, прысвечаным 750-годдзю паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». Двойчы Я. Купала сустракаўся з Г. Леанідзе ў 1941 г. (люты і красавік).

*№ 117. Да А. І. Шанідзе* (с. 314)

Друкуецца і датуецца па фотакопіі аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 19).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

*...если сможете приехать 25/XII на вокзал.*— Аб тым, што ён сапраўды павінен прыехаць у Тбілісі 25 снеж., Я. Купала паведаміў тэлеграмай на імя А. І. Шанідзе (гл. наст. ліст).

*№ 118. Да А. І. Шанідзе* (с. 314)

Друкуецца і датуецца па фотакопіі тэлеграмы (адз. зах. 19).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*№ 119. Да Т. Г. Масэнкі* (с. 314)

Друкуецца і датуецца па тэксце тэлеграмы (адз. зах. 18).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Выезжаю из Тбилиси...*— У Тбілісі Я. Купала прабыў два дні, вяртаючыся з Сухумі, дзе адпачываў у доме адпачынку «Сіноп» (гл. ліст № 115).

*№ 120. Да В. І. Рагавіцкага і Э. А. Падарэўскага* (с. 314)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. КП).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Я толькі на днях вярнуўся з курорта і застаў Ваш пераклад...*— Гаворка ідзе пра пераклад паэмы «Курган». Выпраўлены пераклад друкаваўся ў выданнях: «Курган» (Паэмы. Мн., 1940), «Выбраныя вершы» (М., «Правда», 1941) і інш.

*Рагавіцкі Віктар Іванавіч* — рускі гісторык і перакладчык. У той час студэнт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага (ІФЛІ). Пасля вайны — кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Валгаградскага інжынерна-будаўнічага інстытута. Быў асабіста знаёмы з Я. Купалам: першая сустрэча адбылася ў Мінску ў Саюзе пісьменнікаў БССР у пачатку снежня 1939 г., другая — разам з Э. А. Падарэўскім у 1940 г. у Маскве ў час Дэкады беларускага мастацтва ў чэрвені 1940 г.

*Падарэўскі Эдуард Антонавіч* — у той час студэнт ІФЛІ, затым супрацоўнік выдавецтва «Художественная литература». Загінуў на фронце ў 1943 г.

*№ 121. Да М. В. Ісакоўскага* (с. 315)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў РНБ.

Датуецца па паштовым штэмпелі.

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 17).

*Посылаю Вам стихотворение, посвященное Шевченко.*— Гаворка ідзе пра урывак з паэмы «Тарасова доля» (раздзел I — «Ходзіць гоман па Украіне»). У перакладзе М. Ісакоўскага пад назваю «Ходит говор по Украине» быў апублікаваны ў газ. «Правда» і «Лит. газете» адначасова (5 сак. 1939). «Лит. газета» змясціла ў гэтым жа нумары яшчэ адзін урывак пад назваю «Тарасу Шевченко» (раздзел XV — «Гэй, Тарас, каб ты збудзіўся») у перакладзе М. Ісакоўскага.

*№ 122. Да М. А. Машары* (с. 315)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 20).

Упершыню — кн. «Пуцявінамі Я. Купалы», с. 233.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Ліст напісаны на бланку дэпутата Народнага сходу Заходняй Беларусі, на пасяджэнні якога 28.10.1939 г. у Беластоку Я. Купала пазнаёміўся з М. Машарам

*Машара Міхась* (Міхаіл Антонавіч; 1902—1976) — беларускі пісьменнік. Сустракаўся з паэтам у Мінску. У сярэдзіне снеж. 1941 г. наведаў Я. Купалу ў пасёлку Пячышчы, прывёз яго ў Казань, жыў з ім у адным пакоі гасцініцы «Татарстан».

### *№ 123. Да М. Т. Рыльскага* (с. 316)

Друкуецца і датуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1940, 23 сак.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Рыльскі Максім Тадэевіч* (1895—1964) — украінскі паэт, вучоны, акадэмік АН УССР, перакладчык твораў Я. Купалы.

### *№ 124. Да І. К. Лупала* (с. 316)

Друкуецца і датуецца па фотакопіі аўтографа. Арыгінал захоўваецца ў ІСЛІ (ИМЛИ) (ф. 109, воп. 1, адз. зах. 5).

Упершыню — часоп. «Неман», 1977, № 8. Ліст быў выяўлены літаратуразнаўцам В. Рагойшам.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Лупал І. К.*— Гл. камент. да ліста № 92.

*Наконец-то посылаю Вам свою автобиографию.*— Гаворка ідзе пра аўтабіяграфію, якая была напісана Я. Купалам для гісторыі шматнацыянальнай літаратуры. Аўтарызаваны машынапіс аўтабіяграфіі таксама захоўваецца ў ІСЛІ (ф. 109, воп. 1, адз. зах. 5).

Прыводзім тэкст аўтабіяграфіі.

### АВТОБИОГРАФИЯ

Родился я 25 июня 1882 года в фольварке Вязынка, быв. Вилейского уезда, недалеко от местечка Радошковичи, где отец мой был «запашником», т. е. обрабатывал землю владельца фольварка, отдавая часть урожая, обычно — половину. Отец мой происходил из мещан Игуменского уезда. В молодости своей он имел «чиншевую землю», т. е. бессрочную аренду земли у помещика в фольварке Песочное, около Узды, но помещик прогнал со своей земли всех «чиншевиков», и с тех пор отец со своими братьями вынужден был переходить от помещика к помещику в поисках работы. Таким образом, свои детские годы я провел в разных хуторах Борисовского и Минского уезда, скитаясь от аренды к аренде. Грамоте меня учили сначала по-польски при посредстве вольнонаемных бродячих учителей. Но однажды мне попался русский «календарь», на котором написано было «Дозволено цензурой». Впоследствии я вспоминал эту, казавшуюся мне безобидной, надпись с горькой иронией, но тогда меня заинтересовал русский шрифт, отличный от знакомого мне латинского, и с помощью няньки я быстро овладел русской грамотой. Учиться в постоянно действующих школах мне не удалось из-за частых переездов с места на место. Полгода я проучился в Сенницком народном училище, пару месяцев в какой-то частной подготовительной школе в Минске, несколько месяцев у репетитора, т[ак] к[ак] отец думал меня отдать в реальное училище. Но жизнь сложилась так, что вместо реального училища я по требованию отца ушел на хозяйство. И только 15—16 лет от роду я за один год окончил народное училище в Белоручах — Минского уезда. Учеба — при всей своей бессистемности — пристрастила меня к книгам, к чтению. И отец, который раньше поругивал меня за недостаточные успехи у бродячих учителей, теперь не мог меня оторвать от книги и вынужден был ругать за то, что я много читаю, пренебрегая своими сельскохозяйственными обязанностями. А читал я действительно много и днем и ночью, при лучине, при костре в ночном, а то и просто при луне. Читал все без разбору, что мог достать, но особенно любил поэзию. На мое счастье, у соседа-помещика Чеховича, участника восстания 1863 года, была большая библиотека, к которой я получил

доступ. В библиотеке было много прогрессивных книг, которые помогли мне осмыслить политический строй тогдашней царской России и пробуждали недовольство этим строем. Таким образом я и жил до 1902 года, пахал, сеял, рубил дрова и читал книги. Жить на арендованной земле было, конечно, очень тяжело, все доходы от сельского хозяйства уходили на уплату аренды, работы же было по горло.

В 1902 году умер мой отец и вслед за ним младший брат и две сестры. Хозяйствовать стало еще тяжелее, и я через два-три года бросил хозяйство и пошел служить в винокуренный завод помещика. Работа здесь была такая же тяжелая, как и на сельском хозяйстве, так что я, собственно говоря, попал из огня да в полымя. Одним было лучше: в летнее время я мог читать книги. Здесь я прочел много книг из русской классики, в том числе Пушкина, Лермонтова, Некрасова, прочел и Шевченко.

Сам я начал писать в 1904 году. Толчком к тому, чтобы я писал по-белорусски, послужили революционные прокламации, напечатанные на белорусском языке. Первым стихотворением было написано: «Ах, ты, доля моя, доля», но напечатано первым было не оно, а «Мужик» в минской газете «Северо-Западный край» в 1905 г.

Окружающая меня жизнь безземельных и малоземельных крестьян, бесправие и нищета большинства населения, жестокость и произвол помещика и полицейского чиновника, первые крестьянские восстания и долетавшие до меня отзвуки первой русской революции — вот то, что питало мое творчество в это время, что заставляло много работать над стихами. Уже в 1906 г. я послал в Петербург целую пачку своих стихов, которые в конце 1907 года и вышли сборником «Жалейка». Царское правительство немедленно после выхода книги конфисковало весь тираж. С большим трудом ее удалось отстоять от конфискации. Второй раз ее конфисковал Виленский генерал-губернатор в 1909 г. И только неполадками бюрократического аппарата царской цензуры можно объяснить то обстоятельство, что в содержании книги не могли глубоко разобраться, и она дошла до читателей.

После трехлетней почти каторжной работы на винокуренных заводах я уехал в Вильно, где работал библиотекарем в частной библиотеке и сотрудником белорусской газеты «Наша ніва». Тут я почувствовал, как не хватает мне систематических знаний, и уехал в Петербург, где поступил на общеобразовательные курсы Черняева. Учился я на курсах 4 года. Прослушав курсы — я уехал в 1912 г. в Вильно, в редакцию «Нашай нівы», где через некоторое время стал ее редактором. В 1915 году вследствие приближения фронта я уехал как беженец в Москву. Здесь я поступил вольнослушателем в народный университет им. Шанявского. Но в Москве я был недолго и весной 1916 года вернулся в Минск, где работал старшим рабочим в дорожном отряде. С этим отрядом я побывал в Полоцке и Смоленске. Здесь я встретил Февральскую и Октябрьскую революции. Все эти годы были годами моей напряженной учебы и работы над собой. Я, что называется, дорвался до книг и поглощал их в неимоверном количестве. Четыре года, проведенные в Петербурге, и около года проведенные в Москве, расширили мой политический кругозор и обострили мою любовь к родной стране. С детства связанный с белорусским народом, с беднотой, с народной песней, которую я всегда любил, с природой Белоруссии,— я посвятил все свое творчество своему народу. И как только территория Белоруссии была освобождена от немецких войск, я уехал в Минск, чтобы уже больше не уезжать из него. Правда, в Минске я пережил проклятой памяти польскую оккупацию и еще больше возненавидел панов-помещиков и оккупантов.

С приходом Советской власти передо мной открылось широчайшее поле деятельности. И если до Советской власти я видел только горе и нужду, то с приходом Советской власти я получил неограниченные возможности работать, общаться со своими читателями, участвовать в жизни народа, в строительстве

его светлого будущего. Народ, партия и правительство оценили мою работу. Меня неоднократно избирали в ЦИК БССР, избрали академиком Белорусской и Украинской Академии наук. В 1925 г. мне было присвоено звание Народного поэта республики, а в 1939 г. я удостоился высокой награды — ордена Ленина.

Самыми счастливыми минутами своей жизни я считаю те минуты, когда я, будучи депутатом ЦИК БССР, присутствовал на VIII Чрезвычайном съезде Советов и слушал доклад товарища Сталина о новой Конституции Советского Союза.

Образ великого отца всех трудящихся, об'единившего все народы нашей необъятной родины в одну братскую семью, остался навеки в моей памяти. Он вдохновляет меня на новые светлые песни о нашей счастливой трудовой жизни. Его заботами была создана белорусская государственность, его мудрой политикой белорусский народ был поднят из тьмы и невежества, избавлен от голода и гнета, объединен в единое советское государство, сбросив двадцатилетнее иго польских панов-захватчиков.

И когда я присутствовал на избирательных собраниях в Лидском округе, где меня избрали депутатом первого социалистического парламента объединенного белорусского народа — я еще раз вместе со всем белорусским народом принес свое сердечное спасибо великому Сталину.

*Янка Купала*».

*№ 125. Дырэктару Дома-музея Т. Р. Шаўчэнкі* (с. 316)

Друкуецца і датуецца па фотакопіі аўтографа (адз. зах. 355, л. 1—15).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1957, 20 ліп. у публікацыі Р. Гульман «Дакументы братніх сувязей».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...чарнавы аўтограф верша «Тарасова доля»...* — Чарнавы аўтограф, напісаны алоўкам, захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 355). Паэма была завершана 27 лют. 1939 г. і ўпершыню апублікавана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1939, 3 сак.

*№ 126. У рэдакцыю газеты «Правда»* (с. 317)

Друкуецца і датуецца па газ. «Правда», 1940, 19 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны. Перададзены па тэлеграфу.

Друкаваўся ў «Лит. газете», 1940, 22 снеж.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*№ 127. Да М. В. Ісакоўскага* (с. 317)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў РНБ.

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

Фотакопія аўтографа — ДзЛМЯнК (адз. зах. 17).

*№ 128. Да Ю. І. Бібілы* (с. 317)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 22).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Бібіла Юлія Іосіфаўна* (1897—1974) — беларускі бібліёграф. З 1922-га па 1937 г. загадчыца беларускага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна (зараз Нацыянальная бібліятэка Беларусі). З Купалам пазнаёмілася ў 1921 г. Складальнік бібліяграфічнай картатэкі твораў Я. Купалы. У час напісання паштоўкі знаходзілася ў Саратаве, працавала ў бібліятэцы.

*№ 129. Да М. І. Шыманскага* (с. 318)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 15).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Шыманскі Мікалай Ігнатавіч* (1896—1971) — ляснічы. Знаёмы Я. Купалы. Дапамагаў паэту выбраць на тэрыторыі лясніцтва месца для дачы. Неад-

наразова сустракаўся з Я. Купалам у 1936 г., калі паэт жыў у Ляўках. З 1937 г. працаваў у Чарнарэцкім лясніцтве каля г. Каломны. З канца жніўня да сярэдзіны кастрычніка 1941 г. Я. Купала з жонкаю жылі ў сям'і Шыманскіх у іх доме ў Каломне і ў лясніцтве.

*Пробуду в Москве должно быть до 14/IV.*— Я. Купала знаходзіўся ў Маскве і 21/IV, калі на пасяджэнні Камітэта па Дзяржаўных прэміях яму быў уручаны дыплом лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР за зборнік вершаў «Ад сэрца».

### *№ 130. Да В. Я. Кірпоціна* (с. 318)

Друкуецца і датуецца па тэксце запіскі (адз. зах. 4), якая напісана ў час наступлення нямецка-фашысцкіх войск на Маскву. У канцы кастрычніка Я. Купала выехаў у Казань.

Упершыню — кн. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 264.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Кірпоцін Валерый Якаўлевіч* (1898—?) — рускі літаратуразнавец, крытык і публіцыст. З Я. Купалам пазнаёміўся ў Мінску ў 1932 г. У 1932—1934 гг. быў сакратаром Аргкамітэта ССП СССР, па яго ініцыятыве Я. Купала і Я. Колас былі ўведзены ў яго склад.

*Емяльянаў Барыс Аляксандравіч* (1903—1965) — рускі пісьменнік. Пазнаёміўся з паэтам у 1930-я гады. Асабліва зблізіўся з ім у ліпені — кастрычніку 1941 г. у Маскве. Аўтар успамінаў пра Я. Купалу (у яго кн. «Талент». М., 1963 і «Такі ён быў», Мн., 1975).

### *№ 131. Да М. І. Шыманскай* (с. 319)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 15).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### *№ 132. Да Зінгер* (с. 319)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 23).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Ліст адрасаваны жонцы М. Э. Зінгера.

*Зінгер Макс Эмануілавіч* (1899—1960) — рускі пісьменнік. З Купалам пазнаёміўся ў ліп. 1941 г. у Маскве. У кватэры Зінгера (вул. Вял. Грузінская, д. 56, кв. 21) Купала з Уладзіславай Францаўнай знаходзіў прытулак.

*...на имя Владимира Матвеевича Бахметьева...*— *Бахмецьеў Уладзімір Мацвеевіч* (1885—1963) — рускі пісьменнік. Пасябраваў з Я. Купалам у першай палове 1930-х гадоў. Часта сустракаліся ў Мінску і Маскве, а таксама ў Казані і Пячышчах у 1941—1942 гг. Разам удзельнічалі ў радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа, у рабоце навуковай сесіі АН БССР у сак. 1942 г., а таксама ў мерапрыемствах СП СССР.

### *№ 133. Да Я. С. Мазалькова* (с. 320)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 16)

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII.

*...что слышно в наших издательских сферах.*— Я. С. Мазалькоў адказаў Я. Купалу на гэты ліст і паведаміў, што «составил сборник Ваших избранных стихов («Избранное») для школьной библиотеки — Детиздат»[1]. Зборнік да друку падпісаны 27.V.1942 г., выйшаў у 1942 г. тыражом у 50 000 экз. з уступным артыкулам Я. Мазалькова.

*Если Петр Иванович Чагин в Москве...*— У той час дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры (Масква).

---

[1] Ліст Я. С. Мазалькова да Я. Купалы ад 13.5.1942 г. захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. П-ы, воп. III, р-І, адз. зах. 33).

С. 320: *...в «Красной Звезде» было напечатано, что печатается в Военном из<датель>стве мой сборник стихов.*— Гаворка ідзе пра зб. «Узнялася Беларусь» (Ваенвыдавецтва Наркамата абароны СССР, М., 1942), куды ўвайшлі 5 артыкулаў і 8 вершаў.

*Я живу здесь под самой Казанью...*— Я. Купала знаходзіўся ў Казані з 13 лістап. 1941 г. па 13 чэрв. 1942 г.

*№ 134. У рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь»* (с. 320)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 5).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Далучаю пры гэтым верш: «Яшчэ: Хлопчык і лётчык». Калі падойдзе, друкуйце ў «Савецкай Беларусі».*— Верш пад назвай «Хлопчык і лётчык на вайне» быў апублікаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1942, 27 мая.

*Газета «Савецкая Беларусь»* — орган ЦК КП(б)Б, СНК і Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Выдавалася з кастр. 1941 г. да ліп. 1944 г. Друкавалася ў Арле, Казані і Маскве, Навабеліцы (Гомельскі р-н) на беларускай, а з 10.IV.1943 г. і на рускай мовах. Была разлічана на насельніцтва часова акупіраванай Беларусі. У газ. былі надрукаваны творы Купалы: «Беларускім партызанам», «Грабежнік», «Зноў будзем шчасце мець і волю», а таксама артыкулы «Радзіма кліча да помсты», «З Новым годам, з блізкай перамогай» і інш.

*№ 135. Да Б. А. Емяльянава* (с. 321)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 24).

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII з купюрай.

У ДзЛМЯнК (ф. П-ы, воп. 3, раздз. 1, адз. зах. 18) захоўваецца ліст Б. А. Емяльянава да Я. Купалы ад 10 студз. 1942 г., у якім ён паведамляе, што жыве ў Новасібірску, але просьбы напісаць рэкамендацыю для прыёму ў члены ССП няма. Відаць, быў яшчэ другі ліст, які не захаваўся. Я. Купала выканаў просьбу Емяльянава (гл. наст. ліст).

*Емяльянаў Б. А.*— Гл. камент. да ліста № 130.

*№ 136. У СП СССР* (с. 322)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 7).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Рэкамендацыя на прыём у члены Саюза савецкіх пісьменнікаў была напісана Я. Купалам па просьбе Б. А. Емяльянава.

*№ 137. Да І. А. Крупені і Ц. С. Гарбунова* (с. 322)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 8). Ліст з'яўляецца адказам Я. Купалы на просьбу І. Крупені і Ц. Гарбунова, якую яны выказалі ў лісце да паэта ад 29.IV.1942 г.

Упершыню — Зб. тв., 1976, т. VII з нязначным скарачэннем.

*Гарбуноў Цімафей Сазонавіч* (1904—1969) — партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі, беларускі гісторык. У 1942—1945 гг. член прэзідыума Усеславянскага камітэта і рэдактар часоп. «Славяне».

*Крупеня Іван Ануфрыевіч* (1908—1952) — дзяржаўны дзеяч Беларусі. Асабістыя кантакты з Я. Купалам пачаліся прыблізна з 1940 г. Сустракаліся на сесіі АН БССР (г. Казань, 12—13.03.1942). У нумары гасцініцы «Масква», дзе жыў Крупеня, Я. Купала спыніўся ў час свайго апошняга прыезду ў Маскву 18.06.1942 г. Пасля смерці паэта І. Крупеня быў прызначаны членам камісіі па збіранні матэрыялаў, якія датычацца жыцця і дзейнасці Я. Купалы.

*Для журнала «Славяне»...*— Грамадска-палітычны, літаратурна-публіцыстычны часопіс, створаны ў Маскве Усеславянскім камітэтам. Выходзіў з чэрв. 1942-га да 1958 г. Верш «Грабежнік» у перакладзе на рускую мову быў апублікаваны ў названым часопісе ў 1942 г., № 1.

*Пасылаю два ранейшыя вершы — «Грабежнік» і «Беларускім партызанам».*— Першы верш напісаны 19.09.1941 г. у Чарнарэчанску. Быў упершыню апублікаваны 28.09.1941 г. у газ. «Красная звезда».

*Тав. Васілеўскі быў у мяне 4.V. ...*— *Васілеўскі* — супрацоўнік рэдакцыі часоп. «Славяне».

*Тав. Панамарэнку мой нізкі паклон...*— *Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч* (1902—1984) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну. У 1938—1947 гг.— першы сакратар ЦК КП(б)Б.

*№ 138. Да К. Чорнага і П. Кавалёва* (с. 323)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 6).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Чорны Кузьма* (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944) — беларускі пісьменнік. У той час з'яўляўся супрацоўнікам рэдакцыі газ. «Савецкая Беларусь».

*Кавалёў Павел Нічыпаравіч* (1912—2000) — беларускі пісьменнік.

*Я паслаў Вам верш «Яшчэ: Хлопчык і лётчык»... Загаловак, бадай, лепей было б даць «Хлопчык і лётчык у часе вайны».*— Верш «Хлопчык і лётчык на вайне» быў напісаны 27 крас. 1942 г.

*№ 139. Да У. Ф. Луцэвіч* (с. 324)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (адз. зах. 25).

Упершыню — Зб. тв., 1963, т. VI.

Ліст адрасаваны ў пасёлак Пячышчы Верхне-Усленскага раёна Татарскай АССР. Тут паэт з сям'ёй жыў на працягу васьмі месяцаў у час эвакуацыі з 13 лістап. 1941 г. да сярэдзіны чэрв. 1942 г.

*Луцэвіч Уладзіслава Францаўна* (1891—1960) — жонка Я. Купалы. Літаратуразнавец, культурны дзеяч. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі. У 1944—1960 гг. дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы. Склала зборнікі матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць паэта, аўтар артыкулаў пра творчасць Я. Купалы, успамінаў пра яго.

*...сардэчнае спачуванне Наякшыным.*— *Наякшын Іван Якаўлевіч* (1886—1962) — дырэктар мукамельзавода ў Пячышчах, дзе жыў паэт з сярэдзіны лістап. да снеж. 1941 г. У сям'і Наякшыных у 1942 г. здарылася няшчасце — памёр іх васемнаццацігадовы сын, студэнт аднаго з казанскіх інстытутаў.

*Бачыў Лынькова, Кузьму, Крапіву.*— *Лынькоў Міхась* (Міхась Ціханавіч; 1899—1975) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1930 г.

*Чорны Кузьма* — Гл. камент. да ліста № 138.

*Крапіва Кандрат* (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896—1991) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Пазнаёміўся з паэтам у 1925 г.

*№ 140. Да У. Ф. Луцэвіч* (с. 324)

Друкуецца і датуецца па тэксце тэлеграмы (адз. зах. 25). Апошняя вестка з Масквы.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Гостиница «Москва», 414.*— Я. Купала жыў у нумары 414 гасцініцы «Масква».

28 чэрв. 1942 г. Я. Купала трагічна загінуў.

**ДАРЧЫЯ НАДПІСЫ** (с. 325)

У раздзеле змешчаны дарчыя надпісы Янкі Купалы на кнігах, фотаздымках, блакнотах, якія згрупаваны ў алфавітнам парадку.

Большая частка інскрыптаў друкуецца па аўтографах, якія захоўваюцца ў фондах ДзЛМЯнК. У каментарыях да іх указваецца адзінка захавання, іншыя крыніцы публікацый агаворваюцца.

Некаторыя дарчыя надпісы былі апублікаваны ў перыядычным друку і асобных выданнях.

Спроба класіфікацыі дарчых надпісаў была зроблена ў публікацыях апошняга часу: К. Казыра «Ахвярую на памяць...» («Літ. і мастацтва», 2001, № 43, 26 кастр.) і Г. Вітушка «На добры ўспамін...» («Роднае слова», 2002, № 6—8).

Некаторыя дарчыя надпісы ў прыгаданых публікацыях і дадзеным томе друкуюцца ўпершыню.

**«РАСЕЙСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК»** (с. 369)

Друкуецца і датуецца па кн.: «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» (Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Вып. Другі. Выданне Інстытуту Беларускае культуры. Менск, 1923).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Кніжка «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва», падрыхтаваная Я. Купалам яшчэ ў час яго сакратарскай працы ў Навукова-тэрміналагічнай камісіі і выдадзеная Інстытутам беларускай культуры ў 1923 г., не апісана ні ў адной з самых поўных бібліяграфій Купалавай творчасці, у тым ліку і біябібліяграфічным даведніку «Беларускія пісьменнікі»[1]. Нават у энцыклапедыі «Беларуская мова», дзе праца самой Навукова-тэрміналагічнай камісіі атрымала аб'ектыўную, прычым вельмі высокую, ацэнку, у артыкуле пра мову і моватворчую дзейнасць Купалы нічога не гаворыцца пра яго лексікаграфічны занятак[2], пра славапісную (тэрмін самога песняра) працу Купалы.

Узнікае пытанне: чаму на пачатку 20-х гг. паэт значны час адводзіў не чыста пісьменніцкай, ■ навуковай працы? Адказ знаходзіцца ў самой сутнасці творчай натуры Купалы — яго выразнай грамадзянскасці, выключным патрыятызме, самаадданым служэнні Бацькаўшчыне, што, у прыватнасці, напярэдадні, у 1919—1920 гг., выявілася ў яго публіцыстычнай дзейнасці. У тых умовах, што склаліся ў першыя гады савецкай улады на Беларусі (жорсткія цэнзурныя абмежаванні, намагчымасць адкрыта, у публіцыстычным слове, выказаць думкі, якія хоць у нечым разыходзіліся з афіцыйнымі ўстаноўкамі, недавер да тых, хто перажыў польскую акупацыю, і г. д.), словапіс для Купалы стаў, бадай, ці не найлепшым спосабам служэння Бацькаўшчыне. У той час менавіта лексікаграфічная дзейнасць выйшла на пярэдні план сярод гуманітарных заняткаў на велізарнейшай частцы ўсяго еўрапейскага кантынента. Народы, якія вызваліліся з-пад улады Расійскай і Аўстра-Венгерскай імперый, сталі паскорана ўзводзіць сваю дзяржаўнасць, фундаментам якой, як вядома, з'яўляецца нацыянальная культура. Родная ж мова — самы надзейны цэмент, што змацоўвае гэты фундамент. І вось лепшыя літаратурныя і культурныя сілы на Украіне і ў Польшчы, у Чэхіі і Літве, у Латвіі і Эстоніі, у іншых, цяпер ужо самастойных, дзяржавах актыўна ўключаліся ў працэс навукова-тэрміналагічнага словатворства, запаўняючы прагалы ў нацыянальным літаратурным лексіконе. І хаця пасля заканчэння савецка-польскай вайны 1 ліпеня 1920 г. БССР існавала толькі на частцы адной Мінскай губерні, на тэрыторыі 52,3 тыс. км і з насельніцтвам усяго 1,5 млн. чалавек, надышла пара для канкрэтнай дзяржаватворчай, нацыятворчай працы і ў нас. Бо дзяржаве, каб існаваць, а нацыі — каб жыць паўнакроўным духоўным жыццём, патрэбна была свая сістэма тэрмінаў для абслугоўвання ўсіх сфер народнай гаспадаркі, адукацыі, навукі і культуры. Не толькі спецыялісты-мовазнаўцы высокага класа, такія як С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, М. Байкоў і інш., але і выдатныя літаратары — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Вацлаў

---

[1] Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік. Мн., 1994. Т. 3. С. 489—568.

[2] Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 280—284.

Ластоўскі, Змітрок Бядуля — заняліся слованісам, сталі ствараць рознага тыпу — тэрміналагічныя, тлумачальныя, перакладныя — слоўнікі...

Літаратуразнаўчая (і ўвогуле мастацтвазнаўчая) тэрміналогія на беларускай мове, нягледзячы на тое, што нарадзілася яшчэ некалькі стагоддзяў назад у «Граматыках» Л. Зізанія (1596) і М. Смятрыцкага (1618), «Лексіконе славенарускім» П. Бярынды (1627), у выніку вымушанай перапыненасці беларускага моватворчага працэсу (пад уздзеяннем паланізацыі, затым русіфікацыі) не ўстоялася і да пачатку 20-х гг. XX ст. не адкрышталізавалася. Тыя некалькі дзесяткаў тэрмінаў, што ўжываліся ў публікацыях «Нашай нівы» ды іншых нешматлікіх выданнях пачатку стагоддзя, як кажуць, пагоды не рабілі. Трэба было асвоіць, абеларусіць некалькі соцень найменняў, большасць з якіх у беларускамоўным друку ўвогуле ніколі не выкарыстоўваліся.

Якімі прынцыпамі карыстаўся Купала пры стварэнні нарматыўнай беларускай літаратурнай тэрміналогіі? Пра гэта, а таксама пра многае іншае найлепей адказаў ён сам — ва ўступе да свайго «Слоўніка».

Ва ўступе — пэўная недакладнасць. У «Слоўнік», які складаецца з рускабеларускай часткі («Расейска-беларускі слоўнік») і «Слоўніка беларускіх тэрмінаў», уключана не 2500, а 1706 тэрмінаў. Магчыма, асобныя словы-тэрміны былі апушчаныя пры падрыхтоўцы «Слоўніка» да выдання, без ведама Купалы, ужо пасля таго, як ён напісаў прадмову. Аднак і тое, што засталося, здзіўляе сваёй колькасцю. Для параўнання: сучасныя слоўнікі літаратуразнаўчых тэрмінаў змяшчаюць нейкіх паўтысячы найменняў. Праўда, у «Слоўнік», як і агаворваўся Купала, увайшоў цэлы шэраг слоў, якія да літаратуразнаўчай тэрміналогіі маюць толькі ўскосныя адносіны. Гэта такія словы, як *абагульненне, абвестка, абмылка, адбітак, аднастайны, асабісты, асаблівы, асабовы, асвета, вусны, выклік, выразны, гаворка, грамата, дадатак, довад, жаласлівы, заданне, захапленне, здарэнне, імкненне, камуна, камунізм, краіна, красамоўства, літаральны, маляўнічы, павучальны, пралетарыят, прыгожасць, радавы, разумовы, сціслы, увага, узнёслы, чуллівасць* і інш. Несумненна, усе гэтыя словы ўжываюцца ў мастацкіх і мастацтвазнаўчых тэкстах, але да тэрміналогіі мастацтва і мастацтвазнаўства (у тым ліку да літаратуры і літаратуразнаўства) не маюць прамога дачынення. Наяўнасць іх у купалаўскім «Слоўніку» абумоўлівалася агульнай тэрміналагічнай нераспрацаванасцю тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, жаданнем даць беларускія адпаведнікі да многіх рускіх слоў-найменняў.

Дарэчы, такое назіралася не толькі ў выданні «Тэорыя і практыка літаратурнага мастацтва», а, бадай, ва ўсіх 24 выпусках «Беларускай навуковай тэрміналогіі», што выйшлі ў 1922—1930 гг. і ахоплівалі самыя разнастайныя галіны ведаў: матэматыку, геаграфію, логіку і псіхалогію, геалогію, музыку, анатомію, грамадазнаўства, хімію, сельскую гаспадарку і г. д. Своеасаблівай усеахопнасці лексічнага матэрыялу не пазбег, у прыватнасці, сам старшыня Галоўнай тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта вядомы мовазнавец Я. Лёсік, які распрацоўваў лінгвістычную тэрміналогію. Так, у ягонай «Граматычнай тэрміналогіі»[1], як і пазней ва ўкладзеным ім «Слоўніку граматычна-лінгвістычнае тэрміналогіі»[2], сустракаюцца словы, што да лінгвістыкі маюць толькі адноснае дачыненне: *абрыс, відавочна, памылка, прыпушчэнне, старонка, увага, хібнасць, часоўны* і г. д.

На пачатку 20-х гг. Купала заняўся слованісам найперш з патрыятычных пабуджэнняў. Патрыятычны пафас у значнай ступені абумоўліваў характар пра-

---

[1] Граматычная тэрміналогія / Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. 1921. № 2.

[2] Граматычная тэрміналогія. Выпуск 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычнае тэрміналогіі. Праект. Менск, 1927.

цы ўсёй Навукова-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта, якая, як пісаў у 1922 г. часопіс «Адраджэнне», «па прыкладу чэхаў, трымалася таго погляду, што лепш утвараць згодна з законамі беларускай мовы неалагізмы, чымся браць зусім незразумелыя словы»[1]. Такая сацыяльна-псіхалагічная ўстаноўка яскрава выявілася і ў «Практыцы і тэорыі літаратурнага мастацтва». Так, многія тэрміны, што, па словах Купалы, былі «пераняты ўсімі народамі з грэцкае або лацінскае мовы», аўтар «Слоўніка» імкнуўся замяніць зразумелымі беларускімі адпаведнікамі. Праўда, не заўсёды гэта было апраўдана і дарэчы, але сама тэндэнцыя відавочная. Вось асобныя, вельмі паказальныя прыклады: *амфиболия — двузначнасць, анаграмма — надпіс, анахронизм — нясучаснасць, аноним — бязыменнік, ассонанс — сугалоссе, библиограф — кнігавед, библиотека — кніжня, варваризм — чужаслоў, вульгаризм — прастаслоўе, гекзаметр — шасцістоп, шасцімер, градацыя — ступенаванне, диссонанс — рознагучнасць, двустишие — двуверш, дуэт — двуспеў, журнал — часопіс, каламбур — жартаслоўе, изотонический — аднагучны, метонимия — перайманне, ономатопея — гукаперайманне, трилогия — троечасце, фабула — аснова* і інш.

Пераклад іншамоўных тэрмінаў патрабуе ад перакладчыка не толькі добрага ведання ім роднай мовы, здольнасцяў яго як словатворцы, але і глыбокага разумення сутнасці паняццяў, што выражаюцца гэтымі тэрмінамі. У дадзеным выпадку Купала выступіў у ролі не толькі словапісца, стваральніка неалагізмаў, але і — літаратуразнаўца, дакладней — тэарэтыка літаратуры. Веды ж па тэорыі літаратуры, і даволі грунтоўныя, ён набыў і на чатырохгадовых курсах Чарняева ў Пецярбургу, і шляхам настойлівай, пачынаючы з юнацкіх гадоў, самаадукацыі, і ў выніку актыўнай літаратурнай практыкі ў розных родах і жанрах мастацтва слова. Аналіз купалаўскай «Практыкі і тэорыі літаратурнага мастацтва» паказвае, што паэт у асноўным дакладна ўзнавіў сутнасць літаратуразнаўчых тэрмінаў, знайшоў належныя беларускамоўныя адпаведнікі да многіх замежных найменняў, што да таго часу ўвогуле арганічна прыжыліся ў рускай мове. Несумненна, у гэтым яму дапамаглі не толькі тэарэтыка-літаратурныя веды, але і журналісцкая праца ў газеце «Наша ніва». У свой час на газетных палосах знайшлі апрабацыю некаторыя тэрміны з галіны тэорыі і практыкі літаратурнага мастацтва. Гэты «задзел» Купала выкарыстаў спаўна.

Праўда, сам «задзел» быў надта разнашэрсны, неўпарадкаваны, несістэматызаваны. Для яго, як паказаў мовазнавец В. Красней, былі характэрныя полінайменнасць, калі для выражэння аднаго паняцця ўжывалася некалькі лексем (*пісьменнік — пісар — пісацель — артыста — пісар — артыста; з'ява — праява — сцэна; апавяданне — расказ*), варыянтнасць на фанетычна-марфалагічным і словаўтваральным узроўні (*абраз — образ — вобраз; твор — вытвар — рэч — штука; пісьменнасць — пісьменства — пісьменніцтва*)[2]. Трэба было спыніцца на нечым адным: адным слове або нават на адной форме слова. Пісьменнік з абсалютным моўным слыхам, Купала амаль беспамылкова выбіраў з некалькіх варыянтаў адзін, максімум — два, якія затым з лёгкай паэтавай рукі станавіліся ў нас літаратурнай нормай: *пісьменнік, з'ява, апавяданне, вобраз, твор, пісьменства, верш, кірунак, мілагучнасць, мастацкасць, паданне, пераклад, рукапіс* і г. д.

Побач з гэтым патрэбна было займацца неалагізацыяй, вынаходзіць нава-творы. І Купала займаўся гэтым з лёгкасцю і радасцю. Асобныя ягоныя тэрміны, што з пэўных гістарычных прычын не ўвайшлі ў актыўны літаратурны абыходак, проста так і просяцца ў сучасныя беларускія слоўнікі літаратуразнаўчых тэрмінаў: *іншасказ (аллегория), мнагаслоўе (плеоназм), аднагалоссе (зияние),*

---

[1] Адраджэнне. Сш. I. С. 281.

[2] Красней В. П. Літаратуразнаўчыя тэрміны на старонках «Нашай нівы» / Янка Купала і «Наша ніва». Мн., 1997. С. 78—83.

*аднаверш (моностих), назваслоўе (терминология), недасказ (умолчание), вершаванне (стихосложение), досціп (остроумие), допіс (корреспонденция), жыццяпіс (биография), кнігапіс (библиография)* і інш. Некаторыя з гэтых і іншых купалаўскіх наватвораў ужываюцца ў сучаснай беларускай мове ў выглядзе тэрміналагічных сінонімаў, своеасаблівых слоў-дублетаў. І мала хто ведае, што заслуга ў гэтым — Янкі Купалы.

Сёння, з вышыні сучаснай лексікаграфіі, відаць не толькі дасягненні, але і асобныя ўпушчэнні, пралікі, агрэхі ўкладальніка «Практыкі і тэорыі літаратурнага мастацтва». У прыватнасці, часам у беларускім тэрміне не захоўваюцца цалкам аб'ём і сутнасць зыходнага наймення. Так, *анафора* — гэта не любое *паўтарэнне, ария* — не любы *спеў, жанр* — не *род, куплет* — не *прыпеўка, тема* — не *заданне, роман* — не *аповесць, сентиментализм* — не толькі *чуллівасць* і г. д. Тэрміны, як вядома, не любяць шматзначнасці. Аднак жа ў «Слоўніку» ажно ў пяці значэннях ужываецца тэрмін *нарыс (очерк, начертание, схема, эскиз, этюд)*, у чатырох — *апавяданне (повествование, рассказ, новелла, сказание), склад (силлаба, склад речи, слог, стиль), вобразны (образный, изобразительный, картинный, фигуральный)*... Што да двух- и трохсэнсавых тэрмінаў, то іх у «Слоўніку» набіраецца каля дзвюх соцень: *адухаўленне (одухотворение, одушевление), аўтар (автор, сочинитель), надпіс (анаграмма, анаграф, эпиграф), стапа (метр, стопа)* і інш. Асобныя літаратуразнаўчыя тэрміны ўспрымаюцца сёння як штучна сканструяваныя, нават вычварныя: *пераносня (метафора), мігадзея (пантомима), брахняпіс (пасквіль), спрэчкапіс (полемика), злосмех (сарказм), кругаход (период), старасветчына (архаизм), пасмерце (некролог), высмешка (ирония)* і інш.

І ўсё ж, нягледзячы на сказанае, купалаўская «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» заслугоўвае самай пільнай увагі як лексікографаў-мовазнаўцаў, так і літаратуразнаўцаў. «Слоўнік», які ў свой час быў зацверджаны ў выглядзе тэрміналагічнага стандарту, аказаў значнае ўздзеянне на развіццё літаратуразнаўчай тэрміналогіі 20-х гг. У прыватнасці, купалаўскі словапіс быў улічаны Максімам Гарэцкім у слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што ў якасці дадатку ўвайшоў у 3-е (1924), а затым і ў 4-е (1926) выданне яго славутай «Гісторыі беларускае літаратуры»[1]. У «Назваслоўі» (так Гарэцкі назваў у 3-м выданні «Гісторыі...» свой літаратуразнаўчы слоўнік, дарэчы, першы ў беларускім літаратуразнаўстве) былі растлумачаны ў алфавітным парадку 344 тэрміны. У «Слоўнічку літаратурных паняццяў» (дадатак да 4-га выдання «Гісторыі...») такіх тэрмінаў было менш — 154. Аднак і ў першым, і ў другім выпадках заўважаецца яўная арыентацыя на купалаўскую тэрміналогію. Нават тады, калі ў асноўных — гісторыка-літаратурных раздзелах «Гісторыі...» выкарыстоўваліся прамыя запазычанні грэцкіх і лацінскіх тэрмінаў. Так, у сваім літаратуразнаўчым слоўніку як асноўны, загалоўны Гарэцкі бярэ тэрмін традыцыйнай паэтыкі (што ўжываўся ў «Гісторыі...», якая да гэтага вытрымала ўжо два выданні), але тут жа, пры тлумачэнні тэрміна, як ягоны сінонім, беларускі адпаведнік, ставіць купалаўскі наватвор з «Практыкі і тэорыі літаратурнага мастацтва». Напрыклад: Алегорыя.— Іншасказ... (Далей ідзе вытлумачэнне паняцця); Версіфікацыя.— Вершаванне...; Градацыя.— Ступенаванне...; Плеоназм.— Мнагаслоўе...; Сінонім.— Блізазначнік і г. д.

На вялікі жаль, уздзеянне купалаўскай лексікаграфічнай працы на беларускую літаратуразнаўчую тэрміналогію ў выніку дэбеларусізацыі, што разгарнулася ў 30-я і наступныя дзесяцігоддзі, не стала, як хацелася б, з'явай значнай і неабарачальнай. Тым не менш купалаўскія намаганні па стварэнні ўласнабеларускага мастацтвазнаўчага словапісу могуць мець не толькі чыста гістарычнае

---

[1] Рагойша В. Каб жыць у эпохах: «Назваслоўе» Максіма Гарэцкага». Роднае слова. 1997. № 6.

значэнне. Слоўнік «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» і сёння можа аказаць сваю паслугу навуцы пра літаратуру і нашаму грамадству ў цэлым.

*Байкоў Мікалай Якаўлевіч* (1889—пасля 1946) — беларускі лінгвіст і літаратуразнавец. Вучоны сакратар Слоўнікавай камісіі Інбелкульта (1922—1928), пазней Інстытута мовы АН БССР. Разам з М. Гарэцкім выдаў «Практычны расейска-беларускі слоўнік» (1924), з С. Некрашэвічам — «Беларуска-расейскі слоўнік» (1925) і «Расейска-беларускі слоўнік» (1928), з А. Бараноўскім — «Практычны беларускі вайсковы слоўнік» (1927).

## КАЛЕКТЫЎНАЕ

### Вершаваныя творы

*Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну* (с. 435)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 43, 11 ліп., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца 25 мая — 5 ліп. 1936 г. паводле машынапісу.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Твор напісаны ў сувязі з падрыхтоўкай да XVI гадавіны вызвалення Беларусі ад польскіх войскаў і гадавіны ўручэння рэспубліцы ордэна Леніна. 11 ліп. 1936 г. у Доме ўрада ў Мінску адбыўся ўсебеларускі радыёмітынг, прысвечаны згаданым падзеям. Старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў у прамове, якой ён адкрыў мітынг, зачытаў асобныя вытрымкі з «Пісьма...».

Тэкст «Пісьма...» быў вышыты па шоўку ў выглядзе кнігі ў адмысловы куфар. 28 лістап. 1936 г. спецыяльная дэлегацыя ўручыла «Пісьмо...» І. В. Сталіну.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАНБ (ф. 24, воп. 1, адз. зах. 208) захоўваюцца матэрыялы, якія дазваляюць прасачыць за гісторыяй стварэння твора і ўдакладніць дату яго напісання. Вывучэнне матэрыялаў дае магчымасць меркаваць, што менавіта П. Глебка ажыццяўляў арганізацыю калектыўнай працы аўтараў «Пісьма...». У арт. «Неапублікаваныя купалаўскія радкі» П. Глебка адзначае: «Летам 1936 г. Я. Купала разам з групай паэтаў працаваў над пераказам у вершах «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну». Перад пачаткам работы нам быў дадзены празаічны тэкст «Пісьма...». Мы падзялілі яго на часткі, і кожны ўзяў на сябе апрацоўку пэўнага раздзела. Янка Купала даў згоду працаваць над раздзелам аб мінулым Беларусі» («Літ і мастацтва», 1951, 30 чэрв.). У фондзе П. Глебкі захоўваюцца 2 рэдакцыі той часткі твора, над якой працаваў Я. Купала, і 4 рэдакцыі ўсяго «Пісьма...» з праўкамі рэдактара. На адным з машынапісаў пазначана: «Праца над пісьмом пачата 25/V, скончана 5/VII 1936 г.» і пастаўлены подпіс П. Глебкі. Дзве рэдакцыі купалаўскага тэксту значна адрозніваюцца паміж сабой. Усе тэксты маюць праўкі рэдактара. Ніжэй падаецца варыянт часткі «Пісьма...», які прапанаваў Я. Купала, у першапачатковай аўтарскай рэдакцыі:

1. Мы песняй вітаем цябе, мудры Сталін,
За радасць, за шчасце, за добрую долю.
Зямлю палівац мы слязьмі перасталі,
Навек пахавалі бяду і няволю.
5. Хай смутак ніколі тваіх воч не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход;
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.
9. А было нядаўна, а было калісьці,
Калі мы з зямелькі не мелі карысці,
Хоць і палівалі мы яе крывёю —
Для чужых гублялі сілы і здароўе.

13. Не сабе збіралі зерне з нашых ніваў
У той час мінулы, у час нешчаслівы.
На абед была нам лебяда з мякінай,
А далей — магіла пад сухой асінай.
17. Яснага прасвету ад радзін да смерці
У жыцці не зналі ні бацькі, ні дзеці.
Бізуны і розгі жудка seклі плечы,
І нагайка секла, і ланцуг калечыў.
21. Ішоў год за годам, ішоў век за векам,
А мы пад няволяй, пад вячыстым здзекам,
За крывавым потам сонейка не бачым,
Кормімся, канаем з торбаю жабрачай.
25. Крулі ж крулявалі, князі катавалі,
І цары царылі у крывавай хвале,
Турмы будавалі, кавалі кайданы,
На народным целе сачыліся раны.
29. Яшчэ сёння глянеш — курганы, магілы —
Сведкі былых боек варожае сілы,
А касцей там знойдзеш розных нацый, расаў,—
Найбольш беларускіх, што ляглі без часу.
33. Біўся кароль шведскі на нашых загонах
З «белым» рускім царам за троны, кароны.
Бы ім на магілы было земляў мала,
На нашы абшары нечысць іх загнала.
37. Гарады і вёскі нішчылі пажарам,
Народ рабавалі заніпто, задарам.
Ўдовы і сіроты вылівалі слёзы
На лясы сухія, на ніцыя лозы.
41. Некаму аб шчасці
Кукуе зязюля,
А сіроткі, ўдоўкі
Ніхто не прытуле.
45. Пабрыдуць па свеце,
Па лясах, па полі,
Каб долю сустрэнуць.
І не знойдуць долі.
49. Гудзець будзе вецер.
Церушыць снег будзе.
Сіроткі і ўдоўкі
Не прыкмецяць людзі.
53. Хадзіць будуць гэтак,
Выбівацца з сілак,
Покуль аж не дойдуць
Да сваіх магілак.
57. Можа, напаткае
Дзе табун іх воўчы,
Можа, хто зямелькай
Ім прысыпе вочы.
61. Вясной салавейка
Песню адшчабеча,
Сава адгукнецца
Восенню увечар.
65. Над рэчкай Бярозаю на Беларусі
Ізноў ідуць бітвы, крывавыя бітвы,
Народ паднявольны йшчэ болей сагнуўся
І шэпча пакорна праклящці й малітвы.

69. Тут з царам расійскім кароль Банапартэ
На карту паставілі гонар і славу;
Хай льецца салдацкая кроў не на жарты
За рускія справы, французскія справы.
73. І кроў палілася па нашых загонах,
Бярозы з крывёю змяшаліся воды,
І льецца за тыя ж кроў троны, кароны,
Якая лілася праз векі і годы.
77. Сягоння Бяроза плыве ўдаль распетай,
А думка міжволі ўсплывае ўсё тая:
Няўжо каралям і царам тым зямлі тэй
На іх жа магілы ў сябе не хапае.
81. Зноў шоў год за годам, стагоддзе мінала,
А дабра краіна не чула, не знала.
Былі вёсны, леты, восені і зімы,
Гора песні пела на зямлі радзімай.
85. Польшча паўставала, бунтавала панства
Супроць волі царскай Расійскага царства.
Панства бунтавала і ланцуг кавала,
Нашаму народу хаўтуры праўляла.
89. Так паны паўстанцы будавалі Польшчу,
Мужык беларускі толькі спіну корчыў,
Адрабляў мазольна паншчыну на пана,
А паняты дочак гвалцілі пагана.
93. Паны ды жандары ды ксяндзы з папамі
На шыях народных селі груганамі,
А яны, паверце, катаваць умелі
Ад святой нядзелі да святой нядзелі.
97. Бізуны свісцелі, і званілі звоны,
Селянін гаротны адбіваў паклоны,
Аднікуль збаўлення, аднікуль прасвету.
Во які у нас быў век мінулы гэты!
101. А германцу нудна, Вільгельму не спіцца,—
Крыві яму трэба, трэба шыбяльніцаў.
Грымнулі гарматы у нядобрым часе,
Зноў крывёй, пажарам зямля абвілася.
105. Пайшло спусташэнне, пайшло знішчэнне,
Беларусь загразла ў крыві па калені,
Бежанцамі людзі пабрылі па свеце,
Шукаць па дарозе голаду і смерці.
109. І гінулі марна без хаты, без хлеба,
І думалі людзі, што гэтак і трэба.
А вакол вагнішчы, а вакол атрута,
Крывёй цякуць рэчкі, звяр'ё вые люта.
113. Бліндажы, акопы зрэзалі краіну,
Валяюцца трупы побач бацькі з сынам,
Груганы на полі падбіраюць косці,
Груган заклікае гругана у госці.
117. Вільгельм-імператар выдае наказы,
Раз'юшаны, п'яны ваеннай заразай.
Канаюць салдаты у разні крывавай,
Паны-генералы падбіраюць славу.
121. А свае нацдэмы з «высокае рады»
Рады, што германцы распасцерлі ўладу,
Пішуць пісьмы, пішуць нямецкаму цару:
«Заставайся, цару, у нас гаспадарыць.

125. Будзем табе, цару, служыць верна, вечна
І тваю імперыю славіць бесканечна.
Народ беларускі аддаем да скону
Ураздроб і оптам пад тваю карону».
129. Вайна прамінула, вайны Берлін хоча,
Гітлеравы банды шаблі на нас точаць.
Але надарэмна гэта іх надзея:
Ўвесь народ паўстане і знішча зладзеяў.
133. А Польшча паўстала, незалежнай стала,
І паны з князямі ды графы навалай
Рынуліся ў бітву на нашае гора,
Здабываць Польшчу ад мора да мора.
137. Зноў загаласілі нашы вёскі, сёлы,
Гарады замёрлі, жудасць, смерць вакола.
Вісельні скіголяць, грукацяць расстрэлы,
Пагром за пагромам, свет у дыме белым.
141. Кіеў у пажары і Менск у пажары,
Чыняць суд, расправу польскія жандары.
Ой, ты, поле наша, ой, вы, пушчы нашы,
Яшчэ вы не зналі гэткага кірмашу.
145. Весяліся, панства, на нашым прыстане,
Але баляванне надоўга не стане.
Выпараць вас з нашых сялібаў, палянаў
Бальшэвіцкім гартам штыхі гартаваны.
149. І ўцякала зграя паноў да Варшавы,
У нас збаляваўшы свой банкет крывавы.
І ўздыхнуў свабодна край наш яснай доляй,
Подлым акупантам не вярнуцца болей.
153. Перайшло, мінула,
Як бы не было,
Усё тое гора,
Усё тое зло.
157. Не свісціць нагайка,
Не гудзіць бізун,
Дабра не цягае
Вораг з нашых гумн.
161. Сталінскай дарогай
Выйшлі на прастор.
З намі разам сонца
І мільёны зор.
165. Песні усім сэрцам
Лепшыя свае
Ўвесь народ наш вольны
Сталіну пяе.
169. Мы песняй вітаем цябе, мудры Сталін,
За радасць, за шчасце, за добрую долю,
Зямлю паліваць мы слязьмі перасталі.
Навек пахавалі бяду і няволю.
173. Хай смутак ніколі тваіх воч не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

У параўнанні з канчатковым тэкстам «Пісьма...» першапачатковы купалаўскі тэкст скарочаны на 102 радкі (1—4, 11—14, 23—28, 31—32, 35—38, 41—68, 71—82, 85—92, 97—102, 117—118, 125—126, 129—132, 153—172).

Першапачатковы мае адрозненні ад другога варыянта ў выніку тых змен, якія былі ўнесены калектыўна. Так, напрыклад, радкі 31—32: *«А касцей там знойдзеш розных нацый, расаў. // Найбольш беларускіх, што ляглі без часу»* былі заменены на іншыя: *«Людзі аб курганах да нашых прадвесняў // Шмат зладжылі казак і легенд, і песняў»*. У канчатковы, надрукаваны тэкст і гэтыя радкі не былі ўнесены. Шмат іншых правак было ўнесена ў купалаўскі тэкст. Напрыклад, радкі 23—24 заменены наступнымі: *«Бацькаўшчыну славіць сваю не маглі мы, // Адно «край забраны быў для нас радзімай»*. Радкі 77—80 гучаць так: *«Сягоння Бяроза ўдаль плыве свабодна, // А думка ўспявае аб царах міжволі: // Няўжо ў іх жа царствах зямелькі прыгоднай // На іх жа магілы не было ніколі»*. Гэтыя радкі таксама не ўвайшлі ў канчатковы тэкст «Пісьма...».

На рускай мове твор упершыню апублікаваны ў газ. «Правда», 1936, № 189, 11 ліп. Пад тэкстам пазначана: «Письмо подписали 2 миллиона трудящихся Советской Белоруссии. Письмо белорусского народа великому Сталину в стихах изложили поэты БССР: Янка Купала, Якуб Колас, Андрей Александрович, Петрусь Бровко, Петро Глебко, Изи Харик. С белорусского языка письмо перевели поэты: Александр Безыменский, Михаил Голодный, Михаил Исаковский, Алексей Сурков».

«Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну» пры жыцці Я. Купалы асобным выданнем на беларускай мове выдавалася ў 1936 г. («Вялікаму Сталіну: Пісьмо народаў Савецкай Беларусі». Мн.; «Пісьмо народаў Савецкай Беларусі правадыру працоўных вялікаму Сталіну». Мн.), у 1937 г. («Вялікаму Сталіну ад беларускага народа») і ў 1940 г.

*Дванаццаць песень...* (с. 449)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 52, 14 верас., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Твор напісаны як водгук на манеўры Беларускай Ваеннай Акругі, што адбываліся з 9-га па 12 верас. 1936 г.

Урывак пад назвай «Пагранічнік» надрукаваны ў часоп. «Іскры Ільіча», 1936, № 10.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАНБ (ф. 24, воп. 1, адз. зах. 208) захоўваюцца два машынапісы калектыўнага твора. Адзін з іх мае рэдактарскія праўкі. Так, унесены змены ў назву твора. У машынапісе ў пачатку назвы было: «Дванаццаць песень пра нашу непераможную Чырвоную Армію, пра яе палкаводца Клімента Варашылава, пра яго баявога таварышча Сярго Арджанікідзе...» Прозвішча Арджанікідзе Рыгора Канстанцінавіча (Сярго; 1886—1937) у першадруку адсутнічае. Р. К. Арджанікідзе 18 лют. 1937 г. скончыў жыццё самагубствам. Месцы, у якіх прыгадваецца імя Р. К. Арджанікідзе, таксама значна скарочаны. Выкінуты іншыя фрагменты, напрыклад, дзве страфы, у якіх ідзе размова пра савецка-польскую вайну:

Чалавек тут лістам слаўся
Пад нябачаным прымусам...
Яго секлі... бо ён зваўся
Бедняком і беларусам.
Так і жыў народ пакутны,
Слёзмі снедаў, слёзмі мыўся...
Але ён устаў, магутны —
Панскай Польшчы не скарыўся.

У калектыўны твор уключаны строфы з вершаў Я. Купалы «Чырвонай Арміі паходы», «Хлопчык і лётчык», «Як у госці сын прыехаў».

На рускай мове твор змешчаны ў газ. «Правда», 1936, 11 верас. у скарочаным варыянце («Десять песен...»). Яго аўтарамі названы Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, М. Лынькоў, А. Суркоў, В. Гусеў, І. Гурскі, П. Глебка, Ізі Харык, П. Броўка.

Асобным выданнем твор на беларускай мове выйшаў у 1936 г.

*Радзіме і правадыру* (с. 461)

Друкуецца па часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 6, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам дата: май, 1938 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Нумар часопіса прысвечаны вылучэнню кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Выбары адбыліся 26 чэрв. 1938 г.

У калектыўным творы змешчаны строфы купалаўскіх вершаў «Аб Сталіне-сейбіту» і «Табе, правадыр...».

Асобным выданнем твор на беларускай мове выйшаў у 1938 г.

**Лісты, тэлеграмы, некралогі**

*Да В. Я. Брусава* (с. 477)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1923, № 288, 16 снеж.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Віншаванне было накіравана ў Маскву, у Вялікі тэатр, дзе 17 снеж. праходзіў урачысты сход, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння В. Брусава. Літаратурная грамадскасць Беларусі адзначала гэту дату 12 снеж. на агульным сходзе Інбелкульта, дзе В. Брусаў быў абраны яго ганаровым членам.

*Брусаў В. Я.*— Гл. камент. да ліста № 31.

*Тэлеграма <з нагоды 10-й гадавіны з дня смерці Шолам-Алейхема>* (с. 478)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1926, № 107, 14 мая, дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Шолам-Алейхем* (сапр. Рабіновіч Шолам Нохумавіч; 1859—1916) — яўрэйскі пісьменнік. 19 крас. 1939 г. у Калоннай зале Дома Саюзаў у Маскве Я. Купала выступіў з прамовай на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння Шолам-Алейхема.

*Да суда над нямецкім пралетарскім пісьменнікам Іаганесам Бехерам* (с. 478)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1928, № 61, 11 сак. Адбітак тэлеграмы пасланы І. Бехеру.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Бехер Іаганес Роберт* (1891—1958) — нямецкі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1952).

*Да М. М. Галадзеда* (с. 479)

Друкуецца па машынапісным тэксце, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 4п, воп. 3, спр. 28, л. 209).

Подпісы — аўтографы.

Упершыню — Платонаў Р. Лёсы, Мн., 1998, с. 64—65.

11 снеж. 1928 г. М. М. Галадзед накіраваў гэту заяву першаму сакратару ЦК КП(б)Б Я. Б. Гамарніку з просьбай разгледзець яе на зачыненым пасяджэнні Бюро ЦК. 12 снеж. 1928 г. Бюро ЦК КП(б)Б заяву аб памілаванні Ф. А. Аляхновіча адхіліла (НАРБ, ф. 4п, воп. 3, спр. 28, л. 208, 209).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Аляхновіч Францішак* (Аляхновіч Францішак Каролевіч; псеўд. Ю. Монвід, Ягор Монвід; 1883—1944) — беларускі драматург і тэатральны дзеяч. У 1910 г. разам з А. Бурбісам і І. Буйніцкім наладзіў у Вільні Першую беларускую вечарынку. Аўтар драм «На Антокалі» (1915), «На вёсцы» (1916), «Бутрым Няміра» (1916), «Манька» (1917), «Базылішк» (1917), «Каліcь» (1917), «Цені» (1919), «Птушка шчасця» (1920), «Шчаслівы муж» (1921), «Круці не круці — трэба памерці» (1923), «Няскончаная драма» (1920), «Пан міністр» (1922), дакументальнай кнігі «У кіпцюрох ГПУ» (1937), перакладзенай на 7 моў. У 1924 г. напісаў даследаванне «Беларускі тэатр». У 1926 г. прыехаў у Мінск, дзе ў 1927 г. быў арыштаваны органамі АДПУ і прыгавораны да 10 год высылкі на Салаўкі. У верасні 1933 г. вярнуўся ў Вільню (савецкія ўлады абмянялі яго на вязня польскай турмы Б. А. Тарашкевіча). У час нямецка-фашысцкай акупацыі рэдагаваў газ. «Беларускі голас». У сакавіку 1944 г. застрэлены на ўласнай кватэры ці то савецкімі, ці то польскімі партызанамі.

*У рэдакцыю газеты «Звязда»* (с. 480)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1929, № 41, 21 лют., дзе ўпершыню апублікаваны.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...цэлая група пісьменнікаў...* — Я. Купала і Я. Колас у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў наведалі Ленінград (з 22 лют. па 6 сак. 1929 г.).

*Памяці прафесара Я. І. Барычэўскага* (с. 481)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 206, 15 верас., дзе ўпершыню апублікаваны.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Барычэўскі Яўгеній Іванавіч* (1883—1934) — літаратуразнавец, прафесар. Выступаў у друку з літаратурна-крытычнымі артыкуламі пра творчасць А. Пушкіна, Я. Купалы, М. Багдановіча.

*Да Зм. Бядулі* (с. 481)

Друкуецца па газ. «Чырвоная змена», 1935, № 234, 23 кастр. Віншаванне Зм. Бядулі з нагоды 25-годдзя літаратурнай дзейнасці.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Бядуля Зм.*— Гл. камент. да ліста № 54.

*Да І. Д. Харыка* (с. 482)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 61, 17 лістап. Віншаванне І. Харыку з 15-годдзем літаратурнай дзейнасці.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Харык І.*— Гл. камент. да ліста № 82.

*Да Трэцяга Беларускага дзяржаўнага тэатра* (с. 483)

Друкуецца і датуецца па газ. «Звязда», 1935, № 291, 23 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Галубок У.*— Гл. камент. да ліста № 85.

*Да Р. Ралана* (с. 484)

Друкуецца па газ. «Рабочий», 1936, № 23, 29 студз. Віншаванне французскаму пісьменніку з 70-годдзем з дня нараджэння.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Ралан Рамэн* (1866—1944) — французскі пісьменнік.

*Да Г. Лахуці, Н. Зар'яна, С. Вургуна* (с. 484)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 6, 31 студз.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Лахуці Абулгасем Ахмедзадэ* (1887—1957) — іранскі паэт. З 1922 г. жыў у СССР, адзін з заснавальнікаў таджыкскай савецкай паэзіі.

*Зар'ян Наіры* (сапр. Аракелян Стафан Егіаевіч; 1890—1968) — армянскі пісьменнік.

*Вургун Самед* (сапр. Векілаў Самед Юсіф аглы; 1906—1956) — азербайджанскі паэт, драматург і грамадскі дзеяч.

*У рэдакцыю газеты «Правда»* (с. 485)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 39, 20 чэрв. Тэлеграма паслана з нагоды смерці М. Горкага (18 чэрв.).

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Да Я. Коласа* (с. 485)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1936, 11 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны. Тэлеграма з нагоды 30-годдзя літаратурнай дзейнасці.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Колас Я.*— Гл. камент. да ліста № 7.

*У Саюз пісьменнікаў Асеціі* (с. 486)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1939, 21 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Хетагураў Коста* (Канстанцін Ляванавіч; 1859—1906) — асецінскі паэт, грамадскі дзеяч. Заснавальнік асецінскай літаратуры.

*Памяці Моты Дзегцяра* (с. 487)

Друкуецца па газ. «Чырвоная змена», 1939, № 167, 22 лістап. Спачуванне з выпадку смерці маладога празаіка М. Дзегцяра.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Дзягцяр Мота Ізраілевіч* (1909—1939) — беларускі пісьменнік

*Да П. К. Панамарэнкі* (с. 488)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 4, воп. 21, спр. 1810, л. 75). Пад тэкстам недакладная дата: 26 крас. 1939 г. Паколькі А. М. Уласаў быў арыштаваны толькі 16 кастр. 1939 г., можна меркаваць, што ліст датуецца 26 крас. 1940 г.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1990, 20 крас. у публікацыі М. Шумейкі «Быў арыштаваны ў Маладзечне...».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Да Д. Бергельсона* (с. 489)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1940, № 14, 1 мая.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Бергельсон Давід Рафаілавіч* (1884—1952) — яўрэйскі пісьменнік.

*Да П. Р. Тычыны* (с. 490)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1941, № 5, 1 лют., дзе ўпершыню апублікаваны. Віншаванне Паўло Тычыны з 50-годдзем з дня нараджэння.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Тычына П. Р.*— Гл. камент. да ліста № 54.

## СЛУЖБОВЫЯ І АСАБІСТЫЯ ДАКУМЕНТЫ

### Заявы і прашэнні

*№ 1. У Галоўнае ўпраўленне па справах друку* (с. 493)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў РДзГА (ф. 776, воп. 25, спр. 1003, л. 1).

Фотакопія ў ДзЛМЯнК (НД 88).

Упершыню — зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», Мн., 1981, с. 76.

*«Паўлінка»* — камедыя Янкі Купалы.

*№ 2. У Галоўнае ўпраўленне па справах друку* (с. 493)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў РДзГА (ф. 776, воп. 25, спр. 1057, л. 1).

Фотакопія ў ДзЛМЯнК (Д 87).

Упершыню — зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 78.

*«Блуднікі»* — драма Л. Родзевіча, падпісана псеўданімам «Мікула Грымот». Дазвол на пастаноўку не быў дадзены.

*№ 3. У Галоўнае ўпраўленне па справах друку* (с. 494)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў РДзГА (ф. 776, воп. 25, спр. 1057, л. 5—5 адв.).

Фотакопія ў ДзЛМЯнК (Д 88).

Упершыню — зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы». с. 78—79.

П'есы «Модны шляхцюк» К. Каганца, «У зімовы вечар» і «Хам» Э. Ажэшкі, «Сватанне» і «Мядзведзь» А. Чэхава, «Міхалка» Далецкіх, «Па рэвізіі» і «Папшыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Як яны жаніліся» А. Валодскага, «Паўлінка» Я. Купалы выдадзены ў 1910—1914 гг. суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца». «Залёты» Навума Прыгаворкі (псеўданім В. Дуніна-Марцінкевіча) надрукаваны ў 1918 г.

Памета аб вяртанні п'ес: «26 марта, № 4979 (1 экз.), 4980—4989 (2 экз.)».

Атрымаў п'есы К. Душ-Душэўскі (гл. дакумент № 54).

*№ 4. У Віленскі акруговы суд* (с. 494)

Друкуецца па машынапісным арыгінале (подпіс — аўтограф), які захоўваецца ў ДзГА Літвы (ф. 688, воп. 1, спр. 1269, л. 24—25 адв.).

Ксеракопія ў ДзЛМЯнК (НД 3893/23).

Артыкул «Думкі» падпісаны псеўданімам «А. Язьмен».

Пункт 3 артыкула 1034[4] «Улажэння аб пакараннях крымінальных і папраўчых» меў на ўвазе вінаватых у «распространении посредством печати заведомо ложных о деятельности правительственного установления или должностного лица, войска или воинской части сведений, возбуждающих в населении враждебное к ним отношение», пагражаў да 8 месяцаў турмы ці буйным штрафам.

*№ 5. Прыставу 7-га ўчастка г. Вільні* (с. 497)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ДзГА Літвы (ф. 688, воп. 1, спр. 1269, л. 31).

Ксеракопія ў ДзЛМЯнК (НД 3893/29).

Пад тэкстам подпіс: «Околоточный надз<иратель> Монжелей [?]».

Гл. таксама пратакол допыту Я. Купалы па гэтай справе ад 20 сак. 1915 г., дакумент № 25.

*№ 6. У праўленне Маскоўскага гарадскога народнага універсітэта імя А. Л. Шаняўскага* (с. 497)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы на спецыяльным друкаваным бланку, які захоўваецца ў ЦГА Масквы (ф. 635, воп. 2, спр. 14, л. 542—542 адв.).

Фотакопія ў ДзЛМЯнК (Д 77).

Упершыню — зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 115—116.

Паметкі і штампы: «1) Билет на 2-й сем<естр> получен; 2) № входн<ого> бил<ета> 422, № лиц<евого> сч<ета> 2251».

Датуецца на падставе ліста Я. Купалы з Масквы да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 28 верас. 1915 г., у якім ён паведаміў, што ходзіць на лекцыі ва універсітэт (гл. дадзенае выданне, с. 243).

Універсітэт быў адкрыты на сродкі дзеяча народнай асветы А. Л. Шаняўскага (1837—1905), існаваў у 1908—1918 гг. Меў навукова-папулярнае і акадэмічнае аддзяленні.

*№ 7. Загадчыку пададдзела хлебафуражнага аддзела забеспячэння Заходняй вобласці* (с. 499)

Друкуецца па машынапісным арыгінале (подпіс — аўтограф), які захоўваецца ў ДзАСВ (ф. 12, воп. 3, спр. 234, л. 1).

Ксеракопія ў ДзЛМЯнК.

Як і наступная заява ад 6 жн. 1918 г. (дакумент № 8), выяўлены і ўпершыню надрукаваны смаленскім архівістам М. Я. Лявіцкім (Рабочий путь. 1973. 23 дек.; Неман. 1982. № 1).

*№ 8. У аддзел забеспячэння Заходняй вобласці* (с. 499)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў ДзАСВ (ф. 12, воп. 3, спр. 234, л. 4).

Ксеракопія ў ДзЛМЯнК.

Рэзалюцыя: «Общее <отделение>. Выяснить, и если взят аванс, то забрать при отчете. 7.VIII.1918 г.».

Заява Я. Купалы памылкова датавана ліпенем (трэба, відавочна, жніўнем). Да заявы прыкладзена даведка (л. 5):

«Сим удостоверяю, что Иван Доминикович Луцевич болен с 29/VII тяжелой формой дизентерии и должен лежать в постели.

30/VII-18 Легейко».

Гл. таксама камент. да папярэдняй заявы ад 1 ліп. 1918 г. (дак. № 7).

*№ 9. У Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага універсітэта* (с. 500)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў ЦГА Масквы (ф. 376, воп. 1, спр. 2320, л. 1).

Фотакопія ў ДзЛМЯнК (НД 6240).

Упершыню — энцыкл. даведнік «Янка Купала», Мн., 1986, с. 565.

*№ 10. Загадчыку пададдзела пазашкольнай адукацыі Мінскага савета дэпутатаў* (с. 500)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе, які захоўваецца ў ДзАМВ (ф. 322, воп. 1, спр. 4, л. 31). Выяўлены У. В. Ляхоўскім.

Рэзалюцыя: «Принять заведыв<ающим> библиот<екой> при Белор<усском> нар<одном> доме <подпіс неразбр.>».

Да прашэння прыкладзены ліст рэдактара «Известий ЦИК Белоруссии» А. М. Антанікоўскага ад 11 лют. 1919 г.:

«Заведывающему подотделом внешкольного образования
Минского Совдепа тов. Майзелю

Уважаемый товарищ.

Не откажите в товарищеской любезности принять на службу во вверенный Вам подотдел на имеющуюся вакансию тов. Луцевича Ивана Доминиковича, бывшего в редакции «Известий» секретарем-переводчиком на белорусский язык.

Теперь же с переходом издания «Известий» только на один русский язык является необходимым сокращение штатов, тов. Луцевич, которого рекомендую, прекрасный и опытный сотрудник.

Редактор «Известий»,
член ЦИК Белоруссии Антониковский».

*№ 11. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 501)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 2, л. 22).

Рэзалюцыя: «П. Якобіні ў лік пенсіі аванс. 21/X.19. А. Прушынскі».

*Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт, Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК)* — орган палітычнага прадстаўніцтва беларускага нацыянальнага руху ў 1919—1920 гг. Створаны ў Мінску ў жніўні 1919 г. у час польскай акупацыі. Узначальвалі А. Прушынскі (А. Гарун), з канца 1919 г.— К. Цярэшчанка (Тэрэшчанка).

*№ 12. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 502)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 6, л. 193).

На тэксце заявы памета: «Выдана папера за № 14».

*№ 13. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 502)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 22, л. 66—66 адв.).

Рэзалюцыя: «Па бібліятэцы здаволіць па 3 мар<кі> за 160 экз. К. Тэрэшчанка. 19.IV.20».

*№ 14. У аддзел прэсы* (с. 503)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 49, л. 2).

Подпісы адсутнічаюць.

Памета: «ух<адзячы> № 408/22/IV».

*№ 15. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 503)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 23, л. 82).

Рэзалюцыя: «Выдаць. К. Тэрэшчанка. 22.IV.20».

*№ 16. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 504)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 36).

Рэзалюцыя: «Выдаць авансам пяць тысяч мар. К. Тэрэшчанка. 10.V.20».

*№ 17. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 504)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 37).

Рэзалюцыя: «У бухгалтэрыю. Выдаць дзесяць тысяч марак. К. Тэрэшчанка. 14.VI.20».

Памета: «Ордэр № 99/14.VI.20 г.

*№ 18. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 504)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 4).

Рэзалюцыя: «У бухгалтэрыю. Праверыць і спісаць з аванса. К. Тэрэшчанка. 22.VI.20».

*№ 19. У Беларускі Нацыянальны Камітэт* (с. 505)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 64).

Рэзалюцыя: «У бухгалтэрыю. Выпісаць пятнаццаць тысячаў марак. К. Тэрэшчанка. 29.VI.20».

Памета: «Ордэр № 133. 29.VI.20 г.».

*№ 20. У Беларускі аддзел Наркамасветы* (с. 505)

Друкуецца ўпершыню па рукапісным арыгінале, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 1, спр. 66, л. 93).

Назвы пасадаў, дата і подпіс *Ів. Луцэвіч* — аўтограф Я. Купалы.

Памета: «Да справы».

*№ 21. У Інбелкульт* (с. 506)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦНБ НАНБ (ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 184).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 2002, 5 крас. у публікацыі Я. Янушкевіча «Архіў, які варта наведваць літаратуразнаўцам...».

**Анкеты**

*№ 22. Анкета дэлегата VII Усебеларускага з'езда Саветаў* (с. 506)

Друкуецца па аўтографе на спецыяльным друкаваным бланку, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 6, воп. 1, спр. 477, л. 203—203 адв.).

Памета: «Рашаючы. № 440».

Фотарэпрадукцыя ў альбоме: «Янка Купала. Жыццё і творчасць», Мн., 1972, с. 78.

Друкавалася ў зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 144—145.

VII Усебеларускі з'езд Саветаў праходзіў у Мінску 4—9 мая 1925 г.

*Рабпрос* — прафсаюз работнікаў асветы.

*№ 23. Анкета кандыдата ў члены ЦВК БССР* (с. 507)

Друкуецца паводле аўтографа на спецыяльным бланку, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 6, воп. 1, спр. 2258, л. 119—120).

Друкавалася з купюрамі ў зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 167—168.

*№ 24. Анкета дэлегата VIII Надзвычайнага Усесаюзнага з'езда Саветаў* (с. 509)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы на спецыяльным друкаваным бланку, які захоўваецца ў ДзАРФ (ф. Р-3316, воп. 8, спр. 171, л. 62).

VIII з'езд Саветаў адбыўся 25 лістап.— 5 снеж. 1936 г. у Маскве. З'езд прыняў Канстытуцыю СССР.

**Пратаколы, стэнаграмы, паказанні**

*№ 25. Пратакол допыту* (с. 510)

Друкуецца па рукапісным арыгінале, які захоўваецца ў ДзГА Літвы (ф. 688, воп. 1, спр. 1269, л. 37—38).

Подпіс *Ив. Луцевич* — аўтограф Я. Купалы.

Ксеракопія ў ДзЛМЯнК (НД 3893/35).

Друкаваўся ў зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 109—110.

Гл. таксама прашэнне і заяву Я. Купалы па гэтай справе (дак. № 4).

*№ 26. Пратакол аб перадачы «Беларускай хаткі» на ўладанне Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту* (с. 511)

Друкуецца ўпершыню па машынапісным арыгінале, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 8, л. 34). Подпісы — аўтографы.

Выдзелены курсівам тэкст дапісаны Я. Купалам.

*Якобіні С.— Якабіні Стэфанія* — памочнік бібліятэкара.

*Міхайлоўскі С.— Рак-Міхайлоўскі Сымон Аляксандравіч* (1885—1937) — грамадскі і палітычны дзеяч, педагог.

*Кудзелька М.*— Гл. камент. да ліста № 54.

*Грыневіч А.*— Гл. камент. да ліста № 6.

*№ 27. Пратакол пасяджэння камісіі па ўшанаванні памяці У. Г. Караленкі* (с. 512)

Друкуецца па рукапіснай заверанай копіі, якая захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 1, спр. 527, л. 2—2 адв.).

Друкаваўся з купюрамі ў зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 132.

Паметы аб накіраванні дакумента ў Аргцэнтр Наркамасветы БССР і аб прызначэнні літаратурна-сцэнічнага вечара памяці У. Г. Караленкі на аўторак 17 студз. 1922 г. Пра вечар гл.: «Савецкая Беларусь», 1922, 19 студз.

*Караленка Уладзімір Галакціёнавіч* (1853—1921) — рускі пісьменнік. Камісія створана ў сувязі са смерцю У. Г. Караленкі 25 снеж. 1921 г.

*Гуткоўскі Мікалай Макаравіч* (1886—1938) — юрыст, у той час вучоны сакратар Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы БССР.

*Тэпін Васіль Паўлавіч* (1884—1943) — культурны дзеяч, выкладчык БДУ.

*Міровіч* (сапр. Дунаеў) *Еўсцігней Афінагенавіч* (1878—1952) — рэжысёр, акцёр, драматург, педагог. У 1921—1931 гг. мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага тэатра.

*Шукевіч-Траццякоў Радзівон Канстанцінавіч* (1893—1940) — журналіст і партыйны работнік. У 1922—1924 гг. працаваў у Галоўным упраўленні палітыка-асветнай работы Наркамасветы БССР, быў старшынёй Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і мастацтва Наркамасветы БССР, сакратаром Мінскага павятовага камітэта КП(б)Б.

*Літвінаў* (сапр. Гурэвіч) *Леў Маркавіч* (1899—1963) — рэжысёр.

*Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч* (1881—1931) — гісторык і грамадскі дзеяч. Першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук.

*Кацэнбоген Саламон Захаравіч* (1889—1966) — філосаф, эканаміст, юрыст. У 1921—1925 гг. прафесар, намеснік рэктара, дэкан факультэта грамадскіх навук БДУ.

*Вазнясенскі Аляксандр Мікалаевіч* (1888—1966) — літаратуразнавец, у 1921—1930 гг. прафесар БДУ. Аўтар працы «Паэмы Янкі Купалы» (1927).

*Васілевіч Іосіф Ігнатавіч* (1870—1934) — дзеяч беларускага нацыянальнага руху, педагог, археолаг. З 1921 г. дырэктар Белпедтэхнікума ў Мінску.

*Панамарова Наталля Васільеўна* (1897—?) — сакратарка Акадэмічнага цэнтра, пазней — Інбелкульта. Пісала вершы, апавяданні. Супрацоўнічала ў часоп. «Зоркі», «Вольны сцяг» (псеўданім Хмарка). Я. Купала хадайнічаў аб прыёме яе на працу ў літаратурна-выдавецкі аддзел Наркамасветы БССР (гл. дакумент № 36).

*Белая зала* — зала для канцэртаў, вечароў і сходаў у Мінску на рагу вуліц К. Маркса і Урыцкага.

*№ 28. Пратакол пасяджэння журы конкурса* (с. 513)

Друкуецца па машынапіснай заверанай копіі, якая захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 1, спр. 527, л. 61).

Упершыню — зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 134—135.

*«Sum cui que»* (*лац.*) — «Кожнаму сваё».

*Баліцкі Антон Васільевіч* (1891—1937) — дзяржаўны дзеяч БССР, з 1921 г. намеснік наркома асветы.

*Міровіч Е. А.*— Гл. камент. № 27.

*Гарбацэвіч Васіль Савіч* (1893—1985) — драматург.

*№ 29. Пратакол пасяджэння Правапісна-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта* (с. 514)

Друкуецца па аўтографе К. М. Міцкевіча (Я. Коласа), які захоўваецца ў ЦНБ НАНБ (ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 185).

Пад тэкстам пратакола — суправаджальны надпіс сакратара камісіі К. М. Міцкевіча: «Копія. У Прэзідыум Інбелкульту. Пры гэтым пасылаецца копія пратаколу ПТК ад 14.VII.1925 № 32».

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 2002, 5 крас. у публікацыі Я. Янушкевіча «Архіў, які варта наведваць літаратуразнаўцам».

Гл. таксама дакумент № 21.

*№ 30. Паказанні па справе «Саюза вызвалення Беларусі»* (с. 514)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (КП 15994/А606). Аўтограф перададзены Камітэтам дзяржаўнай бяспекі БССР у 1991 г.

*«Саюз вызвалення Беларусі»* — назва арганізацыі, прыдуманай следчымі АДПУ БССР для ўзбуджэння крымінальнай справы і правядзення палітычных працэсаў па барацьбе з іншадумствам нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1930—1931 гг. Першы масавы палітычны працэс на Беларусі. Кіраўніком арганізацыі быў названы В. Ю. Ластоўскі, у склад яе залічаны С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, А. Смоліч, Я. Купала, Я. Колас і інш.

У тэксце захаваны беларусізмы: *беспартыйны, никим, помещицкий.*

Гл. таксама паказанні, напісаныя Я. Купалам на беларускай мове (дадзенае выданне, т. 8, с. 392—393). Арыгінал — ДзЛМЯнК (КП 15995/А607), машынапісная копія — НАРБ (ф. 15п, воп. 28, спр. 2, л. 160—162).

*№ 31. З пратакола абмеркавання пісьма І. В. Сталіну* (с. 516)

Друкуецца фрагмент з выступленнямі Я. Купалы і Я. Коласа паводле машынапісу з рукапіснымі праўкамі, што захоўваецца ў НАРБ (ф. 4п, воп. 3, спр. 346, л. 169—175).

Тэкст пратакола абмеркавання знаходзіцца сярод дакументаў, падрыхтаваных для разгляду на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б 9 ліп. 1936 г., пытанняў аб святкаванні 16-й гадавіны вызвалення Беларусі ад польскай акупацыі і пісьма Сталіну. Тэкст пісьма і камент. да яго гл.: дадзенае выданне, с. 435, 644.

Паводле пратакольнага запісу ў нарадзе прымалі ўдзел і выступілі першы сакратар ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала (1897—1938), народны камісар асветы БССР А. І. Дзякаў (1886—1937), загадчык аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б Дз. Ю. Конік (1898—1937), загадчык сельскагаспадарчага аддзела ЦК КП(б)Б А. С. Картукоў (1890—1941), Я. Купала, Я. Колас, загадчык аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б В. І. Задзярнюк (1903—1937), паэт А. Александровіч, начальнік упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР П. В. Пасюкевіч (1898—1938), адказны рэдактар газеты «Звязда» М. К. Сцернін (1900—?), паэт І. Харык, загадчык культасветаддзела ЦК КП(б)Б І. М. Ткачэвіч (1897—1938), кампазітар М. Аладаў, другі сакратар ЦК КП(б)Б Д. І. Валковіч (1900—1937).

*№ 32. Са стэнаграмы пасяджэння камісіі Бюро ЦК КП(б)Б па справе М. Клімковіча* (с. 517)

Друкуецца па машынапісным тэксце, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 4, воп. 23, спр. 1936).

Упершыню — «Звязда», 2002, 4—5 чэрв. у публікацыі В. Селяменева і В. Скалабана «Справа Міхася Клімковіча».

Камісія была створана ў сувязі са спробай самагубства старшыні Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР М. Клімковіча, здзейсненай ім пасля сходу партыйнай групы Саюза пісьменнікаў 19—20 жн. 1936 г.

На сходзе М. Клімковічу былі прад'яўлены абвінавачванні ў антыпартыйных учынках і пастаўлена перад ЦК КП(б)Б пытанне аб выключэнні яго з партыі. 26 жн. 1936 г. камісія заслухала тлумачэнні пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў сходзе. 29 жн. на камісію былі выкліканы Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, К. Крапіва, П. Глебка.

*Хадасевіч Пётр Іванавіч* (1898—1937) — другі сакратар Мінскага гаркома КП(б)Б. У 1937 г. арыштаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958 г.

*Ткачэвіч Іван Міхайлавіч* (1897—1938) — загадчык культасветаддзела ЦК КП(б)Б, з 1937 г. начальнік упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. Арыштаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958 г.

*Ціхон Антон Міхайлавіч* (1887—1939) — упаўнаважаны Камісіі Савецкага Кантролю пры СНК СССР па БССР. Арыштаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1954 г.

С. *518: Сейчас с бригадой работаю над одной вещью...* — Верагодна, маецца на ўвазе «Дванаццаць песень...». Гл. дадзенае выданне, с. 449.

С. *519: ...был занят письмом.* — Маецца на ўвазе «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну».

С. *520: Был случай: Баранавых и другой товарищ (не помню кто) написали отзыв. Он <Климкович> меня раз уговорил написать в газету против этих товарищей.* — Верагодна, маецца на ўвазе артыкул Я. Купалы «Свою судьбу я навсегда связал с судьбой пролетарской революции...». Гл. дадзенае выданне, т. 8, с. 127.

*Возмущены вскрытой деятельностью троцкистов...* — Маецца на ўвазе судовы працэс па справе т. зв. антысавецкага «аб'яднання трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра», што праходзіў у Маскве 19—24 жн. 1936 г.

*Был отклик Бровки, Александровича.* — Маецца на ўвазе вершы П. Броўкі «Хай над вамі павісне пралетарскі меч» (Звязда. 1936. 20 жн.) і А. Александровіча «Адзін прысуд — расстрэл» (Звязда. 1936. 23 жн.; Літ. і мастацтва. 1936. 26 жн.).

С. *522: Например, по убийству Кирова я написал хорошее стихотворение.* — Маецца на ўвазе верш Я. Купалы «На смерць таварыша Кірава». Гл. дадзенае выданне, т. 5, с. 46.

*...а сейчас надо засесть и написать.* — Верш Я. Купалы «Мала іх павесіць...» і артыкул «Ворагі народа павінны быць знішчаны», напісаныя ў сувязі з судовым працэсам па справе т. зв. «паралельнага трацкісцкага цэнтра», што праходзіў у Маскве 23—30 студз. 1937 г.

*№ 33. З пратакола пасяджэння Усесаюзнага юбілейнага Лермантаўскага камітэта* (с. 522)

Друкуецца па зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 262.

Пратакол захоўваецца ў Рукапісным аддзеле Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага.

Упершыню — «Неман», 1977, № 8 у публікацыі В. Рагойшы «Напісана рукой Купалы...».

Усесаюзны юбілейны Лермантаўскі камітэт створаны ў студз. 1940 г. у сувязі з падрыхтоўкай да 100-й гадавіны з дня смерці М. Ю. Лермантава.

## Службовыя лісты, спісы, пасведчанні, хадайніцтвы, запісы

*№ 34. Спіс кніг бібліятэкі пры «Беларускай хатцы»* (с. 522)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 603, воп. 1, спр. 4, л. 21).

Захавалася таксама справаздача аб бібліятэцы (аўтограф С. Рак-Міхайлоўскага), падпісаная членамі ліквідацыйнай камісіі (НАРБ, ф. 603, воп. 1, спр. 4, л. 22—22 адв.):

«Справаздача аб бібліятэцы пры Беларускім Народным Доме

Бібліятэка адчынена 14/VI 1919 года. У бібліятэцы цяпер ёсць 9670 кніг, з якіх маецца беларускіх 670, польскіх 1707, расейскіх 7293. Залогу ў савецкіх грашах лічыцца 1855 руб., выдана залогаў 175 руб.; за кожную кнігу да гэтага часу ад пачатку браўся па 5 руб. Усіх абанентаў лічыцца 263. Чытальня пры бібліятэцы была, прыходзілі найбольш дзеці, але з прычыны малога штату служачых і адсутнасці добрага ўмэблявання чытальні — яна была зачынена. Штодня прыходзяць за кнігамі ў сярэднім асобаў 75. Найбольш чытаюць дзеці школьнага ўзросту; таму кніг для дзяцей з агульнага ліку 9670 ёсць каля 2000

тамоў. У бібліятэцы працуюць двое — бібліятэкар і яго памочнік. Утрыманне іх каштавала кожны месяц 2142 рублі. Бібліятэка існуе пры Беларускім Народным Доме, які ў свой час, за колькі дзён да акупацыі Менска немцамі, быў перададзены Беларускай Радзе амерыканцамі. У Народным Доме даюцца спектаклі для ўзрослых і дзяцей. Пры немцах БДН не карыстаўся субсідыямі ад Магістрата, а пры Савецкай уладзе цалкам утрымліваўся за кошт Аддзела народнае прасветы, як плата загадчыку Дома, старажу, бібліятэкару і яго памочніку, а таксама апал і асвятленне. Загадчыку і старажу выплачвалася штомесяца па 2187 рублёў.

Беларускі Народны Дом і бібліятэка пры ім абслужвае акраіну места, якая населена найбольш беларусамі. Камісія лічыць працу Дома і бібліятэкі, безумоўна, карыснай і існаванне іх патрэбным і мысле, што Магістрат гэтыя ўстановы павінен утрымліваць цалкам. Выдаткі на месяц (плата служачым, апал, асвятленне) будуць абходзіцца не больш 5000 рублёў.

Członkowie Likwidacyjnej Komisji

*Jakobini*

*С. Міхайлоўскі».*

Гл. таксама тэкст справаздачы на польскай мове (НАРБ, ф. 603, воп. 1, спр. 4, л. 24—24 адв.).

*№ 35. Старшыні Рады народных міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі* (с. 523)

Друкуецца паводле машынапіснага арыгінала (подпісы — аўтографы), які захоўваецца ў ДзА Літвы (ф. 582, воп. 2, спр. 46, л. 61).

Ксеракопія ў ДзЛМЯнК (НД 7735).

Упершыню — зб. «Архівы БНР», т. I, кн. 1, с. 482.

Вуглавы штамп: «Рэдакцыя газеты «Беларусь», 6 лістапада 1919 г. № 35. Менск».

*№ 36. Запіс на рахунку Я. Драздовіча* (с. 524)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 57 адв.).

Зроблены на рахунку Я. Драздовіча (НАРБ, ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 57—57 адв.).

Ніжэй падаём тэкст дакумента (аўтограф Я. Драздовіча):

«Рахунак для рэдакцыі «Беларуская жизнь»
за выданыя рысункі:

1. Загаловак «Беларуская жизнь» 1 рыс. 50 м.
2. «Узмежак гаю» пейзаж — 1 рыс. 40 мар.
3. «Матка з дзяцёнкам». 1 рыс. 40 мар.

Разам — 130 мар.

За нявыданыя да 1 красавіка г. г. рыс.:

4. 3 рыс. віньеты па 40 мар.— 120 мар.
5. 1 рыс. пейзаж «Дворны ставок» — 40 мар.
6. 1 рыс. Пейзаж «Дворныя крушні» — 40 мар.

Разам 200 мар.

Усяго 330 мар.

На гэты рахунак атрымана ад пана Аляхновіча наўперад 100 мар. Засталося неатрыманымі 230 мар.».

Акрамя запісу Я. Купалы, на дакуменце маюцца іншыя паметы і рэзалюцыі:

«1. Правільна — належыць 230 мар. Фр. Аляхновіч.

2. П<ан> Ян Луцэвіч. Прашу аплаціць рахунак з коштаў тыднёвіка «Рунь», карыстаючыся атрыманым Вамі авансам. К. Тэрэшчанка. 14.V.20.

3. Атрымаў па гэт<ым> рахунку дзвесце трыццаць (230 марак). 14.V.20. Я. Драздовіч».

*№ 37. Звесткі пра часопіс «Рунь»* (с. 524)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы на спецыяльным машынапісным бланку, які захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы сталічнага горада Варшавы (BPMSW. 1773/12/П. K 113). Выяўлены Ю. Гарбінскім.

Вуглавы штамп: «Рэдакцыя беларускай тыднёвай часопісі «Рунь». 18 мая 1920 г. № 18. Менск, Кашарская, 10». Дакумент паступіў у аддзел прэсы Генеральнага камісарыята Грамадзянскага ўпраўлення усходніх земляў (Варшава) 10 чэрв. 1920 г. Падаём дакумент у перакладзе на беларускую мову У. Казберука:

«Назва выдання: *«Рунь»*

Як часта выходзіць? *Раз на тыдзень.*

Асаблівасці зместу або напрамак палітычны[1]: *Літаратурна-мастацкі.*

Дата публікацыі першага нумара: *2 мая 1920 г.*

Адрас сучасны дакладны: *Мінск, Кашарская, 10 (рэдакцыя), вул<іца> Міцкевіча, Беларуская Хатка (адміністрацыя).*

Імя і прозвішча выдаўца (або выдаўцоў): *Вацлаў Іваноўскі.*

Імя і прозвішча рэдактара (або рэдактараў): *Ян Луцэвіч.*

Адрас друкарні: *Мінск, друкарня «Інвалідаў».*

Фармат у сантыметрах: *23x30.*

Колькі старонак калонак у сярэднім у нумары? *8 старонак.*

Колькі ў сярэднім друкуецца экземпляраў кожнага нумара? *2000 экз.*

Загалоўкі дадаткаў:

Заўвагі: рэдакцыі або адміністрацыі: *Часопіс друкуецца на беларускай мове.*

*№ 38. Хадайніцтва на заяве Н. Панамаровай* (с. 524)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 3, спр. 1937, л. 10 адв.).

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1996, 27 снеж. у публікацыі А. Гесь «Вір», які так і не завіраваў».

Зроблена на заяве Н. Панамаровай.

Ніжэй падаём тэкст дакумента на мове арыгінала:

«В Литературно-Издательский Отдел Минского
губернского отдела народного образования
Гражданки Наталии Васильевны Пономаревой

Заявление

Получив от Литер.-Издат. Отдела прилагаемую бумагу, проживая ■ то время в г. Калуге, я долгое время, по служебным и семейным обстоятельствам, не имела возможности явиться к месту службы. Теперь же, прибыв ■ гор. Минск, находясь ■ крайне тяжелом положении, имея на своем иждивении мать ■ бабушку, покорнейше прошу предоставить мне предлагаемую должность.

Н. Пономарева.

30-XI-1920 г.».

Рэзалюцыя: «Утвердить I.XII М. Фрумкина», таксама памета: «Приказ № 21». Да заявы прыкладзена паведамленне загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела Мінскага губана С. Некрашэвіча ад 5 жн. 1920 г., накіраванае на імя Панамаровай у Калугу аб прызначэнні яе супрацоўніцай аддзела і з прапановай «немедленно отправиться в г. Менск к месту своего служения».

*№ 39. Пасведчанне Н. Панамаровай* (с. 525)

Друкуецца ўпершыню па арыгінале (аўтограф Н. Панамаровай), які захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 3, спр. 1937, л. 8).

Подпісы асоб, у тым ліку Я. Купалы, — аўтографы.

---

[1] Дастаткова, напр<ыклад>, паведаміць: выданне Стражы Крэсовай.

Вуглавы штамп: «Сац. Савецк. Рэспубліка Беларусі. Камісарыят асветы. Аддзел общий (апошняе слова, дата і нумар напісаны ад рукі чорным чарнілам). 1.XII.1920 г. № 1796. г. Менск, Скобелеўская, д. 6. Архірэйскі».

Пад штампам памета: «Выдано новое за № 980 2 февр. 21 г.».

На адвароце запіс: «Действительно до 1-го февраля 1921 г. Зам. комиссара просвещения И. Кореневский. Управдел В. Пылило». Запіс зацверджаны круглай пячаткай з тэкстам: «Сацыялістычная Радная Рэспубліка Беларусі. Камісарыят асветы» і гербам усярэдзіне.

*№ 40. Пасведчанне* (с. 525)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 3, спр. 51, л. 39—39 адв.). Водпуск без подпісаў, напісаны алоўкам, дата, нумар і памета «Копія» іншай асобай чарнілам.

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1966, 2 жн. у перакладзе на беларускую мову, а таксама ў зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 128—129.

Такое ж пасведчанне з нязначнымі розначытаннямі выдадзена Я. Купалу 11 ліп. 1922 г. за № 4697 (НАРБ ф. 42, воп. 1, спр. 527, л. 89 водпуск, машынапіс). Пераклад на беларускую мову: «Літ. і мастацтва», 1957, 10 ліп. у публікацыі Н. Камінскага «Цікавыя дакументы».

*№ 41. Ліст Інбелкульта ва Упраўленне вышэйшых навучальных устаноў Наркамасветы БССР* (с. 526)

Друкуецца ўпершыню па машынапісным арыгінале (подпісы — аўтографы), які захоўваецца ў НАРБ (ф. 209, воп. 1, спр. 39, л. 80).

На дакуменце маецца штамп з тэкстам: «БССР. Народны Камісарыят асветы. Акадэмічны Цэнтр, аддзел Інбелкульт (апошняе слова і дата напісаны ад рукі). 23 ноября 1922 г. № 953».

Для выкладання беларускай мовы ў СГІ быў рэкамендаваны Інбелкультам Язэп Лёсік (НАРБ, ф. 209, воп. 1, спр. 39, л. 123).

## Распіскі

*№ 42. Аб прыняцці грошай ад М. Кудзелькі* (с. 526)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 8, л. 19).

*Кудзелька М.*— Гл. камент. да ліста № 54.

*№ 43. Аб атрыманні пенсіі загадчыка бібліятэкі* (с. 527)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 49, л. 11).

*№ 44. Аб атрыманні пенсіі за працу ў бібліятэцы* (с. 527)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 49, л. 57).

*Прушынскі А.*— Гл. камент. да ліста № 54.

*№ 45. Аб атрыманні ганарару за артыкул у газеце «Беларусь»* (с. 527)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы на спецыяльным бланку, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 5, л. 105).

Назва ўстановы і подпісы службовых асоб адсутнічаюць.

*№ 46. Аб атрыманні авансу на выданне часопіса «Беларускае жыццё»* (с. 528)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы на спецыяльным друкаваным бланку, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 23, л. 81).

Назва ўстановы і подпісы службовых асоб адсутнічаюць.

*№ 47. Аб атрыманні пенсіі* (с. 528)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 5, л. 5).

Назва ўстановы і подпісы службовых асоб адсутнічаюць.

*№ 48. Аб атрыманні ганарару за камедыю «Паўлінка»* (с. 528)

Друкуецца па кн. «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі», т. I, кн. 1, с. 752.

*Школьная Рада* — Беларуская школьная Рада Міншчыны была створана 29 жн. 1919 г. (статут зацверджаны 1 верас.) на аснове школьнай камісіі пры Часовым Беларускім нацыянальным Камітэце. У склад Школьнай Рады ўваходзілі С. Рак-Міхайлоўскі, А. Данілевіч, Я. Шнаркевіч, Ч. Родзевіч, А. Смоліч, П. Дземідовіч, У. Ігнатоўскі і інш. Займалася стварэннем і пашырэннем сеткі беларускіх школ, беларусізацыяй асветы, падрыхтоўкай і выданнем беларускіх падручнікаў. Пазней, у 1920 г., створана Беларуская цэнтральная школьная рада (называлася Беларуская Школьная Рада — БШР) на базе школьных рад Міншчыны, Віленшчыны і Гародзеншчыны. Беларускія школьныя рады ствараліся і на месцах — у паветах і валасцях. Старшыня БШР — С. Рак-Міхайлоўскі, намеснікі А. Смоліч і У. Ігнатоўскі.

*№ 49. Аб атрыманні ганарару за зборнік вершаў «Спадчына»* (с. 529)

Друкуецца па кн. «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі», т. I, кн. 2, с. 753.

*№ 50. Аб атрыманні авансу на выданне часопіса «Рунь»* (с. 529)

Друкуецца па кн. «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі», т. I, кн. 1, с. 812.

**Ведамасці**

*№ 51. Ведамасць № 1 на пенсію супрацоўнікам часопіса «Рунь»* (с. 530)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 60—61).

Унізе ведамасці — круглая пячатка: «Рэдакцыя беларускай часопісі «Рунь»

.*№ 52. Ведамасць № 2 на пенсію супрацоўнікам часопіса «Рунь»* (с. 531)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 62—62 адв.).

Унізе ведамасці — круглая пячатка: «Рэдакцыя беларускай часопісі «Рунь».

*№ 53. Ведамасць № 3 на пенсію супрацоўнікам часопіса «Рунь»* (с. 532)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 33—34).

Унізе — круглая пячатка: «Рэдакцыя беларускай часопісі «Рунь».

**Даверанасці**

*№ 54. К. С. Душэўскаму* (с. 533)

Друкуецца па аўтографе Я. Купалы з наклеенай друкаванай выразкай, якая захоўваецца ў РДзГА (ф. 776, воп. 25, спр. 1057, л. 6). Выразка — пералік твораў (1—10), нумары прастаўлены Я. Купалам.

Фотакопія ў ДзЛМЯнК (Д 89).

Упершыню — зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы», с. 79—80.

Творы былі прадстаўлены Я. Купалам у Галоўнае ўпраўленне па справах друку 30 снеж. 1913 г., атрыманы К. Душ-Душэўскім 26 сак. 1914 г. Гл. дак. № 3.

Камедыя «Міхалка» памылкова прыпісана М. Крапіўніцкаму.

*№ 55. Запіска І. І. Луцкевічу* (с. 533)

Друкуецца па фотакопіі аўтографа (КП 8421/А 540).

## Рахункі

*№ 56. Газеце «Беларусь»* (с. 534)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 6, л. 83).

Закрэслена (унізе злева): «Па гэтаму рахунку атрымаў шэсцьсот (600 р.) Ів. Луцэвіч».

Датуецца па часе выхаду артыкула «Незалежная дзяржава і яе народы», які быў апублікаваны 29 лістап. 1919 г.

*№ 57. Газеце «Беларусь»* (с. 535)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 8, л. 33—33 адв.).

Памета: «Даплаціць 189 р. 80 к. Лёсік. 8.III.20 г.».

*№ 58. Газеце «Беларусь»* (с. 536)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 5, л. 106).

Рэзалюцыя: «Аплаціць. К. Тэрэшчанка. 22.IV.20 г.».

*№ 59. Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту* (с. 537)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 58).

*№ 60. Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту* (с. 537)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 39—39 адв.).

На л. 39 маецца вуглавы штамп: «Рэдакцыя беларускай тыднёвай часопісі «Рунь». 18 мая 1920 г. № 1. Менск, Кашарская. 10.».

Рэзалюцыя: «Праверыць і спісаць з авансаў. К. Тэрэшчанка. 2.IV.20».

*№ 61. За вершы і артыкулы ў часопісе «Рунь»* (с. 538)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 11).

*№ 62. Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту* (с. 539)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 24).

*№ 63. Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту* (с. 539)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 27).

*№ 64. Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту* (с. 540)

Друкуецца ўпершыню па аўтографе Я. Купалы, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 2, спр. 7, л. 1—2).

Унізе рахунка (л. 2) маецца круглая пячатка з надпісам: «Рэдакцыя беларускай часопісі «Рунь».

Закрэслена чырвоным чарнілам: «26.» 15. Л. Родзевічу за радкі ў № 4, 197».

Папраўлены чырвоным чарнілам выніковыя сумы.

## Калектыўныя заявы

*№ 65. Заява ў Камітэт служачых Камісарыята асветы ССРБ* (с. 541)

Друкуецца ўпершыню па рукапісным арыгінале (подпісы — аўтографы), які захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 3, спр. 4, л. 19—19 адв.).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Пад заявай 46 подпісаў. Сярод іх — І. Луцэвіч (Я. Купала), С. Плаўнік (З. Бядуля), Н. Панамарова, М. Зароская, Е. Дземідовіч, Ленкаўская, Рахманчык, Дворжац, Фейгельман, Зіміна, Мазе, Мацкевіч і інш.

*№ 66. Заява ў Камісарыят унутраных спраў ССРБ* (с. 542)

Друкуецца па машынапісным арыгінале, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 34, воп. 1, спр. 167, л. 1—3 адв.). Другі варыянт заявы — НАРБ (ф. 4п, воп. 1, спр. 367, л. 70—72).

Подпісы пад заявай і Статутам (з указаннем адраса) — аўтографы.

На заяве злева зверху прыклеена гербавая марка вартасцю 100 руб.

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1996, 27 снеж. у публікацыі А. Гесь «Вір», які так і не завіраваў» у перакладзе на бел. мову.

Заява атрымана ў Камісарыяце ўнутраных спраў 14 лістап. 1922 г. У той самы дзень пасланы запыт у сакрэтны аддзел ДПУ Беларусі, у якім была просьба паведаміць, «ці няма перашкод да зацверджэння ўказанага Статута». Сакрэтны аддзел высветліў «политфизиономии» заснавальнікаў літаратурнай суполкі.

Падаём дакумент на мове арыгінала і без расшыфроўкі скарачэнняў:

«Жилунович — член РКП. Петрович — неизвестен. Куделько — член РКП. Ильюченок — б. член РКП, исключен за пьянство. Некрашевич — был бел. эсдеком, перешел к эсерам. В 1921 г. от с-р ушел. Подозрителен. Уверяет о сочувствии Сов. вл. и РКП. И. Луцевич — бел. писатель-шовинист. А. Александрович — эсэрствующий, шовинист. Ар. Смолич — бел. эс. дек. Правый. Подозрителен, тип Лёсика. Демидович — бел. с.-р. На открытии сельскохоз. института произнес почти коммунист. речь. Пономарев — не выявлен. Поскребко — эсерствующий, открыто проявил себя, когда работал в Центробелсоюзе и Белрабкоопе» (НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 498, л. 68).

У выніку «Вір» не быў зарэгістраваны, а на камуністаў З. Жылуновіча і М. Кудзельку распачата партыйная справа (НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 498, л. 66 адв.).

## ДАДАТАК

*Знікнуць хмары над калгасам...* (с. 549)

Друкуецца па машынапісным тэксце з подпісам: Я. Купала. Пад тэкстам: Менск. 25.IX.-30 г. Верш быў выяўлены В. Скалабанам у НАРБ у справе, якая вялася ў аддзеле культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б у ліп.— лістап. 1930 г.

Упершыню — «Звязда», 2002, 22 мая ў публікацыі В. Скалабана.

*Да М. С. Грушэўскага* (с. 550)

Друкуецца па кн. А. Каўкі «Будам жыць!» з падзагалоўкам «Пра тое самае» (М., 1998, с. 82—83), дзе тэкст паштоўкі перадрукаваны з газ. «Літературна Україна», 1997, 3 крас.

Датуецца 28 сак. 1914 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Паштоўка напісана ў той час, калі Я. Купала быў прызначаны рэдактарам «Нашай нівы» (7(20) сак. 1914 г.).

*Грушэўскі Міхаіл Сяргеевіч* (1866—1934) — украінскі гісторык і грамадска-палітычны дзеяч, адзін з лідэраў украінскага нацыянальнага руху 1-й чвэрці XX ст. Акадэмік АН Украіны і АН СССР. Аўтар прац «Нарыс гісторыі Кіеўскай зямлі ад смерці Яраслава да канца XIV ст.» (1891), «Гісторыя Украіны—Русі» (т. 1—9, 1898—1937), «Нарыс гісторыі ўкраінскага народа» (1904).

*Все, аб чым пішыце, зроблю оскольхі змажу.*— Ліст М. Грушэўскага пакуль што не выяўлены. У БДАМЛіМ (ф. 3, воп. 1, спр. 92, арк. 76) захоўваецца аўтограф М. Грушэўскага — навагодняя паштоўка без даты.

Як зазначыў А. Каўка, «нашыя адраджэнцы мелі дастаткова падставаў бачыць у сваім украінскім пабраціму шчырага прыхільніка беларускай справы, аб чым удзячна й засьведчылі ў газэце «Гоман» (Вільня, 1 студзеня 1917 г.) з аказіі 50-х угодкаў М. Грушэўскага. Зь ня меншым прызнаньнем прагучэла беларускае слова дзесяцьма гадамі пазней у Кіеве, на ўрачыстасьці, прысвечанай 60-годзьзю вялікага ўкраінца: «Вашая ўкраінская праца,— падкрэсьліў у сваім выступе кіраўнік беларускае дэлегацыі, тагачасны рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту Ўладзімер Пічэта,— стала такой самай працай і для беларускага народу» (Каўка А. Будам жыць! С. 82—83).

*Да І. Д. Галькевіча* (с. 550)

Друкуецца па аўтографе тэлеграмы, які захоўваецца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

Паслана напярэдадні святкавання 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы (снежань, 1935г.).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*<Запісная кніжачка>* (с. 551)

Друкуецца ўпершыню па арыгінале.

Маленькая памерамі кніжачка (6x11) захоўваецца ў ДзЛМЯнК (КПІ 7964/Д 106). Пасля смерці Янкі Купалы запісная кніжачка для тэлефонаў пад № 19 была занесена камісіяй па пахаванні паэта ў «Вопіс дакументаў, каштоўнасцей і рэчаў Івана Дамінікавіча Луцэвіча (Янкі Купалы)» (усяго 80 адзінак). (НАРБ, ф. 511, воп. 4, адз. зах. 12, л. 1—7). Разам з асабістымі рэчамі паэта была перададзена на захоўванне ў партыйны архіў ЦК КП(б)Б (г. Уфа). Адтуль у 1944 г.— у Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Звесткі пра большасць асоб, згаданых у запісной кніжачцы, падаюцца ў папярэдніх каментарыях.

## Dubia

*Задачкі* (с. 559)

Друкуюцца і датуюцца па часоп. «Зоркі», 1921, № 5.

У Збор твораў уключаюцца ўпершыню.

# ПАКАЗАЛЬНІК ПА АДРАСАТАХ



# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК



# ЗМЕСТ*



## ПЕРАКЛАДЫ



## ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА



* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

## ДАРЧЫЯ НАДПІСЫ

## КАЛЕКТЫЎНАЕ

## СЛУЖБОВЫЯ І АСАБІСТЫЯ ДАКУМЕНТЫ

### ЗАЯВЫ І ПРАШЭННІ

АНКЕТЫ



ПРАТАКОЛЫ, СТЭНАГРАМЫ, ПАКАЗАННІ



СЛУЖБОВЫЯ ЛІСТЫ, СПІСЫ, ПАСВЕДЧАННІ, ХАДАЙНІЦТВЫ, ЗАПІСЫ



РАСПІСКІ

## ДАДАТАК



## Dubia

**Купала Я.**

К 92 Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 9. Кн. 1. Пераклады; Эпісталярная спадчына; Дарчыя надпісы; «Расейска-беларускі слоўнік»; Калектыўнае; Службовыя і асабістыя дакументы; Дадатак / Янка Купала.— Мн.: Маст. літ., 2003.— 686 с. [4] л. іл.

ISBN 985-02-0552-0.

Выданне выходзіць з 1995 г.

**УДК 821.161.3+821.161.3.09**
**ББК 84(4Бен)+83.3(4Бен)**



Літаратурна-мастацкае выданне

КУПАЛА ЯНКА

*Поўны збор твораў*
*у дзевяці тамах*

**Том 9**

Кніга першая

*Пераклады*
*Эпісталярная спадчына*
*Дарчыя надпісы*
*«Расейска-беларускі слоўнік»*
*Калектыўнае*
*Службовыя і асабістыя паперы. Дадатак*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *Л. І. Мележ*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*
Карэктары *М. Ч. Пермякова, А. М. Анцытовіч, Л. А. Дзядзюля*
Камп'ютэрная вёрстка *Л. І. Астрэйкі, Т. С. Зярковіч*

Падпісана да друку з дыяпазітываў 16.12.02. Папера афсетная № 1. Фармат 84×108 $^1/_{32}$.
Гарнітура Літаратурная. Высокі друк з ФПФ. Умоўн. друк. арк. 36,12 + 0,42 укл.
Улік.-выд. арк. 36,28. Тыраж 5800 экз. Заказ 4289.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 11.09.2000. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

ISBN 985-02-0552-0

